БЕЛАРУСКІ РАМАН

АРКАДЗЬ
ЧАРНЫШЭВІЧ

# ЗАСЦЕНАК МАЛІНАЎКА

РАМАН-ХРОНІКА
Ў ДЗВЮХ ЧАСТКАХ

МІНСК
«МАСТАЦКАЯ ЛІТАРАТУРА»
1982

# ЧАСТКА ПЕРШАЯ

Засценак Малінаўка ляжаў на поўдні былога Слуцкага павета, дзе канчалася поле і пачыналіся балоты Палесся. Ворная зямля ў малінаўцаў была напалову слуцкая — тлустая і ўраджайная, напалову палеская — пустая і пясчаная. Усе палеткі пачыналіся з паўночнага боку слуцкай зямлёй і паступова канчаліся на поўдні жоўтым пясочкам.

Сенажацяў паблізу засценка не было. Усе сенажаці ў «чорта ў лазе», у самым Палессі, вёрст за пятнаццаць ад Малінаўкі. Зваліся яны Воля. «Волі», праўда, хапала, але была яна бясконцым балотам, гіблым і топкім. Расла на ім асака-разун — жывёла не хацела есці.

Твань на Волі была такая, што ў мокрыя гады не ўлезеш ні з касой, ні з граблямі. Косіш тую асаку, а яна адразу на ваду лажыцца — як яе высушыць? А бывала і так, што высахне сена, толькі б яго зграбаць, а дождж як ліне, дык падплыве ўсё. Вось табе і накасіў... Зусім бы дрэнна было малінаўцам з пашарам, але яны навучыліся сеяць канюшыну. Першы пасеяў яе Юстынь Сташэвіч. Нагараваўся, пакуль вырасла, пільнаваў свае нівы і дзень і ноч. Ведама, на ўсіх нівах папар, а на яго — канюшына. Больш за палову пасеваў стравіла вясковая скаціна, ды яшчэ папрокаў колькі пачуў.

Аднак калі паглядзелі малінаўцы, якія спраўныя ды гладкія сталі коні ў Юстыня, як добра ядуць каровы нават жытнюю салому, калі ператрасеш яе з канюшынай, то самі кінуліся шукаць насенне і сеяць

канюшыну. Не хапала ў Малінаўцы і пашы. Каб не куплены лес, які зваўся Маргі, зусім хоць ваўкамі вый. Паша ў Маргах таксама была нікчэмная і ад засценка далёка. Як паходзяць каровы цэлы дзень, дык усё малако растрасуць і дадому варочаюцца з пустымі вымямі, ды яшчэ галодныя, не раўнуючы, як сукі. Пустазелле з-пад ільну ды пшаніцы жаруць, аж давяцца, а пойла толькі падавай, па цэбру выжлукцяць.

Аднак жылі малінаўцы нельга сказаць каб вельмі дрэнна. Хто меў паўвалокі зямлі, зусім за пана сябе лічыў. Не гаравалі і тыя, што мелі па чвэрці, хоць і тыя і другія з лапцей не вылазілі. Затое гаравалі трацячнікі, што мелі па трацяку паўвалокі. Хлеба ледзь да каляд хапала, і то напалам з мякінай. На падаткі, на іншыя расходы трэба было шукаць капейку збоку, а яе не вельмі лёгка было знайсці.

Сам засценак стаяў сярод чыстага поля. Ні лугавіны, ні гайка, ні ручайка паблізу. Да самага Слуцка кусціка не ўбачыш, хіба толькі могілкі прамінеш ды дзесяць сёл праедзеш па вярсце кожнае. Адным канцом засценак прыткнуўся да шляху, што вёў з Палесся да Слуцка. Вуліца праходзіла такою лагчынаю, што вясной у час паводкі рабілася як рака. Вада ў іншыя гады даходзіла не толькі да хат, але пападала і ў хаты, залівала скляпы. Таму і гразі хапала ад марозаў да марозаў. Абы прайшоў дождж, дык на вуліцы рабілася такая калатуша, што к суседу не выйдзеш інačай, як па загуменнях.

Будынкі ўсе старыя, бацькоўскія ды дзедаўскія. Стрэхі гнілыя, і, каб не ліўся за шыю дождж, малінаўцы кожную восень ладзілі іх і засыпалі кастрыцай.

Вечарамі зімой збіраліся малінаўцы да каго-небудзь на вячоркі, бесперапынна курылі і рэзаліся ў карты — у воза або ў дурня. Жаночае жыццё было зусім беспрасветнае. Ад цямна да цямна — гаспадарка: свінні, авечкі ды каровы, цабры, чыгуны ды вёдры. Трэба абмыць і абшыць сям'ю, а вечарам аж да поўначы прасніца, пад вясну кросны, а вясной ды летам і гаворкі няма: толькі за касу не бралася жанчына, усё астатняе ляжала на яе плячах. Таму і старыліся жанкі без пары. Пакуль дзеўка, дык за матчынымі плячыма цвіце ды ружавее, а як пайшла замуж, дык праз два-тры гады не пазнаць. Мабыць, аднае толькі ўцехі і было ў іх жыцці — у вялікае свята ў царкву

схадзіць. Абуе чаравікі, у якіх вянчалася, надзене новую спадніцу і клыпае да царквы. Мо не так богу памоліцца, як маладосць успомніць, сяброўак сустрэне, нагаворыцца ад душы...

Мужчыны малінаўскія былі не вельмі багамольныя, у царкву хадзілі рэдка, але споведзі ды прычасця не прапускалі. Бязбожнікам лічыўся малады Сташэвіч, Юстынеў сын Андрэй. Аднак на споведзь хадзіў і ён аж датуль, пакуль не пасварыўся з папом Сулкоўскім. Гэта быў адмысловы поп: карцёжнік-махляр і сам і яго матушка. Акрамя таго, гэты поп любіў жанчын, гарэлку, ездзіў вярхом, як сапраўдны драгун, танцаваў і спяваў, як артыст. У яго была палюбоўніца — пакаёўка ў маёнтку Чыжэвічы. Ён хадзіў да яе начамі, але не цераз мост: летам — уброд цераз раку Случ, а зімой — па лёдзе. Па-першае, так было бліжэй; па-другое, на мосце можна было з кім-небудзь сустрэцца, бо месца тое было бойкае, рух на дарозе не спыняўся і ўночы.

Вось да гэтага папа і трапіў аднойчы на споведзь Андрэй Сташэвіч.

— Ну, чым грэшан? — запытаў яго поп.

— А нічым, бацюшка,— адказаў Андрэй.

— Ты, мярзотнік, нічым не грэшан? — зашыпеў поп.— Ты не грэшан? Ды пра цябе, шэльму, уся парафія ведае.

— Я, бацюшка, нічога не ўкраў, нікога не забіў...

— Маўчы, ерацік...— пачаў поп, але не кончыў.

— А вы, бацюшка,— перабіў яго Андрэй,— у Чыжэвічы да свае Юлькі ўсё яшчэ па лёдзе ходзіце ці праз мост? Па лёдзе цяпер страшна, праваліцеся ў апраметную...

Справа была вясной, перад вялікаднем. Андрэй меў рацыю, калі гаварыў так: лёд быў і сапраўды слабы. Поп вылупіў вочы, а Андрэй павярнуўся і пайшоў з царквы.

Поп, вядома, мог бы пакараць Андрэя, але ён сам меў столькі грахоў, што пабаяўся крануць гэтага свавольнага шляхцюка. Баяўся поп і другога: Андрэй са сваімі накольнікамі мог падпільнаваць яго і вынесці ад Юлькі без споднікаў. Абмежаваўся тым, што паскардзіўся бацьку.

У сенакос усе малінаўцы адпраўляліся на сваю Волю. Пажылыя з косамі, граблямі і харчамі ехалі на

калёсах наўкруг за пятнаццаць вёрст, а моладзь ішла напрасткі цераз раку і балота. Напрасткі было напалову бліжэй. Сюдой, калі замярзалі рака і балота, вазілі дамоў сена.

Малінаўцы звычайна спыняліся на грудку сярод балота. Грудок той яны празвалі Станавіскам. На Станавіску рос лясок, таму дроў хапала. Там жа быў і калодзеж, хоць неглыбокі, але з даволі смачнай вадой, якая не вельмі аддавала балотам. Тут рабілі буданы з лазовых прутоў ды сена і былі тыдні два-тры, а то і больш, уважаючы на надвор'е.

Кожны малінавец браў на сенажаць двое нагавіц. Вечарам, прыйшоўшы на Станавіска, ён здзяваў мокрыя, надзяваў сухія, а мокрыя сохлі да будучага вечара.

Быў у Малінаўцы Ладымер Некрашэвіч — ляснік. Яму далі мянушку Баран-Заяц за тое, што ён меў нейкую ламачыну-стрэльбу і, прыйшоўшы з абходу, хваліўся:

— Ну, браткі, сёння забіў зайца, але ж як барана!

Паміж Некрашэвічамі і Нарбутовічамі з даўніх часоў цягнулася нейкая варожасць. Ладымер Некрашэвіч і Лявон Нарбутовіч не ведалі, з чаго яна пачалася пры іх дзядах ці прадзедах. Яны жылі па суседству, але ў хату адзін да аднаго не заходзілі. Гэта, аднак, не перашкаджала ім вітацца пры сустрэчах, даваць «памагай бог», гутарыць, жартаваць, курыць з аднаго капшука. Па сутнасці, яны нічога не мелі адзін да аднаго, але варожасці, якая перадалася ў спадчыну абодвум, забыць не маглі. Вось на гэтай глебе і зрабілі забаўку Андрэй Сташэвіч са сваім пляменнікам-аднагодкам Тамашом, таксама Сташэвічам. Абодва былі добрыя зухі і сябравалі моцна, хоць адзін быў дзядзька, а другі пляменнік. Аднойчы яны прыйшлі да Станавіска раней за ўсіх, знялі з галіны сухія Ладымеравы штаны, вымачылі іх, выпацкалі ў балоце і павесілі на старое месца. Хутка пачалі збірацца людзі. Прыйшоў і Ладымер. Ён, вядома, адразу кінуўся да сваіх нагавіц, але, убачыўшы, якія яны, загарэўся, як агонь.

— Хто гэта браў мае сухія нагавіцы? — крыкнуў ён.

— Не ведаеш, хто? — адказаў яму Андрэй.— Лявон Нарбутовіч.

— Сукін жа ён сын! — закрычаў Ладымер.— У што ж я цяпер перамянюся!

— Не ведаеш, што рабіць? — падбіў яго Тамаш.— Як прыйдзе на Станавіска, дык выхвашчы яму морду гэтымі нагавіцамі.

— Я так і зраблю! — Ладымер быў чалавек рашучы і гарачы.

— А сам яго сухія надзень,— дадаў Андрэй.

— А добра ты кажаш! — узрадаваўся Ладымер.

Ён надзеў Лявонавы нагавіцы і пачаў чакаць. Лявон затрымаўся на рабоце, а хлопцы не трацілі дарма часу і давялі Ладымера да белага калення.

Лявон вярнуўся самы апошні і не паспеў адсапціся, як падышоў Ладымер з мокрымі нагавіцамі ў руках.

— Лявон, што гэта? — запытаў ён, паказваючы на нагавіцы.

— Дурны Баран-Заяц! Нагавіцы!

— Ага! Значыцца, нагавіцы! — закрычаў Ладымер і, размахнуўшыся, пляснуў імі па твары беднаму Лявону.

Лявон не ведаў прычыны, не разумеў, у чым справа, але не такі ён быў чалавек, каб не даць здачы. Ён сунуў Ладымеру кулаком у зубы, і адразу ж абодва ўчапіліся адзін за аднаго. Праз хвіліну яны качаліся па зямлі, а прысутныя заходзіліся ад смеху.

Першы ўстаў Лявон. Ён быў яшчэ ў мокрых нагавіцах і спяшаўся пераапрануцца.

— Пачакай, я табе яшчэ наўскладаю! — прыгразіў ён.

Але як залямантаваў ён, убачыўшы мокрыя нагавіцы замест сухіх! Ён рынуўся на Ладымера, як раз'юшаны бык. Ладымер зразумеў, што тут непярэліўкі, і схапіў граблі.

Толькі назаўтра ўвечары мужчыны даведаліся, хто іх звёў. І гэтая бойка канчаткова знішчыла ўсю іх былую варожасць. Яны нават пасябравалі і збіраліся наўскідаць па карку Сташэвічам, але збаяліся. Крані гэтакіх прайдзісветаў, дык родным дзецям рады не будзеш.

З таго часу Лявон надоўга затаіў злосць на абодвух Сташэвічаў.

А легкадумны Ладымер хутка пра ўсё забыўся і сам смяяўся з гэтага выпадку.

Непрывабны быў засценак Малінаўка, цёмна і нецікава жылі ў ім людзі, але летняй парой ён здалёк кідаўся ў вочы. Слуцкія сады! Кожны малінавец меў невялікі садок, дзе абавязкова былі і антонаўкі, і бэры, і некалькі ранніх гатункаў яблык і груш. Каля кожнай хаты стаяла бяроза, гэта каб вясной быў свой сок; на прыгуменнях у кожнага гаспадара раслі ліпа, клён або таполя, часамі — дубок. А на завулічных агародах, бо малінаўцы жылі па адзін бок вуліцы, уздоўж усіх платоў густа рос вішняк і сліўняк. Вось таму засценак здалёк і нагадваў прыгожы гай сярод поля, да якога цягнула ў гарачы летні дзень. Не дзіва: пахілыя малінаўскія будынкі летам не відны былі з-за садоў. Хапала тут і птаства. Пад стрэхамі ляпіліся ластаўкі, вераб'і, у дуплах вяліся шпакі, якім рабілі і шпакоўні. Малінаўцы птушак любілі, і тыя адчувалі гэта, бо вілі гнёзды нават у кустах парэчак і агрэсту. А на дзвюх вялізных таполях, што раслі на абодвух канцах вуліцы, як вартаўнікі, стаялі на буслянках буслы. Вось гэта і было тое прыгожае і прывабнае, што адрознівала Малінаўку ад іншых вёсак.

Падзеі, якія адбываліся ў краіне, абыходзілі Малінаўку бокам. У тое лета 1903 года малінаўцы не ведалі ні пра рэвалюцыю, якая нарастае ў краіне, ні пра вайну, якую рыхтуе царскі ўрад на Далёкім Усходзе. Інтарэсы малінаўцаў не выходзілі за межы засценка. Хапала ім і сваіх дробных клопатаў, свае асабістае бяды. Кожная вестка з вялікага свету, якая нейкім чынам трапляла ў вушы малінаўскай шляхце, успрымалася ёю як хлусня. Яны нават не ўяўлялі, што недзе ёсць іншае жыццё.

## РАЗДЗЕЛ ПЕРШЫ

Стары Юстынь Сташэвіч раптам адчуў, што змарыўся. Іменна раптам. Уклаў у сцірту апошні сноп, і калі разагнуўся — пацямнела ўваччу, млявасць і слабасць прайшлі па ўсім целе і спыніліся ў грудзях каля сэрца.

— Тата, злазьце! — гукнуў з тока Андрэй.

Юстынь не адказаў. Не хапіла сілы і на гэта. Сеў на снапы, і было толькі адно жаданне: легчы. Доўга ляжаць і не варушыцца. «А хто ж ляжыць у такую

пару...— дакараў ён сам сябе.— Снапы на полі... Сухія... сухія снапы...» Ён паволі падняўся з месца, хістаючыся, намацаў нагою драбіну і пачаў злазіць. Не думаў, што злезе. Кружылася ў галаве, і ў вачах было мутна. «Палячу на дол...» Калі ступіў на ток, у вачах пачало прасвятляцца, але млявасць усё яшчэ разлівалася ў грудзях. Ён прыхінуўся плячыма да сцірты, бо адчуваў — падагнуцца ногі, не ўстоіць.

Андрэй паглядзеў на бацьку доўгім позіркам.

— Што з вамі, тата? Захварэлі?

— Ды не... Што ты выдумляеш...— стары крыва ўсміхнуўся і раптам злосна дадаў: — Выводзь каня, ехаць трэба...

Ён падхапіўся з месца, зрабіў некалькі крокаў да варот, потым схапіўся рукамі за грудзі і пачаў валіцца на дол. Андрэй не спускаў вачэй з бацькі. Ён падхапіў яго на рукі і панёс у хату. Нёс і адчуваў, як вяне бацькава цела.

Дома была толькі маці.

— Божачка! — закрычала яна.— Што з ім?

— Захварэў.

Андрэй палажыў бацьку на ложак, і той нібы чакаў гэтага. Расплюшчыў вочы і прашаптаў:

— Вады, мой сынок...

Старая Аксеня, Юстынева жонка, ужо несла кубак вады. Юстынь узяў яго абедзвюма рукамі і пачаў прагна піць, разліваючы ваду на грудзі. Тады зноў лёг і сказаў ледзь чутна:

— Замарыўся...

— Можа Гарасіма паклікаць? — запытала маці.

— К чорту Гарасіма,— адказаў Андрэй.— Да Крываблоцкага паеду.

— Па снапы едзь... Сухія снапы... Дождж будзе...

Андрэй ужо не чуў гэтых слоў. Ён выпраг з калёс старую чорную кабылу, якую даўно ўжо было пара прадаць каналупам, пусціў яе пасвіцца на прыгуменні, а сам завярнуў каня і паехаў у Чыжэвічы, да якіх было не больш за вярсту. У гэтым сяле жыў Марцін Крываблоцкі, колішні ротны фельчар. Гады тры назад ён адслужыў у арміі і цяпер жыў з жанатым братам.

Ён і дома быў за фельчара, ахвотна лячыў хворых ва ўсіх навакольных вёсках. Платы не браў, таму кожны пацыент або яго родныя частавалі Марціна, і без гарэлкі, вядома, не абыходзілася. Гэта Марцін прымаў

як заслужанае і з цягам часу прывык да чаркі. Па гэтай прычыне Андрэй, перш чым заехаць да фельчара, спыніўся каля Казіміра Арлоўскага. Арлоўскі меў краму, прадаваў гарэлку, быў сядзельцам. Дом яго пад ацынкаванай бляхай відзён быў здалёку, адкуль бы ні пад'язджаў да Чыжэвічаў. Сядзіба шырокая і доўгая, уся пад садам. Свіран прасторны, хлявы — як шклянкі, з жоўтай сасны. Гумно на двое варот — не гумно, а гмах.

Андрэй сустрэў Арлоўскага на ганку. Гэта быў высокі худы чалавек, крыху сутулы, з вялізнымі жылаватымі рукамі. Ён здаваўся няшчасным арыштантам, які не мае кавалка хлеба, каб напхаць падцягнуты, як у выжла, жывот. Ніхто не мог падумаць, што гэтая доўгая жардзіна трымае ў сваіх жылаватых руках не толькі Чыжэвічы, але і ўсе навакольныя вёскі, што сам пан Крупскі пазычае ў яго грошы.

З дзяцей у Арлоўскага асталася толькі адна дачка Адэля, дзяўчына нішто сабе з выгляду, толькі ўжо староватая, каб стаць жонкай маладога шляхцюка. Акрамя таго, гаворка яе была нейкая птушыная, яна не то картавіла, не то прыкідвалася, што картавіць, і, мабыць, лічыла, што вельмі хораша гаворыць. Аднак галоўная бяда была тая, што яна вучылася ў гімназіі. Каму з засцянковых гаспадарскіх сыноў спатрэбілася б такая жонка! Ажаніся ды бяры ёй наймічку. І панскія сыны да яе не сваталіся, бо Арлоўскі быў усё-такі не пан, і Адэля старылася ў дзеўках. Андрэй добра ведаў гэтую дзяўчыну. Гады чатыры назад ён, васемнаццацігадовы юнак, убачыў яе на вечарынцы і закахаўся. Нядоўга цягнулася тое каханне. Адэля хутка паставіла Андрэя на месца. А ён быў не такі хлопец, каб хутка забыць знявагу.

Чатыры гады — немалы час. Цяпер Адэля глядзела на Андрэя іначай, рабіла ўсялякія захады, каб вярнуць мінулае, але Андрэй ужо быў не той.

— Дзіўна, дзіўна,— прамычэў Арлоўскі.— Я пузні свят вас не сустракаў, пане Сташэвіч.— Голас яго скрыпеў, як сухая асіна, калі яе хістае вецер. Арлоўскі любіў устаўляць у гаворку польскія словы, любімае было — «пузні» (пасля, пазней).— Заходзьце ў хату,— запрасіў ён, адчыняючы дзверы.

— Мне, пане Арлоўскі, няма часу.

— Нічога, на адну хвіліну.

Андрэй зайшоў і выняў кашалёк.

— Бутэльку казённай, пане Арлоўскі.

Арлоўскі ўзяў грошы і пайшоў у другую палавіну хаты. У гэты момант у пакой увайшла Адэля. «Чорт цябе нясе»,— ледзь не плюнуў Андрэй.

— А я вас па голасе пазнала,— сказала яна.— І нашто вам гарэлка спатрэбілася ў будні дзень? — яна ўсміхнулася і дадала: — Ага! Сёння ж субота! Напэўна, у сваты сабраліся?

— Сабраўся,— адказаў Андрэй.

— А да каго, калі не сакрэт?

— Сакрэт.

— Ведаю я ваш сакрэт! Да Ганны Асіеўшчанкі... Ах, Андрэй, Андрэй... Каб вы не былі такі ганарысты...— Яна не дагаварыла.

Стары Арлоўскі прынёс гарэлку. Андрэй запхнуў бутэльку ў кішэню і развітаўся.

Марціна ён застаў дома. Гэты чалавек заўсёды быў гатовы ў дарогу, абавязкова ў гімнасцёрцы зялянковага колеру, падпяразаны шырокім салдацкім рамянём. Рыжыя пракураныя вусы тырчалі ўгару, і ўвесь ён з выгляду нагадваў фельдфебеля. Сёння Марцін быў яўна не ў гуморы.

Убачыўшы Андрэя, Марцін ажывіўся.

— Ведаю, чаго прыехаў! Бацька ці маці?

— Бацька, Марцін.

— Што з ім такое?

Андрэй расказаў, і Марцін пачаў збірацца.

— Што маю, то вазьму з сабой, а чаго не маю, таго не маю.

Калі прыехалі, бацька ляжаў на ложку бледны і схуднелы.

— Мама,— сказаў Андрэй.— Вы тут падрыхтуйце, што трэба.

Старая Аксеня кіўнула: яна ведала, што трэба рыхтаваць.

— Марцін,— звярнуўся Андрэй да фельчара,— пакуль ты агледзіш бацьку, я воз снапоў з поля ў гумно перакіну. Тут блізка, я хутка ўпраўлюся, а тады цябе дамоў завязу.

— Едзь.

Андрэй завярнуў каня і паехаў па снапы.

«Жыццё,— думаў ён.— Бацька захварэў, можа, бо-

гу душу аддасць, а сын, замест таго, каб каля ложка пастаяць, па снапы едзе».

Ён рашуча завярнуў каня, хвастануў яго пугай і паехаў назад. Нарбутовіч сустрэў яго на пары калёс. На пярэдніх ехаў сам, на задніх — жонка. Ён усміхнуўся хітрай, зларадная усмешкай:

— Забыўся нешта?

Андрэй сціснуў зубы і не адказаў. Другі раз не стрымаўся б, злез бы з воза і даў па карку.

Маці смажыла сала і кілбасу. Яна здзівілася, калі сын увайшоў у хату.

— Так скора вярнуўся?

— Вярнуўся.

Марцін абслухваў бацьку і маўчаў. Андрэй сеў пры стале і задумаўся. Марцін тым часам даў старому парашок і сказаў:

— Паляжаць трэба, дзядзька Юстынь. Тут не так хвароба, як гады.

— Паляжаць...— ледзь чутна сказаў стары.— А снапы сухія... Заўтра нядзеля...

— Уночы буду вазіць, тата.

— Грэх, мой сынок.

— Працаваць не грэх,— зазначыў Марцін.— Красці грэх.

— Жыта сеяць трэба... Які з цябе сявец. Калі што якое, папрасіш Яна. Ён добры сявец... І рука ў яго лёгкая. Сташэвічы ўсе такія... Кодла адно.

— Кінь ты! — абурылася Аксеня.— Як толькі лёг, дык адразу пра смерць гаворку завёў. Людзі і хвараюць і папраўляюцца. Сам і ляжаў і ўставаў.

Стары хацеў нешта сказаць, але павярнуўся тварам да сцяны і супакоіўся.

— Пасля парашка будзе спаць,— сказаў Марцін.

За чаркай разгаварыліся.

— Паехаў я па снапы, Марцін, і падумаў: жыццё, каб яно прахам пайшло... Бацька хворы ляжыць, а сын павіннасць адбыў — фельчара прывёз, ды сам па снапы паехаў, бо іх, бачыш, можа дождж намачыць... А што бацька можа памерці без яго, дык гэта глупства... Бацьку слова вымавіць цяжка, а ўсё пра снапы гаворыць ды яшчэ пра сяўбу... Звярэем мы на гэтых гаспадарках, чарсцвеем.

— Не тое, Андрэй. Жывы пра жывое думае, а як жа іначай! Іначай нельга. Кажаш, што бацька пра

снапы гаворыць ды пра сяўбу... А думае ён не пра іх! Ён пра цябе думае, Андрэй. Вось, думае, памру я, а сын яшчэ гаспадаром не быў — як жыць пачне, гаспадарку весці? Значыць, думае ён не пра смерць, а пра жыццё.

Калі кончылі бутэльку, Марцін такі добра захмялеў, бо Андрэй выпіў не болей як дзве чаркі. Выйшлі на двор, і тут Марцін сказаў:

— Ты, браце Андрэй, не вязі мяне. Сам пайду.

— Што ты, Марцін! Можа пра мае снапы думаеш?

— Не. Я люблю прайсціся адзін, калі ў галаве мухі лётаюць. Тады, брат, і думак — як тых мух. Адкуль яны бяруцца — ліха іх ведае. Такое ў галаве, што аж сам дзівішся. А ты снапы вазі, не глядзі на грахі. Вакол грахі. І мы яшчэ не самыя грэшныя на зямлі.— Ён кіўнуў галавою, нібы хацеў прагнаць з яе нешта прыкрае.— Вось што я табе скажу, Андрэй. Не сказаў бы другому, а ты вытрымаеш. Не такі ты чалавек, каб не вытрымаць. Бацька твой не ўстане. Аджыў ён на гэтым свеце.

Гэтыя словы кальнулі Андрэева сэрца. Бацьку ён любіў і не думаў пра яго смерць.

— Ну от, я табе і сказаў. А цяпер бывай, Андрэй. Пайду я.

Марцін развітаўся і пайшоў.

Сонца ўжо хілілася да захаду, калі Андрэй адзін на пары калёс паехаў па снапы. Ёсць асаблівая прыгажосць у полі, калі яно ўжо не шасціць калоссем, але яшчэ не зусім апусцела, бо бабкі стаяць у рады на кожнай палосе, нібы вартавыя.

Андрэй не помніў, як наклаў і прывёз у гумно першыя два вазы. Снапы скінуў проста на ток.

Сястра Алена была ўжо дома. Яна прыйшла з поля, дзе жала авёс, і цяпер вячэрала. Андрэй падышоў да бацькі. Ён не спаў. Ляжаў спакойна, але дыхаў цяжка.

— Андрэй, сынок... снапы...

— Перавязу, тата,— супакоіў Андрэй.— Перавязу!

— Вось што, Алена. Сёння паможаш мне снапы вазіць,— сказаў ён сястры.

Алена ўзлавалася:

— Па-твойму, мне адпачываць не трэба. Каменная я. Цэлы дзень, сагнуўшыся, адна, каб ад людзей не астацца... Ледзь ніву кончыла.

Андрэй са спачуваннем зірнуў на сястру.

— Кончыла ніву? Ну, малайчына! А я нават не

спадзяваўся... Тата кажа, што дождж будзе, а ён ніколі не памыляўся. Ведаю, што змарылася ты... Пакуль не сцямнее, адпачні, адзін паеду яшчэ раз, а потым, як хочаш, памажы. Класці і ўціскаць сам буду, а ты толькі за другім возам ісці будзеш, пільнаваць, каб не перакуліўся. Упоцемку, сама ведаеш, адзін двух вазоў не дагледзіш.

Спачувальны і ласкавы тон супакоіў Алену. Яна была рада, што брат пахваліў. Праўда, яна не апошняя работніца ў засценку. І то сказаць, хто можа з ёю справіцца! Не толькі на полі. Хто танчэй і хутчэй спрадзе? А пасадзі яе за кросны! Няхай другая паспрабуе выткаць абрусы і коўдры ў шаснаццаць нітоў! А яна не памыліцца, не зблытае.

— То паедзем разам,— сказала яна.

Як толькі прывезлі першыя вазы, у гумно зайшоў пляменнік Тамаш Сташэвіч, каб ісці з Андрэем у Жывіцы — засценачак за вярсту ад Малінаўкі. Там мелася быць вечарынка.

— Эй, Андрэй! — гукнуў ён.— На вечарынку спознімся.

— А я не пайду, Тамаш.

— Чаму?

— Бацька хворы, снапы вазіць трэба. Ты ж, напэўна, свае звазіў?

— Звазіў. Мы з бацькам. А ты што, з Аленай?

— Нязручна аднаму ўночы з двума вазамі.

— Вядома, нязручна... Слухай, у цябе ёсць у што пераапрануцца?

— Навошта табе?

— Паеду з табою па снапы, а я ж на вечарынку сабраўся.

— Здурнеў...

— Чаго там здурнеў! Без цябе я не пайду.

Гэты штукар быў шчыры сябар, і ў Андрэевай душы разлілося нейкае цяпло. А Тамаш тым часам скрывіўся, зрабіў няшчасны, жабрацкі выгляд і, павярнуўшыся да Алены, сказаў:

— Мо б вы, цётачка, падарылі мне якія старыя нагавіцы і світку? Падарыце голаму ды босаму.

Ён падняў дзяўчыну і кінуў у салому.

— Я табе пакажу, пляменнічак, як з цёткаю жартаваць,— сказала Алена.— От яшчэ і аплявуху дам!

— Гэта вы, цётачка, свайго Юзіка Грома так па-

частуйце. Ён даўно яе чакае...— Тут ён перамяніў тон і сказаў, як нічога не было: — Праўда, прынясі, Алена, пераапрануцца. Якая ты памочніца Андрэю?!

— Ідзі, Алена! — загадаў Андрэй.

Цэлую ноч вазілі снапы. Перавезлі апошнія, калі ўсходзіла сонца. Спяшаліся прыехаць дадому, пакуль спяць засцянкоўцы, а то коса глядзець будуць: бязбожнікі. Не забыліся яшчэ малінаўцы, як спавядаўся Андрэй у папа Сулкоўскага. Як толькі ўз'ехалі на прыгуменне, Тамаш пачаў непакоіцца:

— Скінеш без мяне, Андрэй, а я хутка пераапрануся і дамоў. Няхай бацька пасварыцца, што да відна на вечарынцы быў, а не што перад святым днём снапы вазіў.

Сонца ўзышло яснае і чыстае на светлае блакітнае неба. Раніца была сухая. Нідзе ні расінкі: ні на траве, ні на лісці.

Пакуль маці гатавала снедаць, Андрэй прылёг адпачыць. Спытаў у маці: — Як тата?

— Нічога... Я парашок яму дала.

Калі маці разбудзіла Андрэя, ён не разумеў, вечар гэта ці раніца. Пад вокнамі шасцеў бэз, гойдалася і шумела бяроза. Аднекуль здалёк адгукваўся гром.

Бацька ўсё спаў. Андрэй падышоў да старога, і жаль сціснуў яго сэрца: бацька ўжо госць у сваёй хаце. Чалавек, які даў яму жыццё, які ніколі не думаў пра яго дрэнна, нават ніколі не сварыўся. Ён толькі глядзеў на сына дакорлівымі вачыма і гаварыў: «Эх, мой сын... У каго ты ўдаўся? — І ў задуменні адказваў: — У дзядзьку Яўхіма. У маладосці такі ж самы быў. А чалавек не благі... Нашто казаць. Наша кодла, Сташэвічава...»

Пакуль снедалі, на двары ўзняўся шалёны вецер. Навісла хмара, грымнуў гром, і буйнымі кроплямі забарабаніў у вокны дождж.

Стары Юстынь прачнуўся. Узняў галаву, прыслухаўся і ў знямозе заплюшчыў вочы.

— Дождж... А снапы...

— Снапы ў гумне, тата.

— У гумне?

— У гумне. Управіліся да дажджу.

— Хваліць бога.

## РАЗДЗЕЛ ДРУГІ

Лявон Нарбутовіч быў чалавек злапомны і помслівы. Ён не мог забыць таго, як праз Андрэя Сташэвіча і яго пляменніка Тамаша біўся на Волі з Бараном-Зайцам. Аж пакуль не кончыўся сенакос, малінаўцы рацам. Аж пакуль не кончыўся сенакос, малінаўцы ратоў не стульвалі. Як хто з суседзяў паб'ецца ці пасварыцца, дык і цяпер гавораць: сашчапіліся дурні, як Лявон з Ладымерам. Прымаўку зрабілі, шэльмы.

Таму, вядома, Лявон і зацікавіўся, па якой гэта прычыне Андрэй на парожнім возе з поля паехаў. І твар яго быў аж страшны. Не з дабра, не з дабра!

Вечарам Лявон уведаў, у чым справа, і не то каб узрадаваўся, але неяк усцешыўся. Не таму, што захварэў стары Юстынь. Зусім не таму. Старога Юстыня ў засценку паважалі, нават параіцца да яго прыходзілі. Нарбутовіч таксама нічога не меў да старога Сташэвіча. А от сынок-шыбенік няхай выхварае! Жарты, такая пара! Жніво ледзь за палову перахапілася, толькі ярыну пачалі жаць. Снапы на полі, жыта трэба сеяць — тут табе і гной, і ворыва, і скароджанне — усё ліха разам. А насення намалаціў? Наўрад ці ў старога Юстыня леташняе жыта на сяўбу асталося. Захацелася ўбачыць каго-небудзь, пагутарыць, паслухаць, што гавораць людзі.

Пачало ўжо цямнець, калі Нарбутовіч выйшаў з хаты. Перш за ўсё зірнуў у свой садок. А што там! Заўтра нядзеля, снапы ў гумне, клопат на карку не вісіць, можна спаць хоць увесь дзень. Дык чаму ж не пацешыцца сваёй гаспадаркай! Нарбутовіч адзін з усяго засценка жыў на другім баку вуліцы і меў ладны садок. Дрэвы хоць яшчэ і невялікія, але густа былі абсыпаны яблыкамі і грушамі. У вячэрнім змроку яны вырысоўваліся, як на малюнку, і ў Лявона на сэрцы стала неяк лёгка і соладка, калі адчыніў варотцы ў свой садок. Мілата і любата! Пастаяў каля кожнага дрэва, паправіў падпоры. Спыніўся каля апорта і пагладзіў яго шурпаты ствол. «Малайчына, браце! Пашанцуе, дык мы з цябе кішэню грошай возьмем!» Заманілася сарваць адзін яблык, ужо і руку працягнуў, але не! Сёння яблык ды заўтра, а ў бога днёў многа. Не згледзіш, як усе сарвеш.

На двары прыцямнела. На вуліцы стаяў смех і го-

ман. Дзятва з усяго засценка гуляла ў галубы, у коршака, у карагод — ва ўсе тыя старыя гульні, у якія ў свой час гуляў і Лявон са сваімі равеснікамі.

— Кыш! На седала! — крыкнуў Лявон.

Ніхто яго не паслухаў. Лявон, уласна, і не чакаў гэтага. Крыкнуў проста так, ад паўнаты душы, ад добрага настрою, бо ўспомніў, як сам у маленстве гэтаксама галёкаў па вуліцы і дарослыя казалі:

— Кыш, малыя! На седала!

Акрамя дзяцей на вуліцы нікога не было, але раптам у канцы яе паказаўся чалавек. Лявон вырашыў пачакаць яго. І калі чалавек падышоў бліжэй, Лявон пазнаў Сымона Ашакевіча. Даўганогі і няскладны, ён не глядзеў уперад, а пад ногі, але Лявона заўважыў і даў «добры вечар». Лявон «добры вечар» аддаў, але гаворкі не пачаў. Ёсць з кім гаварыць, з галытвай і трацячнікам! Пра што [redacted] ім пагаворыш! Ды і наогул не любіў Лявон Ашакевіча. Голы, як бізун, а рызыкі столькі, што носа не дастанеш. У гаворку калі ўваткнецца, дык толькі слухай яго. Усё ён ведае, пра ўсё чуе. Жартачкі — у Слуцку часта бывае ды на Урэччы. Гаворыць паважна, нібы ён разумнейшы за ўсіх. А галоўнае, як сам сабе пан. Не мае павагі да багацейшых, а калі разане што-небудзь, дык хоць вушы затыкай... Паглядзеў услед Сымону, які босымі нагамі, доўгі і няўклюдны, як сталюга, крочыў па вуліцы, і адвярнуўся. Памкнуўся быў адысці ад свайго двара, але пачуў цяжкія крокі і пачакаў. З поля ішоў Юзік — сын новага малінаўскага гаспадара Яўхіма Халусты, таго, што сеў на барысевішчыне, выпхнуўшы адтуль панскага арандатара Тодара Шымкевіча. Самога Яўхіма Халусту не спыніў бы Лявон, бо баяўся былога панскага аканома. Не спыніў бы і яго малодшага сына Мікалая — шыбеніка і злодзея. Няхай іх людзі не ведаюць. А Юзіка спыніў. Юзік быў просты, няхітры і не вельмі разумны. У Малінаўцы яго за высокі рост, сілу і грубы голас празвалі Громам. Яго-то Лявон не баяўся.

Юзік, параўняўшыся, грымнуў сваім раскацістым басам:

— Здароў, Лявон!

Лявон адказаў ахвотна, нават з радасцю.

— Здароў, Юзік! Але ж нездарма цябе Громам празвалі! Гэтакі голас! Далібог, ты мяне аглушыў!

— От я табе як грымну, дык забудзеш, як жонку

завуць! — раўнуў Юзік, але ў голасе не было злосці, і ўсцешаны Лявон засмяяўся.

— Многа ты людзей пазабіваў!

— З цябе першага пачну! — і Гром заліўся звонкім смехам.

— Ну, братка, і галасок! Ая-я-яй! Глядзі, вунь дзеці папужаліся!

Гром задаволена хмыкнуў.

— А ты не чуў, братка, навіны? — запытаў Лявон.

— Якой?

— Цесць твой захварэў.

— Які цесць? У мяне яшчэ няма цесця. Толькі бацьку маю, і таго, калі хочаш, аддам табе.

— Навошта мне твой бацька! Але нашто ты прыкідваешся, Юзік? Думаеш, ніхто не ведае, што ты за Аленай Сташэвічавай бегаеш?

— Хто гэта бегае? Я бегаю? — Юзік ажно ўзлаваўся, і Лявон зрабіў лоўкі манеўр.

— Не ты за ёй, а яна за табою! Хіба не відно, як яна на цябе паглядае! Аблізаць ды з'есці гатова! А дзяўчына, братка Юзік, ого! Дай бог кожнаму такую кабету!

Юзік гмыкнуў: гэта яму спадабалася.

— Дык што? — запытаў ён.

— Стары Юстынь захварэў.

— Дык што?

— Андрэй па Крываблоцкага ездзіў.

— Дык што? Табе шкада?

— Не, але...

— Дык сам ляж на яго месца.

— Не, Юзік, пачакай! Калі памрэ стары Юстынь, то вяселле не скора справіш. Жалоба, цэлы год чакаць.

— Пачакаю.

— Дык гэты ж накольнік Андрэй не аддасць яе за цябе!

— Няхай паспрабуе! Я яго заб'ю!

— Забіць то не заб'еш, але каб наўскідаў трохі, то не пашкодзіла б!

— Наўскідаю, не думай!

— А нашто табе чакаць! Няма хіба дзяўчат акрамя Алены! Яна нішто сабе дзеўка, але ж браток у яе! Хіба дзевак няма на свеце? От каб і мая сястра замуж не пайшла! Чым не жонка!

— Твая сястра? Твая сястра Аленінай нагі не вар-

та! — Гром павярнуўся, плюнуў і цяжка, як слон, пайшоў дахаты.

Настрой у Лявона сапсаваўся. «Пагаварылі,— падумаў ён.— Дубіна дубінаю. Уродзіцца ж такое стварэнне... Каб ты на сваім парозе ногі паламаў, сабака... Гром ты няшчасны...»

Хацеў ужо ісці дамоў пагутарыць са сваёй Міхалінай. Цяпер у Лявонавай хаце ішоў лад. Сястру аддаў замуж, маці памерла, бацька ледзь ногі цягае, у сям'і ціха. Міхаліна стала лагодная і да чаго мяккая! Дзеўкай такая не была. «Раз'елася, гадаўка!» — падумаў без злосці. А пра засцянковыя навіны то наўрад ці хто лепш, чым яна, ведае. Толькі дома не ўседзіць. Абы вольная хвіліна, то яе ўжо ў хаце няма. От і сёння: не паспелі павячэраць, а яна ўжо — шмыг з хаты. А калі з'явіцца, то пра кожнага малінаўца нешта раскажа.

Толькі хацеў павярнуцца тварам да сваіх варот, як убачыў, што са Сташэвічавага двара выехалі дзве падводы. Вось цяпер Лявону захацелася зарагатаць на ўсю вуліцу. «Ага! Прыперла! Ноччу па снапы паехаў, ды яшчэ перад святым днём! Бязбожнік! Гад! Цяпер не будзе часу людзям паскудства рабіць!» Доўга ўглядаўся, з кім жа паехаў Андрэй, але сцямнела, не пазнаў. Падумаў, што з Аленай. Настрой у Лявона ўзняўся, і расхацелася ісці дамоў. Да каго ж схадзіць, каб пасядзець, перамыць па костачках гэтага шэльму Сташэвіча? Надумаў зайсці да Гарасіма Жукоўскага. У Гарасіма не было бліжэйшай радні, чым Лявон Нарбутовіч і Нічыпар Мартыневіч, таксама брат па бабульцы. Таму яны і арандавалі Гарасімаву паўвалоку кожны па чвэрці.

Гарасіму Жукоўскаму перайшло за пяцьдзесят. Гэта быў высокі чалавек з квадратным, нейкім кантовым тварам, які густа аброс сівымі валасамі. Вусы і бараду Гарасім штодня абстрыгаў нажніцамі, сеўшы пры люстэрку. На свае гады выглядаў ён добра, не сутуліўся, але плечы былі вузкія, пакатыя, як у жанчыны, рукі падпухлыя, без мазалёў. Гультайскія рукі. Усё гэта сведчыла, што Гарасім пражыў лёгка, без турбот і клопатаў. Цікавыя былі яго вочы, блакітныя, як у дзіцяці. Яны і глядзелі па-дзіцячы ласкава і прастадушна. Дзіўна было бачыць такія вочы пад густымі, дарэшты сівымі брывамі.

Жыццё Гарасіма прайшло вельмі цікава. Бацька яго — Трахім Жукоўскі — быў малінаўскі шляхціц. Ён меў паўвалокі зямлі і быў нядрэнны гаспадар. Пасля смерці жонкі, якая была галавой у хаце, Трахім занядбаў гаспадарку. Не хапала жончынага вока, і чалавек пачаў апускацца. Дзяцей у яго, акрамя Гарасіма, не было, але і той гадаваўся не гаспадарлівым хлопцам. Трахім шкадаваў свайго адзінага сына і вучыў яго спачатку ў вандроўных настаўнікаў, так званых «дарэктараў», потым павёз у Старочын і аддаў у двухкласнае вучылішча. Гарасім вучыўся добра, але ў яго з'явілася нейкая хваравітая цяга да свяшчэнных кніг. Ён праседжваў цэлыя ночы, чытаючы і перачытваючы «жыцііі»» святых, біблію, і плакаў горкімі слязьмі над пакутамі першых хрысціян у Рыме.

Пакуль жыў бацька, гаспадарка яшчэ сяк-так трымалася, хоць з дапамогаю чужых рук, якія не так уздымалі яе, як валаклі са двара ўсё, што дрэнна ляжала. Пасля смерці бацькі Гарасім зусім адмахнуўся ад гаспадаркі. К гэтаму часу ён ужо меў дваццаць гадоў. На добры лад трэба было ажаніцца ды закасаўшы рукавы брацца за зямлю, але Гарасім і не думаў пра гэта. Ён хацеў прадаць зямлю, а грошы раздаць бедным. Чалавекам заўладала жаданне стаць святым. Ён увесь час трымаўся адзін, чытаў, маліўся богу, і гэта яго здавольвала. На вячоркі і вечарынкі Гарасім не хадзіў і, як чорт ад крыжа, уцякаў ад дзяўчат. Ён бы, можа, і прадаў сваю паўвалоку, але ўмяшаліся дзядзькі Нарбутовіч і Мартыневіч — бацькі Лявона і Нічыпара. Яны адгаварылі яго і ўзялі тую паўвалоку ў арэнду. Такім чынам пазбавіўшыся гаспадаркі, Гарасім знік. Вярнуўся ён дамоў гадоў праз пяць у адзенні вандроўніка па святых месцах. Вопратка на ім была не то папоўская, не то дзякоўская. Нават на галаве ён насіў нейкі каўпак, падобны на папоўскую камілаўку.

Малінаўцы лічылі яго дурнаватым. Дзядзькі-арандатары смяяліся з пляменніка і арэнды або зусім не плацілі, або плацілі колькі хацелі. Гарасім і не патрабаваў большага. Ён пажыў дома не больш за год, потым яго зноў пацягнула ў дарогу. Быў на Салаўках, у Кіеве, у Афоне, дапяў аж да Палесціны і Іерусаліма. У Малінаўцы ён асеў, калі адчуў, што надыходзіць старасць. Гэта было за тры гады да апісаных тут падзей. К гэтаму часу дзядзькі яго памерлі, гаспадарамі

сталі іх сыны — Лявон і Нічыпар. Яны і арандавалі цяпер Гарасімаву паўвалоку.

Тры гады жыў Гарасім у Малінаўцы — нелюдзіма, адзінока, але, мабыць, па-свойму шчасліва. Хатка яго стаяла каля прыгумення ў невялікім, але добра дагледжаным садзе. З усёй гаспадаркі Гарасім любіў свой сад і агарод і даглядаў іх старанна. Увесь астатні час чытаў і лячыў хворых. Кабеты з навакольных вёсак ішлі да яго адна за адною. Ён меў градуснік, купляў у аптэцы парашкі ад галавы, жывата, розныя кроплі, збіраў травы і рабіў настойкі. Яго лічылі і чараўніком, і ведзьмаром, і святым, а малінаўцы не прызнавалі яго, не размаўлялі з ім, бо меркавалі, што ў гэтага святога проста не хапае ў галаве клёпкі. Закінуць такую гаспадарку, пражыць усё жыццё ў дарозе, на іх думку, мог толькі вар'ят. Вось чаму Андрэй і паслаў Гарасіма к чорту, калі маці сказала паклікаць яго да хворага бацькі.

Гарасім жа быў зусім не такі дурны, як думалі пра яго малінаўцы і сваякі-арандатары. Пабадзяўшыся па святых месцах, ён нагледзеўся ўсяго і трохі ведаў жыццё. Бескарыслівасць яго пад старасць саступіла месца сквапнасці. Ён пачаў з недаверам і падазронасцю ставіцца да сваіх братоў-арандатараў, і хоць маўчаў, але яны ведалі, што загаворыць. Загаворыць так, што толькі трымайся! Чаго добрага, пацягне нявыплачаную арэнду за ўсе гады.

Вось да гэтага святога брата і прыйшоў Лявон Нарбутовіч. Гарасім ужо збіраўся спаць, калі ў хату ўсунуўся Лявон.

— Добры вечар! — сказаў ён весела.

— Добры вечар! — не вельмі гасцінна адказаў Гарасім.

— Эге! Ты спаць сабраўся, а твой сусед толькі што на работу паехаў.

— Які сусед?

— Андрэй Сташэвіч! Па снапы паехаў, на нядзелю гледзячы. Чуў ты такое?

— Яго грэх, яго і адказ!

— Ну, але...— Лявон не знаходзіў, што яшчэ сказаць.— Ну, але, братка... А яго ж бацька хворы! Хоць бы дзеля бацькі патрымаўся. А ён па снапы паехаў.

— Хлеб — дар божы,— адказаў Гарасім.— А захварэць кожнаму нядоўга.

Гаворка не вязалася. Лявону больш не было чаго казаць.

— Мо табе трэба што? — на ўсякі выпадак запытаў ён.

— Трэба,— адказаў Гарасім.— Дровы трэба і грошы. Ды каня дасцё. Заўтра ў Старочын паеду.

Лявон выскачыў з хаты, як апараны. Сам напрасіўся. От вядзьмар праклятый, смерці табе бог не дае. І дровы, і грошы, і каня... Цяпер трэба ісці да Нічыпара Мартыневіча ды дамагчыся, каб даў каня. А дровы і грошы папалам. Маргі свае, а грошай рублі тры трэба даць.

## РАЗДЗЕЛ ТРЭЦІ

Андрэй ніколі не думаў, што так хутка прымірыцца з тым, што бацька памрэ. Што гэта такое? Чаму так сталася? Чым гэта растлумачыць? Ён не мог знайсці адказу на гэтыя пытанні. У першыя дні пасля таго, як Марцін сказаў яму страшныя словы, ён не знаходзіў сабе месца. І цяжкая праца, пасля якой не чуваць ні рук ні ног, не магла выгнаць з галавы гэтай тужлівай і страшнай думкі. Яна была заўсёды з ім: і на полі, калі ён разам з Аленай жаў ярыну, і на адпачынку, калі яны, сеўшы проста на ржышчы, абедалі. Кавалак хлеба не лез у рот.

— Чаму ты такі, Андрэй? — дапытвалася Алена.— Чаму ты не ясі?

— Яшчэ не вымерхаўся.— Андрэй прабаваў перавесці гаворку на іншае.

Ці мог ён сказаць ёй, што, па сутнасці, у іх ужо няма бацькі. Бацька хоць быў стары і нядужы і не было ад яго вялікай карысці ў рабоце, але гаспадарку ў руках трымаў ён. З бацькам заўсёды было лёгка, бесклапотна і весела. Яны ведалі адно: ісці, куды ён дасылае, рабіць тое, што загадае, і рабіць так, каб аж чарцям моташна было. Гэта яны ўмелі абое. І вось бацька памірае... Цяпер Андрэй не мог доўга сядзець у хаце. Калі позірк яго падаў на бацьку, ён бачыў яго нежывым. Жаль агортваў душу, хацелася бегчы ў белы свет.

На ржышча засцянкоўцы вадзілі коней на начлег. Вадзіў і Андрэй. У мінулыя гады гэта быў самы леп-

шы і вясёлы час. Раскладалі вялікі агонь, на ражнах смажылі сала. Колькі было жартаў і смеху! Не апошні быў тады Андрэй. Коней папраўдзе не трэба было пасвіць, толькі пільнаваць ад ваўкоў, якіх у Маргах вадзілася шмат. Пажылыя мужчыны спалі, загарнуўшыся ў кажухі, а з моладзі рэдка хто і прыдрэмліваў да раніцы. А цяпер Андрэя не цягнула да жартаў. Ён сядзеў у гурце каля агню, курыў, а думкі луналі далёка.

— Што ты, Андрэй, як мыла з'еў, га-га-га! — жартаваў Юзік Гром.— Мабыць, Ганна цябе зусім адшыла? Гы-гы-гы!

Дурны Гром, што ён ведаў? Два гады хадзіў Андрэй у Жывіцы да Ганны Асіеўшчанкі і не мог сказаць, што ў яго з ёю нешта ладзіцца. Яна была нічыя, гэтая дзяўчына. І гэта было галоўнае, што цягнула яго да Ганны. А мо і не гэта. Хадзіў на злосць усім жаніхам, якіх вабіў багаты Ганнін пасаг. На злосць яе бацьку Лукашу Асіеўскаму — жывіцкаму багацею, скупому і жорсткаму чалавеку, які, вядома, не хацеў мець такога зяця, як Сташэвіч Андрэй, і хоць не выказваў гэтага, але ўсім сваім выглядам, усімі паводзінамі даваў зразумець, што Ганна гадавалася не для яго. На злосць шляхцянкам, якія лічылі сябе паненкамі і смяяліся з мужыкаватага Андрэя, хоць і рады былі б, каб ён да каторай з іх пасватаўся. Нарэшце, на злосць самой Ганне, якая не вылучала яго ад іншых. Па нейкай прычыне ён быў упэўнены, што нішто не перашкодзіць яму, калі ён захоча, зрабіць Ганну сваёй жонкай. Але ён не быў упэўнены, што сам хоча гэтага. Ці кахае ён яе? Таксама не ведаў. Спадабалася, але рэдка ўспамінаў пасля таго, як бачыўся на вячорках ці вечарынцы. Вобраз Адэлі, яшчэ не зусім забыты, стаяў між ім і Ганнай.

Андрэй адышоў ад гурту, закруціўся ў кажух і лёг каля мяжы. Думкі апанавалі яго. Да чаго асмялеў Гром Халуста! Шпількі падпускае, агрызаецца... Можа радней сябе лічыць? Паскудства. Што знайшла ў ім Алена? Дурны, тупы, як даўбешка. Няўжо за тое пакахала, што вялікі і мае звярыны голас? Няўжо так мала патрабуюць жанчыны ад мужчын? Недарэчнасць...

Дасюль Андрэй не думаў ні пра Юзіка, ні пра Халустаў наогул. Ведаў, што гэтае пытанне будзе вырашаць бацька. А цяпер... Андрэй жахнуўся. Цяпер па-

вінен вырашаць ён. Аддаць сястру ў сям'ю гэтых дзікуноў і злодзеяў! Ну, няхай сабе яна любіць Юзіка Грома, але калі пажыве некалькі месяцаў сярод вар'ятаў, у якіх няма жаласці, спагады, спачування, сумлення,— дзе падзенецца яе каханне! І жыццё сапсута назаўсёды.

Андрэй успомніў, як Халусты трапілі ў Малінаўку.

Яўхім Халуста асеў у Малінаўцы толькі тры гады таму назад. Калісьці гаспадарыў тут нейкі Барысевіч. Было гэта яшчэ ў тыя часы, калі малінаўцы куплялі зямлю ў пана Крупскага. Барысевіч па сваёй зайздрасці адхапіў цэлую валоку, але не паспеў выплаціць грошы і хутка памёр бяздзетны. Валока так і асталася панскай. Пан некаторы час здаваў яе ў арэнду малінаўцам па чвэрці на гаспадара, аднак гэта было нявыгадна. Арандатары мелі сваю зямлю і не вельмі даглядалі арандаваную. З кожным годам яна пусцела і горш радзіла.

У той час у маёнтку пана Крупскага служыў Яўхім Халуста. Ён трымаў кузню, у якой працаваў яго сын Мікалай. Сам Халуста займаў пачэсную пасаду машыніста на бровары. Злодзей і ашуканец, чалавек без сумлення і сораму, ён хутка і так спрытна падкаціўся да пана, што стаў яго першым дарадчыкам. Праз некаторы час пан выгнаў старога аканома і паставіў на яго месца Халусту. Вось тады Халуста і параіў пану аддаць Барысевічаву валоку ў арэнду нейкаму Тодару Шымкевічу, старому Халуставаму знаёмаму. Так у Малінаўцы з'явіўся новы гаспадар, і прытым не абы-які. Тодар меў трох сыноў і дачку, якія ўмелі працаваць не горш за малінаўскіх хлопцаў і дзяўчат. Арэнда была падпісана на дзесяць гадоў. Аднак Тодар не прычакаў канца гэтага тэрміну.

Прабыўшы аканомам некалькі гадоў, Халуста ўбачыў, што кішэні яго не такія пустыя, як раней, а Барысевічава валока не толькі зраўнялася з малінаўскай зямлёй, але нават лепш пачала радзіць. У яго з'явілася новая думка. «Добра быць аканомам,— разважаў ён,— але ж аканом не пан, а толькі панскі папіхач... Ды хіба век аканомам будзеш! Не дагодзіш пану, дык і дасць каленам. Трэба мець уласную гаспадарку...» Так думаў Халуста, але гэта была толькі прадмова да яго мэты.

Тым часам Тодар Шымкевіч, спадзеючыся, што па-

сля першага тэрміну падпіша ўмову і на другі, а потым — калі не сам, то сыны — і на трэці, а к таму часу збяруцца грошы і валоку можна будзе купіць, прыклаў рукі не толькі да зямлі. Праз некаторы час замест старой Барысевічавай халупы ён паставіў новую хату, перасыпаў хлявы, гумно і пабудаваў свіран. Аканом Халуста паціраў рукі. «Ну і дурань! — захапляўся ён.— Ліха матары яго, які ён дурань!» Халуста тады часта наведваў Малінаўку і, седзячы ў Тодара за чаркай, гаварыў:

— Малайчына ты, пане Тодар! Уга! Зірні на гэтую задрыпаную малінаўскую шляхту! Хто яны перад табою! З лапцей, ліха матары іх, не вылазяць. А ты? Ты гаспадар!

Тодар пазглядаў на свае ногі, таксама абутыя ў лапці, і адказваў:

— Без лапцей у нас нельга, пане аканом. Ніяк нельга. На ржышчы ногі паколеш, на Волі ўсякага паскудства шмат: гадзюкі, жабы — ведама, балота, твань.

— Так то яно так, але ж ты хоць у свята калі апранешся, то цябе ад пана Крупскага не адрозніш. А яны ж — як жабракі, ліха матары іх! Галытва! У цябе і гарэлка добрая. Налі яшчэ па чарцы.

— Чаму ж не налью! Я і па дзве налью. А гарэлка, пане аканом, усюды добрая. У Арлоўскага бяру. Казённая.

Халуста рагатаў.

— У Арлоўскага не роўная, пане Тодар. Ён, акрамя казённай, рамязоўку трымае. Табе ён казённую дае, а гэтым шляхцюкам, ліха матары іх, рамязоўку.

Рамязоўкай звалася гарэлка ад прозвішча нейкага Рэмеза, які патаемна пабудаваў у лясах і балотах Любаншчыны цэлы бровар і забяспечваў гарэлкай усіх навакольных гандляроў. Пра гэты бровар ведалі мясцовыя ўлады, але маўчалі, бо Рэмез добра ім плаціў. Ён дайшоў да таго, што выкормліваў брагай цэлыя гурты валоў і статкамі адпраўляў іх на Урэчча і ў Слуцак. Вось на гэтую рамязоўку і намякаў Халуста. Тодар сам ведаў пра рамязоўку і маўчаў. А Халуста, ужо захмялеўшы, гаварыў:

— У тваім доме, пане Тодар, і піць прыемней. На стале, пане мой, кумпяк, кілбасы. А задрыпаны малі-

навец табе і гурка не паложыць. Ён табе і галоўку цыбулі пашкадуе. Ат, што казаць, ліха матары іх!

Халуста рагатаў.

— Хітры ты, пане Тодар. Ну, от праўду скажы: ашукваеш ты пана?

— Што вы, пане аканом! — спалохана гаварыў Тодар.— Дзе вы бачылі, каб ашукваць... Ды вы ж самі ведаеце...

— Хе-хе-хе! Ведаю я ці не, няма бяды. Хіба не праз мяне ты сядзіш на гэтай валоцы? Кожнаму чалавеку жыць трэба, а мы з табою не сёння знаёмыя. Думаеш, пан пабяднее, калі ты з яго шкуры тры валаскі адарвеш! Ліха матары яго! Цэлы будзе!

А сам у гэты час думаў: «Ты, дурань, ашуквай сабе і пана і хама, але мяне не ашукаеш і з маіх лап не вырвешся. Я толькі пальцам кіўну, дык з цябе пер'е паляціць!»

— Добры ты гаспадар, пане Тодар, але аднаго ў цябе не хапае.

— Чаго ў мяне не хапае, пане аканом?

— Саду ў цябе няма, пане Тодар. Якая гэта гаспадарка без саду? Наша старана не можа без іх.

— Пане аканом, будзе і сад! Вы нібы ўгадалі маю думку. От паглядзіце вясною!

Вясною і сапраўды Халуста ўбачыў на Барысевічавай сядзібе малады сад. Тодар прышчапіў болей за сотню пладовых дрэўцаў. А ўвосень, калі сабраў і абмалаціў збажыну, то вылецеў з Барысевічавай сядзібы, як затычка з піўной бочкі. На яго месцы сеў сам Халуста. І не арандатарам, а гаспадаром. У яго хапіла грошай, украдзеных у пана, каб купіць у таго ж самага пана яго зямлю.

Садам карыстацца яму не прыйшлося. Тодаравы сыны з карэннем выдралі яго і пасеклі.

Стаўшы гаспадаром у Малінаўцы, Халуста пасадзіў новы сад і пабудаваў кузню на шляху. У кузні працаваў сын Мікалай. Завознікаў хапала. Абслугоўваў не толькі Малінаўку і навакольныя вёскі, але і праезджых, якія на шляху не пераводзіліся. У таго шворан зломіцца, у таго лопне шына або трэсне падпалознік ці яшчэ што здарыцца, тут за цану не пастаіш. Гаспадарку вёў сам і старэйшы сын Юзік. Акрамя таго, Халуста трымаў круглы год парабка і служанку, а ў часе жніва і сенакосу наймаў сезонных работнікаў.

Аднак жылося не вельмі спакойна. Баяўся Тодаравых сыноў: з'явяцца ноччу і пусцяць дымам у неба ўсю гаспадарку. Чаго добрага, і сам не паспееш з хаты выскачыць. Халуста аж хмыкаў, думаючы пра гэта: «Ліха матары вашай!» Аж дрыжыкі бралі, калі ўспамінаў, як на дарозе са Слуцка, акурат у Гнілой Дуброве, выскачылі трое, вялізныя, як дубы. Адзін схапіў за аброць каня, а двое кінуліся да воза. Думаў, што мо разбойнікі якія з-пад Слуцка грошы хочуць адабраць, а ў кішэні такі і было сотні тры. А яны без слоў нацягнулі бурку ад пят на галаву і пачалі таўчы. Мабыць, ланцугамі білі, бо вельмі ж балела...

Андрэй праведаў гэтую Халуставу прыгоду. Гэта ён і падвучыў Тодаравых хлопцаў хоць такім спосабам адпомсціць Халусту. Пасля яны расказвалі, што Халуста роў, як недарэзаны парсюк, потым змогся і толькі стагнаў, а калі яны вырашылі, што ўжо хопіць, ён заплакаў і сказаў:

— Дзякуй жа вам, хлопчыкі, што хоць жывога пусцілі.

Пасля такога пачастунку ён не мог ні сесці, ні легчы і аж тры месяцы не вылазіў з хаты.

І гэты чалавек можа стаць Андрэевым сватам, а яго сын шваграм! І сястра будзе жыць у гэтай праклятай сям'і! Было пра што падумаць. Аднак думкі яго перабіў Тамаш.

— Слухай, Андрэй,— сказаў ён, падышоўшы.— Чаго ты ляжыш? Не выспаўся, ці што? Нешта ты апошнія дні як недапечаны. Што з табою, скажы.

— Хіба ты не ведаеш, Тамаш? Здагадацца не можаш? Бацька мой пры смерці, ты разумееш гэта?

— Не выдумляй.

— Не выдумляю. Марцін у першы ж дзень сказаў, як толькі бацька захварэў... Ды хіба я сам не бачу. Дагарае, як свечка...

Тамаш памаўчаў.

— Дык што ж ты — маленькі сіротка, той, што ішоў па вуліцы і дрыжаў ад холаду,— помніш, мы ў школе вучылі такі верш? У цябе аднаго памірае бацька, а ў астатніх жывуць вечна? Слухаць не хачу.

Гэтыя словы, якія простыя ні былі, прымірылі Андрэя са смерцю бацькі як з нечым непазбежным, што абавязкова прыйдзе, чаго не мінеш.

## РАЗДЗЕЛ ЧАЦВЁРТЫ

Андрэй вярнуўся з поля перад самым заходам сонца. Алена асталася дажынаць гоні ячменю. Набліжалася сяўба жыта, і Андрэй ад клопатаў і турбот не знаходзіў сабе месца. Без бацькавай дапамогі ён адчуваў сябе як без рук. Бацька не мог ускінуць на калёсы гной, але ён ведаў, дзе яго трэба пакласці больш, а дзе менш. А сяўба. Андрэй прабаваў і сам сеяць, але гэта і сапраўды была толькі проба. Простая работа, але ж трэба налаўчыцца крок за крокам рассяваць жменяй насенне так, каб не было ў адным месцы густа, а ў другім пуста. Цяпер насенне. Каб бацька быў дужы, то за гэтыя дні памаленьку намалаціў бы жыта на ўсю сяўбу, а цяпер трэба патраціць не менш за тры дні самому. І самае галоўнае, чаго Андрэй баяўся, аб чым не хацеў думаць,— неабходна было наняць работніка хоць бы да канца малацьбы. Нельга аднаму ўправіцца і сена перавезці, і збожжа змалаціць. З такімі невясёлымі думкамі Андрэй увайшоў у хату.

Бацька спаў. Маці зірнула ў акно і сказала:

— Нехта да нас заехаў.

Андрэй выйшаў на двор. Каля ганка стаяў вялізны чорны конь, запрэжаны ў вялізны воз, закладзены скурамі, кудзеляй, воўнай і скрынкамі з таварам. Пры возе стаяў вялізны чорнабароды яўрэй. Андрэй адразу пазнаў яго. Гэта быў Аўрам Выпустак. Выпусткам Аўрама празвалі за тое, што, ездзячы па вёсках з розным дробным таварам, ён скупліваў гадавалых цялят, якіх на Случчыне завуць выпусткамі. Звычайна ён у кожнай хаце пытаў:

— Можа маеце выпустка на продаж?

Аўрамаў гандаль не абмяжоўваўся выпусткамі. Увосень ён купляў бараноў, авец, кудзелю, анучы, старызну. Калі Аўрам трапляў у Малінаўку, то начаваў заўсёды ў старога Юстыня. Заехаў і цяпер.

— Добры вечар, Андрэй! — гукнуў Аўрам ад воза.

— Добры вечар, Аўрам!

— А я да старога Юстыня як дадому заехаў,— сказаў ён, падыходзячы да Андрэя.

— Заязджайце, Аўрам... Вядзіце каня ў гумно, там і воз пастаўце і пераначуеце... Бацька захварэў.

— Як?! Стары Юстынь захварэў?

— Хворы.

— І даўно?

— Даўно, Аўрам.

— То мо я да Яна Сташэвіча заеду...— ён падумаў.— Не! Заеду, Андрэй, да вас. Я перасплю ў гумне. Мне трэба пабачыць старога Юстыня. Нашы бацькі сябравалі, і мне ён таксама добры сябар...

Распрогшы каня, Аўрам пусціў яго на прыгуменне пакачацца, потым выняў з воза мех з канюшынай і кінуў на зямлю. Гэта азначала, што Аўрам мае свой пошар каню. Гэты «пошар» у мяху ніколі не мяняўся, бо звычайна каня кармілі тыя гаспадары, дзе Аўрам начаваў.

Воз зацягнулі ў гумно і пайшлі ў хату.

— Добры вечар! — сказаў Аўрам, пераступіўшы парог.— Пане Юстынь, як вы маецеся? — адразу звярнуўся ён да старога.

— Хто гэта?.. Ты, Аўрам? — пазнаў стары.— Даўно цябе не было. Заехаў да мяне... апошні раз... Да сына заязджаць будзеш...

— Ай, нашто пра гэта гаварыць! — запярэчыў Аўрам.— Вы яшчэ ўстанеце, пане Юстынь! Уга! Мы яшчэ і па чарцы вып'ем.

— І от не ў пару я захварэў... Не ў пару прыходзіць смерць. Каб пасля сяўбы, спакайней мне было б.

— Пакіньце вы, пане Юстынь! Нашто паміраць! Пажывём яшчэ! Слухайце, пане Юстынь! У мяне ёсць цукар! Вам трэба выпіць некалькі шклянак гарачага чаю, і вы адразу станеце на ногі.

— Цукар і ў нас ёсць,— сказала старая Аксеня.

— Што ваш цукар! — ледзь не крыкнуў Аўрам.— Мой цукар не такі. Мой цукар лепшы! Мой цукар — лякарства! От які мой цукар! — ён падхапіўся з месца і памчаўся ў гумно па свой «лепшы» цукар.

Позна ўвечары даведацца старога Юстыня зайшоў яго пляменнік Ян Сташэвіч, Тамашоў бацька. Прыходзіў ён і раней, але найбольш днём. Гэта быў чалавек гадоў пад сорак пяць, ніжэй сярэдняга росту, шырокі ў плячах, дужы і суровы. Гаварыў ён мала і не любіў тых, хто многа гаворыць. Доўга сядзелі каля хворага, якому сёння было горш. Зрэдку перакідваліся словамі. Ян пайшоў дадому ў поўнач. Андрэй правёў яго да варот. Тут Ян спыніўся.

— Андрэй, твой бацька не жылец.

— Сам ведаю, Ян...

— Не спі сёння. Я прыдрамну крыху і прыйду зноў.

У Андрэя пацямнела ў вачах.

— Дык што... хіба ён сёння?

— Не сёння, дык заўтра. Аляксандры паведаміў?

— Не.

— Заўтра тэлеграму адбі. Прыедзе ці не, а паведаміць ты павінен.

— Добра.

Аляксандра была Андрэева сястра, больш чым удвая старэйшая за яго. Яна выйшла замуж, калі Андрэя яшчэ на свеце не было. Замуж яе быў далёкі — аж за Глускам, на Бабруйшчыне, вёрст за дзевяноста ад Малінаўкі.

Марудна цягнулася гэтая памятная Андрэю ноч. Бацька не то спаў, не то быў без памяці, але ляжаў неспакойна. Андрэй адзін сядзеў пры ім.

Пасядзеўшы з гадзіну, Андрэй выйшаў на двор. Цёмная жніўеньская ноч стаяла над засценкам. Толькі Млечны Шлях, як срэбная рака, цёк на цёмным небе, усыпаным зоркамі. На дварэ было цёмна, душна і ціха да звону ў вушах. Раптам Андрэй уздрыгнуў. Здалося, што яго клічуць. Проста за спіной ён пачуў вокліч:

— Андрэй!

Упершыню за ўсё сваё жыццё ён адчуў страх. Здавалася, нехта дужымі рукамі схапіў яго і сціснуў так, што стала цяжка дыхаць. Ён павярнуўся і пайшоў у хату.

Бацька сядзеў на ложку, як зусім здаровы чалавек, які толькі што прачнуўся і збіраўся ўставаць.

— Дзе ты быў? — запытаўся ён цвёрдым, зусім не хворым голасам.

— Ненадоўга на двор выйшаў, тата.

— Сядзь, сынок.

— А вы ляжце, тата.

— Не, я пасяджу.

Андрэй, напэўна, спалохаўся б, убачыўшы бацьку ў такім незвычайным стане, бо ў апошнія дні яго падымалі, каб напаіць гарачым чаем, але пасля Янавых слоў ён нават не здзівіўся, што бацька сядзіць, як здаровы.

— Слухай мяне, бо я апошні раз гавару з табою...

— Тата...

— Пачакай. Перш за ўсё гаспадарку глядзі. Піль-

нуйся, каб у цябе ўсё ў пару было заворана, заскароджана, засеяна, у пару зжата і ў гумно звезена. Змалаці ўсё ў пару, каб мышы не елі. Не бойся работы, бо яна сілы не адбірае, а дадае. Тады ўсё благое забудзеш. Шмат пра цябе гаварылі, і нялёгка мне гэта слухаць было. Але я ведаў, што ты не са злосці гэта робіш, што ты не злодзей і не хлус. Маўчаў, бо ведаў, што прыйдзе час — перакіпіш і супакоішся. Калі чаго не будзеш ведаць, пытайся ў Яна і парады яго слухай. Ён справядлівы чалавек, і кроў у нас адна, ён цябе не падвядзе. Я ўжо яму казаў. Не звязвайся з Халустам, мінай Нарбутовіча і Мартыневіча, гэта круцялі і шэльмы. Барані божа, каб ты аддаў Алену ў Халуставу хату. На катаргу ты аддасі яе туды... Будзь ёй бацькам за мяне і памятай, што бацька, калі ён чалавек, дзіця сваё на здзекі не аддасць. Жаніцца будзеш, то шукай не пасагу, а жонкі. Я ведаю, што ты пра Асіеўшчанку думаеш. Не ведаю, можа з яе будзе і добрая жонка. А Асіеўскі хоць і будзе тваім цесцем, але бацькам не будзе. Бацькі ён табе не замяніць.

Стары змоўк, падумаў і гэтак жа цвёрда загаварыў далей.

— Чорную кабылу пасля сяўбы адразу прадай, бо старая. Сена з Волі вазіць купі канька. Скажы Аўраму Выпустку, ён табе знойдзе. Гэты Аўрам добры чалавек, я яшчэ з бацькам яго інтэрас меў, і ніколі ён мяне не ашукваў. У даўгі не лезь, бо не вылезеш. Я паміраю і нікому ні капейкі не вінаваты... Добра было б, каб Аляксандра прыехала, але дзе ёй — блізкі свет ехаць, ды такой парой. Ты скажы ёй, няхай паможа Алену замуж аддаць. Такі ж сястра, хоць ужо і адрэзаны кавалак... У каморы, за матчыным куфрам, невялікі куфэрак ляжыць. Я яго анучамі прыкідаў ды старым рыззём. Дастанеш пасля маёй смерці. Там грошы. Трыста рублёў асобна ляжаць. Гэта Аленін пасаг. Па грыўні збіраў. Не бяры з іх ні рубля, бо лёгка ўзяць, а далажыць нялёгка. Астатнія — тваё. Не траць іх на абышто, толькі на гаспадарку. От і коніка купіш, бо чорная скора ногі выпрастае. І яшчэ там дзесятка залатая ёсць, то яе да вяселля свайго не траць. Жаніцца будзеш — жонцы сваёй падаруй, як ад мяне. Тады і бацьку ўспомніш, і словы мае, тады і я нібы на тваім вяселлі буду... Хацеў я да таго часу дажыць, ды не ўдалося...

Андрэй плакаў і не адчуваў гэтага. Слёзы ліліся па

яго шчоках, ён не заўважаў іх, не ведаў, што плача, толькі адчуваў, што ў грудзях стаіць нешта цвёрдае, цяжкае, пякучае, яно рвецца вонкі, падкочваецца да горла, сціскае яго. Плакаў першы раз у жыцці, бо нават у маленстве, калі біўся з аднагодкамі да крыві, калі маці лупцавала без жалю,— і тады не плакаў.

— І апошняе: не крыўдзі маці. Хапіла ёй за жыццё па вушы. Я не крыўдзіў. Жыццё нас карала ды крыўдзіла. Вас дзевяцера было ў нас, а асталося трое... Нялёгка нам было... І Яна слухай, пакуль сам на ногі не станеш, не адчуеш сваёй сілы, пакуль не будзеш упэўнены, што не памылішся... А цяпер дай я цябе перахрышчу.

Андрэй нахіліўся над бацькам. Стары перахрысціў яго тры разы, абняў за шыю і пацалаваў. Потым адкінуўся на падушку і сказаў:

— Як мне цяпер лёгка і добра.— Але голас яго стаў слабы і ледзь чутны.— У шафе, сынок, матчына настойка на вішнях стаіць... Улі мне лыжачку.

Андрэй прынёс бутэльку, наліў лыжку і падаў бацьку. Той выпіў і прашаптаў:

— Добра. Я табе хачу сказаць яшчэ... Не пі. Перад смерцю от так вып'еш.

Бацька заснуў. Дыханне яго было слабое, але роўнае і спакойнае. Хутка прыйшоў Ян, прачнулася маці, але Андрэй не мог легчы — ведаў, што сну не будзе.

У той дзень ён не пайшоў у поле. Сядзеў з Янам каля бацькі. Той усё спаў, і толькі пад поўдзень Ян крануўся яго лба і сказаў:

— Усё, Андрэй. Бацькі ўжо няма.

Ён выняў з-за пазухі свечку, запаліў яе і ўлажыў у мёртвую руку старога Юстыня.

У хату пачалі збірацца суседзі. Жанчыны плакалі, мужчыны спачувалі, толькі ў Андрэя не было слёз. Ён выплакаў ноччу ўсё, калі развітваўся з бацькам.

Пахавалі бацьку назаўтра падвечар. Андрэй прывёз папа, таго самага, у якога спавядаўся, Сулкоўскага, за адным прыхапіў і дзяка. За трунай ішоў увесь засценак. Могілкі былі каля самых Жывіцаў і належалі абодвум засценкам. Калі прыйшлі на могілкі, там ужо чакаў цэлы натоўп жывіцкіх мужчын і жанчын. Сярод іх быў і Лукаш Асіеўскі, Ганнін бацька. Ён стаяў уперадзе, высокі і важны, і нібы свяціў усім сваёй вялізнай лысінай.

«Цесцем будзе, а бацьку ён табе не замяніць...» — успомніў Андрэй бацькавы словы.

Нават цяпер, калі на труну ўпалі першыя камякі зямлі, Андрэй не мог заплакаць. Ён пачуў злы жаночы шэпт:

— От шыбенік! Бацьку хавае — і хоць бы для людзей слязу пусціў.

Пазнаў па голасе Міхаліну, жонку Лявона Нарбутовіча.

— Ён, маладзіца, ужо даўно свае слёзы выплакаў. Не бачыш хіба, які ў яго твар. У яго ўсярэдзіне можа немаведама што робіцца.

Зноў пазнаў жонку Сымона Ашакевіча, Аўдолю. «Значыць, ёсць на свеце людзі, якія разумеюць, спачуваюць...»

## РАЗДЗЕЛ ПЯТЫ

Андрэй толькі тады вальней дыхнуў, калі кончыў сеяць жыта. Хапіла мазалёў за гэты час і самому і Алене. Не паспела бедная дзяўчына павесіць пад страху серп, як прыйшлося ўзяць у рукі сахор — накідаць гной, растрасаць яго на полі. Рукі загрубелі і парэпаліся. Плакала потай: «Каб бацька жыў, ці было б так...» Андрэй ведаў яе думкі, але не зважаў на іх. Яму было яшчэ цяжэй. Спаў па чатыры гадзіны ў суткі. Добра, што Тамаш памог намалаціць насення, а Ян — сеяць. Праўда, ён засеяў толькі адну ніву, другую прымусіў сеяць самога Андрэя.

— Кожны год я табе сеяць не буду,— сказаў ён.— Гаспадар павінен умець усё. Вучыся.

Андрэй сеяў, а Ян, прыдзірлівы і злы, ішоў услед і камандаваў мудрэй, чым бацька.

— Не так! — крычаў ён.— Спыніся! Не ў такт рукой махнуў!

Андрэй цярпеў-цярпеў, нарэшце ўзарваўся.

— Ідзі ты к чорту! — зароў ён дзікім голасам, павярнуўшыся да Яна.

— Што?! — здзіўлена запытаў той.— Што ты сказаў, абармот? Ты мо і з маткай так гаворыш? От здыму папругу ды як усыплю, то навучышся і сеяць і са старэйшымі гаварыць.

У Андрэя нават злосць прайшла пасля гэтых слоў.

Ён не мог уявіць, як бы гэта Ян лупцаваў яго папружкай.

Андрэй ужо думаў, што з яго ніколі не выйдзе сявец, як раптам адчуў, што ногі яго ступаюць у такт руцэ, а рука сыпле зярняты ў такт крокам. Аж стала неяк лёгка, прыемна, і, калі апусцела сяўня, ён пашкадаваў, што на некаторы час перарвецца гэты цікавы занятак. Бягом рынуўся да мяха, насыпаў у сяўню жыта і з ахвотай пачаў сеяць зноў. Ён забыў пра Яна і, выйшаўшы ў канец нівы, засмяяўся ад радасці, першы раз пасля смерці бацькі. Здзівіўся, калі ўбачыў каля сябе Яна. Значыць, ён увесь час ішоў за ім.

— Ну што, навучыўся? — запытаў Ян.— А ён тут мне... Не пакрычыш, дык не навучыш, а некатораму трэба і па карку даць. Я думаў — і ты без гэтага не абыдзешся. Але мы, Сташэвічы, такія...

Ён не дагаварыў якія.

— Даруй, братка Ян.

— А што ж больш рабіць! Дурням заўсёды даруюць, бо што з іх возьмеш. А Маргі сам засееш.

— Засею, але ты, Ян, падыдзеш паглядзіш.

Ян быў рад, што гэты непакора не можа без яго абысціся, і адказаў:

— Ну, дык і я ж там буду.

Пасля сяўбы Андрэй меркаваў завесці чорную кабылу ў валаснoе мястэчка Старочын і прадаць там. Чакаў серады, бо конскі кірмаш быў якраз у гэты дзень.

У сераду раніцай ён зайшоў у хлеў з вязкай канюшыны — трэба было пакарміць коней перад дарогай. Гняды заржаў, пачуўшы гаспадара, і пацягнуўся мызай да канюшыны, а чорная пластом ляжала сярод хлява і не ўзняла галавы. Андрэй кінуў вязку і паспрабаваў узагнаць яе з месца. Яна павярнула галаву і зірнула сумнымі слязлівымі вачыма. І Андрэю здалося, што яна хоча сказаць: «Куды ты мяне гоніш? Ты і так мяне заездзіў. Скажы дзякуй, што ў час сяўбы не звалілася». Прачытаўшы гэты дакор, ён зразумеў, што нікуды сёння не паедзе. Чорная здыхае.

Не заходзячы ў хату, пайшоў да Яна. Той снедаў.

— Не ўстае, кажаш? — перапытаў Ян.— Значыць, канцы ёй прыйшлі. Ідзі пакліч каго-небудзь, і мы з Тамашом прыйдзем. Можа як падымем. Калі на нагах стаіць, то хоць з хлява выведзем, а то заваліцца, цягні

тады падлу з хлява. А можа і ў поле як заклыпае. Добра было б, а то прыйдзецца на калёсы падымаць ды везці на конскі могільнік.

«Да каго тут пайсці?» — думаў Андрэй, выйшаўшы з хаты. А думаць не было часу, трэба было клікаць людзей, пакуль кабыла яшчэ не здохла. Сустрэў Нічыпара Мартыневіча, які, унурыўшыся, як свіння, ішоў па вуліцы і шаптаў пад нос малітву. «Не, гэтага не пазаву...»

Падыходзячы да двара Сымона Ашакевіча, пачуў голас Яўхіма Халусты, нахабны і адрывісты, як сабачы брэх.

— Ліха матары тваёй! — крычаў Халуста.— Што ж ты робіш? Ты ж улез у маю сядзібу! Ты ж, шэльма, паглядзі, куды ты пазаганяў гэтыя калы! У маю зямлю!

— Не, я на вашу зямлю не лезу,— спакойна адказаў Сымон.— Я гараджу па мяжы.

— Па мяжы? Дзе тая мяжа! Ты за мяжу залез!

«Паклічу Сымона»,— падумаў Андрэй і ўвайшоў у яго двор. Сымон гарадзіў плот ад Халуставага боку. Ён на сваім гародзе часаў калы, а на сваім двары вар'яцеў і падскокваў, сціснуўшы кулакі, Яўхім Халуста.

— Я да ўрадніка паеду,— крычаў ён, не зважаючы на Андрэя.— Я, ліха матары тваёй, сведак паклічу, не такіх, як ты, галадранцаў.— Тут ён змераў вачыма Андрэя так, нібы хацеў паказаць, што і ён належыць да галадранцаў.— Яны табе пакажуць, дзе мяжа!

— Я і без іх ведаю, дзе яна.

— Ты ж паўаршына маёй сядзібы адабраў. Бачыш хлеў?

— Бачу.

— Дык ты ж паўаршына майго хлява на сваю сядзібу забіраеш.

— Не, Яўхім Халуста. Гэта вы свой хлеў на паўаршына ў маю сядзібу ўвапхнулі. Толькі ён не мера. Гэты хлеў вы будавалі. А вунь бачыце свіран?

— Чаму я яго не бачу! Хіба я сляпы, каб не бачыць свайго свірна!

— Ну, дык яго будаваў Тодар Шымкевіч, а ён то ведаў, дзе мяжа. Мой плот акурат сыдзецца са сцяною таго свірна.

— Што ты мне Шымкевічам тыкаеш! — закрычаў

Халуста, налятаючы на Сымона, але той разагнуўся, і Халуста спыніўся насупраць яго са скрыўленым ад лютасці тварам.

— Асцярожней, сусед,— сказаў Сымон.— У мяне сякера ў руках.

— А-а-а! Дык ты мне сякерай паграджаеш! У суд падам! Во, і сведка ёсць! Сташэвіч, будзь за сведку! Ён хацеў мяне сякерай засячы!

— Не, я не буду тваім сведкам, Халуста, бо ніхто табе не паграджаў,— адказаў Андрэй, які ў гэты час нават забыў, чаго прыйшоў да Сымона. Ён толькі адчуваў, што трапіў у непрыемную гісторыю.

— А-а! — закрычаў Халуста.— Дык вы заадно, ліха матары вашай!

Сымон уваткнуў сякеру ў калоду, на якой часаў калы, і запытаў:

— Ты да мяне, Андрэй?

— Да цябе, Сымон... Хадзем, памажы мне кабылу падняць.

— А што з ёю?

— Ведама што, здыхаць хоча.

— То пайшлі.

— От які сусед мне папаўся, Андрэй,— гаварыў па дарозе Сымон.— Свінушнік пабудаваў, дык на паўаршына ў маю сядзібу ўлез. А якая ў мяне сядзіба! Шостая частка яго. Думаю, выгараджуся ад гіцля, а то ён і глыбей палезе, дык ён бачыш што! Кажа, што яго зямлю заняў. Тры яблынькі маю. Такі ж і ў мяне дзеці ёсць, няхай свой яблык з'ядуць, чым на людскіх дзяцей глядзець з зайздрасцю. А яблык такі і было ў гэтым годзе. То думаеш што! Ужо ні аднаго няма. Жывасілам паадрываў, разам з галлём.

У Андрэевым двары каля конскага хлява стаялі Ян з Тамашом і Ладымер Заяц. «Тамаш паклікаў»,— здагадаўся Андрэй.

Чорную сяк-так паднялі на ногі. Цяжка было ёй стаяць. Мужчыны доўга падтрымлівалі яе на вяроўках. Андрэй прынёс з хаты цёплае пойла, забеленае мукой. Кабыла ў ім толькі памачыла мызу. Яе памаленьку вывелі на двор. Тут чорная крыху падбадзёрылася. Нават страсянулася.

— Цяпер пільнаваць трэба, каб не лягла,— папярэдзіў Ян.— А то як ляжа, дык больш і не падымецца.

Сымон адвёў Андрэя ўбок.

— Што ты будзеш з ёю рабіць, Андрэй? — запытаў ён, чырванеючы і хаваючы вочы.

— Выведу на крыжавыя дарогі, няхай здыхае.

— І шкуры здымаць не будзеш?

— Я? — здзівіўся Андрэй.— Што ты, Сымон!

— Дык ведаеш... Можа б ты яе мне аддаў?..

— Нашто табе падла?

— Эх, Андрэй!.. Ты здзівіўся, калі я запытаў, ці будзеш шкуру здымаць... А я... я садраў бы з яе шкуру... Нейкі рубель і быў бы. Нашто яму прападаць... Усё роўна ваўкі ды сабакі расцягаюць... А мне гэты рубель...

— А людзі, Сымон...

— Што ўжо мне людзі, Андрэй!.. Кавалка хлеба мне ніхто дарам не дасць... А што каналупам празавуць, дык невялікая бяда... Мне дзяцей карміць трэба... А лякарствы! Хвароба як убілася ў хату, дык і не вылазіць...

— Бяры, Сымон.

— Аброць я табе прынясу.

Ян, Тамаш і Ладымер тым часам сядзелі на прызбе і размаўлялі.

Калі Сымон павёў чорную з двара, Ян паглядзеў яму ўслед і папракнуў Андрэя:

— Сам не мог завесці, людзей наймаеш. Рана панам стаў.

— Я яго не наймаў. Ён акурат у Маргі ідзе. Давай, кажа, завяду.

— Усё роўна! Твая кабыла. Ці мала яна табе паслужыла!

— Таму і шкада, Ян, весці яе на могільнік самому,— зманіў Андрэй.

— Ну, даволі,— прамовіў Ян.— Няма калі гаворку разводзіць. Запрагай каня,— звярнуўся ён да Андрэя.— У Старочын паедзем.

— І ты са мной, Ян! — узрадаваўся Андрэй.

— Вядома, паеду, бо ты там замест каня авечку купіш. Збірайся, а я тым часам схаджу торбачку вазьму...

Дамоў ехалі прыцемкам. Ноч надыходзіла цёмная, маўклівая, па-асенняму сумная і непрыветная. Здавалася, што кожны тэлеграфны слуп пры шляху гудзе бесперапынна і нудна, клічучы вятры і непагадзь, асеннюю слоту і холад.

Ззаду, прывязаная да воза, ішла кабылка каштанавай масці. Кабылка была нішто сабе, толькі худаватая. Ян агледзеў яе мо сто разоў, ледзь сам не ўлез у рот, каб добра разгледзець зубы. Купілі выгадна, хоць і таргаваліся доўга. Важна было тое, што вясной яна павінна была ажарабіцца. Выпілі, вядома, барыш. Захмялелы Ян стаў добры і гаваркі.

— Ты казаў: купім каня. А скажы, што той конь! У цябе і так ёсць конь. Конь канём і будзе. А кабыла — зусім другая справа. Яна табе яшчэ гадоў пяцьшэсць паслужыць, а за гэты час двое-трое жарабят прывядзе. От табе і коні свайго заводу. Не вельмі добра от так па кірмашах ездзіць, бо, бывае, такую падлу купіш, што лепш бы тыя грошы на сметнік выкінуў.

Андрэй быў згодны з Янам. Але ён думаў пра другое. Ён думаў аб тым, што грошы, якія пакінуў бацька, падышлі к канцу. За чорную ён не ўзяў нічога, а за каштанавую аддаў амаль усе.

## РАЗДЗЕЛ ШОСТЫ

Неяк у нядзелю Андрэй памкнуўся быў схадзіць да Тамаша, распытаць пра сёе-тое, а галоўнае — пра Ганну. Пасля Адэлі Арлоўскай — першага кахання — неяк апусцела яго сэрца і нікога не пускала. От і Ганна: два гады стаіць яна каля сэрца, але не ў сэрцы, не! А хіба можна параўнаць Ганну з Адэляй! Ні ў якім разе! Далёка Адэлі да Ганны, хоць яна і ў гімназіі вучылася. Таму і не хацеў Андрэй так ні за грош пакідаць гэтую дзяўчыну. Трывожыла яго і тое, што да Ганны ездзяць далёкія жаніхі, багатыя шляхцюкі, і стары Асіеўскі не запытае ў дачкі, пойдзе яна замуж ці не, аддасць за каго захоча. Андрэя ж ён наогул не любіць і менш за ўсё думае пра яго як пра будучага зяця.

Ад таго часу, як захварэў бацька, і пасля яго смерці Андрэй не хадзіў ні на вячоркі, ні на вечарынкі. Не толькі жалоба была таму прычынай. Штодзённыя клопаты не давалі спакою. Адзін пройдзе, другі заступае яго месца. Добра, што кабыла папалася ладная. Ян умее выбіраць коней! Андрэй назваў кабылу Каштанкай. Калі запрог яе ў плуг разам з Гнядым, то яны спачатку абнюхаліся, потым пагрызліся, але хутка па-

мірыліся. Цяпер так ідуць у пары, нібы век разам хадзілі.

Андрэй ужо ўзяўся за клямку, калі маці спыніла яго.

— Куды ты, Андрэй? — спытала яна.

— Да Тамаша.

— Пачакай, сынок... Пагаварыць з табою хачу...— сказала яна, і відаць было, што гаворка, якую яна хоча распачаць, не вельмі прыемная яе сэрцу.

Андрэй вярнуўся, павесіў на цвік шапку і сеў.

— Я ведаю, мама, пра каго вы хочаце гаварыць. Пра Алену.

Маці вінавата кіўнула.

— Чаго Алена хоча?

— Яна нічога не хоча, сынок... Яна кажа, што цяжка ёй на мужчынскай рабоце... Што пасля смерці бацькі яна стала як парабчанка ў бацькавай гаспадарцы.

— От як! Значыць, яна хоча быць паненкай. Але ж нам маёнткаў бацька не пакінуў.

— Ды не, сынок...

— А якую мужчынскую работу яна робіць? Памагла мне перад сяўбой папар паскародзіць, жыта забаранаваць. А я не жаў разам з ёю, не рваў лён, не цёр той лён? Кожны год. Я ночы не спаў, насенне малаціў, а ўдзень за плугам ад раніцы да вечара. Конь і той ноччу адпачывае.

— Так то яно так, сынок...

— Не ў рабоце, мама, справа, як я бачу. Чаго яшчэ Алена хоча?

— Яна нічога не хоча, сынок... Яна толькі кажа, што бацька ёй нічога не пакінуў і яна зусім голая...

Андрэя ажно скаланула. Яму не вераць маці і сястра. Ён гатовы быў узарвацца, як тады перад Янам, але стрымаўся. Маці-то папраўдзе ні ў чым не вінавата, яна толькі пераказвае доччыны словы.

— Тата, калі паміраў, то пакінуў усё мне,— сказаў Андрэй як мага спакайней.— Ён мне верыў. Дык чаму ж вы — маці і сястра — не верыце мне? Я цяпер гаспадар у хаце, і калі і зраблю што-небудзь не так, як наказаў мне тата, то ён з магілы ўстане і прыйдзе патрабаваць ад мяне адказу.

Андрэй выйшаў у камору і прынёс скрутак, загорнуты ў кавалак палатна. Разгарнуўшы яго, паказаў маці.

— Гэта Аленін пасаг. Трыста рублёў. Тата не забыў пра яе. Ён усё жыццё збіраў гэтыя грошы, бярог іх і даручыў берагчы мне. Бо ён мне верыў! Але сястра мне не верыць. Я таксама не веру ёй. Не магу верыць! Таму беражыце гэтыя грошы вы.

— Сынок ты мой! — старая Аксеня заплакала.— Дзіцятка маё, хіба я табе не веру? Не вазьму я іх... Пакладзі іх там, дзе былі...

— Не, мама, вазьміце! Я ведаю, што дачка заўсёды бліжэй да матчынага сэрца, чым сын. Няхай яны будуць у вас. Пакажыце іх Алене. І не забудзьце сказаць, што гэты пасаг не для Грома! Чуеце, не для Грома!

Ён надзеў шапку і шпарка выйшаў з хаты. У галаве стаяла нейкая імгла. Прыкра і пагана было на душы. Яму не вераць. Ён стаў ворагам сваёй сястры і маці!.. За яго плячыма шэпчуцца, выдумваюць брудныя падазрэнні. І хто? Свае родныя, самыя блізкія. Праз пасаг, праз праклятыя грошы. Ніколі не думаў, што так будзе, што так можа быць. Значыць, можа! Грошы ўсё зробяць! Праз іх развальваюцца сем'і. Што, каб нейкая бяда прымусіла яго крануць гэтыя няшчасныя грошы. А хіба не можа быць такой бяды! Пажар або хвароба! Страшна падумаць... Пасаг! Сястра прыкончыла б яго за гэты пасаг.

Андрэй успомніў бацьку і да болю ў душы адчуў, якую цяжкую страту панёс. Бацька! Ціхі і маўклівы ён быў у сям'і, але ці пасмелі б яны так з ім гаварыць! Нават думаць пра такое не пасмелі б...

На двары стаяў сонечны дзень. У паветры плыло і плыло павуцінне. Яно краталася стрэх, галін, платоў і павісала на іх белымі кроснамі. Удалечыні, ахутаны ў смугу, віднеўся Маргоўскі лес, і здаваўся ён нейкім далёкім, нібы нарысаваным. І хоць свяціла сонца і прыветнае было яснае неба, але не было ў прыродзе той радасці, той жыццёвай прагі, якая бывае ранняй вясной. Толькі сады яшчэ радавалі позірк. Між густога лісця віселі жоўтыя антонаўкі і зялёныя бэры.

Андрэю не хацелася ісці па вуліцы, адказваць на запытанні цікаўных суседзяў: куды ты ідзеш, чаго, чаму? Паўгадзіны назад ён сам не ведаў, куды яму прыйдзецца ісці, а цяпер думаў, што пра гэта ведаюць усе. Так яно па сутнасці і было. Усе засцянкоўцы ведалі, што яму патрэбен парабак. На паўвалокі аднаго мужчыны-работніка было мала. Андрэй накіраваўся на

прыгуменне, выйшаў на канец сядзібы і пакрочыў уздоўж платоў па малаезджанай дарозе.

На вуліцы ў Чыжэвічах — не то што ў Малінаўцы — было людна і ажыўлена. Тут людзі не хаваліся ў хатах адзін ад аднаго. Малінавец калі і выходзіў у нядзелю на вуліцу, то стаяў каля свайго двара. Рэдка было, што збіраліся двое або трое. Гаварылі стрымана, без смеху і жартаў. У Чыжэвічах было наадварот. Тут мужчыны стаялі гуртам, гаварылі моцна, з вострымі слоўцамі, з жартам і смехам.

Андрэю не было калі спыняцца, ён накіраваўся проста да Марціна Крываблоцкага. Пасля таго як прывёз яго да хворага бацькі, адчуў да гэтага чалавека нейкую даверлівасць. Сёння ішоў да яго параіцца. На вуліцы сустрэў Марцінавага брата Пракопа, запытаў, ці дома Марцін.

— Дома,— адказаў той.— Чытае «Ведамасці».

Марцін сапраўды быў у хаце адзін. У вайсковай гімнасцёрцы, акуратна падстрыжаны, чыста паголены, ён сядзеў за сталом і чытаў газету.

Калі Андрэй павітаўся, Марцін зірнуў на яго з цікаўнасцю.

— У цябе зноў нейкая хвароба, Андрэй? Маці?

— Не, Марцін. Я прыйшоў да цябе параіцца...

— Гэта ўжо лепш, хоць я і не ведаю, якая ў цябе справа. Не вельмі, браце, прыемна фельчару або доктару часта бываць у адной хаце.

Андрэю не хацелася адразу гаварыць, чаго ён прыйшоў. Ён не ведаў, з чаго пачаць размову, і запытаў:

— Што новага на свеце, Марцін?

— Што новага? Падобна, братка, на тое, што вайна будзе, каб яна згарэла... Але табе што! Ты льготнік, а мне прыйдзецца зноў ісці... Надакучыла. Аж падумаць страшна. Прывык ужо дома. Як успомню Кітай у 1900 годзе — валасы дыбам становяцца. Ці даўно было — тры гады назад...

— Значыць, зноў з Кітаем вайна?

— Нічога ты не ведаеш, Андрэй,— з жалем прамовіў Марцін.— Ваша Малінаўка, не раўнуючы, як балота. Ты ж разумны чалавек, а малінавец ад галавы да пят. Нічым не цікавішся, акрамя сваёй зямлі. Захраслі ў гнаі ды гразі. Ты ж вучыўся ў народным?

— Кончыў, Марцін, і вучыўся добра.

— З таго часу за кнігу не браўся?

— Амаль што не... Не было часу...

— Час знайшоўся б... Адным словам, Малінаўка...

— Дык з кім жа вайна, Марцін?

— Вайна будзе з японцамі. Гэта мая думка, Андрэй. Я атрымліваю газеты з Пецярбурга і Кіева. І вось, мяркуючы па тым, што яны пішуць, вайна з Японіяй будзе. Расія, бачыш, хоча залезці ў Маньчжурыю, Жоўтарасію стварыць, а Японія таксама не ад таго, каб тую Маньчжурыю пад сябе падабраць. А Еўропа хвасты іх звязвае. Усё гэта, братка, завецца палітыкай... І от праз гэтую сабачую палітыку пачнецца вайна, і Марцін Крываблоцкі збірайся ў паход.

— А можа і не. Ты ж сваё адслужыў.

— Не так многа ў Расіі дактароў, Андрэй, каб яны ротным фельчарам бракавалі... Справа не ў тым. Скажы, чаго ты прыйшоў, Андрэй?

— Мне, Марцін, трэба наняць хлопца. На год, сама менш. Рады не дам адзін. Малаціць трэба, сена з Волі вазіць, дровы; патрэбен работнік, хоць задушыся. Памажы знайсці хлопца.

Марцін паглядзеў на Андрэя і задумаўся.

— Хлопца знайсці можна, Андрэй,— сказаў ён.— Не такія багатыры ў Чыжэвічах, што парабка не знойдзеш. У маёнтак не хочуць ісці, бо там цэлая катарга, а да гаспадара пойдуць. Толькі, братка, справа такая: дрэнных ты не возьмеш, а добрыя да цябе не пойдуць.

— Чаму? — успыхнуў Андрэй.

— Не крыўдзіся. Але слава пра цябе ў наваколлі не вельмі добрая, Андрэй. Усе цябе, братка, лічаць ліхім чалавекам.

— І ты?

— Я цябе, Андрэй, мала ведаю. Думаю, што не такі ты ліхі, як пра цябе гавораць. Але ж на раты людзям замкоў не павесіш.

— Чым жа я ліхі, Марцін? — ціхім голасам запытаў Андрэй, у якога ад крыўды сціснулася сэрца. Сёння яго абразілі другі раз. Абразілі незаслужана, бязлітасна, не ведаючы яго душэўнага стану.— Скажы, чым я ліхі? — паўтарыў ён.— Я нікога не ашукаў, не абакраў, не нахлусіў на чалавека, не заеў нічыйго жыцця. Дык чым жа я ліхі?

— Тым, Андрэй, што ты на руку лёгкі.

— Няпраўда, Марцін! — ледзь не крыкнуў Андрэй.— Я першы нікога не зачаплю ні словам, ні спра-

вай. Я па мордзе таму дам, хто перада мною нос задзярэ, хто сябе носіць высока, а другога за чалавека не лічыць. Скажы, каго я пакрыўдзіў без прычыны?

Марцін засмяяўся.

— Ды, братка, усе кажуць, што ты іх без прычыны крыўдзіў.

— Усе! Хіба я ўсіх крыўдзіў? Вeрыш ты розным нарбутовічам ды мартыневічам.

— Супакойся, братка. Нікому я не веру. От табе, напрыклад, веру. Я, братка, люблю дужых, смелых і самастойных людзей. Такіх, якіх нельга пакрыўдзіць, бо яны даюць здачы. І хлопца мы знойдзем. У маёй сястры Агапы ёсць малодшы сын Іван. Ён да цябе пойдзе. Толькі калі прыйдзе Пракоп, то ты маўчы, а то ён пабяжыць да Агапы і напсуе нам. Івану семнаццаць гадоў. Работу любіць. Толькі, братка, ён не такі, як усе. Ён вельмі сарамлівы. І любіць чытаць. Вечарам, пасля работы, ты не забараняй яму. Няхай чытае... Мала хто гэтым цікавіцца з нашага брата.

Андрэй усміхнуўся.

— Ты сам не цікавішся дарэмна. Іван табе будзе вершы расказваць. Ён іх тысячу ведае. Для мужыка гэта нешта варта.

— Добра, Марцін. Толькі кніг у мяне няма.

— Кнігі я дам. Будуць кнігі. Толькі ты, братка, рукам волі не давай. Ён цябе абражаць не будзе, носа не задзярэ, а калі зробіць што не так, то, сам ведаеш, малады яшчэ.

Андрэй адчуваў, што Марцін з яго кпіць, але ўзлавацца на яго не мог.

— Ты, Марцін, мяне зусім за дурня лічыш...

— Не, Андрэй, наадварот. За разумнага чалавека, а то б я табе Івана не аддаў. От мы скора пойдзем да Агапы, паглядзім на яго. Але я цябе яшчэ папярэдзіць хачу. Там у суседстве з табой жыве ваш святы чараўнік Гарасім Жукоўскі. То ты будзь бацькам Івану. І блізка яго не падпускай да Гарасіма. Будзь поўны гаспадар. Быў я ў Гарасіма. Бачыў, што ў яго многа кніг, але я не хачу, каб мой Іван чытаў тыя кнігі. Іван, вядома, можа зацікавіцца. Ён яшчэ не разбіраецца, што добра, што дрэнна, то яму маім словам забарані нават падыходзіць да Гарасімавай хаты. Нядаўна было: Сулкоўскі даведаўся, што мой Іван чытаць любіць. Паклікаў яго да сябе. Пачаў распытваць,

вершы папрасіў расказаць. Іван пачаў яму расказваць вершы Някрасава, Кальцова ды байкі Крылова. Нічога, поп пахваліў. Адчыніў сваю шафу. У беднага Івана і вочы разбегліся. Такое багацце! У Сулкоўскага і добрыя кнігі ёсць: Гогаль, Пушкін, Лермантаў, Някрасаў,— а ён майму Івану «Жития святых» ды «Евстрафия Плакиду» падсунуў. Я сам занёс яму назад тыя кнігі. Кажу: «Няхай вашы дзеці іх чытаюць, бацюшка». Смяецца, шэльма. «У мяне, кажа, няма дзяцей». А гэта не кнігі, а атрута, асабліва для маладых хлопцаў. Я калі бываю ў Старочыне ці ў Слуцку, то купляю Івану якую-небудзь кніжку. Няхай пра людзей чытае, а не пра багоў.

— Я да Гарасіма сам не хаджу і Івана не пушчу.

— Добра. А вунь мая пляменніца Надзя ідзе,— сказаў Марцін, зірнуўшы ў акно.— От мы і пойдзем.

— Пачакай, Марцін... Дай мне гэтыя газеты. Я табе вярну.

— Я такі і думаў, што ты гэта скажаш. Але што газеты! Яны тады цікавыя, калі свежыя. Іх трэба выпісваць. Ты чытай тыя кнігі, якія будуць у Івана. А газеты бяры.

Андрэй вярнуўся дадому падвечар і прывёз з сабою парабка — Івана Аўсяніка. Газеты палажыў за абразы і забыў пра іх.

## РАЗДЗЕЛ СЁМЫ

Яўхім Халуста шалеў ад злосці. Было чаго шалець! Парабак Сямён, не дабыўшы тэрміну, сышоў. Ажаніўся, сукін сын! Знайшоў удаву Хадосю ў Чыжэвічах і прыстаў да яе ў прымы. Сам гаспадаром стаў, ліха матары яго! І астаўся Халуста без ніводнага парабка ў той час, калі на яго гаспадарку патрэбны былі два. Двух то ён не трымаў, узвальваў усю работу на аднаго, а цяпер вось няма і аднаго... Халуста пашкроб патыліцу, вылаяўся і пайшоў у Чыжэвічы.

Калі ён сяк-так знайшоў хату тае Хадосі і накінуўся на нявінную жанчыну за тое, што яна нібыта адабрала ў яго парабка, Сямёна ў хаце не было. Халуста так распаліўся, так размахаўся кулакамі, што нават не пачуў, як у хату ўвайшоў Сямён.

— Ты гадаўка! — крычаў Халуста.— Хамская морда, ліха матары тваёй! Нашто ты яго прыняла? Гэтага злодзея! Разбойніка з-пад моста! Шэльму! Я ж вас у порах разатру! Ты не ведаеш, што ён мне вінаваты! Што ён мяне абакраў! Ага, ты не ведаеш! То будзеш ведаць! Я і цябе разам з ім у турму заганю! Арыштантамі будзеце!

Але тут ён азірнуўся і ўбачыў Сямёна. Той стаяў каля парога і ўсміхаўся так нядобра, што ў Халусты аж мурашкі пабеглі па спіне. Але ён яшчэ паспрабаваў храбрыцца.

— Ты...— сказаў ён.— Шэльма, ліха...

І не кончыў. Сямён моўчкі падышоў да свайго колішняга гаспадара, узяў яго за карак і выкінуў з хаты. Проста выкінуў, як збродлівага ката. Халуста, каб не тыцнуцца тварам аб зямлю, стаў ракам, нават прапоўз крыху такім манерам, тады разагнуўся і дай бог ногі! Ліха матары яго! Яшчэ дагоніць ды па шыі накладзе.

За сялом Халуста крыху супакоіўся. «Няхай жыве! Няхай жыве з гэтай Хадосяй! А гладкая мужычка, ого! Не дзіва, што ён прыстаў да яе. Няхай жыве! А я яму не заплачу! Не дабыў да канца, не атрымае і платы! Няхай жыве, сабака!» Такая думка нават крыху ўсцешыла. Але калі ён успомніў, што ў гаспадарцы не хапае работніка і што яму, Халусту, знайсці работніка цяжка, бо да яго ніхто не хоча наймацца, злосць зноў апанавала яго. «Здымаць з кузні Мікалая нявыгадна. Зачыніць кузню? Не. Выкінуць жывыя грошы з кішэні! Ого! Адзін Юзік не ўправіцца з гаспадаркай. Наперадзе ўся работа...» Халуста спыніўся і пачухаў патыліцу. «От, ліха матары вашай! Нібы згаварыліся!»

Ён зірнуў на вятрак, што стаяў на ўзгорку між Чыжэвічамі і Малінаўкай, і надумаў зайсці туды. Вятрак належаў Хаіму Ножыку, яўрэю з Чыжэвічаў, Халуставаму сябру, такому ж самаму злодзею і шэльму, як і Халуста.

Каля млына не было падвод, значыць, Хаім малоў адзін. Халуста пакрочыў да млына не спяшаючыся, спыняючыся, гледзячы ў бакі. Няхай не думае Хаім, што ён Халусту вельмі патрэбен. Халуста проста зойдзе ў млын, бо яму няма чаго дома рабіць. Ён выйшаў на шпацыр.

— Здароў, пане Хаім! — крыкнуў Халуста, уз-

няўшыся па лесвіцы на першы паверх і стаўшы каля дзвярэй.

— А-а-а! — сказаў млынар, адрываючы позірк ад паперкі, на якой ён ставіў свае яўрэйскія каракулі.— Дзень добры, пане Яўхім.

Хаім быў худы чалавек з рыжай барадой, даўгімі пэйсамі і надзвычай хітрымі чорнымі вачыма. Ён сядзеў на мяху з мукой, увесь запылены, трымаў у руцэ агрызак алоўка і нешта вылічваў на паперцы, якая ляжала ў яго на каленях. Убачыўшы Халусту, Хаім устаў і павітаўся з ім за руку.

— Ну што, пане Яўхім? Як вы жывяце?

— Ат...— Халуста прыхінуўся плячыма да вушака.— Але ж і калоціцца твой млын, пане Хаім. Ён яшчэ возьме ды абернецца...

Гэта быў зусім не жарт. Кожны раз, будучы ў млыне, Халуста баяўся, што млын перакуліцца. Што за дзіва! Трымаецца на адным вале. Хоць гэты вал і тоўсты, дубовы, але ж ён трымае такі цяжар.

— Што вы, пане Яўхім! Няхай бог бароніць!

— А калі навальніца, пане Хаім? — запытаў Халуста, падазрона азіраючыся.— От уздымецца бура і...

— Гэтага яшчэ нідзе не было, пане Яўхім.

— Ну, то я дзе-небудзь сяду... Дзе тут у цябе сесці, пане Хаім?

Хаім залез у кут, дастаў нейкі нізенькі зэдлік, абцёр яго рукавом, ад чаго ён стаў яшчэ больш пыльны, і падаў Халусту. Той паставіў яго каля сцяны і сеў.

— А ў цябе завозна, пане Хаім?

— Які там завоз! — Хаім махнуў рукою.— Які там завоз! У Капачах млын, у Лапацічах млын, у Крывічах два млыны, у Старочыне два паравікі... Які можа быць завоз, калі гэтых млыноў — як грыбоў. Каб яны ўсе пагарэлі, пане Яўхім!

— А твой каб астаўся?

— А мой каб астаўся! Мой няхай астаецца, пане Яўхім! Каму ён замінае? Ён нікому не замінае.

Халуста зарагатаў.

— Ліха матары тваёй, пане Хаім! Які ты разумны! Каб усе млыны пагарэлі, а твой каб астаўся, то ў цябе завозу было б!

— А дзе б ён дзеўся, той завоз? Увесь быў бы мой! Тады б я паказаў дулю капачоўскаму Бэрку, лапацін-

каму Моўшу і ўсім. Тады б я паказаў ім дулю,— Хаім склаў дулю і палюбаваўся ёю.

— Ах, які ж ты разумны, пане Хаім, які ты хітры!

— Але вы, пане Яўхім, нечага да мяне прыйшлі.

Халуста пацягнуўся і пазяхнуў.

— Няма чаго дома рабіць, пане Хаім. Я сюды-туды... Бачу, твой млын круціцца. Схаджу, думаю, да Хаіма... Ну, на шпацыр выйшаў...

— Не, не, пане Халуста! Вы не з дому ішлі, а з Чыжэвічаў. Я бачыў.

«От злодзей! — падумаў Халуста.— Як ты ўсё бачыш!»

А Хаім агледзеў Халусту з галавы да ног, усміхнуўся хітравата і адразу перамяніў тон.

— Слухай, Яўхім. Я чуў, што ад цябе Сямён пайшоў. Да Хадосі ў прымы прыстаў. Ха-арошая кабета!

— Ліха матары тваёй! — закрычаў Халуста.— Ты ўсё на свеце чуеш! Ха-арошая! Кабета! — перадражніў ён.— Адкуль ты ўсё ведаеш?

— Ты дурны,— прамовіў Хаім.— Адкуль я чую? У млыне заўсёды людзі ёсць. Я ведаю ўсё, што робіцца тут і там, і нават у Слуцку!

— Угу! — прамычаў Халуста.— А ў Бабруйску і Мінску?

— Ведаю!

— Малайчына! А што ж ты яшчэ ведаеш?

— Усё,— пераканальна адказаў Хаім.— Андрэй Сташэвіч наняў у Чыжэвічах парабка. Добрага хлопца, Агапінага сына. Яму параіў Марцін Крываблоцкі. Ён дзядзька таго Івана Аўсяніка.

Халуста падхапіўся з месца. Ён забыў, што млын калоціцца і можа перакуліцца.

— Ліха матары яго, гэтага Сташэвіча! — залямантаваў ён, схапіўшыся за галаву.— Гэты разбойнік выхапіў у мяне работніка проста з рук!

— Ну, чаму з рук! Ты ж не быў у Агапы!

— Калі не быў, дык мог бы быць! Дзе мне цяпер работніка знайсці?

Хаім не адказаў. Ён зноў разгарнуў паперку, разгладзіў яе на калене і зрабіў выгляд, што зноў нешта вылічвае. Халуста змоўк і некаторы час назіраў за ім. Некалькі хвілін прайшло ў маўчанні. Халуста чакаў, што Хаім загаворыць першы, але хітры млынар

нібы і забыў, што ў млыне ёсць нехта, акрамя яго. Тады Халуста не вытрываў:

— Слухай, Хаім. Чаму ты маўчыш?

Хаім нават не ўзняў галавы.

— Ну, Хаім,— ласкава сказаў Халуста.— Ты, мабыць, ведаеш работніка.

— Што? — не адразу запытаў Хаім.

— Кінь ты прытварацца!

— А хіба я прытвараюся? Чаго мне прытварацца? У мяне ёсць свой клопат. Я — заняты чалавек.

— Мне работнік трэба, чуеш? Ты ведаеш і маўчыш!

— Угу! — Хаім схаваў у кішэнь паперку і аловак.— Работнікаў хапае ў Чыжэвічах. Цераз кожную хату работнік. Каб мне трэба быў парабак, то я раз-два — і гатовы! А да цябе, пане Яўхім, мясцовы чалавек не пойдзе. Табе трэба работнікаў шукаць вёрст за дваццаць адсюль. І то...

— Чаму? — вызверыўся Халуста.

— Сам ведаеш, чаму. Парабкаў карміць трэба. І плаціць!

— Ліха матары тваёй! А хіба яны ў мяне галодныя ходзяць? І я ім не плачу?

— Ты лепш ведаеш,— абыякава адказаў Хаім.

— Ну, Хаім...— Халуста вымушаны быў здацца.— Парай мне чалавека. Хіба ты не ведаеш, які цяпер час?

— Хіба я дурны? Я ўсё ведаю.

З гэтымі словамі Хаім палез на другі паверх і доўга там корпаўся ці мо так сядзеў. Халуста не мог гэтага ведаць, бо яго і на ланцугу не зацягнуў бы на другі паверх ветрака. «Ну, зладзюга,— думаў ён,— прыйдзе каза да ваза, ды не будзе сена... Я не забуду табе гэтага. Я табе ўспомню! Я табе, зладзейская хр-рапа, штучку падкладу-у!»

Ад няма чаго рабіць ён падышоў да скрыні, у якую праз жалоб сыпалася мука. Падставіў далонь і памацаў муку. «Крупы дзярэ, а не муку меле... Каменяў шкадуе». Ён зірнуў на вяроўку, якую трэба было толькі пацягнуць, каб націснуць верхні камень, і хацеў ужо зрабіць гэта, як пачуў, што Хаім злазіць з другога паверха.

— Ну, дык, пане Хаім, што ты мне скажаш? — запытаў ён, ліслівa зазіраючы млынару ў вочы.

— Што я табе скажу? А колькі ты мне заплаціш, калі будзе гешэфт?

Халуста вылупіў вочы.

— Ты за гэта грошы возьмеш?

— Чаму я іх не вазьму? Вазьму!

— Ну, дык сам наймай таго парабка! — крыкнуў Халуста і адвярнуўся ад Хаіма, нібы збіраўся ісці.

Хаім нават вухам не павёў.

— Мне не трэба, а людзіноймуць.

Халуста крута павярнуўся да яго тварам.

— Ну, хопіць з цябе рубля, Хаім. Гэта на барыш.

— Пяць,— рашуча адказаў Хаім.

— Пя-аць! Ты што, здурнеў?

— Калі здурнеў, то здурнеў. Пяць.

— Хаім!..

— Пяць.

Халуста гатовы быў парваць на кавалкі праклятага млынара, кінуцца на яго з кулакамі, шпурнуць з ганка дадолу, растаптаць, аднак толькі бездапаможна сціснуў кулакі.

— Хопіць з цябе два, Хаім! Чуеш?

— Чатыры.

Халуста зрабіў выгляд, што думае.

— Ну, два з паловай, Хаім... Ліха матары тваёй, ты мяне рабуеш! — раптам заенчыў ён.— Два з паловай хопіць!

— Тры з паловай.

Халуста пачаў бегаць па млыне, хапацца рукамі за галаву, вохкаць, айкаць, стагнаць, стукаць кулакамі ў грудзі. Ён зусім забыў, што млын возьме ды перакуліцца.

— Слухай, Хаім... Два з паловай. Што табе значыць рубель! Адзін рубель! Адзін рубель. Цьфу! Хіба ты жабрак!

— Тры з паловай.

— Тры. Ліха матары тваёй! Няхай будзе роўна тры.

Хаім нібы і чакаў гэтага.

— Тры дык тры. Няхай будзе роўна тры.

Халуста паваліўся на мяхі і зарагатаў на ўвесь млын, хоць у душы было зусім не да смеху.

— А каб ты выпух, Хаім! Чаму ж ты адразу не сказаў тры?!

— А чаму ты, Яўхім, не сказаў адразу тры, а сказаў адзін?

Яны моўчкі паглядзелі адзін на аднаго.

— Якога ж ты работніка дасі мне, Хаім? — нарэшце запытаў Халуста.

— Добрага.

— Адкуль ты ведаеш, што ён добры? Ты мне скажы, хто ён, адкуль, як яго завуць?

— Якаў. Яго завуць Якаў. А прозвішча Шэмет.

— Шэмет? А што гэта за Шэмет?

— Ён прыехаў з горада.

— З горада? — аж падскочыў Халуста.— Ты мне арыдаеш гарадскога гультая, можа якога сацыяліста, арыштанта, басяка, злодзея, катаржніка, ды яшчэ тры рублі хочаш за гэта ўзяць.

— Ша! — сказаў Хаім.— Арыштанты і катаржнікі ў турме. А гэты хлопец тутэйшы, ён сам з Чыжэвічаў. Я яго даўно ведаю. Ён у пана Крупскага парабкам быў, потым тры гады ў горадзе працаваў. Ён усё ўмее рабіць, нават каваць.

— У мяне свой каваль ёсць! Нашто мне каваль? — закрычаў Халуста.

— Ну, то няхай ён не куе! Няхай ён арэ, баранує, малоціць! Уга! Ты яму работу знойдзеш.

— Дзе ты яго выкапаў, такога добрага?

— Я быў у яго брата Піліпа. Там быў і ён. У маёнтак ісці не хоча. Не любіць пана Гендарсана. І пан Гендарсан яго таксама не любіць. Але я яму нічога не сказаў. Цяпер скажу.

— Ліха матары тваёй! Я ж і сам мог бы яму сказаць!

— Дурны. Каб ты сам з ім пагаварыў, то ён не пайшоў бы. А калі я з ім пагавару, параю яму, пахвалю цябе, то гэта іншая справа.

— Калі ён да мяне прыйдзе?

— Заўтра. Я яго дашлю.

— Ты ж не забудзь! У мяне работніка няма.

— А ты не забудзь тры рублі.

Гэтыя словы дзерпанулі Халусту за жывое. Ён ужо сабраўся ісці дамоў, але ўспомніў, што не зрабіў таго, што задумаў. Ён глянуў на вяровачку, якую трэба было толькі пацягнуць, каб націснуць камень, і сеў на зэдлік. Хаім тым часам прымацаваў да скрыні пусты мех і пачаў згартаць у яго муку. Халуста цярплі-

ва чакаў, покуль ён кончыць гэтую работу. Хацеў нават памагчы Хаіму, але той сказаў:

— Запыліцеся, пане Яўхім.

— Нічога, пане Хаім, я і так ужо запыліўся.

Калі Хаім пачаў завязваць мяхі, Халуста выбраў хвіліну і пацягнуў за вяровачку. Хаім стаяў спіною да яго і нічога не бачыў, а на душы ў Халусты адразу стала лёгка і соладка. Нішто яму не прыносіла такой радасці, як зло, якое яму ўдавалася зрабіць другому. А гэта яму ўдавалася заўсёды.

— Дык, пане Хаім, ты ж дашлі мне таго Якава.

— Дашлю, пане Яўхім.

— Бывай здаровенькі.

— Шчасліва.

Калі Халуста выйшаў, Хаім адразу падняў камень. Яму не трэба было бачыць, як Халуста яго націскаў. Ён па муцэ пазнаў, што той прыклаў руку да яго млына. А Халуста зларадна думаў, спускаючыся па лесвіцы: «Я цябе навучу малоць, ліха матары тваёй! Тры рублі... Бачыш ты яго! Тры рублі... А за што? За якую скулу? Трасцу я табе дам, а не тры рублі...» Аднак, крыху падумаўшы, зразумеў, што аддаць усё роўна прыйдзецца. Так ці інакш, а Хаім яму іх не даруе. Ён выбера і час, і месца і пацягне так, што злупіць не тры, а цэлых пяць.

На двары зіхацела сонца. На ржэўніку абапал дарогі вісела павуцінне. Набліжэнне восені ўжо адчувалася ў прыродзе. Зніклі жаўранкі, пакінулі стракатаць конікі. Апусцелыя палі і лугі навявалі сум. Але ўсё гэта Халусту не кратала. Ад Хаімавага млына ён ішоў проста да свае кузні. Здалёк убачыў, што ў сына хапае работы, бо каля кузні стаяла некалькі падвод з плугамі і баронамі.

Халуста заскочыў у кузню. Мікалай трымаў у горне лямех, высокі пажылы мужчына вагаў рычаг ад мяха, а двое сядзелі каля дзвярэй і курылі. Халуста замест «дзень добры» вылаяўся і памкнуўся быў накінуцца на сына, але той выхапіў з горна белы распалены лямех і, махнуўшы каля самага бацькавага носа, імкліва паклаў яго на кавадла. Халуста імгненна апынуўся каля дзвярэй, зачапіўся нагой за парог і расцягнуўся на зямлі. Такія жарты ў бацькі з сынам адбываліся не адзін раз. Мужчыны, што былі ў кузні, пакаціліся з рогату. Халуста падхапіўся з зямлі, аг-

ледзеў сябе ашалелымі вачыма, памацаў нос, потым падышоў да дзвярэй кузні (зайсці туды ён больш не адважваўся) і кляў сына так, як умеў. А клясці ён умеў не абы-як.

— Злодзей! Накольнік! Арыштант! Шэльма! Шыбенік! Бандыт! Разбойнік! Байструк! Каб ты сабе вочы павыпальваў! Паламаў ногі! Выкруціў рукі! Здох! Згінуў! Апруцянеў!

Выказаўшы ўсё, што ведаў, хвіліну памаўчаў і дадаў не то са здзіўленнем, не то з захапленнем:

— Ліха ма-а-тары тваёй! У каго ты такі ўдаўся!

— Ідзі дамоў, бацька! — як нічога і не было, адказаў Мікалай.— Маці прыходзіла зваць.

— Пацалуй мяне ведаеш куды? Разам з тваёй маткай. Думаеш, я не ведаю, што ты мне ўсіх грошай не аддаеш! Крадзеш! Злодзей! Я табе пакажу-у!

У кузні грукаталі молаты. Звінела жалеза. Мікалай, мабыць, і не чуў бацькавых слоў. Халуста пакрычаў яшчэ трохі і пасунуўся дадому.

Калі ён увайшоў у свой двор, жонка Настуля капала на агародзе бульбу.

— Гэй! — гукнуў яе Халуста.— А дзе Маланння?

Маланння была Халустава служанка, і бульбу звычайна капала яна. Сёння на агародзе яе не было, і гэта зацікавіла Халусту.

— Ты чуеш, качарга?

Настуля, накульгваючы, падышла да плота і адказала такім голасам, ад якога добрыя людзі млеюць:

— Антыхрыст! Дзе ты валачыўся? Уцякла Маланння.

— Як?

— Уцякла Маланння!

Да Халусты, нарэшце, дайшло.

— Калі? — запытаў ён.

— Пасля снедання. Табе ж, люцыпару, і бяды няма.

— Ліха матары вашай! — закрычаў Халуста.— Гэта ты, крывая кабыла!..

— Ну-у! — пагражальна адгукнулася Настуля, і Халуста не кончыў таго, што хацеў сказаць. Ён паказаў Настулі кулак, а яна яму дулю, і гутарка на гэтым кончылася.

Яўхім Халуста зайшоў у хату, сеў каля стала і задумаўся.

## РАЗДЗЕЛ ВОСЬМЫ

Іван Аўсянік першыя дні адчуваў сябе ў хаце Андрэя Сташэвіча вельмі няёмка. Як ні кажы, а жыў ён цяпер у чужых людзей, у шляхецкім засценку, у шляхецкай сям'і. Ён прыглядаўся да побыту гэтых людзей, стараўся знайсці ў ім нешта такое, што б адрознівала іх жыццё ад жыцця мужыцкіх сямей у Чыжэвічах, і не мог нічога такога знайсці. Хіба толькі гаворка трохі адрознівалася. Ён з падазронасцю і недаверам глядзеў на Андрэя, бо чуў пра яго нямала дрэннага. Лічыў, што гэты малады шляхцюк злы, ганарлівы, мужыкоў за людзей не лічыць, і з недаўменнем адзначаў, што нічога такога не знаходзіць. Можа не прыйшла яшчэ пара паказаць яму самога сябе такім, які ён ёсць.

Горш за ўсё было тое, што Іван Аўсянік быў сарамлівы хлапец. І асабліва саромеўся Алены. Нават пад'есці як трэба не мог, калі яна на яго глядзела. А глядзела яна на яго часта. Варта было Івану ўзняць вочы, як яны сустракалі Аленін позірк. І быў гэты позірк цікаўны і крыху нахабны. Іван чырванеў, апускаў вочы, рукі яго пачыналі дрыжаць, і Іван рады быў лепш праваліцца скрозь зямлю, чым сядзець за гэтым сталом.

Адным словам, цяжка было прывыкаць да новага жыцця. Цягнула дадому, у сваю хату, бо тут ён нават чытаць саромеўся. Кнігі, якія даў яму дзядзька Марцін, ляжалі ў куфэрку не прачытаныя, і ён баяўся іх выняць. Не Андрэя баяўся, а Алены, што смяяцца будзе...

Не ведаў, як звяртацца да Андрэя, як яго зваць. Панам ці дзядзькам? Прасцей было са старой Аксеняй. Яна нагадвала яму маці, таму і выйшла неяк звычайна, калі ён назваў яе цёткай. З Аленай гаварыць яму не даводзілася. Загады па гаспадарцы даваў Андрэй. Іван спачатку абыходзіўся словам «вы», але на кожны выпадак гэтага слова не хапала. Як, напрыклад, гукнуць свайго гаспадара: «Вы, ідзіце сюды» або «Вы, што мне рабіць?»

Аднойчы Іван прыехаў з ворыва, паставіў коней у хлеў, а сам пайшоў да Андрэя, які быў у гумне. Той сядзеў на калодцы і курыў.

— Дзядзька,— нечакана вырвалася ў Івана.— Ко-

ням, мабыць, трэба пакласці нешта ў жалабы ці можа на пашу весці?

— Дзядзька? — са здзіўленнем перапытаў Андрэй.— Не, брат, не дзядзька. Заві мяне проста Андрэй і без ніякіх «вы». Ты ўжо да дзевак ходзіш?

— Не.

— А я ў твае гады хадзіў. Кнігу з сабою вазьмі, а то ты іх з куфра не вымаеш. Марцін казаў, што ты чытаць любіш.

— Люблю,— адказаў Іван, адчуваючы, як радасць перапаўняе яго сэрца. Ён цяпер канчаткова заблытаўся ў сваіх думках і меркаваннях. Што за чалавек гэты Сташэвіч? Ведаў толькі адно, што ў душы яго раптам вырасла прыязнасць да гаспадара.

— Любіш, дык чытай. Вечарам сам зірну ў твае кніжкі, а то пуста мы жывём... Ды ідзі снедай — бачыш, сонца дзе! Коням сноп аўса падкіну, а пасля снедання павядзеш на пашу.

Іван пайшоў у хату. «Пуста мы жывём,— думаў ён.— Якія добрыя словы...»

У хаце, акрамя старой Аксені, нікога не было. І гэта было на руку Івану. Калі ён памыўся і сеў за стол, Аксеня падала яму снеданне. Еў, колькі яму хацелася, бо на яго не глядзелі цікаўныя вочы дзяўчыны.

Пасля снедання Івана пахіліла да сну. Ён цэлую ноч быў на начлезе, а хіба там заснеш! З усходам сонца пайшоў араць. Нялёгка, аднак, у чужых людзей. Спаць цяпер хацелася так, што вочы зліпаліся самі.

Калі Андрэй прыйшоў з гумна, Іван соладка спаў на голай лаве, паклаўшы галаву на рукі. Андрэй падсунуў яму пад галаву світку і сеў каля стала. Апошнія дні ён адчуваў сябе спакойна. Трывогі хоць і не зніклі, але значна аддаліліся. Ён цяпер не быў бездапаможны і менш хадзіў раіцца да Яна Сташэвіча. І гэтую ўпэўненасць прынёс яму не хто іншы, як гэты сціплы хлопец Іван. Дзіўна. Разуменне гаварыла яму, што Іван толькі парабак, чужы чалавек і не нясе ніякай адказнасці за яго гаспадарку, а сэрца падказвала іншае. Яно гаварыла, што ён не адзін мужчына ў хаце, а гэта ўжо само па сабе нечага варта.

Калі коні з'елі авёс, Андрэй разбудзіў Івана. Той сеў і працёр кулакамі вочы. Было відно, спаць яму ўсё яшчэ хацелася.

— Павядзеш, Іван, коней на поплаў, там шкоды вялікай няма. А Маргі араць я паеду заўтра раніцай сам, дам табе выспацца.

— А я не вельмі хачу спаць,— бадзёра адказаў Іван.

— Не вельмі хочаш спаць? А я сам хачу. От пайду жыта звею, ды ў млын трэба, а то хлеб са стала ўцякае.

Ён пайшоў у гумно з думкай, што леташняя пашня неяк вельмі хутка кончылася. У свірне засекі пустыя — і гэта адразу пасля жніва. Пры бацьку так не было. Тады быў пажыўнейшы харч, спарнейшы хлеб.

Поплаў, куды Іван прывёў коней, ляжаў між Малінаўкай і Чыжэвічамі. Тут працякаў каламутны ручаёк, які летам перасыхаў. Аставаліся толькі брудныя лужыны, у іх купаліся засцянковыя свінні. Поплаў быў куп'істы і голы, як бубен, толькі каля ручая стаяла некалькі крывых алешын. Паша тут была няўдалая.

Іван спутаў коней, падаслаў пад бок світку, выняў кніжку вершаў Някрасава і прылёг, абапёршыся локцем на купіну. Глядзеў на неба, па якім плавалі воблакі, і аддаўся марам. Воблакі плылі ціха, мянялі форму. Яны то нагадвалі страшных звяроў, то небывалыя збудаванні, то нейкіх пачвар. Іншы раз неба было падобна на вялізную карту, дзе неабсяжны блакіт быў морам, а воблакі мацерыкамі. Іван любіў марыць. Ён уяўляў сябе на гэтых воблаках, якія, мабыць, мяккія, як вата. У іх тонуць ногі. Там можна ляжаць і плысці бясконца, куды гоніць вецер. «Тучки небесные, вечные странники»,— успомніўся яму цудоўны верш Лермантава. Ён разгарнуў кнігу.

Повидайся со мною, родимая,
Появись легкой тенью на миг...
Всю ты жизнь прожила не любимая,
Всю ты жизнь прожила для других.

Так Някрасаў пісаў пра сваю маці. І Іван успомніў сваю маці, удаву Агапу. Бацька яго памёр, калі сын толькі нарадзіўся. Іван не ведаў бацькі. Яго ніхто інакш і не зваў, як Агапін Іван. Не Сямёнаў Іван, а Агапін. І маці яго таксама пражыла жыццё толькі для сваіх дзяцей. Пакуль выгадавала іх, падняла на

ногі, цяжка было. Зямлі з камароў нос. Нават каровы не мелі. Дзядзька Марцін памагаў. Пракоп не! Скупы дзядзька Пракоп... Цяпер дзве Іванавы сястры замужам, старэйшы брат Спірыдон ажаніўся, сваіх дзяцей куча. Не толькі Іван стаў лішні ў хаце, але і маці. Цяпер яна на работу ў маёнтак ходзіць на жніво, бульбу капаць. Захацелася пабачыць яе, супакоіць. Яна думае, што яму тут вельмі дрэнна, а яно то зусім не дрэнна. Каб не Алена, зусім добра было б...

Іван прыўзняўся і зірнуў на коней. Яны пасвіліся недалёка, але не адны. Больш за дзесятак коней пасвіліся па поплаве, і вельмі адметная была кабыла, пярэстая, як карова. Іван усміхнуўся. Такіх коней ён ніколі не бачыў. А вунь каля ручая сядзяць тры дзяўчыны і шыюць. Воддаль ад іх на купіне прымасціўся чалавек і пляце кош. «У гэтай шляхты ўсё не па-людску,— падумаў Іван.— У нас канапасы ў гурт збіраюцца, гавораць, смяюцца. А тут кожны сам па сабе». Тут Іван памыляўся. Малінаўцы таксама збіраліся разам, але сёння пасвілі коней такія пастухі, што ў іх не было нічога агульнага: дзяўчаты-шляхцянкі, пажылы мужчына і парабак. Іван сам не хацеў ісці да гэтых дзяўчат, да шляхцянак. А яны акурат і гаварылі пра яго, пра такога харошанькага мужычка, які чытае кнігу. І чаму ён не падыдзе да іх? Яны б яго не з'елі.

Цераз поплаў ішла сцежка з Малінаўкі да Чыжэвіч. Праезджая дарога абыходзіла поплаў. Каля яе стаяў вятрак. Сёння не было ветру, і млын не малоў.

Іван зірнуў на свае Чыжэвічы, і яму стала крыху сумна. І тут ён убачыў, што з Чыжэвіч ідзе ў Малінаўку чалавек і нешта нясе. «Можа хто знаёмы»,— падумаў Іван і пачаў яго чакаць.

Чалавек тым часам падышоў да яго і сказаў:

— Здароў, малінавец!

Потым ён зірнуў на кнігі, што ляжалі на поплаве, і вочы яго здзіўлена засвяціліся. Іван адразу пазнаў гэтага чалавека. Гэта быў Якаў Шэмет, Піліпаў брат, што нядаўна вярнуўся з горада. Ён быў і апрануты ва ўсё крамнае і ў руцэ трымаў куфэрак.

— Чытаеш, малінавец? — сказаў Шэмет і зарагатаў.

— Я не малінавец,— адказаў Іван.

— Не малінавец? Ага! То я і падумаў, што ляг-

чэй сустрэць мядзведзя са скрыпкай, чым малінаўца з кнігай. Адкуль жа ты?

— Я з Чыжэвіч.

— З Чыжэвіч? — Якаў паставіў свой куфэрак і сеў на ім.— Чый жа ты з Чыжэвіч?

— Агапін Іван.

— Агапін Іван! Вырас ты, брат, таму я цябе і не пазнаў. Што ты тут робіш?

— Служу ў Андрэя Сташэвіча.

— Служыш і кнігі чытаеш? Гэта, брат, навіна. І ён табе дазваляе?

— Дазваляе.

— Гэта яшчэ больш навіна. Пакажы сваю кніжку. Някрасаў. Добра! Любіш чытаць ці проста так?

— Вельмі люблю.

— Малайцом... Малайцом, Іван...— ён зірнуў на Івана цёплым позіркам.— Дык ты служыш у Андрэя Сташэвіча, таго самага малінаўскага разбойніка.

Іван хацеў запярэчыць, але Якаў загаварыў далей: — Значыць, і цябе мой лёс насцігнуў. Парабкаваць з маладых гадоў і думаць, што і памерці прыйдзецца парабкам — не вельмі зайздросная справа, Іван. Ды яшчэ пачаць гэтае парабкоўства ў такога гаспадара, як твой. Твае ж дзядзькі не дурныя — і Марцін і Пракоп. Не маглі табе лепшага гаспадара знайсці.

— Дзядзька Марцін і параіў мне да Андрэя Сташэвіча ісці.

— Дзядзька Марцін? Ён, мабыць, зусім здурнеў ад гарэлкі! Такому вар'яту аддаць свайго пляменніка.

— Сташэвіч не вар'ят, Якаў. Хоць я ў яго і нядаўна, можа добра не ведаю, але да гэтага часу мне ў яго добра было.

— Добра? — Якаў усміхнуўся.— Кажаш, добра... Дзіця ты яшчэ, Іван. Няма добрых гаспадароў, гэта я табе кажу! Які ён ні добры, а ўсё роўна хоча з цябе сем патоў выціснуць. Мне дваццаць тры гады, я парабкую з маленства. У сем гадоў чужых свіней пасвіў на хутары ў Мелкавічах, потым кароў, а ў дванаццаць гадоў ужо касіў і араў. Розныя былі гаспадары, але добрага не было. Ці мужык, ці шляхціц, а калі багаты, то і свіння. Потым у маёнтку рабіў. Ну, там зусім катарга. Думаў — у горадзе лепш. Тры гады ў дэпо на чыгунцы працаваў. Адна халера. Толькі там

ты не адзін. Там таварыства, Іван, от у чым справа. Там усе за аднаго, адзін за ўсіх.

— Дык чаму ж ты адтуль пайшоў?

Якаў неазначальна хмыкнуў.

— Па дому засумаваў. Жаніцца хачу, Іван! — Ён засмяяўся.— Хачу шляхцянку замуж узяць. Таму і іду ў Малінаўку да пана Яўхіма Халусты.

— Да Яўхіма Халусты? — здзівіўся Іван.— Да Яўхіма Халусты то я не пайшоў бы.

— Чаму?

— Да такога разбойніка! Ён — сапраўдны разбойнік.

— Горш, чым разбойнік,— пачуўся збоку разважлівы голас. Гэта Сымон Ашакевіч падышоў да хлопцаў.— Дзень добры, Якаў,— сказаў ён, падаючы Шэмету руку.— А я цябе не адразу пазнаў. Змяніўся ты крыху.

— Тры гады прайшло.

— Не таму. Вопратка ў цябе не наша.

— Вопратку можна другую надзець. Затое скура тая самая... Гэта не твая пярэстая кабыла?

— Мая.

— Я так і думаў. От на яе другое скуры не надзенеш.

Памаўчалі.

— Дык ты ў парабкі да Халусты?

— Але, Сымон.

— Не ведаю, як ты з ім паладзіш.

— Пабачым. Я, Сымон, цяпер не лыкам шыты... Што ў вас новага ў Малінаўцы?

— Што новага... Старыя паміраюць, малыя растуць, маладыя старэюць...

— Гэта, брат, вечная навіна. Пайду пагляджу на таго разбойніка.

Якаў устаў, узяў свой куфэрак і падаўся ў Малінаўку. Сымон пастаяў крыху і сеў каля Івана.

— Ну, а як ты з Андрэем? Ладзіш з ім?

— Як я з ім магу ладзіць ці не ладзіць! Што ён загадае, тое я зраблю.

— Так, хлопча. А ён не вельмі сварыцца?

— Ні разу яшчэ не сварыўся.

— А ты, хлопча, слухай яго. Ён, мабыць, не такі благі, як пра яго людзі гавораць. Людзі нагавораць!

Іван адчуваў і давер да гэтага чалавека, і адна-

часова баяўся яго. Можа ён знарок выпытвае, а потым раскажа Андрэю.

— А я, дзядзька, людзей не слухаю.

Пакуль яны гаварылі, Якаў Шэмет быў ўжо ў Малінаўцы. Ён спыніўся каля Халуставай брамы і пастукаў. Ніхто яму не адказаў. Затое на двары залілося брэхам з паўдзесятка сабак. Якіх тут не было галасоў! І залівістыя, і грубыя з падвываннем, і сакатлівыя, але ўсе злыя і галодныя. «Ды ў яго цэлая гайня! — падумаў Якаў, адчыняючы брамку.— Яшчэ парвуць, каб яны падохлі». Але сабакі ўсе былі на ланцугах, і Якаў смела ўвайшоў у двор. Тут ён нос у нос сутыкнуўся з самім Яўхімам Халустам.

— Ліха матары тваёй! Чаго табе трэба? Чаго ты лезеш у мой двор? Што ты хочаш украсці?

— Нічога. Я ўдзень не краду. Мяне да вас Хаім Ножык даслаў.

— А-а, Хаім Ножык! Хаім Сцізорык! Хаім — гад і злодзей! Хаім — шэльма і прахвост! Ён цябе даслаў?

— Але.

— Ты сам з Чыжэвіч?

— Але.

— Што ты мне алекаеш, ліха матары тваёй! Я без цябе ведаю, што ты з Чыжэвіч, што ты Якаў Шэмет, што ты быў парабкам у пана Крупскага і што цябе немец прагнаў, як сабаку.

— Ён мяне не прагнаў. Я пайшоў сам.

— Сам! Ён сам! А дзе ты быў дасюль?

— Працаваў у дэпо.

— У дэпо. Ай-яй! Ён працаваў у дэпо! І адтуль выгналі?

— Сам разлічыўся.

— Не хлусі! Са-ам! Ён усё сам! Рэвалюцыі чакаеш, га? Думаеш, не ведаю! Забастоўшчык! Праклямацыі хаваў ды разносіў! Кніжачкі розныя. Прале... пларэ... пралетарыят! Далоў цара, памешчыкаў і капіталістаў! Затое і выгналі. Ну, не так?

Гэтыя словы былі такія нечаканыя, што Якаў крыху спалохаўся. Няўжо гэты вар'ят нешта ведае пра яго дзейнасць у горадзе? А мо проста крыўляецца.

— Не, не так,— цвёрда сказаў ён.— Каб я гэта рабіў, то мяне пасадзілі б у турму.

— А цябе і пасадзілі б! — упэўнена сказаў Халу-

ста.— Ты ж уцёк. Ты ж хаваўся, шэльма! У паграбах сядзеў! Па гарышчах лазіў. Па сутарэннях туляўся. А цяпер хочаш у мяне хавацца. Ну, не так?

«Крыўляецца, сабака»,— здагадаўся Якаў і супакоіўся. Ён нават не адказаў Халусту. А той агледзеў яго з ног да галавы, цмокнуў языком і выскаліўся, як сабака на высеўкі.

— У чаравіках, га? Ліха матары тваёй, чаравікі абуў. І гарнітурчык, га? Можа і сурдут маеш, і ф-храк! І гальштук! Гаспадзін Шэмет!

Якаў чуў пра гэтага чалавека, бачыў яго ў маёнтку ў Чыжэвічах, меў уяўленне пра яго дзікія дзівацтвы, але такога не чакаў.

— Гаспадзін Халуста,— сказаў ён, беручы ў рукі куфэрак, які да гэтага паставіў на зямлю.— Наша знаёмства кончана. Чэсць імею адкланяцца.

Ён павярнуўся і пайшоў са двара.

— Куды ты? — залямантаваў Халуста, кідаючыся за ім услед.— Ліха матары тваёй, куды ты пабег?

Ён дагнаў Якава на вуліцы і схапіў яго за плечы. Якаў спыніўся.

— Пастой, братачка, пастой! — Халуста засопся, але ўсё яшчэ трымаўся за Якава.

— Пусці,— сказаў Якаў.— Што табе трэба?

— От так бы і сказаў, ліха матары тваёй! Ты да мяне прыйшоў?

— Да цябе. Але я раздумаў.

— А ты не раздумвай!.. Ты не раздумвай! Ты мне скажы: араць ты яшчэ не забыўся?

— Не.

— А касіць не забыўся?

— І касіць не забыўся.

— А баранаваць, сеяць, малаціць, класці вазы, таптаць стагі, пілаваць, секчы, карміць скаціну?

— Умею.

— Малайчына! Будзеш у мяне рабіць.

— Не, Халуста, не буду.

— Дурны-ы! Чаму ты не будзеш?

— Мы не сыдземся ў цане.

— Ат! Чаму мы не сыдземся? Хадзем у хату. Ліха матары тваёй, як цябе ў дэпо абгладзілі!

Халуста і Якаў сыходзіліся ў цане аж да самага вечара. Нарэшце сышліся, бо Халуста прыняў усе

ўмовы Якава. Але тут Халусту прыйшло ў галаву, што ён яшчэ не ўсё ведае пра свайго новага парабка.

— Слухай, ты... А гарэлку ты п'еш?

— Калі паставіш, дык вып'ю, а сам за ёю не ганяюся.

— Угу! Сам за ёю не ганяешся. А за дзеўкамі ты ганяешся?

— Не. Я прывык, каб за мною яны ганяліся. Але вашы шляхцянкі за мной, вядома, ганяцца не будуць.

Халуста канчаткова супакоіўся і захіхікаў.

— А ты ім спуску не давай! Ты іх прыціскай дзенебудзь у кутку! Ліха матары іх, шляхцянак гэтых!

Пасцель сабе Якаў зрабіў у свірне. У Халусты была не хата, а дом, але ў гэтым доме было столькі смуроду, што непрывычны чалавек мог учадзець. Кормных парсюкоў кармілі ў кухні, падлогу мылі не больш за два разы ў год. Ва ўсім доме смярдзела нечым кіслым і гнілым.

Якаў спаць лёг рана, але заснуў не скора. Думаў аб тым, як тут пойдзе яго жыццё. Ён успомніў Халуставы словы аб рэвалюцыі, пракламацыях, забастоўках. Гэты дзікун не такі ўжо дзікі, калі ведае аб тым, што робіцца ў краіне. Ведае ж ён, пэўна, і аб тым, што ў многіх губернях ідуць хваляванні сялян. І хоць сёння ён толькі крыўляўся, абвінавачваючы Якава як забастоўшчыка, але да праўды быў вельмі блізкі. Якаву сапраўды небяспечна было заставацца ў дэпо, і арганізацыя РСДРП паслала яго на работу сярод парабкаў. Ён зусім не думаў наймацца да гэтага вар'ята Халусты, а меркаваў прыстроіцца да пана Крупскага, але аканом Гендарсан не ўзяў яго. Ён яшчэ не забыў неспакойнага Якава Шэмета, завадатара парабкаў. Нічога, прыйдзецца пабыць некаторы час тут. Маёнтак Чыжэвічы за тры кіламетры, можна хадзіць туды кожную нядзелю. Людзі там знаёмыя, свае. Адзін Стась Вярбіцкі чаго варты. Можна і ў Малінаўцы знайсці аднадумцаў. Вось гэты самы Іван Аўсянік. Кнігі чытае. Гэта вельмі добра. Многія вершы Някрасава — таксама рэвалюцыйная літаратура. А Сымон Ашакевіч — малінаўскі бядак! Да гэтага, вядома, трэба падыходзіць асцярожна. Па-першае, шляхціц, па-другое, уласнік, гаспадар пярэстай кабылы. А галота з Чыжэвіч! Працаваць ёсць сярод каго.

Думкі зусім прагналі сон. Адчыніў свіран і сеў на парозе. Цёмная ноч ахінула зямлю. Паветра было цёплае, ласкавае. Пахла раллёй і яблыкамі. У засцянковых хатах ужо не было святла. Малінаўка спала. Навокал стаяла цішыня. Маўчалі нават Халуставы сабакі, толькі зрэдку бразгацелі іх ланцугі.

Думаў, што нялёгка будзе тут жыць. Пакуль прывыкнеш да новага месца, да людзей, нямала пройдзе часу. І ўсё роўна ў шляхецкім засценку будзеш заўсёды адчуваць сябе адзінокім. Моладзь будзе глядзець скоса: мужык, парабак. А малінаўскія гаспадары адзін аднаго не любяць.

Ці прыйдзецца яшчэ сустрэцца з Волькай, настаўніцай вячэрняй школы? Так і разышліся, не сказаўшы пра свае пачуцці. І цяпер яна стаіць у яго вачах такая, якая была на апошнім развітанні. Яму хацелася абняць яе, прытуліць да сябе, а яна падала яму руку і сказала:

— Бывайце, Якаў. Вы мне падабаліся. Не забывайце нас.

«Нас»! Чаму не сказала «мяне»! Вядома, не забудзе ні таварышаў з дэпо, ні яе. Ці скора ўдасца пабачыцца? Ён цяпер падняволены чалавек.

Раптам рыпнулі дзверцы ля брамы, і сабачае царства каля Халуставых будынін узняло лямант. Ад хаты, ад стайні, нарэшце, з-пад свірна, амаль з-пад ног Якава, выскачылі здаравенныя барбосы і кінуліся да вуліцы са страшэнным брэхам. Але адтуль пачуўся не менш страшны голас старэйшага Халуставага сына — Юзіка Грома.

— Цыц! Каб вы падохлі!

Сабакі супакоіліся. Юзік заўважыў Якава і падышоў да яго.

— Чаму не спіш?

— Ты ўсё роўна разбудзіў бы, так зароўшы.

Юзік зарагатаў.

— Разбудзіў бы! Ты на вячоркі не ходзіш?

— Якія могуць быць вячоркі ў першы дзень.

— А потым будзеш хадзіць?

— Не ведаю. Калі ваша шляхта прыме.

— Са мною прыме! Будзем разам хадзіць. Ты добры хлопец.

— Адкуль ты ведаеш?

— Чуў, як ты з бацькам гаварыў. Ну, спі. А заўтра я цябе павяду да шляхцянак.

Так Якаў Шэмет знайшоў «сябра» ў Халуставай сям'і.

## РАЗДЗЕЛ ДЗЕВЯТЫ

У нядзелю раніцай Андрэй сам павёў коней на пашу ў Маргі. У суботу вечарам пусціў Івана дадому аж да заўтрашняй раніцы: хлопец засумаваў без сваіх.

Сонца яшчэ толькі ўзышло. Цеплыня была незвычайная. Нейкая смуга, падобная на дым, стаяла ў паветры, і чым вышэй падымалася сонца, тым гусцей рабілася гэтая смуга. Сонца віднелася праз яе, як праз задымленае шкло — чырвонае і агністае. У прыродзе не адчувалася ранішняй узбуджанасці, усё маўчала. «Да полудня збярэцца дождж»,— падумаў Андрэй. Ён выехаў з засценка на дарогу адзін, але хутка яго пачалі даганяць канапасы. Сёння сярод іх мала было падлеткаў і моладзі. У нядзелю і ў святочныя дні коней пасвілі старэйшыя, бо малодшым трэба было адпачыць і пагуляць.

Андрэй са шляху скіраваў на Белае Балота. Было такое ўрочышча ў Маргах. Толькі чаму яно белае і чаму балота, ніхто не ведае. Не было там нічога белага, а замест балота ляжаў доўгі лужок, у якім трымалася вада толькі пасля дажджоў. Сюды і надумаў завесці коней Андрэй. За ім скіравалі і ўсе засцянкоўцы, бо ў Маргах уся паша была аднолькавая. Бяда была з гэтай пашай. Яшчэ каровы ды авечкі сяк-так пад'ядалі, а коні даўно б падохлі, каб не зелле ды канюшына. Абы трохі яна падрастала, то кожны малінавец пачынаў пакрысе адкошваць сваю ніву. Трэба было па жмачку даваць каню ў час работы ці далёкай язды. Толькі Нічыпар Мартыневіч пазбягаў гэтага. Устаўшы да дня, ён браў сваіх коней на павады і пасвіў па замежках, па межах, па дарогах. Коні, вядома, не сцерагліся, разам з травой выгрызалі на суседніх нівах і авёс, і ячмень, і канюшыну. Мартыневіча не раз лавілі, сварыліся, але ён толькі маліўся і звычак сваіх не кідаў. Не кінуў і пасля таго, як Андрэй Сташэвіч злавіў яго на сваёй ніве і добра такі даў па карку, але стаў асцеражнейшы і Сташэвічаву ніву мінаў.

Як толькі спуталі коней, падлеткі пачалі раскладаць агонь. Нацягалі сухіх шыпулек, ламачча, і хутка ўспыхнуў вялізны касцёр. Якая ж гэта радасць, якая любата сядзець ля вогнішча ў лесе, падкідаць у яго дровы, смела, не аглядаючыся на бацьку і маці, закурыць, прыпаліць цыгарку ад вугаля ці галавешкі. А потым, калі агонь ападзе, нанізаць на пруток кавалачак сала і смажыць яго, штохвіліны вымаючы з агню і падстаўляючы хлеб, каб тлушч не капаў на зямлю. А потым есці. Які смак! Сала пахне дымам, смалой, зверху яно падгарэла, а ўсярэдзіне сырое, але ўсё роўна смачнае, і яго ніяк не параўнаеш з тым, якое смажыць маці на патэльні. Або сыраежкі. Кінь яе на вуголле — і праз хвіліну вымай і еш. Не ад'ясісія. А калі яшчэ пасаліць, то нічога смачнейшага ў свеце няма. Хіба толькі бульба, спечаная ў прыску.

Неба тым часам усё хмурнела. Смуга зрабілася хмарай і схавала сонца. Дождж пачаў ісці баязліва, па кроплі, нібы нехаця, а потым хлынуў такі лівень, што канапасам нідзе не было месца. На поплаве сталі лужыны. Белае Балота, дасюль зусім сухое, ператварылася ў азярыну. Заляскацелі перуны. Воддаль задымілася сасна, апаленая маланкай. Хто стаяў пад дрэвам ці сядзеў на карачках пад кустом, выскачылі на гала. Коні збіліся ў кучу.

Дождж ліў каля гадзіны. На канапасах не было сухой ніткі, але ніхто не чуў холаду. Калі развеялася хмара, сонца ўжо высока стаяла ў небе. Сушыліся на сонцы і ветры. А падлеткі нават і не думалі сушыцца. Яны качаліся і поўзалі па лужынах. Андрэй сядзеў на купіне і глядзеў, што яны вытвараюць. Калісьці і ён быў такі. Нават горшы. Ён бы не толькі сам поўзаў па лужынах, а разам з сябрукамі зацягнуў бы туды не аднаго жаніха і выкачаў бы ў гразь.

Андрэй думаў, што да яго вельмі скора прыйшла сталасць. Было маленства, а пасля яго адразу насунулася сталасць. Маладосці сапраўднай не было. Вось цяпер і павінна была б быць маладосць, сама гады, але сталасць, мабыць, прыходзіць не праз гады, а праз выпрабаванні.

Ян Сташэвіч падышоў да яго і сеў на купіне, падклаўшы пад сябе аброці. Сёння і яму прыйшлося быць канапасам, бо Тамаш-валацуга прыйшоў з пагулянкі раніцаю. Ян ужо коней выводзіў з хлява, толькі і па-

спеў прыгразіць сыну, што калі не дай бог байструка якой дзеўцы зробіць, то няхай і дамоў не варочаецца. Аджартаваўся, сукін сын. Яго, маўляў, на такую работу не наймаюць, а дарэмна рабіць няма дурных. Ці сказаў бы Ян такое свайму бацьку? А яго сын сказаў.

— Ты да памінак рыхтуешся? — запытаў у Андрэя.

— Не...

— Дык чаму ж ты? — узлаваўся Ян.— Праз тыдзень памінкі ж.

— Ведаю. Вазьму ў Арлоўскага гарэлкі, а жанкі падрыхтуюць сёе-тое...

— Каго будзеш зваць?

— Тых, хто памог пахаваць.

— Адбі тэлеграму Аляксандры.

— Адбіў ужо.

— Добра зрабіў. На пахаванні яна не была, на памінкі павінна прыехаць.

Ян памаўчаў нядоўга.

— Узбагацела, гадаўка, бацьку пахаваць не прыехала. Я напісаў ёй. Папросту напісаў, няхай крыўдзіцца, калі хоча. І напісаў, каб гарэлкі прывезла. Чорт яе не возьме, не згалее, а ў цябе наперадзе расходаў шмат.

Андрэю непрыемна было слухаць тое, што ён ведаў сам. Гэтыя расходы не давалі яму спакою.

— Ты не крывіся. Што баліць, пра тое трэба гаварыць, а не маўчаць. Ты думаеш, я таму напісаў Аляксандры, што яна вельмі на памінках патрэбна? Без яе абышліся б. Але з ёй пагаварыць трэба. Пра Алену думаю, а не пра Аляксандру. Выпхнуць яе трэба адсюль як мага далей... Як мага далей! Сам ведаеш: зляглiся яны з Юзікам Громам. Людзі ўжо гавораць.

Андрэй пазелянеў, сціснуў кулакі.

— Заб'ю, калі што якое!.. Мне тата перад смерцю гаварыў...

— Пачакай,— Ян мякка крануўся Андрэевай рукі.— Ён жа не загадваў табе забіваць яе, а толькі замуж за Халусту не аддаваць.

— Можа яны пад плотам пажаніліся...

— Не. Да гэтага не дойдзе. Не такая Алена дзеўка... Дык от я таму і напісаў Аляксандры, каб прыехала. Трэба ёй сказаць, каб жаніха Алене шукала.

Далей адсюль, як мага... Бо не дай бог за Халусту пойдзе, то яны яе навучаць! Яна бацькаву спадчыну падзяліць захоча. Зямлю!

— Што? — запытаў Андрэй дзікім голасам.— Зямлю?! Паўвалоку дзяліць?

— Ціха. Я з дзядзькам Юстынем гаварыў пра гэта. Толькі ты пасагу яе не чапай. Калі з грашыма прыпрэ — памагу.

— Дзякуй табе, Ян... Пасаг я маме аддаў. Няхай яна сцеражэ.

— Малайчына. Алене і выгляду не падай, што гаварылі пра гэта.

— Хіба я не ведаю, Ян!..

Коней павялі дамоў, калі сонца падышло пад поўдзень. Андрэй усю дарогу думаў пра Алену. Як адбіць яе ад Грома? Што можна зрабіць? Пагаварыць з маткай? Але яна нічога не паможа, а толькі напсуе. Раскажа Алене, а тая яшчэ горш узлуецца.

Дома была толькі Алена. Маці спала ў сенцах. Андрэй уважліва паглядзеў на сястру, і яна злавіла яго позірк.

— Чаму ты так на мяне глядзіш?

— Як?

— Нібы бачыш першы раз.

— Здаецца табе... Мокры я ўвесь... Дай бялізну, ды памыцца трэба.

Потым яна падала яму абедаць. Андрэй еў, але думкі не пакідалі яго. Алена перад люстэркам расчэсвала свае доўгія прыгожыя валасы. Андрэй зрэдку пазіраў на яе. Ён і сапраўды глядзеў на яе так, нібы бачыў першы раз. Прыгожая ў яго сястра. Ён першы раз наглядаў за ёю не як брат, а паставіўшы сябе на месца чужога маладога чалавека. Хоць бы таго самага Юзіка Грома. Прыгожая, нічога не скажаш. Высокага росту, стройная, ладная. Твар прыгожы, можа крыху ганарлівы. Асабліва вочы — не то карыя, не то зеленаватыя, глыбокія. Маленькі рот з прыгожымі белымі, як рэпа, зубамі. А нос дзявочы, і нічога лепшага пра яго нельга сказаць. Каб такая дзяўчына ды дасталася Юзіку Халусту, дурному Грому! І ён і ўся яго праклятая сям'я не варты яе нагі.

— Алена,— сказаў Андрэй,— налі мне кубак малака.

Яна адкінула назад валасы, і яны ўкрылі яе пле-

чы. Алена прайшла па хаце нейкай асаблівай, уласцівай толькі ёй хадою, і Андрэй залюбаваўся сястрой.

— Праз тыдзень памінкі па тату, Аленка,— сказаў ён.— Трэба, каб вы з мамай падрыхтавалі што-небудзь.

— Абы было з чаго.

— Будзе. З'езджу да Аўрама Выпустка, вазьму са два авечыя задкі, куплю пытляванай мукі, селядцоў. Што яшчэ трэба?

— Гарэлка.

— Гарэлка — мой клопат.

— Ну, дык і ўсё. Яечкі, масла і сыры ў нас свае ёсць.

— Я адбіў тэлеграму Аляксандры, павінна прыехаць.

Алена спачатку не адказала.

— Сястра Аляксандра... — нарэшце прамовіла яна.— А мне здаецца, што ў мяне ніякай сястры няма... Колькі мне прыходзілася бачыць яе! За два-тры гады адзін раз. Памятаю, маленькая была, тата мяне ў госці да яе звазіў. Дык мне, паверыш, Андрэй, хацелася яе цёцяй зваць. Ніяк прывыкнуць не магу, што яна мне сястра, а не цётка.

— Няма ніякага дзіва. Яна за мяне больш чым на дваццаць гадоў старэйшая, а калі замуж выходзіла, то цябе на свеце не было. Я то цёткаю яе не назаву, и ты не гавары такога глупства пры маме.

Алена зірнула на яго так, нібы хацела сказаць: «Каб ты заўсёды быў такі добры, мой братка, то шчаслівейшая я была б». Андрэй зразумеў, што яна думае, і ў яго ўсё перавярнулася ўсярэдзіне. Ён адсунуў ад сябе посуд і вылез з-за стала...

«А ўсё-такі ў Халуставу хату я цябе не аддам! Грому ты не дастанешся, хоць перавернецца ўвесь свет дагары нагамі». Позіркі іх сустрэліся, і ў гэты момант нібы чорная кошка прабегла паміж братам і сястрой: яны зразумелі адзін аднаго.

Андрэй пайшоў спаць у гумно. Мух у хаце расплодзілася шмат, і яны цяпер вельмі куслівыя. На суседнім прыгуменні Андрэй убачыў Гарасіма Жукоўскага. Той на карачках поўзаў пад яблыняй і збіраў падалкі. Ранішняя навальніца накалаціла іх шмат.

За ўвесь час, колькі Жукоўскі жыў у Малінаўцы, Андрэй з ім ні разу не пагаварыў, хоць Гарасім, ак-

рамя Яна Сташэвіча, быў яго самы блізкі сусед. Даваў «дзень добры» ці «добры вечар» і ўсё. А сёння яму захацелася пагутарыць з ім. Уведаць, што за чалавек гэты дзівак, якога адны лічаць за святога, а другія за чараўніка.

— Дзень добры, пане Жукоўскі! — гукнуў Андрэй праз плот.

— А-а-а,— Гарасім спалохаўся ад нечаканасці, кінуў яблыкі ў кош і не пацэліў, бо той быў далекавата.

— Дзень добры, пане Сташэвіч...

— Многа яблык абтрэсла навальніца?

— Многа. І яблык і груш... От збіраю. Можа, пане Сташэвіч... э-э... узялі б пару яблыкаў маме.

— У яе зубоў няма, пане Жукоўскі. Дзякую.

— Ну, дык сабе...

— А ў мяне свае ёсць, і яблыкі і зубы.

— Свае то свае, але, кажуць, чужыя смачнейшыя.

— Чужых не каштаваў, а калі так, то пакаштую!

Андрэй крануўся рукамі жэрдкі і апынуўся на Гарасімавым прыгуменні. Тут ён убачыў, што садок у Жукоўскага дагледжаны добра. Усе дрэвы абкапаныя і пабеленыя вапнай. Між дрэў градкі з клубнікаю, ля платоў парэчкі, агрэст, маліннік. Усё зроблена па-гаспадарску. «А трэба ў яго павучыцца,— падумаў Андрэй.— Вясной вазьмуся і я. Іван паможа». Цяпер кожная работа, якую ён збіраўся рабіць раней ці пазней, нейкім чынам звязвалася з Іванам. «Іван паможа!» І гэта падбадзёрвала, абнадзейвала. Пра Алену ён не мог так думаць, хоць яна была яго родная сястра.

Андрэй сеў пад яблыняй насупраць Гарасіма. Некаторы час яны маўчалі, пазглядалі адзін на аднаго, вывучалі, хто чаго варты, як людзі, якія адзін пра аднаго ведалі, але сустрэліся ўпершыню. Вывады іх назіранняў былі прыкладна аднолькавыя. «А ён не такі вар'ят, як кажуць людзі, і, мабыць, не вельмі святы... Толькі занадта гладкі і бліскучы, нібы прылізаны і алеем абмазаны». А Гарасім думаў, што Андрэй не такі ўжо закаранелы грэшнік, якім ён лічыў яго дагэтуль, толькі грубы, рэзкі. Кожны з іх не памыляўся.

— Многа падалак, пане Жукоўскі,— сказаў Андрэй.— Дзе вы іх будзеце дзяваць? Прадасце?

— Не, я не гандлёвы чалавек. Рэжу, кладу на бляхі і сушу на печы і ў печы. У посныя дні вару. Кампот называецца. Калі крышачку цукру ўкінуць, добра!

— А ў скаромныя дні не варыце?

— Чаму? І ў скаромныя дні вару. Замест чаю і вады. А вы што, пане Сташэвіч, пастоў не прызнаяце?

— Не, не прызнаю, пане Жукоўскі.

Андрэю захацелася пасмяяцца, пажартаваць з гэтага дзівака.

— От як? — прамовіў Гарасім.— І мама ваша таксама не прызнае?

— Таксама, пане Жукоўскі. Як выйдзе з кубла скаромнае ды запусцяцца каровы, тады ўсе посцім.

— А-а-а! — Гарасім уздыхнуў.— Гэта грэх, пане Сташэвіч. Божых законаў трэба пільнавацца... Бог можа пакараць...

— Я ведаю аднаго чалавека ў нашым засценку, які ўсё жыццё посціць, і бог яго ўсё роўна не мілуе.

— Хто гэта?

— Сымон Ашакевіч. Ён не толькі посціць, але нават галадае, а шчасця яму бог не дае. Дзеці хварэюць. Летась дачка памерла. Вясной карова здохла, хлеба не хапае.

— Яго карае бог... Ён ганарлівых не любіць. А Сымон Ашакевіч ганарлівы.

Андрэй засмяяўся.

— Сымон Ашакевіч ганарлівы? От гэта ўжо няпраўда, пане Жукоўскі.

— Што вы! Ён жа мне ніколі «дзень добры» не дае!

Андрэй як ні трымаўся, але зарагатаў.

— Ён і мне іншы раз не дае «дзень добры», але гэта не ад гонару. Ён за бядой свету не бачыць, людзей не прыкмячае. Жытка яго такая, а хіба ён вельмі многа богу вінаваты?

— Не ведаю, пане Сташэвіч, не ведаю...

— І ведаю я, пане Жукоўскі, другога чалавека, шэльму і злодзея. Ён у царкве грошы збірае, дык і ад бога крадзе, але ніякі чорт яго не бярэ.

Гарасім зацікавіўся.

— Хто гэта? — запытаў ён.

— Ваш арандатар і нейкі там брат — Нічыпар Мартыневіч.

— Што вы, пане Сташэвіч! — здзівіўся Гарасім.— Ён багамольны чалавек.

— Ну, дык я вас злавіў, пане Жукоўскі. Па-вашаму, хто моліцца богу, таму можна і красці і шальмаваць. А я з гэтым не згодзен... Аднак падалкі вашы самі не збіраюцца. Давайце памагу.

Гарасім, мабыць, нярады быў гэтай дапамозе, але Андрэй хутка напоўніў кош, высыпаў яго ў мех, тады падышоў да другой яблыні, і праз нейкае паўгадзіны ўсе падалкі былі сабраны.

— Ну во! Будзьце здаровы.

— Шчасліва. Пачакайце, пане Сташэвіч!.. Вазьміце кош яблык!

— Дзякую, пане Жукоўскі! Аддайце лепш Мартыневічу, а то ён усё роўна выцягне іх з вашага свірна.

Гарасім разявіў рот, потым яго нібы асвяціла: ён зірнуў на свой свіран і рынуўся туды. Андрэй зайшоў у сваё гумно і доўга смяяўся. Ён быў упэўнены, што недавер да Мартыневіча назаўсёды цяпер засеў у душы Жукоўскага. Атрымалася так, што ён заходзіў на прыгуменне гэтага святога чараўніка, каб пасеяць у яго душы нядобрыя пачуцці да бліжняга... Аднак сумленне ў Андрэя было чыстае. Ён нічога не салгаў, бо не адзін раз бачыў, як гэты багамольны злодзей ноччу лазіў у свіран Жукоўскага.

З такой думкай Андрэй заснуў. Разбудзіў яго Тамаш. Андрэй сама разаспаўся, не хацелася ўставаць, але сонца даўно пераваліла за паўдня, гарачыня апала, трэба было зноў весці коней на пашу. Так улетку і праходзіў кожны святочны дзень — ад раніцы да вечара каля коней.

Калі нарэшце Андрэй працёр вочы і, шырока пазяхнуўшы, сеў, Тамаш расказаў, што быў у Жывіцах.

— Быў дык быў,— абыякава адказаў Андрэй.

— Бачыў Ганну.

— Не вялікая навіна.

— Перадаў ёй ад цябе паклон.

— Свіння ты рабая за гэта.

— Добра. Калі я свіння, то больш нічога не скажу.

— А я ў цябе і не пытаўся пра твае Жывіцы. Дай закурыць.

— Свінні не кураць,— пакрыўдзіўся Тамаш.

— Дык парсюкі, такія як ты, курацьǃ

Ён абхапіў Тамаша, абваліў яго на сена, і яны доўга качаліся.

— Я з табою, Андрэй, як з лепшым сябрам. Спрыяю табе,— прадаўжаў Тамаш сваю гаворку, калі зноў абодва селі на сена.— А ты нос адварочваеш. Ганна табе паклон таксама перадавала.

— Забяры яго сабе.

— А ты не вельмі ганарыся. Хіба я не ведаю, што ты думаеш пра яе? Давай сёння вечарам ціхенька сходзім туды. Там музыка будзе.

— Хіба ты не ведаеш, абібок, што ў мяне жалоба? Памінкі па бацьку праз тыдзень, а я пайду музыку слухаць.

— Дурны. Ты пачакаеш там каля могілак. Пасядзіш ці пастаіш. А я Ганну прывяду.

— Яна з табою не пойдзеǃ — узгарэўся Андрэй.

— Калі скажу, што чакаеш, то пойдзе.

Андрэй задумаўся, і твар яго рабіўся ўсё хмурнейшы і хмурнейшы.

— Не,— рашуча сказаў ён.— Што яна падумае пра мянеǃ Бацька памёр нядаўна, памінкі праз тыдзень...

— Што жǃ Ты цэлы год нікуды не будзеш хадзіць?

— Нікуды. Нельга мне... Каму-небудзь іншаму было б можна, а мне не...

— Ну, дык будзь упэўнены, што яшчэ да піліпаўкі стары Асіеўскі Ганну замуж аддасць. А калі не да піліпаўкі, то пасля каляд абавязкова. А ты што жǃ Столькі часу хадзіў да яе, і нехта другі возьмеǃ Я, калі хочаш ведаць, сам не дазволю табе гэтага. Каб у Сташэвіча дзеўку адабраліǃ Такую дзеўкуǃ

Андрэя кранулі не толькі гэтыя словы, але і тон, якім яны былі сказаны. Ён доўга глядзеў на Тамаша і не бачыў яго. Нарэшце схамянуўся і адказаў:

— Не магу сёння... Бацька не пускае мяне сёння, Тамаш. Не магу. Пасля памінак сходзім. Ідзі коней выводзь. А Ганна будзе мая, хоць камяні пасыплюцца з неба. Ты ж не адмовішся памагчы мне?

— Ну, вядома.

Вечарам, калі Андрэй прывёў коней, Іван быў ужо дома. Ён сядзеў на ганку і чытаў.

— Ну, як гуляў у маткі? — запытаўся Андрэй.

— Мне сёння дзядзька Марцін кніжку цікавую ку-

піў,— пахваліўся Іван.— «Вечера на хуторе близ Диканьки» Гогаля. Што за кніжка!

— Цікавая, кажаш? Ну, чытай, чытай. Можа і я прачытаю.

Пасля вячэры не хацелася ісці спаць. Тамаш растрывожыў душу. Андрэй з зайздрасцю глядзеў на Івана, які так захапіўся чытаннем, што ні аб чым больш не думаў. Які б занятак знайсці, каб хоць на гадзіну забыць пра ўсё? Каб не хвалявалі думы і жаданні, каб спакой агарнуў душу, каб уціхамірыць сваё сэрца?

Ён выйшаў на двор. Яшчэ не зусім змеркла, але навокал ужо прыцямнела. На далёкім усходзе палымнела зарыва. Гэта ўсходзіў месяц. Быў ён сёння вялізны і ўрачысты. Млечны Шлях пабялеў; убачыўшы яго, паменшалі зоркі і спалохана заміргалі. На небе ўзыходзіў гаспадар, і прырода адчувала гэта. Цені, як чорныя плямы, ляглі пад дрэвамі і платамі. «Ганна»,— падумаў Андрэй, і воблік яе засланіў усё перад вачыма... Ён пастаяў некалькі хвілін і пайшоў у хату. Маці ўжо спала. Алена была ў сенях. Толькі Іван сядзеў за сталом і чытаў.

— Дзе твае кніжкі? — запытаў яго Андрэй, спыніўшыся каля стала.

— У куфэрку.

— Вымай.

Іван зірнуў на гаспадара, і твар яго расплыўся ў такую харошую ўсмешку, што Андрэй зрабіў выгляд, нібы ўзлаваўся.

— Вымай, кажу я табе! Няхай ляжаць на покуце! У нас малых няма. Няма каму рваць.

Іван выцягнуў з-пад лавы свой куфэрак. У той вечар позна яны пайшлі ў гумно спаць, бо Андрэй уваткнуўся ў «Антона Горемыку» і захапіўся ім.

Аднак кніг сваіх Іван так і не выклажыў на покуць. Яны былі яго самым даражэйшым скарбам. Але куфэрка ён больш не замыкаў, і Андрэй сам браў адтуль кнігі, калі хацеў.

## РАЗДЗЕЛ ДЗЕСЯТЫ

Сярод тыдня Андрэй паехаў у Старочын, каб зрабіць пакупкі да памінак. Дзень стаяў невясёлы. Укрытае шэрымі хмарамі неба гатова было лінуцца да-

жджом. У такія дні прырода набывае сумны асенні выгляд, але калі выгляне сонца — зноў усё засвеціцца, абмаладзіцца, заблішчыць.

Дарога спачатку ішла цераз поле. Было яно голае, тужлівае, закінутае. Сям-там відны былі аратыя, чорныя гракі хадзілі за імі, падбіраючы чарвякоў. Андрэй выехаў на раскрыжаванне. Тут канчалася засцянковая ворная зямля. За шляхам, што вёў у Старочын, ляжаў абшар пяску, парослы рэдзенькім сіўцом. Тут нават для авец не было пашы. Уехаў у лес — слаўныя маліпаўскія Маргі. Навокал стаяў сасоннік. Лес называецца! Ёсць чым «ганарыцца» маліпаўцам. Хоць бы адно роўнае дрэва. Адны крывуліны, ды так фігурыста выгнутыя, што каб і хацеў, то гэтак не зрабіў бы. Уся зямля скрозь завалена шыпулькамі, шышкамі, сухім галлём. Ні адна травінка не праб'ецца праз іх. Толькі грыбы вылазяць, падымаючы на сваіх шапках пласт лясной прэлі. І цішыня. Нават не чуваць ляснога шуму.

Калёсы шорхаліся ў пясчаных каляінах, якія ўслед і засыпаліся, пераскоквалі цераз карэнне, што часта вытыркалася з грунту. Увесь Маргоўскі лес падзяляўся на ўрочышчы, якія мелі свае назвы. Андрэй праехаў Кавалёва, Дзедаў лес і Арабінку, наперадзе былі Падпнёўе і Равок. Родныя з маленства мясціны. Нечым далёкім, але бясконца мілым і дарагім павеяла ад іх. І Андрэя агарнула замілаванне. Што ж такое радзіма? Можа ён забыў бы сваю хату, гразкі засценак, Мартыневічаў і Нарбутовічаў, але гэтых Маргоў, дзе ён правёў пастушком свае лепшыя дзіцячыя, бесклапотныя, па-свойму шчаслівыя гады, ён не забудзе ніколі. Тут яму была вядома не толькі кожная мясціна, але і кожнае дрэва, калі яно чым-небудзь адрознівалася ад іншых. Ён пасвіў толькі сваю скаціну, спачатку свіней, потым кароў і коней, але колькі разоў мок і мёрз пад дажджом, плакаў, шукаючы згубленую карову, кульгаў на адной назе, бо другую застраміў. Былі і вясёлыя выпадкі: у Падпнёўі злавіў вавёрку. Яна абкусала яму пальцы, але ён прынёс яе дамоў. Назаўтра яна ўцякла, і дзятва з усяго засценка ганялася за ёю па садах. Не злавілі.

А вось і Равок — невялічкі ручаёк, што перасек дарогу і даў сваю назву лесу, па якім цёк. Тут рукі Андрэя міжвольна нацягнулі лейцы. Андрэй нават не

ведаў, чаму суняў кабылу... Ага! Гэта ж тут ён першы раз убачыў Ганну. Тады яго сэрца трымала ў палоне Адэля Арлоўская. Ганна была яшчэ падлетак. Тонкая, вастраплечая дзяўчына, з ледзь прыкметнымі камячкамі грудзей. Але твар! Андрэй зірнуў у яе вочы, і яго нібы сонца асвяціла. Ён нават не ведаў, ці прыгожы яе твар, але ён увесь струменіўся шчырасцю, прастатой і непасрэднасцю. Ён прыцягваў да сябе ўсіх. Калі вялі дадому коней, пра яе толькі і гаварылі.

— Ну і дзяўчына вырасце ў Асіеўскага,— сказаў тады Сымон Ашакевіч.

— Красуня! — дадаў стары Талімон.

Гэта сустрэча і паклала канец каханню да Адэлі, хоць Андрэй і не мог сказаць, што закахаўся ў Ганну. Ён і цяпер гэтага не ведаў. Але хацелася, каб яна належала яму, а не каму-небудзь другому.

Аўрам Выпустак жыў на Слуцкай вуліцы ў невялічкім доміку. Андрэй заехаў спачатку да яго, прывязаў лейцы да слупка і зайшоў у хату. Аўрам сядзеў у першым пакоі каля стала і быў падобны на статую. У вачах яго свяціліся жаль і раскаянне. Ён не адразу адказаў на прывітанне Андрэю, доўга глядзеў на яго, нібы на пустое месца. Потым схамянуўся, падхапіўся з крэсла, пацісну́ў руку, паспрабаваў усміхнуцца, але пачуцці, што таіліся ў яго вачах, не зніклі, і ўсмешка не выйшла.

— Садзіся, Андрэй... Садзіся...

Андрэй сеў. «Прыехаў не ў час,— падумаў ён.— У Аўрама нейкае няшчасце».

— Ты не глядзі на мяне так, Андрэй...— сказаў Аўрам.— Не глядзі так...

— Я, мабыць, сёння лішні ў вашай хаце, Аўрам...

— Не. Ты ніколі не будзеш лішні ў маёй хаце, як я ніколі не быў лішні ў тваёй...

— Нешта здарылася, Аўрам, і, мабыць, невясёлае?

— Зусім невясёлае... Нават сумнае... Але ты, Андрэй, не думай, што смерць.

— Не дай бог.

Аўрам выйшаў у другі пакой, скора вярнуўся адтуль і, махнуўшы рукою так, нібы хацеў адагнаць нешта прыкрае, сказаў:

— І чаго яна плача? Скажы мне, Андрэй, чаго яна плача! Хіба яна сама гэтага не хацела!

— Я нічога не ведаю.

— Не ведаеш? Ты не ведаеш, што мае сыны паехалі ў Аргенціну?

— Не, Аўрам. Першы раз чую.

— Ну, дык яны паехалі... Тры дні таму назад. Абодва: Хаім і Юдаль. А яна плача... Тры дні плача.

Андрэй не ведаў, што адказаць. Ён падумаў, што прыехаў сапраўды не ў час. А што плача Аўрамава жонка, то няма ніякага дзіва. Яго маці таксама плакала б, каб ён паехаў у тую Аргенціну. Але яму здалося, што Аўрам і сам плача і не можа супакоіць жонку, бо яго самога трэба супакойваць.

— І от, Андрэй...— прамовіў Аўрам.— Яны паехалі да яе брата... Да жончынага брата... Ён бяздзетны і выпісаў маіх сыноў, сваіх пляменнікаў. Хіба я гэтага хацеў! Я казаў: не трэба ехаць! Няхай тая Аргенціна морам стане. Нашто нам тая Аргенціна?! А яна сама хацела, а цяпер плача... І я не ведаю, што мне рабіць... А хіба сыны вельмі хацелі ехаць? Ат... Хаім старэйшы, дык ён нічога. А Юдаль... калі развітваўся з маткай, то іх ледзь адарвалі адно ад аднаго,— Аўрам усхліпнуў і адвярнуўся.— Ты не думай, што я плачу... Не такі я плакса, як яна... Ты, Андрэй, скажы ёй, няхай яна не плача. Хіба тая Аргенціна за марамі? Ты скажы ёй, Андрэй! Я яе пазаву.

— Не ведаю, Аўрам... Што я ёй скажу? Ды яна мяне не паслухае.

— Паслухае, Андрэй! — упэўнена сказаў Аўрам.— Ты нешта прыдумай. Ты скажы ёй, што людзі не варочаюцца толькі з таго свету, а з Аргенціны варочаюцца. Дурныя суседкі кажуць, што яна больш не ўбачыць сваіх сыноў... І яна плача. А што я зраблю!

У гэты момант адчыніліся дзверы, і з другога пакоя выйшла высокая прыгожая жанчына. Яна сунулася, як цень, бязмерны жаль і гора сагнулі яе стройную постаць. Яна, мабыць, нічога не бачыла перад сабой, акрамя сваіх сыноў.

— Слухай, Хася, ты сядзь,— сказаў Аўрам і, падхапіўшыся, як юнак, асцярожна пасадзіў яе на крэсла.— Ты сядзь ды паслухай. Бачыш? Прыехаў Андрэй з Малінаўкі... У Андрэя бацька памёр нядаўна... Хіба Андрэй не шкадуе свайго бацькі, хіба ён не

плакаў! Але ж нельга ўвесь час плакаць... Сёння плакаць, і заўтра, і паслязаўтра... Нельга!.. Андрэеў бацька ўжо не вернецца, з таго свету не прыедзеш. А Аргенціна! Далёка тая Аргенціна! — Аўрам нават здзекліва ўсміхнуўся з той Аргенціны.— Хіба яна за марамі!

Твар жанчыны праясніўся. Яна пазнала Андрэя і кіўнула яму.

— Стары Юстынь памёр,— сказала яна.— Ён у нас часта бываў.

— А я ў яго? — усклікнуў узрадаваны Аўрам.— Я ў яго яшчэ часцей быў. Мы з ім сябравалі. Ага! Мы з ім і па чарцы пілі! І от бачыш: Юстынеў сын Андрэй пачуў, што нашы сыны паехалі ў Аргенціну, а ты плачаш, дык ён знарок заехаў сказаць табе, каб ты не плакала. Зна-рок!

— Так, Хася,— сказаў Андрэй.— Вашы сыны не на вайну пайшлі, а да роднага дзядзькі паехалі. Людзі на вайну ідуць, і то жывыя варочаюцца.

— Ах, як добра ты сказаў, Андрэй! — падхапіў Аўрам.— Чуеш, Хася, што ён сказаў? Не на вайну! А мы калі захочам, то паедзем да іх. Або яны да нас! Абы захацелі. Так, Андрэй?

— Вядома, так! І плакаць няма чаго, бо не на смерць яны паехалі.

— Чуеш, Хася?

— А шукаць добрага жыцця.

— Чуеш, Хася?

— А не спадабаецца — назад вернуцца.

— Чуеш, Хася?

— А калі будзе добра, то вы да іх паедзеце.

— Во! — Аўрам падміргнуў Андрэю.— Мы можам да іх на сваім кані паехаць! Памаленьку, памаленьку — і там! Так, Андрэй?

— Вядома, што так.

Твар жанчыны пасвятлеў. Яна ўсміхнулася.

— Ну, дык скажы мне, чаго ты плачаш, Хася? Ты як нажом рэжаш маё сэрца... Мне трэба ехаць зарабляць хлеб, а я не магу цябе пакінуць. Ты тут памрэш без мяне...

— Не,— адказала жанчына і паклала далонь на яго галаву.— Ты, Аўрам, цяпер можаш ехаць куды табе трэба... Толькі ты будзь асцярожны, Аўрам... Ты цяпер у мяне адзін...

— Ух! — Аўрам з палёгкай уздыхнуў.— Ты за мяне не бойся, Хася! Ты яшчэ не ведаеш, чаго я варты!

Праз некаторы час Андрэй развітаўся і выйшаў. Аўрам правёў яго.

— Ты да мяне нейкі інтэрас маеш, Андрэй? А я, бачыш, як прыняў цябе... Але дзякуй табе. Скажы цяпер, што табе трэба?

— Я хацеў купіць мяса. Памінкі па бацьку ў нядзелю.

Аўрам задумаўся.

— Ты едзь да Хемы Капчыца. Ён табе дасць пару авечых задкоў. Ён табе з-пад зямлі іх дастане. А не, то бяры цэлую авечку. А разлічвацца будзеш са мной, бо Хема мне вінен. Я яму напішу паперку. Ён табе дасць мяса без грошай, толькі ты добра глядзі на вагу, бо я ведаю Хему. Скруціць! Ён хітры чалавек.

Андрэю ўдалося справіць усе пакупкі вельмі скора. З лёгкай Аўрамавай рукі ён узяў у Хемы авечую тушу, у Гірша Рыкліна купіў пытляванай мукі, а ў Зэліка Рыўкіна селядцоў. Толькі запакаваў усё на возе і закурыў перад ад'ездам, як убачыў Лукаша Асіеўскага з Жывіцаў, Ганнінага бацьку. Высокі, сівавусы, ганарысты і недаступны, ён прайшоў каля Андрэевага воза і зрабіў выгляд, што не прыкмеціў Андрэя. Андрэй з нянавісцю зірнуў яму ўслед. «Багацей! Стары сабака! Ты са мной павітацца не хочаш? Дык пачакай! Будзеш вітацца, як міленькі!»

Раптам незразумелае пачуццё падказала Андрэю, што Асіеўскі тут не адзін, што ён прыехаў з Ганнаю. Андрэй павярнуў каня і зноў пад'ехаў да Хемы Капчыца.

— Хема! Няхай каля тваё крамы пастаіць мой воз. Мне трэба схадзіць у адно месца.

— То ты вымі з воза ўсё, што ў ім ёсць, і занясі ў лаўку. А то я адсюль не ўпільную.

Андрэй так і зрабіў. Ён кінуў кабыле сена і пайшоў. Прайшоўшы па рынку між вазоў, якіх сёння было ў мястэчку мала, ён убачыў сівую кабылу Асіеўскага, вядомую ва ўсім наваколлі. Яна была распрэжана і прывязана да воза. Каля воза стаяла Ганна. Яна папраўляла прычоску і перавязвала белую хустку. Андрэй на момант спыніўся і залюбаваўся дзяўчынай, але яна зірнула на яго і не то здзівілася, не то спалохалася.

— Дзень добры, Ганна! — сказаў Андрэй, падышоўшы да яе.

— Дзень добры, Андрэй...

— Ты мяне як быццам баішся?

— Не, Андрэй... Але...

— Ведаю. Бацька твой тут. Бачыў яго. Прасунуўся каля мяне...— хацеў сказаць «як свіння», але ў час абдумаўся,— і дзень добры не даў.

— Можа не бачыў...

— Ён мяне не хоча бачыць, хоць я нічога яму не зрабіў. Што ён да мяне мае, Ганна?

— Адкуль я ведаю!..

— Не ведаеш?..— ён перадыхнуў, нібы яму не хапала паветра.— Ведаеш, Ганна. І я ведаю... Слухай!..— ён хацеў узяць яе за руку, але яна адхапіла яе.

— Не чапай мяне тут, Андрэйка...

Каб не гэтае слова і не гэты рух, Андрэй сказаў бы нешта непатрэбнае, бо злосць закіпела ў яго душы, але ён зразумеў, што яна баіцца бацькі.

— Не бойся, Ганна. Я не людаед, хоць твой бацька і думае, што я гатоў праглынуць яго не жуючы...

— Ах, Андрэй, не гавары такога...

— Я табе і не такое скажу. Мне даўно трэба пабачыцца з табою, але, сама ведаеш, нельга мне цяпер сустракацца. Гэта проста маё шчасце, што сёння ты тут і што сэрца маё падказала мне... Я чуў, што да цябе жаніхоў многа прыязджае. Ведаю я іх! Саракагадовыя жаніхі з гнілымі зубамі! Дык от ведай: калі выйдзеш за каго-небудзь, то не будзе вам шчасця, ні табе, ні яму! Чуеш, Ганна! Не будзе шчасця! У гэтым ты мне можаш паверыць, бо ведаеш, які я!

Яна спалоханымі вачыма глядзела на яго, і ён змоўк. Раптам вочы яе напоўніліся слязьмі, і яна закрыла іх далонямі. У Андрэя зашчымела сэрца.

— Не, Ганна... Мабыць, у мяне не хопіць сілы зрабіць табе зло. Дык і ты не рабі мне яго. Чуеш? Ты павінна чакаць год. Адзін год, пакуль не кончыцца жалоба. Гэта не так доўга. Бацька твой пашкадуе цябе і не аддасць за таго, за каго ты не хочаш. Ты ў яго адна. І не звер жа ён усё-такі. Чуеш, Ганна?

— Андрэйка...

— Я ведаю, што ты хочаш сказаць. Што твой бацька не любіць мяне. Ну, дык і я яго не вельмі люб-

лю. І брата твайго не вельмі паважаю. Нашто яны мне! Мне трэба ты, Ганна, ты! Ты разумееш гэта?

— Андрэйка...

Яна зірнула на яго такімі адданымі і чыстымі вачыма, што ён адчуў сябе нягоднікам. Як ён пасмеў так гаварыць з гэтай дзяўчынай! Гэта не Адэля Арлоўская і не яго сястра Алена. Яе няможна крыўдзіць, яе грэх крыўдзіць...

— Даруй мне, Ганна. У мяне ўсё загарэлася ўсярэдзіне. Гэты твой бацька... Я праз яго вар'яцею. Ты сама ведаеш, што мне ўвесь год амаль немагчыма будзе сустракацца з табой. Цэлы год. Але ты вер мне, чакай мяне. Добра, Ганна?

— Каб я ведала, Андрэйка...

— Ведай! І вер. Як самой сабе. Больш! Ну, дык от, я ўсё сказаў... А цяпер мне трэба ісці, бо вунь прэцца твой бацька.

— Ідзі, Андрэйка, ідзі! — сказала яна, кратаючыся рукою да яго грудзей.

## РАЗДЗЕЛ АДЗІНАЦЦАТЫ

Маёнтак пана Крупскага размясціўся непадалёку ад сяла Чыжэвічы на беразе ракі Случ. Зямля тут была ўраджайная, найлепшая ў наваколлі, адразу за ракой пачынаўся заліўны луг, таксама найлепшы ў наваколлі, а за ім — лясная дача Далева, найлепшая з усіх лясных дач на Случчыне. Яна займала больш за пяць тысяч дзесяцін бору і запаведных дуброў. Тут нават клён, ясень, граб і вяз былі рэдкімі дрэвамі. От якая гэта была дача. Усё навокал панскае — зямля і вада. Нават рыбу лавіць у Случы было забаронена мужыкам.

Вёрст за пяць ад маёнтка знаходзіўся фальварак Бярозаўка. Ён таксама належаў пану Крупскаму.

У самым маёнтку быў бровар і вялікі паравы млын на вальцах. Пан Крупскі ўмеў гаспадарыць і лічыўся адным з самых багатых абшарнікаў на Случчыне. Адзін толькі сад яго займаў дзесяць дзесяцін. Тут, у садзе, стаяў панскі палац — трохпавярховы гмах, які ўпрыгожваў бы не толькі Слуцак, але і Мінск.

Пан Крупскі з сям'ёй рэдка прыязджаў у свой маёнтак. Жыў у Варшаве, наведваў Парыж і іншыя ста-

ліцы. Усе справы ў маёнтку і фальварку вёў хітры немец Гендарсан.

Вось з гэтым Гендарсанам і не ладзіў у свой час парабак Якаў Шэмет.

У нядзелю выдаўся хмарны, невясёлы дзень. У любую хвіліну з нізкага неба гатовы быў пачаць сеяцца дробны дождж.

У двары Яўхіма Халусты ў такое надвор'е было яшчэ змрочней, чым у мінулыя дні. Ён сёння нагадваў турэмны двор. Сам Яўхім, пануры і злосны, быў падобны на турэмнага наглядчыка. Ён сноўдаўся ад свірна да хлявоў, ад хлявоў да гумна, ад гумна да хаты, правяраў, ці ўсё ў парадку. І да якой бы будыніны ні падыходзіў, усюды яго сустракала сабачае гырканне.

— Абжыраеце вы мяне, каб вы падохлі,— бурчаў Халуста.

Калі рыпнулі хатнія дзверы і на двор выйшаў Якаў Шэмет, Яўхім спыніўся. Якаў ішоў да брамкі.

— Куды ты? — гукнуў яму ўслед Халуста.

— У Чыжэвічы,— не спыняючыся, адказаў Якаў.

— Пачакай, ліха матары тваёй! Пачакай! Хіба ў цябе работы няма?

— Сёння нядзеля. Забыўся, як дамаўляліся?

Халуста хапіўся за галаву. Ён думаў, што і гэтага парабка возьме ў свае рукі, так, як браў другіх. Але гэтая гарадская басота не хоча паддавацца.

— А калі ж ты вернешся?

— Заўтра раніцай.

— Ах, які ж ты памятлівы, злодзей... Які ж ты памятлівы... Ну, ідзі, каб ты адтуль не вярнуўся!

— Табе ж горш будзе,— адказаў Якаў і выйшаў на вуліцу.

Нідзе не было ні душы.

Якаў выйшаў за засценак і пашыбаваў па сцежцы, што вяла ў Чыжэвічы. Воддаль віднеўся Хаімаў вятрак. Ён не малоў, і здавалася, што папяросныя яго крылы абвіслі ў знямозе. На поплаве было мокра, сцежка вілася па ім слізкая і вільготная. Калі Якаў прыйшоў у Чыжэвічы, на вуліцы было пуста. Сустрэў толькі адну жанчыну, якая несла вёдры з вадой. Перш за ўсё зайшоў да свайго брата Піліпа. Жыў ён амаль на сярэдзіне сяла, у старой бацькоўскай хаце. Гаспадарку меў бедную. Траціна зямлі, як у Сымона Ашакевіча, вузенькая сядзіба, конь і карова. Палова ўсяго

гэтага належала Якаву, але ён адмовіўся ад яе ў карысць старэйшага брата.

Піліп — трыццацігадовы мужчына, чорнабароды асілак — меў ужо ладную сям'ю: жонку і чацвёра дзяцей. Ён любіў і паважаў малодшага брата, але заўсёды крыху баяўся яго. Часта ў галаву прыходзіла думка, што Якаў возьме ды забярэ сваю частку гаспадаркі. Ён зусім быў супакоіўся, калі Якаў выехаў у горад, а цяпер зноў ахапіла трывога. Трывогу гэтую заўсёды падагравала ў ім жонка Лукер'я, імклівая і гарачая, як кіпень, жанчына.

— От, бач, Піліп,— гаварыла яна мужу,— зноў вярнуўся... З маёнтка немец прагнаў, а думаеш, адтуль ён па-добраму паехаў! І адтуль выгналі...

— Скажаш ты...— абараняў брата Піліп.— Ніхто яго не выганяў...

— Не выганяў! Я ведаю! Ён са сваёй натурай нідзе не ўжываецца... Яго і Халуста выганіць!

— З Халустам і я не ўжыўся б.

— Бо і ты такі! — ускіпела жанчына.— Абое роўныя! Абое рабое! Усе вы, Шэметы, такія задзіракі!

— Сціхні ты! Нехта ў хату ідзе.

У гэты момант Якаў і прыйшоў да брата. Ён яшчэ ў сенцах пачуў гэтую размову і зразумеў, што гавораць пра яго.

— Дзень добры! — весела павітаўся ён і, як дома, адразу сеў на лаву.

Лукер'я зірнула на яго касавата і зласнавата, але Якаў і вухам не павёў.

— Ну, дзе вашы малыя? — запытаў ён.— Тут у мяне пара цукерак завалялася, з горада яшчэ. Сёння ў сваім куфэрку знайшоў.

Лукер'ін твар крыху памякчэў.

— Меншанькі ў калысцы спіць, а тыя да бабулькі пайшлі, да мае мамы...

— То на, аддасі, як прыйдуць. Скажаш — ад дзядзькі.

Ён выняў партабак, згарнуў папяросу і падаў партабак брату.

— Куры, Піліп.

Калі зацягнуліся па першаму дыму, Піліп запытаў:

— Можа ты яшчэ не снедаў, Якаў?

— Снедаў, Піліп, не турбуйся. Хоць у Халусты і не вельмі смачнае снеданне, але я наеўся.

— Як ты з ім ладзіш?

Якаў усміхнуўся.

— Гэта ён са мной ладзіць, браце Пілiп, а не я з ім.

Памаўчалі крыху. Якаў думаў аб тым, што калі яго заўсёды так будуць сустракаць у братавай сям'і, то лепш сюды не заходзіць. Але ён любіў брата, яго дзяцей і не мог цурацца іх. Трэба было нешта зрабіць, каб зламаць гэтую недарэчную варожасць.

— Слухай, Піліп, і ты, Лукер'я. Мне здаецца, што ў вашай хаце я не то што зусім лішні ці непатрэбны... Вы нават баіцеся мяне...

— Што ты, Якаў...— паспрабаваў пярэчыць Піліп.

— Пачакай, брат, дай мне кончыць. Я не хачу, каб так цягнулася і надалей, бо калі і вы станеце мне чужыя, то да каго ж я зайду іншы раз... да каго прытулюся, калі мне будзе цяжка? Вы баіцеся, што я забяру сваю частку зямлі і гаспадаркі, таму і гледзіце на мяне са страхам. Дык от я кажу вам абодвум, што не трэба мне ні зямля, ні гаспадарка. Я не люблю гаспадаркі. Я і да Халусты не пайшоў бы, бо абрыдла мне работа на зямлі. Я ж слесар і каваль.

— Братачка Якаў...

— Пачакай, Піліп. Мы зробім дакумент, што я адмаўляюся ад свае часткі. От і ўсё. А калі другі раз я зайду да вас, то прымайце мяне як роднага, а не як ворага.

Лукер'я абхапіла рукамі яго за шыю, пацалавала і заплакала. Піліп абняў брата і выцер слёзы.

— Якаў, даражэнькі...— праз плач гаварыла Лукер'я.— Каб не дзеткі... Чацвёра... Хлеба ніколі не хапае да новага... Ды які хлеб... Лебяда ды мякіна... Калі на каляды чыстага спячэш, то яны яго, як булку... як булку, адно ў аднаго з рукамі рвуць... А калі на палове жыць, то ў старцы іх трэба пасылаць...

— І самому ўслед за імі...— дадаў Піліп.

— Я ўсе гэта ведаю, і няма тут чаго плакаць і апраўдвацца. Такое жыццё, і пакуль што нічога не зробіш. Але не век яно будзе такое!

— Ай, браце Якаў...— Піліп безнадзейна махнуў рукою.— Няма прасвету... Куды ні ступі, усё панскае... Сціснулі гэтых мужыкоў так, што і пікнуць нельга. Бог зямлю для ўсіх людзей стварыў, а яе паны захапілі.

— Прыйдзе час, Піліп, калі зямля народная будзе. Толькі не трэба думаць так, як думаеш ты. І... калі-

небудзь пагаворым пра гэта больш, а цяпер бывайце. Трэба мне ў маёнтак схадзіць да старых сяброў.

— Не, Якаў, даражэнькі! — Лукер'я заступіла яму дарогу.— Не, я цябе так не пушчу з хаты. Папалуднуеш разам з намі.

— Так, браце Якаў, папалуднуем,— сказаў Піліп.— Лезь за стол.

Ён міргнуў Лукер'і, і яны адышлі да печы.

— Не шапчыцеся там,— сказаў Якаў.— Я ведаю, пра што вы шэпчацеся. Ідзі сюды, Піліп.

Ён выняў кашалёк, дастаў грошы і падаў Піліпу.

— Схадзі да таго Кашча Бессмяротнага, да Арлоўскага, і купі паўкварты.

Пакуль Піліп хадзіў да Арлоўскага, а Лукер'я гатавала на стол, увесь час шмыгаючы то ў сені, то з сяней, Якаў сядзеў і думаў. Думаў пра тое, як моцна трымае чалавека ў сваіх бязлітасных абцугах уласнасць. Як знявечвае яна чалавечую душу. Ён ведаў Піліпа як добрага і чулага чалавека, які не пакінуў бы суседа ў бядзе, падзяліўся б апошнім кавалкам хлеба, але гатовы быў адцурацца роднага брата толькі таму, што той мае нейкае права на яго ўласнасць. І калі брат адмовіўся ад гэтага права, чалавек змяніўся. Зніклі падазронасць, страх, з-за пазухі выпаў камень. А Лукер'я! Дасюль яна заўсёды варожа пазіралa на дзевера і не вельмі таіла гэта, а цяпер нібы перарадзілася.

Тым часам вярнуўся ад Арлоўскага Піліп.

У маёнтку спраўлялі святы дзень, таму не было ў ім той мітусні і тлуму, якія панавалі тут у буднія дні. Не было спакою толькі тым, хто даглядаў панскую скаціну, ды пастухам. Людзей у маёнтку сустракалася мала, бо парабкі адсыпаліся за тыдзень у двухпавярховых камяніцах.

Якаў хацеў убачыцца са сваім старым прыяцелем Станіславам Вярбіцкім, машыністам бровара. Як спецыяліст, Вярбіцкі меў права жыць не ў бараках, як іншыя парабкі, а асобна. Жыў ён у невялікім цагляным доміку, што стаяў каля самага берагу Случы. Тут жа каля доміка быў і агарод, дзе расло некалькі яблынь, ігруш і вішань.

Якаў застаў Вярбіцкага дома. Той нядаўна прачнуўся, і твар яго быў памяты і нясвежы. Гэта быў сухар-

лявы чалавек гадоў пад трыццаць, высокі, гарбаносы. Твар быў даўгаваты, лоб шырокі і маршчыністы, вочы шчырыя і праўдзівыя. Гледзячы ў іх, нельга было салгаць. Яны самі не хлусілі і ўмелі распазнаць злодзея.

— А-а, Якаў! — узрадаваўся Стась, калі Якаў увайшоў у хату.— Я цябе даўно чакаю, аж выспацца паспеў.

— У Піліпа затрымаўся.— Якаў хацеў растлумачыць, як усё выйшла, але падумаў, што гэта зусім не патрэбна.

— Ну, дык садзіся вось тут на лаву. Адзін я пакуль што, Ядвіга выйшла да суседкі. Ну, як ты жывеш у малінаўскага панка? — запытаў Стась.

— Ты ўсё роўна не паможаш мне,— усміхнуўся Якаў.— Як жыву? Работы многа, харчы дрэнныя, а лаянкі — аж з коптурам. Я не маўчу: не горш за яго навучыўся лаяцца. Ён аж усцешыцца іншы раз, гад: «Ліха матары тваёй, дзе ты так навучыўся!» Ты лепш раскажы, што тут у цябе новенькае?

— Амаль нічога, Якаў. Гендарсан лютуе, як і раней.

— Гэта я і без цябе ведаю, Стась... Тое самае было і тры гады назад, калі я рабіў у маёнтку... Трэба сярод людзей работу праводзіць, а ты тут адзін.

— Адзін.

— Няўжо ж тут няма такіх людзей, з якімі можна працаваць? Ты тут агурыўся, Стась, ці баішся, каб зноў не арыштавалі?

— Гэта было даўно, Якаў... Але калі прыйшлося мне пасля арышту без работы паўгода павалачыцца ды з Пецярбурга аж сюды прыехаць, то я, мабыць, такі і агурыўся трохі... І людзі тут не такія, якія былі на нашым заводзе. Я спачатку не разумеў іх.

— Людзей табе пара ведаць. Ты жывеш тут чатыры гады...

— Я жыву тут пяты год, гэта праўда, але парабкі тут мяняюцца кожны год. Не паспееш да чалавека прыглядзецца, а яго ўжо няма. І ўлічы, што гэта не фабрычныя рабочыя, а парабкі.

— Латышскія парабкі маёнткі дзеляць.

— Там спадчынныя парабкі, пралетарыят, а тутэйшыя з зямлёй звязаны.

— Я таксама быў з зямлёй звязаны.

Якаў хацеў сказаць, што ён ужо развязаўся з зямлёй, але гэта было б падобна на пахвальбу.

— Ты — зусім іншая справа. Ты рабіў у дэпо амаль тры гады. Ты ўжо рабочы.

— Дык, па-твойму, тут няма ні ўмоў для рэвалюцыйнай работы, ні людзей, якія маглі б яе праводзіць?

— Я гэтага не казаў. Тут цяжэй, разумееш? А людзі ёсць. Сёння ты сустрэнешся з адным хлопцам. Паглядзіш на яго, пагаворыш. Завуць яго Павел Квітун.

— Хто ён такі?

— Мой памочнік. Мы ўдвух два паравікі абслугоўваем: у млыне і ў бровары. Мне падабаецца гэты хлопец. Пагаворыш з ім сам. Ён ужо тут два гады. Ёсць і другі чалавек, пажылы ўжо, але яшчэ халасцяк. З выгляду вельмі пануры, змрочны нейкі. Адчуваю, што калісьці жыццё яго так ударыла, што ён і да гэтае пары ачухацца не можа. Дарэчы, ён з Паўлам Квітуном жыве ў адной каморы. Завуць яго Платон Шабуня.

— Вельмі добра. А то ты мяне проста агарошыў. Я падумаў, што ў маёнтку і людзей няма.

— Дарэмна ты так падумаў. Людзі ёсць, толькі іх разгледзець трэба. Мне аднаму цяжка, а калі ў нас будзе тры пары вачэй, то мы лепш распазнаем, бо будзем глядзець на іх з розных бакоў.

— Правільна, Станіслаў. Ну, як табе даецца «Што рабіць?» Леніна?

— Цяжка даецца. Я сапраўды адстаў, Якаў. У Пецярбургу ў рабочым гуртку займаўся, там лягчэй было. Чаго сам не разумееш, таварышы памогуць, кіраўнік гуртка. Мы Маркса вывучалі ў перакладах Пляханава. Разумны дзядзька гэты Пляханаў, хоць і панскі сын. «Маніфест» цяжка даваўся. Папацеў я, ды і іншыя хлопцы таксама. Але вялікая справа гурток!..

— Ну, дык чаго ж! Тры чалавекі — хіба не гурток? Нас ужо двое. Калі Павел Квітун надзейны, от табе і трэці.

— На Квітуна я спадзяюся. Вечарам я цябе з ім пазнаёмлю. «Из искры возгорится пламя»! — узнёсла прамовіў Стась.

— Жонка твая скора прыйдзе? — запытаў Якаў.

— Павінна скора прыйсці.

— Ну, дык пакуль яе няма, я табе павінен важную рэч сказаць. Да мяне павінен прыйсці чалавек са Слуц-

ка, праз якога я падтрымліваю сувязь з Мінскам. Дзе мы сустрэнемся і як, той чалавек ведае. Ён прынясе літаратуру і ўказанні аб далейшай рабоце. Але гэта будзе апошняе наша спатканне, бо мне сустракацца з чужым чалавекам, жывучы ў Халусты, небяспечна. Халуста ўвесь час сочыць за мной, куфэрак мой перасае. Таму чалавеку таксама небяспечна. У Слуцак паехаць я не магу, а за дзень схадзіць пехатою туды і назад цяжка. Табе трэба ўзяць сувязь са Слуцкам на сябе. Скора мы павінны атрымаць матэрыялы аб другім з'ездзе РСДРП. Гэта вельмі важна. А як іх атрымаць? Пры сустрэчы я таму чалавеку са Слуцка ўсё растлумачу, а табе дам адрас і пароль. Ці зможаш ты зрэдку бываць у Слуцку?

— Зусім проста. Адзін раз у месяц я маю права браць за стайні каня і ехаць на кірмаш, у госці, куды мне захочацца, толькі не ў будзённы дзень. Гэта мая прывілегія.

— Ты мяне ўзрадаваў, Станіслаў.

— Ты ў мяне пра жонку пытаў,— прамовіў Станіслаў, зірнуўшы ў акно.— То вунь ідзе яна. Яна яшчэ нічога не ведае, Якаў, то пры ёй мы ні аб чым такім гаварыць не будзем.

## РАЗДЗЕЛ ДВАНАЦЦАТЫ

Падвечар неба пачало праясняцца. Памалу хмары аселі над кругаглядам, і сонца перад захадам падпаліла іх сваімі апошнімі праменнямі. Яны ўспыхнулі пурпуровым полымем, і на дварэ пасвятлела. Навокал стала так хораша і ясна, нібы пачалося ранне новага дня.

У маёнтку было ажыўлена. То ў адным, то ў другім месцы чуваць былі гаворка і смех. Людзі выспаліся за дзень і выйшлі на свежае паветра з баракаў-камяніц, падобных на турмы.

Адчыніліся дзверы доўгай аборы-свінушніка. Туды з парыльні насілі парабчанкі поўныя вёдры паранай бульбы «замежным панам» — кароткалычым чорным беркшырам і белым іаркшырам. Са стайні конюх вывеў на шпацыр варанога жарабца. Гэты «высакародны паніч» не знаходзіў месца на шырокім дварышчы, станавіўся дыбка, вытанцоўваў, як самы шляхетны кавалер, выгінаючы прыгожую шыю, высока падымаючы дужыя

тонкія ногі. І конюх завёў яго на луг да Случы, там усё-такі прастарней.

Са свайго асабняка, што стаяў у канцы саду, выйшаў аканом пан Гендарсан. Круглы і ружовы, з маленькім носікам, у капелюшы, ён зірнуў на неба, потым скрывіўся і моцна чхнуў раз, другі і трэці. Тады абцёрся тонкай хустачкай і бадзёра пайшоў выконваць службу. Ён абышоў сад, углядаючыся на яблыні і грушы, абсыпаныя антонаўкамі і бэрамі, цыганамі і зелянухамі, шлянкоўкамі і свентаянкамі, і хмыкнуў ад задавальнення. Сад, як і ў весь маёнтак, Гендарсан лічыў уласнасцю не толькі пана Крупскага, а ў значнай долі і сваёй уласнасцю. Так, усе летнія гатункі садавіны даўно зняты з дрэў і прададзены. Значную частку грошай Гендарсан палажыў у сваю кішэню. Асталіся зімовыя гатункі. Аканом быў упэўнены, што і з іх яму перападзе нямала.

З саду аканом уляцеў у свіную абору і ўшчэнт перапалохаў усіх свінарак.

— Сукіны доч! — закрычаў ён.— Што за безабразі ест? Чаму сольцэ так высак ест, а вы пачаль карміт? Ві сам швіня!

Парабчанкі маўчалі. Не маглі ж яны сказаць аканому, што сёння будзе вечарынка і яны надумалі раней пакарміць свіней, каб і самім крыху прыбрацца. Вылаяўшы свінарак самымі бруднымі словамі, Гендарсан прыгразіў, што ўсіх выганіць вон, і памчаўся далей.

Тым часам вечар набліжаўся. Жанчыны, якім і ў святочны дзень хапае работы, нарэшце знайшлі вольную хвіліну і пачалі збірацца, каб пагутарыць пра сваё горкае жыццё, паскардзіцца адна адной, абмеркаваць усе апошнія навіны.

Павел Квітун увесь дзень не быў у маёнтку. Як пайшоў, паснедаўшы, у Чыжэвічы, дык і прасядзеў там да вечара. У Чыжэвічах ён меў дзяўчыну, дачку Пракопа Крываблоцкага, Надзю. Ужо год хадзіў да яе, але ведаў, што вялікіх поспехаў не дасягнуў. Надзя яго кахала, ён гэта адчуваў, з ёю мог бы згаварыцца, але бацькі! Бацькі былі непрыступныя. Асабліва сам Пракоп. Ён нават не хацеў заўважаць Паўла, бачыў у ім не чалавека, які мае нейкую сваю годнасць, а толькі парабка, нанятага бяздомніка. «Нават жаніцца парабку нельга. Ён не мае на гэта права,— думаў Павел.—

Які там гаспадар Крываблоцкі, а праспрабуй пасватацца да яго дачкі! Ён перш за ўсё запытае: «А дзе твая хата, чалавеча, якая ў цябе гаспадарка? На чыім кані ты павязеш маю дачку і тое, што я ёй дам у пасаг, і куды павязеш?» От якое жыццё. З Марцінам, Надзіным дзядзькам, дамовіцца было б лягчэй, але сам Марцін нібы за парабка ў свайго брата Пракопа, і гэтае справы ён не вырашыць...»

Павел вярнуўся ў маёнтак у дрэнным настроі. Нават пагутарыць адзін на адзін з Надзяй не ўдалося. Не то што яна пазбягала яго, а проста не выйшаў такі выпадак. Як гэта цяжка! Тыдзень не бачыць каханую, прагнуць спаткання — і калі, нарэшце, прыйшоў гэты час, не сказаць ёй ні слова.

Страшная справа. Пан Крупскі пагарджае сваім аканомам Гендарсанам, той і ў грош не ставіць маліна ўскую шляхту, шляхта не прызнае за людзей чыжэвіцкіх мужыкоў, а чыжэвіцкія мужыкі не прызнаюць панскіх парабкаў. Яны самыя апошнія, самыя абяздоленыя... Ім няма месца сярод людзей...

Сёння Павел прыйшоў да Крываблоцкіх з паўквартай спірту. Купіў у старога Яся — подвальнага ■ бровара. Меркаваў, што, выпіўшы чарку, Пракоп стане падатлівейшы. А што з гэтага выйшла! Пракоп нават не сеў за стол, павярнуўся і пайшоў з хаты. Ён не хоча ■ парабкам нават сядзець за адным сталом. Усю паўкварту выпіў адзін Марцін, сам Павел узяў толькі адну чарку, бо мала таго, што ты парабак, не пасмей жа яшчэ праславіцца як п'яніца. Тым усё і кончылася. Марцін гаварыў пра палітыку, пра вайну, чытаў уголас пецярбургскія газеты. Дзякуй яму і за гэта, а то Паўлу зусім не было б чаго рабіць у Крываблоцкіх, хоць забірай шапку і ўцякай з хаты...

Дзівак гэты Марцін. Ён перакананы, што Павел ходзіць да Крываблоцкіх толькі дзеля яго. Было б вельмі добра, каб так думаў і Пракоп. Але, мабыць, Пракоп падазрае праўду. Ён іншы раз так калюча паглядае на Паўла, што таму хоць скрозь зямлю праваліся.

Добра, што перад самым адыходам Паўла Надзя здагадалася выйсці ў сені. Пацалаваліся крадком, як злодзеі. Шапнуў, каб прыйшла на вечарынку ў маёнтак. Яна толькі ўсміхнулася і адмоўна кінула галавою. Каб яна, гаспадарская дачка, пайшла на парабкоўскую вечарынку! Вось якое жыццё. А паспрабаваў

бы парабак з'явіцца на вечарынцы ў сяле! Наўрад ці вярнуўся б ён дадому цэлы. Паказалі б яму гаспадарскія сыны, дзе зімуюць ракі.

Каб скараціць дарогу да свайго барака, Павел не пайшоў праз вароты. У яго была свая, вядомая толькі яму аднаму пуціна праз панскі сад. Ён пераскочыў плот і пайшоў каля кустоў акацыі, каб не трапіць на вочы аканому, які падняў бы, вядома, лямант на ўвесь маёнтак. Аднак сёння яму не ўдалося прайсці непрыкметна. Здаецца, мінуў усе небяспечныя мясціны, трэба было толькі збочыць да свайго барака, як перад ім, нібы з-пад зямлі, паўстала жаночая постаць. Павел спыніўся. Позірк яго сустрэў халодныя, але цікаўныя вочы высокай светла-русай дзяўчыны, падобнай на здань. Гэта была аканомава дачка Эльза. Павел рашуча пайшоў наперад. Эльза правяла яго доўгім позіркам.

Гэта была не першая такая сустрэча. Ужо некалькі разоў Эльза нечакана сустракала яго, прытым у такіх мясцінах, дзе Павел наогул не падумаў бы, што каго сустрэне. І вочы ў гэтай Эльзы заўсёды былі такія ж: халодныя і цікаўныя.

«Няўжо гэта выпадковасць? — думаў Павел. — А калі не, то што мае да мяне аканомава дачка? Што ёй трэба? Выпадковасць! Выпадкова можна сустрэцца раз або два, на дарозе, а не на глухой сцежцы. Гэта зусім не выпадкова, а нейк загадкава. У садзе, напрыклад, ён дагэтуль не сустракаў яе. Сустракаў вечарам на лузе, калі ішоў пасля купання са Случы, сустракаў каля бровара, на дарозе да лясной дачы Далева, за ракой. І заўсёды гэтыя халодныя, цікаўныя вочы. Няўжо яна яго прыпільноўвае? Але навошта?»

Так ні да чаго і не мог дадумацца Павел. Аднак сёння і яго ахапіла цікаўнасць. Што, уласна, за чалавек гэтая высокая бялявая дзяўчына-чужаземка? У маёнтку яна бывае толькі ў час вакацый летам ды зімой, астатні час вучыцца ў Мінскай жаночай гімназіі. Мабыць, сумна ёй тут, няма раўні, таму і шукае незвычайнай вясёлай прыгоды. Сярод паненак сустракаюцца такія шукальніцы. І назваць яе непрыгожай нельга. Толькі прыгажосць яе непрывабная, чужая. Хіба можна параўнаць яе з Надзяй? А так з выгляду нішто сабе — высокая, статная, зграбная, не падобна на сваю доўгую качаргу матку і тоўстага гарбуза бацьку.

З такімі думкамі Павел прыйшоў у барак у свой

пакой. Сеў на нары, дзе разам з ім спала яшчэ два чалавекі, і яму стала сумна. Нары былі прасторныя, качайся на голых дошках колькі ўлезе, але не вельмі качаліся парабкі. Як напрацуецца за дзень ды як завваліцца на спіну ці на бок, дык да раніцы і не паварухнецца. Жоўтыя з рыжымі плямамі сцены патрэсканай атынкоўкай, якая абсыпалася цэлымі кавалкамі, нізкая парыжэлая столь, брудная падлога — усё гэта навадзіла на невясёлыя, цяжкія думкі.

З двух Паўлавых сяброў у пакоі быў толькі адзін, Міхаль Рожка. Ён, відаць, нядаўна прачнуўся, бо сядзеў на нарах раскудлачаны, пануры і злосны.

— Да Надзі валачыўся? — злосна запытаў ён у Паўла.— Кавалер! Выспацца не ўмееш за тыдзень адзін раз. Богам дадзенага адпачынку скарыстаць не ўмееш. А заўтра носам кляваць будзеш на рабоце.

Павел здзіўлена зірнуў на Міхаля.

— Чаго ты ўз'еўся без дай прычыны? За панскую работу хварэць пачаў? Не бойся, носам кляваць не буду. Машыны ў бровары ладзім, дык стуку і груку столькі, што нежывы прачнецца!

— Стуку і груку... Толькі што стуку ды груку, а карысці колькі!.. Дурань ты, от што!.. Але можа Пракоп Крываблоцкі ў прымы возьме басяка, галяка, сцягача з усяго свету.

— Ідзі лепш памыйся, Міхаль.

Міхаль зірнуў на Паўла, нешта хмыкнуў і выйшаў. Павел зразумеў, што з хлопцам творыцца нешта няладнае. Між тым вярнуўся Міхаль, памыты, расчэсаны і павесялелы.

— Ну?

— Што ну?

— Як твая Надзя?

Павел нахмурыўся.

— Што табе да мае Надзі? Ты лепш пра сваю Любу раскажы.

— Мне няма чаго расказваць... Мы з ёй калі захочам, дык заўтра ж у царкву да Сулкоўскага пойдзем... А там пан аканом і каморку нейкую дасць... Жывіце, «рускі швіня», пладзіцеся, пускайце на свет сабе падобных, голых ды босых... А ты і такога шчасця не маеш.

— Ты што? — ускіпеў Павел.— Здзекуешся з мяне?

— Дурань ты! Здзекуешся... Я сам з сябе здзекуюся.— Ён хапнуў рукамі за галаву і з адчаем зірнуў на Паўла.— Ведаеш?.. Люба мая загрубела. Загубіў я дзяўчыну...

— Што? — Павел не верыў сваім вушам.

— Больш як два месяцы...

— Ну дык што ж! Жаніцеся! Дзівак-чалавек!

— Жаніцеся... А жыць як? — закрычаў Міхаль.— Скажы, як жыць? Ты бачыў, як жывуць сямейныя? Быў у іх бараках? А-а? Бачыў? Нюхаў іх жыццё?

Павел схапіў яго за грудзі і прыцягнуў да сябе.

— Сукін сын! Ты што? Жаніцца з ёю не думаеш?

— Пусці, Павел... Я ж табе не казаў...

Павел страсянуў яго і адпіхнуў ад сябе:

— Вымятайся адсюль, свіння! Чуеш? Ідзі шукай сабе другога месца. Прыйдзе Платон — мы цябе, лыску, выкінем адсюль.

Міхаль пабялеў. Чуб яго смешна павіс на правае вуха.

— Слухай, Павел...— сказаў ён глухім голасам.— Я ж люблю яе... Ты разумееш гэта? Люблю! Але як жыць?.. Гендарсан пакуль каморку дасць, дык душу з цела выме... А потым? Яна ў свінушнік, а я — куды аканом дашле... А потым дзіця... І... на маёй шыі двое... Як жа жыць?..

— Маўчы, шэльма! А як яна будзе жыць з дзіцем? Адна, як палец!.. Ды каб мая Надзя загрубела — я да неба падскочыў бы. Тады Крываблоцкі з радасцю аддаў бы яе за мяне.

Міхаль з цікавасцю і недаверам зірнуў на Паўла.

— Дык слухай, Павел... Я сёння скажу Любе... Яна змарнела за гэтыя дні. Плача і плача... Што ж, ёсць чаго плакаць. Чуеш, Павел? Я скажу ёй сёння. А ты, Павел, падбадзёр яе. У тую нядзелю павянчаемся. А то я сабе месца не знаходзіў...

— Бо дурань легкадумны. Добра, што хоць не шэльма, а то я падумаў пра сябе: сябраваў з такім нягоднікам. Мы ж з табой, здаецца, крыху сябравалі?

— Вядома, Павел. Мы, ведаеш, цябе за кума возьмем. Люба будзе рада. Яна цябе вельмі паважае. Ты згодзішся?

— З радасцю.

— А Люба, браце Павел, такая харошая дзяўчына! І добрая, і разумная, і рабіць усё ўмее. Але бог долі

не даў. Яна з маленства круглая сірата. Тут, у маёнтку, і вырасла.

— Не, Міхаль, і бог і чорт тут ні пры чым. Жыццё наша такое сабачае. Паны ды вось такія аканомы адабралі нашу долю. Думаеш, лепш жывуць мужыкі? Ведаю я! Некаторыя жывуць, а большасць палец смокча. Зямлі мала. Вунь у Чыжэвічах мала ў каго свайго хлеба хапае. А падаткі! Хоць з калена вылamі, а заплаці, а то апошнюю карову з хлява пацягнуць. Мне Марцін Крываблоцкі расказваў пра мужыцкае жыццё, ды і сам я не сляпы, бачу. Зямля неўрадлівая... Я не ў першым маёнтку. Міхаль, і дзе ні быў — усюды што лепшае, дык і панскае. Зірні, якая зямля ў маёнтку і якая ў сяле. Тут дзіцё пасадзі, дык вырасце, а там пустазелле расці не хоча. Або сенажаць. У пана заліўны луг пад бокам, а ў іх балота за дваццаць вёрст. І ўсюды так. Марцін Крываблоцкі не дурны чалавек, хоць і п'е. Ён газеты чытае. Ужо, браце Міхаль, мужыкі з сякерамі ды косамі падымаюцца на паноў. А ў гарадах што робіцца!..

— Маўчы, Павел... За такія размовы ў Сібір ссылаюць...

— А ты што — аканому ці ўрадніку данясеш? — гнеўна запытаў Павел.

— Ду-урань ты! Вунь, чуеш, Платон ідзе.

У доўгім калідоры сапраўды чуваць былі крокі.

Пасля заходу сонца неба зусім ачысцілася ад хмар. Вечар пачаўся ясны, але халаднаваты. Над лугамі і Случчу курыўся туман. З вялікага барака, дзе харчаваліся адзінокія парабкі, чуліся гукі гармоніка і бубна. Вечарынка ішла поўным ходам.

Station Станіслаў Вярбіцкі і Якаў Шэмет, абодва на першы погляд п'янаватыя, зайшлі ў памяшканне, біткам набітае моладдзю. Музыкі igралі кракавяк, і ўся сярэдзіна памяшкання была занята тымі, хто танцаваў. Уздоўж сцен на лаўках сядзелі пажылыя, што прыйшлі пацікавіцца, успомніць маладосць. Пад столлю вісела вялікая лямпа, але ў вялізным пакоі было цемнавата. Станіслаў пайшоў уперад, а Якаў спыніўся каля Станіслававай жонкі і запрасіў яе на танец.

— Дадумаўся з бабай танцаваць,— сказала яна ўсміхаючыся, але лёгка падхапілася з месца і падала Якаву руку.

— Хіба мы першы раз танцуем з табой, Ядвіга? — сказаў ён, выводзячы яе ў круг.

— Тады я маладзейшая была... Але дзе вы напіліся, чэрці? Толькі з хаты выйшла — і ўжо гатова. Напэўна, у Яся-подвальнага былі?

— Умеючы, нядоўга напіцца, Ядвіга! Раз, два — і гатова. А ты яшчэ і цяпер дай божа кожнаму.

Яны ўзялі такт і пайшлі.

Станіслаў тым часам знайшоў у натоўпе Паўла Квітуна. Пажартаваў, як жартуюць п'яныя, не смешна і не востра, і шапнуў на вуха:

— У мяне чарка ёсць, Павел. Сходзім да мяне.

Павел не мог адмовіцца. Ён працаваў разам са Станіславам, быў яго падначалены і лепшы сябра. Станіслаў паклікаў Якава і пазнаёміў з ім Паўла.

Толькі ў хаце, калі селі за стол, Павел заўважыў:

— Дык вось па якой прычыне ў цябе чарка сёння, Станіслаў. Госця бог даў.

— Але, Павел. Гэта мой госць і стары сябар. Раней і ён парабкаваў тут. Тры гады назад.

— А цяпер сам панам зрабіўся? — злосна пажартаваў Павел, акідваючы позіркам Якава і яго гарадскі адзетак.

— Лягчэй, браце,— без злосці адказаў Якаў і ўважліва паглядзеў Паўлу ў вочы. Той сумеўся, пачырванеў і схіліў галаву.

Пачалася гаворка. Спачатку нясмелая, недаверлівая. Якаў гаварыў мала. Яму хацелася выслухаць Паўла. Яму падабаўся гэты хлапец, відаць, дужы, не вельмі прыгожы, але да якога цягнула ад першай сустрэчы.

Павел расказаў пра Міхаля і Любу.

— Значыць, Люба цяжарная? — перапытаў Станіслаў.

— Ужо два месяцы. І Міхаль спалохаўся: як жыць?..

— Жыць, вядома, будзе нялёгка,— нібы між іншым зазначыў Якаў.— Парабкам трэба трымацца адно за аднаго, гэта ж сельскагаспадарчы рабочы клас, пралетарыят.

Павел з цікаўнасцю зірнуў на Якава.

— Як ты сказаў? Пралет... тарыят... А што гэта такое?

— Рабочыя. Мы з табою. Людзі, у якіх, акрамя рук, няма нічога ўласнага.

Павел мімаволі зірнуў на свае рукі.

— Так, браце... Але і тыя мы прадаём...

— Ты хочаш сказаць, што робім імі не на сябе. Правільна, Павел. Але ж гэтымі рукамі можна не толькі рабіць, але і волю сабе здабыць.

Якаў зірнуў на Стася, каб даведацца, што ён думае пра яго словы. Стась адобрана кіўнуў, а Павел увесь загарэўся, бліснуў вачыма і сціснуў кулакі.

— Волю, кажаш? Эх ты, брат! Мне цябе пацалаваць хочацца! Ты бачыў, як жывуць парабкі? Не стаў у прыклад Стасеву халупу. Стась майстра, з ім лічацца, у яго і ўмовы лепшыя. А зайдзі ў барак да нас. Ды ў нас яшчэ што! Асвяціся, як кажуць... А да сямейных зайдзі, паглядзі, як яны жывуць, на дзяцей іх, на жонак паглядзі. Сэрца тваё павернецца. Нэндза, галеча, голад...

— Не расказвай пра гэта Якаву, Павел,— мякка прамовіў Стась.— Ён усё гэта ведае.

— Ведае? Калі ведае, то разумее, якая доля чакае Міхалёва дзіця... У мяне от таксама дзяўчына ёсць у Чыжэвічах. Ты ведаш, Стась. Год да яе хаджу. Я не спалохаўся б, жаніўся б, але бацька не аддасць яе за мяне...

— А чыя, скажы, там дзяўчына? — зацікавіўся Якаў.

— Пракопа Крываблоцкага.

— Ведаю. У цябе вочы неблагія.

— Няхай бы яны лепш у мяне павылазілі.

— Вось за гэта цябе і дурнем назваць можна. Марціна ведаеш?

— Каб ён быў Надзін бацька!

— Значыць, добра ведаеш?

— Ну, вядома. Разумны чалавек. Свет пабачыў і жыццё ведае. Не раз мы з ім гутарылі.

— Пра што вы гутарылі?

Павел успомніў Міхалёвы словы наконт Сібіры і падазрона зірнуў на Якава.

— Не бойся, Павел,— сказаў Станіслаў.— Ты ў маёй хаце, а Якаў мой сябар. Ён такі ж парабак, як і ты, акрамя таго, працаваў у горадзе, у дэпо.

— Ага! — Павел зноў з цікавасцю зірнуў на Якава.— Дык што ж я буду гаварыць... Ён жа больш ведае

і за Марціна і за мяне.. Няхай ён і гаворыць. Забастоўкі ў гарадах бываюць?

— Вядома. Не заўсёды і ўсюды, але бываюць.

— Эх! — усклікнуў Павел.— А хіба мы, парабкі, не зможам абвясціць забастоўку?

— Можам, але тут цяжэй. Трэба мець цесную сувязь з сялянамі. Калі парабкі не выйдуць на работу, пан можа ўзяць на іх месца мужыкоў. У вёсках такая галеча, што людзі кавалку хлеба рады.

Гаворка цягнулася доўга. На адыходзе Якаў сказаў:

— Ты, брат Павел, пра свае размовы з Марцінам нікому не гавары. І Марціна папярэдзь, каб асцярожнейшы быў. Цяпер такі час, што і невінаватыя ў турму трапляюць. А ты, Стась, пазнаёміш Паўла з той літаратурай, якая ў цябе ёсць. Няхай чытае хлопец.

Разышліся позна, але вечарынка яшчэ не кончылася. Якаў і Павел накіраваліся туды. Не прайшлі яны і паўдарогі, як з барака, дзе ішлі танцы, пачалі высыпацца з крыкам і шумам людзі. Аказалася, што пан аканом разагнаў вечарынку. Парабкі не павінны доўга весяліцца. Заўтра на работу.

## РАЗДЗЕЛ ТРЫНАЦЦАТЫ

Нічыпар Мартыневіч і Лявон Нарбутовіч — стрыечныя браты, яны даводзіліся нейкімі братамі і Гарасіму Жукоўскаму. Як бліжэйшыя сваякі, яны арандавалі Гарасімаву паўвалоку па чвэрці кожны. Лявон добра вёў гаспадарку і ад вялікадня да асенніх дзядоў заўсёды трымаў парабка, звычайна хлапчука гадоў чатырнаццаці-пятнаццаці, на якога ўзвальваў мужчынскую работу. Акрамя таго, наймаў сезонных работнікаў на сенакос, жніво і малацьбу. Ён і Гарасімаву чвэрць абрабляў як сваю і атрымліваў ад яе добры даход.

Пануры і багамольны Нічыпар, дробны злодзей і скнара, не мог заўладаць зямлёй, яна заўладала ім. Ён увесь час баяўся, што Гарасім адбярэ ад яго чвэрць і аддасць у арэнду каму-небудзь другому, хоць бы таму самаму Андрэю Сташэвічу як самаму блізкаму суседу, таму не вельмі даглядаў яе. Калі на сваёй паўвалоцы ў яго яшчэ сяк-так расло, то Гарасімава чвэрць

яму мала давала прыбытку. Гэтая праклятая чвэрць толькі атручвала яго жыццё. Ён хацеў яе бачыць сваёю. Не толькі зямлю, але і сядзібу з садам, і будынкі, і тое, што ёсць у Гарасімавай хаце. А што ў ёй ёсць, вядома толькі богу, ды чорту, ды самому Гарасіму. Нічыпар думаў, што там захаваны скарбы, якія Гарасім сабраў, бадзяючыся па свеце. Жарты, столькі часу не было яго дома. Нічыпар баяўся, што калі раптам Гарасім памрэ, а ён не будзе ведаць, то пранозаваты жулік Лявон адзін спажыве ўсё яго багацце. Гэта не давала спакою Нічыпару. Ён нават уночы прачынаўся з адчуваннем таго, што Гарасім ужо апруцянеў, а Лявон шукае там яго скарбы. Нічыпара абліваў халодны пот. Ён падхопліваўся з ложка, хутчэй нацягваў порткі, бег да Гарасімавай хаты, заглядаў у вокны, прыслухоўваўся. Кожны дзень яго цягнула паглядзець на свайго адзінокага родзіча, пераканацца, як ён дыхае і ці скора выпрастае ногі. Прагнымі вачыма аглядаў Гарасімаву сядзібу, сад, меркаваў, якую палову забярэ, правую ці левую. І калі надумаў забраць левую, то ў тую хвіліну яму здавалася, што правая лепшая. І наадварот. Так ён і жыў з вечнай думкаў аб тым, што пасля смерці Гарасіма Лявон яго ўсё-такі ашукае.

Дадому ад Гарасіма Нічыпар вяртаўся абавязкова ўкраўшы якую-небудзь рэч: лыжку або цвік, запалкі або скрыначку з-пад ваксы, а не, дык хоць гузік. Аднак гэта яго не вельмі здавольвала. З цягам часу ён навучыўся адмыкаць Гарасімаў свіран і краў адтуль яблыкі, ігрушы, сушаную садавіну, збожжа, нават сала і кілбасы, калі яны там былі. Не памногу. Пакрысе, каб дурны Гарасім не пазнаў. Такім спосабам ён, мабыць, меркаваў перацягнуць да сябе ўсё Гарасімава дабро.

У нядзелю Нічыпар устаў вельмі рана. Злодзею ноччу заўсёды дрэнна спіцца. Ён сноўдаўся па двары і не знаходзіў сабе месца. Сонца яшчэ не ўзышло, і было даволі-такі халаднавата, аж рукі стылі. Нічыпар пахукаў на іх і ўтаропіўся на ўсход. Пачало паказвацца сонца. Ранішняя зара ахапіла паўнеба. Заіскрылася на дрэвах раса, і, нібы знарок, каб прывітаць новы дзень, у хляве гаркнуў певень.

«Каб ты выдах! — скалануўшыся, падумаў Нічыпар.— Аж спалохаў».

Сёння Нічыпар спяшаўся ў царкву. Ён быў членам царкоўнага савета, і яму іншы раз даручалі збіраць

грошы. Яго посная пакорлівая морда вельмі ж спрыяла гэтаму. Нічыпар ведаў, што на гэтым божым агні ён сёння пагрэе рукі лепш, чым хукаючы на іх. Яго так і цягнула ў царкву. Няхай бы паглядзеў гэты распусны поп, які шчыры ды ранні Нічыпар Мартыневіч, член царкоўнага савета! Але гэтаму чортаву папу не вельмі дагодзіш. Напэўна, учора цэлую ноч у карты гуляў ды п'янстваваў, а цяпер спіць... І Нічыпар надумаў перш за ўсё даведацца Гарасіма. Мо ён за ноч ногі выцягнуў.

Калі сонца адарвалася ад зямлі, Нічыпар пайшоў. Ніколі не думаў, што гэты дурны гультай так рана ўстае, а тут на́ табе: ён ужо з кошыкам па садзе ходзіць. Нічыпар падышоў да яго і павітаўся:

— Дзень добры!

Гарасім зірнуў на яго злосна і падазрона, але адказаў:

— Добрае здароўе! — і, павярнуўшыся, пайшоў да свірна.

Нічыпар пастаяў крыху і рушыў за ім. «Нейкая муха яго ўкусіла сёння,— думаў ён.— Святы, а вочы — як у воўка».

Каля свірна ён ледзь не схапіўся за галаву. На дзвярах вісеў замок, але не той, які Нічыпар умеў адмыкаць, а зусім новы. Такіх Нічыпар раней і не бачыў. Мабыць, святы мярзотнік назнарок у Старочын хадзіў, каб купіць гэты замок. А Гарасім нібы ведаў, як гэта ўразіла Нічыпара,— зірнуў на яго са злараднай усмешкай, здаецца, нават падміргнуў, нібы хацеў сказаць: «Трасцу табе, цяпер не ўлезеш»,— і паволі пачаў адмыкаць гэты пракляты замок. Нічыпар плюнуў ад нянавісці і крыўды. У яго было такое адчуванне, нібы Гарасім новым замком замкнуў не свой свіран, а яго ўласны. Ён павярнуўся і пайшоў.

«От свалата...— думаў ён.— Замок яму патрэбен... Такое ў яго багацце ў свірне... Яблыкі гнілыя...» Але тут нешта бліснула на зямлі ля самых ног. Нічыпар нагнуўся і падняў. Ага! Кавалак старой шыны. Згодзіцца, маўляў, і гэта. Хацеў ужо супакоіцца, як яго гукнуў Гарасім.

— Ты, можа, чаго прыходзіў, Нічыпар?

— Не... Я думаў, у царкву...

— Хіба так многа награшыў за тыдзень?

Нічыпар не паверыў сваім вушам. «Здзекуецца, гад

печаны»,— падумаў ён і не адказаў. Не паверыў сваім вушам і Андрэй Сташэвіч. Ён у гэты час стаяў на прыгуменні, чуў усю гутарку, ад душы насмяяўся і пачаў лепш думаць пра Гарасіма, чым думаў дасюль. Захацеў нават падысці да яго.

— Што гэта Нічыпар так скора пайшоў ад вас сёння, пане Жукоўскі?

— Ды ён, бачыце... жалезца бліскучае ўбачыў і пабег яго падымаць...— нечакана для Андрэя і для сябе выпаліў Гарасім, і абодва зарагаталі.

— А я думаў, што ён спалохаўся таго жалеза, што вісіць на дзвярах вашага свірна.

— Узлаваўся,— зусім даверліва, як свайму, прызнаўся Гарасім.— А вы такі праўду казалі. Лазіў ён у свіран.

— Пане Жукоўскі! — нечакана для самога сябе сказаў Андрэй.— У нас сёння памінкі па бацьку, то можа б вы прыйшлі? Вы ж самы блізкі сусед!

Гарасім падумаў.

— Вы мяне толькі ад сябе запрашаеце?.. Ды і на пахаванне вы мяне не звалі, пане Сташэвіч...— з дакорам адказаў Гарасім.

— Так выйшла... А запрашаю я вас ад усёй сям'і,— салгаў Андрэй, бо думка запрасіць Гарасіма на памінкі з'явілася ў яго ў апошнюю хвіліну.— На памінках будзе і бацюшка,— дадаў ён.

— Бацюшка? — перапытаў Гарасім, і твар яго скрывіўся.— Калі будзе гэты бацюшка,— Гарасім зрабіў націск на апошнім слове,— то я не прыйду... Скажыце, вы і яго запрашаеце ад усёй сям'і?

— Не, пане Жукоўскі. Гэтага хоча мама, і я не магу ёй пярэчыць. Каб была мая воля, я не пусціў бы яго на парог.

Твар Гарасіма праясніўся.

— Скажу вам праўду, пане Сташэвіч,— прамовіў ён.— Я не люблю гэтага папа... Шмат іх я бачыў за сваё жыццё. Ён акурат такі поп, якіх я не люблю. Таму і не прыйду на памінкі.

Гэтая гаворка яшчэ болей зблізіла абодвух суседаў. Але канец яе сапсаваў пачатак. Нібы чорт пацягнуў Андрэя за язык.

— І на якое ліха, пане Жукоўскі,— сказаў ён,— вы аддаяце ў арэнду зямлю гэтай сваёй радні. Аддалі б каму-небудзь чужому, большая б была карысць.

Нарбутовіч дык хоць зямлю не запусціў, а ў Мартыневіча толькі пустазелле расце. Ды і арэнду, я думаю, яны не вельмі спраўна плацяць.

Гарасім хваравіта зморшчыўся.

— Дзе там спраўна...

— А яшчэ лепш прадаць вам сваю паўвалоку.

— Як гэта прадаць? — Гарасім страшна абурыўся ад такой парады.— Як гэта я прадам бацькаўшчыну? А сам?

— А сабе б пакінулі сядзібу з садам. Хіба вам многа трэба?

Андрэй нават не падазраваў, якога цвіка ўвагнаў у Гарасімаву галаву.

Калі Андрэй прыйшоў у хату, маці ўжо запаліла ў печы. Алена на стале раскачвала локшыну.

— Пасек бы ты мяса, Андрэй,— сказала яна.

Андрэй хоць і неахвотна, але ўзяўся за гэтую работу. Жанчыны канчалі падрыхтоўку да памінак. Падвечар павінны былі сабрацца людзі. Трэба было прывезці папа ды заадно заехаць да Марціна Крываблоцкага.

Неўзабаве прыйшоў Ян.

— Ты заняўся бабскай работай,— сказаў ён.— Няхай яны самі яе робяць, а мы з табой выйдзем ды абмяркуем нашы мужчынскія справы. Кожнаму сваё.

Андрэй быў рады такой прапанове. Абодва селі на прызбе.

— Аляксандра не прыедзе,— сказаў Ян, памаўчаўшы.

— Можа сёння прыедзе. Яшчэ ж рана.

— Не, учора я ліст атрымаў ад яе. Піша, што Антось яе хворы. А па-мойму — хлусіць. Свіння! Забагацела. Мала таго, што свайго дурнога Антося асядлала, дык і бацьку памянуць не хоча.

— А мне ні слова,— пакрыўджана сказаў Андрэй.

— Яна цябе мала баіцца, а я ж пісаў ёй. Чорт яе бяры, няхай не едзе. Не так яна на памінках была патрэбна, як для гаворкі. Яна недурная жанчына і прытым мае мужчынскі розум. Але часу яшчэ хопіць... Гарэлкі ў нас малавата. Калі паедзеш да папа, то зайдзі да Арлоўскага ды купі.

Ён выняў з кішэні скураную калітку, адлічыў грошы і падаў Андрэю.

— Купі на гэтыя ўсе, і хопіць. Не вяселле спраўляем.

Памінкі пачаліся чынна і ўрачыста. Усе сталі на калені і памаліліся богу, толькі поп Сцяпан Сулкоўскі стаяў слупам наперадзе. Сёння ён ў поўнай меры быў задаволены. Зміры́ўся, нарэшце, непакорны дух Андрэя Сташэвіча, праз якога айцец Сцяпан перажыў нямала непрыемных хвілін, бо яшчэ і цяпер не забыла паства тую споведзь, калі нягоднік Сташэвіч успомніў Юльку-пакаёўку. А цяпер няхай ведаюць усе, што той самы Сташэвіч пакланіўся айцу Сцяпану, запрасіў яго на памінкі і прывёз сам на сваім кані. Мала хто запрашае папа на памінкі, толькі самыя багатыя і богамаленныя. Пра Сташэвіча нельга сказаць ні таго ні другога. Значыць, была іншая прычына, якая прымусіла такога прайдзісвета скарыцца. Не ведаў айцец Сцяпан, што ніхто не ўгаварыў бы Андрэя запрасіць папа на памінкі, каб Ян не сказаў, што гэта была апошняя бацькава воля.

Пад канец памінкі сапраўды пачалі нагадваць вяселле. Толькі песень не было, хоць малінаўскія шляхцюкі і на вяселлях мала спяваюць. Яны толькі станавіліся больш гаваркія і памяркоўныя, нават цалаваліся і ўсхліпвалі ад паўнаты пачуццяў.

Ужо добра сцямнела на двары, калі людзі пачалі разыходзіцца. Першыя пайшлі дамоў жанчыны, у якіх заўсёды дома многа спраў, потым старыя, якім трэба было падумаць і пра сваю смерць. Ці справяць па іх родныя такія памінкі, якія справіў па свайму бацьку Андрэй?

Нарэшце ў хаце асталіся толькі Ян Сташэвіч, Марцін Крываблоцкі, Сымон Ашакевіч і айцец Сцяпан. Ён, мабыць, вырашыў не вылазіць з-за стала датуль, пакуль у хаце не астанецца ні адной кроплі гарэлкі. Гэты поп умеў піць і хмялеў не адразу.

Сымон ужо некалькі разоў памыкаўся ісці дадому, але яго затрымліваў Марцін, які не мог не выказаць сваіх поглядаў на палітыку, на становішча ва ўсім свеце, асабліва калі ў яго галаве раіліся высокія і смелыя думкі. Нехта ж павінен быў выслухоўваць яго меркаванні, і ён выбраў Сымона.

Ян, як самы сталы, займаў папа і раз за разам падліваў яму ў чарку.

— А можа хопіць? — весела пытаў айцец Сцяпан, перакульваючы чарку ў рот.

— А нічога! — супакойваў яго Ян.— Можна і яшчэ адну.

— Тады я, пане Сташэвіч, дамоў не траплю.

— Завязём, бацюшка, чаго там!

Сулкоўскі больш прытвараўся п'яным, чым быў на самай справе. Ён піў, гутарыў з Янам і адначасова прыслухоўваўся да таго, што гаворыць Марцін свайму суседу Сымону. Яму даўно хацелася ўмяшацца ў іх гаворку, паспрачацца з Марцінам, бо размова з Янам не задавальвала яго. Што цікавае мог сказаць Ян падгуляўшаму папу?

— Марцін Сяргеевіч! — нарэшце не вытрываў ён.— Вялікі палітык і філасаф! Вы сееце плевелы ў душы маёй паствы.

— Не, айцец Сцяпан! Я туды жменямі сыплю пшаніцу!

Поп зарагатаў і паківаў пальцам.

— Вы, я чую, талкуеце аб вайне.

— Але, айцец Сцяпан, я не талкую нічога недазволенага, а толькі тое, пра што пішуць у газетах.

— Кладзезь прамудрасці! Але вы талкуеце і пра мяцежнасць чэрні.

— Гэта, айцец Сцяпан, я таксама не выдумаў.

— Але мы сядзім на мірнай бяседзе, а вы ўсяляеце мяцежны дух у сэрцы маіх парафіян. Гэта не да месца.

— Кожны гаворыць тое, што яму хочацца, айцец Сцяпан. Я, напрыклад, не замінаю вам.

— А хіба я вам замінаю? Я — ваш пастыр, я павінен стрымаць ваш мяцежны дух.

Крываблоцкі мігам працверазеў.

— Тады айцец Сцяпан не пастыр, а жандар.

— Ха-ха-ха! Напрасна, напрасна, Марцін Сяргеевіч! Такі свяшчэннік, як я, не можа быць жандарам. Я сам многажды грэшан!

— Дык і глядзіце, айцец Сцяпан, за сваімі грахамі, іх у вас многа, я ведаю, а я ўжо неяк сам адкажу за свае.

Сымон хутка вылез з-за стала і непрыкметна выйшаў. Ян не ведаў, што сказаць. Андрэй пабялеў. Толькі Марцін, калючы, як вожык, са сваімі фельдфебельскімі вусамі, смела глядзеў у вочы папу. Памінкі маглі кончыцца скандалам. І вось у гэты момант з'явілася Алена з бутэлькай у руцэ. Сулкоўскі зірнуў на яе

ласа, як кот на смятану, і твар яго расплыўся ў юрлівай усмешцы.

— Адкуль гэтае нябеснае відзенне?

— Андрэй,— сказала Алена.— Гэта мая настойка на вішнях... Налі ўсім ад мамы і ад мяне.— Яна ўсміхнулася і, закрыўшы далонямі твар, адышла. І ўся напружанасць знікла.

— Роза Харона, лілія далін...— паспрабаваў дэкламаваць поп і махнуў рукой.

Як ні мацаваўся Сулкоўскі, але настойка яго дакапала. Ён нават паспрабаваў зацягнуць старую семінарскую песню.

Андрэй падышоў да Крываблоцкага.

— Каб не было дрэнна, Марцін.

— Не бойся, не асмеліцца. Мяне ён не кране, бо баіцца больш, чым я яго. Калі-небудзь раскажу пра яго штукі. Алена малайчына. Пара канчаць, Андрэй!

Андрэй гукнуў Івана і загадаў яму запрагаць каня.

Поп выйшаў з хаты апошні, і, мабыць, не паспеў ён выйсці з сяней на двор, як у хату ўскочыла Алена з гнеўным тварам і поўнымі слёз вачыма.

— Свалата якая... Дзе Андрэй, мама?

— На двары... Што з табой, дачушка?

— Ушчыкнуў...

— Хто?

— Хто! Поп гэты валасаты!..

## РАЗДЗЕЛ ЧАТЫРНАЦЦАТЫ

Усталявалася пагодная восень. Раніцы былі халодныя і бліскучыя ад дробнага інею, што ўсцілаў зямлю, стрэхі і платы. Але быў ён кволы і нетрывалы і знікаў адразу, калі ўзнімалася сонца. Было ранняе бабіна лета. Цёпла прыгравала сонейка, і над полем плыло павуцінне.

Паляцелі ў вырай ластаўкі, буслы і шпакі. Ланцужкі жураўлёў віднеліся ў небе, і адтуль чулася сумнае курлыканне.

Сады атрасалі пажоўклае лісце. Ціха стала ў Маргах. Чарнела лісце на алешніку. Адзінокія бярозкі жаўцелі між зелені сосен, і былі яны самотныя, як сіроты.

Восень многа забрала ад прыроды, але многа ёй і

дала. На новае жыццё адрадзіліся азімыя палеткі. Густая зялёная рунь укрыла іх. На яравых палетках цупка ўзялася за зямлю маладая канюшына. Лугі зелянелі раскошнай атавай. Не, прырода рыхтавалася не да смерці, а да зімовага адпачынку, каб пасля яго ўзняцца з новай сілай і харавством.

Малінаўцы капалі бульбу. Андрэй выехаў на поле з усёй сваёй сям'ёй. Сам разорваў, а Алена, Іван і маці выбіралі. Разараўшы шэсць баразён, па дзве на выбіральшчыка, выпраг з плуга каня і закурыў. З радасцю агледзеў сваю ніву, работнікаў і ў нейкай меры адчуў сябе сапраўдным гаспадаром. Ужо не балела душа, што ён астанецца ззаду ў засцянкоўцаў, запозніцца з работай і розныя халусты і нарбутовічы будуць з яго смяяцца. Цешыўся з Івана. Гэта быў не хлопец, а золата. Прывык да яго, як да свайго. Вунь ён навыбіраў поўны пудовы кош, падхапіў такі ж самы кош у маці і панёс высыпаць у палукаш.

— Па два не цягай! — крыкнуў яму Андрэй.— Падарвешся!

— Не падарвуся!

Андрэй пакурыў і сам пачаў высыпаць кашы. Бульба ўрадзіла добра, і работа ішла спорна.

Калі насыпалі два палукашы, запрэглі ў вазы коней і павезлі бульбу дамоў.

Так работа ішла да позняга вечара. Вярнуліся з поля, калі пачало цямнець. Паставілі вазы каля склепа, і Андрэй з маткай пайшлі ўпраўляцца па гаспадарцы, а Алена з Іванам пачалі высыпаць бульбу.

Адвячорак стаяў такі свежы і ясны, што зусім не адчувалася стомы. Іван астаўся з Аленай адзін на адзін. Ён саромеўся яе, гэтай прыгожай шляхцянкі, баяўся яе цікаўных позіркаў. Стараўся хутчэй набраць свой кош, хутчэй яго высыпаць, каб не стаяць з ёю доўга каля воза.

Хацелася скарэй апаражніць палукашы і пакласці канец гэтаму прыкраму адчуванню ўласнай нікчэмнасці. Ён не хацеў і гаварыць з Аленай, але яна сама пачала гаворку.

— Ты сёння як вада, Іван,— сказала яна, насыпаючы кош.

— Чаму?

— Бяжыш і бяжыш, як вада ў рэчцы.

Івана здзівіла такое параўнанне.

— Сцямнее скора...

— Ну дык што, няхай цямнее. Ліхтар запалім.

Іван не адказаў. Ён наогул не ведаў, як трымацца з гаспадаровай сястрой. Яна была прыгожая, нават мілая іншы раз, але Іван адчуваў, што дзяўчына яна самавольная, упартая, смелая і, горш за ўсё, ганарлівая. Ён ведаў, што з ёю трэба трымацца асцярожна, яна не даруе нават памылкі.

— Ты і з Андрэем так нічога не гаворыш?

— Чаму не? Мы з ім гаворым.

— Пра што?

Іван адчуў, што ў гэтым простым пытанні хаваецца нейкая хітрасць, Алена хоча нешта ў яго выпытаць.

— Я ў яго пытаю, што рабіць...

— «Пытаю, што рабіць»,— перадражніла яна.— Толькі кніжкі свае чытаеш... Пра што там пішацца?

— Пра ўсё... Пачытаць жа можна.

— Пачытаеш, калі ты іх у куфэрак хаваеш.

— Баюся, што цётка Аксеня возьме ды папаліць. Але куфэрка я не замыкаю...

— Дурненькі,— засмяялася яна.— Табе ж Андрэй казаў, каб ты паклаў іх на покуць.

— Андрэй не вельмі чытае... А калі ты хочаш, то я не буду іх больш хаваць,— Іван сказаў гэта ад шчырай душы, бо Аленіны словы пра кніжкі, і прытым прыхільныя словы, падабаліся яму. Яму нават здалося, што гэтай шляхцянцы можна іншы раз даверыцца.

— А чаму ты на вячоркі не ходзіш? — пасля таго як высыпалі кашы, зноў запытала Алена.

— А хто мяне туды пусціць?

Алена засмяялася.

— А хто ж цябе не пусціць? Хіба Андрэй забароніць?

— Ды не, не Андрэй... Мяне не прымуць на вашы вячоркі, от што...

Алена залілася смехам.

— Ой!.. Ну і дурненькі!.. Хто ж гэта цябе не прыме? Прыходзь ды гуляй, калі хочаш.

— Не хадзіў я яшчэ на вячоркі... Нават дома не хадзіў.

І тут адбылося такое, чаго Іван ніколі не чакаў. Алена ўзяла яго за бараду, як маленькага хлопчыка, і зазірнула яму ў твар.

— Які ж ты харошанькі, Іван! Нездарма нашы

дзеўкі, што коней пасвілі, так хвалілі цябе. «Дзе,— кажуць,— Андрэй сабе такога хлопца знайшоў?»

Іван гатовы быў кінуцца ад Алены прэч. Такога сарамацішча ён яшчэ не перажываў. «От да чаго давялі гэтыя цікаўныя позіркі... Ёй абы пасмяяцца...» Іван адчуў сябе дашчэнту прыніжаным, маленькім, нікчэмным. А яна, хітрая, як ні ў чым не бывала, зноў паглядала на яго, нават памагла насыпаць бульбу ў яго кош, бо ён ад хвалявання забыў пра ўсё на свеце.

У часе вячэры Іван не падымаў вачэй ад абруса. Ён добра стаміўся і прагаладаўся, але, адчуваючы на сабе Аленін позірк, не мог есці.

Андрэй не прыкмячаў, у якім стане знаходзіцца Іван. Ён быў рады. Бульба вырасла добрая, дні праз чатыры, калі пастаіць такое надвор'е і не пойдзе зацяжны дождж, работа будзе кончана. Астанецца толькі пераараць бульбянішча.

Іван тым часам, канчаткова знішчаны Аленінымі вачамі, зусім разгубіўся. Калі старая Аксеня паставіла на стол зацірку з малаком, ён паспрабаваў зачарпнуць яе відэльцам, якім дасюль даставаў з чыгуна бульбу. Алена пырснула смехам.

— Бедненькі! Ды ён заснуў за сталом! А яшчэ на вячоркі збіраўся!

Гэтага Івану было даволі. Ён падхапіўся з услона як апараны і выскачыў на двор.

— Што ты здзекуешся з хлопца! — крыкнуў Андрэй.— Сёння яму хапіла! Нямала і тваіх кашоў перанасіў ён!

— Дык што, і засмяяцца няможна, калі ён зацірку відэльцам чэрпае?

— Няможна! — не сваім голасам закрычаў Андрэй.— Са свайго... са сваіх засцянковых пасмейся!

— З каго свайго? — успыхнула Алена, і вочы яе пазелянелі.

— Дзеткі...— узмалілася старая Аксеня.— Ці было калі пры бацьку, каб за сталом сварыліся... Хіба ж можна...

— Няхай не здзекуецца з майго хлопца!.. Яна яму павячэраць не дала. А ён у гаспадарцы больш работнік за яе!

— Хіба гэта здзек, калі засмяялася?

— А ты б, дачушка, не заўважыла, што ён відэльцам чэрпае. Ён бы сам агледзеўся. Пайду пазаву.

— Не завіце, мама, бо ён не прыйдзе,— сказаў Андрэй.

У гэтым момант, як чорная бура, у хату ўварвалася крывая Настуля — Халустава жонка.

— Нашы рэжуцца! — сказала яна дзікім галасам.— Якаў адзін рады не дасць!

Адно тое, што Халустава жонка з'явілася ў яго хаце, Андрэй лічыў за вялікае дзіва, а тое, што яна гаварыла, не ўкладалася ў яго разуменні.

— Хто рэжацца? — запытаў ён, і позірк яго ўпаў на Алену, якая стаяла ў мыцельніку белая, як сцяна.

— Бацька і Мікалай,— адказала Настуля.— Якаў адзін нічога не зробіць.

— А Юзік?

— Яго чорт панёс у Мяцевічы. Там і заначуе.

— Не ідзі, Андрэй! — крыкнула старая Аксеня.— Яшчэ самога зарэжуць.

— Якава ж не зарэзалі! — са звярыным гневам адказала Настуля.— А ён сказаў мне, каб бегла па цябе, бо іх ніхто не ўтаймуе.

— Добра, прыйду,— сказаў Андрэй, каб хутчэй выправадзіць з хаты гэтую страшную ведзьму.

— Не ідзі, Андрэй,— малілася маці.— Чорт іх не пабярэ. Хіба першы раз у іх гэта? Яшчэ самога...

Такія выпадкі ў Халуставай хаце сапраўды не былі навіною, і Андрэй хвіліну вагаўся, але ўспомніў Якава Шэмета. Мабыць, нялёгка яму там, калі дасылае па яго.

— Не, мама, пайду. Каб яны самі з сабой, то я і пальцам не варухнуў бы. Але ж гэтыя разбойнікі могуць невінаватага чалавека знявечыць.

Выйшаўшы на двор, Андрэй падумаў, што ўдвух з Якавам яны наўрад ці справяцца з Халустамі.

Мікалай, што рабіў у кузні, быў дужы як бык. Таму, праходзячы каля хаты Яна Сташэвіча, ён гукнуў у акно Тамаша. Той думаў, што Андрэй кліча ў Жывіцы, і куляй выскачыў з хаты.

— Куды? — весела запытаў ён.

— Халустаў мірыць.

— Цьфу! — плюнуў Тамаш.— Ідзі ты к чортавай мацеры. Не пайду.

Андрэй яму расказаў, у чым справа.

— То пачакай, я вяроўку вазьму. Павяжам.

Ён забег у сені і вярнуўся з вужышчам у руках.

Тое, што яны ўбачылі ў Халуставай хаце, не паддавалася ніякаму апісанню. Сталы, лаўкі, табурэты — усё было раструшчана ўшчэнт. На падлозе разам з гэтым ламаччам валяліся чарапкі разбітага посуду, патэльня і паламаныя ажагі.

Стары Халуста з падпухлым носам і сіняком пад вокам стаяў у хаце пад абразамі, трымаючы ў руках вялізны нож. Акрываўлены яго твар быў такі азвярэлы, што на яго нельга было глядзець без жаху.

У другім куце насупроць Халусты стаяў яго малодшы сын Мікалай, самая ўдалая копія свайго вар'ята бацькі — Халуста ў маладосці. У яго таксама быў падбіты твар і кашуля падраная на шматкі. Дзіва было, як яшчэ яна трымаецца на ім. Ён глядзеў перад сабой азвярэлымі вачыма і, здаецца, нічога не бачыў.

— А-а! — зароў Халуста, калі ўбачыў Андрэя і Тамаша.— Накольнікі! Бандыты! Бі іх, Мікалай! Бі! Бі, гадаў! Ліха ма-ата-ры іх!

Ён рынуўся на Андрэя, але яго перахапілі Якаў з Тамашом, адабралі нож, звалілі на падлогу і пачалі вязаць рукі і ногі.

— Бі іх, Мікалай! Бі, шэльмаў! — клікаў ён на дапамогу свайго нядаўняга ворага сына, а сам выкручваўся, хрыпеў, малаціў нагамі і наравіў кусацца, як шалёны сабака. Андрэй асядлаў яго, але ўкручаны вяроўкамі Халуста ўсё яшчэ памыкаўся вырвацца.

Мікалай стаяў і нібы не разумеў, што тут адбываецца. Нарэшце да яго дайшло. Ён кінуўся на Андрэя, як раз'юшаны бык, але адляцеў ад яго, як мяч, і грукнуўся аб сцяну. Тамаш і Якаў усселі на яго спераду і ззаду. Ён абхапіў іх сваімі дужымі ручышчамі і не адразу лёг. Андрэй пачаў скручваць яму рукі.

— Не вяжыце мяне, хлопцы,— прасіўся Мікалай.

— Трэба да ўрадніка ехаць,— не слухаючы яго, сказаў Андрэй.— Няхай абодвух забяруць, а мы тут сход збяром і прыгаворым засценкам, каб перасялілі іх куды-небудзь ад нас.

— У Маргі,— падказаў Тамаш.

— Але. Звяроў у лес.

Звязаны Яўхім Халуста тым часам качаўся па падлозе і на чым свет стаіць кляў Андрэя, Тамаша, Якава, свайго сына, Малінаўку, усё жывое і нежывое і «крывую кабылу», бо гэта яе работа, гэта яна надумалася пазваць Сташэвічаў.

— Заткні яму анучай горла, Тамаш,— сказаў Андрэй.

— Яшчэ затхнецца, тады адказвай за яго. Няхай крычыць, бяда вялікая.

Але, пачуўшы пра анучу, Халуста крыху супакоіўся.

— Андрэй,— прасіўся Мікалай.— Не вяжыце мяне... Я пайду ў гумно спаць.

— Ты, вар'ят, са злосці засценак падпаліш.

— Не... Не такі я шалёны. Толькі не вяжыце. Хіба ты не ведаеш майго бацькі! Толькі з кухні ў хату ўвайшоў, а ён без слова наляцеў на мяне і па мордзе раз, раз... Я адпіхнуў яго, дык ён нож схапіў,— бачыў, які нож, быка зарэзаць можна!

— Адпіхнуў. А якая ў яго морда!

— Дык гэта ж потым! Я абараняўся. Ён бы зарэзаў мяне...

— Зарэзаў бы! — зароў Халуста.— І ўсё роўна зарэжу, злодзей! І Сташэвічаў парэжу, ліха матары іх! І старую кабылу! І гэтага хамута — Якава!.. Не, я яго ў турму ўпяку, арыштанта!

— Як думаеш, Якаў? Што зробім з Мікалаем?

— Няхай ідзе спаць у гумно,— сказаў Якаў.

— А старога не развязвай датуль, пакуль не пачне плакаць і прасіцца.

Халуста скрыгануў зубамі.

— Након ьнік! Ліха матары тваёй! Ты яшчэ здзекуешся! Я табе заплачу! Крывёю ты заплачаш!

— Хадзем, Тамаш, дадому,— сказаў Андрэй.— Прыйшлі мы сюды... Што ў цябе за кроў на руцэ, Якаў?

— Стары дурань парнуў... Таму я і пазваў цябе. Можа тут смерці і не было б, але калецтва было б... Уцягнуў я цябе ў гэты бруд, даруй... Але ж ніхто з малінаўцаў не прыйшоў бы сюды.

Андрэй, Тамаш і Якаў выйшлі на двор. Выйшаў і Мікалай. Услед ім крычаў Халуста:

— Усё роўна зарэжу, злодзея! Ліха ма-атары яго!

— За што вы сашчапіліся? — запытаў Андрэй у Мікалая.

— А чорт яго ведае. Дзесятка ў яго залатая згінула. Нехта з кашалька ўкраў.

— Твая, вядома, работа?

— Ды не! Я ж у кузні раблю, дык хіба ў мяне грошай не хапае!

— Юзік?

— Не. Ён на паўпляшкі са свірна возьме, а больш яму ні на што не трэба. Маці. Хіба гэта першы раз! Толькі раней да нажа не даходзіла. Ды яна і не брала больш за пяцёрку. А сёння — цэлую дзесятку. Ну, бацька і звар'яцеў. А яна ўкрадзе, схавае, у яе недзе сховань ёсць... Нас з бацькам звядзе на цэлую ноч, а сама схаваецца ў Нарбутовічаў. Але тыя разы Юзік быў дома, дык мы яго хутка... Пайду ў гумно.

— Нялёгка табе тут жывецца, Якаў,— сказаў Андрэй, калі Мікалай пайшоў.

— Сямейка, каб яе гром разбіў. Не дабуду я тут да канца.

На двары свяціў месяц, ціхая і ясная стаяла над Малінаўкай ноч. І ўсе трое выйшлі на вуліцу. Не хацелася разыходзіцца па хатах.

Андрэй з Іванам спалі ў гумне. Так няўдала кончыўшы вячэру, Іван, не заходзячы ў хату, адразу пайшоў у гумно. Думаў, што ўслед за ім прыйдзе і Андрэй. Пасцель іх была зроблена на мурожным сене. Андрэй прывёз з Волі невялічкі возік яшчэ ў сенакос, калі быў жывы бацька.

Спаць тут было добра, свежа, не кусалі скочкі, як у хаце. Цяпер, калі ночы сталі халаднейшыя, накрываліся кажухамі.

Іван адразу лёг, захутаўся з галавой і пачаў думаць. Калі так будзе і далей, то цяжка дасца жыццё ў Сташэвіча. Гэтая шляхцянка не дасць яму спакою. Івана апаноўвала злосць, але да яе прымешвалася і нейкае іншае пачуццё, якога Іван не разумеў. Сціплы, задумлівы, ён жыў працай і кнігамі. Яго яшчэ не вабілі дзявочы смех і пяшчота. А тут гэтая Алена. Яна часта паўставала ў яго вачах, і нават тады, калі не думаў пра яе. Разгорне хлопец кніжку і замест радкоў бачыць яе твар з такой харошай усмешкай.

Стала горача, і Іван адкрыў галаву. У гумне было цёмна, толькі ў шчыліны між бярвен цякло месячнае святло, такое патаемнае і незразумелае, што Івану стала сумна. Калі ў гумне быў Андрэй, яны кожны вечар размаўлялі, пакуль не заснуць, і Івана тады нішто не трывожыла і не палохала. У гумне было ціха і спакойна. А сёння, як толькі адкрыў галаву, яго ўразілі

шорахі, што чуліся з усіх куткоў. Здаецца, па сцірце канюшыны нехта прайшоў. Збоку зашалясцела сена. Потым скрып. Не ў дзвярах, а ў процілеглым баку, у куце гумна... І Андрэя так доўга няма...

Спачатку Іван не адчуваў страху. Яго проста здзіўлялі гэтыя незразумелыя гукі. Ён спрабаваў растлумачыць іх. Перш за ўсё мышы. Конікі. Іх у канюшыне шмат. Скрып — гэта асела страха. Здаецца, усё стала на сваё месца, але супакаенне не прыйшло. А тут успомніліся ўсе жахлівыя гісторыі з Гогаля: «Страшная помста», «Вій». Ведаў, што ўсё гэта глупства, але страх, нібы злодзей, прасачыўся ў яго душу. А можа сёння Андрэй зусім не прыйдзе ў гумно спаць? Хіба і самому ўцячы адсюль, ад гэтых патаемных гукаў і страшных думак! Але што скажа заўтра Алена? Тады трэба будзе зусім уцякаць адсюль дадому, у Чыжэвічы. І зніклі ўсе страхі! Іван устаў, ускінуў на плечы доўгі кажух і выйшаў на прыгуменне. Месячная асенняя ноч была ў самай сіле. Далёкім, нетутэйшым, казачным веяла адусюль. І цені ад дрэў і платоў, і цёмнае неба, усеянае зорамі, і Млечны Шлях, і невялічкія воблачкі, якія на хвіліну засланялі месяц, і яго скупое святло, што сеялася праз гэтыя воблачкі,— усё ўздымала нейкі небывалы настрой.

По небу полуночи ангел летел,
И тихую песню он пел.
И месяц, и звезды, и тучи толпой
Внимали той песне святой...

Іван успомніў гэты верш і адчуў вялікае шчасце, якое ўлілося ў яго грудзі і дало вялікі спакой і светлую ціхую радасць. Ён пайшоў у гумно і лёг на сваю пасцель.

Калі Андрэй прыйшоў ад Халусты, Іван ужо спаў.

## РАЗДЗЕЛ ПЯТНАЦЦАТЫ

Між засценкамі Малінаўкай і Жывіцамі на невялікім пагорку размясціўся стары могільнік. Здалёк ён быў падобны на гаёк, які нейкім цудам уцалеў у той час, калі земляробы высякалі і выкарчоўвалі пад раллю лясы і гаі навокал.

У гарачыя летнія дні, калі сонца пякло неміласэрна і не было дзе схавацца ад спёкі, ён вабіў у засень

старых ліп і бяроз, клёнаў і дубоў. Але ні малінаўцы, ні жывічане не адпачывалі там нават тады, калі жалі збажыну або касілі канюшыну каля самага могільніка. Лепш пасядзець пад капой ці пад бабкай, чым каля чыёй-небудзь магілы па суседству з нябожчыкамі. Яны туды адпраўляліся толькі на вечны адпачынак, і то не вельмі ахвотна: малінаўцы і жывічане сярэдняга веку былі жывучыя, цягавітыя, жылі доўга і паміраць не хацелі, як ні цяжка жылося, і не брала іх ніякая хвароба, хіба толькі ўвальваўся які-небудзь паморак: воспа або тыфус. Паміралі дзеці, і хоць многа іх нараджалася ў абодвух засценках, але гадавалася мала; розныя хваробы падразалі дзяцей як касой, таму на засцянковых вуліцах не вельмі весела і рознагалоса гучаў дзіцячы гоман і смех...

Пра гэта думаў Якаў Шэмет, калі падышоў да могільніка. Восень яшчэ не паспела пазалаціць усёй лістоты на дрэвах, але ўжо сыпанула на іх вераснёўскую фарбу. Ападала лісце з ліп, бяроз і клёнаў, толькі дубы стаялі нячэпаныя і непаўторныя ў сваёй прыгажосці і моцы. Таму могільнік быў прыгожы і цяпер. Пад навіслым галлём дрэў ляжалі курганчыкі магіл, пазарастаныя травой, абсыпанай лісцем, а над магіламі крыжы, крыжы... Высокія, у чалавечы рост, простыя і пахілыя, новыя і старыя, абламаныя і паваленыя. Крыжы, крыжы... Зрэдку на курганчыку помнік — дзікі камень, абгладжаны з аднаго боку, на якім высечана імя і прозвішча нябожчыка.

Прахожыя спыняліся тут, каб перачакаць спёку або схавацца ад дажджу, або нават проста пасядзець, адпачыць і пакурыць на адзіноце. Цішынёй і спакоем веяла ад усяго гэтага кутка, і чалавеку, які спыняўся тут, не маглі прыйсці ў галаву вясёлыя думкі.

Якаў памалу крочыў па дарозе, што вяла праз самы могільнік. У яго не было прычыны спыняцца тут, але ён пачуў стук сякеры па дрэве і зацікавіўся, хто б гэта мог быць. У нядзелю чалавек з сякерай на могільніку, што ён тут робіць? Прайшоўшы яшчэ трохі, Якаў убачыў Сымона Ашакевіча, які агароджваў невялікую магілку.

— Ты што ж, Сымон, грэху не баішся? — запытаў ён, павітаўшыся.— Сёння ж нядзеля.

— А які гэта грэх, Якаў? — сказаў Сымон.— Я агарожу дома зрабіў, а тут толькі пастаўлю ды ўма-

цую. Я нават ямак не капаю, пастаўлю слупкі на каменях, і ўсё. Так яны і пастаяць даўжэй, бо не будуць гніць у зямлі.

Сымон палажыў на магілку сякеру, сеў сам і выняў тытунь.

— Закурвай, Якаў,— сказаў ён, падаючы капшук.— Ты кажаш — грэх. А які грэх! Перш за ўсё некальства, часу няма адарвацца ў будні дзень... Работа заядае... Гэта магілка мае дачкі. Першае маё дзіця... Восем гадкоў мела... Сёння роўна год, як памерла. Памінкі трэба было спраўляць, людзей паклікаць. А за што я спраўлю тыя памінкі, за якія грошы куплю гарэлкі, што пастаўлю на стол? Невыкружнае гора... Людзі абгавораць... Сымон дачкі памінаць не хоча... Яшчэ і бязбожнікам назавуць, што ў нядзелю агарожу стаўлю. Каналупам празвалі ўжо... Няхай дарue дачка на тым свеце, што бацька і памянуць яе па-людску не можа.

Гэтыя словы былі сказаны без скаргі, але са страшэнным болем і тугою. Яны дзерпанулі Якава за самае сэрца.

— Што ты, Сымон, так павесіў нос! — прамовіў ён.— Трэба думаць пра лепшае, а не пра смерць. А ты сам гатовы ў магілу легчы.

Сымон горка ўсміхнуўся.

— А там і будзе лепшае, Якаў,— сказаў ён.— Усе будзем на могільніку, і ты і я... Да таго і ідзём. Цела будзе адпачываць у зямлі, бо яно парахня, зямля ў зямлю пяройдзе... А душа! На тым свеце бог параўнае ўсіх, і багатых і бедных. Усе роўныя будуць перад богам — і цар і жабрак...

Позірк Якава ўпаў на камень-помнік, што стаяў збоку.

— Кажаш, усіх параўнуе бог на тым свеце? Пачытай, што напісана на гэтым помніку. «Здесь покоится раб божий...» Бачыш: раб! І тут раб, і там раб, а не пан. Ты ведаеш, хто такі раб?

— Чаму ж не ведаю. Раб — значыць слуга...

— Але, Сымон, слуга. Вечны слуга! І на гэтым свеце, і на тым.

— На тым свеце будзе адзін пан — бог! І больш ніякіх паноў. А ўсе астатнія — слугі яго. Не будзе там ні паноў, ні цароў, усе будуць служыць толькі богу, аднаму богу.

— Так кажа поп у царкве, ксёндз у касцёле і рабін у сінагозе. Гаворка іх вядомая. А ты хіба забыў, колькі на небе святых? Ці пералічыш ты іх? І Мікола, і Пятро з Паўлам, і Ілья, і Іван. У адзін дзень сорак пакутнікаў святкуюцца. А там жа ёсць яшчэ анёлы, херувімы розныя ды серафімы. Адных толькі анёльскіх чыноў сем! Гэта ж усё нябесныя цары, каралі і паны, Сымон, чыны! Цяпер заўваж: нават багоў там тры ды багародзіца чацвёртая. А мы з табой і тут рабы і там...

— Сціхні, Якаў...— шэптам прамовіў Сымон, крануўшы Якава рукой.— Гэта немаведама што... Ты такое гаворыш, што аж страх бярэ...

— Хіба я няпраўду гавару?

— Я ніколі не думаў пра гэта, Якаў... Ніколі ў маю галаву не прыходзіла такая думка... Гэта ж проста страшна, калі падумаць.

— Але ж так яно і ёсць. Я хачу, каб ты зразумеў, што на той свет спадзявацца не трэба. Паны даўно туды напхалі столькі featured рознага панства, што толькі падавай ім рабоў божых. Работа ўсім знойдзецца. От ты, напрыклад, Сымон. На небе таксама ёсць святы Сымон. Калі ты памрэш, то гэта будзе першы твой пан.

— Ты ўжо жартуеш, Якаў...— прамовіў Сымон.— І, мабыць, так жартаваць грэх...

— Якія тут жарты, Сымон? Святкуем жа мы і Міколу, і Ілью, і Івана. Ды ці мала свят? Значыць, і тут на зямлі служым мы святым угоднікам, молімся ім, помачы ў іх просім, бо яны бліжэй да бога. Ці не так?

— Калі падумаць, то так...— няўпэўнена адказаў Сымон.

— От бачыш. А ці многа бачылі мы помачы ад бога? Ну от табе — многа памаглі святыя і бог?

— Я на бога не наракаю, Якаў... Я на яго не маю крыўды... Хіба ён адзін усім паможа?.. Людзі крыўдзяць адзін аднаго, гнятуць, от як твой гаспадар, а мой сусед Яўхім Халуста...

— І бог яго не карае, Сымон! Не! Ён нават памагае гэтаму злодзею.

— Да пары. Прыйдзе пара — і пакарае яго бог.

— А ты чуў прыказку: на бога спадзявайся, а сам не агінайся?

— Чуў... Але прыказкі розныя бываюць: і разумныя і неразумныя...

— Гэта прыказка разумная, Сымон. Шмат дзе людзі ўжо зразумелі, што на бога ім спадзявацца няма чаго, бо ён за багатых стаіць, і самі свой лёс здабываюць. За зброю бяруцца, за сякеры, за косы! Паноў выганяюць ды вось такіх жываглотаў, як Халуста.

— Чуў я, што бунты ідуць у Расіі, але ж гэта далёка ад нас... Ды што тыя бунты!.. Прыйдзе войска, і ўсё...

— А хто ў войску? Хіба салдаты не сыны сялян ды рабочых? А калі падымецца ўся Расія, то гэта ўжо будзе не бунт, а рэвалюцыя, і не хопіць у цара войска задушыць яе, бо і салдаты пойдуць за народам. Хіба салдаты не народ?

Сымон маўчаў. Цыгарка патухла ў яго руцэ. Ён кінуў яе і растаптаў нагой.

— Маўчы, Якаў... Каб хто падслухаў нашу гаворку... А я чуў пра бунты. Чуў... І дзякую табе, Якаў... От пагаварыў з табой, і надзея з'явілася... Цяжка жыць без надзеі. Можа ж такі дасць бог і дачакаемся лепшага жыцця.

— Бог не дасць, Сымон.

— Гэта я к слову...

— Тады закурым на расстанне, Сымон...

— Закурым. А куды ты ідзеш?

— У Дубею, да сястры. Сястра мая там замужам.

— То недалёка. А я думаю, куды ён бярэцца? Ты кожную нядзелю ў Чыжэвічы хадзіў, а сёння зусім у другі бок.

— Трэба сястру праведаць... Ну, дык бывай, Сымон, я пайшоў.

— Бывай, Якаў.

Асенняе сонца ўзнялося над зямлёй, і пашырэў кругагляд. Удалечыні, там, дзе, здавалася, неба сыходзіцца з зямлёй, вісела нейкая смуга, не то дым, не то туман. На поўначы, у тым баку, дзе Слуцак, сярод палёў густа стаялі вёскі, а на поўдні, пад Старочынам,— лес. Адвечнай тугой і нядоляй апавіты былі гэтыя прасторы, і вёсачкі здалёк нагадвалі могільнікі, закінутыя ўбок ад жыцця...

Якаў ішоў на захад. Ён прамінуў засценак Жывіцы і сігаў цяпер па палетку, на якім, як невялічкія люстэркі, то там, то сям блішчалі лужынкі-азярынкі. Да вёскі Дубеі было вярсты тры. Стаяла яна сярод ле-

су, невялічкая, хат пятнаццаць, зрубленых са смаловай сасны. Многа гадоў прастаялі гэтыя хаты, але і цяпер яшчэ былі жоўтыя, нібы толькі пабудаваныя. Моцныя былі хаты, але вельмі цёмныя, на два-тры акны, і тыя маленькія.

У прыгожым месцы ляжала Дубея, але зямля тут была вельмі бедная. Хоць на сажань у глыбіню капай — адзін пясок. Каля самай вёскі ды на агародах яшчэ сюды-туды, трохі расло, там і гною больш пападала, а на лясныя паляны пакуль завязеш які гной, то палову растрасеш па карчах ды па карэннях.

У хаце быў толькі швагер Апанас — здаравенны мужчына, пра якіх гавораць, што ён бы вяроўкай дуб спілаваў. Тым болей смешна было ўбачыць гэтага асілка над калыскай. Ён гушкаў і спяваў мядзведжым голасам:

— Лю-улі, лю-улі, а-а-а...

— Ты сёння за няньку ў хаце,— сказаў яму, павітаўшыся, Якаў.

— Бачыш, што яна са мной зрабіла, га? Гэта падумаць толькі, пакінуць чалавека з малым дзіцем на ўвесь дзень!

— Пра каго гэта ты?

— Пра Параску! Бачыш, якая твая сястра, га?

— А дзе яна сама?

— Не ведаеш, дзе? У Чыжэвічы пайшла... Пайду, кажа, у царкву, богу памалюся, а то ты, кажа, звалок мяне ў гэтую Дубею, я тут адубею! Чуў, га? — Апанас зарагатаў.— Я кажу: «Маліся дома». А яна: «У гэтым,— кажа,— лесе не богу маліцца, а па-воўчы выць». От хітрая, гадаўка... Садзіся, Якаў, у нагах праўды няма... І пайшла! Ты думаеш, яна богу маліцца пайшла? Гэ-гэ! Яна да Піліпа зойдзе, а Піліпава Лукер'я такая самая балбатуха. Яны да вечара будуць сядзець і адна адной гусці: гу-гу-гу, га-га-га. Ведаю я іх. Ці не праўда, га? А мне тут сядзі адзін, няньчыся з дзіцем... Добра, што закалыхаў, спіць, дзякуй богу. Ну, няхай спіць. Ці добра гэта мне, Якаў, га?

— Нашто ж ты яе пусціў?

— А хіба біцца з ёю будзеш? Пайшла ды ўсё. Я, калі жаніўся з ёй, дык думаў: от добра, маткі ў яе няма, не будзе да каго ўпрочкі ад мяне бегаць, дык от Лукер'я знайшлася. Скажы ты... Ну, як ты жывеш у Халусты, Якаў, га?

— Жыву! Як ты жывеш?

— Я ж табе кажу! Горш за ўсіх!

— Я не пра гэта пытаю.

Апанас падняўся з месца і ледзь не падпёр галавою бэльку. Быў ён малады, чырванатвары, кучаравы, з вясёлымі вачыма.

— Я жыву, Якаў. Чорт мяне не бярэ. Сям'я ў мяне малая. Свайго не хапае, але ж я ў лесе жыву: паленца ўкрадзеш, нешта з яго зробіш, прадасі... А ў лесе і грыб, і ягада. От з леснікам у мяне нелады пайшлі. Гэта горш, га?

— Якія нелады?

— Прыціснуў я быў яго ў лесе. Добра такі прыціснуў, ён аж пікнуць не мог.

— За што ж ты яго?

— Як табе сказаць... Калі разабрацца, дык праз Параску. Пайшла яна аднойчы ў баравікі, а мяне гэтак жа сама з малым пакінула. Прыбягае дамоў без баравікоў і без каша, але са слязьмі. «Чаго ты?» Кажа: «Ляснік злавіў, кош з грыбамі адабраў і таргавацца пачаў: або лажыся з ім пад куст — чуў ты, га? — або, кажа, і нагі тваёй у лесе не будзе...» Узяла мяне злосць. Грыба табе шкада, што ў панскім лесе вырас, і ты маю жонку за нейкую валяшчую лічыш. Я за сякеру ды з хаты, пайшоў у лес. А сцежкі мне там вядомы. Прыпільнаваў! Убачыў ён мяне і пасінеў. У яго ад страху і гніды падохлі... Прыціснуў я яго! Ён мне рукі і ногі цалаваў, абы я пусціў яго жывога. А я і не думаў забіваць яго, але толькі пастрашыць. От з таго ў мяне з ім і нелады. Чуў, га?

У калысцы пачуўся плач.

— Канец мне прыйшоў, Якаў,— застагнаў Апанас.— Прачнулася ўжо. Цяпер я да вечара...

Ён нагнуўся да калыскі, выняў з яе прыгожанькую заспаную дзяўчынку, такую ж кучаравую, як сам.

— А маленькая ты мая... Ужо мокранькая, га? Падай мне, Якаў, пялёнку сухую, вунь на коміне вісіць... А гэтую павесь на тое месца, няхай сохне... А цяпер я яе пакармлю... Недзе ж тут соска была... Ага, вунь дзе яна, за падушкай... Патрымай трохі, Якаў, сваю пляменніцу, а я з печы малако дастану.

Якаў узяў дзяўчынку, і яна даверліва прытулілася да яго. Мабыць, прывыкла яна да мужчынскіх рук. «Добрая твая душа, Апанас,— думаў Якаў, па-

глядаючы, як спраўна завіхаецца швагер каля печы.— Лесніка ты прыціснуў і яшчэ збіраешся прыціснуць, а от жонкі ў рукі ўзяць не сумеў...»

Апанас тым часам выняў з печы малако, паставіў яго на акно студзіць і пачаў вымáць з печы гаршкі.

— От добра, што ты прыйшоў, Якаў. Мне весялей будзе. От пакармлю дачушку, тады мы самі за стол сядзем. Чаркі няма, адкуль тая чарка, га? Я за ёй не ганюся.

— Не ганюся і я.

— От і добра.

Дарэмна Апанас наракаў на сваю долю. Дачка яго была не з плаксівых. Нассаўшыся малака, яна спакойна гуляла на ложку і гула ўвесь час, пакуль Апанас з Якавам палуднавалі.

— От такое жыццё, Якаў,— расказваў Апанас, прыбраўшы са стала.— Як са свае нівы саступіў, дык на чужой зямлі апынуўся, калі не на панскай, дык на казённай... Жывеш як пустадомак: ні калёс, ні атос, і кабылу чорт панёс.

Гутарылі доўга, нарэшце Якаў устаў.

— Пайду я ўжо, Апанас. Засядзеўся я ў цябе.

— Пасядзі яшчэ, швагер. Так ты спяшаеш да свайго Халусты, дагаджаеш вельмі яму.

— Я яму не дагаджаю.

— Дык чаго ж ты бяжыш? Пасядзі, мне весялей будзе, га? Яшчэ ж і Параскі няма, пачакаў бы яе, швагер...

Апанас пачаў зваць Якава шваграм, думаў, што гэта вельмі яму спадабаецца і ён пасядзіць з ім аж датуль, пакуль не прыйдзе Параска.

— Не, Апанас. Мушу ісці, справа ёсць.

— То ты не швагер, а свіння... Ведаю я твае справы — да дзевак бяжыш. Ці не праўда, га?

— Што праўда, то праўда,— усміхнуўся Якаў.— Ну, дык бывай здаровенькі, швагер.

— От чорт! Акурат такі самы, як Параска!

Якаў выйшаў з Дубеі на маляўнічую лясную дарожку, што вяла на Слуцкі шлях. Сёння думкі разбягаліся ў яго галаве, і ён не мог спыніцца на чымнебудзь адным. Да Слуцкага шляху было не больш за вярсту, і ён прайшоў гэтую вярсту неўзаметку. Спыніўся каля высокага крыжа, што стаяў на шляху, і агледзеўся. Ціха і пуста было наўкола, толькі з тры-

вожным сумам гудзелі тэлеграфныя слупы. «Значыць, яшчэ не прыйшоў,— падумаў ён і сеў каля дарогі пад тоўстую сасну.— А можа і не прыйдзе?» Яму раптам стала сумна да болю ў душы. А тут яшчэ гэтыя слупы, нібы скардзяцца некаму на сваю долю. Ён адчуў панакутлівую адзіноту і бяздумнымі вачыма глядзеў на дарогу. Колькі часу пражыў ён тут, у родным кутку? Мала, вельмі мала... Ці даўно ён вярнуўся з горада, а здаецца — прайшлі гады. І не атрымаў яшчэ адтуль ніводнай весткі. Таварышы, вядома, не забудуць, а яна, мабыць, ужо забыла... Эх, Волька, настаўніца... Адабрала ты сэрца ў свайго вучня... Не раз збіраўся напісаць ёй ліст, прызнацца — і не мог... Саромеўся, як хлопчык...

Дастаў партабак і закурыў.

— А я даўно за табою наглядаю, Шэмет,— пачуў ён голас і падхапіўся з месца.

— Бялячыц! Я думаў, ты яшчэ не прыйшоў.

Чалавек гадоў пад сорак, няголены, гарбаносы, сіваваты і сутулы, падобны на гандляра, які па вёсках купляе ўсё, што прадаецца, стаяў перад ім і ўсміхаўся.

— Я даўно цябе чакаю, Шэмет. І панаглядаў трохі, які ты. Нявесела табе тут?

— Дэпо ўспомніў... Можа зойдзем у лес?

— Нашто? На, вазьмі ды схавай тое, што я табе прынёс.

Ён перадаў Якаву вялікі скрутак, і Якаў паклаў яго за пазуху.

— А цяпер мы пасядзім, пакурым, пагутарым, як сустрэчныя, і разыдземся. Нашто хавацца ў лес? Ды мне і часу няма доўга затрымлівацца.

— Дык расказвай, што новае... Я ж зусім тут адстаў...

— Усё новае ў скрутку, там матэрыялы другога з'езда. Наша партыя не паспела заснавацца і адразу раскалолася. Большасць пайшла за Леніным, меншасць — за Мартавым... Разбярэшся сам. Наш, рабочы, шлях — ленінскі шлях... Слухай мяне ўважліва, бо я паўтараць не буду...

Гаворка цягнулася больш за гадзіну, і калі яна кончылася, Якаў інакш зірнуў на белы свет. Нават тэлеграфныя слупы пачалі гусці так бадзёра, нібы гэта не слупы, а фабрычныя гудкі, якія абвяшчаюць забастоўку.

— Значыць, гэта наша першая і апошняя сустрэча на дарозе. Добра. Не ў мае гады валачыцца ад вёскі да вёскі, прыкідваючыся гандляром, які толькі таргуецца, а нічога не купляе. Станіслава Вярбіцкага я ведаю. Калі будзе патрэба, дасылай яго.

— Ну, дык бывай, Бялячыц. У мяне грудзі распірае ад радасці.

— Ці так яшчэ разапрэ! Пачакай, я табе не ўсё аддаў.— Ён выняў з халявы невялікі сіні канверт.

— Гэта прыватны лісток. Ад каго, табе лепш вядома. А цяпер жадаю табе ўсяго найлепшага, Шэмет.

Яны разышліся ў розныя бакі. А сіні канверт, што ляжаў у верхняй кішэні гімнасцёркі, грэў сэрца Якаву. Ён-то ведаў, ад каго гэты лісток. Хіба ён не пазнаў Вольчынага почырку?

## РАЗДЗЕЛ ШАСНАЦЦАТЫ

Міхаль Рожка быў добры і шчыры хлопец, але ў яго іншы раз не хапала мужнасці і цвёрдасці. Астаўшыся без бацькоў на восьмым годзе, ён выгадаваўся ў панскім маёнтку. Можна ўявіць, якое гэта было гадаванне і выхаванне. Быў спачатку падпаскам, потым пастухом, а калі вырас і ўвабраўся ў сілу, стаў парабкам. Ён-то ведаў цану кавалку хлеба і ведаў смак гэтага кавалка. Часцей за ўсё горкі быў той кавалак, калі кідалі яго, як сабаку, ды яшчэ з папрокам, нібы ты яго не зарабіў і кормяць цябе з ласкі. І вось гэтая праклятая боязь страціць кавалак хлеба з маленства гняла яго. Асталася яна і тады, калі падрос. Будучы сталым чалавекам, ён усё яшчэ баяўся, што яго прагоняць, што прыйдзецца валачыцца, як бяздомнаму, і так, як у маленстве, дрыжаць за кавалак хлеба, можа выпрошваць яго. Гэта зрабіла яго беражлівым да сквапнасці. Ніхто з сяброў не ведаў, што гэты хлопец хавае кожную капейку, калі яна трапляе ў рукі. Ён зрабіўся да некаторай ступені самалюбцам, мог спакойна прайсці каля чужога гора і не звярнуць увагі. Аднак хлопец не зусім зачарсцвеў душой, бо ўвесь час жыў у калектыве; не мог канчаткова зачарсцвець і таму, што лёгка паддаваўся і добраму і дрэннаму ўплыву.

Пасля гаворкі з Паўлам Квітуном Міхаль цвёрда надумаў ажаніцца з Любай, але ўжо назаўтра рашэн-

не гэтае здалося яму вельмі скараспелым. Ажаніцца? А жыць як? Вось гэтая думка не давала яму спакою. Жыць не аднаму, а з сям'ёй, узваліць сабе на шыю такі клопат, такую адказнасць. Пытанне, як жыць, ён ставіў толькі ў адносінах да свае асобы, а вось як будзе жыць Люба, стаўшы маткай яго дзіцяці, адна, без работы, пра гэта ён не думаў. Праўда, нешта падсвядомае прыходзіла яму ў галаву, але ён на ім не спыняўся. «Ажаніцца! — думаў ён.— Дык і вяселле ж трэба справіць». Была ў Міхаля нейкая капейка, але ж ён бярог яе на чорны дзень і аб тым, каб патраціць гэтыя грошы, не мог і думаць. Патраціць на вяселле!

Сустракаючыся з Любай, адчуваў сябе вельмі няёмка. Як ні круці, а хіба ён не вінаваты! Яму было сорамна глядзець у даверлівыя і шчырыя Любіны вочы. «Эх, свіння ж я, свіння...» Ён хлусіў дзяўчыне і ненавідзеў сябе за гэтую хлусню.

Павел Квітун часта пытаў у яго пра Любу і пра вяселле. Міхаль злаваўся, яму хацелася вылаяць Паўла, даць яму па мордзе, але баяўся. Не таму, што той быў дужэйшы,— Павел быў чысцейшы за яго, а гэта было яшчэ страшней. Міхаль сам адчуваў, што да яго прыліп нейкі бруд, а ён замінае глядзець людзям проста ў вочы...

Аднак Міхаль кахаў Любу, хоць і хацеў запэўніць сябе, што ў жыцці няма нічога вечнага, тым болей кахання. «Няхай бы яна забыла мяне,— думаў Міхаль.— А я ўжо неяк вытрымаў бы».

Ён ніколі па-сапраўднаму не падумаў пра дзіця, якое будзе ў Любы. Ва ўсіх яго думках яно аставалася ўбаку. Міхаль не мог думаць пра тое, чаго яшчэ няма. Ды ці будзе! Хіба мала сродкаў ведаюць жанчыны, каб збавіцца ад гэтага. Вось каб Люба не спадзявалася на яго, то знайшла б раду... І ён надумаў не сустракацца з ёю. Некалькі дзён старанна абмінаў яе, вечарамі прыкідваўся хворым, ляжаў на нарах і шчыра ўздыхаў, стагнаў, бо яму сапраўды было цяжка. Але калі хлопцы ішлі на вячоркі, страшэнная туга апаноўвала яго. Люба стаяла ў вачах. Успаміналіся ўсе сустрэчы, асабліва апошнія, калі яна, пахілая і няшчасная, глядзела на яго з такім балючым дакорам. Гэта было і дзіўна і страшна. Адным словам, грызла сумленне. Ён меў нямала сувязей з дзяўчатамі і да Любы, але разыходзіў-

ся з імі хутка і весела. Так, як і сыходзіўся. А цяпер атрымлівалася зусім інакш...

Ён сустрэў яе нечакана. Ужо сцямнела на двары, і ў маёнтку заціх працоўны тлум. Люба ішла са свінушніка ў свой дзявочы барак, сагнутая, як бярозка пад асеннім ветрам, і няшчасная, як само гора. У Міхаля закалацілася сэрца. Ён не мог ні прайсці міма, ні адвесці ад яе вачэй.

— Любачка,— сказаў, беручы яе за плечы.

— Пусці,— прамовіла яна, не падымаючы галавы.

— Ну, Любачка!.. Няўжо ты мяне больш не любіш?

— Жыццё ты маё адабраў, Міхаль,— адказала яна і падняла вочы. А ў тых вачах! Божа ты мой! Міхалю здалося, што яго апёк яе позірк. У ім былі і бясконцы сум, і бязмерны жаль, і маўклівы папрок, і шчырае-шчырае каханне.

— Люба мая родненькая!

— Долю ты маю сірочую адабраў... Каму я цяпер трэба такая? Дзіця будзе. Якая я работніца!.. Выганіць немец... Дзе я падзенуся з дзіцем? Да каго прытулюся... Хто пашкадуе мяне і маё дзіця? Нікога ў мяне няма... Думала, ты... дзіцяці свайму бацькам будзеш... і мне мужам...

Слёзы не далі ёй дагаварыць. Міхаль раптам адчуў, што сам плача. І не мог зразумець, як гэта атрымалася, што ён узяў ды заплакаў. Але дзіўней за ўсё было тое, што не саромеўся гэтых слёз. Наадварот, адчуваў, што яны змываюць увесь бруд з яго не вельмі чыстага сумлення.

— Ну, дык жа яшчэ не ведаеш, які я! — сказаў ён ні к сялу ні к гораду і, падхапіўшы Любу на рукі, пранёс праз увесь двор, праз луг і пасадзіў на беразе Случы.

— Утапіць хочаш? — скрозь слёзы запытала Люба.

Ён не адказаў, прыцягнуў да сябе, цалаваў доўга і не мог здаволіцца.

— Люблю я цябе, Любачка, так, што выказаць не магу. Ссохнуў я за гэтыя дні...— Люба недаверліва зірнула на яго.— Не верыш? Верыць мне не хочаш? А я не магу без цябе! У нядзелю павянчаемся.

— У якую нядзелю?

— Вось у гэтую, што прыйдзе!

— Не, Міхаль! Нам жа трэба падрыхтавацца.

І як змяніўся яе голас! Як высока падняла яна сваю

прыгожую галоўку! Не радасць, а нешта большае гучала ў яе словах. У іх былі гордасць, надзея, шчасце.

Міхаль не пазнаў свае Любы. Дык вось яна якая, яго Люба, гэтая сціплая, пакорлівая, такая ціхая і неприкметная дзяўчына! Дык яна ж красуня! Ды такіх дзяўчат больш у свеце няма нідзе! А яна прытуліла яго галаву да сваіх грудзей, пачала расчэсваць яго валасы.

— Ах, Міхаль!.. Каб я магла паверыць табе!

— Ты мне не верыш? — закрычаў Міхаль.— Ну, дык от я табе кажу: у нядзелю ты будзеш мая жонка! І няхай хто паспрабуе на цябе пальцам паказаць!

— Не, Міхаль... У гэтую нядзелю вельмі ж блізка. Адкладзём на тыдзень, на наступную нядзелю... Мне хочацца, каб у нас было як ва ўсіх людзей. Толькі ж ты...

— Што я? — перабіў яе Міхаль.— Можа перадумаю? Ну, не! Гэтага не будзе! Я згодзен з табой, няхай і ў нас будзе як ва ўсіх людзей. Я яшчэ з Паўлам Квітуном пагавару і са Стасем Вярбіцкім.

— Пагавары, Міхаль. Стась такі добры чалавек.

— І разумны... А Павел кажа, што я крыху пуставаты. Не думаю...

— Ах, Міхаль... Зусім ты не пуставаты! Ты... ты, Міхаль, лёгкі нейкі...

— Ну! Ты таксама сказала! Я зусім не лёгкі, Люба, і не пусты! Гэта жыццё наша такое... сабачае. Жывём як старцы. Ні кала ні двара... За людзей не лічаць... паны ды немцы розныя. Мы дома жывём, а ён прыехаў на нашу зямлю і над намі пануе... Ты кажаш, каб і ў нас як у людзей было. Значыць, трэба вяселле нейкае справіць. Хлопцаў пазваць ды дзяўчат. У мяне ёсць капейка...

— І ў мяне ёсць, Міхаль... Зберагла крыху...

— Тваіх мы не будзем чапаць. Нам яны яшчэ будуць патрэбны.

— Калі будзе дзіцё, Міхаль.

— Але, калі будзе дзіцё.

Доўга сядзелі яны і разважалі пра сваё будучае жыццё. А ў гэты час у хаце Станіслава Вярбіцкага цьмяна гарэла лямпа, бо кнот быў прыкручаны амаль да канца. За сталом сядзелі сам Станіслаў і Павел Квітун. Гаворку вялі ціха.

— Значыць, ты прачытаў гэтую кніжку,— сказаў

Станіслаў.— Добра, Павел. Я табе дам яшчэ адну. Толькі, сам ведаеш: асцярожнасць перш за ўсё. Не толькі сам можаш папасціся, улічы.

— Ведаю, Станіслаў, не вучы мяне асцярожнасці. А кніжку разумны чалавек пісаў.

— Ленін! Гэтую кніжку пісаў Ленін. Мы яшчэ шмат чаго не ведаем, Павел. Не адну кнігу трэба прачытаць і табе і мне, каб шырэй зірнуць на жыццё і ісці па правільным шляху. А ў нас тут і эсэры могуць мець нейкі ўплыў... Сялянам яны зямлю абяцаюць, багатае жыццё. Шкада, што мала нас тут. Ты ды я, калі не лічыць Якава. А мы ж павінны рыхтавацца да бою, павінны весці за сабою народ. Наша задача, Павел,— рыхтавацца, падбіраць людзей... Значыць, ты на Міхаля Рожку не спадзяешся?

— Не, Станіслаў. За ім трэба добра панаглядаць. Нешта ён з Любай круціць ды мудруе. Па-мойму, здраднік у любой справе здраднік.

— Гэта праўда.

— У мяне ёсць другі чалавек, Станіслаў.

— Хто?

— Платон Шабуня.

— Я ўжо гаварыў Якаву пра яго. Але ж вельмі непрыкметны ён.

— Мала ты яго ведаеш. Чалавек ён цвёрды, сумленны, і разважанні яго вельмі смелыя.

— Ты не даваў яму гэтых брашур?

— Ну, што ты! Аднак я думаю, што яму акурат па дарозе з намі.

— Трэба звесці яго з Якавам, няхай пазнаёміцца. А ты тым часам прыглядайся да яго, Павел.

— А я, браце, даўно прыглядаюся і мяркую, што трэба яго ўвесці ў нашу групу. Калі прыйдзе Якаў?

— Я тады паведамлю табе. Літаратуру возьмеш?

— Вазьму. Як там яе палажыць у свой куфэрак, каб ніхто не бачыў... Пайшла б за мяне Надзя Пракопава, аджыў бы я! Кватэру сваю меў бы, кінуў бы гэтыя праклятыя баракі, дзе ты ўвесь на вачах.

— Тут я табе нічым не памагу, Павел, сам ведаеш.

— Ведаю... Я пайду, Станіслаў.

— Ідзі... Прыглядайся да людзей, прыслухоўвайся, пра што яны гавораць. І галоўнае — прыгледзься да Платона Шабуні.

— Гэта я сам ведаю, Стась. А літаратуру прынясі ў бровар заўтра. Сам аддасі мне.

— Добра.

Калі Павел прыйшоў у барак, Міхаля яшчэ там не было. Павел адразу заўважыў гэта.

— Дзе ж гэта сёння Міхаль? — запытаў ён у хлопцаў.

— А чорт яго ведае! — адказаў Платон Шабуня.— Ляжаў-ляжаў, усё хворым прыкідваўся, і раптам сарваўся, як з ланцуга.

Платон Шабуня быў халасцяк гадоў пад трыццаць пяць. Хлапечага ў ім ужо нічога не было. Ён, як мужчына, гадаваў вусы і таму выглядаў старэй за свае гады. Шыракалобы, гарбаносы, вечна пануры, ён заўсёды глядзеў уніз, амаль ніколі не смяяўся, і ў вачах былі нейкі затоены сум і нездаволенасць.

— Кажаш, сарваўся? — запытаў Павел.— А калі гэта ён сарваўся?

— Яшчэ з вечара. Пустальга такі.

— Ты так думаеш, Платон?

— Ды не толькі я. І ты так думаеш. Загубіў такую харошую дзяўчыну, сволач! — раптам вымавіў Платон з прыціскам і са злосцю.— Ды каб яна за мяне пайшла, я яе і такую ўзяў бы.

— Ты?

— Чаго ты на мяне так глядзіш? Вядома, я! Думаеш, не надакучыла мне аднаму вечна ў гэтых свалачоўскіх бараках валяцца? Трыццаць пяць гадоў маю і ўсё ажаніцца не мог. Ды як малодшы быў — і думкі не такія былі. Такі ж дурань быў, як і гэты абух Міхаль. Парабку, бачыш, і жаніцца не варта. А цяпер мне вельмі лёгка і добра,— з горкай усмешкай усё гаварыў ён.— Клопату няма... Вы на вячоркі да дзевак, вам патанцаваць хочацца, а мяне ўжо не цягне. А калі прыйдзеш, то тырчыш там сярод маладых адзін, хоць і ў гурце, але нікому не патрэбен. Або валяешся на гэтых нарах, як сабака ў будцы на ланцугу... А была б жонка, да яе прытуліўся б, з дзецьмі пагуляў бы... А цяпер — цьфу! Так і здохнеш адзін, у зямлю закапаюць, і не ўспомніць ніхто, што жыў на свеце такі вось Платон Шабуня...

— Ну, гэта ты дарэмна, Платон,— прамовіў Павел.— З такімі думкамі лепш і не жыць.

— А што ж ты думаеш! Калі жыць пустацветам,

то лепш і не жыць. А ён, дурань, свайго шчасця не ведае. Прывык да харчэўні, нажарэцца, чаго пададуць, і добра... А тады дзевак ашукваць... А якое гэта шчасце — сесці за стол са сваёй сямейкай! І не якая-небудзь тая крывая Антоля прынясе табе міску гарохавага супу і падсуне пад нос, як сабаку: «Жары!» — а твая жонка прынясе табе! Няхай сабе таго ж самага супу або яшчэ горшага, поліўкі нішчымнай!.. Ды скажа: «Еш, Платон, пакуль не астыла» або: «Ты, Платон, сёння мала еў». Ды вы ведаеце, што гэта значыць, абэлтухі вы такія!

Павел змоўк, бо ў гэтую хвіліну ў пакой увайшоў Міхаль Рожка. Выгляд у яго быў незвычайны, нейкі ўрачысты і святочны. Вочы зіхацелі, твар свяціўся радасцю.

— Хлопцы! — ад парога паведаміў ён.— У нядзелю мы жэнімся! Толькі не ў гэтую, а ў тую!

Платон Шабуня мігам падхапіўся з ложка.

— Хто гэта мы? — запытаў ён.

— Я з Любай! Разумееш?

— Хлусіш, шэльма! Заўтра ты другое будзеш спяваць!

— Я хлушу?! Тады ты зрабі са мной усё, што хочаш!

— Добра. Тады я цябе заб'ю.

— Пачакай, Платон,— сказаў Павел.— Мы пагаворым з Міхалём сур'ёзна. Ён ужо другі раз абяцае, што ажэніцца з Любай. Першае вяселле яго прайшло ўжо. Ды не толькі вяселле, але і хрэсьбіны. Я нават кумам у яго быў. Так, Міхаль?

— Ну, ведаеш, Павел... Тады было зусім не тое... А сёння мы пагаварылі з Любай пра ўсё. У тую нядзелю вяселле.

— У тую нядзелю вяселле...— паўтарыў Платон.— Я гэтага не забуду, Міхаль.

— Усіх запрашаю! Так і Люба хоча! І цябе, стары конь, запрашаю, хоць ты і хочаш мяне ўбрыкнуць.

Платон усміхнуўся невясёлай, але добрай усмешкай.

— Калі ты гэта зробіш, усё табе дарую, Міхаль. Ты ж ведаеш, як лёгка зрабіць чалавека няшчасным... Ды што там няшчасным!.. Да смерці давесці. На гэта не трэба вялікага розуму. Раскажу табе гісторыю адну. Сам сведкам быў, ведаю яе добра. Тады я праца-

ваў у Навагрудскім павеце ў пана Залеўскага. Меў за плячыма толькі дваццаць гадоў... Ды не пра мяне тут гаворка. Дзяўчына там была адна... Каталічка. Чэсяй звалі. Прыгожая была дзяўчына. Такіх я больш не сустракаў. Яна ў панскіх пакоях рабіла. Не пакаёўкай была, а падлогу мыла, ну і іншыя работы ў кухні. Быў там і хлопец адзін... Відны такі, удалы. Ён каля коней хадзіў. Звалі яго не то Іван, не то Сцяпан. Не помню. Пятнаццаць гадоў прайшло... Ды мы з ім і не сябравалі. Улюбіўся ён у гэтую Чэсю. Прыліп да яе душой. А яна — хто яе ведае... Ганарлівая яна была... Ды яны ўсе, каталічкі, такія... А ён, вядома, просты парабак, мужык.

Прайшла зіма, вясна. Іван той ці Сцяпан ссох па гэтай Чэсі. Мо разоў пяць пацалаваў за ўвесь час. А ад яе за гэта толькі аплявухі атрымліваў... А летам прыехаў панскі сынок з Варшавы. Студэнт... Ды што тут доўга гаварыць. Сапсаваў ён тую Чэсю... Зрабіў чэрава, як і ты сваёй Любе... А сам зноў пакаціў у Варшаву. Тут ужо Чэся рада была б за таго Івана ці Сцяпана пайсці, а ён нос задраў... Задраў нос і годзе... І любіў яе, а от нос задраў: «Нашто яна мне з панскім байструком». Але больш за ўсё крыўдна яму было, што мужыкам заўсёды толькі пазадкі астаюцца пасля паноў. Ну, ды што тут казаць! Утапілася тая Чэся, от і ўсё... І хто тут вінаваты: ці сама Чэся, ці паніч, ці той Іван-Сцяпан, ніяк не разбяруся... Так от і я нежанаты астаўся...

— А пры чым тут ты? — пацікавіўся Міхаль.

— Мабыць, была прычына,— нехаця адказаў Платон і лёг на нары.

«Дык от чаму ты, браце Платон, заўсёды нахмураны ходзіш і ў зямлю глядзіш...» — падумаў Павел.

## РАЗДЗЕЛ СЕМНАЦЦАТЫ

Якаў позна вярнуўся з Чыжэвіцкага маёнтка. Малінаўцы ўжо бачылі трэція сны, калі ён адчыніў брамку Халуставага двара. Сабакі ўзнялі шалёны брэх, але ён падаў голас, і яны супакоіліся. Халуставы вартаўнікі ўжо ведалі гаспадаровага работніка.

Якаў адамкнуў свіран, але спаць лёг не адразу. Лёгка кружылася ў галаве, і настрой быў крыху ўзнё-

слы. У маёнтку адгулялі вяселле Міхаля Рожкі і Любы Гірун. Якава не запрашалі. Ён прыйшоў да Станіслава Вярбіцкага, а там акурат і быў цэнтр урачыстасці. Люба папрасіла Ядзвігу быць ёй пасаджонай маткай, а Станіслава — бацькам. Ядзвіга спачатку не згаджалася. «Я каталічка,— гаварыла яна,— а вяселле праваслаўнае. Мабыць, няможна так». Але Станіслаў хутка развеяў яе сумненні.

Уся падрыхтоўка да вяселля вялася ў Станіслава. У ёй прынялі ўдзел амаль усе парабкі. Кожны ўнёс сваю лепту. Два дні перад вяселлем у хаце Вярбіцкага не патухала печ. Жанчыны, якія не хадзілі на работу, пяклі, смажылі, варылі, парылі. Міхаль ніколі не думаў, што яго вяселлем так усе зацікавяцца, так блізка прымуць да сэрца. Парабкі ад сваіх небагатых набыткаў назносілі маладым гару падарункаў. Калі дзялілі каравай, на талерку клаў кожны, колькі мог. Палажыў і Якаў цэлую пяцёрку. Так што Міхалю і Любе не толькі вярнуліся тыя грошы, якія яны патрацілі на вяселле, але і прыбавілася да іх удвая ці ўтрая.

У Станіслававай хаце справілі вяселле. Тут банкетавалі, а моладзь танцавала ў бараку, дзе звычайна спраўлялі вечарынкі.

Міхаль быў вельмі рады, што яго вяселле праходзіць так, як і ў людзей. Ён неяк адразу пасталеў і памужнеў, адчуў, што хлапечы час яго прайшоў, настала пара быць мужчынам.

На вяселле запрасілі і аканома Гендарсана. Нельга было не запрасіць. Гэты немчык потым доўга помсціў бы маладым мужу і жонцы. Акрамя таго, Міхалю і Любе патрэбна была цяпер сямейная кватэра, а яе мог даць толькі аканом.

Гендарсан, як акуратны нямецкі сем'янін, прыйшоў на вяселле са сваёй даўганогай палавінай і цыбатай дачкой з халоднымі вачыма. Іх пасадзілі на лепшыя месцы. Аканом добра такі выпіў і развесяліўся.

— Ві, сволаш, не ўмейт піць,— заявіў ён.— Ві не ест рускі! Я ест лепш рускі, чым ест ві!

Ён сам наліў сабе чарку, выпіў не закусваючы, наліў другую і тую выпіў, хацеў наліць трэцюю, але жонка перахапіла з рук бутэльку. Яна і дачка нешта гаварылі яму па-нямецку, але ён брудна вылаяўся паруску, адабраў ад жонкі гарэлку і выпіў трэцюю чарку.

— Я сам знайт! — закрычаў ён.— Я знайт усё! Стоп! Я вілез! Я хачу вілез!

Яго пусцілі з-за стала.

— Музік, іграйт! — крыкнуў ён, стаўшы сярод хаты.— Я вам пакажу... як ест гэта? Каленца! Я вам пакажу айн каленца!

Але паказаць каленца так яму і не ўдалося. Жонка падхапіла яго пад руку. Ён вырваўся, лаяў яе так, як лаяў парабкаў і парабчанак. Жонка яго не ведала ні адной мовы, акрамя нямецкай, і, вядома, нічога не разумела.

Павел Квітун з цікавасцю наглядаў, што вытварае п'яны немец, і з прыемнасцю адзначыў, што ён ні ў якой меры не лепшы за вясковых мужыкоў. Нават горшы, бо мужыкі не бываюць ганарлівыя і пагардлівыя, калі нап'юцца. Тады ім кожны сябра і друг.

Да Квітуна падышла аканомава дачка Эльза.

— Вы даруйце... Мне здаецца, вы ўсё разумееце... Тата п'яны. Яго трэба завесці дадому. Вы памажыце нам...— Яна зірнула на Паўла бялесымі вачыма, у якіх на гэты раз акрамя халоднай зацікаўленасці відна была і просьба.

— Добра, паненка, я завяду яго,— сказаў Павел.— Толькі вы скажыце яму, каб ён заўтра на мяне не злаваўся. Ён, як бачыце, будзе ўпірацца, і я буду не вельмі далікатны.

Эльза махнула рукою: рабі, маўляў, што хочаш, толькі выведзі адсюль.

Павел падхапіў тоўсценькага каратканогага аканома пад руку. Той спачатку ўпёрся нагамі ў падлогу, потым паспрабаваў павіснуць на Паўлавай руцэ, але дарэмна: пайшоў за Паўлам, як міленькі.

— Ты ест сукін сын! — лаяўся аканом.— Швіня! Я буду біць табе зуб! Увесь зуб!

Якаў доўга чакаў Паўла, а яго ўсё не было. «Дзе ён мог затрымацца? — думаў Якаў, выйшаўшы на двор і ўглядаючыся ў сцежку, што вяла да аканомавага дома.— За гэты час можна было тры разы завесці Гендарсана і вярнуцца назад».

Тым часам пачало цямнець. Чаканне ў Якава перарасло ў трывогу. Ён, нікому нічога не кажучы, паволі пайшоў па сцежцы да аканомавага асабняка. У сумным маўчанні стаяў ужо апусцелы сад. Толькі лісце шасцела пад нагамі. Навокал ні душы, і Якаву

здалося, што гэты асенні сад вельмі нагадвае могілкі. Для поўнага падабенства не хапала толькі крыжоў.

Раптам Якаў пачуў гаворку. Гаварылі Эльза з Паўлам. «Пра што ён можа так доўга гаварыць з акономавай дачкой?» — падумаў Якаў. Не след парабку звязвацца з панскай дачкой. Хоць аканом і не пан, але звычайна ў такіх панскіх папіхачоў больш гонару, чым у саміх паноў. Тым болей не след, што акономава дачка Якаву не спадабалася. Вельмі ж халодныя ў яе вочы. У такіх людзей няма чалавечай цеплыні і шчырасці. Падумаў, што трэба сказаць пра гэта Паўлу, папярэдзіць, каб далёка не заходзіў у сваіх адносінах з гэтай белабрысай дзяўчынай.

Павярнуў назад і накіраваўся ў сваю Малінаўку.

Цяпер ён сядзеў на парозе свірна, курыў і думаў. Думаў пра Міхаля і Любу, пра Паўла і Надзю, пра аканомаву дачку Эльзу, якая, нібы клін, утачылася паміж Паўлам і Надзяй. Яго трывожыла гэта. Пісьменная і разумная дзяўчына, але разбэшчаная, можа лёгка заваяваць сэрца простага парабка. Не верылася, што Павел так хутка паддасца ўплыву чалавека, чужога яму не толькі па нацыянальнасці, але і па ўсяму жыццю. Ва ўсякім разе, Якаў наважыў уведаць ад Паўла ўсе падрабязнасці сённяшняй яго сустрэчы з Эльзай.

Ён зачыніў свіран, лёг і нібы праваліўся ў прадонне.

Назаўтра яшчэ не паспела развіднецца, а Халуста ўжо грукаў кулакамі ў дзверы свірна і лаяўся на чым свет стаіць. Якаў не адзываўся.

— Ліха матары яго! Можа ён здох! Тады хавай яго, труну рабі, людзей ззывай... Расходы, ліха матары яго! Не адслужыў свайго... Не закапаеш жа яго як сабаку... От кавалак хама! На злосць табе дык ён і здохнуць гатовы... Міка-ала-ай! — раптам зароў ён.— Мікала-ай! Ю-узік! Дзе вы?

— Чаго ты крычыш, бацька? — пачуўся ад ганка голас Юзіка Грома.

— Сякеру нясі! Ламы, малаты!

— Нашто табе столькі начыння, бацька? — адазваўся Юзік ужо бліжэй.

— Якаў здох! Апруцянеў! Ногі выпрастаў! Аддаў

чорту сваю сабачую душу. Можа ён там павесіўся! Трэба дзверы ламаць!

— Не бойся, бацька! — супакоіў Халусту сын.— Я яго і так разбуджу.

У гэты момант Якаў выйшаў са свірна.

— Ну, чаго ты разроўся, гаспадар? — запытаў ён у Халусты.

— Дык ты не выдах? Запрагайце з Юзікам коней і ў Крушнікі. Дубы прывезяце! Скарэй!

— Якія дубы? Ты раскажы толкам.

— Да лесніка Хмялеўскага паедзеце. Юзік усё ведае.

Да Крушнікоў было каля шаснаццаці вёрст. Ехаць трэба было цераз Старочын, а там дарога ішла скрозь лесам.

Юзік ехаў наперадзе на парцы коней, а за ім Якаў на другой парцы. Як толькі мінулі мястэчка, Юзік пачаў дзікім голасам спяваць «Каробачку». Гэта была адзіная песня, якую ён ведаў цераз пятае на дзесятае.

Гэй, пална, пална каробачка,
Ест і сіцы і перча-а-а! —

роў ён на ўвесь лес, а Якаў рагатаў на сваім возе, хапаючыся за жывот.

Нарэшце прыехалі. Хмялеўскі жыў у самай пушчы. Толькі дарога і давала жылы выгляд гэтаму дзікаму месцу. Наўкол стаяў дрымучы лес. Выносістыя сосны гаманілі з небам. Ядлоўцавы падлесак абкружаў сядзібу. Пахла багульнікам і сасновай смалой. Зямля была пясчаная, але сядзіба ў Хмялеўскага была ладная. Усе будынкі новыя, са стрыжнёвай сасны, крытыя гонтай, агароджаныя не плотам, а парканам з такіх бярвенняў, з якіх у Малінаўцы будавалі хаты. Увесь двор нагадваў крэпасць.

З хаты выйшаў сам Хмялеўскі — пануры чалавек са звярынымі вачыма, няголены, мабыць, ад нараджэння, абраслы рыжымі валасамі ад барады да вушэй. Ён павітаўся з Юзікам і Якавам, скрывіў твар у нешта падобнае на ўсмешку і сказаў замагільным голасам:

— Значыць, такі прыехалі...

— Прыехалі, Юрка, хоць ты і не чакаў,— загрымеў у адказ Юзік.— Вядзі, паказвай тыя дубы.

— А яны тут, недалёка...— адказаў Хмялеўскі.

Якаў глядзеў на яго са здзіўленнем і цікаўнасцю. «Што гэта за чалавек? З выгляду сапраўды дзікун. Сустрэнься з такім на вузкай сцежцы адзін на адзін — рукамі задушыць». Мімаволі зірнуў на рукі Хмялеўскага. Сапраўды, гэта былі рукі асілка: вялізныя, мазольныя, з вузлаватымі пальцамі, імі можна было задушыць і мядзведзя.

— Што ты так адгарадзіўся сцяной ад лесу? — пацікавіўся Якаў.— Не ад мядзведзяў?

— Ад дзікоў,— адказаў Хмялеўскі.— Ратунку няма! Бульбу рыюць, поле псуюць, каб яны падохлі.

— Хіба іх тут так многа?

— Поўны лес! — Хмялеўскі ажывіўся — мабыць, гэтая гаворка прыйшлася яму да спадобы.— У мяне ўсе паляны, дзе бульба пасаджана, абгароджаныя, а то нічога б не асталося. І то кожную ноч са стрэльбай выходжу, палохаю.

— Ну, ты тут развядзеш свае казкі да вечара, паляўнічы,— сказаў Юзік.— Вядзі да тых дубоў, а то не справімся да ночы.

— А ты думаеш за дзень з абодвума дубамі ўправіцца? Хоць бы аднаго адолелі ды дамоў завезлі. Паганяй коней.

Дуброва сапраўды была блізка, сажняў за дзвесце ад хутара. Хмялеўскі адвёў іх далей ад дарогі і паказаў дубы. Гэта былі волаты — лясныя цары. З кожнага магло выйсці па два добрыя шулы, не лічачы верхавін і сукоў на слупкі і калы. Цвёрдае, як жалеза, дрэва слаба паддавалася піле.

Хмялеўскі зірнуў на яе і сказаў:

— Такой пілой дубы пілаваць! Эх вы, людзі палявыя!

Ён збегаў дамоў і прынёс сваю пілу, даўжэйшую і вастрэйшую. Пілавалі ўпераменку, падмяняючы адзін аднаго. Нарэшце такі першы волат паляцеў на дол, абіваючы галлё з дрэў, ломячы малады зараснік.

Пакуль дуб распілавалі на кавалкі, абсеклі сукі, адным словам, прывялі ў нейкі парадак, час падышоў да вечара. Абедаць не было калі. Селі перакусіць перад тым, як класці вазы. Юзік прынёс торбу, што дала маці, і развязаў. Там быў акраец чэрствага хлеба і кавалак сухога, як камень, сыру. Прыйшлося пакласці яго на свежы дубовы пень і рассекчы сякерамі.

— Ды гэты сыр мацнейшы за дуб! — сказаў Хмя-

леўскі.— Добра вас кормяць... Не, хлопцы, пасля такой яды мы гэтых шул на вазы не пакладзём. Схаджу я дадому ды прынясу дзічыны!

— І я з табой,— сказаў Якаў.— Піць хачу страшна.

— Ну, то хадзем.

Хмялеўскі нечым спадабаўся Якаву. Адчувалася, што пад яго дзікунскім выглядам хаваецца нешта дошто пад яго дзікунскім выглядам хаваецца нешта добрае, чалавечае. Ды і наогул хацелася бліжэй пазнаёміцца з гэтым чалавекам, уведаць, што ў яго за адносіны з Яўхімам Халустам.

— Пачым ты прадаеш гэтыя дубы? — запытаў Якаў.

— Прадаю...— нібы з таго свету адказаў Хмялеўскі.— Гора мае прадае... У доўг улез к Халусту, калі хутар гэты купляў у пана. Халуста ж мне і параіў... Не такі дарагі мне быў гэты хутар, як леснікоўская пасада... А цяпер от кручуся. Магу астацца і без хутара і без пасады. Папраўдзе, дык ужо даўно выбраў ад мяне Халуста за той доўг і грашыма, і лесам, і шкурамі, і мясам, і мёдам. Я борці ў лесе маю... А ён трымае вексель, не аддае мне, і цяпер я ўвесь у яго руках. «Дай,— кажа,— два добрыя дубы, шулы мне трэба, тады вексель аддам». Дык от краду сам у сваім абходзе... Паспрабуй не даць Халусту! У суд падасць, тады ўвесь хутар яго будзе. У старцы прыйдзецца ісці з дзецьмі... А калі ў суд не падасць, то Гендарсану паскардзіцца, а той з пасады выганіць. А што гэты хутар без пасады! Свайго хлеба толькі на ровосень. Адзін паратунак — проса. Іншы год добра родзіць, дык от і корміш дзяцей кашай. І то богу дзякуем, калі проса ёсць.

— А многа ў цябе дзяцей?

— У гэтым бог не пакрыўдзіў. Пяцёра.

— Дык, значыць, і твая доля горкая?

— Не давядзі бог нікому. Вы от паедзеце, а мне на ноч работы. Трэба ж сляды замесці...

— Трохі ж, мабыць, дзічыну страляеш?

— Страляю, няма чаго казаць, а то зубы паклаў бы на паліцу. Ды не вельмі настраляеш. Забараняе пан. От прыедзе з Варшавы, навязе адтуль статак абэлтухаў розных. Наедуць сюды цэлай ардой, і пачнецца! Не столькі настраляюць, колькі напалохаюць... Калісьці тут коз было да халеры. Статкамі хадзілі, а

цяпер рэдка дзе ўбачыш. Ласі сустракаліся, а цяпер няма. Сышлі ўглыб. Яшчэ адно ў мяне на ўме ёсць... Бабра застрэліць.

— А дзе тут бабры?

— Ды недалёка. Тут жа Случ блізка, вярсты не будзе. Дык от на Случы я і знайшоў іхняе паселішча. Хоць і кажуць: баброў біць — век слёзы ліць, але ў мяне яны і без баброў не высыхаюць... Ну дык зайдзі ў маю хату, паглядзі, як я жыву.

З невясёлымі думкамі выходзіў Якаў з хаты Хмялеўскага. «Усюды галеча, бяда,— думаў ён.— У гарадах капіталісты душаць рабочых. У вёсках паны ды Халусты не даюць жыцця парабкам і сялянам... Прыйдзе ж канец цярпенню народнаму...»

Толькі перад заходам сонца крануліся з лесу Якаў і Юзік.

У Старочыне Юзік спыніў коней каля Бэркавай манапалькі.

— Гэй! — гукнуў ён Якава.— Зойдзем!

— Чаго?

— Паўкварты возьмем ды селядцом закусім.

Зайшлі. Якаў піць адмовіўся, і Юзік яго не ўпрошваў. Ён адзін выпіў усю гарэлку, з'еў цэлага селядца і парадкам захмялеў.

Выехалі з мястэчка, калі змеркла, але акурат узышоў месяц, і на дварэ было зусім светла. За мястэчкам дарога была лепшая, і коні пайшлі весялей. Юзік сеў на воз.

— Не зваліся! — папярэдзіў Якаў.— А то пападзеш пад калёсы, то раструшчыць, як жабу!

— Не бойся! — грымнуў у адказ Юзік.— Ідзі лепш сюды, пагаворым!

Якаў прыстроіўся на дубе, поруч з Юзікам. Яму было цікава, пра што будзе гаварыць Юзік Гром, ды яшчэ пад чаркай.

— Ты жанаты ці не?

— Не,— адказаў Якаў.

— А думаеш жаніцца?

— Пакуль што не.

— А дзеўку маеш?

— Маю.

— А хто яна?

— Яе тут няма. Ты яе не ведаеш.

— Прыгожая?

— Нічога. Для мяне прыгожая.

Юзік памаўчаў, мабыць збіраўся з думкамі.

— А я буду жаніцца,— раптам паведаміў ён.

— З кім? — запытаў Якаў, хоць яму Юзікавы сакрэты не былі навіной.

— У мяне дзеўка — ого! Алену Сташэвічаву бачыў?

— Бачыў. Але наўрад ці яна за цябе пойдзе.

— Чаму? За мяне любая пойдзе.

— Любая то можа і пойдзе. А Андрэй за цябе сястру не аддасць. Бачыў ён, як вы рэжацеся.

— Дык я ж не рэжуся. От ажанюся, ад бацькі адзялюся. Паўвалоку забяру. Хіба я не старэйшы сын? А яны няхай рэжуцца.

— Не аддасць табе бацька паўвалоку.

— А дзе ён дзенецца! Я сам забяру! Мне самому абрыдла. Грошы толькі ў бацькі ды ў Мікалая, а мне толькі рабі. Есці — як сабаку. А лаянкі — няхай бог не давядзе.

— А дзе ты грошы на паўкварты ўзяў? — пацікавіўся Якаў.

— Хаіму Ножыку ў млын ноччу паўмяха жыта занёс. Ты ў Чыжэвічах быў. Толькі бацьку не кажы, а то за нож схопіцца.

— Не скажу, не бойся.

— Абрыдла мне такая жытка. Я, калі аддзялюся, так жыць не буду. Жонка ў мяне будзе на першым месцы. Рабіць, дык рабіць, я горы перавярну, але дай мне і з'есці. Каб жонка гатавала яду як чалавеку, а не як сабаку...

Юзік зусім ахмялеў. Якаў глядзеў на яго і думаў: «І гэты абух разумее, што ў хаце яго бацькі не жыццё, а пекла».

— Я не люблю грызні. Змалку не люблю. Ціхі я быў. Лупіў мяне бацька, як ката, але я і жывучы быў, як кот... Гэй! Каб вы падохлі! — раўнуў ён на коней і заспяваў:

Гэй, пална, пална каробачка,
Ест і сіцы і перча!

## РАЗДЗЕЛ ВАСЕМНАЦЦАТЫ

Сымон Ашакевіч на сваёй пярэстай кабыле ехаў са Слуцка. Вёз да Арлоўскага гарэлку. Кабыла роў-

най, але спорнай хадою ішла па бітай дарозе. Праз Выгоду — слуцкую вуліцу — і праз прыгараднае сяло Агароднікі Сымон ішоў пехатою каля воза. Воз не то што быў вельмі цяжкі, але вялікі, застаўлены скрынкамі. На ім і месца добрага не было, каб сесці.

Вечарэла. Сонца стаяла над самым захадам. На дварэ стала халадней, але Сымон увагрэўся, узабраўся на перадок і падагнаў кабылу.

Сымон думаў пра тое, што і сёння дамоў прыедзе пасля поўначы. Пакуль дацягнецца да Чыжэвіч, здасць Арлоўскаму тавар, пакуль той пералічыць бутэлькі... І гэтак кожны раз. За работу плаціць з такім выглядам, нібы не тваё табе аддае, а сваё. Што за чалавек! Ужо і так накраўся, нахапаўся, і ўсё яму мала, а калі трэба з чалавекам за работу разлічыцца, дык у яго, сабакі, рукі калоцяцца. «Няма сёння, пане Ашакевіч, няхай другім разам». Панам заве. Ведаць не хоча, што гэтаму «пану» капейка дарага. Дома хворыя дзеці, доктару няма чым заплаціць, лякарствы купіць.

Тым часам пачало цямнець. У такую пару дарога яшчэ жыве. Дзве фурманкі абагналі Сымона. Мабыць, людзі таксама са Слуцка едуць. П'янаватыя, вясёлыя. Нешта прадалі і дамоў гасцінцы вязуць. Сымон таксама вёз паўфунта цукерак і фунт абаранкаў. А п'яных ды вясёлых Сымон нямала ведаў. Іншы апошнюю капейку аддасць, каб на якую гадзіну гора сваё забыць, песню заспяваць. А потым праспіцца — і валасы на сабе рве. Бо тая капейка не на чарку была зароблена.

Сам Сымон у рот не браў гарэлкі, хіба толькі на бяседзе, от як у Андрэя Сташэвіча на памінках. Ужо каму б і не піць, калі не яму, Сымону. Заўсёды з гэтым паскудствам у дарозе. А дома столькі гора ды бяды, а ў галаве столькі цяжкіх думак ды клопатаў, што, каб забыць іх хоць на гадзіну, здаецца, і глынуў бы разоў колькі. Не адзін раз спакуса гэта за горла брала Сымона. Было, што ўжо і Пярэстую сваю спыняў, ужо і бутэльку вымаў з воза... Але дзеці паўставалі ў вачах, нібы яны ўсе поруч з ім на возе сядзяць... І вочы ў іх такія сумныя, такія гаротныя іх тварыкі, што ў Сымона сціскалася сэрца ад жалю і ён запіхаў тую спакусу назад у воз.

Сымон успомніў сваю жонку Аўдолю. Да чаго да-

жыла жанчына... Калі жаніліся — як кветка была, а цяпер на каго яна падобна! За дзесяць гадоў старая стала. А якія ў яе гады! Толькі трыццаць, калі чалавек у самай сіле і прыгажосці. Не раз думаў Сымон, нашто яна пайшла за яго, беднага, непрыгожага, даўганогага. Не такога яна знайшла б. Хоць і з небагатай сям'і, але ж і не з такіх бедакоў, як Сымон Ашакевіч. Дзяцей напладзіў на гаротнае жыццё, калі выгадуюцца, выжывуць... Летась старэйшая дачка памерла... Цяпер сын Паўлік хварэе. Дактары кажуць, харчы трэба добрыя. А дзе іх узяць тых харчоў? Калі хлеб на стале ёсць ды малака шклянка, то і дзякуй богу. Летам яшчэ сюды-туды, а зімой, калі карова запусціцца, нішчымніца на стале. А вясной і хлебу рады.

Сцямнела. Зоры высыпаліся на небе, дробныя як мак. Халадок прыціснуў. Сымон прывязаў лейцы да лёсткі, саскочыў з воза і пайшоў па замежку поруч. Уперадзе павінна была быць Гнілая Дуброва. Калісьці сапраўды была дуброва. Не за Сымонаву памяць. А бацька расказваў, што тут раслі магутныя дубы, грабы, вязы, ясені. Лес быў вялікі і глухі, зверыны рознай ды птаства многа вадзілася. Мала хто адважваўся тады ехаць па Гнілой Дуброве ўночы. Ды і ўдзень па адным не ездзілі.

Карчма стаяла блізка каля лесу. Хто ехаў са Слуцка з нейкім набыткам, дык збіралася каля той карчмы фурманак некалькі, тады і ехалі. Разбойнікі хаваліся ў дуброве і рабавалі людзей. Масток там быў акурат пасярод лесу, вось на гэтым мастку і пераймалі. Калі пераехаў масток — значыць, усё, можаш далей спакойна ехаць. Карчмар з разбойнікамі ў адной хеўры быў. У яго амаль кожны праезджы спыняўся, а ён цікаваў, хто вязе тавар, хто грошы, і паведамляў разбойнікам. А можа і разбойнікі тыя ў карчме спыняліся, нібыта падарожныя.

Цяпер няма ні дубровы, ні карчмы, ні мастка. Замест дубровы толькі гнілыя пні сям-там асталіся. На тым месцы, дзе карчма стаяла, расце блёкат ды крапіва. На паскудным месцы і трава добрая расці не хоча. А там, дзе масток быў, ледзь прыкметная лагчына. Калісьці, мабыць, раўчук працякаў. Як высеклі лес, дык і раўчук высах.

Вось і Дуброва. Навокал поле, ралля. Сымон па-

спрабаваў уявіць сабе той лес, што рос тут многа гадоў назад. І шкада стала таго лесу. Падумаць! Са Слуцка да Чыжэвіч больш за дваццаць вёрст — і хоць бы кусцік ці дрэўца. Усе дваццаць вёрст чыстае поле... Не шкадуюць паны ні людзей, ні прыроды. Чужынцы, ворагі! Спатрэбіліся навадворскаму пану Рэгелю грошы ў карты прагуляць, дык ён за граніцу прадаў усю Гнілую Дуброву. Прыехалі нямецкія майстры з нямецкімі рабочымі, усё выразалі і вывезлі. Рускаму чалавеку нават капейкі не далі зарабіць. Выглумілі паны лес ва ўсёй Случчыне, каб іх зямля не насіла.

Так думаў Сымон, ідучы за возам, але, калі ўзняў вочы і зірнуў наперад, сэрца яго ёкнула. Крокаў за сто наперадзе стаялі дзве постаці. Хто гэта — людзі ці слупы? Месца тут было такое, што да бліжэйшай вёсачкі вёрст пяць, не менш. Ніякіх слупоў тут быць не магло. Дарогу са Слуцка да Чыжэвіч Сымон ведаў як сваіх пяць пальцаў. Вядома ж, што гэта не разбойнікі, бо, калі высеклі Гнілую Дуброву, ціха і спакойна стала ў гэтым месцы. Ды пры чым тут разбойнікі! Два чалавекі выйшлі на дарогу, хіба цяжка ім абрабаваць Сымона Ашакевіча! Забяруць гарэлкі, колькі панясуць, а ты, Сымон, плаці...

Усе гэтыя меркаванні праляцелі ў Сымонавай галаве за адну хвіліну. Дзяваціа не было дзе. Пярэстая стала. Адзін узяў яе за аброць, другі падышоў да Сымона.

— Адкуль едзеш?

— Са Слуцка, добры чалавек.

— А што вязеш?

Голас гэтага чалавека паказаўся Сымону такім знаёмым!

— Гарэлку вязу да Арлоўскага.

— Адкуль сам?

А Сымон ужо быў упэўнены, што чалавек гэты не толькі ведае, адкуль ён, але і як яго завуць. Не раз ён сустракаўся з гэтым чалавекам, не раз закурваў і гаварыў...

— З Малінаўкі я, Сымон Ашакевіч.

— Ну што ж, калі Сымон, дык Сымон. Ідзі сюды! — гукнуў ён таварыша.

Той падышоў і моўчкі стаў каля першага.

— Гарэлку да Арлоўскага вязе,— сказаў першы другому.— Можа вып'ем?

Другі згодна кіўнуў.

— Даставай бутэльку! — загадаў першы.

«Гора ты маё,— думаў Сымон.— Хіба ім адной бутэлькі хопіць! Ды яшчэ ж і з сабой возьмуць... Прапаў мой заработак... А што я дома скажу ды Арлоўскаму?..» Ён дастаў з воза бутэльку, падаў першаму.

— А хлеба ў цябе кавалак знойдзецца?

Сымон успомніў пра абаранкі.

— Няма хлеба... Абаранкаў дзецям купіў.

— Кажаш — дзецям? Ну, нам па адным дасі. А колькі ў цябе дзяцей?

— Трое...

— Та-ак...

Сымон дастаў сваю торбачку, развязаў яе і палажыў на возе.

— Бярыце, добрыя людзі.

Абодва пацягнулі проста з бутэлькі, узялі па абаранку, а бутэльку першы падаў Сымону.

— Пацягні і ты, добры чалавек. Мабыць, возішвозіш гэтую халеру, а сам і не панюхаў ніколі.

— Дзе вы бачылі, добрыя людзі! У мяне і на хлеб няма.

— Не гавары многа. Пі, ды да дна.

Ніколі не думаў пра такую сустрэчу Сымон. Нават падумаў, што спіць і ўсё гэта яму сніцца. Узяў у руку бутэльку, патрымаў. «Няўжо выпіць?.. А чорт яго забяры, усё роўна мне плаціць». Выпіў усю да дна.

— Давай яшчэ адну,— загадаў першы.

Хіба аскірзацца будзеш! Дастаў з воза другую.

— Піце, добрыя людзі.

— Добрыя! — з нейкім непрыемным смехам прамовіў першы.— Каму, чалавеча, добрыя, а каму ліхія!

Адаткнулі корак, выпілі абодва, а дапіваць зноў Сымону аддалі.

— А цяпер, Сымон Ашакевіч з Малінаўкі, давай яшчэ дзве, мы іх з сабой забяром.

«Нічога не зробіш»,— думаў Сымон, падлічваючы, на колькі напілі гэтыя разбойнікі. Выцягнуў яшчэ дзве бутэлькі.

— Дык цяпер мне можна ехаць, добрыя людзі?

— Пачакай, добры чалавек. А хто ж табе за гарэлку заплаціць? Можа Арлоўскі закладзе?

— Дзе вы бачылі!..

— Ага! Дык можа ты сам? І калі такі багаты стаў,

Сымон Ашакевіч з Малінаўкі? — гаворку вёў толькі першы, другі ўвесь час маўчаў.

— Багацце маё! — махнуў рукою Сымон, у якога ўжо закруцілася ў галаве.

— Ну, дык разлічымся, бо Арлоўскі табе не падаруе.

Ён павярнуўся да другога і сказаў:

— Вымай грошы.

Другі падняў крысо світкі, выняў кашалёк і падняў угору адзін палец.

— Дай дзве. Мы ж яго абаранкі елі.

Сымон не верыў сваім вушам і вачам. «Сон ды ўсё... Не можа так быць у сапраўднасці...» А другі выняў з кашалька дзве паперкі па дзесяць рублёў і падаў Сымону. Сымон не адважваўся ўзяць іх.

— Бяры! — загадаў першы.— А то мы раздумаем.

Сымон баязліва працягнуў руку.

— Не бойся, бяры! Ды от што, Сымон Ашакевіч з Малінаўкі, нікому ты не хваліся, што сустрэў некага ў Гнілой Дуброве, што гарэлку прадаваў. Скажы Арлоўскаму, што гарэлку ў цябе ў Агародніках купілі. Навязаліся, скажы, п'яныя, не мог адчапіцца. Ну, і самому выпіць далі. І гэта праўда будзе, бо сёння ў Агародніках шмат п'яных. Вяселле гуляюць. І калі пачуеш, што ў Гнілой Дуброве сёння ноччу нешта адбылося, то таксама язык на прывязі трымай. Ты нічога не знаеш, не ведаеш. Так будзе лепш і табе і нам. Ты часта на сваёй пярэстай у Слуцк ездзіш, то лепш табе памаўчаць. Бо калі прагаворышся, то не такая будзе наша другая сустрэча.

— Людзі добрыя!.. Ды мне і цяпер здаецца, што я гэта сасніў.

— Ну, дык няхай і будзе, што сасніў. І сну гэтага нікому не расказвай. Нават жонцы. А сама лепш — забудзь на гэты сон. Ну, паганяй сваю Пярэстую ды будзь здаровенькі.

— Няхай вам бог дасць здароўя!

Сымон сеў на перадок, махнуў пугай, і Пярэстая амаль з месца пайшла трухам. Больш за вярсту праехаў так, і толькі тады стала трохі спакойна на душы. «Божа мой! — думаў ён.— Тодара Шымкевіча сыны...» Абодвух пазнаў — і старэйшага, Васіля, і сярэдняга, Юрку. Ды яны не вельмі і хаваліся ад яго. «Божа мой! Такія былі хлопцы! А работнікі, а спа-

койныя, а ціхія. Божа мой, божа! А цяпер на дарогу выходзяць, людзей запыняюць... От да чаго даводзіць жытка людзей... Да злачынства. Такі гаспадар быў Шымкевіч, калі барысевішчыну ў арэндзе трымаў. І сам быў чалавек, і дзеці як людзі. Рабілі, ні дня, ні ночы не ведалі. А як выгнаў Халуста Шымкевіча з Малінаўкі, сцерлася ў чалавека і жытка і сям'я. Кідаўся Тодар з аднаго месца на другое і нідзе грунтоўна асесці не мог. Парабкаваў то ў аднаго пана, то ў другога, а хіба можа быць добрым парабкам той, хто сам гаспадаром быў! Сыны ды дочкі пайшлі заработкаў шукаць. Растрэслася сям'я...»

Два гады бадзяўся Тодар па маёнтках, бяздомнік, беззямельнік. Дашчэнту згалеў. Грошай у кішэні не меў, бо, дурнем будучы, усё ў чужую гаспадарку клаў. Хіба арандаваная зямля свая!.. А потым чыгунку праз усю Сібір пачалі пракладаць. Рынуліся тады людзі ў Сібір, на Далёкі Усход, на новыя неабжытыя землі, у лясы ды пушчы, дзе толькі дзікія звяры пладзіліся. Прадаў апошнія манаткі Тодар, сабраў сям'ю і таксама паехаў у тую далёкую невядомую Сібір. З тае пары ў Малінаўцы пра яго і чуткі не было, а сёння двух сыноў яго ў Гнілой Дуброве сустрэў... А дзе ж трэці? І той ужо не маленькі. Можа сыны і не ездзілі з бацькам, а можа вярнуліся. Мабыць, не вельмі смачныя тыя новыя землі. Нялёгка чалавеку, калі ў яго няма за душой капейкі, асесці на новым месцы, лес выдраць, зямлю раллёю зрабіць, гаспадарку сякую-такую агараць!

Ад'ехаўшы вярсты тры ад Гнілой Дубровы, Сымон добра ахмялеў і нават прыдрамнуў. Кабыла чула дом і ішла поўнай хадою. Не паспеў Сымон агледзецца, як паказаўся чыжэвіцкі могільнік. Мінулыя разы страшнавата было каля яго праязджаць ноччу. А сёння Сымон пляваць хацеў на ўсе страхі. За могільнікам блізка было і сяло.

Сымон уехаў на вуліцу і зноў злез з воза. Ціха было на сяле, усе спалі. Нават сабакі — хоць бы голас каторы падаў.

Сымон спыніў кабылу каля двара Арлоўскага, адчыніў браму і ўехаў у двор. Пастукаў у дзверы. Доўга ніхто не адзываўся. Прыйшлося ў акно пастукаць. Тады нехта прачнуўся, прайшоў па хаце.

Доўга стаяў Сымон на ганку, нібы сабака, што ў хату просіцца. Нарэшце выйшаў Арлоўскі.

— Нешта вы позна сёння, пане Ашакевіч. Я ўжо і не чакаў вас. Думаў — заўтра раніцай.

— Не мая віна. Чакаць прыйшлося, пане Арлоўскі, пакуль атрымаў тавар. Ды і свае справы былі. Выехаў перад самым захадам, а кабыла не вельмі ідзе, з'ездзілася ўжо. А тут яшчэ ў Агародніках затрымалі мяне п'яныя.

— Ну і што, пане Ашакевіч... Яны, гэтыя п'яныя, э-э-э... нічога яны вам не зрабілі благога?

— А нічога. Чатыры бутэлькі гарэлкі купілі, і ўсё. Як прысталі, нібы смала. Вяселле там у іх нейкае. Хацеў не прадаваць, але пабаяўся, каб дарам не ўзялі.

— Добра вы кажаце, пане Ашакевіч... Ну, а яны, э-э-э, грошы вам заплацілі за гарэлку?

— Я ж кажу, прадаў, а не дарам аддаў.

— Ну, то і добра. Нясіце скрынкі ў сені.

Пакуль Сымон апаражняў воз, ставячы скрынкі на ганак, Арлоўскі запаліў лямпу. Тады Сымон пачаў насіць скрынкі ў сені, а Арлоўскі пералічваў бутэлькі. Пасля смачнага сну з гладкай служанкай у галаве яго ўсё блыталася. Ён лічыў, пералічваў, адымаў чатыры бутэлькі, і ўсё ў яго не выходзіла.

— Так і ёсць,— нарэшце прамовіў ён, пазяхаючы.— Чатырох бутэлек не хапае. Трэба заплаціць за іх, пане Ашакевіч.

— Так, так, пане Арлоўскі, трэба разлічыцца.— Сымон успомніў Гнілую Дуброву, Шымкевічавых сыноў і адчуў, што сустрэча з імі дадала яму смеласці.— Палічыце, пане Арлоўскі, колькі вы мне вінаваты, і адлічыце грошы за чатыры бутэлькі.

Арлоўскі не чакаў гэтага.

— Вы мне, пане Ашакевіч, не аддалі ўсяго тавару. Не хапае чатырох бутэлек, от я за іх і прашу грошы.

— А вы мне, пане Арлоўскі, не плаціце за работу. Чацвёрты раз я прывожу вам са Слуцка тавар, і вы са мной ні разу не разлічыліся. А мне трэба жыць на свеце.

— Дык як жа я, пане Ашакевіч, ноччу разлічвацца буду! Мо няхай другім разам.

— Я, пане Арлоўскі, ноччу са Слуцка ехаў, не

спаў, а вам разлічыцца са мной цяжка, бо вам спаць хочацца. А мне хіба не хочацца? Ды мне грошы трэба.

— Ая-яй! Так ужо вам наперла, пане Ашакевіч! У вас жа за гэтыя чатыры бутэлькі грошы ў кішэні.

— Нашто вы лічыце грошы ў маёй кішэні, пане Арлоўскі! Я ж не лічу ў вашай! А ў вашай больш грошай, чым у маёй. Ды я ж і не прашу вашых грошай. Я свае прашу. Разлічымся, пане Арлоўскі.

— Заўтра, пане Ашакевіч... Далібог, у мяне сёння галава баліць. Бутэлек не мог далічыцца... Адной не хапае, здаецца. От заўтра і пералічым.

— Не, пане Арлоўскі, так не будзе. Тады я ўвесь тавар забяру з сабою і павязу дамоў. А заўтра прывязу, тады і пералічым.

Сымон падхапіў адну скрынку і панёс да дзвярэй. Арлоўскі кінуўся за ім.

— Куды вы яе праце, пане Ашакевіч! Не трэба! Я палічыў правільна! Не хапае толькі тых бутэлек, што вы прадалі.

— Гэта другая справа,— сказаў Сымон і паставіў скрынку на месца.— Але пакуль не аддасце грошай, я дамоў не паеду. Я вам вінаваты, вы мне. Разлічымся — і справа будзе з канцом.

— Ая-яй, які ж вы ўпарты, пане Ашакевіч... Але ж не забывайце, што я магу і другога чалавека наняць.

— Не, пане Арлоўскі, нікога вы не возьмеце. Такога другога дурня, як я, вы не знойдзеце.

Арлоўскі як ні круціўся, як ні муляўся, але такі здаўся. Разлічваліся амаль да раніцы.

Калі Сымон прыехаў у Малінаўку, на двары пачало ўжо днець.

## РАЗДЗЕЛ ДЗЕВЯТНАЦЦАТЫ

Аўдоля чакала Сымона і ўсю ноч не клалася спаць. Цьмяна гарэла лучына. Агонь то заміраў, то разгараўся ярчэй, доўгі вугаль скручваўся, як вуж, трашчаў і абломваўся, падаў у вядро з вадой і патухаў з кароткім шыпеннем.

Дзеці спалі. Пасля поўначы заснуў і хворы Паўлік. Трывожны быў яго сон. Хлопчык круціўся, тры-

зніў, мабыць, снілася яму нешта страшнае, бо зваў маму і тату, і лобік яго, абліты потам, быў гарачы.

Аўдоля латала Сымонаву вопратку. Надыходзіла зіма, а чалавек заўсёды ў дарозе, на холадзе. Новага не справіш, няма за што, а кажух ужо так знасіўся, хоць вон выкідай. Яна клала лату на лату і раз-поразу паглядала ў акно.

Сёння Аўдоля вельмі трывожылася за Сымона. Здавалася, што сёння з ім зрабілася нешта нядобрае, нейкая немінучая бяда напаткала яго. Ніколі не было, каб ён астаўся начаваць у Слуцку. Хоць позна, хоць пасля поўначы, але прыедзе дамоў, а сёння раніца на дварэ, а яго няма... Галава трашчала ад думак. «Не давядзі, госпадзі, да няшчасця,— шаптала яна.— Хіба мала ў нас гора ды немачы... Пашкадуй ты нас, госпадзі, не пакінь нас сіратамі...»

Раптам на дварэ загрукаталі колы. Аўдоля кінулася да акна. Прыехаў! Неўзабаве ў хату прыйшоў і сам Сымон.

— А божачка! Дзе ты быў дагэтуль, Сымон?

— У Арлоўскага затрымаўся. Разлічваўся.

— Дзякуй богу! А я чаго толькі не перадумала...

— Было пра што думаць! Хіба я першы раз у Слуцак ездзіў. Як Паўлік?

— Спіць...

— Цукерак прывёз паўфунта...— сказаў Сымон, падаючы жонцы сваю торбачку, дзе ляжалі цукеркі і некалькі абаранкаў, што асталіся ад начной выпіўкі ў Гнілой Дуброве.

— Ты можа чаго з'ясі ды спаць ляжаш?

— Не. Завяду кабылу на канюшыну.

Ён выйшаў, адвязаў Пярэстую і павёў яе на поле.

Раніца пачыналася ясная, халодная, зырка гарэла неба на ўсходзе. Навокал незвычайная цішыня. Амаль усю ноч быў Сымон у дарозе, і ў галаву яму не прыходзіла, што так хораша можа быць на дварэ. Не тым занята гэтая галава... А цяпер, калі зірнуў навокал, сэрца затрапяталася ад замілавання. «Які ж ты прыгожы, белы свет, і якая чорная жытка ў людзей...»

На палетку былі ўсе засцянковыя коні. Некаторыя ўжо ляжалі, некаторыя яшчэ хрумсталі зялёную канюшыну, ляніва, нібы нехаця. «У скаціны бывае добры час хоць раз у год,— падумаў Сымон.— А чалавек усё жыццё спакою не мае».

Начлежнікі-канапасы, пазакручваўшыся ў кажухі, спалі, прытуліўшыся адзін да аднаго. Патух агонь, пра яго ўсе забыліся, толькі белы попел ляжаў на вогнішчы.

Сымон спутаў Пярэстую, і яна нібы да месца прырасла. Выгаладалася за ноч у дарозе і ў Арлоўскага на двары. «Нідзе не дзенецца,— падумаў Сымон.— Пакуль не наесца, будзе скубці»,— і пайшоў дадому.

Ужо ў сенях пачуў, што ў хаце ёсць чужы чалавек. «Хто так рана мог прыйсці?» — з трывогай падумаў Сымон і ўспомніў начную прыгоду ў Гнілой Дуброве. Адразу прыйшло ў галаву, што гэты ранні прыход чужога чалавека мае дачыненне да таго выпадку.

Ён адчыніў дзверы і ўбачыў Хаіма Ножыка. Па твары і па постаці пазнаў, што Хаім не то каб устрывожаны, а проста перапалоханы, усхваляваны і бездапаможны.

— Дзень добры, Хаім! — сказаў Сымон.— Нешта ты рана сёння прыйшоў да мяне.

— Што рана? Якое рана? Я сёння яшчэ не лажыўся спаць!

— Чаму ж так? Можа ў млыне быў цэлую ноч? Ды чаго ты стаіш, Хаім, прысеў бы!

— Не хачу я садзіцца... У млыне! Я не быў у млыне. Я ў Слуцку быў, а не ў млыне.

У Сымона ёкнула сэрца.

— Я таксама ў Слуцку быў,— сказаў ён.

— Хіба я не ведаю, што ты быў у Слуцку! Я цябе бачыў у Слуцку. Я хацеў табе сказаць, каб ты мяне пачакаў. Але я падумаў, што ў цябе на возе тавар і ты будзеш памалу ехаць. А мая кабыла бяжыць. У мяне было многа інтэрасу ў Слуцку, але я думаў, што цябе даганю. І не дагнаў...

— Мабыць, я раней за цябе выехаў, Хаім.

— Ну, але! Дурань, чаму я не сказаў, каб ты мяне пачакаў...

Ён прабег па хаце, па нейкай прычыне зазірнуў у печ, замармытаў нешта і, спыніўшыся каля Сымона, уважліва зірнуў яму ў вочы.

— Слухай, Сымон. Ты рана прыехаў са Слуцка?

— У поўнач, а можа пазней. Ты ў Арлоўскага запытай, у яго гадзіннік ёсць, а ў мяне няма. Ён табе

скажа, у каторай гадзіне я да яго прыехаў. А разлічваліся мы да раніцы.

— Ну, але! Ён мне казаў...

Пасля гэтых слоў Хаім спахапіўся.

— Ён мне казаў, што ў цябе не хапіла чатырох бутэлек гарэлкі.

— Але, Хаім. Я іх прадаў у Агародніках.

— У Агародніках, кажаш! У гэтых Агародніках усе разбойнікі! — закрычаў Хаім.— Усе злодзеі!

— Яны мяне не абрабавалі. Яны за гарэлку заплацілі мне грошы.

— Ну, няхай... Але скажы мне, Сымон: там, у тых Агародніках, не было такіх двух мужыкоў?

— Якіх?

— Такіх здаровых.

— Я да іх не прыглядаўся. Я, сказаць па праўдзе, трохі спалохаўся. Яны маглі і дарма забраць.

— Ага, і ты спалохаўся! Дзіва што! Калі яны павымалі даўгія нажы, то хто не спалохаецца!

— Не, нажоў яны не вымалі.

— Не вымалі, кажаш? То гэта былі не тыя... А скажы ты мне, Сымон, ты ў Гнілой Дуброве нікога не сустрэў?

— Не, Хаім. Нікога я не сустракаў. І мяне ніхто не сустракаў. Але ты, Хаім, нечага не дагаворваеш. Нешта, мабыць, з табой зрабілася ў Гнілой Дуброве?

— Няхай яна стане морам, тая Гнілая Дуброва... І ты нікога там не сустракаў? Чалавек ехаў з таварам, і яго ніхто не пераняў! А я ехаў з пустым возам — і мяне перанялі!

— Хто цябе пераняў, Хаім? — запытаў Сымон. Яму было цікава даведацца, ці пазнаў Хаім тых двух хлопцаў, што ў яго куплялі гарэлку, а Хаіму паказалі нажы.

— Хто мяне пераняў? Каб на іх хвароба, каб на іх халера, адкуль я ведаю! Гэтыя прыгарадныя мужыкі ўсе злодзеі, усе разбойнікі! Ён удзень твой лепшы сябар, а ноччу цябе пярэйме, выме нож і грошы адбярэ!.. Няхай на іх паморак!

Хаім яшчэ нешта хацеў сказаць, але махнуў рукой і пайшоў да дзвярэй. Каля парога ён стаў і павярнуўся:

— Дык цябе, Сымон, ніхто не пераймаў?

— Не, Хаім.

— Ну, то бывай здаровы.
— Шчасліва.
— Будзеш снедаць, Сымон? — запытала Аўдоля, калі Хаім выйшаў.
Сымон задумаўся і адказаў не адразу. Аўдоля адчувала, што Хаімава прыгода нейкім чынам датычыцца і Сымона, што Хаім сёння прыходзіў не дарэмна. І гэта яе ўстрывожыла. Хоць Сымон быў з выгляду і спакойны, але Аўдоля адчувала, што яго нешта хвалюе.
— Што гэта здарылася з Хаімам? — запытала яна.
Сымон усміхнуўся і спакойна адказаў:
— Хіба ты не дагадалася? Грошы ў дарозе адабралі.
— Дык чаго ён да цябе прыходзіў? Можа...
— Не ведаеш, чаго ён прыходзіў? Я ж таксама са Слуцка ехаў, і мяне ніхто не пераняў. Дапытваецца, можа каго бачыў у дарозе.
— А можа ён думае, што гэта ты?
— Здурнела ты, ці што? Як ён можа падумаць такое?
— А ты, Сымон... сапраўды нікога не бачыў?
— Перахрысціся, Аўдоля. Калі б я каго і бачыў, то хіба ён прызнаўся б мне, што абрабаваў Хаіма або хоча яго абрабаваць?
Аўдоля супакоілася, хоць у душы і не паверыла Сымону.
Хаім тым часам ішоў да Халусты. «Хто гэта быў?» — думаў ён. Справа ў тым, што Хаім ведаў усіх злодзеяў у двух паветах — Слуцкім і Бабруйскім. Яны былі не толькі яго сябры, а ў некаторай меры і падначаленыя. Ён прымаў ад іх крадзенае, наводзіў, у каго і калі красці, і ў некаторых выпадках хаваў. А гэтых ён не ведаў. Ён пазнаў бы сваіх хлопцаў. «Хоць бы яны голас падалі,— думаў Хаім.— Дык не, ні гуку. Адзін затрымаў кабылу, другі выцягнуў з халявы доўгі нож». Калі Хаім убачыў гэты доўгі бліщчасты нож, у яго спынілася сэрца і адняўся ад жаху язык. Хто яны? Адкуль яны ведалі, што Хаім едзе з грашыма? Божая кара! Трыста рублёў! Хіба гэта жарт! Гэта не жарт, а няшчасце, згуба...
Трэба пабачыцца з Халустам. Можа гэта яго сябры! Можа ён падказаў ім, што Хаім не паедзе без гро-

шай. Халуста! Гэта такі сабака, што за лішнюю капейку матку сваю прадаў бы.

Халуста ўжо бегаў па двары і па-звычайнаму лаяў усіх, каго сустракаў: сабак, курэй, ката, якому наступіў на хвост, а той заенчыў так, што Халуста ледзь не самлеў ад жаху. І тут ён убачыў Хаіма.

— А-а! Гэта вы, пане Хаім! Дзень добры, дзень добры! Ну, як вы ўчора з'ездзілі ў Слуцак?

— Як я з'ездзіў у Слуцак,— не то паўтарыў, не то перапытаў Хаім.— Я і сам не ведаю, пане Халуста, як я з'ездзіў у Слуцак...

— Чаму? — Халуста ўзняў свае мутныя выцвілыя вочы з-пад аблезлых павек і зірнуў на Хаіма.

Той прачытаў у яго позірку ўсё, што яму трэба было, і падумаў: «Не ведае, свіны гой. Не ведае... Каб ведаў, то не так паглядзеў бы».

— Чаму вы не ведаеце, пане Хаім, як вы з'ездзілі ў Слуцак? Мабыць, п'яныя былі, пане Хаім? Ая-я-яй! Гэта ж падумаць толькі! Хаім Ножык п'яны! Прызнавайся, з кім ты ўчора выпіў?

— Яўхім, ша... Ціха, Яўхім... Давай мы дзе-небудзь пасядзім... У мяне ногі падгінаюцца...

— Танцаваў? Ліха матары тваёй, танцаваў п'яны! Ая-яй!

— Ша, Яўхім. Не будзь ты як малы... Давай пасядзім. Мне пагаварыць з табой трэба.

— Ага! То хадзем вунь пад свіран, на лавачцы пасядзім.

— У тым свірне спіць Якаў Шэмет, твой парабак. Там яго няма?

— Ужо даўно ў Крушнікі з Юзікам паехаў.

У гэты момант Халуста думаў, што Хаіму нешта прыперла, нездарма ж ён крывіцца, нібы плакаць хоча, і што калі гэта так, то прыйшла каза да ваза і ён прыпомніць Хаіму тыя тры рублі, якія ён садраў у яго за Якава.

Перш чым сесці, Хаім адчыніў свіран і агледзеў яго. Тады прымасціўся на калодзе супроць Халусты і расказаў, як яго абрабавалі ў Гнілой Дуброве.

— Ты скажы мне, хто гэта быў? — запытаў ён у Халусты.

— Адкуль я ведаю! Можа твае сябры!

— Не, Яўхім, не мае сябры. Я сваіх сяброў пазнаў бы. Можа гэта, Яўхім, былі твае сябры.

— Ліха матары тваёй! — Халуста падхапіўся з месца.— Ты гэта што? За сабаку мяне лічыш?

— Яўхім, ша. Цяпер не лічу. Не, гэта былі не твае сябры. Гэта былі не нашы людзі. Хто?

— Колькі іх было?

— Два... Іх было два. Здаровыя хлопцы.

— Э-э-э... А-а-а... І-і... многа яны ў цябе забралі?

Халусту больш за ўсё хацелася ведаць, колькі грошай забралі разбойнікі ў Хаіма.

— Не вялікія грошы, Яўхім... Не вялікія грошы...— Хаім не хацеў казаць праўды.

— Але ж сто рублёў было? — дапытваўся Халуста.

— Мо было, мо не было... Я не лічыў, калі ад'язджаў са Слуцка.

— Ая-яй! — заенчыў Халуста.— А хіба сто рублёў мала?

— Ша, Яўхім! Я з табою пагаварыць хачу, а ты вельмі рады, што ў мяне грошы забралі. А хіба да цябе яны не могуць прыйсці? Не могуць прыйсці ды скалануць? Гэта ж незнаёмыя людзі! Хіба цябе яны пашкадуюць? Дурны ты, Яўхім.

— А чаго яны да мяне пойдуць?

У гэты момант Яўхім успомніў Шымкевічавых сыноў, якія калісьці таксама злавілі яго ў Гнілой Дуброве і хоць грошай не адабралі, затое здароўя не пашкадавалі. І ён адразу збавіў тон.

— Слухай, Хаім... А яны ланцугамі цябе не білі?

— Якімі ланцугамі? Яны мяне нічым не білі! Яны мне паказалі нож... Чаму ты пытаеш пра ланцугі?

Халуста азірнуўся, праверыў, ці ўсё навокал ціха, ці ніхто не падслухоўвае, не падглядае, тады адказаў:

— Я падумаў, што гэта можа былі Шымкевічавы сыны.

Хаім адхіснуўся ад Халусты.

— Ты дурны, Яўхім! Хіба я не пазнаў бы іх?

— Адкуль ты іх пазнаеш? Ты, пане Хаім, тады са страху і жонкі роднай, мабыць, не пазнаў бы.

— Яны ў Сібіры, Яўхім.

— Хто ведае, дзе яны цяпер! Больш за тры гады прайшло, як яны ў Сібір паехалі. Такія галякі! Не вельмі яны ў Сібіры аседзяцца. Там, пане Хаім, трэба грошы, а якія грошы ў Шымкевіча? Галяк!

— Гэта ты яго галяком зрабіў, Яўхім. Але Шымкевічавы сыны на дарогу не пойдуць.

— Ты ведаеш! Ліха матары тваёй, як ты ўсё ведаеш!

— Нічога я не ведаю, Яўхім... Каб я ведаў, хто мяне абрабаваў, каб я толькі ведаў!

— І нічога ты не зрабіў бы! Дык ты не думаеш, Хаім, што гэта былі Шымкевічавы сыны?

— А чаму ты так думаеш? Уга! Хіба Шымкевіч і яго сыны ведаюць, што гэта я падвучыў цябе прагнаць іх з Барысевічавай валокі?

У Халусты прайшла ўся цікаўнасць. Ён ужо не думаў, колькі грошай забралі разбойнікі ў Хаіма. Больш трывожныя думкі апанавалі яго. Шымкевічавы сыны стаялі ў яго вачах.

Хаім тым часам сабраўся быў пайсці, але нешта яшчэ затрымала яго ў Халуставым двары. Ён убачыў Сымона Ашакевіча, які выйшаў з хаты і накіраваўся ў адрыну.

— Слухай, Яўхім... Сымон Ашакевіч сёння ноччу таксама са Слуцка ехаў. Няўжо ён не бачыў тых злодзеяў?

— Ён жа мне не казаў. Запытай сам.

— Я пытаў.

— Што ён кажа?

— Кажа, што не бачыў... Але я не веру яму, Яўхім.

— Слухай, Хаім! — Халуста аж падскочыў.— Гэты Ашакевіч, каналуп, злодзей, рыштант, ён бачыў! Ён можа і навёў іх на цябе! Ты ўрадніку заяві!

Хаім задумаўся:

— Як я заяўлю ўрадніку?

— Едзь ды заяві! Скажы, што ён ехаў з таварам, яго ніхто не зачапіў. А ты ехаў услед за ім, і цябе абрабавалі. Ты скажы, што ў цябе ўзялі не сто рублёў, а тысячу!

— Грошай мне ўраднік усё роўна не верне, хоць бы я сказаў, што ў мяне дзесяць тысяч узялі... Але... можа і сапраўды заявіць?

— Ты яшчэ думаеш! — узлаваўся Халуста.— Прыйдзіся на мяне!..

— Добра, добра! — перабіў яго Хаім.— Я яшчэ падумаю, Яўхім... Нельга не падумаўшы. Бывай здаровы.

Калі Хаім пайшоў, Халуста некаторы час стаяў моўчкі. Потым выскаліў зубы і пачаў рагатаць. Рага-

таў да знямогі, спыняўся, выціраў кулаком вочы, стагнаў і войкаў, потым зноў пачынаў рагатаць.

— Ага-га-га-га! — заліваўся ён.— Хі-хі-хі!.. Кхі-кхі... Ая-яй! Тры рублі! Ха-ха-ха... За Якава! За Якава тры рублі! Ліха матары тваёй! А-а-а! Хі-хі-хі! От табе тры рублі за Якава!

## РАЗДЗЕЛ ДВАЦЦАТЫ

Нічыпар Мартыневіч быў у Малінаўцы за дзесяцкага. Гэтую выбарную пасаду малінаўцы займалі па чарзе. Па году.

Жыў Мартыневіч пасярэдзіне засценка. І хоць належаў да ліку першых гаспадароў, але хата яго была старэзная, ледзь, як кажуць, на нагах стаяла. Ды і ўсе будыніны яго ставіліся яшчэ пры цару Гароху дзядамі ці прадзедамі і амаль увачавідкі разлазіліся. Павыгнівалі вуглы, трухлявыя і паедзеныя шашалем бярвенні вылазілі са сцен, і Нічыпар кожны месяц падпіраў іх з сярэдзіны і знадворку. Нават у хаце давялося паставіць пад бэльку слуп, бо тая бэлька так выгнулася, што гатова была ўламацца. Даўно пара было ставіць новыя будынкі, у першую чаргу хату, і Мартыневіч мог гэта зрабіць, бо меў грошы і ўласны лес, але рашыцца на такую справу не мог. Трэба ж наймаць людзей, плаціць, карміць. Паспрабуй наймі гэтых басякоў (Мартыневіч майстравітых людзей, як і большасць малінаўцаў, лічыў за басякоў), дык яны з вантробамі цябе з'ядуць, усю гаспадарку ў кішэнях вынесуць.

Лявон Нарбутовіч лаяў Нічыпара:

— Дажывешся ты, сугней, да таго, што абваліцца хата і самога і дзяцей падушыць.

Мартыневіч у адказ стагнаў:

— От ужо на той год збяруся...

Так і збіраўся, адкладаючы на другі год.

А што ўжо ў хаце ў Мартыневіча, то ў добрага гаспадара ў хляве было і чысцей і больш парадку. У хаце яго сесці было проста немагчыма, бо куды б ты ні сеў, то абавязкова ў цеста або ў параную бульбу. Жонка яго Кацярына ў засценку была самая няўклюдная гаспадыня. Гаварыла яна ў нос і заўсёды кешкалася, нешта рабіла, але з тае работы нічога не атрымліва-

лася, бо не было ў ей ні пачатку, ні канца. Дзеці яе хадзілі вечна мурзатыя. Ніколі не мытыя, у брудных, падраных кашульках і штоніках.

У той дзень Мартыневіча, як дзесяцкага, выклікаў у Чыжэвічы стараста Сафрон Вырвіч. Мартыневіч устаў рана, накарміў скаціну, памацаў сям-там падпоркі, запхнуў у конскім хляве шчыліны жытняй саломай і, не снедаючы, пашыбаваў у Чыжэвічы. Усю дарогу маліўся. Не таму, што баяўся нейкай навалы. Ён заўсёды маліўся — і ў дарозе, і на рабоце.

У хаце Сафрона Вырвіча Нічыпар ніколі не быў, зайшоў туды ўпершыню. Зайшоў і здзівіўся. От табе і мужык-хам, а вазьмі яго за рубель. У хаце, мой пане, цеплыня, чысціня, пахне хлебам з чарнушкай, а з печы валіць такі мясны дух, што Нічыпар аж аблізнуўся. Сам Сафрон, не глядзі, што мужык, а паголены, гладкі, лысіна блішчыць, як маслам вымазана. Кашуля на ім крамная, порткі хоць і саматканыя, але новыя, чыстыя, і боты, дай ты божа, ялавыя, нібы толькі ад шаўца. Дзве дзяўчыны, мабыць, дочкі, маладзенькія, чырванашчокія, сядзяць і прадуць.

Мартыневіч павітаўся і зірнуў кругом сябе: тут і сесці боязна, усё чыстае, вымытае, аж блішчыць. А гэты хам стараста буркнуў нешта ў адказ на «дзень добры» і, трасца яго матары, сесці не запрасіў. «Бачыш ты яго, якая шышка: стараста! А я пляваць на цябе хачу, пане мой! Я шляхціц, дваранін, і воласць ваша хамская мне не закон, толькі што падаткі плачу, от і ўсё...»

Пакуль так думаў Мартыневіч аб сваёй шляхецкай годнасці, Вырвіч дастаў з шуфляды паперку і падсунуў яе Нічыпару.

— Сымона Ашакевіча ўраднік выклікае на заўтрашні дзень. Аддасі яму гэтую паперку. І скажы, каб не спазняўся.

— І то ўсё?

— Усё! — адказаў Сафрон і акінуў Мартыневіча вострым зладзейскім позіркам. «Сукін сын, шляхціц! Старац ты, а не шляхціц! Каб не ведаў, хто ты, хлеба акраец падарыў бы. Адны лапці чаго варты. Ды ты і ў іх абуцца не ўмееш!»

Мартыневіч выйшаў ад Вырвіча і ўсю дарогу да Малінаўкі лаяў яго на чым свет стаіць. Праз гэтую сабачую паперку прыйшлося валачыцца аж у Чыжэвічы!

Не мог ён, хамская морда, самога Ашакевіча пазваць і аддаць паперку яму. Дык не! З Чыжэвіч даслаў да Мартыневіча нейкага мужычка з наказам з'явіцца дзесяцкаму да старасты. «Начальства! Не дай бог мужыку панства, а свінні рог... Каб на цябе халера якая, лёгка мне валачыцца сюды-туды...»

Каля самага засценка Мартыневіч супакоіўся і пачаў ужо шаптаць «Верую», як раптам да яго розуму дайшло пытанне: а чаго ўраднік выклікае Сымона? Хм! Тут ёсць над чым падумаць. Тут, не іначай, ці крадзеж, ці яшчэ якая-небудзь скула. Ураднік калі выклікае, то не дарэмна. А чаму не крадзеж! Сымон жа на сваёй Пярэстай вечна ў падводах. Арлоўскаму возіць то гарэлку, то ліха, то халеру, можа і пракраўся. Мартыневіч быў упэўнены, што Сымон пракраўся, па сабе ведаў: каб быў на Сымонавым месцы, то ў першы ж дзень пракраўся б.

Каля свае хаты Мартыневіч сустрэў Лявона Нарбутовіча. Той, мабыць, такі і чакаў яго.

— Дзе ты валочышся, сугней? — запытаў злосна, як і заўсёды.

— У Чыжэвічах быў. Вунь староста паперку даў. Сымона Ашакевіча ўраднік у воласць выклікае.

— Што? — Лявон ледзь не падскочыў. Ён адразу забыўся, нашто яму быў патрэбен Нічыпар.— Кажаш, ураднік? А чаго?

— Адкуль я ведаю! Паперку даў і кажа: скажы, каб не спазняўся.

— Пакажы мне тую паперку.

Нічыпар даў яму павестку. Лявон доўга круціў яе каля носа, падносіў да самых вачэй, але так і не вычытаў, чаго гэта ўраднік выклікае Сымона Ашакевіча.

— На... Нічога тут не напісана... Аддай Сымону.

Нічыпар спачатку зайшоў дадому і сеў снедаць. Калі Кацярына падала на стол бульбу і гуркі, то Нічыпар успомніў той смачны мясны дух, які ішоў са старастава печы, і еў бульбу з гурком і хлебам так заўзята, што аж за вушамі трашчала.

Лявон тым часам памчаўся дамоў, паведаміў Міхаліне, што Сымона Ашакевіча выклікае ўраднік, а адтуль махнуў аж у кузню да Мікалая Халусты, з якім у яго было нейкае невялікае сяброўства.

Міхаліна таксама не спала ў шапку. Такім чынам, пакуль Мартыневіч занёс паперку Ашакевічу, увесь

засценак ужо ведаў, што Сымона выклікае ўраднік. Малінаўцы ламалі галовы: чаго? Што натварыў Сымон Ашакевіч? Значыць жа, нешта злачыннае зрабіў!

Толькі адзін Сымон не ламаў над гэтым галавы. Ён ведаў, чаго яго заве ўраднік. Ведаў таксама і тое, што к гэтай справе прыклаў руку Хаім Ножык. Ён прыбягаў да яго ў тую памятную раніцу, ён, вядома, і ўрадніку заявіў, што ехаў са Слуцка амаль услед за Ашакевічам... Усё гэта зусім прыгняло Сымона. А тут яшчэ жонка. Яна амаль страціла розум і не знаходзіла сабе месца.

— Сымон... Скажы мне, што ты нарабіў?

У Сымона сэрца абліваласся крывёю.

— Нічога я не нарабіў, Аўдоля.

— Чаго ж ён цябе выклікае? Няўжо ты, Сымон... Можа, ты нешта ўкраў у Арлоўскага?

— Пабойся ты бога!

— Але ж ты ведаеш, чаго ён цябе заве?

— Я не ведаю, Аўдоля, я толькі дагадваюся... Помніш раніцу, калі да нас прыходзіў Хаім?

— Помню.

— Ну, дык таго мяне ўраднік і выклікае... Тады Хаіма абрабавалі, а ён ехаў услед за мной.

— А ты не бачыў тых людзей, Сымон?

— Не, Аўдоля... Не бачыў...

— А што ты скажаш ураднiку?

— Так і скажу, што не бачыў.

— Божа мой, божа,— прашаптала Аўдоля.— За што ты нас караеш!..

«Навала...— думаў Сымон.— Гэтая праклятая сустрэча можа вылезці бокам». Ён пачаў апранацца.

— Куды ты, Сымон?

Сымон адказаў не адразу.

— Трэба з некім параіцца, Аўдоля... Трэба параіцца...

— З кім ты параішся! Каму ты пра гэта раскажаш? Апраўдвацца пойдзеш у тым, у чым не вінаваты! Усё роўна вінаватым зробяць, радавацца будуць!..— Аўдоля хапілася за Сымонаву світку.— Не пушчу! Не пушчу, Сымон, як ты сабе хочаш!..

— Да Яна Сташэвіча схаджу я, Аўдоля... Сэрца маё шчыміць.

— Да Яна... Але ж там жонка яго, Тамаш, меншы...

— Я не буду пры іх. Я адзін на адзін Яну скажу.

— Глядзі ж, Сымон...

Сымон пайшоў проста да Сташэвіча, толькі не да Яна, а да Андрэя. Па нейкай прычыне яго цягнула іменна да Андрэя, а не да Яна. Андрэй ненавідзеў Халусту, ненавідзеў Хаіма, а Сымон быў упэўнены, што там, дзе ўваткнуўся Хаім, ёсць і Халустава рука, а дзе ўваткнуўся Халуста, там можна схапіць за бараду і Хаіма.

Андрэй з Іванам малацілі ў гумне, калі прыйшоў Сымон. Андрэй адразу кінуў работу і сеў на куль.

— Садзіся, Сымон, закурым. І ты, Іван, адпачні,— загадаў ён хлопцу.

Селі на кулях.

Іван выйшаў на прыгуменне.

— Я да цябе параіцца прыйшоў, Андрэй,— сказаў Сымон.— Папаўся я ў такое балота, што не ведаю, як вылезці... Толькі нам трэба пагаварыць адзін на адзін.

Андрэй выйшаў на прыгуменне і адаслаў Івана ў хату. Сымон расказаў пра сваю прыгоду ў Гнілой Дуброве, як разлічваўся з Арлоўскім і як да яго раніцай прыходзіў Хаім Ножык.

— І от на заўтра мяне выклікае ўраднік. Вядома, што па гэтай самай справе. Што мне яму гаварыць, Андрэй?

— Што гаварыў Хаіму, тое гавары і ўрадніку, ды не вельмі палохайся.

— Хіба гэта добра, калі пачынаюць цябе валачыць! Яны з мяне душу выматаюць.

— Цвёрда стой на адным: нікога не бачыў, нічога не ведаю. Справа ў тым, што, магчыма, Хаім пазнаў Шымкевічаў і хоча, каб ты пацвердзіў. Ну, а калі ты сказаў яму, што нікога не сустрэў, то тое ж самае гавары і ўрадніку.

— Я гэтаксама думаў...

— А ты нікому не прызнаваўся, што сустракаў Шымкевічаў?

— Нікому, Андрэй, толькі табе.

— І жонцы не гаварыў?

— Не гаварыў.

— Добра. І трымайся ў ўрадніка смела, не калаціся, проста глядзі яму ў вочы.

Сымон супакоіўся. Яны пагаварылі яшчэ пра старога Шымкевіча і пра яго сыноў, што на дарогі выхо-

дзяць, пра Халусту і Хаіма Ножыка, якія крадуць і грабяць, не выходзячы на вялікія дарогі, і Сымон пайшоў дадому.

Андрэй узяўся за малацьбу. Скора прыйшоў Іван, якому не сядзелася ў хаце, бо там была Алена. Малацілі да змроку. Тады Андрэй пачаў перабіраць салому на куль, а Іван панёс коням канюшыну. Пакуль ён накарміў скаціну, Андрэй кончыў работу ў гумне. Ён пачаў рыхтаваць трасянку коням на ноч. На дварэ к гэтаму часу зусім сцямнела. Андрэй склаў трасянку ў рэзгіны, заціснуў яе, а з галавы не выходзілі думкі пра Сымона і пра Шымкевічавых сыноў. Васіль быў старэй за яго гады на два, а малодшы, Юрка,— аднагодак. Калісьці сябравалі. І не верылася яму, што Васіль, такі спакойны, працавіты хлопец, будзе спыняць на дарозе людзей, няхай сабе такіх, як Хаім Ножык. Мабыць жа, ёсць на гэта прычына, мабыць, ліхі лёс давёў хлопцаў да такога жыцця.

Андрэй хацеў ужо ўскінуць рэзгіны на плячо, як два чалавекі ўвайшлі ў гумно. Ён падумаў, што гэта яму здалося, бо людзі гэтыя ўвайшлі так ціха, нібы то былі не людзі, а здані, нейкія прывіды. Усё гэта адбылося так нечакана, што Андрэй на нейкае імгненне аслупянеў.

— Не падымай крык, Андрэй,— сказаў адзін з іх хрыпатым прастуджаным голасам.— Ты мо не ведаеш, што мы хаваемся...

Андрэю здалося, што гэты голас яму знаёмы, і хоць ён дасюль увесь час думаў пра Шымкевічавых сыноў, але і цяпер бы не сказаў з упэўненасцю, што чуе голас Васіля Шымкевіча.

— Я вас не ведаю, хлопцы.

Васіль ціха засмяяўся.

— Няўжо ж ты такі сапраўды не пазнаў мяне, Андрэй? — сказаў ён і падышоў бліжэй.— Не пазнаў Васіля Шымкевіча?

Андрэй маўчаў. Усё гэта здавалася яму неверагодным. Удзень Сымон Ашакевіч расказваў яму пра сустрэчу з Шымкевічамі ў Гнілой Дуброве; як пайшоў Сымон, ён увесь час думаў пра іх — і вось яны прыйшлі, нібы іх нехта выклікаў, бо калі першы — Васіль, то другі, той, што прытуліўся плячыма да сцірты, не хто іншы, як Юрка.

— Цяпер я пазнаў вас абодвух, Васіль. Але не думай, што я вельмі рады вашаму прыходу.

— Ведаю, браце... Ніхто нам не рады... А некаторыя былі б рады ўбачыць нас на вяроўцы. Аднак жа ты не пабяжыш ззываць людзей. А можа пабяжыш?

— Ззываць людзей? Не вельмі ты разумны, Васіль, калі так думаеш. Людзей ззываць я не буду. Скажы мне, што вам трэба?

— Ідзі сюды, Юрка,— паклікаў Васіль брата.

Той падышоў, і хоць Андрэй не бачыў яго твару, але пазнаў, што Юрка хворы.

— Мы прыйшлі да цябе, Андрэй, бо няма куды нам больш зайсці. А з табою мы сябравалі... Ды ўсё роўна не зайшлі б, каб не пільная патрэба... Добра, што мы засталі цябе ў гумне.

— Якая ў вас патрэба, хлопцы?

З гэтымі словамі Андрэй зірнуў у дзверы, падышоў да іх і агледзеў прыгуменне. «Хоць бы Іван не прыйшоў!» — падумаў ён.

— Мы хочам пераначаваць у тваім гумне.

— Што ж, начуйце.

— Ты не вельмі ахвотна нас пускаеш.

— Не вельмі ахвотна, але пускаю... Я рад бы прыняць вас у хаце з чаркай гарэлкі, але ж вы самі не захочаце...

— Нас гоняць, як сабак... Нам нідзе нельга спыняцца надоўга, нельга паказвацца людзям...

— У сене спаць будзе цёпла, а адзежыны я вам прынесці не змагу. Запытаюць, куды нясу.

— Нам не трэба адзежына, Андрэй. Каб ты разжыўся на кавалак белага палатна, яно неабходна Юрку... І каб якога несалёнага тлушчу... У Юркі з рукой дрэнна...

Андрэй падумаў.

— А калі ёду?

— О, каб у цябе быў ёд!

— Ёду і палатна прынясу. А цяпер лажыцеся ў сена, бо я вас тут замкну на некаторы час.

Ён ускінуў на плечы рэзгіны і выйшаў з гумна, зачыніў вароты і замкнуў.

На двары бралася на марозік. У полі захадзіўся сівярок. На небе высыпаліся зоркі, і здавалася, што ад гэтага стала яшчэ халадней. «Начаваць у гумне без вопраткі ў такую ноч...— думаў Андрэй.— Нашто яны

прыйшлі, і іменна да мяне... А што мне было рабіць? Не пусціць, выгнаць вон?.. Людзей сазваць ды аддаць іх у рукі Хаіму Ножыку і Яўхіму Халусту!.. Не! Так не будзе... А Юрка паранены... Чым я магу памагчы ім...»

Ён палажыў вязку з трасянкай каля конскага хлява, а сам, не заходзячы ў хату, пайшоў да Гарасіма Жукоўскага. Той сядзеў за сталом і чытаў. Андрэй быў першы раз у хаце ў Гарасіма, але разглядацца яму не было калі.

— Вам, мабыць, нешта трэба, пане Сташэвіч? — запытаў Гарасім і закрыў кніжку.

— Так, пане Жукоўскі... Мне трэба ёд.

— А што ў вас такое, пакажыце мне. Я ж трохі ўмею, калі што невялікае... Нажом парэзалі ці сякерай?

— Не я... хлопец мой руку парэзаў. Глупства там... Калі маеце ёд, дайце мне з сабою. Я заплачу, бо ёд часта бывае патрэбен...

— О, гэта вы праўду сказалі. Я вам цэлую бутэлечку дам.

Увесь той вечар Андрэй быў сам не свой. Процьма думак круцілася ў галаве, і ён адчуваў сябе як у сне.

Пасля вячэры ён запаліў ліхтар.

— Куды ты, Андрэй? — запытала ў яго маці.

— У камору. Кавалак скуры там быў. Боты трэба шаўцу занесці, няхай падладзіць, а то перады рвуцца.

У каморы ён адчыніў кубел, выняў кавалак сала, тады зняў з паліцы булку хлеба і ўсё палажыў у мяшок. Тады са скрыні выняў матчына палатно, адрэзаў кавалак аршыны тры і яго сунуў у мяшок.

У хаце Андрэй патушыў ліхтар, сказаў, што скуры не знайшоў, недзе завалялася. У сенях падабраў мех і памалу пайшоў да гумна. Хоць гаспадар і мае права ў любы час зайсці ў свой будынак, але Андрэю здавалася, што за ім сёння сочыць увесь свет...

Васіль яго чакаў.

— Тут вячэра і палатно,— сказаў Андрэй, вымаючы з мяшка хлеб і сала.— Палажы, браце, у сваю торбу... А вось табе і ёд. Заўтра прыйду малаціць рана, тады разбуджу.

— У цябе работнік ёсць.

— Я прыйду адзін.

Усю тую ноч Андрэй нават павек не звёў.

## РАЗДЗЕЛ ДВАЦЦАЦЬ ПЕРШЫ

Ураднiку Антону Беразоўскаму было дваццаць сем гадоў. Высокi i шыракаплечы, ён быў складзены, як асiлак. Гадаваў чорныя вусiкi, i вочы ў яго былi чорныя, пранiклiвыя. Ён быў прыгожы i ведаў гэта, быў не вельмi дурны i таксама ведаў гэта. Таму ён любiў сваю асобу i сачыў за сабой надзвычайна. Апранаўся заўсёды бездакорна: цi ў форменны гарнiтур — пры выкананнi службовых абавязкаў, цi ў цывiльны — у прыватных выпадках.

Паходзiў Беразоўскi з Бабруйшчыны. Бацька яго — багаты шляхцiц-хутаранец — жыў недзе пад Глускам. Антон быў яго малодшы сын. Не вельмi здатны да вучэння, ён сяк-так дацягнуў да сёмага класа гiмназii i падаўся на службу. Палiцэйская кар'ера яго захапляла. Тады яшчэ бязвусы юнак, ён думаў, што вельмi хутка пойдзе ўперад па службовай лесвiцы, але падымацца ўгору аказалася не так лёгка. Хiба можна ў поўнай меры праявiць свае здольнасцi ў такiм глухiм месцы, як Старочынская воласць, дзе, акрамя дробнага крадзяжу, i злачынстваў iншых не было. Беразоўскi ж быў перакананы, што месца ўраднiка для яго вельмi нiзкае i малое. Ва ўсякiм выпадку, ён адчуваў, што пасада прыстава не была б для яго вельмi высокая.

Спачатку Беразоўскi вельмi актыўна ўзяўся за справу, але час iшоў, i малады ўраднiк пакрысе астываў. Менш думаў пра пасаду станавога прыстава або спраўнiка: абодва гэтыя месцы былi для яго гэтак жа далёка, як i ў той час, калi ён упершыню надзеў форму ўраднiка. Ён цяпер быў больш за ўсё заняты заляцаннямi да багатых шляхцянак i з ахвотай пайшоў бы ў прымы на добры хутар. Пошукамi такога хутара i займаўся Беразоўскi ў апошнi час, але сакрэтнае прадпiсанне са Слуцкага палiцэйскага ўпраўлення прымусiла яго насцярожыцца. У прадпiсаннi гаварылася аб сацыялiстах-дэмакратах, аб хваляваннi сялян i парабкаў у радзе месц iмперыi i прапанавалася сачыць за настроем насельнiцтва. Прачытаўшы такое прадпiсанне, Беразоўскi хмыкнуў. Сацыялiсты ў Старочынскай воласцi! Глупства. Ва ўсёй воласцi не знойдзеш чалавека, якi ведае, што такое сацыялiст, дэмакрат. Але скора ён перамянiў сваю думку. Нядаўна да

яго з'явіўся Яўхім Халуста з Malінаўкі і паведаміў, што падазрае свайго парабка Якава Шэмета: «Ліха матары яго! Ён сацыяліст, гаспадзін ураднік!» Халуста падмацаваў свае словы тым, што Якаў Шэмет не п'е гарэлкі, не бегае за дзеўкамі, а гэта не ўласціва парабкам. Не ходзіць у царкву, затое штонядзелі валочыцца ў Чыжэвічы. «А там жа ўся басата, гаспадзін ураднік!» Прытым Шэмет працаваў у горадзе тры гады, а вядома ж — адтуль, з горада, і ідзе ўсялякая зараза.

Беразоўскі думаў, што паведамленне Халусты беспадстаўнае, аднак не забыў яго. Хто ведае, як павернецца справа, а кар'еру пабудаваць можна толькі на палітычнай аснове. І Беразоўскі вырашыў мець Якава Шэмета на ўвазе, прасачыць за яго дзейнасцю.

Некалькі дзён назад з'явіўся да ўрадніка Хаім Ножык з Чыжэвіч. Яго абрабавалі ў Гнілой Дуброве, калі ён ехаў са Слуцка. Уперадзе яго праехаў Сымон Ашакевіч з Малінаўкі. Гэты Ашакевіч прадаў у Агародніках чатыры бутэлькі гарэлкі. Арлоўскі сцвярджае, што Ашакевіч і сам быў п'яны.

Паведамленне Халусты і абрабаванне Хаіма Ножыка не мелі між сабой нічога агульнага, але Беразоўскі нейкім дадатковым пачуццём зразумеў, што ва ўсім гэтым нешта хаваецца і не звярнуць на яго ўвагі нельга. Перш за ўсё ён падрабязна дапытаў Халусту і запісаў яго паказанні. Хаіма Ножыка ён мог адправіць у Слуцак, бо Гнілая Дуброва знаходзілася на тэрыторыі Слуцкай воласці, аднак ён дапытаў і Ножыка і Арлоўскага. Шэмета вырашыў не турбаваць, не было важкіх прычын, а Ашакевіча выклікаў на допыт.

Сымон прыехаў у Старочын рана. Гандляры толькі паадчынялі свае крамы. Ён спыніўся ў знаёмай яўрэйкі Ханы, распрог сваю Пярэстую, прывязаў яе да воза і пайшоў да ўрадніка.

Беразоўскі сядзеў за сталом, рабіў выгляд, што чытае важныя паперы, што яму вельмі некалі, што ён страшна заняты, аднак не забыў, не падымаючы галавы, высакародным жэстам паказаць рукой цераз стол на крэсла, прапануючы гэтым Сымону сесці.

Прайшло некалькі хвілін. Тады Беразоўскі падняў галаву, прыветна ўсміхнуўся і запытаў:

— Што вас прывяло да мяне, пане Ашакевіч?

Хітры шэльма, ён ведаў, як лапцюжная шляхта ганарыцца сваім шляхецтвам, бо сам на Глушчыне вы-

рас сярод такіх самых дваран. Звярніся да такога, як да пана, і ён увесь перад табой раскрыецца.

— Я атрымаў павестку, гаспадзінураднік,— адказаў Сымон.

— А-а! — Беразоўскі ўсміхнуўся і ляпнуў далоняй сябе па лбе.— Помню, помню!.. Вы, здаецца, нядаўна былі ў Слуцку. Так, так...— ён зірнуў у свае паперы і назваў дзень.

— Так, гаспадзін ураднік. Я ездзіў па тавар Арлоўскаму.

— Вы ехалі са Слуцка адзін?

— Адзін.

— І на дарозе нікога не сустрэлі?

— Нікога.

— Так, так... Значыць, вы на дарозе нікога не сустрэлі, ні з кім не гутарылі?

— Так. Нікога не сустрэў, ні з кім не гутарыў.

— Дазвольце, пане Ашакевіч. А каму вы прадалі чатыры бутэлькі гарэлкі?

— Я прадаў іх у Агародніках. Людзей тых я не ведаю.

— Вось бачыце! А кажаце, што нікога не сустрэлі ў дарозе.

— Гэта было не ў дарозе, а ў сяле.

— Хоць і ў сяле, але ўсё роўна ў дарозе, бо вы ехалі дамоў.

— Так. Але гэта было не ў чыстым полі ў дарозе, а ў сяле, гаспадзін ураднік.

— Правільна. Я вас разумею. Вы хочаце сказаць, што ў Гнілой Дуброве вы нікога не сустрэлі?

Беразоўскі зірнуў на Ашакевіча з лёгкай усмешкай: прызнавайся, маўляў, дурань, я ўсё роўна ўсё ведаю. Але збіць Сымона яму не ўдалося.

— Я, гаспадзін ураднік, нікога не сустракаў ні ў Гнілой Дуброве і ні дзе ў іншым месцы. Я ехаў дамоў уночы.

— А вы не пазналі б тых людзей, якім прадалі гарэлку?

— Наўрад. Мне не было калі іх разглядаць. Ды я такі, прызнацца, трохі спалохаўся. Яны былі п'яныя і маглі гарэлку дарам узяць.

— А колькі іх было, пане Ашакевіч?

— Чацвёра.

— Вы сказалі няпраўду, пане Ашакевіч.— Урад-

нік зірнуў на Сымона, як бацька на дзіця, якое правінавацілася, з дакорам, але без думкі пакараць.— Іх было толькі двое.— Беразоўскі схіліў галаву, нібы яму было сорамна за Сымонаву хлусню.— Так, пане Ашакевіч?

Беспрычынны жах запаліў сэрца Сымона, але ён адказаў цвёрда:

— Не, гаспадзін ураднік. Іх было не двое, а чацвёра. Калі вы лепш ведаеце, то нашто пытацца? Можа вы там былі?

— Ого, пане Ашакевіч, вы залішне смелы. А я от вазьму ды пакажу вам тых двух чалавек. А-а? Яны злоўлены і сядзяць пад замком.

Млявасць пакацілася па Сымонавым целе. «Няўжо іх злавілі? — з жахам падумаў ён.— Тады я прапаў».

— Што ж, пакажыце.

— Не цяпер, не цяпер, пане Ашакевіч. Але я бачу, што вы спалохаліся.

— Не, гаспадзін ураднік, я не спалохаўся, бо не зрабіў ніякага злачынства.— Злосць раптам апанавала Сымона: «Смаркач, сядзіць, як аблізаны каравай... Фігу ты злавіў, а не Шымкевічавых хлопцаў!» — Я, гаспадзін ураднік, дваранін! А дваранін не хлусіць, не крадзе, бо тады ён не быў бы дваранінам.

— Таму я з вамі і гавару не так, як гаварыў бы, скажам, з нейкім там Шэметам. Аднак вы да Арлоўскага прыехалі выпіўшы. Мабыць, тыя, што куплялі ў вас гарэлку, выпілі яе разам з вамі.

— Не, гаспадзін ураднік. У дарозе я не п'ю. Гэта Арлоўскі сказаў вам, што я быў п'яны, бо ён на мяне злосны. Я патрабаваў у яго разлічыцца. Ён мне быў вінаваты за чатыры паездкі, а я чалавек бедны, мне патрэбны грошы. Нямала чакаў я яму і раней і цяпер. У мяне хворае дзіця, грошы патрэбны на лячэнне.

— Вы маеце поўнае права патрабаваць свае грошы. Але ад вас пахла гарэлкай.

— Эх, гаспадзін ураднік! А сёння ад мяне не пахне гарэлкай? Каб вы вазілі гарэлку, і ад вас бы пахла. А зайдзіце да Арлоўскага ў сенечкі, дзе ў яго гарэлка стаіць. Там такі смурод, што нос верне, бо ён не толькі казённую прадае, а і рамязоўку, от яна яму і пахла...

— Ха-ха-ха! — зарагатаў ураднік.— У яго сенечках так пахне, што і не п'ючы можна ап'янець. Ха-ха-

ха! А што да рамязоўкі, то вы дарэмна. Гэта праверана. Вы галаслоўна сцвярджаеце.

— Я нічога не сцвярджаю, гаспадзін ураднік. Якая справа Арлоўскаму да таго, выпіў я ці не? Калі я і выпіў, то не з яго рук і не за яго грошы. І якая каму справа, што я прадаў у дарозе чатыры бутэлькі гарэлкі? Я за іх аддаў грошы. Ды, нарэшце, я мог забраць іх сабе. Я гарэлку важу, цягаю на сабе...

— От бачыце, мы з вамі адной думкі. Якая каму справа, што вы прадалі ў Гнілой Дуброве чатыры бутэлькі гарэлкі двум чалавекам. Яны хацелі купіць, а вы ім прадалі. Дык нашто ж гэта адмаўляць, пане Ашакевіч?

— У Гнілой Дуброве? Гэта, значыць, Хаім Ножык вам данёс.

— Зусім не. Чаму ў вас з'явілася такое падазрэнне?

— Бо Хаім Ножык прыбягаў да мяне, як толькі я прыехаў ад Арлоўскага.

— Ах! Ён да вас прыбягаў!

— Так, гаспадзін ураднік.

Беразоўскі крэкнуў і пачырванеў. «Пракляты жыд»,— падумаў ён.

Допыт на некаторы час перарваўся. Беразоўскі пачаў гартаць паперы, нібы забыўшыся пра Ашакевіча. Сымон тым часам думаў, што ён ледзь не ўляпаўся. Каб ураднік, паабяцаўшы яму паказаць тых людзей, якім ён прадаў гарэлку, ступіў да дзвярэй, Сымон паверыў бы, што Шымкевічы злоўлены, і, мабыць, прызнаўся б. Але ўраднік зрабіў удалы ход і не падмацаваў яго.

— Так, пане Ашакевіч... Вы не хочаце гаварыць праўды. А па сутнасці, чаму нам не пагаварыць адкрыта? Мы абодва двbooране, суседзі па паветах. Што нам за бяда, калі нейкага злодзея-жыда абрабавалі такія ж самыя злодзеі...

«Значыць, Хаіма такі абрабавалі»,— падумаў Сымон.

— А я буду гаварыць з вамі адкрыта,— гаварыў Беразоўскі.— Хаіма Ножыка спынілі ў Гнілой Дуброве два чалавекі. Гэта здарылася не больш чым праз гадзіну пасля таго, як Гнілую Дуброву праехалі вы. Ён не пазнаў тых людзей, але па некаторых прыметах мяркуе, што яго абрабавалі сыны Тодара Шымкевіча.

От мне і важна знаць, ці бачылі вы іх, ці пазналі, нарэшце?

— Я нікога не сустракаў у Гнілой Дуброве, гаспадзінураднік.

— Упарты вы чалавек. Каго вы, уласна, хаваеце? Разбойнікаў з-пад моста. За сынамі Шымкевіча, Васілём і Юрыем, павятовая паліцыя сочыць. Яны абрабавалі не аднаго Хаіма Ножыка і не толькі ў Гнілой Дуброве.

— Я гэтага не ведаю.

— А я ведаю. Значыць, вы сцвярджаеце, што нікога не сустракалі ў Гнілой Дуброве?

— Нікога, гаспадзін ураднік.

— Тады, калі ласка, падпішыце вось гэта.

— А што гэта такое?

— Тут запісана ваша паказанне. Я магу прачытаць.

— Калі ласка, прачытайце.

Беразоўскі зморшчыўся і пачаў чытаць пратакол.

— ...Ну, усё так запісана?

— Так, гаспадзін ураднік.

— Падпішыцеся.

Сымон падпісаўся.

Калі Сымон выйшаў ад ўрадніка, было пасля паўдня. Ён пайшоў да Ханы, запрог сваю Пярэстую і паехаў дамоў. Думка пра Беразоўскага не пакідала яго. Ды, уласна, не пра яго ён думаў. Яго хвалявала пытанне — закончыцца сённяшнім допытам уся справа ці гэта толькі пачатак? Чорт яго ведае. Ды і якая справа! Не думаў Сымон, калі сустрэўся з Шымкевічамі, што прыйдзецца яму сядзець ва ўрадніка на допыце. Шымкевічы... значыць, за імі паліцыя сочыць. А можа Беразоўскі схлусіў, каб запалохаць Сымона. Вось, маўляў, якія яны, а ты з імі сустракаешся і маўчыш.

Але Беразоўскі не схлусіў. Сымон мо толькі за вярсту яшчэ ад'ехаў ад Старочына, а ўрадніку сам начальнік пошты прынёс пакет за пяццю сургучнымі пячацямі. Каб гэты пакет Беразоўскі атрымаў раней, то інакш павёў бы допыт. З павета старочынскаму ўрадніку паведамлялі, што Васіль і Юрый Шымкевічы павінны знаходзіцца цяпер у межах яго воласці. Яны накіраваліся ў гэты бок, іх прасачылі. У іх нават стралялі. Павятовая паліцыя згубіла іх сляды. Беразоўскаму прапанавалася прыняць усе меры, каб знайсці разбойнікаў.

Прачытаўшы паведамленне, Беразоўскі гатовы быў кусаць локці. Няхай бы гэты пакет прыйшоў раней, або няхай бы ён Ашакевіча выклікаў не на сёння, а на заўтра. Выклікаць узапар другі раз зусім неразумна. Ды нічога цяпер і не даб'ешся ад «пана Ашакевіча». Тым болей, што сам ураднік даў маху. Допыт ён вёў не як прадстаўнік улады, а як добры сусед. Думаў, што так будзе лепш. Зліберальнічаў, дурань... Якія ж меры цяпер прымаць, каб напасці на след разбойнікаў Шымкевічаў? Цяпер ужо Беразоўскі не сумняваўся, што абрабаванне Хаіма Ножыка — работа не прыгарадных мужыкоў, а іменна Шымкевічаў. І ён выклікаў стражніка Макара, каб параіцца з ім.

На дварэ было холадна. Вецер дзьмуў проста ў твар з поўначы, са Слуцкага бору. Адтуль заўсёды дзьмуў халодны вецер. Сымон не падганяў свае кабылы. Спяшацца не было чаго, усё роўна дзень страчаны. Ён выняў тытунь, закурыў і перабраў у памяці ўсё тое, што адбылося з ім у апошні час. От табе і жыццё. Ты думаеш так, а яно зробіцца гэтак. Проста замарачэнне нейкае, а не жыццё. Мала сваёй бяды ў хаце, дык от яшчэ Шымкевічы з Хаімам Ножыкам утачыліся ў яго долю.

Тым часам пачало распагоджвацца. Усё неба яшчэ было заслана хмарамі, але на захадзе пасвятлела. Хутчэй бы лёг снег, а то зямля ўмерзла, дарога цвёрдая, як камень, кабылу трэба падкоўваць, ды і калёсы б'юцца, кожная лёстка дрыжыць. Калі так доўга пастаіць, кузні не мінеш, Халуставаму сыну паклонішся. Эх, каб сняжок, запрог бы кабылу ў сані. Скора трэба сена вазіць, дровы. Не столькі таго сена, але можа нехта наняў бы на Волю ці ў Крушнікі паехаць. Ды модзе якую калодку агораў бы на клёпкі ды на дны. Зімой, калі работы вялікай няма, вёдры рабіў бы ды цабры. Трэба ж на свеце жыць.

Амаль паўдарогі так праехаў Сымон, ужо малінаўскія Маргі відны былі здалёк, калі пачуў, што ззаду нехта едзе. Азірнуўся і пазнаў Юрку Хмялеўскага — лесніка з Крушнікаў. Хто з гэтага палявога боку не ведаў Юрку Хмялеўскага!

— Гэй, Сымон! Усё на Пярэстай ездзіш! — гукнуў ззаду Юрка.

— Другой не маю, Юрка!

— Добрая кабыла. Крок шырокі. Мая нашто хадавая кабыла, але тваёй на хвост не наступае. Ідзі да мяне, закурым.

— Не, браце, ты ідзі да мяне. Я такі ж наперадзе, кіраваць трэба, а твая кабыла следам будзе ісці.

— Добра ты кажаш.

Юрка сеў на Сымонаў воз. Сымон зірнуў на яго і ўсміхнуўся.

Зусім не чалавек, а звер. Аброс увесь, толькі вочы блішчаць, і тыя нейкія дзікія. От што Палессе з чалавекам робіць. Пакуль парабкаваў у маёнтку — чалавекам быў, а калі купіў хутар у Крушніках — на звера стаў падобны.

— Куды гэта ты выбраўся, Юрка? Ці не ў Слуцак?

— Не, Сымон. У Малінаўку да пранцаватага Халусты.

— Чаму ж да пранцаватага? Ты ж з ім добра жыў, хутар ён табе памог купіць. Можа ў яблыкі да яго едзеш?

— Няхай яго скулы ядзяць, а не я яго яблыкі буду есці. Ён мне такіх яблыкаў падсунуў, што не толькі ў роце горка, але на душы млосна.

— Што ж гэта за яблыкі такія, Юрка?

— Ай, браце... Пра хутар ты гаворыш. Грошай ён пазычыў, праўда, бо ў мяне не было свае капейкі. Вэксаль я, вядома, падпісаў, куды ж ты дзенешся, усё па закону...

— Я гэта ведаю, Юрка.

— Нічога ты не ведаеш. І ніхто не ведае, колькі мне каштуе гэты пракляты хутар... Я і цяпер сяджу ў Халуставай кішэні, як сядзеў і да гэтай пары.

— Не аддаў Халусту доўгу?

— Братка ты мой! Пяць разоў аддаў, калі не больш. Колькі ён у мяне лесу перацягнуў! Штогод возіць. А колькі шкур узяў лісіных, і казіных, і выдры, і куніцы! А колькі мяса пеpавалок! Чыстымі грашыма сто рублёў аддаў. Згалеў зусім. На жонцы ды на дзецях транты адны... Прашу вэксаль, дык не, не аддае ды годзе...

— Цяжка табе будзе вырваць з яго зубоў гэты вэксаль,— зазначыў Сымон.

— Хіба я не ведаю... Вясной да мяне прыехаў. Такі добры, такі лагодны, памяркоўны. «Мне, пане Хмялеў-

скі, шулы трэба. Каб ты мне пару дубкоў даў, то мы з табою і разлічыліся б». Даў я яму два дубкі.

— Бачыў я, Юрка, тыя дубкі пад гумном у Халусты. Чатыры шулы здаравенныя ды калоў на цэлы плот.

— Ну от. Дзіва што! Там не толькі калы, там на зруб у калодзеж можна выбраць. Вечны калодзеж быў бы. Ну, дык што ты думаеш, аддаў ён мне вэксаль? Дулю ён мне паказаў. Мне, кажа, яшчэ трэба чатыры сахі ў гумно...

— І дасі, нідзе не дзенешся.

— А што я магу зрабіць? Сэрца маё крывёю аблілося, ледзь не заплакаў я... Што ж, кажу, пане Халуста, можа вам і скура мая трэба, то здзірайце, кажу, і скуру... Смяецца, гад: «Нашто мне, братачка, твая скура! Хіба я з яе боты пашыю! Ты мне чатыры сахі дасі, тады мы гэты вэксаль шах-мах — і ў печ! Ну, дык от чым усё кончылася: пазаўчора сам Гендарсан з аб'ездчыкам прыязджаў абход мой правяраць. Ну і знайшлі тое месца, дзе дубы стаялі... Так ужо я яго вытараваў, здаецца, ніякі чорт не пазнаў бы, а Гендарсан пазнаў. Разбушаваўся, чортаў немец, рады няма. Прыгразіў з работы прагнаць.

— Та-ак,— працягнуў Сымон.— Невясёлая і твая жытка, Юрка.

— Ворагу свайму такой не жадаю... Як на жары голымі нагамі стаю. Дык от еду да Халусты, папрашу, каб слова закінуў за мяне Гендарсану. Такі ж яны сябры нейкія, ды і дубы ж Халуста забраў... Як думаеш, закіне?

— Не ведаю. Калі сохі дасі ды да сох нешта паабяцаеш, то закіне.

— Паабяцаю... Бабра паабяцаю... От, браце, як прыходзіцца жыць... Да ворага свайго еду, каб пакланіцца яму... Бо жыць трэба. Эх, каб не дзеці, кінуў бы ўсё...

— Нічога не зробіш, Юрка. А я думаў да цябе ў Крушнікі з'ездзіць, можа б на клёпкі якога дрэва разжыўся. А ты такога нагаварыў...

— Прыязджай, Сымон. На клёпкі я табе з свайго надзела дам. Сухая яліна ёсць, ладная. А ты мне цэбрык ды вядро зробіш.

— Добра, прыеду.

Так, размаўляючы, непрыкметна праехалі і Маргоўскі лес. Малінаўка была блізка, і Хмялеўскі перасеў на свой воз.

## РАЗДЗЕЛ ДВАЦЦАЦЬ ДРУГІ

Малінаўцы спасвалі канюшыну на яравым палетку. У гэтым годзе вырасла яна, як ніколі: укрыла ржэўнік, закусцілася, нібы сабралася зацвісці ў першы год. Спасваць увосень канюшыну было неабходна. Тады вясной яна лепш бралася ў рост і гусцела.

Засцянковыя коні аджылі. Мінула летняя і асенняя работа, да зімы яшчэ далёка. Нават дохлыя адры, якія за лета вырабіліся так, што ледзьве ногі цягалі, ад'еліся на канюшыне і пачалі падбрыкваць.

Яўхім Халуста не знаходзіў ад злосці месца. Справа ў тым, што яго нівы былі ўдвая шырэй за нівы паўвалочнікаў, не гаворачы ўжо аб тых, хто меў па чвэрці, як Сымон Ашакевіч, толькі шостую частку, а паша праз гэтую праклятую цераспалосіцу на ўсім палетку агульная. Выходзіла, што засцянковыя коні дабрэлі на яго шырокіх нівах. А паспрабуй не пусці, калі адзін палетак. Не загародзіш сваіх ніў. Ды каб і загарадзіў, то хіба не паломяць платоў такія арыштанты, як Сташэвіч!

— Ліха ма-а-тары іх! — лаяўся Яўхім.— Выйду з засценка! Прадам гэтую праклятую барысевішчыну! Куплю фальварак, бо гэтыя праклятыя шляхцюкі мяне з вантробамі з'ядуць.

Адпраўляючы Юзіка на начлег, ён кожны раз строга яму наказваў:

— Ты праганяй іх са сваіх ніў! Праганяй! Вазьмі пугу і гані к чорту! Чуеш, сугней?

— Чую, бацька. Хіба я павінен цэлую ноч чужых коней пасвіць? Дык начлежнікі ж маіх коней ганяць будуць. А ваўкаўні ведаеш колькі распладзілася? Поўныя Маргі!

— Ты дурны! Ты сваіх коней пасі на сваёй ніве! Спутай і пасі! А чужых праганяй! Пугаю! Чуеш?

Юзік нічога не адказваў і выязджаў са двара. Халуста хапаў пугу і імчаўся ўслед за ім на канюшынны палетак. Там ён насіўся, як ашалелы, і разганяў коней,

а малінаўскія канапасы глядзелі на яго, як на дзіва, і рагаталі.

Асабліва ненавідзеў Халуста Андрэя Сташэвіча і ўсё, што Андрэю належала або мела да яго нейкае дачыненне. Ён не мог забыць, як гэты накольнік з Тамашом звязалі яго, як здзекаваліся. Ды і не толькі за гэта. Па нейкай прычыне Яўхім баяўся Андрэя, таму і ненавідзеў, як самага лютага ворага.

Аднойчы сярод белага дня Халусту ахапіла такое шаленства, што ён пабег на канюшынны палетак, вылучыў з табуна Сташэвічавых коней і пагнаў іх на маргоўскую дарогу. Іван паспрабаваў пярэчыць, дык ён адхвастаў яго пугай.

— Заганю тваіх коней у Маргі!.. Хі-хі-хі! У Маргі! Няхай іх там ваўкі падушаць.

Іван прыбег дадому з пісягом цераз усю шчаку.

— Што гэта з табою? — запытаў Андрэй.

— Халуста... Коней з палетка сагнаў і мяне пугаю адхвастаў...

— За што?

— Не ведаю.

Андрэй усхапіўся з месца.

— Дзе ён?

— Там, на палетку.

— Не ідзі, Андрэй,— узмалілася маці.— Бяды наробіш.

— Я яму нараблю бяды! — крыкнуў Андрэй.— Ён не толькі мяне, а след мой будзе абмінаць за вярсту.

Халуста тым часам ішоў дамоў, памахваючы пугаю. Андрэй сустрэў яго каля самага засценка. Там, крыху ўбаку ад вуліцы, расла высачэзная таполя. Каля яе калісьці малінаўцы пабудавалі невялічкую капліцу з дошак, пасадзілі чатыры рабіны і некалькі кустоў бэзу. Рабіны к гэтаму часу сталі вялікімі дрэвамі, бэз разросся так, што капліца амаль хавалася ў ім. Вось у гэтым месцы Андрэй і сустрэў Халусту. Халуста мог бы раней заўважыць Андрэя і пазбегнуць сустрэчы, але кусты бэзу падвялі. Як толькі прамінуў іх, так і сутыкнуўся з Андрэем нос у нос. Той не сказаў яму ні слова. Перш за ўсё вырваў у яго з рук пугу і пачаў хвастаць па чым папала. Халуста падскокваў, круціўся, войкаў, закрываў далонямі твар і лаяўся. Нарэшце Андрэй здаволіўся.

— Ну як? У суд будзеш падаваць?

Халуста здзічэлымі вачыма глядзеў на яго і маўчаў.

— Калі яшчэ кранеш майго хлопца хоць пальцам — заб'ю. Чуеш? Заб'ю, як сабаку. А калі ў суд падасі, я сведак пастаўлю, што ты майго хлопца біў. А ў цябе сведак няма, сукін ты сын! Хіба гэтую таполю папросіш, каб пацвердзіла. Ды за мяне і парабак твой у судзе слова скажа — помніць, як ты з сынам рэзаўся.

— Ліха матары тваёй! — закрычаў нарэшце Халуста.— Ты ў мяне за гэта ногі будзеш лізаць!

— Твае ногі лізаць? — злым шэптам перапытаў Андрэй.— Яшчэ хочаш? — і падняў пугу.

— Не! Не хачу! — увесь скурчыўшыся, залямантаваў Халуста.

Андрэй зламаў пугаўё, закінуў яго ў кусты, пугу скруціў у жмутак і падаў Халусту.

— На, ды нікому не хваліся, бо яшчэ атрымаеш.

Халуста схапіў пугу, адбег крокаў за дваццаць, склаў дзве дулі і выставіў іх Андрэю.

— На! На! Кусай мяне во за гэта! — ён паляпаў сябе па вядомым месцы.— Кусай! Цю-га-га! А-а-а! Выхвараеш, злодзей, шэльма, накольнік, рыштант, разбойнік! Цю-га-га!

Гэты выпадак каля капліцы ўмацаваў тую бязлітасную варожасць, якая ўжо існавала між Халустам і Андрэем. Яна потым цягнулася доўгія гады. Халуста абыходзіў капліцу, як абыходзіў пасля гэтага Андрэеў двор, бо зноў жа каля капліцы, амаль у тым самым месцы, яго стрэла і другая прыгода, на гэты раз з Сымонам Ашакевічам. Калі Андрэй вярнуўся дадому, маці сустрэла яго з трывогай у вачах.

— Што ты там нарабіў, сынок? Хоць бы нічога благога.

— Нічога благога, мама. Нахвастаў Халусту пугай, і ўсё.— І тут яго вочы сустрэліся з вачыма Алены. Яна глядзела на яго з такой варожасцю і адчужанасцю, што Андрэю стала не па сабе.— Ты чаго на мяне так глядзіш? — запытаў ён сястру.

— Таго...— злосна адказала яна і адвярнулася.

— Халусту шкадуеш?

— Не шкадую... Шкадую, што ты які быў, такі і астаўся... І татава смерць цябе не перайначыла.

— Што? — задыхаючыся ад гневу, запытаў Андрэй.— Што ты сказала?! Ты татаву памяць кранула!

Гадаўка! Ты не павінна кратаць яго памяць! Дык от татавымі словамі табе кажу.

— Дзеці! Хоць таты не чапайце...— пачала прасіць маці.

— Добра, мама, я памаўчу... Але злодзей Халуста не будзе біць маіх работнікаў, ганяць з палетка маю скаціну. Я сам на Івана слова дрэннага не сказаў і не дазволю рознай свалаце падымаць на яго руку.

— Не зліняў твой Іван,— уедліва прамовіла Алена.— Гэтакая цаца — мужычок з Чыжэвіч.

Андрэй пабялеў. Ён быў гатовы кінуцца на сястру і ўжо рвануўся да яе, але маці схапіла за рукі.

— Андрэй, сыночак!.. Апамятайся.

Андрэй адчуў, як цела яго абвяла. Ён сеў, пачаў закурваць, але рукі не слухалі яго.

— Добра, сястра!.. Я табе ўспомню гэта... Успомню!

— Не страш.

Яна сказала гэтыя словы такім самастойным і халодным голасам, нібы Андрэй для яе зусім не існуе.

Андрэй толькі цяпер па-сапраўднаму адчуў, якую праўду гаварыў Ян, што Алену трэба як мага хутчэй аддаваць замуж. Сувязь яе з Юзікам Халустам аказалася мацнейшай, чым ён думаў. Халустава сям'я ёй цяпер даражэйшая, чым свая. Ён не мог сабе гэтага ўявіць, бо не лічыў сястру зусім дурною. Што яна знайшла ў гэтым Громе, што ў ім ёсць, акрамя дзікага голасу? Нават прыгожым назваць нельга. Няўжо ж і сапраўды каханне сляпое!

Вось калі Андрэю патрэбен быў бацька. Аднаго яго слова хапіла б, каб паставіць усё на сваё месца. А сястра — што ж, гэта амаль адрэзаны кавалак. Аляксандра не прыехала на пахаванне бацькі, не з'явілася і на памінкі. У яе, вядома, свая сям'я, ёй можна даравацъ. А Алена! Яна жыве яшчэ ў бацькавай хаце, а брат, які замяніў бацьку, на чыёй шыі вісяць усе клопаты, усе турботы, стаў ёй ворагам. Як жа гэта зразумець, як з гэтым пагадзіцца! Нягледзячы на шалёную злосць, якая ахапіла яго, ён не лічыў сястру ворагам. Жадаў ёй дабра. Няўжо яна не разумее гэтага! Страшна...

Андрэй не мог аставацца ў хаце. Яму трэба было з кім-небудзь пагаварыць, параіцца, хоць выказаць усё тое, што ляжала, як цяжкі камень, на душы. І ён пайшоў да Яна Сташэвіча. Той на двары майстраваў ворчык і сустрэў Андрэя не вельмі ласкава.

— Значыць, так,— сказаў ён, сеўшы на калодачку.— Ты зноў малайцом, хвалю... Адлупцаваў Халусту.

— Адкуль ты ведаеш?

— Увесь засценак ужо ведае.

Андрэя гэта здзівіла.

— Няўжо сам Халуста пахваліўся?

— Дзеці бачылі.

— Не было там ніякіх дзяцей.

— Былі. Каля капліцы ў хованкі гулялі.

— Дзяцей ён сведкамі не паставіць.

— Вядома, не паставіць. Закону такога няма, ды і бацькі не дазволяць. Але што ты думаеш, скажы ты мне! Хіба не ведаеш, з кім звязаўся? Ён жа табе гэтага ніколі не даруе.

— Сціхні, Ян! Я не баюся Халусты! І даравацъ яму таксама не буду! Ведаеш, за што я яму даў?

— Ведаю. За коней. Дурань ты, от хто! Нарваўся б нейкі Нарбутовіч ці Мартыневіч — па судах бы нацягаўся. Не ведаеш яшчэ, што такое суд, і дай бог каб ніколі не ведаў.

— Не за коней я біў яго, гада, а за Івана. Ён Івана пугай адхвастаў, ну, і я яго пугай.

— За Івана? Гэтага я не ведаў. Тады я нічога табе не скажу. А добра ты яму наўскладаў?

— Пачухаецца тыдзень.

— Добра. Тут і суд яму нічога не паможа. Ён Івана, а ты яго, і справа з канцом. А знакі ў Івана ёсць?

— Пісяг праз увесь твар.

— Няхай падае ў суд, сабака. Трасцы яму.

Андрэй быў рады, што Ян змяніў гнеў на міласць, і пачаў расказваць яму пра Алену.

На захадзе сонца Андрэй сам пайшоў да коней. Захацеў пабыць на начлезе, паслухаць, што гавораць людзі пра яго і Халусту. Івану ён загадаў, каб раніцаю пасля снедання падмяніў яго.

На дварэ ўжо стаяла сапраўдная восень. Ночы былі ясныя і халодныя. Андрэй апрануў кажух, узяў з сабою бурку: калі, на выпадак, і прыйдзецца паспаць, то каб было цёпла.

На канюшынным палетку ўжо гарэла вогнішча. Канапасы пяклі бульбу, смажылі на ражнах сала. Па ўсім палетку пасвіліся коні. Але яны ўжо здаволіліся добрай пашай і лянiва грызлі канюшыну. Жарабяты

трымаліся каля матак, і калі каторае адставала, матка звала яго доўгім іржаннем. Малінаўскія коні былі прывучаны да маргоўскай небяспекі — ваўкоў.

Тамаш Сташэвіч ужо быў тут. Ён пра нешта гутарыў з Халуставым парабкам Якавам Шэметам.

Калі Андрэй падышоў да гурту, Тамаш падміргнуў яму.

— А дзевак сёння няма,— паведаміў ён.— Абы толькі я на начлезе, дык ні адной дзеўкі няма, а калі бацька, дык іх хоць адбаўляй.

— Так цябе дзеўкі баяцца? — пацікавіўся Якаў.

— Любяць, а не баяцца, браце Якаў.

— Здарава ж яны цябе любяць!

— Як сабака палку.

Андрэй не стаў слухаць Тамашовай балбатні і прысеў каля гурту. Весялосці ў яго сёння не было. І не так сапсаваў настрой Халуста, як Алена.

Як толькі прыйшоў Андрэй, нібы знарок, пачалася гаворка пра яго і Халусту. Малодшыя рагаталі, старэйшыя зрэдку ўстаўлялі словы. Але ніхто не спачуваў Халусту. Стары Талімон доўга маўчаў і нарэшце выказаў сваю думку:

— Яго трэба было не пугай адлупцаваць, а добрым бічом, гада такога. Коней з палетка ў Маргі гоніць, шэльма. І хлопца набіў. А пры чым хлопец?

Андрэй маўчаў.

— Ты ж хоць пахваліся, Андрэй, як там у вас было! — сказаў Тамаш, штурхануўшы Андрэя.

— Нічога я не ведаю. Я сёння не бачыў Халусты,— сказаў Андрэй і мімаволі зірнуў на Якава Шэмета. Той глядзеў на яго цікаўным і падбадзёрваючым позіркам.

— Як не бачыў! — не супакойваўся Тамаш.— Ты ж, кажуць, пугай яго ссек так, што ўвесь у сіняках і морда падпухла.

— Гэта не я. Можа ён са сваімі сынамі пабіўся. Забыў, як вязалі яго?

Тамаш зразумеў, што Андрэй не прызнаецца па нейкай важнай прычыне, і змоўк. Якаў Шэмет тым часам устаў і пайшоў да коней. Неўзабаве адтуль пачуўся яго голас:

— Гэй, Андрэй Сташэвіч! Ідзі перайма́й сваю кабылу!

Андрэй усхапіўся з месца і пабег на голас Шэмета.

— А дзе мая кабыла? — запытаў ён, убачыўшы Якава.

— У табуне твая кабыла, Андрэй. Нікуды яна не пабегла. Я цябе не таму зваў. Садзіся, пагаворым.

Селі на мяжы. Шэмет выняў партабак і пачаў закурваць. Закурыў і Андрэй.

— Асцерагайся Халусты, Андрэй,— сказаў Якаў без ніякай прадмовы.

— Не баюся я яго. У суд не падасць.

— Хіба справа толькі ў судзе? У суд ён не падасць, але знойдзе спосаб адпомсціць табе.

— Што ён мне зробіць?

— Тое, чаго ты ніколі не зробіш. З-за вугла секане, спаліць, пакалечыць або патруціць скаціну. Хіба ты Халусты не ведаеш? Гэта, браце, азіят.

Гэтыя словы дзерпанулі Андрэя за сэрца. Не будучы баязліўцам, ён жахнуўся. У тым, што Халуста ўсё гэта можа зрабіць, ён не сумняваўся, але дасюль такія думкі не прыходзілі яму ў галаву. Цяпер ён адчуў страшную бездапаможнасць. Аднак такое пачуццё хутка прайшло.

— Пабачым, хто каго,— сказаў ён.

— Добра, Андрэй, калі ты верыш у сваю сілу, але асцярожнасць ніколі не шкодзіць. Халуста злосны на цябе не толькі за тое, што ты яго сёння пугай налупцаваў, і нават не за тое, што ты са мной і Тамашом вязаў яго. Ён, вядома, і гэтага не забыў, але ёсць яшчэ нешта іншае, чаго я не ведаю. Можа ты лепш ведаеш... Мне здаецца, што ты стаіш на яго дарозе, замінаеш яму.

— Я на яго дарозе не стаю і не замінаю яму. Не ведаю, пра што ты гаворыш. Я проста ненавіджу гэтага злодзея, от і ўсё.

— Тады выбачай... А я падумаў не пра гэта...

Якаў не бачыў, як пасля гэтых слоў бліснулі Андрэевы вочы.

— Я ведаю, пра што ты падумаў... Ты падумаў пра маю сястру і пра Юзіка Грома.

— Так, Андрэй. Але не хачу, каб ты пра мяне дрэнна думаў. Я не пляткар...

— Я таксама не пляткар,— перапыніў яго Андрэй.— І калі на тое пайшло, то і за гэта я ненавіджу праклятае Халустава кодла, якое лезе ка мне ў радню.

## РАЗДЗЕЛ ДВАЦЦАЦЬ ТРЭЦІ

Гендарсан гойсаў на сваёй кабыле па вёсках, шукаў работніц капаць бульбу. Ні ў адным годзе не было так цяжка Гендарсану, як у гэтым. Бульбы ў маёнтку было пасаджана шмат, гэтага вымагала справа, бо хоць бровар у асноўным працаваў не на сваёй бульбе, але ж трэба было мець запас, пакуль не пачнуць прадаваць сяляне.

У пачатку работы Гендарсан абыходзіўся толькі парабчанкамі ды жонкамі сямейных парабкаў, якім трэба было зарабіць капейку на аршын крамніны ці хустку. Ён не вельмі спяшыў, пакуль у вёсках сяляне не выберуць сваю бульбу, бо спадзяваўся, што тады работніц у яго хопіць: усе жанчыны з вёсак хлынуць на заработкі ў маёнтак. І памыліўся. Калі аб'явіў леташнюю цану — грыўню за дзень, з ім ніхто не захацеў гаварыць. Упарты немец лічыў гэта хамскімі штучкамі. Прыблізна так было кожны год. Спачатку задзяруць хамаўкі насы, потым прыйдуць на работу, нідзе не дзенуцца. Але ён не ўлічыў, што гэты год быў не такі. Весткі пра забастоўкі ў гарадах, пра сялянскія хваляванні ў многіх губернях дайшлі да вёскі і ў маёнтак. Шэмет, Вярбіцкі і Квітун рабілі сваю справу. Памагаў ім і Марцін Крываблоцкі, хоць пра гэта і не здагадваўся.

Акрамя Чыжэвіч, Гендарсан кіраваў і фальваркам Бярозаўкай. Там таксама шмат было пасаджана бульбы. Гендарсан меркаваў як мага скарэй выбраць бульбу ў маёнтку, прытым пераважна сезоннымі работніцамі, а тады ўсю рабочую сілу перакінуць у Бярозаўку. Аднак з яго меркаванняў нічога не выйшла. За дзесяць капеек у дзень ніхто з жанчын не згаджаўся рабіць. А Гендарсан не мог больш чакаць. Яго спалохалі дажджы, пасля якіх маглі пачацца замаразкі. Бульба ж ішла не толькі ў бровар, ёю кармілі цэлую абору свіней, ішла яна і ў парабкоўскую кухню.

Аднак Гендарсанава галава варыла добра. Ён аб'ехаў навакольныя вёскі і аб'явіў, што будзе плаціць па залатоўцы на дзень. Пятнаццаць капеек не дзесяць: назаўтра ў маёнтак хлынулі работніцы. Гендарсан вымушаны быў паставіць усіх коней і аратых на разворванне бульбы.

Цяпер аканом не ведаў спакою. Ён па некалькі разоў у дзень аб'язджаў бульбяныя палі. Унурыўшыся, хадзіў па раллі і наском бота або ручкай бізуна корпаў зямлю. Барані бог, яму ўдавалася знайсці бульбіну, ды яшчэ вялікую! Ён роў на ўсё поле і лаяўся на чым свет стаіць:

— Я вам платшу грошш! Ві павінны выбірайт не так! — ён паказваў нагой на бульбіну.— Не так! За што я платшу вам грошш?

«Толькі што грош,— думалі работніцы.— Удавіўся б ты той бульбінай і тым грошам».

Праклятая бульба! Ужо хто, а парабчанкі ведалі, як капаць яе на панскім полі. Гэта не на сваёй ніве, што можна разагнуцца і адпачыць, сагрэць рукі. Выбіраць бульбу Гендарсан ганяў і тых работніц, што даглядалі скаціну. Ім трэба было раней уставаць і пазней лажыцца. На полудзень яны хадзілі ў маёнтак. Не самім, вядома, палуднаваць, а карміць скаціну.

Нялёгка ад цямна да цямна прахадзіць па полі сагнуўшыся. У вачах лятаюць жоўтыя кругі ды плямы, цяжкія капы́ адрываюць рукі. Але ж трэба зарабіць той панскі грош, каб купіць кавалак мыла ці аршын паркалю. Хто мог перабіцца, не вельмі квапіўся на панскія заработкі. Ішлі тыя, каго гнаў лёс, каму гэты грош быў неабходны, як кавалак хлеба.

Адной з першых прыйшла на работу ў маёнтак Агапа Аўсянік, Іванава маці. Штогод хадзіла яна на работу ў маёнтак. Не толькі капаць бульбу, але і сена грэбці, на жніва. Нявестка яе — жонка старэйшага сына Спірыдона — коса пaглядала на старую свякроўку, і калі не лічыла дармаедкай, то толькі таму, што тая мела свой заробак і да капейкі аддавала яго сыну. Адным словам, яна яшчэ ў хаце не толькі ела свой хлеб, але і памагала сыну гадаваць дзяцей.

Пракопава Надзя таксама ўзгарэлася ісці на работу ў маёнтак. Не заробкі яе заманьвалі — была іншая прычына, якая цягнула ў маёнтак. А бацька не пускаў:

— На чорта табе ісці туды! Ёсць яшчэ кавалак хлеба на стале, і адзежа не горшая, як у другіх. Гэтакія там грошы! Пятнаццаць капеек у дзень.

Бацька можа і не пусціў бы, але дзядзька Марцін зірнуў на пляменніцу і зразумеў, што ёй трэба ў маёнтку.

— Няхай сходзіць. Няхай паглядзіць, як там жы-

вуць людзі, якая там работа. Паглядзіць, паразумнее, можа і парабкаў за людзей пачне лічыць.

— Ты заўсёды патураеш ёй,— нездаволена сказаў Пракоп.— Быццам я, бацька, дабра ёй не жадаю.

— Татачка! Другія ж дзяўчаты ходзяць.

— Ідзі і не дуры мне больш галавы. Роўныя вы з дзядзькам.

Пяты дзень выбірала Надзя бульбу. Усё спадзявалася ўбачыць Паўла. Гэтакі гняўко, больш месяца і вачэй не паказаў. Як пасварыліся, дык і не прыйшоў ні разу. Надзя спачатку думала, што гэта можа і добра. Няхай лепш не прыходзіць. Можа ім трэба забыць адно аднаго. Тата і мама яго не любяць і ўсё роўна замуж не аддадуць. Толькі дзядзька Марцін вельмі ўпадабаў. Абы прыйшоў Паўлік, дык рассядуцца ўдвух ды як пачнуць гаворку, то пра ўсё забудуць. Няшчасны! Яму газета мілей за ўсё. Уваткнецца ў яе і не зірне... Надзя так думала, але спадзявалася, што ў нядзелю Паўлік зноў прыйдзе. А ён не прыйшоў ні ў першую нядзелю, ні ў другую... Зусім пакінуў хадзіць. Мабыць, пакрыўдзіўся ці заганарыўся... А што яна яму сказала? Здаецца, нічога такога. Сказала, што з парабкаў людзей няма. Цягаюцца па свеце з маёнтка ў маёнтак, крадуць — ведама, бяздомнікі. Як за парабка пайсці замуж! Нават хаты свае мець не будзеш. А ён зірнуў са здзіўленнем і адказаў:

— Вось як ты пра нас думаеш! Не ведаў я. Ну, ды бывай.

Пайшоў і не азірнуўся. А ёй хацелася плакаць ды бегчы за ім... Думала — забудзе, зноў у нядзелю прыйдзе. Няўжо ён не ведае, што яна сказала гэта са злосці на яго няўвагу, каб падражніць... Мабыць, не ведае... А можа другую ў маёнтку знайшоў? Хапае там усякіх. Няхай не ідзе, не вельмі патрэбны...

Але хіба ашукаеш сэрца, калі яно трапечацца і баліць. Сама на сябе злавацца пачала. «Павел, вярніся, забудзь мае дурныя словы. Хіба ты не ведаеш, як я цябе люблю, мой міленькі».

Думала Надзя ўбачыць Паўла або хоць каго-небудзь з яго сяброў: Міхаля Рожку ці яго жонку Любу, або хоць таго злоснага Платона Шабуню. Але на полі, акрамя аратых з маёнтка, нікога больш не было, а іх Надзя не ведала. Выбіральшчыцы ж усе былі з вёсак. Сустрэўся б ёй хто знаёмы, дык можа пры гаворцы

сказаў бы Паўліку, што Надзя бульбу выбірае. Няўжо ён не ўспомніў бы мінулага, не прыйшоў бы на тое месца, дзе сустракаліся раней. Пуста і холадна цяпер там, вербы атрасаюць апошняе лісце, сцюдзёны вецер вее ад ракі. Але каб прыйшоў туды Паўлік, вясна б вярнулася ў Надзіна сэрца.

На вялізным пляцы каля бровара таксама кіпела работа. Ішло буртаванне бульбы. Кіраваў гэтай работай Платон Шабуня. Фурманкі з бульбай адна за адной прыязджалі з поля. Работнікі ссыпалі бульбу ў бурты, накрывалі саломай і засыпалі зямлёй. Гендарсан паспяваў быць і тут.

— Каб не гніль, не парыль! — крычаў ён.— Бульба для бровара не павінна гніль! Яна можа быт з мароз, як камень, но не гніль!

Ён порхаўся ва ўжо засыпаных буртах, вымяраў пласт саломы і зямлі, але не знаходзіў фальшу.

— Маладзец, як ты? Платон Шабунь. Справу сваю знайт. Ты ест — як гэта? Спецыяліст! Ты ест спецыяліст.

Аднак недавер да парабкаў у яго такі вялікі, што ён не мог не правяраць любой работы. І трэба сказаць, што любую работу ён ведаў, акрамя машын. Гэтую сваю слабасць ён старанна хаваў, калі бываў у млыне або ў бровары. Гледзячы збоку, неспрактыкаванаму чалавеку магло здацца, што ён і тут вялікі майстра. Адным словам, аканом Гендарсан нікому не верыў і ніколі не быў у настроі. Ён вечна быў чым-небудзь нездаволены. Толькі дома пасля работы ён надзяваў хатні гарнітур і рабіўся дабрадушным абывателем, клапатлівым мужам і бацькам. У часе вячэры любіў прапусціць кілішак спірту, заесці смачнай кілбасой, паслухаць грамафон, успомніць родную Саксонію і непрыкметна пусціць слязу.

— Нічога! — гаварыў ён сваёй доўгай жонцы.— Я скора буду сам сабе пан! Яшчэ чатыры-пяць гадоў, і мы купім свой маёнтак, Інга!

— Не гавары так, Пауль. Не трэба выпрабоўваць лёс. Мы і так жывём шчасліва, няхай нам памагае бог.

— Не, мая дарагая Інгеборг! Бог — гэта адно, а свой лёс я раблю сам. Лёс! Што такое лёс? Для панскіх работнікаў я ёсць лёс! Я іх лёс! Што ёсць лёс для мяне? Мая ўласная галава, вось што ёсць мой лёс.

— Няхай табе паможа бог, Пауль.

— Ён мне паможа! — упэўнена прамовіў аканом.

Дачка Эльза глядзела на бацьку сваімі халоднымі вачамі, і тады здавалася, што яна яго глыбока зневажае. Эльза цяпер была дома. Яна ўжо скончыла гімназію, і цяпер яе трэба было аддаваць замуж. Але за каго? Тут, у глушы, не было такога чалавека. Ды за рускага Гендарсан і не аддаў бы. Ён думаў пра дачку і хваляваўся. Што з ёю рабіць, дзе яе дзяваць? А дачка нібы і не думала пра сябе. У яе былі не толькі халодныя вочы. У яе было халоднае сэрца. Яна не мела ніякай пяшчотнасці да бацькоў, нібы яны для яе чужыя людзі. Яна глядзела на іх звысаку, як на нікчэмных асоб, якім нічым не абавязана. Але Гендарсан любіў дачку, хоць і не разумеў яе. Ён нават не ведаў, чаго яна хоча. Яна ніколі не выказвала якіх-небудзь жаданняў, ніколі не звярталася да бацькі з якой-небудзь просьбай. Яна нават мала гаварыла, а калі і гаварыла, то словы яе былі такія ж халодныя, як і вочы. Яны не сагравалі бацькавага сэрца. І ўсё-такі Гендарсан любіў сваю дачку.

— Чуеш, Інга, мая ўласная галава — мой лёс! Я прымусіў рускіх хамавак працаваць, і яны працуюць! Яны робяць мой лёс!

— Тата казаў, што ён сам робіць свой лёс,— сказала Эльза.

— Так, мая дарагая дачка! Сам, але рукамі рускіх мужыкоў.

Эльза зірнула на бацьку так холадна, што ён аж здрыгануўся.

— Тата не ведае рускіх мужыкоў,— прамовіла яна і адвярнулася.

— Я? Я іх ведаю! Ты гаворыш, мая дачка, пра Паўля Квітуна. Ты казала, што ён разумны і пісьменны. Усё гэта глупства, мая дарагая дачка. Квітуноў у Расіі вельмі мала, і ўсе яны, па сутнасці, рабы.

— Аднак ты павялічыў плату за дзень выбіральшчыцам бульбы, бо ніхто не выйшаў на работу.

Гендарсан паглядзеў на дачку са здзіўленнем. Адкуль ёй гэта вядома? Але ён нічога не адказаў дачцэ. Не мог адказаць. Яна была вельмі далёка ад яго ў той вечар і не зразумела б, што абяцанне павялічыць плату — гэта толькі маленькая палітыка ў адносінах да рускіх хамавак, якія задзіраюць насы. Яны скора зразумеюць, што дарэмна іх задзіралі. Ах, дачка, дачка...

Яна нават не хоча зразумець, што ўсё, што робіць бацька, то робіць не для сябе, а для яе і для сына.

Сын Вільгельм не такі, як Эльза. Вілі практычны хлопец. Ён вучыцца ў камерцыйным вучылішчы ў Слуцку. Бацька хоча бачыць сына вялікім камерцыйным і прамысловым дзеячам. Ён дасць сыну адукацыю. У яго хопіць сродкаў на гэта.

Станіслаў Вярбіцкі і Павел Квітун канчалі рамонт механізмаў бровара. Лакамабіль быў ужо зношаны, старое маркі, адрамантаваць яго было нялёгка. Гендарсан і сюды ўтыкаў свой нос, хоць у машынах разбіраўся дрэнна. Ён кратаў вінцікі і заклёпкі, заглядаў у топку, мацаў цыліндры, пагладжваў машыну, як добрага каня, і гаварыў:

— Мы, немцы, любім машын. Мы ест, як гэта? Машынная нацыя, то ест такі народ.

У суботу раніцай ён уляцеў у машыннае аддзяленне, як вар'ят.

— Канчай рамонт! — закрычаў ён.— Сволатш! Праз тыдзен бульба ў Чыжэвічы ест гатова. Машына чаму не гатова?

— Праз тыдзень-другі пусцім у ход, пан аканом,— пажартаваў Павел Квітун, пазіраючы, як вар'яцее гэты немчык.

— Як ты казаль? Што есть тыдзен-другі! Не тыдзен-другі, а дзен-другі — і завод павінен пускайт першы дым гэты год. Першы дым! То будзе свята. Першы спірт усім па шклянка.

— Калі вы хочаце, каб бровар працаваў бесперапынна, дайце нам Якава Шэмета, які цяпер за парабка ў Халусты,— сказаў Вярбіцкі.

— Якава Шэмета? — закрычаў аканом.— Якаў Шэмет — швіння, сволатш, сукін сін!

— Справа ваша, пан аканом, але Якаў Шэмет добра ведае лакаматывы, а лакаматыў і лакамабіль вельмі падобныя.

Пачуўшы пра лакаматыў і лакамабіль, Гендарсан крыху супакоіўся і пачаў прыслухоўвацца, а Вярбіцкі гаварыў далей:

— Лакамабіль у бровары зусім зношаны і часта будзе псавацца. А хіба ў млыне новая машына? Такі самы лом, як і тут. Наняць добрага майстра, пане аканом, выгадней, чым купляць новыя машыны.

Гэта быў вельмі ўдалы ход, які прымусіў Гендарсана задумацца.

— Я павінен падумайт,— сказаў ён міралюбна.— Я потым скажу, праз дзень-другі...

— А лоўка ты прыдумаў пра Якава! — з захапленнем сказаў Павел, калі Гендарсан выйшаў.— Добра было б, калі б Якаў быў тут.

Вярбіцкі зірнуў на Паўла запытальна.

— Ты лепш раскажы пра сваё знаёмства з Гендарсанавай дачкой.

— Не глядзі так на мяне, Стась. Я табе раскажу ўсё.

Ён расказаў, як Эльза знарок сустракала яго некалькі разоў, як на яго глядзела, як нарэшце папрасіла завесці гэтага Паўля дадому з Міхалёвага вяселля, як потым затрымала на ганку, пачала распытваць, як завуць, дзе працуе, як жыве, ці пісьменны, што чытае, ці чуў пра такога рускага паэта — Пушкіна. І калі даведалася, што ён чытае кнігі, абяцала даць кнігі, запрашала да сябе. Яна гаварыла, што хоча быць настаўніцай, што любіць рускую прыроду і рускіх дзяцей.

— Цікава,— прамовіў Станіслаў.— І ты больш з ёю не сустракаўся?

— Не, Стась.

— Хм. Чаму ты мне раней пра гэта не расказаў?

— Проста з галавы выйшла. У той вечар расказаў бы, бо самому было цікава, а потым забыў, ды ўсё.

— Цікава, што за блазнота прыйшла ў галаву аканомавай дачцэ. Вырашыла пазнаёміцца з парабкам.

— Няма чаго рабіць дзяўчыне.

— Гэта адно. Ты не глядзі на яе халодныя вочы. Можа ў яе душы ўсё кіпіць. Гэтыя адукаваныя паненкі бываюць вельмі разбэшчаныя, заўваж гэта.

— Я іх не ведаю.

— Цікава, чаму яна табе сказала, што хоча быць настаўніцай, і ці праўда гэта. Адным словам, Павел, пагутарым мы з Якавым, і можа табе прыйдзецца схадзіць да яе, папрасіць кніг.

— Не вельмі мне хочацца сустракацца з ёю.

Амаль да абеду працавалі моўчкі, і кожны думаў пра сваё. Потым у бровар зайшоў Міхаль Рожка, запэцканы ў гразь, з бруднымі рукамі.

— Здаровы, хлопцы! З цябе, Павел, паўкварты за добрыя весткі.

— Якія?
— Сёння даслалі мяне бульбу вазіць ад падзёншчыц. Паехаў я на поле — і каго я бачу? Бачу я, браце Павел, Пракопаву Надзечку. Павіталіся і пагаварылі. Яна запытала, як мы жывём, як маецца мая Люба. Нам, сам ведаеш, няма чым хваліцца, але я сказаў, што добра. Сказаў, што ты ў мяне будзеш кумам, а за куму папрасіў яе. Ах, як жа яна, браце Павел, узрадавалася! Не таму, што я за куму яе бяру, але таму, што і ты кумам будзеш! Скажы, браце Стась, ці не варта такая навіна цэлай кварты?
— Чуеш, Павел?
— Вядома варта, Міхаль,— адказаў Вярбіцкі.
— Чую. Будзе табе кварта к хрэсьбінам.
— Ну, дык я яшчэ не кончыў. Сёння яна прыйдзе грошы атрымліваць, так што не спі ў шапку. Толькі скажыце мне, куды гэта паехаў пан аканом?
Станіслаў кінуў на варштат абцугі і крута павярнуўся да Міхаля.
— Ты кажаш, што ён некуды паехаў? — запытаў ён глухім голасам.
— Я сам сустрэў. Завярнуў пад Слуцак на сваёй кабылцы.
— Я так і ведаў,— прамовіў Станіслаў.— Сёння ён не будзе разлічваць работніц. Ён хоча ашукаць выбіральшчыц. Разлічыць іх праз тыдзень, калі будзе выбрана ўся бульба, і заплаціць не па пятнаццаць, а па дзесяць капеек.
Павел і Міхаль пазіралі на Станіслава — адзін з захапленнем, другі з недаверам.
— Не можа ён скруціць! — прамовіў Міхаль.— Паабяцаў.
— Табе ён абяцаў асобны пакой з Любай, а жывеш і цяпер у бараку.
— Што мы можам зрабіць? — запытаў Павел.
— Я хацеў бы, каб ты мне адказаў на гэтае пытанне... У нас мала часу, вось у чым бяда. Мы не паспеем загітаваць усіх, каб у панядзелак не выходзілі на работу. Ды і паслухаюць нас не ўсе. Многія паверашчь Гендарсану... Нам трэба дабіцца, каб выбіральшчыцы патрабавалі, як дамоўлена, па пятнаццаць капеек за дзень. А на гэта ў нас часу хопіць.
— З чаго мы пачнём? — запытаў Павел.
— Ты пагаворыш з Надзяй. Сёння ў кантору збя-

рэцца нямала выбіральшчыц. Гендарсана, вядома, не будзе. Трэба растлумачыць жанчынам, што аканом іх хоча ашукаць. Скажы пра гэта Надзі, няхай яна ўвядзе ў вушы ўсім падзёншчыцам.

— Мая Люба выбірае бульбу з Надзінай цёткай Агапай. Вострая жанчына! — сказаў Міхаль.

— Ну дык і пагавары са сваёй Любай.

— Абавязкова!

— А я скажу пару слоў сваёй Ядвізе.

— Хіба яна таксама выбірае бульбу? — запытаў Павел.

— З першага дня. Калі Гендарсан паабяцаў выбіральшчыцам пятнаццаць капеек у дзень, то я адразу зразумеў, што тут, акрамя ашуканства, нічога няма, і даслаў на работу Ядвігу. Цяпер мне зручней умяшацца ў гэтую справу, я, як бачыце, буду абараняць жончыны, значыць, і свае інтарэсы.

— Разумна,— прамовіў Павел.

— Неабходна,— дадаў Станіслаў.— Акрамя гэтага, вечарам трэба ўсім нам быць ля канторы і пагутарыць з некаторымі жанчынамі. Пераважна з вясковымі, бо яны яшчэ не ведаюць, які шэльма Гендарсан. Нашы, з маёнтка, ужо навучаныя. Гаварыць трэба асцярожна, каб гаворка гэта не нагадвала сходу. Я мяркую, што ўсё зразумела. Вечарам абавязкова трэба быць каля канторы.

— Добра. Мне трэба ехаць, хлопцы,— сказаў Міхаль.— Я ж Надзею зноў убачу, Павел. Што мне ёй сказаць?

— Скажы, каб прыйшла ў кантору. Можаш сказаць, што я сумую без яе...

— Толькі пакуль што не расказвай пра нашу гаворку. Нам трэба, каб жанкі сёння сабраліся тут, у маёнтку. Я ўпэўнены, што Гендарсан рыхтуе ім вялікае паскудства. Трэба іх падрыхтаваць,— папярэдзіў Станіслаў.

— Зразумела,— адказаў Міхаль і выйшаў.

## РАЗДЗЕЛ ДВАЦЦАЦЬ ЧАЦВЁРТЫ

Пара было падымаць лён, што вылежваўся на пясках каля Маргоў. Пясок гэты, парослы сіўцом, як скула быў для малінаўцаў. Плацілі за яго падаткі як за

ворную зямлю, а ён і на пашу быў непрыгодны. Толькі авечкі і знаходзілі там сабе корм.

Калісьці малінаўскія дзяды і прадзеды аралі гэты пясок. Яшчэ і цяпер былі відны нівы, разоры і межы. Упіраліся гэтыя нівы аж у раку Случ, каля вёсачкі Стамагілы. Далёка ад засценка былі гэтыя палі, гною не набярэшся, ды і вазіць яго блізкі свет, два вазы ў дзень, больш не завязеш. Так і запуставалі пяскі. Якія былі бліжэй да Маргоў, нават пачалі зарастаць лесам: ядлоўцам ды крывымі хвойкамі.

У гэтым годзе ў Андрэя вырас вельмі добры лён, доўгі і валакністы. Алена радавалася: напрадзе за зіму ды натчэ вясной ручнікоў, абрусаў ды кап. Маці паможа. Ды што там казаць. Маці напрадзе больш за Алену. Трэба ж дачушцы пасаг рыхтаваць.

Падымаць лён выехалі ўсе, толькі маці пакінулі ў хаце ўпраўляцца ды свіней пасвіць. Узялі на перавяслы кулявой саломы, пукі звязваць. Дзень удаўся ясны, раніцай іней высыпаўся, а калі сонца падня́лося, зусім цёпла стала.

Калі Сташэвічы прыехалі на пясок, там ужо была ўся Малінаўка. Кожны распрог коней на сваёй палосе. Хоць і не аралі пяску, але дзе чыя ніва, ведалі, кожны на сваёй ніве і лён разаслаў. Калёс і коней сабралася — як на конскім рынку ў Слуцку.

Андрэй і Іван граблямі скручвалі радкі вылежалага льну, рабілі з іх вялізныя пукі, а Алена круціла доўгія перавяслы і звязвала тыя пукі.

Цікаўныя суседкі адна за адной падбягалі зірнуць на Сташэвічаў лён. Дзівіліся, зайздросцілі, ківалі галовамі. Яны і раней бачылі гэты лён, але такая ўжо жаночая натура.

— Олялечкі! Ды ён, як паляжаў, яшчэ даўжэйшы стаў!

— От лён, дык лён!

— А я казала свайму: не сей у панядзелак. Пільнуйся старога Юстыня! Не паслухаў. Ну і вырас лянок... Толькі адна кудзеля і будзе. Адкуль той кужаль!

— Стары Юстынь ведаў!

— Ого! Ён ведаў.

Алене было прыемна, што жанкі хваляць лён, а от што пра тату гавораць — не падабалася. Ведаў, ведаў... Яна і раней чула, як гаварылі пра бацьку, што ён нешта ведае. Вядзьмар... Дурныя бабы.

— А ў Сымона Ашакевіча — от лянок!

— Бо ён на навіне сеяў. На Наддатках каля Маргоў.

— А што тая Сымоніха з ільном зробіць! Калі яна яго папрадзе? Дзеці хворыя.

— Папрадзе, жаначкі, папрадзе.

Прыйшла і жонка Лявона Нарбутовіча, Міхаліна, зірнуць на Сташэвічаў лён. У яе ў гэтым годзе такі няўдалы і маленькі парос, што ў жменю ўзяць нечага. Каліўцы кароценькія, тоўсценькія, не раўнуючы, як мышыныя хвасты.

— Ай і добры ж у цябе лянок, Аленачка! — ліслі-ва прамовіла яна.

Алена аж усміхнулася ад прыемнасці.

— Будзе што прасці ды ткаць... Толькі ён, мабыць, нямоцны. Такі доўгі ды тонкі моцны не бывае.

Алена коса зірнула на яе. Міхаліна тым часам нагнулася, узяла жменьку льну, пацерла ў руках і паспрабавала рваць. Дзе там! Не рвецца!

— Ой, ды і моцны ж!.. Тата сеяў. Ваш тата ведаў і месца, і пару, калі сеяць лён.— Яна зірнула на Андрэя, які быў недалёка, нібы хацела сказаць, што калі будзе сеяць Андрэй, то такога льну Алене больш не ўбачыць.— Тата ваш ведаў...

Гэта ўжо зусім пачало не падабацца Алене. «І гэтая пляткарка: ведаў, ведаў». Не хапала яшчэ, каб і тэтая балбатуха плёткі разносіла, што пакойны Юстынь быў вядзьмар! Хіба гэта ў Малінаўцы доўга! Алена насцярожылася.

— Мо б ты, Аленачка, памяняла са мной пукоў з пяць? Я табе свайго больш дала б! На мяхі ды дзяругі і вам жа трэба ткаць.

— Не,— адрэзала Алена.— На мяхі ды на дзяругі трэба яшчэ мацнейшы лён, чым на палотны. Ды і Андрэй не захоча. Ён гаспадар.

Алена ўжо была б рада, каб гэтая пранозаватая баба адкаснулася ад яе, але хіба так лёгка збавіцца ад такой бессаромнай нахабніцы.

— Ай, што там Андрэй! — Міхаліна выставіла наперад свой вялікі жывот — хадзіла цяжарнай у другой палове — і проста наступала на Алену.— Што ён ведае, твой Андрэй! А мы цёртым памяняемся, Андрэй і ведаць не будзе. Ад мужчыны бабе не ўкрасці, дык і на свеце не жыць.

Наколькі вострая была Міхаліна, але, загаварыў-

шыся, не ўбачыла, што падышоў Андрэй і ўсё, пра што яна гаварыла, чуў.

— Ідзі ты, жанчына, да свайго Лявона, а то ён вунь да Нічыпарыхі падбіраецца,— сказаў Андрэй.

Жонка Нічыпара Мартыневіча, Кацярына, была такая няўдалая, лапэхаватая жанчына, такая няўклюда, што нават сарочка ў яе вісела на цэлую пядзю ніжэй спадніцы. Калі малінавец хацеў падкусіць сваю жонку, то варта было яму назваць яе Нічыпарыхай. Хапала!

— А што, табе зайздросна? — агрызнулася Міхаліна.— Сам да яе падабрацца хочаш?

— Зайздросна,— адказаў Андрэй.— Яна ў сто разоў лепшая за цябе!

— Во як! — успыхнула Міхаліна.

— У яе хоць язык чалавечы, а ў цябе — як у Васілёвай Паталашкі.

Паталашка была сучка, якую калісьці трымаў Васіль Барысевіч. Самога Васіля мала хто з малодшых і памятаў. Ведалі яго праз сучку Паталашку, якая брахала і на сваіх і на чужых.

— Дык я Паталашка? — закрычала Міхаліна.

— Дачка яе. Паталашка здохла даўно, а цябе на сваё месца пакінула.

Божа мой! Што зрабілася з Міхалінай! Яна пазелянела ад злосці і гатова была кінуцца на Андрэя.

— А ты! Накольнік! Думаеш, ніхто не бачыў, як ты Халусту біў? А-а-а! Я бачыла! Прысягну! Сведкай стану.

— Ідзі, жанчына, адсюль. Не замінай.

— Я табе вочы выдзеру! Думаеш, і мяне кранеш!

Малінаўцы, якія дасюль толькі прыслухоўваліся да «суседскай размовы» між Міхалінай і Андрэем, цяпер перасталі падымаць лён. Усім цікава было і паслухаць і пабачыць, чым гэта кончыцца.

— Думаеш, і мяне кранеш! — крычала Міхаліна і наступала на Андрэя.

— Адыдзі, Паталашка, бо як перацягну пугай, дык да пары апчэнішся!

Малінаўцы пакаціліся ад рогату.

Лявон наляцеў на Андрэя як коршак.

— Ты! Туды т-тваю маць!.. Ты маю жонку!..

— Забяры сваю жонку і ідзі адсюль, бо цябе то я не пасаромеюся! Я вас не зваў на сваю ніву і да цябе не прыйшоў. Убірайся!

Ян Сташэвіч зразумеў, што пара ўмяшацца яму.

— Нарбутовіч! Аюц вон адсюль, свіння! Ідзі! Паскудніца твая жонка, а ты дурань.

— Дык я ж, пане Ян... Ён маю жонку, пане Ян...

Старога Яна пабойваліся і паважалі.

— Каб ты быў чалавек, то сваёй жонцы па мордзе даў бы. Яна сястру з братам зводзіць. Красці вучыць з гаспадаркі. Гнюсныя вы людзі, Нарбутовічы. Цьфу.

Нарбутовіч пад агульны смех пайшоў з Міхалінай да свайго льну.

— Ты, мой брат, нейкі прыгодлівы,— сказаў Ян Андрэю.— От жа да мяне Нарбутовічыха не прыйшла, а каб і прыйшла, то без сваркі абышлося б. І Халуста маіх коней з палетка не прагнаў бы, і парабка майго не крануў бы. А ты ўдаўся нейкі... От ты зноў ворага нажыў.

— Нарбутовіч і Мартыневіч ніколі не былі маімі сябрамі. Мне і тата казаў, якія гэта людзі.

— Яны і мне не сябры, але і ворагамі я іх дасюль не лічыў. Што падкусіць яны могуць спадцішка, то не толькі мяне, але і кожнага. Нарбутовіч Мартыневіча ўкусіць, а Мартыневіч Нарбутовіча. Такія гэта людзі.

Падвечар пясок апусцеў. Малінаўцы цяпер сабралі ўсё, што было ў полі. Можна было спакойна чакаць зімы.

Андрэй з Іванам склалі лён у гумне на таку. Іншага месца не было. Трэба было скарэй сцерці гэты лён, каб аслабаніць ток. Наперадзе чакала работа цяжкая і доўгая: малацьба. Абабіць цапамі ўсю збажыну нялёгка. А тады вывезці з Волі сена. Нарыхтаваць і навазіць дроў. У Крушнікі да Хмялеўскага прыйдзецца ездзіць. Бо калі пачнеш свае Маргі ў печы смаліць, дык праз два-тры гады замест лесу пустое месца астанецца.

Таму малінаўцы і бераглі Маргі. Улетку толькі заязджалі туды, каб ламачча падабраць, лішнюю галіну на хвоі адсекчы.

Настрой у Андрэя быў зусім няўдалы. Успамін пра Халусту і Нарбутовіча рэзаў яму сэрца. У абодвух выпадках ён адчуваў, што праўда на яго баку, але гэта не суцяшала. Як асмелілася гэтая Паталашка Міхаліна вымагаць у Алены лён? Можа Алена скардзілася Нарбутовічам на яго? Гнеў ахапіў Андрэя. Ці адважылася б гэтая Паталашка прыйсці да Алены з такім вымаганнем, калі б жывы быў бацька? Ніколі! Значыць,

ёсць у яго — Андрэевых — паводзінах нешта такое, што адрознівае яго ад бацькі. А што? Чаму ён не ўмее сябе паставіць так, як ставіў бацька, і ў хаце са сваімі, і ў засценку з чужымі людзьмі? Значыць, ён не сапраўдны гаспадар. Ёсць у ім нешта няшчырае, несамастойнае, тое, чаго, напрыклад, няма ў Яна. Ян кажа: прыгодлівы. Хіба Андрэй шукае прыгод, хіба ён без іх не можа жыць? Глупства нейкае, ды і толькі... Так думаў Андрэй, але ён не ведаў таго, што справа тут зусім не ў яго прыгодлівасці, а ў тым, што ён пачаў сустракацца з Гарасімам Жукоўскім. За іх адносінамі сачылі і Нарбутовіч з Мартыневічам і Яўхім Халуста. Нарбутовіч і Мартыневіч баяліся, што Гарасім аддасць яму ў арэнду сваю паўвалоку, адабраўшы яе ад іх. Яўхім Халуста баяўся горшага. Ён быў упэўнены, што Андрэй толькі таму і пасябраваў з Гарасімам, што хоча купіць у яго зямлю. А Халуста сам думаў пра гэта. Ён мог зрабіць гэта ў любы момант, бо меў грошы. Андрэй хоць і не меў грошай, але мог іх пазычыць. У яго на Бабруйшчыне багатая сястра, ды і зямельны банк яму не адмовіць. У гэтым Халуста быў упэўнены.

Аднак і Нарбутовіч з Мартыневічам і Яўхім Халуста не ведалі, як далёка быў Андрэй ад думкі браць у арэнду зямлю ў Жукоўскага або купляць яе. Гэта прыйшло да яго значна пазней.

Пасля вячэры Андрэй сказаў Івану:

— Можа пяройдзем спаць у хату? Халаднавата ўжо ў гумне.

— Не, Андрэй. Да маразоў, да самай зімы будзем спаць у гумне. Я не мерзну. Хіба ты?

— Я таксама не мерзну. Не люблю спаць у хаце. Я пра цябе думаў.

— Пра мяне! У хаце мы толькі замінаць будзем цётцы і Алене.

— І то праўда.

У Андрэя зусім наладзіўся настрой. Ён зірнуў на Івана, які ўжо сядзеў за сталом з кніжкай, і папрасіў:

— Дай мне свайго Гогаля.

Андрэй пакрысе пачаў прывыкаць да чытання. Гэтаму спрыяла жалоба, а вечары сталі доўгія, чым жа заняцца. Ён прачытаў ужо кніжкі Пушкіна, Някрасава, Лермантава, вядома, тыя, якія былі ў Івана, а цяпер узяўся за «Вечары на хутары каля Дзіканькі».

Маці латала кажух. Алена шыла кофту, мужчыны

чыталі. У хаце было ціха. Аднак сёння Андрэю не чыталася. Атруціла яму сёння вечар Міхаліна. Ён загарнуў кнігу і сказаў:

— Трэба будзе да Герасіма Жукоўскага калі-небудзь зайсці.

У Івана загарэліся вочы.

— У Гарасіма, кажуць, кніг многа.

— От мне і хочацца зірнуць на яго кнігі. Няўжо ж у яго толькі папоўскія!

— Іван! — раптам азвалася Алена.— А цябе стары Халуста моцна набіў?

Іван пачырванеў і апусціў вочы. Гэтая шляхцянка канчаткова надумала не даваць яму жыцця.

— А чаму ты яму назад не даў?

— Ён жа старэйшы за мяне. Як старэйшага біць.

— А Андрэй жа даў яму. Хіба Андрэй з ім аднагодак?

— Андрэй старэйшы за мяне, і ён... не парабак.

Андрэй уважліва паглядзеў на сястру.

— Можа б ты патрымала язык за зубамі?

— Табе не падабаецца, калі я гавару?

— Мне не падабаецца тое, пра што ты гаворыш...

Андрэй гукнуў Івана, і абодва пайшлі ў гумно.

Спаць у хаце асталася адна старая Аксеня, бо Алена спала ў сенях. Там, каля невялікага акенца, стаяў драўляны ложак. Алена напрацавалася за дзень, але заснуць сёння не магла. Многае ператрывожыла і перахвалявала яе за апошнія дні: і тое, што Андрэй хадзіў мірыць Халусту з Мікалаем, і тое, што ён набіў старога Халусту, і сённяшні выпадак на полі, і гаворка пасля вячэры. Яна злавалася на ўсіх і не ведала, на каго больш: ці на Андрэя, ці на Халусту, ці на Юзіка, хоць на яго, прынамсі, не было за што злавацца. Хіба толькі за тое, што ў яго такая нялюдская, дзікунская сям'я, а ён, такі вялікі і дужы, старэйшы сын, і не можа прывесці яе да парадку.

Алена нават не ведала, ці любіць Юзіка. Ён спадабаўся ёй за сілу, за голас. З выгляду ён быў такі мужчына, якога яна прывыкла бачыць у сваім уяўленні: дужы, магутны, грубаваты, на яго можна, здаецца, абаперціся. Яе мала хвалявала тое, што ён не вельмі разумны: лягчэй такім кіраваць. Але каб ён быў больш рашучы ў адносінах да свае сям'і! Алена не хацела прыкмячаць у Юзіку тое, што ў яго так і выпірала і

было відно кожнаму. Перш за ўсё ён быў не толькі грубаваты, але зусім грубы, вельмі неразумны, бязвольны, баязлівы, крыху падлюкаваты, крыху зладзеяваты. У ім былі ўсе тыя якасці, якія меў яго бацька, але калі ў бацькі якасці гэтыя былі бязмерна вялікія, то ў Юзіка яны былі вельмі дробныя. Ён меў толькі адну станоўчую якасць: верна і шчыра любіў Алену. І Алена не магла так лёгка адмовіцца ад Юзіка, як захацелася Андрэю. Праўдзівей кажучы, на злосць брату, яна не хацела ад яго адмаўляцца. Самалюбная і ганарлівая, яна не хацела слухацца брата хоць бы таму, што ён знарок хоча прынізіць Халустаў у яе вачах...

Шмат яшчэ пра што думала Алена. Пра сваю сірочую долю, пра тое, што хутка прыйдзецца пакінуць бацькаву хату і родную матку, ісці ў чужую сям'ю. Яе ахопліваў жах, калі ўяўляла сабе, што назаве старога Халусту татам, а тую страшную кульгавую жанчыну, якая прыходзіла зваць Андрэя, мамай. Ці такі быў яе тата! Ці такая мама, добранькая, клапатлівая... Але ж хоць бы жыць у сваім засценку, сярод сваіх людзей, а не на чужыне. Тут хоць да мамкі прыбяжыш, калі захочаш... Ды і брат, які ён ні ёсць, а пашкадуе скарэй, чым чужы... Хацела ўжо заплакаць ад гора, але пачула на вуліцы свіст. «Юзік,— падумала яна.— От не выйду, ды ўсё».

Свіст тым часам паўтарыўся раз і другі. Алена накрылася з галавою, каб не чуць таго свісту. Але Юзік настойліва клікаў яе. Свістаць ён перастаў, улез у агародчык, прайшоў каля сцяны і пастукаў у акно. А каб ён спрахнуў! Яшчэ маці разбудзіць, бо чуйна спіць старая. А мо Андрэй з Іванам сапраўды да Гарасіма пайшлі. Нарвуцца, ідучы назад, на гэтага дурня, што па чужых гародах лазіць, чужых хат пільнуе, дык будзе бяды. Андрэй яму не даруе.

Алена ціхенька ўстала, апранулася, ціхенька адчыніла дзверы і выйшла на двор. Ноч была хоць не месячная, але зорная, Алена адразу ўбачыла Юзіка. Ён, як злодзей, выглядаў з-за вугла. Яна кіўнула яму і пайшла да брамкі. На вуліцы ўсё-такі спакайней, чым каля сваёй хаты. Прайшлі на агароды, там уздоўж платоў раслі вішні і слівы, хоць ужо і бязлістыя, але ўсё ж каля іх і ўтульней, і зацішней, і непрыкметней.

— Ну, чаго ты прыйшоў сёння? — запытала Але-

на.— Хіба я табе не казала, каб не хадзіў? Бачыць цябе не хачу.

— Ну, Аленачка...

— У мяне жалоба па тату. Ды і без таго не хачу я, каб ты хадзіў.

— Ну, Аленачка... А я па свайму бацьку жалобы не спраўляў бы.

— Бо, ведама, усе вы, Халусты, такія... Сіберныя. Як скаціна. Толькі і ведаеце біцца ды нажамі рэзацца.

— Ну, Аленачка! А Андрэй хіба лепшы! Вунь як майго бацьку адлупцаваў!

— Варт! За што ён Івана, такога харошанькага хлопчыка, пабіў?

— Харошанькага! — Юзік надзьмуўся.

— Харашэйшага за цябе.

— Дык таму ты і не выходзіш... У сваёй хаце маеш,— панура буркнуў Юзік.

Лясь! — і Юзік хапіўся за шчаку.

— Ах ты, свіння! Ты яшчэ такія словы будзеш мне гаварыць!

Алена акруцілася і зрабіла выгляд, што хоча ісці.

— Ну, Аленачка... Пачакай! Гэта я са злосці... Я гэтага мужыка...

— Са злосці! Паспрабуй толькі крануць Івана! Андрэй табе рэбры паломіць.

— Баюся я твайго Андрэя! Каб ён не твой брат, то я даўно яму даў бы!

Гэта крыху ўсцешыла Алену.

— Баязлівец ты! Ды і сілы ў цябе не хопіць. Наш Андрэй самы дужэйшы ў засценку.

— Я самы дужэйшы! — распаліўся Юзік.

— Не крычы, дурненькі, а то нехта пачуе.

— Нікога я не баюся! Па карку дам, калі хто паткнецца.

— А калі Андрэя ўбачыш, дык пабяжыш не азіраючыся.

Алене хацелася закрануць Юзікава самалюбства, раздражніць яго; ёй хацелася ўзняць яго смеласць, рашучасць, узбудзіць у ім злосць на Андрэя, звесці іх двух, няхай бы яны пабіліся. Яна жадала, каб у гэтай бойцы перамог Юзік, няхай бы Андрэй адчуў сябе прыніжана, а то ж ён Юзіка і ў грош не ставіць.

— Нікуды я не пабягу, а сагну яго ў дугу!-Абы ты, Аленачка, не злавалася.

— От дурны! Чаго я буду злавацца! Каб Андрэй трохі баяўся цябе, дык не быў бы такі ўпарты.

— Добра! Я яму пакажу, дзе ракі зімуюць! Аленачка... А ты сапраўды гэтага Івана... Ну, гэты Іван да цябе не лезе?..

— Ды ён жа дзіця яшчэ!

— Добрае дзіця! З палескага злодзея... Ну, дай я цябе пацалую, Аленачка...

— Няможна, Юзік. Жалоба.

— Жалоба гэтая няшчасная... І так цэлы год?

— Цэлы год, Юзічак.

— Я не вытрываю, Аленачка... Ну, далібог...— ледзь выдахнуў Гром, прыцягваючы да сябе Алену.— Пацалую адзін раз, не будзе граху...

## РАЗДЗЕЛ ДВАЦЦАЦЬ ПЯТЫ

Выйшла так, як і казаў Станіслаў Вярбіцкі. Вечарам Гендарсан не прыйшоў у кантору. Дарэмна чакалі яго выбіральшчыцы, сабраўшыся натоўпам каля ганка. Вечар быў на дзіва цёплы ў такую познюю пару. Зацішна было ў засені магутных дубоў, што раслі ля канторы. Жанчыны разважалі аб сім-тым, з надзеяй паглядаючы на аканомаў флігель. На дварэ сцямнела. Сярпок месяца заблішчаў на небе, весела заміргалі зоркі. Вецер шавяліў пажоўклае лісце на дубах, і яно ледзь чутна шалясцела.

Вечар перад святочным днём заўсёды здаецца прыгажэйшым за звычайныя вечары. У ім адчуваецца нешта ўрачыстае. Хоць бы таму, што заўтрашні дзень прынясе не цяжкую працу, а заслужаны адпачынак пасля цэлага тыдня работы і турбот.

Маладыя дзяўчаты з нецярплівасцю чакалі аканома. Атрымаць свае грошы, патрымаць іх ва ўласных руках, не выпрошваць у бацькоў! А потым купіць за іх крамніны на кофту ці на сукенку або новую хустку, самой, на свой густ, а не на бацькоўскі — як гэта важна ў жыцці дзяўчыны! Хлопцам лепш! У іх часцей бывае ўласная капейка, бо іх значэнне ў гаспадарцы большае і трывалейшае, на іх глядзяць як на гаспадароў, а дочкі — гэта толькі госці. Кожная дачка, калі ідзе замуж, то заўсёды гаспадарку растрыбушыць, пацягне не цялушку, дык авечку. Пасаг... А хіба хлопцу

трэба столькі, колькі дзяўчыне? Яму не патрэбны ні грабянцы, ні шпількі, ні брошкі. Ён адну шапку носіць некалькі гадоў.

Так думала Пракопава Надзя, з трывогай паглядаючы на маёнтак, які цяпер нагадваў невялікі гарадок, што рыхтуецца да адпачынку. Ці прыйдзе Павел? Міхаль Рожка сказаў ёй, што бачыў яго. Ох, гэты Міхаль... Ён, ад'язджаючы з поля, неяк па-свойму хітравата, але шчыра падміргнуў ёй, нібы хацеў сказаць: «Абавязкова прыйдзе!» Але хіба можна верыць ім — парабкам...

Павел адразу ўбачыў Надзю і на некаторы час забыў пра ўсё на свеце. Надзя сустрэла яго стрымана, але радасна, і яны спачатку не знаходзілі слоў, каб выказаць усё, што перажыта і перадумана за час расстання.

Не згаворваючыся, яны адышлі ўбок ад гурту і спыніліся каля густых кустоў акацыі.

— Чаму ты, Паўлік... Чаму ты не прыходзіў?..— з дакорам запытала Надзя, заглядаючы яму ў вочы.

Павел зірнуў на дзяўчыну. Не, ён не мог сказаць ёй праўды, хоць яна і жорстка пакрыўдзіла яго. У Надзіных вачах свяцілася такое каханне, такая шчырасць і самаадданасць, што ўся крыўда, усё благое вылецела з Паўлавага сэрца.

— Пакрыўдзіўся, мабыць, Паўлік? — дапытвалася Надзя.

Ці мог ён прызнацца ёй, што не толькі пакрыўдзіўся, але і надумаў быў не сустракацца больш, забыць яе, калі іх каханне выйшла такое няроўнае, няўдалае.

— Не, Надзечка. Мне проста часу не было.

— Часу не было... Хіба ты цяпер і па нядзелях працуеш?..

— Не, вядома... Але ж у мяне і свой клопат ёсць. Вопратку залатаць, бялізну памыць. Я ж адзінокі, Надзя...

— Бялізну памыць...— горка прамовіла Надзя.— Бялізну памыць...— паўтарыла яна.— А можа, Паўлік, у цябе другая ёсць?..

— Што ты, Надзя?

Размову іх перапыніў Кірыла Верабей — вартаўнік стайні, які ішоў у сваю вартоўню. З ім быў і Станіслаў Вярбіцкі.

— Чаго вы сабраліся тут, бабы? — запытаў Кірыла, спыніўшыся.

— Аконама чакаем,— адказала за ўсіх Агапа Аўсянік.— Каб разлічыцца сёння за тыдзень.

Верабей засмяяўся.

— Разлічыцца! А хто гэта будзе вас разлічваць? Аконам яшчэ да паўдня да доктара ў Слуцк паехаў і сказаў, што сёння не вернецца. А табе, Агапа, ужо на печы грэцца трэба, а не бульбу выбіраць.

— Гэта ты на стайні вылежваешся, халуй панскі! — закрычала Агапа.— Злодзеі вы тут усе, разам са сваім аконамам!

— Што ты, Агапа! Які я злодзей або халуй!

Голас яго патануў у шуме і гомане жанчын.

— Чаму ж ён не сказаў, што сёння не будзе разлічваць!

— Ашуканец!

— А мы стаім тут як дурныя...

— Дома дзеці чакаюць!

— Скаціна галодная!

Толькі цяпер успомніў Павел, што ён павінен быў пагутарыць з Надзяй. Не аб тым, пра што пачаў. Ён бездапаможна азірнуўся і з радасцю ўбачыў, што Станіслаў і тут усё прадугледзеў: яго жонка Ядвіга нешта гаварыла Агапе Аўсянік.

— Дык ён знарок з'ехаў, каб ашукаць нас! — закрычала Агапа, выслухаўшы Ядвігу.

Яе абкружылі жанчыны. Пасыпаліся пытанні.

— Як ашукаць?

— Хіба мы не рабілі?

— Рабілі за дзесяць капеек у дзень, а не за пятнаццаць!..— крычала Агапа.— Разлічвацца павінен кожную суботу, а ён збег, каб у канцы сплаціць пасвойму.

— Не можа быць!

— Можа сапраўды захварэў!

— Абдурыў нас, а не захварэў!

— Няўжо ён сапраўды скруціць грошы? — усхвалявана запытала Надзя.

— Усё можа быць, Надзечка. Усіх, вядома, не скруціць. Я і прыйшоў да цябе пагаварыць пра гэта...

Тут Павел адчуў, што памыліўся. Надзя глядзела на яго так адчужана, што ў яго зашчымела сэрца.

— Дык ты толькі гэтага і прыйшоў?..— ціхім голасам запытала яна.— Няхай яны згараць, тыя грошы. калі так...

Яна павярнулася, каб пайсці, але Павел схапіў яе за плечы.

— Ты не так мяне зразумела, Надзечка...

— Ох, зразумела...

Падышоў Станіслаў Вярбіцкі, нібы ведаў, у якую бяду трапіў Павел.

— І ты прыйшла разлічвацца, Надзя?

— Прыйшла...

— Прыйшлося і табе панскую бульбу выбіраць.

— А што мне да таго, чыя яна...

— Не ў тым справа, Надзя. Я думаю пра твайго бацьку і дзядзьку Марціна. Хіба так патрэбна было табе ісці?

— Ваша жонка таксама выбірала,— адрэзала Надзя.

— Наша справа такая, парабкоўская. Але каб я ведаў, што Гендарсан так ашукае, то жонкі не пусціў бы.

— Ну, от бачыце: вы таксама не ведалі...

— У тым і справа, што ніхто не ведаў. Гендарсан хоча ашукаць выбіральшчыц. Ён разлічыць работніц тады, калі ўся бульба будзе выбрана, і дасць не па пятнаццаць, а па дзесяць капеек за дзень. А ты пайшла б выбіраць за дзесяць капеек?

— Што вы, дзядзька Станіслаў! Я і пайшла толькі таму, што немец абяцаў па пятнаццаць капеек!

— От бачыш, Надзечка. Трэба нешта рабіць, каб Гендарсану не ўдалося ашукаць работніц.

Ён растлумачыў Надзі, чаго дабіваецца Гендарсан і чаму ён збег сёння з маёнтка.

— Ты павінна, Надзя, расказаць пра гэта цётцы Агапе. Яна разумная жанчына, але нас, парабкаў, не вельмі любіць. Дык няхай яна ўвядзе ў вушы ўсім падзёншчыцам, што Гендарсан задумаў. Расплачвацца ён цяпер будзе толькі ў тую суботу або пятніцу, калі ў маёнтку выберуць усю бульбу. Хай падзёншчыцы не бяруць грошай, калі Гендарсан пачне плаціць па дзесяць капеек. Ты зразумела, Надзечка?

— Зразумела, дзядзька Станіслаў... Але калі па дзесяць капеек, то я і зусім не пайду выбіраць...

— А другія пойдуць. У цябе прападуць грошы за тыдзень, а ў іх і ў тваёй цёткі за два.

Дзяўчына падумала, зірнула на Паўла і адказала:

— Добра, дзядзька Станіслаў. А з цёткай Агапай няхай і ваша жонка пагаворыць.

Станіслаў усміхнуўся.

— Без гэтага не абыдзецца! Калі ты заўважыла, то яны пагаварылі ўжо.

— Заўважыла!

— А цяпер, Надзя, я пайду. Вашы вунь таксама расходзяцца. Перадай ад мяне паклон дзядзьку Марціну. Перадаў бы і твайму бацьку, але ён, як і цётка Агапа, парабкаў не любіць.

— А вы і не парабак!

— Парабак, Надзя. Такі самы, як і Павел.

Станіслаў — высокі, статны, вельмі падобны на стараватага шляхецкага жаніха — па-шляхецку далікатна схіліў галаву, крануўся рукой шапкі і пайшоў.

— Ну і дзядзька Станіслаў! — з захапленнем прамовіла Надзя.

— Ты яшчэ возьмеш ды закахаешся ў яго,— сказаў Павел.

— Ну і дурненькі.

Тым часам ля канторы стала пуста і ціха. Жанчыны разышліся. Надзя зірнула навокал, зразумела, што астаецца адна, і памкнулася бегчы.

— Куды ты, Надзечка? — запытаў у яе Павел.

— Хіба ты не бачыш, што ўсе разышліся! А цётка Агапа яшчэ да нашых зойдзе... У яе запытаюць, чаму няма мяне...

— Ну дык і хадзем! Я ж правяду цябе.

Гендарсан прыехаў са Слуцка ў нядзелю падвечар. Увесь твар яго быў забінтаваны. Ён памалу злез з брычкі, кінуў лейцы ў рукі Кірылу Вераб'ю, нешта буркнуў яму і пайшоў у свой флігель.

«Ге-ге! — падумаў сам сабе Кірыла.— Значыць, у цябе, панок, раптам зубы забалелі. Эге-ге! Учора ты і не намякаў пра гэта, а сёння такі абвязаны прыехаў. Нават рот у цябе не разяўляецца, і ты не можаш вымавіць слова. Хітры ты, немчык, як чорт... Гм... А можа ў дарозе табе нехта морду пабіў, як некалі Яўхіму Халусту? Можа быць, пане, можа быць».

Гендарсан тым часам памалу ішоў дадому, задаволены, бо план яго ўдаўся. Яму абавязкова трэба было прытварыцца хворым, але не такім хворым, які паві-

нен ляжаць. Нельга дазволіць сабе такой раскошы — ляжаць, калі на полі ідзе работа. Вось і прыйшлі на думку зубы. Хіба ў людзей не баляць зубы? Баляць. Чаму яны не могуць забалець у Гендарсана? Могуць! А што ў Старочыне няма зубнога доктара, то гэта толькі на руку. Затое ёсць зубны доктар у Слуцку, і прытым свой брат, немец. Не такі, вядома, немец, як Гендарсан — немец з самой Германіі, а рускі немец, з-пад Рыгі. Але хіба немец з немцам не знойдуць агульнай мовы? Знойдуць! І ў суботу Гендарсан махнуў у Слуцак.

Гер Пфэрдсан — прыватны зубны доктар у Слуцку — аказаўся наймілейшым чалавекам. Атрымаўшы пяцёрку ні за што ні пра што, ён збянтэжыўся, пачырванеў і прамовіў:

— А можа, гер Гендарсан, я ўсё-такі пагляджу на вашы зубы?

— Глупства, гер Пфэрдсан! У мяне зубы — як у льва! — паспрабаваў пярэчыць Гендарсан.

— Ну, ну! У львоў таксама зубы баляць, толькі іх ніхто не лечыць,— настаяў доктар і прымусіў Гендарсана разявіць рот.

Гер Пфэрдсан мо паўгадзіны калупаўся ў Гендарсанавым роце, перабраў і абстукаў усе зубы — о, ён не хацеў дарма браць залатой пяцёркі — і ўгаварыў Гендарсана запламбіраваць адзін куткавы зуб. Потым яны селі вячэраць, а Гендарсанава гарэлка была такая добрая, што Пфэрдсан успомніў студэнцкія гады ў Юр'еве, і ўсё кончылася тым, што доктар і пацыент выпілі на брудэршафт. Гендарсан і пераначаваў у халасцякадоктара на канапе. У галаве яго круцілася, але прыходзілі цікавыя думкі, накшталт таго, што варта было б доктара запрасіць да сябе, няхай бы з ім пазнаёмілася Эльза. Як ні кажы, а доктар гэта ёсць доктар, прытым ён халасцяк пад трыццаць пяць гадоў.

Назаўтра раніцаю доктар Пфэрдсан абматаў яму твар бінтам, даў нейкую вадкасць паласкаць рот, а ў падзяку атрымаў запрашэнне ў Чыжэвічы.

Са Слуцка Гендарсан выехаў не адразу. Ён наведаў сына Вільгельма, які ў гэтым годзе павінен быў скончыць камерцыйнае вучылішча, параіў яму пазнаёміцца з доктарам Пфэрдсанам, запытаў, ці не мае сын патрэбы ў грашах, і ўсхліпнуў ад радасці і замілавання, калі пачуў ад сына такі сур'ёзны і разважлівы адказ:

— Не, фатэр, не маю такой патрэбы. Той, хто сам не зарабляе грошай, павінен умець берагчы іх.

— О, мой сын! — ледзь не завыў ад захаплення Гендарсан. І ён бы завыў, каб меў магчымасць разявіць рот.— О, мой сын! Ты будзеш вялікім чалавекам!..

Потым Гендарсан зайшоў у некаторыя магазіны, купіў падарункі жонцы і дачцэ і толькі ў поўдзень выехаў са Слуцка.

І ўсё было б добра, калі б каля самых Чыжэвіч Гендарсан не адчуў, што ў роце яго няма парадку. Ён падумаў, што гэта яму здаецца, але гэтае «здаецца» і не думала праходзіць. Балеў зуб. Той самы зуб, што запламбіраваў доктар Пфэрдсан! Чорт ведае што! Гендарсан скрывіўся і, так скрывіўшыся, прыехаў дахаты і ўвайшоў у пакой.

— Божа мой! Што з табою, Пауль? — запытала яго жонка.

Гендарсан аддаў ёй пакупкі і паказаў рукою на сваю правую шчаку. Перад сном ён выпіў некалькі чарак гарэлкі і адчуў, што боль прайшоў. Але замест яго прыйшла незразумелая трывога. Не, не сумненне грызла яго. Трывога была зусім іншага парадку. Ён адчуваў, што недзе зрабіў памылку.

Прачнуўшыся раніцаю, канчаткова ўпэўніўся, што дастаў сабе хваробы. Балела галава, ніжнюю сківіцу ламала так, нібы хацела выкруціць з суставаў, у правым вуху страляла некалькі гармат, ныла ўсё цела. Гэта быў зусім не жарт, але аканом не меў права ляжаць у ложку ў такі час. Ён вымушаны быў устаць.

Гендарсан з'явіўся на полі не верхам на сваёй кабылцы, а ў брычцы, апрануты ў зімовае футра, абматаны ваўняным шалікам з галавой. І яму стала крыху лепш, калі ўбачыў, што работа на полі ідзе. Ён нават не звярнуў увагі, што падзёншчыцы пaглядаюць на яго не так, як заўсёды. Не заўважыў, што ў позірках іх, акрамя звычайнай цікаўнасці, ёсць яшчэ недавер і падазронасць. Спагадлівасці ён і не чакаў ад гэтых хамавак.

Так памалу ён аб'ехаў бульбяны палетак, агледзеў яго, прыкінуў на вока і вылічыў, што да канца тыдня бульба ў Чыжэвічах будзе выбрана. Цяпер яго нішто не палохала. За работу возьмуць столькі, колькі ён дасць, а бульбу ў Бярозаўцы выберуць парабчанкі.

К чорту гэтых хамавак-падзёншчыц, лепш абыходзіцца без іх.

Калі Гендарсанава брычка пакацілася па дарозе ў маёнтак, Надзя разагнулася і сказала цётцы Агапе:

— Далібог, цётачка, ён хворы!

— Вер ты яму, злыдню! — адказала Агапа.— Паглядзіш на яго заўтра!

Агапа не памылілася. Гендарсан у той дзень праляжаў у ложку да вечара пад цёплай коўдрай, выпіўшы перад гэтым спірту з малінавым чаем. З яго выцекла сем патоў. Вечарам ён паўтарыў аперацыю і заснуў як забіты, а раніцаю ў аўторак ускочыў з ложка здаровы. На поле ён паехаў, хоць і ў брычцы і абматаны шалем, але калі апынуўся каля выбіральшчыц, то выскачыў з брычкі з такім імпэтам, нібы яго выкінулі адтуль спружынай, прабег па палетку, падкалупваючы пугаўём нявыбраную бульбу, і крычаў:

— Што гэта ест? Гэта ест безабразій! Я вам плачу грошш!

— Бачыла? — штурханула Агапа Надзю.— Што я табе ўчора гаварыла?

Яна разагнулася і крыкнула проста ў твар аканому, які апынуўся якраз каля яе:

— Пан яшчэ і гроша не заплаціў! Пабачым, як заплаціш!

— Што? — здзівіўся Гендарсан.— Ты ест — як гэта? — хам! Ты ест хам! Штраф за такую работу! Я вас!..

Тут ён зірнуў на бульбяны палетак, і ў яго адабрала язык. Выбіральшчыцы — усе як адна — кінулі работу, стаялі разагнуўшыся, чаго ніколі не было раней, і глядзелі на яго з такой нянавісцю, што ён спалохаўся.

— Работайт! — узвізгнуў ён.— Работайт ві, сволатш!

Але ніхто не сагнуўся, і ашалелы аканом, павярнуўшыся, кінуўся да свае брычкі.

Цяпер ён зразумеў, што ашуканства яго разгадана, што выбіральшчыцы зразумелі яго хітрыкі, і яму стала страшна. У маёнтку ён крыху супакоіўся. Тут ён адчуваў сябе гаспадаром. Ён загадаў Кірылу Вераб'ю распрэгчы каня, а сам пайшоў на пляцоўку, дзе буртавалі бульбу. Першы раз ён даў «дзень добры» парабкам, і сам здзівіўся гэтаму. Яшчэ больш здзівіўся, што парабкі сустрэлі яго прывітанне вельмі стрымана. Платон

Шабуня абкладаў бурт саломай і нават не зірнуў на аканома. Гендарсан абышоў бурты і накіраваўся ў бровар.

Станіслаў Вярбіцкі і Павел Квітун не чакалі яго так хутка.

— Ну як? — запытаў аканом, крывячы твар у прыветную ўсмешку.— Скора канец работы?

— Скора, пан аканом,— адказаў Станіслаў.— А што вы надумалі пра Якава Шэмета?

Гендарсан, заходзячы сюды, надумаў быць ветлівым. Ён не хацеў, каб і тут яго сустрэлі так варожа, як на полі, і так насцярожана, як ля буртоў, але Станіслава запытанне яго ўзарвала.

— Што Шэмет! Што Якаў Шэмет! Сволатш Якаў Шэмет! Я знаю! Мне Яфім Халюста казаль! І не ў маёнтку яму ест места!

— Справа ваша, пан аканом,— адказаў Станіслаў.— Але адзін я не магу даглядзець дзве старыя машыны — у бровары і ў млыне. Вы сходзіце ў млын. Ён скора стане, бо машыну трэба наладзіць.

— Што? — закрычаў Гендарсан.— Млын стане? Што гэта ест? Гэта ест... як гэта?.. Штрайк! Гэта ест штрайк!.. Гэта, гэта ест...— Ён плюнуў і выйшаў з бровара.

Да самай пятніцы ён жыў як у сне. Чужаземец, хцівец і злодзей, ён адчуваў, што ў маёнтку робіцца нешта такое, чаго ён не можа зразумець, але яно накіравана супроць яго. Аратыя моўчкі разворваюць бульбу або аруць зябліва і не падымаюць вачэй на аканома. Нават работнікі фермаў, бровара і млына выглядаюць інакш, чым раней. Яны нешта затаілі і насцярожана чакаюць свайго часу. Калі ён з'яўляецца сярод рабочых, змаўкаюць размовы. Гэта яшчэ больш палохала Гендарсана, бо ён не ведаў і не мог даведацца, пра што яны гаварылі. І ён зразумеў, што ў сваёй дзейнасці дапусціў вялікую памылку. Ён не лічыў рускіх паўнацэннымі людзьмі, знарок не зближаўся з імі, і ў маёнтку не было чалавека, якому ён мог бы даверыцца або які даверыўся б яму. У яго не было верных людзей, якія былі б яго вачамі і вушамі ў маёнтку. Гендарсан зразумеў, што яму патрэбен памочнік. І такога памочніка ён павінен знайсці. А пакуль што трэба дзейнічаць самому. Баязлівец і злодзей, ён, аднак, быў упэўнены, што апошняе слова будзе яго.

У пятніцу бульба ў маёнтку была выкапана, надышоў час разлічыцца. Гендарсан рыхтаваўся да гэтага дня. Ён мабілізаваў усю сваю нямецкую мужнасць і стойкасць, каб кожны бачыў, што ён нікога не баіцца, што ён поўны гаспадар і зробіць так, як захоча сам. Гэта падтрымлівала аканомаў дух. Але трэба было зрабіць і нешта матэрыяльнае. У пятніцу пасля абеду аканом загадаў цяпліць лазню для мужчын. Цэлае лета яна стаяла ■ замком на дзвярах. Хто хацеў памыцца, меў у сваім распараджэнні ўсю Случ; і хоць пара купання даўно прайшла, але лазню адамкнулі б толькі перад калядамі, каб не аканомаў загад. Такім чынам, цяпленне лазні было немалой падзеяй. Усе мужчыны пойдуць мыцца, а пасля лазні ім захочацца выпіць па чарцы, і ніхто не будзе замінаць Гендарсану разлічваць выбіральшчыц. А з імі ён справіцца. Каб нямецкі мужчына не здолеў справіцца з цёмнымі бабамі! Аднак і гэты яго манеўр быў разгаданы.

Павел Квітун і Станіслаў Вярбіцкі першыя пабылі ў лазні і змяркаsucceeding прыйшлі да канторы, дзе ўжо стаяў натоўп падзёншчыц і парабчанак. Жанчыны чакалі іх. Станіслава адразу абкружылі, а Павел пайшоў да Надзі.

— Мо і сёння не прыйдзе той злыдзень,— зазначыла Агапа Аўсянік.

— Сёння прыйдзе, бо няма дзе яму дзецца. Толькі не трэба паддавацца на яго пагрозы і ўгаворы,— прамовіў Станіслаў.

— Я першая буду атрымліваць,— сказала Агапа,— а мяне ён не запалохае, не ўгаворыць!

— Правільна. Толькі не рабіце беспарадку, не душыцеся.

Прысутнасць мужчын падбадзёрыла выбіральшчыц. Станіслава Вярбіцкага паважалі ў навакольных вёсках таксама, як і ў маёнтку.

Вечар быў халодны, за тыдзень надвор'е пахаладнела, пачало падмарожваць. Жанчыны перамерзлі на полі, а тут яшчэ падняўся ветрык і прабіраў да касцей.

Нарэшце з'явіўся аканом. Ён акінуў позіркам жанчын і зразумеў, што памылкам яго няма канца. Навошта яму самому разлічваць рабочых! Ці не разумней было трымаць касіра! Ён бы толькі прысутнічаў і быў бы не адзін супроць такога натоўпу хамавак, а ўдвух... Яму стала крыху страшнавата... Ён адамкнуў кантору.

замкнуў за сабой дзверы, тады запаліў у памяшканні лямпу, падрыхтаваў паперы, агледзеўся і ўздыхнуў.

Трэба было пускаць работніц. Ён адчыніў кантору, а сам шмыгнуў за перагародку.

Жанчыны адна за адной услед за Агапай пайшлі ў памяшканне. Але яно было не такое прасторнае, каб умясціць столькі людзей. Станіслаў і Павел ледзь улезлі ззаду і паволі прабіраліся ўперад. Жанчыны маўчалі, але гэта не вельмі супакойвала Гендарсана.

Першая да аконца падышла Агапа. Аканом разгледзеў спіс, прыкінуў на лічыльніках, адлічыў з мяшочка дробязь і сыпнуў на стол.

— Усе! Марш, марш, баба! Другі!

— Пачакай, панок! Спачатку трэба палічыць, колькі ты плаціш.

Яна пачала лічыць, і ўсе жанчыны глядзелі на яе.

— Дык што? За адзінаццаць дзён рубель з грыўняю? Па дзесяць капек за дзень?

Агапа высыпала свой «заработак» пад нос Гендарсану.

— Жары ты іх, злыдзень!

— Што? — закрычаў Гендарсан.— Што гэта ест?..

— Свіння ты і злодзей, от што гэта ёсць! Па пятнаццаць капеек за дзень, як абяцаў!

У канторы падняўся гармідар.

— Зладзюга! Каб цябе зямля не насіла!

— Ашуканец!

— Антыхрыст!

— Бачыце, што ён прыдумаў!

— Не будзем браць па дзесяць капеек за дзень!

— Плаці, як было дамоўлена!

Гендарсан пабялеў.

— Гэта ест бунт! — крычаў ён.— Я пазаву паліцыю і жандарм!

— Заві!

Жанчыны гатовы былі разнесці ўсю кантору. Толькі Станіслаў і Павел стрымлівалі іх.

Гендарсан сядзеў за перагародкай, як злоўлены воўк.

— А, ашуканец! От не выпусцім цябе адсюль жывога!

— Насмактаўся крыві людской.

— Крывасмок!

Нехта локцем выціснуў у акне шкло. У дзірку шу-

гануў з двара вецер. Агонь у лямпе падняўся, міргнуў і патух. У цемры пачалося тварыцца нешта незразумелае. Частка жанчын рынулася да дзвярэй, пачалася цiскатня, лямант.

— Ціха, жанчыны! — крыкнуў Станіслаў і запаліў агонь.— Шукай лямпы, Павел. А вы не душыцеся, жанчыны, скора будзе парадак.

Жанкі, пачуўшы мужчынскі голас, супакоіліся.

Калі Павел дастаў лямпу і святло разлілося па памяшканню, усе ўбачылі, што Гендарсана ў канторы няма. Пакуль было цёмна, ён адчыніў акно і вышмыгнуў у яго.

— Мабыць, трэба разыходзіцца па хатах, жанкі,— сказаў Станіслаў.— Пан аканом паедзе ў Старочын па ўрадніка і стражнікаў. А вы трымайцеся дружна і патрабуйце той платы, на якую вы дамаўляліся. Ваша справа законная.

— А вашы жанкі заўтра пойдуць у Бярозаўку выбіраць бульбу за дзесяць капеек у дзень,— сказала Агапа.

— Не пойдуць. Пра гэта я хацеў сказаць. Ніхто не пойдзе.

У памяшканні некаторы час стаяла цішыня.

— Ну от, зарабілі мы, жаначкі! — прамовіла Агапа.

— Зарабілі...

— І два вечары грошай чакалі.

Жанчыны пачалі разыходзіцца. Услед за імі выйшлі Станіслаў і Павел. На дварэ стаяла цёмная асенняя ноч.

— Павел,— сказаў Станіслаў,— прыйдзі да мяне пазней, пагутарым. Шмат аб чым пагутарым. А цяпер яна цябе, напэўна, чакае.

— Так, браце Стась... Чакае,— адказаў Павел.

## РАЗДЗЕЛ ДВАЦЦАЦЬ ШОСТЫ

У душы Яўхіма Халусты заўсёды было шмат бруду, аднак гэта ні ў якой меры не замінала яму жыць, наадварот, акрыляла на новыя шальмоўствы, падбадзёрвала, падымала ноччу з ложка, насіла пад вокны засцянковых хат, у чужыя двары, пад суседнія хлявы

і гумны. Ён там нічога не рабіў, але яго радавала думка, што можа зрабіць усё, што захоча: спаліць, украсці, знявечыць жывёліну, сыпнуць атруты.

Але з некаторага часу дробныя шальмоўствы перасталі яго радаваць. У галаве яго нарадзіліся два новыя жаданні, якія на некаторы час адсунулі назад усё іншае. Яны палілі яго пякельным агнём. Ён лажыўся спаць і прачынаўся разам з імі. Калі яму даводзілася ўбачыць Андрэя Сташэвіча або хоць пачуць яго імя, яго ахоплівала шалёная злосць і прага помсты. Ён прыдумваў сотні спосабаў, як разлічыцца з ненавісным чалавекам, і ні адзін яго не здавольваў. Забіць? За гэта можна адказаць. Ды паспрабуй забі такога чорта? Спаліць? Небяспечна. Не бяда, што згарыць увесь засценак, уласныя будынкі могуць згарэць. Падаслаць да яго злодзеяў? А што ж у яго ёсць? Кажуць, голаму разбой не страшны. І Халуста ламаў галаву, каб прыдумаць нешта надзвычайнае, такое, каб звалілася сарамацішчам не толькі на Андрэя, але і на ўвесь яго род.

Другое жаданне было не менш балючае, чым першае. Калі Халусту даводзілася праходзіць каля ніў Гарасіма Жукоўскага, дзе гаспадарылі Лявон Нарбутовіч і Нічыпар Мартыневіч, твар яго зеленеў ад зайздрасці. «Гаспадары, ліха матары вашай! Нядоўга вы будзеце гаспадарыць!» Жаданне заўладаць Гарасімавай паўвалокай гарэла ў яго прагным сэрцы. Ён не ведаў, што зрабіць, але быў перакананы, што заўладае ёю. Гэтая перакананасць крыху супакойвала, каб не Андрэй, які тут клінам станавіўся між Гарасімавай зямлёй і Халустам. Яўхім па нейкай прычыне верыў, што Андрэй будзе стаяць яму на дарозе.

Тым часам восень падыходзіла к канцу. Іншыя дні ішоў дождж разам са снегам. Нізкае хмарнае неба вісела над зямлёй без прасвету. Вераб'і забіліся пад ліштвы. Сумныя мокрыя галкі нерухома сядзелі ў сваіх гнёздах на таполях. Нішто не цешыла вока на полі.

Па малінаўскай вуліцы нельга было ні пешшу прайсці, ні з возам праехаць. Падарожныя цяпер аб'язджалі Малінаўку або навозамі каля гумнаў, або каля агародаў, бо на самой вуліцы можна было захраснуць у гразі.

Малінаўцы ў такую пару заўсёды сядзелі дома. Калі каму-небудзь трэба было схадзіць да суседа па спра-

ве, то ён ішоў прыгуменнямі, пералазячы платы і паркаНЫ.

Цяпер у засценку поўным жыццём жыла толькі сушня, што стаяла на адбоцы каля агародаў. Цэлы дзень з яе коміна валіў дым, як з трубы добрага завода, а з вечара і да глыбокай ночы, а то і да самай раніцы ў прыбудове ляскацелі церніцы, чуўся гоман людзей, смех і жарты моладзі.

У Малінаўцы лён церлі талакой. З даўніх часоў у засценку склалася некалькі хаўрусаў са сваякоў і суседзяў. Кожная такая талака мела свой час, за які яна павінна сцерці лён кожнага гаспадара, які ў яе ўваходзіў. Таму гэтая цяжкая работа — жаночая бяда — праходзіла хутка і нават весела. У ёй прымалі ўдзел і мужчыны, якія церлі лён хутчэй за жанок, хоць і не так чыста.

Калі прыйшла чарга Андрэя Сташэвіча, Тамаш і Андрэй загадзя нарыхтавалі сухіх дроў, каб выпаліць сушню. Узяўся за гэтую работу сам стары Ян, бо і сушню выпаліць таксама трэба ўмець.

Калі звечарэла, у сушні сабралася ўся талака. Стары Ян падаваў лён, і трысцен ажыў. Затарахцелі церніцы, і памяшканне напоўнілася пылам. Пакуль саганялі ахвоту, ніхто не азваўся. Івану Аўсяніку дасталася больш, чым усім. Ён упершыню займаўся гэтай «бабскай работай», бо ў Чыжэвічах лён церлі кожны сам па сабе, і мужчыны да яе рук не прыкладалі.

Калі сцямнела, стары Ян запаліў два ліхтары і падвесіў іх пад страхой. Але якое святло было ад тых ліхтароў, калі ў трысцене слупам стаяў пыл.

Аднак першы запал прайшоў, усе без загаду спынілі работу. Трэба ж было адпачыць, абцерціся, бо на запыленых тварах blішчалі толькі вочы. Пад церніцамі гурбамі ляжала кастрыца, трэба было яе рассунуць, параўнаваць.

— Ну, хто больш нацёр? — запытала Алена, пераможна аглядаючы ўсіх.

— Вядома ж, ты, Аленачка,— адказала Талімонава Лісавета. Бацька яе Талімон меў чвэрць валокі, але і сярод чвэртнікаў быў апошні. Не шанцавала чалавеку ў жыцці. Як памерла жонка, так і пайшла гаспадарка і крыва і коса. Старэйшая з дзяцей была Лісавета, яна і стала гаспадыняй пасля смерці маці.

Сам Талімон у клопатах не ведаў ні дня, ні ночы.

але не шанцавала чалавеку. Або выгадуе жарабя да каня, толькі ў барану яго б запрагаць, а гэты конь ні з таго ні з сяго возьме ды здохне. Падкорміць парсючка, толькі б сальнікам прадаць, рубель на патрэбу выручыць, а гэты парсюк ногі задзярэ.

Лісавета была самая гаротная дзяўчына ў Малінаўцы. Ціхая, непрыкметная, сарамлівая: здавалася — яна яшчэ па-сапраўднаму не ўступіла ў жыццё, але ніхто не ведаў, што ў душы сваёй яна хавае таямніцу, якая адбірае спакой.

— У Аленачкі больш? — засмяяўся Тамаш.— У мяне больш, чым у тваёй Аленачкі, а ў Андрэя вунь, зірні!

Алена ўспыхнула.

— Работнікі! Ваш лён нанова пераціраць трэба, у ім палова кастрыцы асталося! А ў мяне ды ў Лісаветы чысценькі, а ў братавай Яніхі і трапаць не трэба.

Яніха — жонка Яна Сташэвіча — звалася Стэфа, але мала хто з засцянкоўцаў ведаў яе імя. Яніха, ды і ўсё.

— Ай, дзеткі,— сказала яна.— Я ўжо сваё і адцерла і адтрапала. А бывала, то ад Алены не асталася б.

— Ну, мама! — сказаў Тамаш.— Чаго там! Вы яшчэ ў нас малайчына.

— От, сынок, пахваліў маці,— усміхнулася Яніха.— Няхай бы ж ты, такі добранькі, дома мяне пакінуў, няхай бы я на печы паляжала.

— Улежалі б вы сёння на печы! Хіба каб прывязаў за комін.

Усе засмяяліся.

— Хадзем, курцы, на двор,— сказаў Андрэй.— Тут пыл задушыць.

Вечар быў халодны. Дыхала ветрам з поўначы. Пад месячным святлом іскрыўся іней, і звонкая цішыня стаяла над сусветам.

Хлопцы і мужчыны закурылі, дзяўчаты стаялі гуртком каля дзвярэй сушні. Да іх падышоў Тамаш і пачаў дурэць. Дзяўчаты ўзнялі піск. Тамаш адну за адной паўкідаў іх у трысцен на кастрыцу, падняў Лісавету і непрыкметна ўпіўся губамі ў яе вусны.

— Тамаш! — закрычала яна, вырываючыся.— Пусці!

— Маўчы, дурненькая,— шапнуў ён ёй.— Падабаешся ты мне...

— Пусці мяне, Тамаш! — з незразумелым адчаем гаварыла дзяўчына.

Тамаш паставіў Лісавету на зямлю і пайшоў да мужчын. Але закурыць яму так і не прыйшлося. Стары Ян аддаў загад:

— Ну, хопіць! Усяму свой час.

У самы разгар работы да сушні прыйшла моладзь. Былі сярод іх і абодва Халусты. Услед за імі прыйшоў Якаў Шэмет. Спачатку аціраліся каля сушні, потым дзяўчаты зайшлі ў трысцен, каб падмяніць сваіх сяброўак. Ведалі, што калі цяпер памогуць яны, то ў свой час памогуць і ім. Бо нялёгка без падмены цэлую ноч, сагнуўшыся каля церніцы, бесперапынна глытаць пыл. А колькі работы рукам! Назаўтра аж не падняць іх, і плечы ныюць.

На перапынку Андрэй Сташэвіч выйшаў на двор і здзівіўся, калі ўбачыў Мікалая Халусту. Гэты груган, нягледзячы на сваю маладосць, рэдка калі прыходзіў на зборышчы моладзі. Іншы раз ненадоўга з'яўляўся, аглядаў усіх, нібы некага шукаў, тады паварочваўся і знікаў. У яго былі свае знаёмствы і свае інтарэсы, невядомыя і незразумелыя малінаўскай моладзі. Калі хлопцы наймалі музы́ку іграць вечарынку, то Мікалая Халусту ніколі не бралі ў хеўру. «Што ж яго сёння сюды прыцягнула?» — падумаў Андрэй.

— Го-го! — рагатаў Юзік Гром.— Тут сёння лепш за вечарынку! Каб музы́ка быў, то і паскакаць можна.

— А ты без музы́кі можаш паскакаць,— адказаў яму Тамаш.

— Ну, ну! — рыкнуў Юзік.— Хіба я дурнаваты!

Алена зірнула на яго і адвярнулася. Яна была б рада Юзіку, каб не Андрэй. Пры́ Андрэі ў яе не хапала рашучасці нават пагаварыць з Юзікам, і яна злавалася.

Андрэй зразумеў, пра што думае сястра, і зірнуў на яе, але ўвага яго адразу перакінулася на Лісавету, якая стаяла пры Алене, запалоханая, як загнаны ў пастку звярок. «Што гэта робіцца з дзяўчынай? — падумаў ён.— Хіба яна каго спалохалася ці захварэла?» Каб ён мог убачыць Лісавеціны вочы, то адразу знайшоў бы тлумачэнне. Лісавета глядзела на Мікалая Халусту, як птушка на змяю.

У гэты момант да Андрэя падышоў Якаў Шэмет.

— Як твой Іван упраўляецца сёння? — запытаў ён.

Андрэй насцярожыўся. Яму не спадабалася такое пытанне, акрамя таго, ён быў і так раззлаваны на сястру і Юзіка Халусту. Ён адразу загарэўся.

— А што ты маеш да майго Івана?

— Не сярдуй. У нас у Чыжэвічах такой работы мужчыны не робяць.

— У Чыжэвічах не робяць, а ў Малінаўцы робяць. Іван цяпер не ў Чыжэвічах, а ў Малінаўцы. Не думаю, што ён хадзіў да цябе скардзіцца, нібы я яго работаю задушыў.

— Ты не зразумеў мяне, Андрэй. Мне трэба было пачаць з табою гаворку, але я не так пачаў, і ты ўзлаваўся.

У Андрэя ўжо ўсё кіпела ўсярэдзіне, і ён не мог узяць сябе ў рукі.

— Узлаваўся. Не люблю, калі нехта совае свой нос у мае справы. І дзіўлюся: няўжо калі чалавек пажыве ў сабакі Халусты, дык і сам становіцца сабакам.

«О, чортаў шляхціц! — падумаў Якаў.— Столькі ў цябе гонару, што невядома, з якога боку прыступіцца... Што з табою сёння?»

— Дарэмна ты мяне сабакам абзываеш, Андрэй,— сказаў ён.— І ніхто яшчэ мяне сабакам не абзываў.

— Каб ты прыйшоў сюды адзін, я не так бы гаварыў. А ты прыйшоў з Халуставымі сынамі. У хеўру ўвайшоў. Што ж, можа гэта і гонар для парабка быць у адной хеўры з сынамі гаспадара, але я, нават старцам будучы, не захацеў бы такога гонару.

Якава закалаціла, але ён перамог сябе.

— Слухай, пан Сташэвіч... Я прыйшоў сюды адзін. У мяне была да цябе гаворка. Адкладзём яе да другога разу.

У Андрэя аж перасмыкнуўся твар ад страшэннай злосці, якая апаноўвала яго сёння. Ён хацеў дагнаць Якава, сказаць яму, што памыліўся, і перапрасіць, але не мог гэтага зрабіць. І тут ён убачыў Алену і Лісавету, якія стаялі каля дзвярэй трысцена. З імі размаўлялі абодва Халусты, Юзік Гром і Мікалай. Андрэй знарок накіраваўся туды, нібы знячэўку цярнуўся каля Мікалая, і той ледзь не зляцеў з ног.

— Прэшся, як бык! — пагражальна прамовіў той.

— Што? — спыніўшыся, запытаў Андрэй.

— Трэба глядзець уперад, калі ідзеш.

— Не стой на дарозе. Я не кожнага абыходжу.

— А я не кожнаму саступаю.

— Мне саступіш!

— Паглядзім!

Спрэчка гатова была ўспыхнуць, і хто ведае, чым бы яна кончылася, каб не Ян Сташэвіч.

— Тут не пагулянка, хлопцы,— сказаў ён.— Ідзіце дамоў. А вы лён церці,— загадаў ён сваім.

Церлі лён амаль да самай раніцы, пакуль не апаражнілі сушню. Андрэй працаваў, як ашалелы. Душа яго сёння была перапоўнена супярэчлівымі пачуццямі: злосцю, нянавісцю і раскаяннем. Не, ён не раскайваўся ў тым, што зноў задраўся з Халустамі, ён быў згодзен пабіцца сёння з імі, але за што ён пакрыўдзіў Якава? Без прычыны, зусім без прычыны... Той прыйшоў да яго з гаворкай, а ён такі туз! І Андрэй успомніў, як з гэтым жа Якавам вязалі Халустаў, як гэты ж самы Якаў папярэдзіў яго на начлезе, што Халуста будзе помсціць. Мабыць, і сёння ён хацеў нешта сказаць. Што? І Андрэй без жалю ламаў і трушчыў церніцай лён, выціраў кастрыцу і клаў у кучу бліскучыя белыя палойкі.

Калі сцерлі апошні лён, на ўсходзе з'явілася белая палоска зары.

Усе разышліся дадому, у сушні асталіся толькі Андрэй і Ян.

— Ідзі запрагай каня,— сказаў Ян,— і прыязджай забіраць лён. У гэтым годзе, брат, лён у цябе царскі.

— І ў цябе не горшы.

— У мяне крыху горшы... Пра што ты гаварыў з Якавам?

— Ды так... Успаміналі, як Халусту вязалі...

— Успаміналі... Лепей бы вы не ведалі гэтага. А ты зноў з Халустамі схапіўся.

— Не магу на іх глядзець.

— Дурань.

— Ты мяне ў апошні час іначай не завеш. Я і сам сёння думаю, што дурань, толькі не за Халустаў.

— А за каго?

— За Якава. Ён мне сказаць нешта хацеў... А я...

— А ты слухаць не захацеў... Разумны! Ну дык от: аддаю табе сваю галаву — калі мы пойдзем адсюль абодва, сушня пыхне полымем разам з тваім лёнам.

— Глупства...

— Ідзі па каня, а я папільную тут.

Андрэй пайшоў, а Ян сеў каля сцяны і зірнуў навокал. На дварэ пачало святлець. Паблядпеў, нібы пачаў раставаць, Млечны Шлях, здрабнелі зоры, затое на ўсходзе светлая палоса расла і шырылася ўвачавідкі. Ян думаў пра Андрэя, што рабіць з ім, як давесці яго да розуму. Калі хворы быў бацька і ў першыя тыдні пасля яго смерці хлопец быў як хлопец. Паспакайнеў, пасталеў, стаў сапраўдны мужчына. А цяпер зноў пачалося старое. Нашто яму было біць Халусту, навошта было яго вязаць? Яшчэ і Тамаша з сабою пацёг. А той дурань новае вужышча з дому знёс. Не пойдзеш цяпер да Халусты, не скажаш: «Аддай маё вужышча, тое, якім цябе вязалі». Халуста ўсю сваю сабачую зграю з ланцугоў спусціць... Ды няхай яно згарыць, тое вужышча... Халуста — чалавек люты, лепш бы з ім зусім не звязвацца... Цяпер Нарбутовіч гэтакі гад печаны, і з ім звязаўся. Калі ў сваім засценку поўна ворагаў, то цяжка жыць чалавеку...

Тут Яна нібы нехта сапхнуў з месца. Ён пачуў шорхат ля задняй сцяны і кінуўся туды.

— Гэй, хто там! — крыкнуў ён адразу, каб папярэдзіць злачынца, напалохаць яго.

Амаль у гэтае ж імгненне з-за вугла выйшаў не хто іншы, як Яўхім Халуста.

— Гэта я, пане Сташэвіч, гэта я,— сказаў ён, выскаліўшыся.— Як вы маецеся, пане Сташэвіч?

Яна ахапіла злосць, але ён адказаў спакойна:

— Ды от толькі лён кончылі церці. А вы чаго, пане Халуста, да сушні прыйшлі?

— Ая-яй!.. Я не да сушні... Я толькі ішоў каля сушні...

— Куды ж гэта вы?

— Сыны!.. Ліха матары іх, сыны! Як выйшлі звечара, дык і дасюль няма... Дзе іх нячыстая сіла носіць! А ў мяне ж работа на рабоце.

— Няма тут вашых сыноў. Звечара былі.

— Распуснікі! Дзе ж яны падзяваліся?.. Ну, бывайце здаровенькі.

«Значыць, Якаў хацеў папярэдзіць Андрэя,— падумаў Ян.— А Андрэй, мабыць, і гаварыць не захацеў. Ах, дурань, дурань... Добра, што хоць мне сказаў, бо каб пайшлі абодва дадому — не было б ні сушні, ні

лёну. І вінаваты быў бы я... Сказалі б людзі, што недаглядзеў Ян Сташэвіч печы, жар пакінуў...»

Воддаль пачулася тарахценне калёс. Гэта ехаў Андрэй па свой лён.

## РАЗДЗЕЛ ДВАЦЦАЦЬ СЁМЫ

Выскачыўшы з канторы праз акно, Гендарсан задаў такога драпака на сваіх кароценькіх ножках, што калі спыніўся каля флігеля, то яны аж гулі, а сэрца гатова было парвацца, і ў грудзях не хапала дыхання. Ён стаў каля ганка, уплёўся рукамі за слупок і, разявіўшы рот, як рыба, выкінутая на бераг, хапаў паветра. Нарэшце сяк-так аддыхаўся. Калі зайшоў у пакой, Інга зірнула на мужа і выпусціла з рук вышыўку.

— Што з табою, Пауль? Чаму ты такі?

— Я... Яны мяне хацелі забіць, Інга...

— Хто?..— спалохана запытала яна.

— Бабы! — узвізгнуў Пауль.— Яны напалі на мяне!.. О-о-о! Але мяне выратавалі мае ногі, Інга!..

— Ах, ах!.. Яны заб'юць нашу Эльзу! — закрычала Інга, падхопліваючыся з месца.

— А дзе наша Эльза? — у тон жонцы крыкнуў Гендарсан.

— Ах!.. Гэтая непаслухмяная дзяўчынка, як і заўсёды, пайшла на спацыр.

— Дзіця маё! — завыў Гендарсан.

У гэты самы момант Эльза зайшла ў хату. Маці і бацька кінуліся да яе.

— Дачка мая! — залямантавала Інга.— Яны з табой нічога не зрабілі?

— Хто? — зірнуўшы на маці халоднымі вачыма, запытала Эльза.

— Бабы! Яны ледзь не забілі нашага бацьку!..

— Ніхто мяне не збіраўся забіваць. Я сустрэла баб. Яны ішлі з канторы і лаялі немца, які іх ашукаў.— Эльза пагардліва зірнула на бацьку і прайшла ў свой пакой.

— Як ты смееш так гаварыць пра бацьку! — крыкнуў ёй услед Гендарсан.

Маці крыху супакоілася, але і ў самога Гендарсана на сэрцы шкраблі кошкі. Ён ведаў, што сённяшні вечар — гэта толькі пачатак. А што будзе заўтра?

Адзін цяпер не дасць парабкам ніякай рады. Проста пабаіцца сустрэцца з імі. А ў Бярозаўцы амаль уся бульба яшчэ ў полі. Сезонныя работніцы ▪ вёсак больш не прыйдуць. Каб яны прыйшлі, трэба заплаціць дамоўленую цану, а рабіць гэта Гендарсану вельмі не хацелася. Страціць такі барыш і адступіць перад жабракамі? Пацярпець такое паражэнне! Толькі не гэта... Зняць з усіх работ пастаянных парабкаў і парабчанак і адправіць іх у Бярозаўку ён таксама не мог, бо прыйшлося б спыніць у маёнтку ўсю іншую работу. А хіба можна спыніць паравы млын, зняць работнікаў з бровара, калі нават рамонт яшчэ не кончаны, пакінуць без дагляду жывёлу...

Не думаў Гендарсан, што справа павернецца такім бокам. У яго практыцы не было яшчэ выпадкаў, каб выйшла не так, як хацеў. Ён заўсёды плаціў работнікам столькі, колькі надумаў, і ніхто не падымаў супроць яго голасу. А гэта што ж такое? Рускія бабы, мужычкі, падымаюць бунт!

У часе вячэры, каб супакоіцца, ён, насуперак звычаю, напіўся як шавец. У галаве закружылася, але супакою не адчуў. Ён цэлую ноч не спаў, круціўся на пярыне і думаў. Бабскі бунт... Але калі пачаў прыводзіць да парадку свае ўспаміны аб мінулым вечары, то да яго разумення дайшло, што ў канторы былі не толькі бабы. Там былі Станіслаў Вярбіцкі і Павел Квітун. Ага! Ці не іх гэта работа!

На дварэ яшчэ была ноч, калі Гендарсан устаў з ложка. Паціху, каб не разбудзіць жонку, апрануўся, схадзіў у камору, сабраў тое, што было патрэбна, склаў у мяшочак, палічыў у кішэні грошы і выйшаў на двор. Чорт! Навокал стаяла халодная асенняя цемень. Гендарсан здрыгануўся, але не ад холаду. Вельмі няёмка сябе адчуваў. Здавалася, што за кожным вуглом стаяць бабы з рыдлёўкамі і падпільноўваюць яго. Кожны слупок, кожны пень нагадваў яму чалавека. Усё выглядала варожым і чужым. Так памалу дайшоў да стайні.

Кірыла Верабей — адзінокі чалавек, былы панскі фурман — у вартоўні не толькі спаў начамі, але і жыў удзень. Блізкай радні ў яго не было, фурманам на старасці быць ужо не мог і дажываў апошнія гады вартаўніком на стайні. Кірыла ведаў, што ўчора было ў канторы, і не вельмі здзівіўся, калі яго разбудзіў ака-

ном. Стары адамкнуў стайню, памог аканому запрэгчы кабылу ў брычку і, калі той выязджаў са двара, запытаў:

— А куды так рана, пане?

Іншым разам Гендарсан паставіў бы хама на месца, але сёння яго язык сам сабою сказаў:

— У Бярозаўку. Я еду ў Бярозаўку.

Кірыла пастаяў каля варот, паслухаў, на якую дарогу зварочвае аканом, і падумаў: «У Бярозаўку! У Старочын ты накіраваўся, сукін сын, а не ў Бярозаўку».

Маёнтак яшчэ спаў, калі Гендарсан праехаў паўдарогі ў мястэчка. Не шкадаваў кабылы, бо дурныя думкі лезлі ў галаву. То яму здавалася, што за ім гоняцца, то — што страляюць з-за дрэва. Усё цяпер стала яму варожым у гэтай краіне.

Урадніка прыйшлося пачакаць. Беразоўскі яшчэ спаў, калі Гендарсан зайшоў у прыёмную. У абшарпаным пакоі было пуста і брудна. Гендарсан зірнуў на пыльныя лаўкі і не захацеў садзіцца. Пачаў хадзіць з кута ў кут і думаць. «Усе яны брудныя свінні. Бесталковая краіна... Нідзе няма парадку, нават у такой установе...»

Крокі яго пачула служанка Беразоўскага і зазірнула ў прыёмную. Убачыўшы такога важнага наведвальніка, запрасіла яго ў пакой. Тут Гендарсан сеў у крэсла і закурыў.

Праз паўгадзіны Беразоўскі і Гендарсан сядзелі ў канцылярыі і вялі гутарку.

— Які ж гэта бунт, пане Гендарсан? — пытаўураднік у аканома.— Вы абяцалі разлічыць людзей па адной цане, а пачалі разлічваць па другой. Гэта ж несправядліва!

— Я кожны год плаціў ім па дзесяць капеек.

— А ў ведамасці пісалі па пятнаццаць.

Гендарсан пачырванеў і надзьмуўся.

— Гэта ест — як гэта? — абраза!

— Якая абраза, пане Гендарсан, кіньце вы! — усміхнуўся Беразоўскі.— Тыя гады яны маўчалі, а цяпер зусім не тое. Вы ведаеце, што робіцца ў краіне?

— Так. Іх... я ведаю...

— Дрэнна ведаеце.

Беразоўскі разумеў, у чым справа. Звесткі аб забастоўках на фабрыках і заводах, аб хваляваннях параб-

каў у Латвіі, на Паваложжы і ў іншых мясцінах, аб сялянскіх бунтах дакаціліся і сюды. Учарашні выпадак у Чыжэвіцкім маёнтку — водгулле тых падзей, якія ахапілі краіну. Дурны немец не разумее гэтага. Ці можна думаць, што ў маёнтку ўсё ўзнікла стыхійна, толькі таму, што людзям недадалі па пяць капеек у дзень? Ці не хаваецца тут нешта глыбейшае?

І Беразоўскі ўспомніў Якава Шэмета. Яўхім Халуста паведамляў яму, што гэты тып з горада кожны тыдзень ходзіць у маёнтак. Ці няма тут якой сувязі? Але Гендарсану гэтага Беразоўскі не сказаў. Трэба было давесці немца да таго, каб ён выняў грошы. «Сам нажываешся, а я павінен задарма табе памагаць!»

— Прыйдзецца, пане Гендарсан, заплаціць рабочым, як дамаўляліся.

Гендарсан бездапаможна ўнурыўся. Раптам ён загарэўся, падняў галаву і закрычаў:

— Гэта ест непарадак! Бульба пан Крупскага не павінен — як гэта? — зімаваць!

— Заплаціце людзям за работу, і яна зімаваць не будзе.

— Но гэта ест бунт! Яны разбілі акно, патушылі ламп і крычалі: «Заб'ём немца!»

— Вы проста спалохаліся, пане Гендарсан. А вінаваты вы. Вы самі справацыравалі гэты інцыдэнт. А цяпер трэба быць асцярожнейшым. Калі пра гэта паведаміць пану Крупскаму, то ён вас па галоўцы не пагладзіць.

Беразоўскі гаварыў і пагляд аў, як успрымае Гендарсан яго словы. І Гендарсан звяў.

— А цяпер,— гаварыў далей Беразоўскі,— вы просіце ў нас дапамогі. Мы! — Беразоўскі тыцнуў пальцам у свае шырокія грудзі.— Мы павінны за ўсё адказваць. Мы павінны вас ратаваць. А каму гэта трэба? Вам, толькі вам.

— Але, герураднік... Яны хацелі мяне забіць...

— Глупства! А хто, уласна, хацеў вас забіць?

— Баба! Баба Агапа Аўсянік. Яна ест з Чыжэвіч. Беразоўскі зарагатаў.

— Ба-аба! А мужчын там не было?

— Было! Там было мужык! Станіслаў Вярбіцкі і Пауль Квітун.

— Ага...— Беразоўскі насцярожыўся.— Хіба яны капалі бульбу?

— Найн! Яны не капалі бульба.

— Не ведаю, пан Гендарсан, чым я вам магу памагчы...

Гендарсан ужо зразумеў, што ад яго трэба. Ён мнагазначна зірнуў на ўрадніка і прылажыў руку да кішэні. Беразоўскі зрабіў выгляд, што не зразумеў яго жэсту.

— Пан урадніх... Ужо ест пара... як гэта? Снедаць! У мяне ест такая старая старка! Така-ая стара-ая!

Беразоўскі ўсміхнуўся.

— Ну, што ж! — сказаў ён.— Снедаць пара, але ваша старка падобна на хабар, таму я запрашаю вас на снеданне да мяне.

Гендарсанава старка і сапраўды аказалася добрая. Не горшая была і вяндліна, якую прывёз аканом. Калі Беразоўскі выпіў, у галаве яго стала значна святлей, чым да снедання. А калі Гендарсан у канцы снедання даў яму дваццаць пяць рублёў, урадніку ўсё стала зразумела. Ён падумаў, узважыў усё і вырашыў выехаць на месца сам. Неабходна было ўведаць абставіны ў маёнтку, што там зрабілася, высветліць, хто ж там завадатар. Тут ён успомніў пра Шымкевічаў, пра Якава Шэмета, пра Хаіма Ножыка і Сымона Ашакевіча. Што ж, калі не тое, то іншае! Ён павінен дзейнічаць, гэта яго прамыя абавязкі. Можа знойдзецца хоць маленькі павадок, за які можна будзе ўзяцца, цягнуць яго і памалу разблытваць. Можа нешта і разблытаецца. Ён сказаў Гендарсану ехаць дамоў і паабяцаў, што выедзе ўслед за ім.

Тым часам жыццё ў маёнтку цякло сваім парадкам. Парабкі выйшлі на работу кожны на сваё месца. Стары Кірыла Верабей яшчэ на цямку паведаміў некаторым, што немец паехаў у Старочын. Першыя ўведалі пра гэта конюхі, якія прыйшлі карміць і паіць коней. Яны і разнеслі гэтую вестку па ўсім маёнтку. Аратыя, што разворвалі бульбу, паехалі на зябліва. Здавалася, што нічога не адбылося, але нейкая незвычайная ціш і трывога адчуваліся ўсюды. Не чуваць было аканомавага голасу.

Станіслаў Вярбіцкі і Павел Квітун канчалі рамонт машыны. Сёння яны працавалі моўчкі, зрэдку перакідваючыся словамі. Платон Шабуня, які астаўся без работы, прыйшоў да іх. Яму загадалі падкручваць гайкі, і ён іх падкручваў дзе трэба і дзе не трэба.

— Чым жа кончыцца ўся гэта музыка? — запытаў ён нарэшце.

— Ты пра што?

— Ды пра тое, што Гендарсан паехаў у Старочын.

— Паглядзім, калі ён прыедзе,— адказаў Вярбіцкі.

— Няўдала выйшла,— прамовіў Платон.— Сёння не трэба было выходзіць на работу, а забастоўку абвясціць. Як рабочыя. Патрабаваць большай платы ўсім парабкам, а не толькі за капанне бульбы. А хіба ў нас людскія кватэры?

— Сёння пра гэта памаўчы, Платон,— адказаў Станіслаў.— Ты разумееш, што, перш чым абвясціць забастоўку, трэба падрыхтавацца. А ў нас народ не гатовы.

— Дык трэба рыхтавацца,— перабіў Платон.— Сядзім, як вераб'і ў веніку.

— А хто гэта павінен рыхтаваць людзей? — запытаў з усмешкай Павел.

— Ты! Вярбіцкі! Мне загадайце!

Станіслаў і Павел пераглянуліся.

— Якое мы маем права табе загадваць? Што гэта з табой сёння?

— Ага... значыць, мне вы не верыце... А я даўно ведаю, Павел, і пра Стася, і пра цябе, і пра Якава Шэмета... Я думаў, вы мяне не будзеце мінаць. Выходзіць што я не патрэбны...

— Сціхні, дурань! — горача прамовіў Стась, абхапіўшы за плечы Платона.— Патрэбны! Даўно хацелі табе сказаць...

Каля дзвярэй пачуліся крокі, і на парозе з'явіўся Міхаль Рожка.

— Аканом прыехаў,— паведаміў ён.

Гендарсан сапраўды прыехаў са Старочына, але са стайні накіраваўся проста дамоў, не заходзячы нікуды. Ён чакаў Беразоўскага, і той хутка з'явіўся са стражнікам Макаром.

Беразоўскі спыніўся ў канторы і даслаў стражніка па Гендарсана. Калі абодва з'явіліся, ён загадаў Макару паклікаць Станіслава Вярбіцкага і Паўла Квітуна, а сам прыняў такі начальніцкі выгляд, што Гендарсан крыху спалохаўся.

— У вас ёсць такое памяшканне, куды можна пасадзіць арыштаваных?

— Ест... Ест, панураднік!..

— Дзе яно?

— А во тут, пан ураднік. Пакойчык для касы. Такі малы і з малым аконцам.

— Краты на акне ёсць?

— Ест, пан ураднік.

— Пакажыце.

Гендарсан правёў Беразоўскага ў другі пакой і паказаў абітыя жалезам дзверы, на якіх вісеў замок.

— Адамкніце.

Гендарсан адчыніў дзверы. Беразоўскі зайшоў у пакой, агледзеў усё, пакратаў рукамі акно і жалеза на ім, сказаў «добра» і выйшаў.

У канторы іх чакалі Вярбіцкі, Квітун і стражнік. Беразоўскі з імі не павітаўся. Ён даў знак Макару, і праз хвіліну Вярбіцкі і Квітун апынуліся ў тым самым пакоі, які нядаўна ўраднік аглядаў. Гендарсан адразу павесялеў. Беразоўскі пасадзіў яго на крэсла супроць сябе, пачаў допыт па ўсіх правілах і паказанні запісаў у пратакол. Калі Гендарсан падпісваў той пратакол, рука яго дрыжала.

Стражнік Макар тым часам прывёў з Чыжэвіч Агапу Аўсянік. Беразоўскі зірнуў на яе і зразумеў, што ад гэтай жанчыны не даб'ецца таго, чаго хоча. Старая — бітая, хітрая, яе на мякіне не правядзеш.

— Хто цябе падвучыў падымаць у канторы бунт?

— Які бунт? Не ведаю я ніякага бунту.

— Учора вечарам, от тут у канторы.

— То які ж гэта бунт? А што немец ашукаў нас, то хіба гэта няпраўда?

— Каго гэта «нас» ашукаў немец? І які немец? Ён аканом пана Крупскага.

— Злодзей ён у пана Крупскага, а не аканом. Ён і ў пана крадзе, і з нас шкуру лупіць. Заробленага не аддае.

— Ён з вамі ўчора хацеў разлічыцца.

— Але, хацеў. І сёння хоча разлічыцца па дзесяць капеек за дзень. А мы ішлі на работу за пятнаццаць. Так і дамаўляліся.

— Усе гады выбіральшчыцам плацілі па дзесяць капеек. Чым жа гэты год не такі?

— А хіба вы не ведаеце, што цяпер усё падаражала! За дзесяць капеек паркалёвай хусты не купіш.

— А чаму ты крычала: «Заб'ём немца»?

— Не, я гэтага не гаварыла. Я гаварыла, што ён ашуканец.

— А хто крычаў: «Заб'ём немца»?

— Я гэтага не чула.

— От бачыш, як ты хлусіш. А я маю паказанні некаторых жанчын, што гэтыя словы выкрыквалі Станіслаў Вярбіцкі і Павел Квітун.

— Перахрысціцеся, пане ўраднік! Я іх і ў канторы не бачыла.

— Ты іх не бачыла ў канторы?

— Не.

Беразоўскі прымаў усе захады, каб выціснуць з жанчыны што-небудзь істотнае, і нічога не дабіўся. Ён лаяўся, гразіў, абяцаў арыштаваць і згнаіць у турме, спрабаваў купіць ліслівасцю, прасіў, але Агапа стаяла на сваім.

— Ніколі я не думала, паночак, што за маю работу ды мяне яшчэ па допытах будуць цягаць. Як быццам я зладзейка якая.

— Падпішыся! — загадаў ёй выведзены з сябе Беразоўскі.

— Я не ўмею пісаць.

— Пастаў крыж.

— Не буду я і крыжа ставіць. Я не ведаю, што вы пісалі.

— Я прачытаю.

— Калі на тое пайшло, то скажу: не веру я вам, паночак.

— Я цябе пасаджу!

— Садзіце, мне ўсё роўна.

— Вон! — зароў звар'яцелы Беразоўскі.

Калі Агапа выйшла, ён напісаў на пратаколе: ад подпісу адмовілася. Тады загадаў Макару прывесці Вярбіцкага і Квітуна. Ён чакаў іх, стоячы за сталом, прыняўшы глыбакадумны выгляд. Станіслаў ведаў гэтых надзьмутых архангелаў, смела падышоў да стала і рашуча заявіў:

— Вы, гаспадзін ураднік, не мелі права арыштоўваць нас, не прад'явіўшы абвінавачання. Мы пратэстуем.

— Гаварыце толькі за сябе, Вярбіцкі,— адрэзаў Беразоўскі.— Я вас не арыштоўваў, а толькі ізаляваў на некаторы час. Я спачатку зраблю ў вас вобыск, а тады

прад'яўлю абвінавачанне і арыштую. Макар! Прывядзі двух панятых.

— Каго, гаспадзін ураднік?

— Першых, каго сустрэнеш.

Павел Квітун разгубленымі вачыма зірнуў на Станіслава. Той не зразумеў гэтага позірку, але трывога закралася ў яго сэрца.

Няўжо ў Паўла не ўсё ў парадку?.. А можа ён проста спалохаўся...

Першымі сустрэчнымі аказаліся Міхаль Рожка і Кірыла Верабей.

...У хаце Вярбіцкага паслужлівы Макар перавярнуў усё дагары нагамі, але нічога падазронага не знайшоў, пра што і было запісана ў пратаколе вобыску.

У пакоі, дзе жыў Павел Квітун, быў толькі Платон Шабуня. Ён сядзеў у споднiках, а штаны трымаў у руках і прышываў да іх латку.

— Ты што? — крыкнуў на яго Макар.— Надзявай штаны!

— Я ж яшчэ латкі не прышыў!

— У яго што? Няма цара ў галаве? — не звяртаючыся ні да кога, запытаў ураднік.

— Так, гаспадзін ураднік,— ахвотна адказаў сам Платон.— Няма ў цара ў галаве і жонкі таксама няма. Сам дзіркі зашываю.

Беразоўскі зірнуў на яго [illegible] падазрэннем.

— Маўчаць, хамула! Жыва адзявайся! Макар! Прыступай да справы!

Павел адамкнуў свой куфэрак. Макар пачаў выкладаць [illegible] яго парабкоўскі скарб: бялізну, ручнік, святочныя штаны і іншую дробязь. Аглядзелі пасцель, памацалі падушку і сяннік. Беразоўскі задумаўся.

— Ну, жартаўнік! Адчыняй свой куфар! — загадаў ён Платону.

Платон выканаў яго загад так ахвотна, нібы толькі і чакаў гэтага.

Беразоўскі зразумеў, што даў маху. Ён нават не зірнуў на Платонавы рэчы і ўжо канчаў пісаць пратакол вобыску, калі раптам яго ўвагу прыцягнула печ. І ён аддаў загад Макару абшукаць яе. Павел адчуў, што кроў адлівае ад яго твару і млявасць падкочваецца да сэрца. Ён адвярнуўся.

Макар палез на печ, нічога там не знайшоў. Потым

злёз, адчыніў яе, выграб попел, адсунуў юшку і засунуў у комін качаргу. Пуста было ўсюды. Павел не верыў сваім вачам...

— Скажыце, Вярбіцкі, чаго вы былі ў канторы ўчора вечарам, калі пан Гендарсан пачаў разлічваць рабочых?

— Я хацеў атрымаць за жонку грошы.

— За жонку? Ваша жонка капала бульбу?

— Але, гаспадзін ураднік, капала. Калі аканом назначыў цану пятнаццаць капеек за дзень, то яна пайшла капаць.

— Хм... Вы прывілеяваны рабочы. Хіба вам не хапае грошай?

— У абрэз, гаспадзін ураднік.

— Чаму не пайшла атрымліваць грошы сама жонка?

— Яна прыйшла [redacted] работы стомленая і пачала гатаваць вячэру.

«Гэтага сукінага сына не саб'еш»,— падумаў ураднік.

— Хм... А чаго ў той час быў у канторы Павел Квітун?

— Ён прыйшоў са мной, гаспадзін ураднік. Мы збіраліся выпіць пасля лазні. Яна ў нас рэдка бывае, а ўчора акурат была для мужчын. От мы і падумалі атрымаць грошы, узяць у Арлоўскага паўкварты і выпіць.

— Хто ўзняў беспарадкі ў канторы?

— Аканом Гендарсан, гаспадзін ураднік.

— Што? — зароў Беразоўскі.— Я вас навучу жартаваць!

— Я не жартую, гаспадзін ураднік. Беспарадкі ўзняў аканом. Ён пачаў выплачваць работніцам не па пятнаццаць, а па дзесяць капеек за дзень.

— Мне гэта вядома, чорт вас вазьмі! Вы павінны сказаць, хто крычаў «Заб'ём немца»! Хто выбіў акно і патушыў лямпу?

— Гаспадзін ураднік! Ніхто не крычаў «Заб'ём немца». Ашуканцам яго называлі, бо так яно і ёсць. Гендарсан ашуканец.

— Маўчыце! Я не пра гэта ў вас пытаю!

— Дык чаго ад мяне хоча гаспадзін ураднік?

— Давайце паказанні! — крыкнуў ураднік.

— Я іх даю.

— Хто разбіў акно і патушыў лямпу?

— Я да гэтага і вяду, гаспадзін ураднік. У канторы сабралася столькі людзей, што не было дзе павярнуцца. Гендарсан не плаціў рабочым два тыдні. Прыйшлі ўсе, хто працаваў за гэты час. У такой цеснаце шкло проста выціснулі локцямі. У дзірку шугануў вецер і патушыў лямпу. Гендарсан гэта скарыстаў, бо яму не было дзе дзецца. Яму трэба было або плаціць па дамоўленасці, або ўцякаць. І ён, калі патухла лямпа, уцёк, як злодзей, праз акно.

«А ён праўду кажа, сукін сын,— падумаў ураднік.— Немец, напэўна, і ў штаны напусціў...»

— Як лоўка ў вас усё выходзіць!

— Бо так было, гаспадзін ураднік. Я нічога не выдумаў.

— Вы ведаеце Якава Шэмета?

— Шэметаў у Чыжэвічах шмат, і Якаў з іх не адзін.

— Таго Шэмета, што працуе ў Яўхіма Халусты ў Малінаўцы.

— Ведаю. Ён працаваў у маёнтку тры гады назад.

— Ён часта бывае тут?

— Часамі бывае.

— І да вас заходзіць?

— Вядома. Мы старыя знаёмыя.

— Сябры?

— Не. Я старэйшы і жанаты, ён малады і халасты.

— Гэта сяброўству не замінае... А чаго ён тут бывае?

— Не ведаю, гаспадзін ураднік. Па нядзелях тут бываюць вечарынкі. Напэўна, на вечарынкі ён і прыходзіць. Да дзевак.

— З кім ён сябруе, акрамя вас?

— Гэта мне невядома.

— З Паўлам Квітуном, напрыклад?

— Не ведаю. Запытайце ў яго.

— У нас ёсць дадзеныя, што ён сацыял-дэмакрат і праводзіць тут крамольную агітацыю.

— У мяне такіх дадзеных няма, гаспадзін ураднік. Я не разбіраюся ў такіх справах.

Беразоўскі закурыў і пачаў думаць. Не! Нічога ён

тут не даб'ецца. А нешта падсвядомае падказвала яму, што ён ходзіць-бродзіць каля нечага важнага, але пады́сці да яго не можа, не можа злавіць павадка, а ён жа вось тут, блізка...

Ад Паўла Квітуна Беразоўскі таксама нічога не дабіўся.

Вечарэла. У канторы стала зусім змрочна. У вокны пырскаў халодны дождж. Буйныя плямы расплываліся па шкле, і Беразоўскаму стала бясконца сумна. Ён адчуў, што страшна замарыўся, прагаладаўся і змерз. Даслаў Макара па Гендарсана, а сам, ускінуўшы наапашкі шынель, пачаў хадзіць па канторы ад сцяны да сцяны. Розныя думкі прыходзілі ў галаву. Аставацца на ноч у маёнтку не было патрэбы. І наогул да Гендарсана заходзіць і не трэба і няможна. Што для яго тут зрабіў ён як ураднік? І нічога і многа. Работа тут толькі яшчэ пачынаецца, ён гэта адчуваў. Можа трэба было спачатку зрабіць вобыскі ў Вярбіцкага і Квітуна? Цікавы і, мабыць, небяспечны тып той штукар, што сядзеў без штаноў. Як яго прозвішча? Ён зірнуў у пратакол вобыску. Платон Шабуня. «Няма ў цара ў галаве»... Сукін сын!.. Паспрабуй прыдзярыся. Сам сказаў нешта падобнае: няма цара ў галаве... От мярзавец... Трэба заехаць да Арлоўскага, там пераначаваць і пагаварыць. Гэты Бессмяротны Кашч ведае ўсіх людзей навокал. Такі павук... А заўтра? Заўтра ў Малінаўку да Халусты. Ён, «ліха ма-атары яго», разумнейшы і за Гендарсана і за Арлоўскага. Што за суб'ект гэты Якаў Шэмет? Халуста сёе-тое падкажа...

Тым часам прыйшоў Гендарсан.

— Вось што, пан Гендарсан,— сказаў яму Беразоўскі.— Тое, што вы зрабілі, ужо зроблена. Я не буду прымушаць вас плаціць рабочым па пятнаццаць капеек за дзень, як вы ім абяцалі, хоць згодна тых паказанняў, якія я сёння атрымаў, і маю на гэта права...

Твар у Гендарсана выцягнуўся і пабялеў, вочы палезлі наверх.

— Можаце ніяк не плаціць. У суд на вас яны не пададуць, пісьмовых дакументаў у іх няма. Але тую бульбу, што асталася на полі ў фальварку Бярозаўцы, выбірайце як хочаце. Работніц з вёсак я не паганю на ваша поле. Не маю права. Цяпер не прыгонны лад.

Трэба ўмець нажываць грошы ў чужым маёнтку, пан Гендарсан. Вучыцеся, калі не ўмееце.

— А-а... гер урадпік...

— І заўважце! — Беразоўскі падышоў да аканома і паківаў пальцам каля яго носа.— Не рабіце беспарадку, бо вас я таксама не памілую. Беспарадкі будуць і без вашай дапамогі...

— Э-е.. гер ураднік...

— Загадайце, каб запрэглі нам каня. Ідзі, Макар, сам, ды пакладзі ў воз канюшыны. Загадай, каб насыпалі аўса. Мы ездзім не па сваёй справе.

Праз некалькі хвілін брычка з ураднікам і стражнікам пакацілася па дарозе ў сяло Чыжэвічы да Арлоўскага, які зусім не чакаў такіх гасцей.

...Павел не застаў дома Платона Шабуні. Ён зашчапіў дзверы на крук і кінуўся да коміна. Нелегальная літаратура — дзве тоненькія кніжачкі — павінна быць там, вышэй юшкі. Макар не знайшоў іх па сляпой выпадковасці. Не крануў качаргой, а то б яны ўпалі ў чалеснікі. Павел узлез на печ, выняў з коміна цагліну, усунуў у дзірку руку і абмацаў дымаход. Кніжак не было. «Што гэта такое? — аблііўшыся халодным потам, падумаў ён.— Што яны — расталі ці сатлелі? Печ не палілася ўсё лета, і яшчэ невядома, калі яе будуць паліць».

Павел залажыў на месца цагліну і злез з печы. У калідоры пачуліся крокі, і ён адшчапіў крук. У пакой увайшоў Платон. Ён зірнуў на Паўла, распрануў світку і сказаў:

— Памый рукі, дурань. Кніжачкі шукаў?

— Платон, ты?..

Платон усміхнуўся.

— А ты думаў — бог? Я адразу прыбраў іх, як вас ураднік паклікаў.

— Адкуль ты ведаў, што яны тут?

— Я дрэнна сплю, Павел, і два разы бачыў, як ты чытаеш пасля паўночы, а потым лазіш на печ.

— Пацалаваць цябе?

— Надзю сваю цалуй.

— Ах, Платон, Платон! Ты ведаеш, што ты зрабіў? Ты нас выратаваў.

— Глупства.

— Трэба Шэмету паведаміць... Ураднік пытаў пра яго. Ён можа туды заехаць, а ўсе кніжачкі ад Якава.

Платон махнуў рукой.

— Не трэба. Якаў не такі дурны, як ты. Ён такія рэчы ведае, дзе хаваць. Яны недзе ў Халуставых будынках ці на Халуставым агародзе схаваны. У Стася ж таксама не знайшлі, а ў яго, мабыць, не дзве кніжачкі. Ён во-опытны, а ты яшчэ не.

## РАЗДЗЕЛ ДВАЦЦАЦЬ ВОСЬМЫ

Адэля Арлоўская палажыла на падушку кнігу пра егіпецкую царыцу Клеапатру і маладога жраца, які закахаўся ў тую царыцу, і з тугой зірнула ў акно. На двары змяркала, ішоў дождж, шасцелі клёны і ліпы, атрасаючы пажоўклае лісце, булькала ў лужынах вада. Наставала пара доўгіх асенніх вечароў, падобных адзін на адзін, сумных да ачмурэння, калі Адэля не ведала, дзе сябе дзяваць... Яна баялася гэтай пары, але чакала яе, як нечага непазбежнага...

Каля вулічных варот стаяла служанка Мар'яна, ад дажджу ўскінуўшы на галаву пусты мех, і чакала з поля кароў. Вунь яны ідуць, чацвёра, адна ў адну, пярэстыя галяндэркі, а ззаду пляцецца пастушок Зміцер у цяжкім балахоне, мокры ад галавы да пят. Ён трымае ў руцэ пугаўё, а пуга, як доўгая тонкая змяя, цягнецца па гразі. Аб чым думае гэты асклелы хлапчук, чаго яму хочацца? Напэўна, хутчэй узлезці на цёплую печ, сагрэцца і заснуць. Есці яму таксама хочацца, але пакуль Мар'яна падоіць кароў і збярэцца яго накарміць, ён засне...

Мар'яна адчыніла вароты, каровы ўвайшлі ў двор. Зміцер босымі нагамі пашлёпаў за імі. Служанка пабегла заганяць кароў у стойлы, а пастушок зайшоў у кухню. Адэлі не чуваць, што ён там робіць, але яна ведае, што ён распранае набрынялы балахон, вешае яго на цвік каля печы і хукае на чырвоныя рукі, якія ад холаду не хочуць згінацца... Як добра ўсё гэта вядома Адэлі і як усё ёй надакучыла. Яна са злосцю думае пра тоўстую рыжую служанку, якая спіць з яе бацькам і таму больш адчувае сябе гаспадыняй, чым Адэля.

Усё ёй абрыдзела ў гэтым доме. Абрыдзеў сам дом, непрапахлы наскрозь сівухай. Яна пайшла б адсюль немаведама куды, абы знайшоўся чалавек, які ўзяў бы яе за руку і павёў. Але такі чалавек не знойдзецца. Залатыя дзянькі прайшлі і канулі ў нябыт. Маршчынкі, як павуцінне, сабраліся ўжо каля вачэй. Яшчэ годдва — і яны збяруцца каля вуснаў. Старая дзеўка... Адэля баялася падыходзіць да люстэрка. Адтуль на яе пaглядаў не дзявочы, а жаночы твар... А ці даўно Андрэй Сташэвіч гатовы быў аддаць за яе жыццё! Як ён любіў яе! Ды ён бы насіў яе на руках, каб яна хоць крышку схілілася да яго... І цяпер яна была б не старая дзеўка, а маладая жанчына. І нідзе не падзеўся б стары бацька, Андрэй даў бы яму рады! Вылецела б рыжая Мар'яна з гэтага дома як куля. Тады яны прадалі б Андрэеву і бацькаву зямлю і купілі б невялікі фальварак. Бацька памог бы. У гэтага скупога чалавека многа грошай... Скупога... «Кашча Бессмяротнага»... Вось як празвалі людзі яе бацьку. Адэлі стала сорамна, што яна так думае пра самага роднага чалавека... Самага роднага! Але ж ён, гэты самы родны чалавек, загнаў у труну яе маці. Ён не даваў ёй жыць сваёй неймавернай скнарасцю, ён замарыў яе голадам. Ён ніткай вымяраў хлеб, каб маці не адрэзала без яго ведама лішні кавалак, і калі яна ўсё-такі адразала — біў яе без жалю. Ён усё трымаў пад замком і насіў у кішэні паўпуда ключоў, гэты няшчасны Плюшкін, гэты злы, жорсткі, бязлітасны чалавек, якога цяпер трымае ў руках, як у абцугах, рыжая Мар'яна. Яна забрала ад яго ключы і распараджаецца ўсім, акрамя грошай. Як ненавідзела ў гэтую хвіліну Адэля свайго бацьку! Ён, калі памерла маці, забраў яе з гімназіі: шкада было плаціць грошы, каб трымаць дачку ў горадзе. Яна магла б стаць настаўніцай або акушэркай і быць незалежнай, а цяпер хто яна? Гэта праз яго яе ніхто не ўзяў замуж, ніхто не сватаецца, ніхто не гоніцца за яе пагасам. Бо ніхто не верыць, што Кашч Бессмяротны дасць за дачкой нейкі пасаг... Ашукае, сукін сын, як і заўсёды ўсіх ашуквае...

Арлоўскі ўвайшоў у пакой, пастаяў каля стала, памыляў тонкімі губамі, зірнуў на лямпу, што вісела пад столлю, хацеў зняць яе, але, мабыць, падумаў, што яшчэ рана і няма чаго дарма паліць газу. Адэля нават не адвярнулася ад акна.

На дварэ ўжо зусім змерклася. Нехта на брычцы пад'ехаў да варот і спыніўся. З брычкі саскочыў чалавек і адчыніў вароты.

— Татусь! Да нас нехта прыехаў,— сказала Адэля.

— Мо Сымон Ашакевіч са Слуцка... Але яму рана яшчэ.

— Не, не Ашакевіч... На брычцы...

«Сваты»,— падумала Адэля і кінулася ў свой пакой. «Няйначай, сваты... Наваражыла, стоячы ля акна...» Трэба было прывесці сябе да парадку, перадзецца, знішчыць гэтыя праклятыя павуцінкі, што збегліся каля вачэй.

Арлоўскі запаліў лямпу.

— Добры вечар, пане Арлоўскі! — пачуўся ад парога вясёлы голас.

— Добры вечар, пане Беразоўскі, добры вечар... Чаго вы там сталі?

— Я не адзін, пане Арлоўскі, са мной стражнік. Ён каня выпрагае. Як сабе хочаце, а мы ў вас заначуем. Надвор'е такое, што, пакуль да Старочына дабярэшся, зусім раскіснеш. Мо б вы паказалі, куды паставіць каня, ды і брычку трэба некуды ўвапхнуць.

— А мы яе ў гумно... Я зараз... І каню месца знойдзем.

Арлоўскі, шорхаючы нагамі па падлозе, пайшоў з хаты. «Знайшоў месца, дзе начаваць, каб цябе зямля не насіла... Тут табе і наварана і напарана... А каню аўса насып ды канюшыны пакладзі... Ды яшчэ ўдвух са стражнікам...»

Беразоўскі тым часам распрануўся, адчыніў дзверы ў кухню, аддаў вопратку Мар'яне, загадаў яе высушыць, а сам падышоў да люстэрка і прычасаўся.

«Хм... у гэтым доме не любяць чужых людзей,— падумаў ён.— Каб я быў не ўраднік, а проста Беразоўскі, то гэты сукін сын Бессмяротны не пусціў бы мяне і на парог. Але рамязовачка, пане Кашч, трымае цябе ў маіх руках».

З суседняга пакоя адчыніліся дзверы, і ў іх паказалася галоўка Адэлі.

— Ах!.. Гэта вы, пане Беразоўскі!.. А я думала — хто там гаворыць з татусем...

— Гэта я, панна Адэля, гэта я ўласнай персонай!

Адэля была расчаравана. Нічога яна не наваражыла, стоячы ля акна. Беразоўскага яна не чакала. Гэты

жаніх не ўпершыню заязджае да яе бацькі. У іх свае справы, якіх Адэля не ведае.

— Проша, проша, панна Адэля. Чаго вы стаіце ў дзвярах? Вы, як відаць, баіцеся мяне. Хіба я такі страшны?

Адэля ўвайшла.

— Вы ўраднік, пане Беразоўскі, от у чым справа,— адказала яна картавячы.

«Навошта яна так гаворыць? — падумаў Беразоўскі.— Усё яшчэ ўяўляе сябе дзяўчынкай».

— Я не толькі ўраднік, панна Адэля. Я, акрамя ўсяго, і мужчына.

— І прытым цікавы.

— Ого! Упершыню чую камплімент у свой адрас.

— Бо ад вас жа не дачакаешся...

— Я зусім ачарсцвеў на гэтай праклятай рабоце.

— Не апраўдвайцеся. Лепш скажыце, што вас занесла ў наш бок?

У галаве Беразоўскага імгненна з'явіўся цікавы адказ.

— Я прыехаў, панна Адэля, сватацца да вас.

Адэля недаверліва засмяялася.

— Вы, аказваецца, жартаўнік... А дзе ваш сват?

— Распрагае каня. Сват нецікавы, панна Адэля. Стражнік Макар... Каго можа ўзяць за свата ўраднік? Ды нашто той сват! Хіба мы з вамі не паразумеемся самі?

«А чаму і не пасватацца! — думаў у гэты час Беразоўскі.— Што я трачу? Нічога. А для карысці справы можа і прыдасца».

У пакой усунуўся Макар.

— Усё ў парадку, гаспадзін ураднік,— паведаміў ён.

— Добра, Макар. Ідзі на кухню, распраніся. Выбачайце, панна Адэля, я на адну хвілінку.— Ён вывеў стражніка на двор і шапнуў яму: — Ты, Макар, у пакой не лезь! Ацірайся на кухні. Забаўляй гэтую рыжую Мар'яну. Няхай трохі пашалее Кашч.

Макар па-змоўніцку ўхмыльнуўся.

— А чарка табе будзе... Мне, бачыш, трэба намацаць адну рэч...

— Зразумела, гаспадзін ураднік!

Адэля не то каб сур'ёзна прыняла словы Беразоўскага аб сватанні, але ёй прыемна было іх пачуць. Яна

ахвотна памагала Мар'яне гатаваць вячэру, слухала не зусім прыстойныя жарты Макара, які па-сапраўднаму «аціраўся» каля рыжай служанкі, калоў трэскі на падпалку, сек мяса і, стаўшы ракам, дзьмуў у пліту, каб лепш гарэла, і не забываў пры гэтым ушчыкнуць Мар'яну.

Тым часам Беразоўскі і Арлоўскі ўдвух сядзелі ў пакоі і вялі размову.

— Я не трымаю парабкаў, пане Беразоўскі,— гаварыў сядзелец,— гэта такая прорва, што яе нічым не здаволіш. Я наймаю людзей на пару: на сяўбу, на сенакос, на жніва. Малатарня ў мяне свая. От найму на тыдзень малацьбітоў і ўсю пашню ссыплю ў свіран, а людзей разлічыў — і ідзіце вы да д'ябла. А пузні найму сена вазіць.

«Ты разлічваеш, Кашч,— падумаў Беразоўскі.— Ведаю, як ты разлічваеш. Некаторыя табе за чарку робяць па году».

— А гэты герман, пане Беразоўскі, то каб яго зямля не насіла. Такі злодзей, што свет не бачыў. Ён скора маёнтак купіць...

«Зайздросціш, Бессмяротны»,— канстатаваў ураднік.

— Я не зайздрошчу,— прамовіў Арлоўскі, нібы адгадаўшы думку Беразоўскага.— Я сам жыву, слава Езусу, не горш за другіх людзей, хоць ні ў кога нічога не краду, а гэты герман больш крадзе ў пана Крупскага, чым у парабкаў.

— Гэта не наша бяда, пане Арлоўскі. Няхай сам пан Крупскі яго і зловіць. А от з парабкамі зусім іншае... Справа ў маёнтку даходзіць да бунту.

— Бо свет такі настаў, пане Беразоўскі. Баламуцяцца людзі. Не толькі ў маёнтку, усюды. У сяле хлопцы пачалі галовы задзіраць. Мяне, пся крэў, лаюць, рабаўнікам завуць ды жываглотам...

«Не толькі так»,— адзначыў сам сабе Беразоўскі.

— Баламутаў развялося, каб іх зямля не насіла... Буржуяў выдумалі... Я таксама буржуй... Ён, пся косць, прапівае ўсё, а я не, дык за гэта я буржуй! Цар ім ужо не патрэбен, скора і да пана бога дабяруцца.

Беразоўскі насцярожыўся. Гаворка набывала патрэбны яму напрамак.

— А хто гэта такі разумны?
— Ёсць у сяле! Вунь Марцін Крываблоцкі, фельчар такі, прабачце, проша пана, зас..., дык ён «Ведамасці» чытае. Хаму і грамата не ў карысць...
— Дык кажаце, пане Арлоўскі, што яму ні цар, ні бог не патрэбны?
— Бог не патрэбен, а з папом Сулкоўскім гарэлку п'е... Прабачце, проша пана, а нашы ксяндзы такога сабе не дазваляюць.
Беразоўскі слухаў і матаў на вус. Сэрца яго калацілася ад радасці. Ён ніколі не думаў, што пачуе такое. Вось хто дасць яму ў рукі тыя нітачкі, якія ён не мог схапіць у маёнтку. Кашч Бессмяротны! Трэба толькі не перабіваць яго, а даваць напрамак гаворцы.
Арлоўскі тым часам гаварыў:
— Поп, пся крэў! Штодзень да мяне па гарэлку пасылае, а грошы то не вельмі хоча плаціць. Ды такі ўжо і вінаваты бутэлек за пяць.
— Можа і яму ні бог, ні цар не патрэбны? — асцярожна запытаў Беразоўскі.
— Пра гэта не ведаю, пане ўраднік.
— Ды не завіце мяне ўраднікам! — прытворна абурыўся Беразоўскі.— Мы ж свае людзі!
— Прабачце, проша пана. Не ведаю, пра што яны гавораць удвух, а Крываблоцкі то ўсё пра вайну талкуе ды пра мужыцкія бунты. А мужыкам што? Слухаюць, радуюцца...
— Выбачайце, што я вас пераб'ю... Можа ён заклікае мужыкоў ушчаць бунт? У маёнтку ж ушчалося не з парабкаў, а з мужыкоў. Нейкая, даруйце... э-э... Агапа Аўсянік пачала.
— То гэта ж яго родная сястра!
Беразоўскі ледзь стрымаўся, каб не ўскрыкнуць ад радасці.
— Сястра Марціна Крываблоцкага?
— Родная сястра, пане Беразоўскі.
У Беразоўскага проста рукі свярбелі. Яму хацелася па-сапраўднаму дапытаць Арлоўскага, запісаць яго паказанні ў пратакол, але ён адкінуў гэтую думку. Звычайна ў такіх выпадках кожны чалавек насцярожваецца, замыкаецца ў сабе і становіцца скрытным; з яго трэба выцягваць літаральна кожнае слова. Ён быў упэўнены, што Арлоўскі ў прыватнай размове скажа яму больш, чым сказаў бы пры афіцыйным допыце.

— Вы кажаце, пане Арлоўскі, што Крываблоцкі п'е. На гэта патрэбны грошы. Ён, напэўна, у маёнтку ў сваіх сяброў спірытус дастае.

— Гэтага не скажу, пане Беразоўскі. Гарэлкі то яму хапае. Ён жа фельчар, да хворых яго завуць і пояць.

— Не кожны ж дзень яго завуць да хворых! Мабыць, яму носяць спірытус з маёнтка. Сябры ж там у яго ёсць!

— Не ведаю, пане Беразоўскі, якія там у яго сябры. Ходзіць адзін да яго пляменніцы, Пракопавай дачкі.

Беразоўскі ажывіўся.

— А хто ён такі, пане Арлоўскі?

— Нейкі Квітун. На бровары ён робіць.

— Ну, от бачыце! Робіць на бровары! І як яго завуць, гэтага... гэтага... Квітуна?

— Э-э-э... Пся крэў... памяць адабрала...

— Ці не Павел?

— Так, так! Павел! Павел Квітун!

«Вось адкуль вецер дзьме! — захліпваючыся ад радасці, падумаў Беразоўскі.— Нітачкі, нітачкі! Саўюцца яны ў вяровачку».

— Ну, пане Арлоўскі! Я проста дзіўлюся! Адкуль вы ўсё гэта ведаеце? Памяць у вас адменная.

— Адкуль я ведаю? У мяне штодзень людзі. Збяруцца п'яніцы, па чарцы, па другой вып'юць, і калі пачнуць гаварыць, то толькі слухай. Я, пане Беразоўскі, ведаю ўсё, што робіцца не толькі ў Чыжэвічах і маёнтку, але і ва ўсіх суседніх вёсках.

— Залаты вы чалавек...

Гаворку іх перапыніла Адэля. Яна ўвайшла ў пакой, пяшчотным позіркам акінула Беразоўскага і паведаміла на сваёй птушынай мове:

— Вячэра гатова. Прашу, панове, адсунуцца ад стала, мы будзем збіраць вячэру.

Беразоўскі адсунуўся разам з крэслам, на якім сядзеў, а Арлоўскі падхапіўся з месца, пашкроб патыліцу і пайшоў у кухню. Пакуль ён вярнуўся, стол быў застаўлены. Адэля запрасіла Беразоўскага сесці і запытала не без яхідства:

— А што рабіць з вашым сватам, пане жаніх? Можа паклікаць сюды?

— Паклапаціцеся, панна Адэля, каб яму на кухні

ўсяго хапала,— з сур'ёзнай мінай адказаў Беразоўскі.— Мы дамовімся і без яго.

Вярнуўся Арлоўскі і паставіў на стол бутэльку.

— Пане Арлоўскі! — сказаў Беразоўскі, устаўшы з месца.— Вы мяне так загаварылі, што я не паспеў сказаць, чаго я да вас прыехаў. Я асмеліўся прыехаць у сваты да вашай дачкі. Панна Адэля ведае. Калі вы не прымеце мяне як жаніха, то скажыце пра гэта адразу. Тады мы проста павячэраем і не будзем пра гэта гаварыць.

Арлоўскі стаяў як аглушаны, вылупіўшы вочы. У яго аднялася мова. Ён памыляў губамі і сказаў не сваім голасам:

— Я не ведаю, пане Беразоўскі... Мы ж каталікі, а вы праваслаўны...

Адэля зірнула на бацьку так, нібы гатова была рынуцца на яго як коршак.

— Гэта глупасная прычына, пане Арлоўскі,— сказаў Беразоўскі, усміхаючыся.— Калі вы дасце згоду, а панна Адэля не адмовіцца стаць маёй жонкай, то п'яніца Сулкоўскі жыва перахрысціць яе ў праваслаўную веру. Я, пане Арлоўскі, знаходжуся на дзяржаўнай службе, і мне нельга мяняць веру, якая прызнана дзяржаўнай у імперыі.

І нават Адэля не зразумела, сказаў ён гэта сур'ёзна ці пажартаваў.

— Садзіцеся, садзіцеся, пане Беразоўскі,— захліпаючыся, як тапелец, прамовіў Арлоўскі.— Вы маеце рацыю... Мы пагаворым...

Усе селі за стол, але тут адбылася невялікая падзея, якая на нейкі час спыніла вячэру. Прыехаў са Слуцка Ашакевіч з таварам, і Арлоўскі вымушаны быў прыняць гэты тавар.

— Пся крэў...— сказаў ён.— Не мог ён прыехаць раней або пазней.

— Нічога. Мы пачакаем вас,— сказаў ураднік.

Калі Арлоўскі знік за дзвярыма, Беразоўскі падышоў да Адэлі, узяў яе руку і паднёс да губ. Адэля вырвала руку і сказала з гневам:

— Скажыце, подлы вы чалавек, нашто вам гэтая камедыя? Можаце жартаваць са мной, паліцэйскі чыноўнік на дзяржаўнай службе, але нашто ўмешваць сюды майго бацьку!

Беразоўскі зірнуў на яе са здзіўленнем, якое межа-

валася з захапленнем. «А яна разумная дзяўчына! — падумаў ён.— Гэтага я не чакаў... І прыгожая, хоць і стараватая... А я хіба маладзён...»

— Клянуся вам, панна Адэля,— горача прамовіў ён,— што калі спачатку я і пажартаваў, то цяпер гэта зусім не жарт!.. Не злуйцеся, прашу вас... Гэта зусім не жарт!

— Вам патрэбен мой пасаг?

— Шчырасць на шчырасць: патрэбен. Але мне патрэбны і вы. І паверце, што хто б да вас ні сватаўся, акрамя мяне, то і яму патрэбен быў бы ваш пасаг. І можа толькі пасаг, а не вы...

— Не смейцеся!.. Вы не лічыце мяне не толькі дзяўчынай, але нават чалавекам...

— У тым і справа, што лічу. І дзяўчынай і чалавекам. І прытым разумным чалавекам. А то хіба я гаварыў бы з вамі так адкрыта? Я перад вамі так навыгінаўся б, так нахлусіўся б, што ачараваў бы вас.

— Абармот вы, аднак...

— Так няможна гаварыць жаніху, які будзе вашым мужам... Цяпер пра пасаг: хіба вы не адна дачка ў бацькі і не яго наследніца? Можа мне патрэбен не ваш пасаг, а ўся ваша гаспадарка. Што вы на гэта скажаце?

— Ах...— уздыхнула Адэля і схіліла галаву.

— Не бойцеся! — шапнуў ёй Беразоўскі.— Гэтую рыжую Мар'яну мы скора сплавім, замінаць нам яна не будзе.

Адэля падняла галаву.

Беразоўскі ўсміхнуўся.

— Я толькі паліцэйскі чыноўнік, панна Адэля.

Арлоўскі на гэты раз прыняў тавар вельмі хутка і без доўгай гаворкі разлічыў Сымона. Той не разумеў, у чым справа, і, развітаўшыся, выйшаў з сянец. На двары ўжо не было дажджу, праяснілася неба, поўны месяц адлюстроўваўся ў лужынах, асвятляў мокрую зямлю, будынкі, дрэвы, і чорныя цені ад іх лажыліся ў гразь. Пахаладнела. Мокры да касцей Сымон, выйшаўшы з цёплага памяшкання, скалануўся, агорнуты халодным паветрам. Яму хацелася пазяхаць, цела білі дрыжыкі. Ён завярнуў кабылу і ўжо збіраўся сесці на воз, калі раптам убачыў ладную постаць урадніка. Ён спачатку не паверыў сваім вачам, потым зразумеў, чаму яго без затрымкі разлічыў Арлоўскі. А Беразоў-

скі ўсміхнуўся, бліснуўшы зубамі, і, схіліўшыся над Сымонам, запытаў:

— А сёння, пане Ашакевіч, вы не сустрэлі братоў Шымкевічаў?

Сымон з нянавісцю зірнуў у вочы ўрадніку і адказаў:

— Сустрэў. Яны пыталіся, як жыве гэтая шэльма ўраднік, і абяцалі сустрэцца з ім.

Твар Беразоўскага перакасіўся ў пачварнай грымасе.

— Мярзотнік... Сукін сын...— прашыпеў ён.

Сымон не чуў яго слоў. Ён ускочыў на воз, сцёбнуў пугай кабылу, і яму адразу стала горача. «Што я нарабіў, што я нарабіў...» — думаў ён, разумеючы, што ўраднік яму гэтага не даруе.

## РАЗДЗЕЛ ДВАЦЦАЦЬ ДЗЕВЯТЫ

Сонца яшчэ толькі што ўзышло. Пасля ўчарашняга дажджу вільготная зямля дыхала халодным туманам, які нізка вісеў над апусцелымі паплавамі і палеткамі. Паветра стаяла нерухома, але калматыя слупы дыму, ледзь вырваўшыся з каміноў, прыгіналіся і сцяліся над стрэхамі. З дрэў капала халодная раса, і стаялі яны панурыя і асклелыя, маўклівыя і непрывабныя.

У Чыжэвічах наставала святочная раніца, і не было таго працоўнага руху, што пачынаўся тут кожны дзень і ў кожным двары яшчэ да ўсходу сонца. Заўважыў гэта нават ураднік Беразоўскі, што, сагнуўшыся і скурчыўшыся, увабраўшы рукі ў рукавы шыняля, сядзеў на брычцы, якая толькі выехала з двара Арлоўскага. Стражнік Макар на козлах трымаўся вальней і бравей. Рыжая Мар'яна сумела-такі ўпотай ад Кашча Бессмяротнага сунуць яму шклянку рамязоўкі. Але не адно гэта ўзнімала яго настрой. Учора ўвечары ён украў бутэльку казённай з-пад самага носа Арлоўскага. Цяпер гэтая бутэлька і сама грэлася ў яго запазухай і саграваладсэрца баявога стражніка. І не толькі яна саграваладяго сэрца.

Арлоўскі зачыніў за гасцямі вароты і крыкнуў наўздагон брычцы:

— Заязджайце, пане Беразоўскі! Не мінайце!

Беразоўскі нехаця павярнуўся назад і адказаў:

— Заедзем, заедзем, пане Арлоўскі! Не мінём!

А сам падумаў: «Сукін сын ты, Кашч! Паснедаць не даў, шэльма. А я ж такі да тваёй дачкі сватаўся...»

Брычка ехала па гразі, калёсы плюхаліся ў глыбокія калдобіны, конь ішоў размашыстай хадой, і пырскі з-пад яго ног ляцелі ва ўсе бакі. Беразоўскі сядзеў унурыўшыся і думаў. Каб ён паглядзеў на вясковыя хаты, то не ў адным акне ўбачыў бы твар, які праводзіў яго нядобрым позіркам. Але Беразоўскі не азіраўся на бакі. Ён думаў аб тым, што яго ўчарашні жарт са сватаннем быў вельмі ўдалы. І цікава тое, што справа міма яго волі абярнулася зусім не жартам. Выйшла так, што ён ашукаў не Кашча і яго дачку, а самога сябе. І ашукаў так, што сам быў здаволены. Эге! Дзе тут знойдзеш і багаты хутар і маладую прыгожую жонку — усё разам? Так не бывае! Калі ёсць адно, то няма другога... А гаспадарка ў гэтага Бессмяротнага найбагацейшая ў наваколлі, грошай у яго цэлы мех. Ніякай радні, акрамя адзінай дачкі. Пасля яго смерці ўсё астанецца ёй. Старавата будзе жонка? Не бяда! Ён і сам не малады. Але хіба можна сказаць, што яна непрыгожая або дурная? Не, гэтага не скажаш. І прыгожая, і разумная, і ў дадатак адукаваная. Гаворыць картавячы? Лёгка адвучыць. Раз-два, і гатова! Так загаворыць, што слухаць будзе люба!.. З другімі круцілася... Было! Сташэвіч з Малінаўкі ледзь розуму праз яе не страціў. Ну, гэты ад яе нічога не атрымаў. Другія былі... Але хіба мора ад таго стане паганае, што з яго сабакі пахлебчуць? Глупства... Ён і сам нямала пакруціўся. «Хе-хе-хе... — Беразоўскі ўсміхаўся сам сабе.— Як другі раз прыеду, то напушчу Макара на рыжую Мар'яну! Кашч Бессмяротны ўсшалее ад злосці і прагоніць яе». Не ведаўураднік, што Макар у гэтым напрамку ўжо сёе-тое зрабіў. Ён сам напусціўся на рыжую Мар'яну і меў немалы поспех.

Не трэба, аднак, думаць, што Беразоўскі вырашыў кінуць дзяржаўную службу і забыў пра свае абавязкі. Праз усе гэтыя прыватныя думкі, якія датычыліся яго ўласнай асобы, непрыкметным раўчуком цякла галоўная думка аб тым, што ён зрабіў у маёнтку, у Арлоўскага і што зробіць у Яўхіма Халусты. Куды яго прывядзе той клубочак, за нітачку якога ён ужо, здаецца,

ухапіўся? Ці будзе раскручвацца гэты клубочак і далей, ці заблытаецца?

Тым часам брычка выехала з сяла і кацілася цяпер па дарозе ў Malінаўку. Расчырванелы Макар сядзеў на козлах, расхінуўшы шынель. Раптам ён заспяваў:

Гэй вы, хлопцы-малойцы-ы,
Не кажыце маёй жонцы-ы,
Бо мая жонка ліхая-а.
Кулаком каля носу махая-а.

Беразоўскі прыўзняўся з месца і сунуў яму кулаком у спіну.

— Дзе ты напіўся, сукін сын?

Макар азірнуўся, выскаліў белыя, як рэпа, зубы і адказаў:

— Рыжая Мар'яна падсунула шклянку рамязоўкі, гаспадзінураднік. Моцная, як чорт...

— С-сук-кін сын! — з захапленнем прамовіў Беразоўскі.— Як ты скора пад'ехаў да яе!

— Яна даўно гатова была, гаспадзін ураднік. Хіба ёй не абрыдзеў гэты стары Кашч!! Цёплая бабка!

Ён прыязным, цёплым позіркам акінуў свайго асклелага начальніка, і ў п'яным яго сэрцы заварушылася нешта падобнае на спачуванне і жаласць.

— А вам і паснедаць не даў гэты абармот Бессмяротны.— Ён засунуў руку запазуху, выцяг адтуль бутэльку і падаў Беразоўскаму.— Выпіце, гаспадзін ураднік. Цяплей будзе. Ды і ў Халусты мы наўрад ці паснедаем.

Беразоўскі зірнуў на яго са здзіўленнем.

— І гэта Мар'яна табе падсунула?

Твар Макара расплыўся ў шырокай ухмылцы.

— Не, гаспадзін ураднік. Гэта я сам захацеў пакараць Кашча Бессмяротнага за яго сабачую скупасць. Піце, гаспадзін ураднік.

У душы Беразоўскага паднялася злосць на Макара. Ураднік у некаторай ступені ўжо лічыў сябе зяцем Арлоўскага. Значыць, стражнік абакраў і яго самога, пацягнуў з яго будучай гаспадаркі. Але калі ён зірнуў на бутэльку, злосць гэтая адразу выпарылася.

— Не магу я без закускі, Макар...— застагнаў ён.

— Га-га-га!

Макар дастаў з кішэні колца кілбасы.

— Злодзей ты, Макар, і шэльма, якіх мала... Па

закону я павінен апытаць цябе, скласці пратакол і пасадзіць за крадзеж. Але я спадзяюся, што кілбасу ты атрымаў з Мар'яніных рук.

— Не, гаспадзін ураднік. З-пад Мар'яніных рук... Ды пра што тут доўга талкаваць! Піце, гаспадзін ураднік, а то яшчэ нехта сустрэнецца.

Выпілі абодва. Пустую бутэльку Макар выкінуў з воза, кілбасу з'елі. Беразоўскі адчуў, што ўсярэдзіне ў яго разгараецца агеньчык і цяпло ад яго расцякаецца па ўсім целе. Твар яго расчырванеўся, стала горача рукам, і ён расхінуў шынель. Настрой яго палепшаў, ён адчуў сябе вялікім чалавекам і надзвычайным сышчыкам. Ён быў упэўнены, што намацаў існаванне сапраўднай антыдзяржаўнай змовы і трымае яе ў руках. Але цяпер яму не хацелася нікому рабіць зла, ён усіх раптам палюбіў, і ўсіх яму было шкада. Ён успомніў Адэлю, і яго агарнула замілаванне. Яна будзе яго жонкай. Ён навучыць яе чалавечай мове. Нават Кашч Бессмяротны, яго будучы цесць, здаўся цяпер яму такім добрым і шчырым чалавекам, якіх мала ёсць на свеце. А хамула Макар пакрыўдзіў гэтага няшчаснага, адзінокага чалавека. Мала таго, што ўкраў кілбасу і бутэльку гарэлкі, дык яшчэ і паспаў з рыжай Мар'янай. Свіння... Ён ужо хацеў саданучь стражніку па вуху, але калі падняў вочы і ўбачыў шырокую Макараву спіну і лапавухую галамозую галаву, то яму стала шкада і Макара. Шчыры ён чалавек. Па сутнасці, ён украў гарэлку і кілбасу не сабе, а яму, свайму начальніку. А калі паспаў з Мар'янай, то хіба яна зліняла? Асталося яшчэ і Арлоўскаму. Ці многа старому трэба!

— Слухай, Макар,— сказаў ён.— Калі мы другі раз прыедзем да Арлоўскага, а мы цяпер будзем часта туды ездзіць, то ты нічога ў яго не крадзь.

— Слухаю, гаспадзін ураднік! — адказаў Макар, не разумеючы, што зрабілася з яго начальнікам.

— Красці, Макар, вялікі грэх... Акрамя таго, гэтае злачынства прадугледжана крымінальным кодэксам... Крыміналістыка, разумееш?..

— Разумею, гаспадзін ураднік!

— І не спі з Мар'янай... Гэта таксама грэх. Называецца пралюбадзеянне... Калі яна будзе да цябе лезці, гані яе к чорту... А не паслухае, пакліч мяне...

— Я і сам спраўлюся, гаспадзін ураднік! — весела бліснуўшы вачамі, адказаў Макар.

— Ага! Гм! У якім сэнсе справішся, сукін сын? Ты, здаецца, кепікі строіш з мяне, шальмец?

— Не, гаспадзін ураднік, якія кепікі!..

— Ну, дык от, слухай. Не смей з ёю спаць...

«Зусім ап'янеў, смаркач,— падумаў Макар пра свайго начальніка.— Пляце немаведама што... Выпіў нашча, от і разабрала...»

— Ты чуеш, Макар?

— Чую, гаспадзін ураднік!

— І памятай, што я табе сказаў...

— Добра, гаспадзін ураднік... Вунь нехта ідзе насустрач...

Малінаўка была ўжо блізка, і ішоў не хто іншы, як Якаў Шэмет. Ен здалёк убачыў падводу і разгадваў, хто гэта едзе ў Малінаўку, ды яшчэ на брычцы. Калі падышоў бліжэй, то па паліцэйскіх шынялях і шапках пазнаў ураднiка і стражніка. Трывожная думка запала ў яго галаву. Ці не па яго душу яны едуць? Няўжо ўрадніку нешта стала вядома пра яго дзейнасць?..

Параўняўшыся з брычкай, ён сказаў «дзень добры» і нават крануўся рукой шапкі.

— Дзень добры, дзень добры! — весела адказаў ураднік, у якога з'явілася жаданне спыніць прахожага і пагаварыць з ім.— Куды так рана?

— Ужо не вельмі рана, гаспадзін ураднік. У сяло іду.

Стражнік вялізнымі вачыма глядзеў на ўрадніка, а Якаў мінуў іх і крочыў памалу наперад, хоць яму ў гэты час хацелася быць далей ад гэтага месца.

— Бачыш, якія ветлівыя людзі шляхта...— пачаў Беразоўскі, але Макар не даў яму кончыць.

— Якая шляхта! Гэта Якаў Шэмет!..

— Якаў Шэмет? — у Беразоўскага ўвесь хмель вылецеў з галавы. Ён зірнуў Якаву ўслед.— Няхай ідзе... Сёння мы абыдземся без яго,— прамовіў ён.

Калі ўязджалі ў засценак, зноў адбылася нечаканая сустрэча. Сымон Ашакевіч вёў пасвіць на поплаў сваю кабылу. Беразоўскі скоса зірнуў на яго, і злосць ускіпела ў ім з незвычайнай сілай. Ён адвярнуўся, каб не адказаць на прывітанне, а ў беднага Сымона аж душа скочыла ў пяткі, калі ўбачыў у Малінаўцы Беразоўскага са стражнікам. Успомнілася ўсё: і Шымкевічы ў Гнілой Дуброве, і допыт ва ўрадніка, і ўчарашні адказ. «Што гэта будзе?!» — з жахам падумаў ён.

Каля Халуставага двара ўрадніка сустрэў Андрэй Сташэвіч, які таксама вёў на поплаў сваіх коней, бо Іван яшчэ ўчора вечарам пайшоў дадому, але Андрэя Беразоўскі не прыкмеціў, бо быў заняты думкамі пра Якава Шэмета.

«Якое трасцы прыехаў гэты абармот да злодзея?» — падумаў Андрэй і таксама ўспомніў Шымкевічавых сыноў. Ён не спалохаўся, як Сымон Ашакевіч, але трывога закралася і ў яго сэрца.

У дадатак да ўсяго Лявонава Міхаліна стаяла на вуліцы, і праз паўгадзіны ўся Малінаўка ведала, што сам ураднік, ды, далібог, са стражнікам, прыехалі да Яўхіма Халусты.

Макар выпрагаў каня. Халуста стаяў каля брычкі і кланяўся і брычцы, і Беразоўскаму і, прыклаўшы руку да грудзей, крычаў:

— Ая-яй, ая-яй! Далібог, не паверу! Да мяне прыехаў сам гаспадзін ураднік! Ну! Гэтага не можа быць!.. Гэта мне сснілася!..— Ён працёр шурпатым кулаком вочы.— Такі ж прыехаў!.. Ліха ма... Гаспадзін ураднік! Пане Беразоўскі! Гаспадзін Макар! Пане стражнік! Проша, проша... Проша ў хату!..

— Трэба, пане Халуста, некуды паставіць каня,— сказаў Беразоўскі.— Бо хоць я да вас, так сказаць, толькі па дарозе заехаў і ненадоўга, але каню трэба нечага падкінуць.

— Гаспадзіну каню? Аўса гаспадзіну каню! Ю-у-зік! — зароў Халуста страшэнным голасам.— Ю-узік, ліха матары тваёй! Юзік!

Макар рагатаў і, каб не паваліцца, трымаўся за брычку, а Беразоўскаму хацелася заткнуць вушы. «От гад, мярзотнік,— думаў ён пра Халусту.— Ці ён здзекуецца, ці жартуе, ці сапраўды вельмі рады. «Гаспадзіну каню!» С-сукін с-сын, злодзей...»

З хаты выйшаў Юзік Гром і звычайнай сваёй хадой накіраваўся да брычкі. Халуста наляцеў на яго з кулакамі.

— Гад! Гіцаль! Як ты ідзеш! Не бачыш, хто да нас прыехаў, ліха матары я... тваёй! Сляпы! Вочы павылазілі?

— Бачу, яшчэ не павылазілі. Чаго ты равеш, як бык, бацька? — буркнуў Юзік Гром.

— Як бык? Чулі, гаспадзін ураднік, што ён сказаў? У кутузку яго! Замкніце яго ў гэтым свірне, сукі-

нага сына, гаспадзін ураднік! Я прынясу замок і ключ!

Беразоўскі ўсміхнуўся, а Макар гатовы быў паваліцца і дрыгаць нагамі. У яго ўжо не хапала сілы ні смяяцца, ні гаварыць.

— Няхай ён спачатку паставіць каня, пане Халуста,— сказаў Беразоўскі,— а тады мы падумаем, што з ім рабіць.

— Чуў? Вазьмі гэтую лошадзь,— Халуста не асмеліўся назваць проста канём ураднікавага каня,— завядзі ў хлеў, залажы канюшыны і насып аўса.

Юзік зірнуў на ўрадніка зверху ўніз і падумаў, што такога смаркача ён пстрычкай забіў бы, а бацька перад ім выгінаецца, як чарвяк, тады падміргнуў Макару, з ім ён быў знаёмы, забраў у яго з рук повад і павёў каня пад павець.

— Ну от, гаспадзін ураднік, лошадзь будзе ў парадку, а брычку і тут чорт не возьме. Хадзем у хату. Пане Макар, ліха ма... чаго ты агінаешся і трымаешся за морду, нібы ў цябе зубы баляць? Хадзем у хату.

— Макара мы потым паклічам, пане Халуста,— сказаў Беразоўскі.— У нас з вамі будзе гаворка.— Ён кіўнуў Макару, і той пайшоў за Юзікам.

У гэты час з чыжэвіцкай царквы данесліся гучныя пералівы званоў: бом-ці-лі-лі, бом-ці-лі-лі, бом-ці-лі-лі!

Халуста задраў галаву і прыслухаўся, потым заліўся смехам.

— Праспаў, ліха матары яго! Праспаў поп! Ай-яй, бацюшка! Айцец Сцяпан! Што з табою? Ці ў карты гуляў да раніцы, ці гарэлку піў? Ха-ха-ха! Тпру, кабыла, стой, поп, здрасце, бацюшка, ці дома свяшчэннік? Хі-хі-хі. Гаспадзін ураднік, арыштуйце гэтага шэльму Сулкоўскага! Ха-ха-ха!

— Гэта не ўваходзіць у мае абавязкі, пане Халуста. На ім сан!

— На ім сан? Ліха матары яго! Гарэлка на ім, у ім і пад ім, а не сан?

Не паспеўшы адчыніць дзвярэй у хату, Халуста адразу накінуўся на жонку і на служанку, глуханямую дзяўчыну гадоў трыццаці, якую ён знайшоў аж пад Слуцкам.

— Ліха матары вашай! Кабыла крывая! Не бачыш, хто да нас прыехаў? Сам гаспадзін ураднік з гаспадзінам Макаром! Вары і смаж! Яечню, кілбасу і са-

ла! Нясі кумпяк! Чуеш? Скажы глухой падле, каб весялей варушылася.

Беразоўскі сказаў «дзень добры», але ніхто яму не адказаў. Крывая Настуля зірнула на яго так, што ў прадстаўніка ўлады мурашкі забегалі па целе. «Сапраўдная ведзьма»,— падумаў ён.

Халуста адчыніў дзверы ў нейкі цёмны калідор, правёў па ім урадніка, тады зноў адчыніў дзверы, і Беразоўскі апынуўся ў невялікім пакоі з адным акном. У гэтым пакоі, акрамя стала і дзвюх лавак, не было ніякай мэблі. Ля сцяны стаялі тры куфры, акаваныя жалезам. На ўсім гэтым тоўстым пластом ляжаў пыл. Пахла сырасцю і затхласцю.

Калі Халуста ўвайшоў у гэты пакой, у яго паводзінах знікла ўсё наігранае. Ён зірнуў на ўрадніка разумнымі, але хітрымі, як у старога чорта, вачыма, сцёр далоняй з лаўкі пыл і запрасіў Беразоўскага сесці.

— На зіму пасялю тут парабка. Пастаўлю ложак, і няхай спіць.

— А дзе ён спіць цяпер?

— У свірне, пане Беразоўскі.

— Я сёння сустрэў яго па дарозе ў сяло Чыжэвічы.

— Ён, пане Беразоўскі, пайшоў не ў Чыжэвічы, а ў маёнтак.

Беразоўскі кіўнуў.

— Часта ён туды ходзіць?

— Кожную нядзелю.

— Да каго ён туды ходзіць?

— Да Станіслава Вярбіцкага, пане Беразоўскі, да механіка.

— А з кім ён яшчэ там сустракаецца, не ведаеце?

— Гэтага я пакуль што не ведаю. Трэба думаць, што з сябрамі Вярбіцкага. А Вярбіцкі, пане Беразоўскі, чалавек небяспечны. Я ведаю яго даўно, яшчэ з тае пары, як быў там аконамам. Ён мала гаворыць, але многа думае, і парабкі яго слухаюць. Ён і мне не раз падстаўляў нагу ў маёнтку.

— А як ён яе вам падстаўляў, пане Халуста?

— Ат,— Халуста махнуў рукою.— Ён, пане Беразоўскі, ніколі не быў за мяне, а заўсёды за парабкаў. Сацыяліст, я інакш не думаю. І Якаў Шэмет таксама сацыяліст.

— Чаму вы так думаеце, пане Халуста? Такое меркаванне трэба пацвердзіць фактамі.

— Фа-актамі! — скрывіўшыся, прамовіў Халуста.— Якія вам трэба факты? Я скажу вам, што кожны парабак хоць крышку ды злодзей. А Якаў Шэмет не злодзей. Гарэлкі не бярэ і за губу. Да дзевак не валочыцца, а ён жа малады. Чым жа ён жыве? Ідэяй ён жыве, ліха матары яго! У яго ёсць ідэя: далоў цара, памешчыкаў і капіталістаў!

«А ён мае рацыю!» — падумаў Беразоўскі.

— Цяпер падумайце, пане Беразоўскі. Калі б я сёння загадаў яму дома ды нешта па гаспадарцы рабіць, то ён бы сказаў, што мае права. Ён мае права адпачываць у нядзелю. Ён, сукін сын, выгаварыў гэтае права ў мяне, калі наймаўся. Дзе ён гэтага нахапаўся? У горадзе! А адкуль жа ідзе гэтая хвароба, калі не з горада? Наш сельскі парабак ніякіх правоў не ведае. А яго ў дэпо абгладзілі сацыялісты-забастоўшчыкі. Яго і сюды даслалі для таго, каб парабкам правы ў галовы ўвагнаць. Ён жа і хацеў у маёнтак наняцца, але Гендарсан яго не ўзяў. Дык ён, ліха матары яго, да мяне наняўся, а сам кожны тыдзень у маёнтак ходзіць,— ну, хіба гэта не факты!

— Вы разважаеце правільна, пане Халуста...

— От, бачыце! У яго ж у Чыжэвічах кавалак зямлі ёсць і палова братавай гаспадаркі, то ён адказаўся і ад зямлі, і ад гаспадаркі ў карысць брата Піліпа. Што вы на гэта скажаце? Гэта ён хоча быць сапраўдным пларэ... прале... пралетарыятам... Якое сібірнае слова, проста такі катаргай... кхе, кхе... вісельняй пахне...

— А дзе вы нахапаліся такіх слоў? — запытаў здзіўлены Беразоўскі, з павагай аглядаючы пачварную постаць Халусты.

— Хе-хе-хе, пане Беразоўскі... У турме... Я быў у турме. Але не за палітыку, не, не! А з палітычнымі сустракаўся... Меў з імі справы.

— Усё гэта добра, пане Халуста, лагічна і правільна. Але ж я гэтых разважанняў не магу прышчапіць да пратакола... Дзе знаходзяцца рэчы Якава Шэмета?

— Вы хочаце зрабіць вобыск? — Халуста паківаў галавою.— Не варт... Я кожную нядзелю абыскваю яго куфэрак. І не толькі куфэрак, а і ўвесь свіран. І не толькі свіран. Я ж на сваёй сядзібе ведаю кожную дзірку... Ведаю, дзе ён ходзіць. І нічога не магу знайсці.

Ліха матары яго, дзе ён хавае тыя плак... прак... сібірнае слова, ліха матары яго... пракламацыі...

Беразоўскі задумаўся.

— Каб я, пане Беразоўскі, у першыя дні паглядзеў у яго куфэрак, то нешта знайшоў бы... Але пакуль я ключ падабраў, то ён з куфэрка ўсё выняў і перахаваў у другое месца.

«Клубочак... нітачка...— думаў Беразоўскі.— Усё спынілася на адным месцы. Хоць бы маленькая зачапка... Трэба ж нешта прыдумаць».

— Вам, пане Халуста, я даручаю сачыць за Якавам Шэметам. Вы павінны даведацца, дзе ён хавае палітычную літаратуру. Я пагутару з вашымі сынамі, каб яны таксама...

— Не, не! — загаварыў Халуста, хапаючы Беразоўскага за руку.— Не, не, не, пане Беразоўскі... Гром... Гэта старэйшы, Юзік, дурны, абух абухом... А малодшы, Мікалай, звер зверам. Я з імі нават не гавару. Ліха матары іх! Адзін з дурнаты, а другі са злосці ды яшчэ возьмуць Шэмету скажуць...

«Сямейка»,— падумаў урраднік.

— Тады вы самі, пане Халуста.

— Так, так! Я сам! Я яго прасачу-у!

Халуста пакрысе пачаў рабіцца такім, якім ён быў заўсёды на людзях, і Беразоўскі не мог зразумець, дзе пачынаецца і канчаецца яго прытворства.

— А што вы думаеце пра Хаіма Ножыка, пане Халуста?

— Злодзей, шэльма, ашуканец, ліха матары яго! — закрычаў Халуста.

— Я не пра тое. Хто яго абрабаваў у Гнілой Дуброве?

— Шымкевічавы сыны! Хто больш! Яны разбойнікі!

— Як вы можаце гэта сцвярджаць?

— А хіба мяне яны не параймалі?

— Ножыка мог абрабаваць нехта другі... А як вы думаеце: Сымона Ашакевіча яны таксама сустрэлі ў тую ноч?

— Сустрэлі! — пераканаўча сказаў Халуста.— Але ж ён не прызнаецца, сацыяліст гэты, ліха матары яго!

— І Ашакевіч сацыяліст?

— Сацыяліст! — Халуста быў у такім настроі, што

кожнага, каго ён не любіў, назваў бы сацыялістам. Каб Беразоўскі запытаў у яго пра Андрэя Сташэвіча, то ён бы сто разоў пакляўся, што і Сташэвіч таксама сацыяліст, і прытым самы заядлы.

Халуста ўсё-такі пакарміў Беразоўскага, але таму нішто не лезла ў рот. Яечня была перасоленая, кумпяк смярдзеў, у кілбасах відно, што былі чэрві, але тыя мясціны, дзе яны пладзіліся, павырэзвалі нажом. А тут яшчэ позірк кульгавай Настулі, якая не зводзіла з яго вачэй, быў такі «ветлівы», што ўрадніку хацелася выскачыць у акно, як таму Гендарсану. Гарэлкі ён усё-такі выпіў і закусіў агурком.

Макар з Юзікам паспелі выпіць да гэтага і дужаліся на двары. Гром клаў стражніка і рагатаў так, што суседскія куры кудахталі, як шалёныя, а вароны, падняўшыся з таполяў, паляцелі ў Маргі.

...Якаў Шэмет вярнуўся з маёнтка позна ўвечары, як і заўсёды. Сабакі пазнавалі ўжо яго хаду, і ні адзін з іх не гаўкнуў. Якаў ведаў, чаго прыязджалі да Халусты ўраднік і стражнік, і зусім не хваляваўся. Ён і раней адчуваў, што Халуста за ім сочыць, а цяпер у гэтым упэўніўся. Каб ён прыйшоў удзень, гэта выклікала б падазрэнне. Халуста падумаў бы, што парабак баіцца, а калі баіцца, значыць, вінаваты. І сказаў бы гэта ўрадніку. Аб тым, што Халуста заглядае ў яго куфэрак, ён таксама ведаў і не баяўся, што пры вобыску нешта знойдуць, бо, каб знайсці літаратуру, якую ён схаваў, трэба было б перагрэсці ўсё Халустава гумно.

Перш чым легчы, Якаў закурыў. На вуліцы пачуліся цяжкія крокі Юзіка Грома, які ішоў з вячорак. Ён убачыў агеньчык ад папяросы і падышоў да Якава.

— Не спіш яшчэ?

Ён дыхнуў Якаву ў твар, і той зразумеў, што Гром сёння занёс Хаіму Ножыку паўмяха жыта.

— Не сплю, як бачыш.

— А да нас сёння госці прыязджалі. Ураднік са стражнікам.

— То ты і выпіў з гасцямі?

— Я і без іх магу выпіць... Ты паслухай, што я табе скажу.

Гром сеў з Якавам на парог і пачаў гаварыць шэптам:

— Ураднік з бацькам доўга ў хаце гаварылі. Пра

што, я не ведаю. А перад ад'ездам бацька адчыніў свіран, і ўраднік зайшоў. Пытаецца: «Тут ён і спіць?» Бацька кажа: «Тут, ліха матары яго». «А гэта яго куфэрак?» — пытаецца ўраднік. Бацька кажа: «Яго». От і ўсё.

— Ну, дык што?

— Пра цябе гаварылі, бо хто ж тут спіць, акрамя цябе!

— І я так думаю.

— Я табе сказаў, каб ты ведаў. А па мне хоць ты коней крадзь, хоць пад мостам сядзі, а хлопец ты добры. Пайшлі яны ўсе к... мацеры!

— Няўжо ты думаеш, Юзік, што я магу коней красці або пад мостам сядзець?

— Ты не, а бацька мой і Мікалай могуць! — Юзік зарагатаў.— Слухай, а я яго кладу!

— Каго?

— Стражніка Макара! Лажыцца, як міленькі.

Ён павярнуўся і пайшоў у хату.

«А ўсё-такі ты не зусім згніў у гэтай хаце, Юзік Гром!» — падумаў Якаў.

## РАЗДЗЕЛ ТРЫЦЦАТЫ

Пасля ад'езду Беразоўскага Гендарсан пайшоў дадому не сваімі нагамі. На сэрцы было так нядобра, нібы на яго ўзлілі нешта смярдзючае. Ён праклінаў гэтую краіну, у якой пачало рабіцца немаведама што. І ці трэба здзіўляцца! Людзі, якія пастаўлены сачыць за парадкам, найгоршыя хамы. Ён злаваўся на Беразоўскага, які і грошы з яго пацягнуў, і старку яго піў, і нічога не памог. Няўдзячная свіння... Калі Гендарсан палічыў усе выдаткі, якія ён зрабіў у Слуцку і ў Старочыне, ды прыкінуў да іх тыя грошы, якія трэба заплаціць за выбіранне бульбы, то яго ахапіў жах.

Дома ён сеў за стол, загадаў Інзе прынесці кілбасы, вяндліны і так налёг на старку, што Інга пачала глядзець на яго са страхам.

— Пауль! Што ты робіш, Пауль? — запытала яна.— Ты ніколі так не піў!

Ён падняў на яе асалавелыя вочы, брудна вылаяўся і па-руску сказаў:

— Ты ест хам! Доўгі лысы хам! Ха-ха-ха!

Інга спалохалася. Яна лічыла, што муж яе вар'яцее.

— Пауль! Што ты гаворыш, Пауль!..

Яна не ведала, як абражае яе муж.

— Ідзі вон, доўгі швіня! Лысы швіня!..

Ён не бачыў, што на парозе стаіць Эльза. Яна зірнула на бацьку так, што той на нейкую хвіліну працверазеў, але потым зноў схапіў бутэльку і хацеў наліць. Эльза вырвала з яго рук бутэльку, забрала чарку і выйшла з пакоя.

— Якая свіння! — сказала яна, вярнуўшыся.— Мама, калі ён не ляжа цяпер спаць, я паклічу Пауля Квітуна, і ён яго звяжа.

— А-а-а! Пауль Квітунь!.. Гэта... гэта ест, як гэта?

Эльза схапіла яго за руку і так шматанула, што ён выскачыў з крэсла і сеў на падлогу. Цяпер ён зразумеў, што яго і сапраўды могуць звязаць, і пакорна пайшоў у спальню.

Прачнуўся ён пасля поўначы і ўжо не мог заснуць. Хмель праходзіў паступова і вельмі пакутліва. У галаве не станавілася лепей: наадварот, усе мінулыя падзеі паўставалі ў такім змрочным выглядзе, што аканому хацелася плакаць. І ён стрымліваў сябе. Потым прыйшла здольнасць думаць, але што гэта былі за думкі! Яны былі чарней за тую дажджлівую асеннюю ноч, якая глядзела ў вокны... Аднак чым больш ён думаў, тым бліжэй падыходзіў да вываду, што не такі страшны чорт, якім маляваў яго ўзбуджаны розум. Ну што ж! На гэты раз не выйшла. Ён нарабіў шмат памылак, быў залішне самаўпэўнены, неасцярожны, не меў памочнікаў. А цяпер ён будзе разумнейшы. Няўжо сярод гэтых хамаў ён не знойдзе верных людзей? Знойдзе! Гендарсан прыблізна ўгадваў іх, і калі не карыстаўся дагэтуль іх дапамогай, то толькі таму, што ўсе здабыткі хацеў браць сабе. Цяпер ён навучыўся, а за навуку плацяць грошы. І калі добра разабрацца, то не так дарага яна каштавала яму. Ва ўсякім разе, ён верне гэтыя грошы.

Калі Гендарсан прыйшоў да такога вываду, яму захацелася дзейнічаць. Ён падняў галаву і зірнуў у акно. Праз фіранку сачылася сіняе ранішняе святло. Гендарсан ціхенька ўстаў, адзеўся, пайшоў у кухню, памыўся халоднай вадой і адчуў сябе так бадзёра, нібы нанава нарадзіўся на свет.

Ён зайшоў у спальню да жонкі, каб зірнуць, спіць яна ці не. Інга ўжо не спала.

— Інга,— сказаў ёй Гендарсан.— Я ўчора быў хам... Даруй мне, Інга...

— Ах, Пауль, я разумею. Табе ўчора было цяжка.

— Так, Інга...— ён ледзь не ўсхліпнуў. Ён так быў удзячны жонцы, што яна не папракае яго за ўчарашняе.

— Я баюся нашай Эльзы, Пауль,— прашаптала Інга.— Я не разумею яе. Яна становіцца вельмі грубая.

— Я аддам яе замуж,— сказаў Гендарсан, успомніўшы слуцкага зубнога доктара.

Ён выйшаў з флігеля і накіраваўся да подвальнага Яся Дамэйкі. Ясь быў чалавек гадоў пад пяцьдзесят, шыракаплечы, з вялікай галавой і лупатымі вачыма, з цяжкім падбародкам, начыста паголены. Зірнуўшы на яго, можна было падумаць, што гэта асілак, а варта было яму падняцца з месца, як ён ужо нагадваў вырадка. Ногі ў яго былі тонкія і кароткія, рукі доўгія, як у малпы, і хоць на спіне не было гарба, але быў ён да таго сутулы, што яго звалі Гарбатым Ясем. Жонка яго, гадоў на дзесяць старэйшая, была калісьці ахмістрыняй у старога пана Крупскага, і калі стала яму не патрэбна, то пан аддаў яе Ясю разам з пасадай подвальнага, дзесяцінай зямлі, сядзібай і хатай. Усё гэта Ясь прыняў з вялікай ахвотай, акрамя жонкі. Жонка яму была не патрэбна, хапала ў маёнтку жанчын і дзяўчат, але адмовіцца ад яе ён не мог. За гады, якія з ёю пражыў, Ясь выбіў з яе не толькі ўсе грахі, якія яна рабіла, але і тыя, якіх магла нарабіць. Цяпер гэтая жанчына была падобна на здань. Яна і хадзіла ціха і нячутна, як здань.

Не па-добраму жаніўся Ясь на панскай ахмістрыні, пажылой, зношанай жанчыне. Займаў ён калісьці ў гэтым маёнтку тую ж самую пасаду, якую займаў цяпер Гендарсан, але страшна пракраўся і быў злоўлены. Аставалася адно: або ісці на катаргу, або згадзіцца з панскімі ўмовамі. Ясь згадзіўся. Цяпер, праз многа гадоў, мала хто помніў, як жаніўся Ясь, мала хто ведаў, кім была яго жонка. Маёнтак не бацькаўшчына, людзі тут навечна не прыжываюцца. Але Ясь сам не забываў таго часу, калі з ім не хацелі гаварыць апошнія дворныя пастухі, як паказвалі на яго пальцамі, як кожны смаркач папракаў яго жонкай. І звераваты Ясь

азвярэў і ўзненавідзеў людзей. Злосць на іх спаганяў на жонцы. Ён яе збіваў да паўсмерці.

— Хоць бы ты мне дзіця нарадзіла, лярва! — казаў ён пры гэтым.— Усё з панам павыціскала, сука... Пустая да мяне прыйшла. Нашто ты мне такая! Забіць цябе трэба. Забіць!

І біў ён яе не адзін раз.

Не ведаў Гендарсан, што сядзіць з чалавекам, разумнейшым і хітрэйшым, чым ён сам. Не ведаў, што Гарбаты Ясь бачыць яго наскрозь.

У хаце стаяў паўзмрок. Ясь сядзеў насупраць Гендарсана, жаваў цяжкімі, але ўжо бяззубымі сківіцамі парасяціну, слухаў, што гаворыць аканом, і маўчаў.

Дагаварыліся яны не скора.

Якаў Шэмет, сустрэўшыся зураднікам, зразумеў, што той са стражнікам едзе ў Малінаўку і што едзе не са Старочына, а з Чыжэвіч. Ён яшчэ не ведаў, што адбылося ў маёнтку, але адчуваў, што нешта адбылося, бо быў у курсе таго, што там рабілася ў апошнія два тыдні. Адчуваў і тое, што ўраднік ехаў у Малінаўку хоць і не па яго душу, але да яго душы ўсё роўна меў нейкае дачыненне.

Якаў ішоў у маёнтак, каб сустрэцца з Паўлам Квітуном і Станіславам Вярбіцкім, але цяпер надумаў пакуль што не ісці туды. Калі ён спатрэбіцца ўрадніку і яго пачнуць шукаць і знойдуць у маёнтку, ды яшчэ ў Стася, то справа можа павярнуцца вельмі дрэнна. Ён быў упэўнены, што ўраднік не мае падстаў на яго арышт, але асцярожнасць ніколі не шкодзіла. Была і другая прычына. Таму, прыйшоўшы ў Чыжэвічы, накіраваўся да свайго брата Піліпа.

І Піліп і Лукер'я сустрэлі Якава радасна. Дзятва абкружыла дзядзьку, і ён вельмі пашкадаваў, што не мае ў кішэні цукерак.

— Акурат ты к снеданню падышоў, брат,— сказаў Піліп.— То садзіся за стол.

— Па праўдзе кажучы, я паснедаў, але пасля Халуставых харчоў можна паснедаць і яшчэ раз,— адказаў Якаў і распрануўся.

Елі бульбяныя бліны з верашчакай і гутарылі. Пакуль кончылася снеданне, Якаў прыблізна ведаў усё, што адбылося ў маёнтку.

— Малайчына, брат, Агапа,— расказваў Піліп.— Каб якая другая жанчына, то хіба асмелілася б супраць Гендарсана слова сказаць! Узяла б, колькі даў, і пайшла. А за ёю і ўсе ўзялі б. А яна, брат, на! Прывык ён, каб на яго дарма рабілі. От я, як адмалачуся, таксама пайду ў маёнтак работу шукаць, то я ўжо смялей з ім гаварыць буду.

— Кажаш, Агапа першая пачала. А хіба мужчын там не было?

— А як жа! Былі і мужчыны! Механік Вярбіцкі і Павел Квітун. Такі ўдалы хлопец. Ён часамі да Крываблоцкіх ходзіць. У Пракопа дачка Надзя — харошая дзеўка, то ён да яе.

Піліп завёў брата ў адрыну, паказаў, колькі нажаў збажыны ў гэтым годзе. Адрына была малая і тая няпоўная.

— От бачыш, які я багатыр. Дай божа, каб хлеба хапіла да вялікадня... Гэта калі не ўваб'ецца ў хату ніякая хвароба. А калі, не давядзі бог, якое няшчасце, то вясной дзецям торбы на плечы — і пад вокны, да чужых хат.

— Я і сам гэта ведаю, Піліп, нашто ты мне расказваеш? Хіба ты забыў, што я быў у гэтай самай хаце разам з табою і калупаўся на гэтай самай гаспадарцы?.. І так будзе датуль, пакуль на нашай зямлі будуць сядзець паны. Хіба ты адзін такі ў Чыжэвічах?

— Каб адзін... Усё сяло амаль... Яшчэ горшыя за мяне ёсць.

— Няўжо ты не бачыш, што ўся лепшая зямля панская? Ды не толькі ворная зямля, а сенажаць і лес, усё ж у іх руках. Адзін Крупскі мае больш зямлі, чым усё сяло Чыжэвічы, ды за адным і шляхецкія засценкі Мalінаўка і Жывіцы.

— Чаму я не бачу, Якаў!

— Дык заўваж, брат, што самі паны ніколі не аддадуць зямлі мужыкам. У іх трэба адбіраць яе сілай.

— Ёсць жа, братка, цар...

Якаў усміхнуўся.

— Цар? Ды ён жа найбольшы пан, Піліп! Ты ведаеш, колькі ў яго маёнткаў?

— Сціхні, Якаў...

— А ты не палохайся мяне, Піліп. У некаторых месцах мужыкі зразумелі, што ні цар, ні паны не памогуць, і спадзяюцца на саміх сябе.

— Маўчы, Якаў!..— Піліп схапіў брата за руку.— От, мабыць жа не дарма кажуць, што ты супроць цара пайшоў і цябе з горада выгналі.

— Хто гэта так кажа? Хто так цікавіцца маёй асобай?

— Людзі кажуць.

— Як гэта людзі? Няўжо ўсе людзі ў адзін голас крычаць пра мяне?

— Ды не... Пракоп Крываблоцкі ў кузні быў у Халусты. То туды якраз і стары Халуста прыбег...

— Ага! Дык гэта Яўхім Халуста так пра парабка свайго гаворыць. Цікава, што ж ён яшчэ казаў?

— Ён казаў, што нідзе табе месца не было... Гендарсан адмовіўся ўзяць цябе. А ён, Халуста, проста з ласкі ўзяў... Трэба ж, кажа, даць чалавеку кавалак хлеба. То калі так, Якаў, і табе сапраўды не было дзе дзявацца, то нашто ты ад сваёй часткі адмаўляўся... Неяк пражылі б да часу. Ты дома рабіў бы, а я нешта ў маёнтку мог бы зарабіць, бо мяне Гендарсан хоць сёння возьме, ведае, які я работнік. А потым ты нейкія прымы знайшоў бы. Хоць да таго самага Пракопа Крываблоцкага. Надзя — харошая дзеўка, і за таго парабка Паўла Квітуна Пракоп яе ўсё роўна не аддасць.

Якаў засмяяўся. Вось якая мужыцкая логіка. Гэта нічога, што нехта там да дзеўкі ходзіць і што яна яго любіць. А ты, нелюбімы і можа ненавісны, бяры яе, абы гаспадарка была. Сцерпіцца, злюбіцца, а што ад некага шчасце адбярэш, жыццё загубіш, то гэта глупства... Горш было яшчэ тое, што Піліп, хоць і не ведаючы, прапануе яму дзяўчыну, якую любіць яго лепшы друг.

— А я хто, Піліп? Хіба я не такі самы парабак, як Квітун?

— Не, Якаў! — рашуча запратэставаў Піліп.— Не такі. Ты з гаспадарскай сям'і! Пракоп і бацьку, і нават дзеда нашага ведаў, і ўсю радню ведае.

— Эх, і прастата ж ты, Піліп! Ды ўсе ж парабкі от з такіх самых гаспадарак выйшлі. Не толькі парабкі, а рабочыя, што цяпер на фабрыках і заводах працуюць, і, апрача ўласных рук, нічога больш не маюць, і яны з такіх гаспадарак, як твая, выйшлі. Калі не самі, дык бацькі іх або дзяды. А ты гаспадар! Сам у маёнтак збіраешся на кавалак хлеба дзецям зарабіць.

Піліп доўга маўчаў. Думаў, схіліўшы галаву.

— А ўсё-такі, Якаў, ты не ўсё мне гаворыш... Я і не дабіваюся, каб ты гаварыў, не! Ты лепш маўчы, Якаў. Лепш маўчы... Я табе, брат, праўду сам скажу... Нельга жыць... Ты мо і злаваўся, што Лукер'я мая не вельмі ласкава на цябе паглядала дагэтуль...

— Заблытаўся ты, Піліп. Пра гэта не трэба гаварыць...

— Можа я і заблытаўся, але... жыць цяжка... І ў мяне на душы весялей стала, калі ты сказаў, што мужыкі на сябе спадзявацца пачалі... Зямлі няма! Няма да чаго свае сілы прылажыць... Толькі мне шкада цябе, брат... Не давядзі бог, каб ■ табою благое зрабілася... Я цябе заўсёды любіў, Якаў... Ну, а Лукер'я, то яна баба... Ну, ды што там, брат, такое наша жыццё.

Якаў намацаў за пазухай кніжку, якую нёс да Стася. Хто ведае, а можа туды наляціць ураднік! Не трэба было сёння вымаць яе з Халуставага гумна.

— Піліп,— сказаў ён.— У мяне ёсць кніжачка, якую мне сёння нельга трымаць пры сабе. Можа б ты яе схаваў дзе-небудзь тут. Толькі не ў хаце.

— Давай яе сюды, схаваю... От бачыш, я ўсё ж такі ведаў, што ты мне не ўсё гаворыш. І не гавары. А кніжачку я схаваю, ніякі чорт не знойдзе.

— Лукер'я не павінна нічога ведаць.

— Гэтага ты мог мне і не гаварыць.

...Падышоўшы да маёнтка, Якаў першым з усіх будынкаў убачыў палац, які нагадваў турму. Галкі сядзелі на яго комінах, з якіх даўно не ішоў дым, а на тоўстых таполях і ліпах вароны спраўлялі кірмаш. У Якава заўсёды псаваўся настрой, калі ён заходзіў у маёнтак. Стаяў ён тут на беразе Случы, як балячка на здаровым целе. Такое прыгожае месца, а няма на ім ні радасці, ні весялосці.

Якаў намерыўся зайсці спачатку да Паўла Квітуна, але на дзвярах яго пакойчыка вісеў замок, і Якаў пайшоў да Вярбіцкага.

У хаце Станіслава ўжо гарэла лямпа, бо на дварэ змяркалася. За сталом сядзелі сам Станіслаў, Павел Квітун і Платон Шабуня. Павел і Станіслаў раней гаварылі Якаву пра Платона, але ён не ведаў яшчэ, што яны ўвялі яго ў свой гурток. На стале стаяла кварта гарэлкі, гуркі, шаткаваная капуста і сырое сала. Якаў спачатку падумаў, што хлопцы проста захацелі адзначыць святочны дзень пасля ўчарашніх падзей.

— А мне сёння шанцуе,— сказаў Якаў.— Два снеданні і два полудні.

— Садзіся, Якаў,— прамовіў Вярбіцкі.— Калі хочаш есці, то во, еш, а на чарку выбачай: у бутэльцы не гарэлка, а вада.

— Зразумела,— сказаў Якаў, зірнуўшы на Платона, і сеў.

— Платон учора ўсіх нас ад бяды выратаваў,— сказаў Павел, убачыўшы, як зірнуў Якаў на Шабуню.

— Як ён выратаваў? — пацікавіўся Якаў.

— Тут учора ўраднік вобыскі рабіў,— растлумачыў Стась.— Мяне траслі і Паўла,— ён расказаў падрабязна ўсё, што адбылося ў маёнтку.

— Во як! Ну, брат Платон, шчыра дзякую табе, бо ты і мяне выручыў,— з пачуццём сказаў Якаў і, падняўшыся з месца, паціснуў Платону руку.— Я сустрэў сёння раніцай урадніка, ён ехаў з Чыжэвіч у Малінаўку, напэўна, да майго Халусты.

— Значыць, ён у сяле начаваў,— прамовіў Станіслаў.— Цікава, у каго? У Вырвіча ці мо ў папа.

— Не, ён начаваў у Арлоўскага. Мне расказваў брат Піліп,— адказаў Якаў.

— У Кашча Бессмяротнага. Гэта самы небяспечны чалавек у Чыжэвічах,— зазначыў Платон.

— Гэта, бадай, праўда,— адказаў Якаў.— Але самы небяспечны — Яўхім Халуста з Малінаўкі... Цяпер скажыце, як мы будзем канчаць гэтую бульбяную справу? Заўважце, што ў Чыжэвічах яна нарабіла шуму.

— Цяпер ужо ўсё пойдзе сваім парадкам,— сказаў Станіслаў.— Падзёншчыцы ў Бярозаўку не пойдуць, пакуль Гендарсан ім не заплаціць. Нашы жанкі таксама не будуць выбіраць па старой цане. Калі Гендарсан не захоча, каб бульба ў Бярозаўцы зазімавала, то разлічыць работніц па дамоўленасці.

— Так. Гэта вельмі добра. Але на гэтым мы не павінны спыніцца. Будзьце упэўнены, таварышы, што Гендарсан стане цяпер асцярожнейшы і будзе шукаць сяброў і памочнікаў. У маёнтку знойдуцца і такія, што за капейку яму прададуцца. Нам у сваю чаргу таксама трэба праводзіць работу з людзьмі і лепшых уводзіць у сваю групу. Я вельмі рады, што ў маёнтку вас ужо не двое, а трое. З цягам часу можна будзе падрыхтаваць сапраўдную забастоўку, от хоць бы ў час веснавой сяўбы. Палітычных патрабаванняў мы

Гендарсану не выставім, а эканамічныя абавязкова. Рэвалюцыйны рух у краіне нарастае, забастоўкі выльюцца ў паўстанне. Ну, пра гэта пагаворым пасля. Шкада, што я ад вас далекавата, нават не ведаю, што тут робіцца ў вас.

Станіслаў усміхнуўся.

— Ёсць надзея, што Гендарсан сам пакліча цябе ў маёнтак.

— Сам пакліча? Табе, Станіслаў, не трэба пра мяне ўспамінаць яму.

— А я і не буду ўспамінаць. Ён цябе пакліча сам, калі млын спыніцца. У млыне патрэбен майстар.

— А ты ўпэўнены, што млын спыніцца?

— За гэта я ручаюся.

— У наступную нядзелю нам трэба будзе, хлопцы, сустрэцца дзе-небудзь у іншым месцы. Я спадзяюся, што ў мяне будуць новыя матэрыялы.

— Новыя матэрыялы... А дзе мы можам сустрэцца, калі не ў мяне?

— За Случчу ў лесе,— падказаў Павел.— Там нікога не сустрэнем. От на Дзедавай паляне.

Дзедаву паляну Павел ведаў, бо сустракаўся там з Надзяй.

— Добрае месца,— падтрымаў Станіслаў.— Яе ўсе ведаюць?

— Гаворкі няма,— сказаў Платон.— Калі я ведаю, што Павел хадзіў туды летам, то Якаў жа чалавек мясцовы.

Калі бразнулі ў сенцах дзверы, Станіслаў узяў бутэльку і пачаў наліваць чаркі. У хату ўвайшла Ядвіга. Яна павіталася, весела зірнула на стол і сказала:

— Ох і п'яніцы!.. Ды пастаў ты гэтую бутэльку з вадой, Стась.— Вясёлы яе твар раптам пачырванеў, і з вачэй пырснулі слёзы.— Дзесяць гадоў жыву я з табой, Стась... Няўжо ты думаеш, што я нічога не ведаю... Мо таму не верыш, што дзетак у нас няма...

Стась падхапіўся з месца і абняў жонку...

## РАЗДЗЕЛ ТРЫЦЦАЦЬ ПЕРШЫ

Цяжка было Гендарсану плаціць выбіральшчыцам па пятнаццаць капеек за дзень. Гэтыя грошы вырвалі ў яго з зубоў. Але на сэрцы аканомавым стала лягчэй,

калі ў Бярозаўцы забуртавалі апошнюю дзесяціну бульбы: пачаліся ранішнія замаразкі. Прайшоў бы яшчэ тыдзень, і ён не выгнаў бы на поле ні адной жанчыны, нават падвоіўшы плату.

Цяпер можна было і адпачыць. Жыццё ў маёнтку ўвайшло ў прывычную каляіну. Палявыя работы конччаны: жыта пасеяна, бульба выбрана, зябліва заворана. Асталіся малацьба і догляд скаціны. На поўны ход працавалі млын і бровар. Вось на іх і ўскладаў надзею Гендарсан. Ён быў упэўнены, што млын і бровар вернуць яму не толькі тое, што ён страціў, а ў многа разоў больш. У млыне цяпер сядзеў Гарбаты Ясь — чалавек з разумнай галавой і доўгімі рукамі. Гендарсан захапляўся яго зладзейскім розумам і нават крыху пабойваўся: гэты павук мог ашукаць і самога аканома.

Немалая надзея ўскладалася і на бровар. Скора сяляне з навакольных вёсак пачнуць прадаваць бульбу. Цана яе была ўстаноўлена даўно і не мянялася з году ў год. І з году ў год Гендарсан плаціў адну цану, а ў дакументах пісаў другую. Гэта давала немалы прыбытак, які ўвесь аставаўся ў кішэнях аканома. Калі ў млыне яму цяпер трэба было дзяліцца з Гарбатым Ясем, то ў бровары Гендарсан быў адзіны і паўнаўладны гаспадар. Гэта яго цешыла.

Так, цяпер можна было і адпачыць: турботы і клопаты зваліліся з плячэй, у галаве стала светла, наладзіўся настрой. Зайшоўшы ў свінарнік або на стайню, Гендарсан менш лаяўся, дазваляў сабе ўсміхнуцца і пажартаваць. Аднак на Станіслава Вярбіцкага і Паўла Квітуна ён пазіраў скоса. Пасля таго вечара ў канторы, калі яму прыйшлося ўцякаць праз акно, ён затаіў недавер'е і злосць на механіка і яго памочніка. Ён ужо не ляпаў Паўла па плячы, не ўспамінаў, што яны цёзкі.

Вельмі ўзрадаваўся Гендарсан, калі да яго прыехаў слуцкі зубны доктар.

— Гер Пфэрдсан,— пытаў ён, трымаючы яго за локаць на ганку свайго флігеля,— хто вас сюды прывёз?

— Старочынскі балагол, гер Гендарсан. Я вырваў у яго зуб, а ён за гэта прывёз мяне сюды, хе-хе-хе!

— Хе-хе-хе! — падхапіў Гендарсан.— Вы ў яго вырвалі зуб, а ён вас прывёз сюды! Каб вы напісалі мне, я даслаў бы па вас сваю брычку.

— Я не падумаў пра гэта.

— Але добра, што вы прыехалі! Я за апошні час тут нямала чаго перажыў.

— Непрыемнасці?

— Так, гер Пфэрдсан, вялікія непрыемнасці... І мне не было з кім адвесці душу... Я тут адзін... Але, дзякуй богу, усё кончылася... Праходзьце, калі ласка! — гасцінна запрасіў ён, адчыняючы насцеж дзверы.

Потым яны сядзелі за сталом, і расчырванелы пасля першай чаркі аканом гаварыў жонцы:

— У нас сёння свята, Інга! Мы за сталом прымаем немца! Як даўно гэта было!.. Але мы — немцы — сабраліся разам, і ў нас сёння вялікае свята. Дзе наша Эльза, Інга, чаму яе няма дома?

— Хіба ты не ведаеш, Пауль, што наша Эльза ўдзень мала бывае дома? Яна ходзіць па лесе і каля ракі...

— Яна, мабыць, любіць прыроду, — глыбакадумна зазначыў Пфэрдсан.

— Так! — горача пацвердзіў Гендарсан.— Яна любіць рускую прыроду: лес, раку і поле!

— О-о! — сказаў Пфэрдсан.— Я так і думаў. Я таксама люблю прыроду. Каля Рыгі, дзе я нарадзіўся, цудоўная прырода. Там блізка мора.

Ён падчапіў на відэлец скрылік кілбасы, панюхаў яго, палажыў у рот і пачаў жаваць.

— Вельмі смачная кілбаса,— прамовіў ён.

— Мая Інга сама яе робіць! — адказаў Гендарсан і наліў чаркі.

— Добра, калі ў хаце такая гаспадыня, як ваша жонка,— важна сказаў Пфэрдсан.

Інга пачырванела, як дзяўчынка.

— Нямецкія жанчыны ўсе добрыя гаспадыні! — пераканаўча заключыў Гендарсан.— Наша Эльза таксама будзе добрая гаспадыня! — дадаў ён.

— О-о! Я ў гэтым не сумняваюся! — сказаў Пфэрдсан.

— Вып'ем, доктар! — горача прапанаваў Гендарсан.— Я вас буду зваць доктарам, гер Пфэрдсан. Вы згодны?

— Я буду вельмі рад.

Яны забылі, што ў Слуцку, калі Гендарсан лячыў зубы, пілі на брудэршафт.

— Ну, дык вып'ем, доктар! Інга, вазьмі чарку!

У нас сёння свята! І заўтра будзе свята! Мы сабе можам гэта дазволіць!

— Можам! — пацвердзіў Пфэрдсан.

Так святкавалі яны да позняга вечара.

Назаўтра раніцай, калі Пфэрдсан яшчэ спаў, Гендарсан, як і звычайна, прайшоў па маёнтку. Ён праверыў, ці ўсё на сваіх месцах. У стайні сварыўся з конюхамі: яму здалося, што яны позна пачынаюць карміць коней. Потым зазірнуў у бровар і пайшоў дадому. У млын ён нават не заходзіў. Там цяпер быў Гарбаты Ясь, і аканом ведаў, што ў млыне ўсё ў парадку.

Ідучы ў свой флігель, думаў, што ён шчаслівы чалавек, што ўсё складваецца так, як трэба, як павінна быць, што нават часовыя няўдачы ідуць яму на карысць. Каб ён не з'ездзіў у Слуцак «лячыць зубы», то не пазнаёміўся б з доктарам Пфэрдсанам. Не ведаў бы, што такі чалавек ёсць на свеце. А цяпер — калі ласка! Доктар Пфэрдсан у яго гасцюе! І доктар Пфэрдсан будзе яго зяцем! О! Аб гэтым яны ўчора пагаварылі, пакуль не было Эльзы. А потым прыйшла Эльза. І ён убачыў, што яна спадабалася доктару. Гер Пфэрдсан быў ад яе ў захапленні. Эльза таксама зацікавілася доктарам. А цікаўнасць для жанчыны самае галоўнае. Калі жанчыне мужчына не падабаецца, то яна не будзе на яго глядзець з цікаўнасцю. Яна зусім не будзе на яго глядзець.

Калі Гендарсан увайшоў у кухню, доктар мыўся. Інга стаяла каля яго з доўгім калматым уціральнікам. Як бы рад быў Гендарсан, каб на яе месцы была Эльза! Але тая свавольная дзяўчына яшчэ спіць.

Гер Пфэрдсан мыўся з асалодай, з нейкім асаблівым доктарскім стараннем. Здавалася, што для яго няма нічога даражэйшага ў свеце, чым мыццё. Гендарсан пастаяў каля яго, і яму самому захацелася памыцца. Раніцай ён толькі спаласнуўся.

— Як спалася, доктар? — запытаў Гендарсан.

— О, дзякую! Вельмі добра!

— Я сёння буду свабодны ўвесь дзень, і мы яго правядзём так, як захочам. Мы пагаворым пра ўсё. У мяне, доктар, справы ідуць як па масле! — пахваліўся аканом.

— О, я гэта бачу. Вы добры гаспадар, гер Гендарсан,— доктар пачаў выцірацца.— І добры бацька. Ваш сын Вілі — разумны хлопец.

— Ён у вас быў? — узрадавана запытаў Гендарсан.

— О не! Я гутарыў з выкладчыкамі камерцыйнага вучылішча. Яны ў мяне лечаць зубы!

— У вас шырокая практыка, доктар! — з захапленнем прамовіў Гендарсан.

— Найшырэйшая!

Ён аддаў Інзе ўціральнік і важна выйшаў з кухні.

— Інга, наша Эльза яшчэ спіць? — шэптам запытаў Гендарсан у жонкі.

— Ах, Паўль... Яна пайшла ўслед за табою, калі доктар яшчэ спаў...

— Свіння... Яна знарок сышла з дому... Што я цяпер скажу доктару?..

— Ты не ведаеш, Паўль, што яна сказала мне...

— Што яна табе сказала?

— Ах... Яна сказала, што я...— Інга ўсхліпнула,— што я сама магу ісці замуж за гэтага... за гэтага парсюка доктара...

— Ціха...— зашыпеў Гендарсан.— Я гэтую нягодніцу!..

Але ён не ведаў, што зрабіць з гэтай нягодніцай. Адчуваў, што нічога не зробіць. Ён баяўся яе. Баяўся ўласнай дачкі. Спадзяваўся, што з часам яна адумаецца, зразумее, што бацька хоча ёй толькі дабра. І да доктара прывыкне... Такі мілы чалавек гер Пфэрдсан.

Пакуль Інга гатавала снеданне, Гендарсан з доктарам выпілі па чарцы старкі і, сеўшы ў крэслы адзін супраць аднаго, разважалі. Аднак з галавы ў Гендарсана не выходзіла Эльза, і злосць кіпела ў яго душы. Нягодная дзеўка! Нахабная і бессаромная! Ні разу яна не выходзіла з дому так рана, як сёння. А што, калі яна не вернецца і да снедання? У якое становішча яна яго паставіць! А што падумае доктар і пра яе, і пра бацькоў. Жах!.. Хоць бяжы і шукай гэтую распусніцу. Але дзе ты яе знойдзеш! А калі і знойдзеш, то хіба яна паслухае!..

Аднак Гендарсан яшчэ не траціў надзеі, і кожны раз, калі стукалі дзверы на вуліцы, ён думаў, што гэта вярнулася Эльза. І кожны раз чаканне яго было дарэмнае: гэта Інга выходзіла на ганак і вярталася назад.

Нарэшце! Нарэшце дачка зайшла ў кухню, нешта

сказала маці і шпаркімі крокамі накіравалася ў пакой. Гендарсан утаропіў позірк на дзверы. Калі яны адчыніліся, ля парога стаяў Гарбаты Ясь. Ён засопся, мабыць, бег ад млына да самага флігеля. І цяпер у яго не хапала духу, каб вымавіць слова...

З адчыненай топкі паравіка, як з пашчы ненасытнага казачнага страшыдлы, ірвалася полымя. Павел Квітун кідаў туды дровы, і іх мігам ахопліваў агонь.

Станіслаў Вярбіцкі стаяў, сагнуўшыся над варштатам, курыў і нешта вылічваў на кавалачку паперы. Потым ён разагнуўся, скамечыў паперку і кінуў яе ў агонь.

— Хопіць, Павел. Зачыняй топку.

— А мо яшчэ трохі?

— Даволі.

Павел выцер рукавіцай успацелы твар і зачыніў цяжкую дзверку.

— Згарні мне папяроску, Стась. Рукі адзеравянелі...

Станіслаў пачаў згортваць папяросу.

— Ты ведаеш, колькі гэты абармот аканом мае прыбытку ад бульбы, што купляе ў мужыкоў?

Павел адмоўна кіўнуў галавой.

— І я, дурань, не цікавіўся да гэтага часу. Тысячы рублёў недадае мужыкам! Усюды ў маёнтках, дзе ёсць бровары, цана за пуд адзінаццаць капеек, а ён плаціць восем.

— Адкуль ты ведаеш, што адзінаццаць?

— Я ж у Слуцку быў, то гаварыў з людзьмі. Ды і тут некаторыя ведаюць. Мне Кірыла Верабей падказаў, што немец на бульбе ашуквае мужыкоў. Дык от я, будучы ў Слуцку, і пацікавіўся. А, думаеш, Гарбаты Ясь не ведае?

— Гэтакі злодзей!

— Ты, Павел, ходзіш цяпер у Чыжэвічы... Памірыўся з Надзяй?

— Сам ведаеш.

— Дык от пагавары з Марцінам, з Пракопам, знаёмых у цябе там хапае. Няхай не аддаюць па восем капеек. Няхай патрабуюць па дванаццаць. Калі бровар стане, то нідзе не дзенецца, дасць і па дванаццаць. Хопіць яму тут панаваць! Не тыя гады!

— Добра, Стась. Але каб ты сам пагаварыў з Марцінам, то было б яшчэ лепш. Марцін там у павазе, да яго слоў і шляхта прыслухоўваецца. Доктарам завуць. А я хто яму? Малакасос...

— Я з ім абавязкова да нядзелі пагавару. Хоць вазьму ды захварэю, ці што! Жонку дашлю, каб пазвала.

Ён прычыніў дзверы, зірнуў у бок млына, усміхнуўся ў вусы і, павярнуўшыся да Паўла, сказаў:

— А я гасцей чакаю, ды нешта доўга няма.

— Якіх гасцей?

— З млына.

— Хто гэта прыйдзе да цябе ў госці з млына? — зацікавіўся Павел.

Станіслаў зачыніў дзверы, прайшоў да варштата і сеў на скрынку з інструментамі.

— А ты хіба не заўважыў, што млын сёння не падаваў голасу? Наш бровар загуў, а млын, як нямко, не адказаў.

— Далібог, я не чуў. Круціўся каля паравіка і не звярнуў увагі.

— Млын не адказаў. Дык от чакаю гасцей. Скора павінен з'явіцца Гарбаты, а можа нават і сам пан аканом.

У гэтую хвіліну з грукатам адчыніліся дзверы, і ў памяшканне ўляцеў ашалелы Гендарсан.

— Што гэта ест? — зароў ён.— Гэта ест безабразій. Швінства! Я вас... як гэта?.. Сібір, турма!.. Катарга!..

— У чым справа, пан аканом? — спакойна запытаў Вярбіцкі, падымаючыся з месца.

— Млын не работайт! Машына — стоп, і ўсё! Ты ест механік, чаму не работайт машына?

— Ага! Значыць, машына сапсавалася. Я вам, пане аканом, гаварыў пра гэта раней.

— Ты ест механік!

— Я — механік у бровары, а не ў млыне. Я адказваю от за гэтую машыну,— Станіслаў паказаў на паравік,— і за гэта атрымліваю плату. Да млына я не маю ніякай справы. Там Гарбаты Ясь.

Гендарсан адразу збавіў тон.

— Карбаты Ясь не ест механік...

— Я таксама не механік у млыне. І не палохайце мяне катаргай, пан аканом. Я не люблю, калі на мяне

крычаць. К чорту вашу работу і вас разам з ёю! Разлічвайце мяне! Я знайшоў работу ў другім месцы.

Гендарсан збялеў і вылупіў вочы. Ён гэтага не чакаў.

— Э-э... Як гэта разлічваць?! А машына?.. Машына павінна работайт...

— Я не сунімаў вашай машыны. Вы паставілі ў млыне няўмеку — Гарбатага Яся, а я вам казаў, што там патрэбен сапраўдны машыніст, які ведае сваю справу. Машынаю трэба кіраваць, быць пры ёй, а Гарбаты Ясь пільнуе не машыны, а мяхоў.

Павел з цікаўнасцю назіраў, як мяняецца аканомаў твар: самаўпэўненасць змянілася спачатку разгубленасцю, потым страхам. «Ну і Станіслаў!» — з захапленнем думаў Павел, паглядаючы на Вярбіцкага, які стаяў перад збялелым аканомам.

— Пане механік... Трэба... як гэта?.. папраўляйт машыну... У млыне ест завоз... Поўны млын завозу...

— Я вам сказаў, пане аканом, што ў млыне патрэбен механік. Я адзін не магу дагледзець дзве дашчэнту зношаныя машыны, якія даўно пара выкідаць у лом. Нават калі я папраўлю тую машыну, то ненадоўга. Праз дзень-другі яна зноў стане. А праз месяц стане назаўсёды. Мне зусім не цікава бегаць з бровара ў млын, а з млына ў бровар. Я не магу парвацца на дзве часткі, таму і знайшоў сабе работу ў другім месцы. Можа вы знойдзеце лепшага механіка, такога, што будзе адразу наглядаць за дзвюма машынамі, але я ўпэўнены, што не знойдзеце. Вам прыйдзецца купляць два новыя паравікі.

— Пане механік, я прашу вас...— прамовіў зусім знішчаны аканом.

«Ага, сукін сын, цяпер ты мяне заўсёды будзеш зваць «панам механікам»,— падумаў Вярбіцкі.— Але я табе яшчэ не сказаў галоўнага».

— Не магу і не хачу. Я сёння выберуся з гэтага праклятага маёнтка. Каб праз пана аканома ў мяне тут вобыскі рабілі ды на допыты цягалі!..

— Пане механік...то было... як гэта?.. непаразуменне!..— перапыніў яго Гендарсан.

— Непаразуменне? А сёння таксама непаразуменне? Машына стала, дык механіка на катаргу? Даволі з мяне!

— Э-э... Слухайце, пане механік... Я... як гэта?.. я ест з вялікімі нервамі...

Павел не мог стрымаць смех і адвярнуўся.

— У мяне тут,— аканом паказаў на грудзі,— у мяне тут усё... зварылася... Машына стала... Трэба папраўляйт машына...

— Вазьміце машыніста. Я вам ужо казаў: Якаў Шэмет ведае машыны. Вазьміце яго на работу ў млын. Мы паправім паравік, і млын пойдзе поўным ходам. Калі тут будзе Шэмет, то мы ўдвух неяк наладзім гэтыя два паравікі, а інакш я сёння звальняюся.

— Якаў Шэмет...

Гендарсан схіліў галаву і задумаўся.

— Добра...— нарэшце прамовіў ён.— Я бяру Якаў Шэмет! Я яго бяру!.. А машына трэба папраўляйт цяпер... У млыне завоз...

— Я пагляджу на тую машыну,— згадзіўся Вярбіцкі.— Але мне патрэбен памочнік. Квітун астанецца тут. Паклічце, пане аканом, Платона Шабуню. Мы з ім пойдзем у млын, хоць я вам наперад нічога не абяцаю.

Калі Гендарсан выйшаў, Станіслаў і Павел зірнулі адзін на аднаго.

— Ну, пане механік,— усміхаючыся, прамовіў Павел.— Даў жа ты дыхту пану аканому!

— Яшчэ адна перамога.

— У млыне твая работа?

Станіслаў сцвярджальна кіўнуў.

— Якаў Шэмет павінен быць з намі! — сказаў ён.

— Там вялікая работа?

— Пакуль Якаў Шэмет не будзе з намі, млын будзе стаяць,— адказаў Станіслаў Вярбіцкі.

# ЧАСТКА ДРУГАЯ

## РАЗДЗЕЛ ПЕРШЫ

Гендарсан ішоў з бровара як не сваімі нагамі. Ён забыў пра ўсё: пра гера Пфэрдсана, які чакаў яго за сталом, пра дачку Эльзу, якая недзе валочыцца, занядбаўшы прыстойнасць і абавязкі паслухмянай дачкі. Забыў нават пра снеданне, якое ўжо, мабыць, згатавала жонка. І гэта было тым болей дзіўна, што акуратны немец, снедаў, абедаў і вячэраў заўсёды ў пару. Цяпер усё гэта здавалася яму вельмі маленькім і дробязным у параўнанні з тым, што адбылося ў млыне.

Ён адчуваў, што яму нарабілі вялікага кепства, але даказаць гэтага не мог. Яго ашукалі рускія мужыкі. Ашукалі, як маленькага хлапчука. Машына сапсавалася не сама! Яны знарок сапсавалі яе. Хамы! Перш за ўсё хацелася зайсці ў млын, вылаяць Гарбатага Яся і даць яму некалькі аплявух. Не дагледзеў, абармот, машыны. Але калі ўспомніў звераватыя Ясевы вочы, яго доўгія рукі з цяжкімі, як гіры, кулакамі, то гэтае жаданне адразу знікла.

Каля свайго флігеля ён апынуўся нечакана, не помніў, калі да яго падышоў. «Гер Пфэрдсан...» — падумаў ён. Як бы ён быў рады, каб гера Пфэрдсана не было сёння ў яго доме, бо адчуваў, што пасля гэтага выпадку ў яго не хопіць вытрымкі павесці сябе так, як належыць паводзіць немцу і гаспадару, у якога і ў сям'і і ў гаспадарцы ўсё ў парадку.

На ганку ён крыху пастаяў, каб супакоіцца і каб не пазнаў гер Пфэрдсан, што ў яго вялікія непрыем-

насці. Але, божа мой! Хіба ён не пазнае! Такі разумны чалавек!

Ён адчыніў дзверы ў сваю хату, нібы злачынец, які сам ідзе на пакаранне.

— Што здарылася, Пауль? — запытала яго Інга адразу, калі ён пераступіў парог.

Гендарсан махнуў рукою. Яму хацелася вылаяцца на жонку. Чаго яна, дурная фрау, лезе не ў свае справы! Што яна разумее! Хіба яна паможа яму сваімі ўздыханнямі і слязьмі!

— Эльза прыйшла,— шапнула яму Інга.

У Гендарсана трохі пасвятлела на душы.

— Дзе яна? — запытаў.

— Размаўляе з панам Пфэрдсанам.

— Гут! Ці даўно яна прыйшла?

— Адразу як ты пайшоў, Пауль. Гер Пфэрдсан нават хвіліны не сядзеў адзін.

— Гут! — паўтарыў Гендарсан.

— У цябе, мабыць, зноў непрыемнасці, Пауль? Табе трэба добра памыцца, бо ты на сябе не падобны, бедны мой Пауль.

— Праўда,— адказаў расчулены немец. Хто-хто, а жонка то яго разумее!..— Праўда, мая дарагая Інгеборг... Я буду мыцца, а ты налі мне кілішак старкі, бо не магу я гэтакі паказвацца геру Пфэрдсану.

Інга ніколі не пярэчыла мужу і, калі ён, памыўшыся, абцёрся калматым ручніком, падала яму кілішак старкі. Ён выпіў і падумаў, што пры такім жыцці лёгка зрабіцца п'яніцам, аднак прыкрая чарната, што засланяла яго думкі, знікла.

— У цябе гатова снеданне? — запытаў у жонкі.

— Скора будзе гатова, Пауль. Я чакала цябе.

— Гут! — зноў сказаў Гендарсан.

Ён рашуча пайшоў у той пакой, дзе сядзелі гер Пфэрдсан і Эльза.

Зубны ўрач зірнуў на Гендарсана з відочнай цікаўнасцю, а дачка акінула бацьку такім ледзяным позіркам, што таго траха не скаланула, але ён не падаў выгляду, што адчувае сябе няёмка.

— Ну, як вы тут бавіце час, гер Пфэрдсан? — запытаў ён, як нічога і не было.— Я павінен быў адлучыцца. На маіх плячах вялікая гаспадарка. Усюды патрэбна сваё вока.

— Вельмі правільна, гер Гендарсан,— сказаў зуб-

ны ўрач.— У вас непрыемнасці. Ваша дачка расказала мне.

Гендарсан адчуў сябе так, нібы яго аблілі халоднай вадой. «Дачка расказала... Што яна расказала? Няўжо яна ведае пра ўсё, што было ў млыне. Адкуль яна ведае?» — усе гэтыя меркаванні праскочылі ў галаве аканома за адну хвіліну. Ён з шалёнай злосцю зірнуў на дачку. Не хапала яшчэ, каб гер Пфэрдсан ведаў пра ўсе яго справы, непрыемнасці, няўдачы. Яна мо расказала і пра тое, як яе бацька ўцякаў з канторы праз акно! І напэўна ж ён здагадаўся, чаму Гендарсан прыязджаў да яго лячыць здаровыя зубы. Нягодніца дачка!

— У мяне няма ніякіх непрыемнасцей, гер Пфэрдсан... Проста ў мяне не хапае механікаў, і таму спыніўся млын... Трэба рамантаваць машыну, а хто яе адрамантуе! На ўвесь маёнтак адзін механік, якому я не вельмі веру. Рускія, гер Пфэрдсан, сапраўдныя дзікуны... Тут нельга знайсці чалавека, якому можна было б даверыцца. Яны не любяць чужаземцаў. Яны не разумеюць, што гэта мы, немцы, нясём ім машынную прамысловасць і наогул цягнем іх за сабою. Усе яны бунтаўшчыкі і свінні.

— Так, так,— мнагазначна пацвердзіў зубны ўрач.— Той, што прыходзіў вас клікаць, сапраўдная малпа.

— А-а, гэта Гарбаты Ясь!.. Але яму можна верыць, гер Пфэрдсан.

— Тата толькі і верыць такім пачварам,— холадна сказала Эльза.— Гэты Гарбаты Ясь б'е сваю жонку. Гэта звер, а не чалавек, і ён татаў сябра.

Гендарсан пазелянеў. Праклятая дзеўка! Чаго яна лезе куды не трэба! Ахоплены злосцю, ён гнеўна зірнуў на дачку.

— Іх усіх трэба біць да паўсмерці! У іх няма ўдзячнасці! Іх трэба караць так, як тут калісь было ў прыгонны час!

Гендарсан распаліўся да таго, што гатовы быў сам біць мужыкоў. Ён нават уявіў, як біў бы гэтую свінню Вярбіцкага лазовымі дубцамі. Рукі свярбелі, так хацелася пакараць мярзотніка, асабліва за тое, што ён, немец-аканом, вымушаны быў назваць рускага хама панам, за тое, што пайшоў з бровара як пабіты сабака. Але ў гэты момант Эльза ўстала і выйшла з пакоя.

Ваяўнічы настрой у аканома адразу апаў. Дачка нарэшце давядзе яго да вар'яцтва. Няхай бы лепш яна спрачалася, няхай бы абараняла сваіх хамаў! Дык не, яна ні ў грош не ставіць бацьку. Пусціла шпільку і знікла... «Хоць бы яна зноў не сышла з хаты, тады дзе падзецца ад сораму перад герам Пфэрдсанам...» І Гендарсан раскаяўся, што так не ў пару распаліўся.

Гер Пфэрдсан глядзеў на аканома глыбакадумна і мнагазначна.

— Я разумею вас, гер Гендарсан,— нарэшце вымавіў ён.— Я вас вельмі добра разумею.

— О-о! — ледзь не завыў Гендарсан.— Мне тут цяжка жыць!..

— Веру, гер Гендарсан, і рады вам памагчы.

Аканом вылупіў вочы. Чым можа яму памагчы гэты добры чалавек?

Гер Пфэрдсан добразычліва ўсміхнуўся.

— Я заўсёды рады памагчы вам, гер Гендарсан. І, здаецца, я вам памагу.

Гендарсан нічога не разумеў.

— Вам патрэбен добры механік, гер Гендарсан. Добры механік-немец.

— О-о! — сказаў аканом.— Але дзе я вазьму механіка-немца?

Гер Пфэрдсан зычліва ўсміхнуўся.

— Я вам дам механіка, гер Гендарсан. Добрага механіка і добрага немца.

— О, гер Пфэрдсан! Якое гэта было б шчасце! Але дзе вы возьмеце такога чалавека?

— Я вазьму яго з Рыгі, гер Гендарсан. Там у мяне ёсць брат. Не родны, а ўсё-такі брат! Добры механік. Ён працаваў на вялікім заводзе. Але вы не ведаеце, што цяпер робіцца ў Рызе! Там вялікія беспарадкі, гер Гендарсан. Ды не толькі ў Рызе, але і па ўсёй Курляндыі. На заводах забастоўкі, у маёнтках бунты. Гэтыя брудныя латышы, гер Гендарсан, ані не лепшыя за рускіх. Яны нават яшчэ горшыя. Што там робіцца! Яны, гэтыя брудныя латышы, паляць нямецкія маёнткі, выганяюць памешчыкаў-немцаў. Былі нават забойствы... А ў Рызе яшчэ горш. Мой брат, пра якога я вам казаў, працаваў на вялікім заводзе майстрам, то гэтыя брудныя латышы прымусілі яго кінуць работу. Ён добрасумленна выконваў свае абавязкі, то яны паставілі ўмову перад адміністрацыяй завода, каб яго зволь-

нілі з работы. Вам патрэбен такі механік, гер Гендарсан?

— Патрэбен! — закрычаў аканом.— Ён мне патрэбен!

Гендарсан зноў распаліўся і грукнуў кулаком па стале.

— Патрэбен, гер Пфэрдсан! Давайце яго сюды! Я ім пакажу Якава Шэмета! Я іх расцісну, растапчу! Я пастаўлю вашага брата старшым механікам! О, гер Пфэрдсан! Вас да мяне паслаў сам бог!

Раптам настрой у аканома зноў пагоршыўся. Ён успомніў пра млын, і сэрца яго ўпала. Кожны дзень прастою каштаваў не капейкі, а рублі, частка якіх належала аканому. Гарбаты Ясь заўсёды сам сабе ўкрадзе, з ім аканом не думаў дзяліцца.

— Як далёка Рыга, гер Пфэрдсан! — прамовіў ён безнадзейна.— Як далёка Рыга! Каб ваш брат быў у Слуцку! Няхай бы ён быў нават у Мінску... А Рыга!..

Зубны ўрач дабрадушна ўсміхнуўся і зірнуў на аканома, як на малога.

— Рыга зусім недалёка, гер Гендарсан. Гэта вам толькі здаецца, што яна вельмі далёка. Вы, мабыць, ніколі не былі ў Рызе. Калі сёння адбіць тэлеграму, то мой брат будзе тут праз некалькі дзён.

— Праз некалькі дзён...— як рэха, паўтарыў Гендарсан.

— Так, так, гер Гендарсан. Хіба гэта многа, нейкія пяць дзён! Мой брат наладзіць работу ў вашым млыне так, што гэтыя няшчасныя дні не будуць мець ніякага значэння, як быццам іх і не было. Толькі тэлеграму трэба адбіць сёння.

— Мы яе адаб'ём! — бадзёра прамовіў Гендарсан.— Калі вы, гер Пфэрдсан, не супроць, то э-э-э... пасля снедання з'ездзім у Старочын. Гэта недалёка, каля дзесяці вёрст.

— Я буду вельмі рады памагчы вам.

— А я вас затрымаю тут на пару дзён. Вы ў мяне пагасцюеце, гер Пфэрдсан! У нас знойдзецца аб чым пагаварыць. Спадзяюся, што гэта не напсуе вашай практыцы.

— О не! У мяне шырокая і трывалая кліентура, гер Гендарсан. Гэта мяне не хвалюе.

— Як я вам удзячны, гер Пфэрдсан! — расчулена прамовіў аканом.

— Нічога! Мы — немцы — павінны заўсёды падтрымліваць адзін аднаго, памагаць адзін аднаму. Асабліва ў чужой краіне.

Не ведаў аканом, што зубны ўрач знарок прыехаў да яго, каб знайсці месца свайму беспрацоўнаму брату — штрэйкбрэхеру і здрадніку.

У пакой увайшла Інга і запрасіла гера Пфэрдсана і мужа на снеданне.

Перад самым абедам у бровар зайшоў заклапочаны Платон Шабуня. Павел Квітун стаяў ля топкі, а Станіслаў курыў, абапёршыся на варштат, і думаў пра Якава Шэмета. Нарэшце такі яны будуць разам. Скора сяляне пачнуць прадаваць у бровар бульбу, работы будзе па вушы. Павялічыць цану на сялянскую бульбу — вось якая задача стаяла перад імі.

— Хлопцы,— сказаў Платон.— Вы не ведаеце, што гэта за панок гасцюе ў нашага аканома?

Станіслаў узняў галаву.

— А які нам клопат да аканомавых гасцей, Платон? — запытаў ён.

— Вядома, да яго гасцей нам няма ніякага клопату,— адказаў Шабуня.— Але можа ёсць клопат да таго, што сёння аканом са сваім госцем паехалі ў Старочын?

— Вось як!

— І не на сваёй кабылцы, запрэжанай у бяду, а на стаенніку. Мы з Кірылам Вераб'ём ледзь запрэглі яго ў брычку, і сам Кірыла сеў за фурмана.

— Ого! — прамовіў Павел, зачыняючы топку.— Можа да ўрадніка пакацілі!

— От таму я і прыйшоў сказаць пра гэта. Калі што не ў парадку, хлопцы, то трэба падрыхтавацца.

— Усё ў парадку, Платон,— задумліва адказаў Станіслаў.— Па-мойму, да ўрадніка пакуль што ў Гендарсана інтэрасу няма. Тут нешта іншае. А што за госць у аканома?

— Нейкі панок. Не такі круглы, як Гендарсан, але гладкі. І вельмі вясёлыя абодва.

— Гэта горш,— зазначыў Станіслаў.— Сёння Гендарсану радавацца няма чаго. Скарэй за ўсё яму трэба плакаць. Можа п'яны?

— Не без таго. Але вясёлы ён не ад гарэлкі. Такога я дасюль яго не бачыў. Увесь аж свіціцца.

— От гэта ўжо зусім незразумела,— сказаў Станіслаў.— Што ж, будзем гатовы да ўсяго. Паглядзім, што за гасцінец ён нам прывязе. Трэба пільнаваць, калі вернецца. Ты, Платон, робіш на двары, то наглядай. Можа і сапраўды прывязе сюды ўрадніка.

— Я не прагледжу,— адказаў Платон.

Гендарсан са сваім гасцём вярнуліся са Старочына падвечар. Калі Кірыла Верабей завёў каня ў стайню і вярнуўся ў старожку, яго ўжо чакаў Платон Шабуня.

— Ну, дзядзька, добра пракаціліся на стаенніку? — запытаў ён.

Стары Верабей зморшчыўся.

— Няхай ён здохне, рукі паадрываў. Не ў мае гады фурманам быць. Да самага Старочына як чорт яго нёс.

— А куды ж гэта ездзілі паны?

— На пошту, каб яны падушыліся. Як зайшлі абодва, дык нібыта рабілі, доўга там сядзелі. Што яны там рабілі, ліха іх ведае. Я ж каля каня круціўся, пільнаваў чорта, каб ён выдах. Не хоча стаяць, зямлю капытамі б'е... А гэты другі, што з нашым ездзіў, таксама немец. Усю дарогу па-свойму гергеталі, хіба я ведаю, пра што? Гергеталі і смяяліся, найболей наш. А другі той — зубны доктар са Слуцка, бо пытаў у мяне: «Ці маеш, стары, зубы?» — «Не,— кажу,— не маю, паны ўсе павыбівалі». Рагоча, свалата. «Прыязджай,— кажа,— да мяне ў Слуцак ды золата прывозь, я табе залатыя ўстаўлю». От і ўсё, Платон.

Так Шабуня нічога і не ўведаў ад Кірылы.

Загадка разгадалася вечарам. Павел Квітун ішоў да Станіслава Вярбіцкага. На двары падмарожвала. Растаптаная скацінай гразь ператварылася ў храпу. Ісці было слізка і няроўна. Павел збочыў з дарогі і ішоў паўз плот, што аддзяляў панскі сад ад двара. Раптам уперадзе ўбачыў жанчыну, якая ішла насустрач. Спачатку Паўлу здалося, што гэта Надзя. Мабыць, так бывае з кожным закаханым, якому ўсюды мроіцца каханая дзяўчына. Але ў тое ж самае імгненне ён зразумеў, што гэта не Надзя. Што магла рабіць тут Надзя ў такую пару!

— Гэта вы, Павел! — пачуў ён голас, яшчэ не параўняўшыся з жанчынай, і пазнаў Эльзу Гендарсан.

— Я, паненка,— адказаў ён.— Добры вечар.

— Мне трэба было сёння пабачыць вас, Павел,— прамовіла Эльза, не адказаўшы на прывітанне.

— Мабыць, тут не вельмі ўдалае месца для сустрэчы, паненка.

— Мы зойдзем у сад.

Яна пайшла наперад, адчыніла вароты і павяла Паўла асеннім садам, які ўжо атрос са сваіх галін усё лісцё. Цяпер гэтае лісцё, кранутае марозам, шамацела пад нагамі. Дрэвы стаялі голыя, як дзеркачы, праз іх рэдкае галлё віднеліся бліскучыя зоры на халодным начным небе. Усё навокал было зімовае, золкае, але па-свойму прыгожае і крыху патаемнае. Не хапала толькі снегу. «Спатканне,— падумаў Павел.— Цікавае спатканне ў панскім садзе з дачкой ворага...»

Эльза спынілася каля старой грушы, трухлявай і дуплянастай. Адсюль былі відны ярка асветленыя вокны аканомавага флігеля. Святло з іх шырокімі паласамі лажылася на мёрзлую зямлю, укрытую інеем. Паўла ахапіў нейкі дзіўны настрой, бо ўсё гэта не было падобна на яву.

— Я хачу вас папярэдзіць, Павел,— сказала Эльза, хутаючыся ў вялізную ваўняную хустку; гэтая хустка і рабіла яе падобнай на пажылую жанчыну, кволую і бездапаможную.— Я хачу вас папярэдзіць, што Якаў Шэмет не будзе працаваць у маёнтку.

— А што мне да Шэмета? — абыякава адказаў Павел, бо ўсё навакольнае страціла ў яго вачах сваю казачнасць.

— Не гаварыце мне гэтага, Павел. Я ведаю ўсё. Тата расказаў. Яны п'юць з зубным урачом са Слуцка, і тата расказаў усё, пра што вы гаварылі сёння ў бровары. Сёння яны ездзілі ў Старочын і адбілі тэлеграму ў Рыгу да брата гэтага зубнога ўрача. Ён скора сюды прыедзе і будзе старшым механікам. Я не ведаю, што там за брат, мабыць, добры прахвост, бо ў Рызе яму няма месца... Я павінна была папярэдзіць вас, Павел...

— Мне гэта ўсё роўна, паненка. Мае пасады той брат зубнога ўрача не зойме. Я не механік.

Гэта былі словы, а душу Паўла заліла гарачая хваля ўдзячнасці і прыязнага пачуцця да гэтай незразумелай чужой дзяўчыны.

— Не, вам не ўсё роўна, Павел. Гэта мне ўсё роўна, аднак я папярэдзіла вас... Бывайце, Павел...

Яна падала яму руку. Ён узяў у сваю гарачую далонь яе халодныя трапяткія пальчыкі і мімаволі пацалаваў. І яна пайшла да флігеля, ахінуўшыся вялізнай ваўнянай хусткай, як пажылая жанчына. Павел глядзеў ёй услед аж датуль, пакуль постаць яе не схавалася за сцяной флігеля.

## РАЗДЗЕЛ ДРУГІ

На двары падаў снег. І ўдалечыні ўсё адсунулася назад, здрабнела і ледзь віднелася праз белую смугу зімовага дня. А сняжынкі падалі і падалі на мёрзлую зямлю, на палі і лугі, на лясы і гаі, на двары і стрэхі. Прырода паступова ўбіралася ў бель і ўвачавідкі прыгажэла, бо зіма хавала пад снегам увесь зямны бруд.

У гэты дзень Лісавета мыла бялізну. Учора выпарыла ў цэбры з гарачым лугам, а сёння мыла. Балелі расчырванелыя рукі. Палатняныя кашулькі, штонікі, бацькавы порткі, ручнікі, абрусы — усё цвёрдае, трэш яго, трэш, і з мылам, і з попелам. Пакуль адатрэш гразь, дык скарэй сатрэцца скура на далонях.

Цяжка жыць без маткі, а Лісавета ўжо два гады была за гаспадыню ў хаце. Маці памерла, калі Лісавеце ішоў пятнаццаты год. І от з той пары ўся хатняя работа звалілася на яе рукі. Вясной трэба было пасадзіць і дагледзець агарод, каб усё расло не горш, чым у людзей. Летам жніво, сенакос, потым лён, а ўсю восень і зіму, пакуль сыдзе снег,— прасніца і кросны. Ніхто за яе не напрадзе, не натчэ, а мужчын трэба адзяваць, ды і сабе ў скрыню нейкае палатно пакласці.

Цяжка без маткі. Няма ў каго парады папрасіць, ніхто не паможа. Толькі цётка Аксеня ды Алена не акідалі Лісавету. Навучылі снаваць кросны, накідаць у ніты і ткаць. Не толькі простае палатно, а і абрусы, ручнікі і капы. Дурыцца Лісавеце не было калі, старалася запомніць усё за адзін раз, каб потым не бегаць, не пытацца. Бо калі раз запытаеш, то яшчэ нічога, а калі два ды тры, то гаворка пачнецца: дурная, непанятлівая. Трэба быць панятлівай, бо благая слава пойдзе па засценку. І Лісавета была панятлівая. У семнаццаць сваіх сірочых гадоў яна ўмела рабіць усё, што трэба ўмець дзяўчыне-нявесце. А шыць ды латаць, мабыць, ніхто не ўмеў лепш за яе. Малодшыя браты

Алесь ды Адам добрыя былі дзеруны, асабліва меншы, Алесь — што ні надзене, дык ляціць яно на ім, як з павуціння саткана. Чатырнаццацігадовы Адам памагаў ужо бацьку. Нават на Волю ездзіў. Бацька наладзіў яму невялікую касу, і Алесь быў і касец, і малацьбіт. Толькі яшчэ не араты. Цяжка плуг цягаць.

Лісавета мыла і думала, што цяпер будзе лягчэй. Зімой заўсёды лягчэй. Ведай толькі хатнія справы. Скаціну бацька з Алесем самі кормяць ды пояць. Толькі свінням яна замяшае, дык і то Адам або Алесь, або і сам бацька, падхопяць вёдры і занясуць. Берагуць яе ўсё-такі мужчыны. Толькі карову Лісавета сама даіла. А летам было, калі затрымлівалася на жніве, то бацька і карову даіў.

Лісавета была рада, што лён сцёрты, а патрапаць яго яна і сама здолее. Цяпер пачнуцца вячоркі. Самы лепшы час для маладых. Дзяўчаты будуць прасці, спяваць песні, а потым можна скласці прасніцы і пагуляць. Хлопцы таксама збіраюцца: яны ў карты рэжуцца, кураць або дурэюць, не даюць прасці. Асабліва Тамаш Сташэвіч такі жартаўнік... Ах, гэты Тамаш...

Лісавета, напраўшы дзве ручайкі, заўсёды спяшалася дамоў. Нельга было ёй заседжвацца дапазна. Добра таму, у каго маці ёсць, раніцай можна даўжэй паспаць. Маці сама ўстане, печ запаліць, а дачцэ дасць вылежацца. А хто заменіць Лісавету! Самой трэба прачнуцца ўпору, газоўку запаліць, бульбы свінням намыць, снеданне згатаваць. Добра, што бацька і Адам памагаюць. Цяжэйшыя чыгуны бацька сам у печ ставіць, сам і вымае. Адам заўсёды вады і дроў прынясе, падпалкі дробнай насячэ ды насушыць, каб печ можна было скора распаліць. Адам дык з выгляду зусім дзікун, а сэрца мае добрае. Лісавета бялізну мые, а ён сядзіць, частыя граблі майструе, амецце перагрaбаць — цяпер яны малоцяць з бацькам.

А на дварэ снег. Ужо не сыплецца дробнымі сняжынкамі, а падае буйнымі камякамі, і ўвесь свет нібы ў малацэ. На дрэвах у садзе абвіслі галіны, снег наваліўся на іх і прыгнуў. Лісавета зірнула ў акно. «Божачка, зіма!» Невядома, чаго больш было ў галаве гэтай дзяўчынкі, дзіцячага ці дзявочага. Яна ўзрадавалася, што прыйшла зіма. Узрадавалася шчыра, як радуюцца дзеці першаму снегу, першым зімовым дням, калі можна праехаць на санках, зляпіць бабу, кінуць

снежку. Ох, прайшла гэтая шчаслівая пара... Прайшла і, мабыць, больш ніколі не вернецца.

— Вынесі, Адам, памыі,— папрасіла яна брата.

Адам паклаў граблі, вынес на двор памыйніцу і, вярнуўшыся ў хату, сказаў, як сталы мужчына:

— Ну і снег! Скора з татам па сена паедзем.

Лісавета ўздыхнула. А дзе ж бялізну пасушыць? На двор не вынесеш, такі снег лепіць. Каб марозік... Прыйдзецца на гарышча лезці. А тут певень у падпечку нібы ачмурэў ад седні — калі гаркнуў узапар разоў пяць: «Ку-ка-рэ-ку!»

Адам усміхнуўся і сказаў:

— Мароз чуе! Бач ты яго!

Лісавета кончыла мыць, папрасіла Адама:

— Можа б ты нанасіў вады ў цэбар, Адам. Паласкаць трэба.

— Дзе твой цэбар? — запытаў ён, надзяваючы шапку.— Той жэўжык Алесь недзе на лёд пайшоў коўзацца, а то мы б табе адразу поўны цэбар прывалаклі... Давай вёдры.

Пакуль Лісавета кончыла паласканне, рукі сталі як граблі, аж не гнуцца. Але к гэтаму часу прайшла снегавая хмара, і на чыстым небе выбліснула халоднае зімовае сонца. І памацнеў мароз. Дзяўчына адагрэла рукі, апранулася і панесла вешаць на платы бялізну. Няхай вымерзне добра, тады ў хаце скора дасохне.

Такая любата на дварэ. Усё навокал белае, снег іскрыцца на сонцы, паветра такое здаровае, што не надыхацца. Вароны кінулі свае гнёзды, біткам набітыя снегам, і цэлай чарадой расселіся на бярозе, абляпілі ўсе галіны. Лісавета павесіла бялізну, а рукі зайшліся ад холаду. Яна схапіла снегу і нацерла рукі. Снег спачатку апякаў голае цела, балюча стала, потым горача. Лісавета зляпіла снежку і шпурнула ёю ў варон. Яны ўзняліся і паляцелі шукаць другога месца. Лісавеце шкада стала бедных птушак.

— Варон ганяеш? — пачула Лісавета і здрыганулася. Яна адразу пазнала гэты голас.

Каля варот стаяў Мікалай Халуста і ўсміхаўся. Лісавета не адказала, яна нібы скамянела.

— Давай у снежкі пагуляем!

— Не лепяцца снежкі,— не сваім голасам адказала дзяўчына.

— Не лепяцца? — Мікалай сагнуўся, набраў поў-

ныя прыгаршчы снегу, памяў яго, зляпіў здаравенную снежку.

— Бачыш! Чаму ж не лепяцца? Хочаш, у цябе пацэлю!

— Дзіва што... Так блізка...

— Кажаш, блізка? Ну, дык пакажы, куды далёка пацэліць!

— Ай, Мікалай... Ідзі лепш дадому...

— Ну, пакажы, куды далёка пацэліць! Ну, вунь у тую таполю, што на Янавым завулічным агародзе стаіць?

— Ты туды і не дакінеш.

Мікалай быў добра выпіўшы, гэта адразу пазнала Лісавета. Ёй трэба было ісці ў хату, а не разводзіць гаворку з гэтым... Лісавета не ведала, як назваць яго. Тата яе зваў Халустаў зладзеямі, але Лісавета не магла так назваць Мікалая... Не то каб ён ёй падабаўся, яна пра гэта баялася і думаць... Але ён быў не такі, як усе засцянковыя хлопцы. Халусты ўсе былі інакшыя, і іх баяліся ў засценку. Асабліва баяліся Мікалая. Яго не асмельваліся зачапіць, бо ён мог адпомсціць. Але як адпомсціць? Прастадушная дзяўчына яшчэ не разумела жыцця. «Ён жа нікому нічога благога не зрабіў»,— думала яна. Наогул, яна шмат чаго не разумела. Вунь Андрэй Сташэвіч яшчэ дужэйшы за гэтага Мікалая, але ж пра яго не кажуць так, як пра Халустаў. Або Тамаш... Аднагодкі ж яны — і Мікалай, і Андрэй, і Тамаш... Але Андрэй і Тамаш інакшыя. З імі можна жартаваць, гаварыць, бо яны свойскія. Яны не такія, як Мікалай, яны на віду, іх ведаюць з маленства. А Мікалай не свойскі. Ён чужы, у ім нешта іншае, не такое, як ва ўсіх... І вось яно, гэтае чужое, цягне, заманьвае... Хочацца ведаць, а якое ж яно, гэтае невядомае, чужое...

— Кажаш, не дакіну да Янавай таполі? Ну, дакіну ці не?

— Не ведаю, Мікалай.

— Ну, дык глядзі!

Мікалай размахнуўся. Снежка вылецела з яго рукі, аж загула ў паветры і ўдарылася ў ствол таполі на вышыні чалавечага росту.

— Бачыла! А ты казала — не дакіну!

Лісавета зірнула на яго з захапленнем.

— Ці знойдзецца ў вашай задрыпанай Малінаўцы

хлапец, які дакіне датуль снежку або камень? — хваліўся Мікалай.— Не знойдзецца такіх! Я левай рукой дзесяць малінаўцаў скручу і ў кулаку сцісну.

Ён гаварыў так упэўнена, што Лісавета верыла яму і баялася яго.

— Чаму ты ўчора на вячоркі не прыходзіла?

— Часу не было...

— А сёння прыйдзеш?

— Не ведаю...

— Прыйдзі, дурная. Я табе нешта дам.

— Ай, Мікалай...

— Прыйдзі, я табе кажу. Не будзеш каяцца.

Мікалай не бачыў, што на ганку стаяў Адам. Ён пачуў, што Лісавета з некім гаворыць, і выйшаў паглядзець.

— Ідзі дадому, Лісавета,— загадаў ён.

Лісавета адразу пайшла ў хату.

— Бач ты яго! — прамовіў Мікалай.

— А табе чаго тут трэба? — па-гаспадарску запытаў Адам.— Чаго трэшся каля чужых варот ды, як злодзей, у двары заглядаеш?

— Глядзі ты на яго, на малінаўскага байструка! — агрызнуўся Мікалай.— Пападзешся ты ў мае рукі, я табе вушы адарву.

— Глядзі, каб я табе не адарваў.

— Ты? Мне? — Мікалай ледзь не паваліўся з рогату.— Падшывалец, смаркач, ха-ха-ха! Ён мне вушы адарве! Бачылі вы такога!

Тым часам, пакуль ён смяяўся і лаяўся, Адам не спаў у шапку. Не паспеў Мікалай узняць галавы, як у яго паляцелі снежкі. Адна папала ў грудзі, а другая проста ў твар.

— Я табе пакажу! — зароў Мікалай, ірвануўшыся ў вароты, але Адам ускочыў у хату і замкнуў дзверы.

— Што ты там нарабіў, Адам? — спалохана запытала Лісавета.

— Нічога. Гэткі ён цалец, зладзюга! Няхай ведае! «Няма ў Малінаўцы такога хлопца, што ў таполю пацэліць!» От я дык пацэліў яму ў самую зладзейскую храпу.

— Ён жа цябе зловіць як-небудзь ды наб'е...

— Не зловіць! А няхай паспрабуе набіць, то я Андрэю і Тамашу скажу, яны яму пакажуць!

— Ён жа старэйшы за цябе...

Адам зірнуў на сястру і чмыхнуў носам.

— А ты не вельмі з ім стой ды размаўляй... Што ён табе даць абяцае, злодзей гэты, і за што?

Лісавета пачырванела.

— Ён жа п'яны, Адам. Хіба ты не бачыў?..

— Глядзі, Лісавета!.. Калі ты ад яго нешта возьмеш, тату скажу.

— Што ты, Адамка!..

— Будзе табе што! Яго ж Андрэй і Тамашом вязалі, рэзаліся яны з бацькам. Якая ж ты дурная, Лісавета!

— Гэта ты дурненькі, Адамчык...

— Я не дурненькі! Але калі ўбачу, што ты стаіш з ім ды гаворыш, то глядзі!

Бедны Адам! Хіба ён ведаў, што Лісавета не толькі тут, у сваім двары, гаварыла з Мікалаем. Ён праводзіў яе з вячорак, ён ужо абяцаў ёй залатыя горы. Ніхто гэтага не ведаў, акрамя яе і Мікалая.

У жыцці чалавека бываюць гадзіны адзіноты і тугі, калі жыццё здаецца не такім, як трэба, няпоўным, пустым, непатрэбным. Тады чалавек прасочыць кожны свой крок, абмяркуе яго, ацэніць, і часта, вельмі часта позняе раскаянне сціснe яго сэрца. Былі такія хвіліны і ў Лісаветы апошнім часам. Прыходзіла раскаянне, але яна не хацела прымаць яго ўсур'ёз, не магла прымаць і зварочваць з таго шляху, па якім пачала ісці.

Ноччу, калі ўсе ў хаце спалі, Лісавета ляжала без сну і думала пра Мікалая. І сустрэчы з ім, і думкі пра яго былі яе таямніцаю. І таямніца гэтая падчас адбірала яе спакой.

Першы раз яна сустрэлася з Мікалаем вясной на свята Міколу. У засценку хлопцы наладзілі вечарынку. Танцавалі на двары. Моладзі сышлося шмат — і з Жывіцаў, і з іншых блізкіх засценкаў. Вечар стаяў ціхі, цёплы і зорны. Пахла бэзам, што рос каля платоў і расцвіў. Лісавета ніколі не забудзе таго вечара. Ёй здавалася, што быў ён асаблівы, не падобны на іншыя. Так прыгожа было на двары, так хараша навокал, што ёй хацелася ісці адной цераз поле, цераз лугі ў незнаёмую, але такую прывабную далечыню... Тады яна ўпершыню танцавала на вечарынцы. Не з хлопцамі. Барані божа! Яна ўцякла б, каб яе запрасіў хлопец. Яна танцавала са Сташэвічавай Аленай і з Асіеўскай Ганнай з Жывіц. І от тады яна пачула словы: «Якая

хвацкая дзяўчына вырасла ў Талімона!» Яна не ведала, хто гэта сказаў.

— Чуеш, што пра цябе хлопцы гавораць? — запытала ў яе Алена.

— Ай, Аленачка...

— Гэта Халустаў Мікалай.

— Ай, Аленачка...

— Дурненькая, чаго ты саромеешся!

— Не трэба мне ніякія хлопцы...

— Пачакай, галубка! Спачатку ўсе так гавораць.

Лісавета адразу ж забыла і Мікалаевы словы і гаворку з Аленай. Яна танцавала і забыла пра ўсё на свеце! Так лёгка і хораша было ў яе на душы, што хацелася ўзняцца і ляцець.

Вечарынка кончылася пад раніцу. Свежа стала на дварэ, лёгкае стамленне ахапіла ўсё цела. Лісавета дадому пабегла адна. І вось каля двара яе сустрэў Мікалай Халуста. Яна і не заўважыла яго, бо стаяў ён каля слупа, нібы зліўшыся з ім.

— Чаму ж ты адна, Лісаветка? — запытаў ён.

— Ай! — ускрыкнула яна.— Хто гэта?

— Не крычы, дурненькая, гэта я,— ён стаяў каля варот, не даючы ёй праходу.

— Пусці, Мікалай... Мне дадому трэба...

Яна спалохалася не на жарт, бо ніколі так не сустракалася з хлопцам адно на адно. Ды яна так і не спалохалася б, каб быў нехта другі, а не Мікалай Халуста. Свайго засцянковага хлопца яна таўхнула б, аблаяла. Але гэта быў Мікалай Халуста, і Лісавета нават не магла крыкнуць, каб некага паклікаць.

— Пусці, Мікалай... Мяне дома чакаюць...

— Ніхто цябе не чакае, усе спяць.

— Ох, божачка мой, божачка...

І яна заплакала наўзрыд, закрыўшы далонямі твар.

— Дурненькая! Чаго ты плачаш? Я ж табе нічога дрэннага не раблю. Ну, чуеш? Хіба ты мяне за звера лічыш?

Лісавета не адказала. Яна плакала, і постаць яе была такая бездапаможная, такая кволая, такі шчыры быў яе плач, што пакрыўдзіць яе не мог нават сам Мікалай Халуста.

— Сціхні, чуеш! Эх, і дзіцятка ж ты...

— Пусці мяне, Мікалай, дадому...

— Ідзі, дурненькая, хіба я цябе трымаю.

Мікалай адышоў ад каліткі. Лісавета шмыгнула ў яе, але ён перахапіў дзяўчыну, прытуліў да сябе і моцна пацалаваў. Яна нават не паспела крыкнуць.

— Ну што? Жыва асталася? Бяжы цяпер на здароўе.

Яна рванулася, ускочыла ў двор і, не аглядаючыся, пабегла да хаты. Ён пастаяў, паглядзеў ёй услед і паволі пайшоў па вуліцы.

— Што за дзеўчанё! — сказаў ён сам сабе.

Гэта была першая сустрэча. Лісавета думала, што яна будзе і апошняя, але яна не ведала Мікалая Халусты. Дарэмна яна старалася не хадзіць адна з вячорак або з вечарынак і заўсёды пільнавалася Алены Сташэвічавай. Мікалай падпільноўваў яе тады і там, дзе яна і не думала, што сустрэне яго. Ён яе не крыўдзіў, стараўся быць ласкавым, уважлівым і чулым, трымаў сябе сціпла і толькі на развітанні цалаваў. І пазбегнуць гэтых пацалункаў Лісавета не магла. Да таго часу яна ўжо асвойталася, і Мікалаевы пацалункі не былі ёй агідныя.

Яна не разумела, любіць Мікалая ці не. Гэтае новае пачуццё яшчэ не зусім авалодала яе сэрцам. Яна толькі адчувала, што прыемна, калі ён, такі дужы і магутны, якога ўсе баяцца, сустракае яе, слухае і шкадуе. Ёй было прыемна, калі ён браў яе ручкі ў свае вялізныя шурпатыя рукі і песціў іх, прыкладаў да губ і цалаваў. Яна і сама адчувала сябе каля яго не такой ужо нікчэмнай і бездапаможнай. Яна саромелася яго пяшчотаў, але сэрца яе трапяталася і замірала, калі ён прыціскаў яе да сябе і цалаваў... Але яна ведала, што калі ён захоча, то зробіць з ёю усё, што яму ўздумаецца... І ў доўгія асеннія вечары, калі яна сядзела за шыццём ці латаннем, да яе прыходзіла раскаянне... Нешта адбылося ў яе жыцці не так, як трэба. Зусім не так. Трэба было адразу гэта кончыць... І цяпер не сустракацца з ім. Хіба ў засценку мала добрых хлопцаў? Вунь Тамаш Сташэвіч... Хіба ён дрэнны? Лісавета ведала, што ён заглядаецца на яе, але, мабыць, яшчэ маладзенькай лічыць. Ах, Тамаш, Тамаш! Не ведае ён, што гэтая маладзенькая з Мікалаем Халустам цалуецца...

## РАЗДЗЕЛ ТРЭЦІ

Андрэй з Іванам узяліся за малацьбу. Трэба было аслабаніць у гумне месца пад сена, бо салому можна скласці на прыгуменні, а кулі пад страхой, сена ж на двары не складзеш.

Далася ў знакі малацьба. Уставалі ад першых пеўняў, не хапала сну. Іван, калі садзіўся адпачыць, пакуль Андрэй курыў, дык адразу і засынаў, а Андрэя і ноччу не браў сон. Ён цяпер глыбока адчуў, як дорага яму Ганна. Пасля бацькавай смерці сустрэўся з ёю толькі адзін раз у Старочыне. Нават не пагаварыў як след і, мабыць, пакрыўдзіў. Як жа ўбачыцца з ёю, расказаць пра ўсё, каб зразумела яна яго, каб ведала, як цяжка яму жывецца?

Не менш трывожныя былі і думкі пра Алену. І шкада было сястры і злосць брала на яе. Знайшла ў каго закахацца, у Юзіка Грома! Няўжо ж яна думае, што Андрэй аддасць яе замуж за яго? Не, гэтага не будзе! Старэйшая ж сястра, Аляксандра, і весткі аб сабе не падае. А без яе Алену з хаты не выпхнеш за першага сустрэчнага. Ды тут яшчэ жалоба гэтая замінае: пакуль яна не кончыцца, і жаніхі да Алены не паедуць. Трэба ледзь не год чакаць. А тады хоць сам жаніся, хоць сястру замуж аддавай, бо на два вяселлі ў год і гаспадаркі не хопіць. Аддасі замуж Алену — самому яшчэ год чакай, а за гэты год стары чорт Асіеўскі аддасць за некага Ганну... Ажаніцца самому — то трэба адразу цэлую псарню сабак разводзіць, каб упільнаваць Алену ад Юзіка Грома. Куды ні кінь, усюды клін... Не, трэба самому ажаніцца на тое лета, бо без Алены прыйдзецца наймаць работніцу. А чым плаціць?

У галаве круцілася ад гэтых праклятых думак, і Андрэй не знаходзіў выйсця з таго становішча, у якім апынуўся.

У суботу раней кончылі малацьбу. Трэба было адпачыць трохі, бо назаўтра Андрэй збіраўся з'ездзіць у Крушнікі да Юркі Хмялеўскага. Яшчэ нябожчык бацька сані яму заказаў і задатак даў.

— Мо ты дамоў сходзіш, Іван,— сказаў Андрэй парабку.— Заўтра я ў Крушнікі паеду, да Хмялеўскага.

— Чаго?

— Сані прывязу. Скора мароз балота і раку закуе, па сена паедзем, а ў нас толькі адны сані.

— Хмялеўскі нядаўна тут быў, да Халусты прыязджаў.

— Чаму ж ты не сказаў мне? Я запытаў бы пра сані, мо ён яшчэ не зрабіў.

— Адкуль я ведаў! Мне Якаў гаварыў, што сваркі там было — не давядзі бог, ледзь не пабіліся яны. Халуста гатовы быў на сцену лезці. Нешта ашукаў ён Хмялеўскага, а той яго і прыцііснуў.

Андрэй у адказ толькі хмыкнуў.

— Дык ты пойдзеш дадому?

— Не. Лепш адасплюся... Ага! Халуста ў маёнтку малатарню купіў. Немец яму прадаў нейкую старую, то цяпер абодва Халусты ў кузні поркаюцца, малатарню тую ладзяць.

— Не дурны, сукін сын... Малацьбітоў наймаць не будзе...

Андрэй упершыню адчуў зайздрасць да Халусты, да яго гаспадаркі, багацця, да гэтай малатарні, якой за тыдзень абмалоціць усё... А яму, Андрэю, да вялікага посту хопіць малацьбы.

Назаўтра Андрэй устаў раней за ўсіх. Разбудзіў маці, каб згатавала снеданне, а сам пайшоў у свіран, насыпаў у мех асьміну жыта і пачаў рыхтаваць сані.

На двары яшчэ і не падобна было на дзень, а Каштанка ўжо была запрэжана і стаяла каля ганка, прывязаная да слупка. Андрэй апрануў новы кажух, памазаў боты, каб не мерзлі ногі, і пайшоў да дзвярэй.

— Пачакай, сынок,— сказала старая Аксеня.— Я наклала торбу яблык, завязі Хмялеўскаму. У яго дзетак многа.

— Давайце сюды.

— Толькі ў салому пакладзі, каб не змерзлі.

— Добра. А вы тут Івана не будзіце, пакуль сам не ўстане.

Андрэй выйшаў, адвязаў лейцы, сеў у сані і цмокнуў на кабылу. Яна весела пайшла з двара.

Зіма! Андрэй у гэтым годзе першы раз запрог кабылу ў сані. Прыемна было ехаць па гладкай вуліцы, калі цябе не страсяне, не стукне, калі сані плывуць, нібы човен па рацэ. Для поўнага здавальнення Андрэй закурыў. Ён выехаў з вуліцы і завярнуў на шлях. Толькі ўзняў пугу, і кабыла рванулася ў рысь.

Да самага Старочына ехаў па соннай дарозе. Нікога не сустрэў, не дагнаў. Калі ўехаў у мястэчка, на двары пачало шарэць. Але ні на вуліцах, ні на рынку не было яшчэ ніякага руху.

За Старочынам пачалося сапраўднае Палессе. Спачатку Андрэй ехаў па доўгай грэблі цераз балота, потым пачаўся лес. Не такі, як у Маргах, а векавы бор. Сосны стаялі адна ў адну; здаецца, крані каторую — і зазвініць. Потым мясцовасць пайшла пад ухіл. Сасновыя бары кончыліся і замяніліся ельнікамі, якія далей перайшлі ў дубровы. Андрэй ехаў, ахоплены незнаёмым пачуццём бездапаможнасці перад магутнай прыродай. Яму здавалася, што з гушчыні гэтых лясоў вее далёкім старажытным жыццём, незразумелым і таемным. І цішыня невераемная. Ні гуку, ні шолаху, як у казачным царстве, у краіне вечнага змроку.

Прасторы палескія! Пушчы, балоты бяскрайнія! Колькі сцежак-дарог працяло вашы нетры глыбокія! Якія таямніцы хаваеце вы ў гушчыні бароў і непраходных балот! Андрэю здавалася, што яму сніцца гэты дзівосны лес у снежным убранні, ахутаны казачнай цішынёй.

Наперадзе паказаліся падводы. Палешукі везлі ў Старочын на продаж сваё багацце: дзежкі, ліпаўкі, цабры, вёдры. Нават прасніцы, верацёны і лыка. Палевікі ўсё купяць. Прывязі воз аглабель, дуг, абадоў — і нічога не астанецца, усё расхопяць ды яшчэ папросяць, каб прывозілі больш.

Старочын стаяў у выгодным месцы, на мяжы Палесся. Сюды з'язджаліся і палешукі, і палевікі. Палевікі прывозілі хлеб, садавіну, а палешукі — драўляныя вырабы. Тут і гандаль быў своеасаблівы, скарэй за ўсё не гандаль, а абмен, бо палешукі ахвотней прадавалі сваё дабро на пашню, чым на грошы.

Калі паляшуцкія вазы пад'ехалі бліжэй, Андрэй звярнуў убок. Трэба было даць людзям дарогу, у іх вазы гружаныя, а ён ехаў улегцы.

— Дзень добры!

— Дзень добры!

— Куды так рана?

— У Крушнікі.

— А-а! Да Юркі!

— Да яго!

На Случчыне падарожныя вітаюцца, знаёмыя ці

незнаёмыя. Прыемней становіцца на душы, калі сустрэнешся з чалавекам, павітаеш яго і ён цябе павітае, хоць і ўбачыўся ты з ім першы і апошні раз.

Абмінуўшы палешукоў, Андрэй падагнаў кабылу. Усё казачнае і дзівоснае, што з'явілася ў душы, цяпер прайшло. Нічога таямнічага няма ў гэтым Палессі. Гаруюць людзі. Зямля — пясчаныя выспы, акружаныя балотамі, лясамі. Ёсць такія хутары і вёсачкі, што летам на кані ні туды ні адтуль. Гной вясной на сваё поле ў чаўнах возяць. Цемра, глуш. Улетку заедзь жыцця не дае ні чалавеку, ні скаціне. Кароў многа трымаюць, а малака яны па шклянцы даюць. Зямлю палешукі і цяпер яшчэ сохамі аруць і запрагаюць у іх не коней, а валоў. Як сто гадоў назад было, так і цяпер вядзецца...

Хмялеўскі быў якраз на двары, калі прыехаў Андрэй. Ён сам адчыніў вароты, узяў кабылу за аброць і павёў у двор.

— Мо распражэш, Андрэй? Няхай бы кабыла адпачнула.

— Не. Адпачне і так. Ды не вельмі яна замарылася, у хляве стаіць.

— Ну, то хадзем у хату.

Андрэй падкінуў кабыле канюшыны.

— Пачакай, Юрка. Я прывёз асьміну жыта, то вазьмі ды высып.

— А братачка! Адкуль жа ты ведаеш, што я табе сані зрабіў? А мо яны яшчэ не гатовы!

— Не зрабіў, то зробіш. Толькі мне трэба скарэй, сена вазіць пара.

— Гатовы, братачка, твае сані. У гумне стаяць. Вечныя сані я табе зрабіў, а аглабель аж тры пары.

— Гэта добра. У нас аглоблі — тавар. Бяры жыта.

Хмялеўскі забраў жыта, занёс яго ў сенечкі, высыпаў і прынёс Андрэю пусты мех. Тады Андрэй узяў з воза торбу з яблыкамі, і абодва пайшлі ў хату.

Хата ў Хмялеўскага была вялізная, печ такая, што хоць скачы па ёй, лаўкі тоўстыя і шырокія, прасторны ясеневы стол і высокія ложкі з бярозы.

— Усё сам парабіў,— зазначыў Хмялеўскі, заўважыўшы, што Андрэй з цікаўнасцю агледае ўбранне яго хаты.

Прастору ў хаце было шмат. Пяцёра дзяцей, старэйшаму гадоў дзесяць, гулялі на падлозе. Калі ў хату

ўвайшоў чужы чалавек, яны нібы зніклі. Большыя палезлі на печ, а меншыя знайшлі прытулак каля маткі.

Жонка Хмялеўскага была яшчэ не старая, прыгожая маладзіца, толькі выглядала яна вельмі прыгнечана і няшчасна.

Андрэй сеў і яшчэ раз агледзеў хату. Усюды былі чысціня і парадак, але беднасць лезла з усіх куткоў. Увесь адзетак і абутак быў свой, даматканы і самаробны. Сама жанчына — у андараку ў клеткі і лыкавых лапцях; двое малодшых дзяцей у доўгіх зрэбных кашулях, босыя; старэйшы сын, невялікі прыгожы палешучок, як мужчына, у штанах, у новых лапцях і белымі анучамі.

— Глядзіш на маіх дзяцей, што голыя ды босыя,— прамовіў Хмялеўскі.— Лён у нас дрэнна расце. Ведаеш, якая зямелька: голы пясочак. Маёй Настасі прасці няма чаго, а то б і яна напрала і наткала.

Настася ўздыхнула.

— Ой, Андрэй! Хоць бы лёну добрага папрасці... У нас жа такі малы, такі кароценькі, а слабы-слабы... Прашу свайго — купі...

Хмялеўскі нездаволена зморшчыўся.

— Купі! Хіба сама не ведаеш, куды нашы грошы ідуць!

Андрэй тым часам развязаў торбу з яблыкамі.

— Ну, дзеці, я вам гасцінца прывёз.

Дзеці з усіх куткоў ласа паглядалі на яблыкі, але ніхто з іх не адважваўся падысці да чужога дзядзькі. Тады Андрэй аддаў торбу Настасі.

— Я не дзіўлюся, Юрка, што дзеці твае голыя, бо яны і не голыя, але думаю: як ты жывеш у лесе адзін?

— Не думай, што я тут вельмі адзін. Людзі ў лесе штодзень бываюць. От жонка — то праўда, што адна. Толькі з дзецьмі.

— Ой, божачка... Каб не дзеці, звар'яцела б я тут...

— Дзядзечка! А ўчора ўвечар так ваўкі вылі! — паскардзіўся хлопчык гадоў шасці.— Каля самае хаты. А таты дома не было. Мама казала, што ваўкі тату з'ядуць. Але не з'елі!

— Маўчы, дурненькі,— сказала яму маці.

Хмялеўскі горка ўсміхнуўся.

— Ваўкі твайго тату не з'ядуць, сынок,— і, павярнуўшыся да Андрэя, дадаў: — Не ваўкі мяне з'ядуць, а Халуста, мабыць, такі даканае.

— Ты ў яго быў нядаўна?

— Быў. Каб ён не дабыў сённяшняга дня.

— Чаму ж да мяне не заехаў?

— Не да таго было, Андрэй.

Хмялеўскі расказаў Андрэю пра сваю бяду.

— Ну і што мне цяпер рабіць? — запытаў ён.— Я ж увесь у яго зубах. Яму толькі астаецца праглынуць мяне. Былі мы з ім у Гендарсана, [illegible] дубамі тымі ўладзіліся. Дык я ж, братачка, дагадаўся. Гэта ж ён і ўдаў мяне таму немцу. Сам дубы забраў, а мяне ўдаў! Ведаў, што нідзе я не дзенуся, да яго прыйду, а яму таго і трэба... Трэба яму, каб я поўзаў перад ім, ногі яго лізаў... Так што, братачка, жыву я на гэтым хутары, як госць. Вэксаль ён мне і не думае аддаваць. І калі захоча, дык выганіць мяне як міленькага.

— Нічога я табе не параю, Юрка. Каб я быў на тваім месцы, то прыціснуў бы яго недзе ў кутку так, што ён сам ногі мне лізаў бы! І прынёс бы ён мне вэксаль у зубах.

— Дзе ты бачыў, Андрэй! У турме згнояць, а ў мяне дзеці.

— Ой, Андрэй! — сказала Настася.— Не хацела я гэтага хутара... І Юрку не раз казала. А ён як надумаўся... Надакучыла парабкам быць, трэба на гаспадарку ўзбіцца. От і ўзбіўся...

— Маўчы ты, жанчына...

— А я і маўчу. І лета маўчу, і зіму, год за годам... Няма каму слова сказаць... Сам ты кожны дзень у лесе, а я адна... Васільку ўжо адзінаццаты год, вучыць трэба, каб хоць распісацца ўмеў... А дзе тут яго вучыць? Сэрца маё ўжо збалела ды знyла ад такой жыткі.

— Ты зноў пачала, Настася, сваю песню. Хіба я сам гэтага не ведаю і ў мяне душа не баліць? Гаспадзі божа мой! Ды каб я ад Халусты адкаснуўся, то чалавекам бы стаў. Тут жыць можна!

Чалавек наўмысна падбадзёрваў сам сябе.

— Тут можна жыць, братачка Андрэй... Зямля няўдалая, то ліха яе бяры. Затое пашы хапае, скаціну трымаў бы летам чужую. Просяцца людзі з поля: вазьмі на пашу, той цялушку, той бычка. А я чалавек майстравіты. Я і абады, і калёсы, і дугі... Пабачыш, якія сані я табе зрабіў! У лесе дзічыны хапае. Можна тут, братачка, жыць. А Васілька б я ў Мелкавічы завёз

на зіму, няхай бы вучыўся... Ды дай ты лепш паабедаць чалавеку, Настася, а то ж яму дадому трэба.

Настася пачала даставаць з печы чыгуны...

Андрэй выехаў ад Хмялеўскага рана. Меркаваў дамоў заехаць змрокам. Да сваіх саней прывязаў ззаду новыя, тыя, што зрабіў Хмялеўскі. На іх ляжалі тры пары аглабель і смаловы чурбак. «Цётцы Аксені печ распальваць»,— сказаў Юрка. У торбу з-пад яблык Настася паклала дзічынага мяса ды перавясла сухіх баравікоў. «Дзеці назбіралі, каля хаты растуць. У пост поліўку варыць добра...»

— А пра лён я пагавару са сваімі жанкамі, Настася,— сказаў, ад'язджаючы, Андрэй.— Лён у гэтым годзе ў мяне вельмі добры. Усяго не папрадуць.

Хмялеўскі праехаў з Андрэем з паўвярсты. Тады папрасіў суняць кабылу.

— Я табе не ўсё сказаў, Андрэй,— прамовіў ён.— Але павінен сказаць, братачка... Васіль і Юрка Шымкевічы ў мяне.

— Што? — ледзь не крыкнуў Андрэй і адчуў, што гарачыня ахапіла ўсё яго цела.

— Не крычы, братачка... Што я мог зрабіць?.. У Юркі прастрэлена рука. Паліцыя іх лавіла. Як першачавалі яны ў цябе, то адразу і прыйшлі сюды. Ноч у лесе спалі, потым мяне сустрэлі.

— Яны табе казалі, што ў мяне былі? — з жахам запытаў Андрэй.

— Казалі, братачка. Бо каб не сказалі, то я іх не пусціў бы. Я іх і не пускаў. Тады Васіль сказаў, што іх не такі чалавек, як я, не выгнаў, а ён жыве не на хутары, а ў засценку. Я запытаў, хто такі той чалавек. Ён не хацеў прызнацца, але я настояў.

— Дзе ж ты іх схаваў?

— У лесе, братачка. Можна сказаць, у мядзведжым берлагу. Сякую-такую нару зрабілі. Днём мне ў лесе памагае Васіль, а Юрка ж хворы... Я дровы рыхтую. Ноччу, калі дзеці спяць, у хату прыходзяць. Людзі ўсё ж такі, братачка... І іх Халуста са свету зжыць хацеў.

— Доўга яны думаюць у цябе прабыць?

— Пакуль у Юркі не зажыве рука.

— Як ты мне асмеліўся сказаць пра гэта?

— Каб я не ведаў, што яны ў цябе былі...

— Яны ў мяне не былі. Яны цябе ашукалі.

Хмялеўскі збялеў, як марцвяк.

— Што ты кажаш, братачка! — Язык ужо не слухаў чалавека.— Тады я прапаў, як муха... як муха...

— Нічога ты не прапаў. Супакойся, Юрка.

Андрэю было шкада гэтага няшчаснага чалавека, але не мог ён прызнацца яму, што Шымкевічы і сапраўды ў яго начавалі.

— Супакойся, Юрка. Тое, што ты мне сказаў, памрэ разам са мной, а ты не будзь такі даверлівы. Сымона Ашакевіча ўжо ўраднік дапытваў. Яны Хаіма Ножыка абрабавалі.

— Яны мне казалі... Юрка мне тыя грошы аддаваў...

— Хто ў цябе пытае пра гэта?

— Я толькі табе, братачка Андрэй... Усё роўна ўжо я ў тваіх руках, рабі са мной што хочаш... Але калі пачаў, то і кончу...

Раптам валасаты яго твар сутаргава скрывіўся, і з вачэй пакаціліся слёзы. У Андрэя сціснулася сэрца, і ён адвярнуўся.

— Ён мне аддаваў тыя грошы, але я не ўзяў...

— Добра зрабіў. Не бяры... Што ж думаюць рабіць далей гэтыя хлопцы?

— У Амерыку выехаць... Грошы ў іх ёсць.

— Няхай едуць. Абы ім удалося.

— Дык што ж мне цяпер рабіць?.. Прагнаць іх?..

— Не. Маўчаць. У хату прыводзь асцярожна, каб дзеці не ўбачылі.

— Я святла не запальваю... Пагрэюцца трохі моўчкі і ізноў у лес... Братачка Андрэй!

— Супакойся, я табе кажу. Я хоць і не маю дзяцей, але сёння на тваіх паглядзеў. Клянуся табе, Юрка!

Калі Андрэй развітаўся з Хмялеўскім, яго апанавалі чорныя думы. У жыццё яго, і без таго несалодкае, увайшлі яшчэ і гэтыя два дурні Шымкевічы. Што, калі іх зловяць? Ці можна верыць, што яны не скажуць і пра яго, і пра Ашакевіча, і пра Юрку Хмялеўскага... Тады бяда!..

У Старочыне кірмаш быў яшчэ ў самым разгары. Андрэю тут не было чаго рабіць, ён думаў, не спыняючыся, ехаць проста дамоў, але ўбачыў кабылу Асіеўскага. Зноў незразумелае пачуццё падказала яму, што Ганна тут. Андрэй убачыў вольнае месца каля жалезнай крамы Брадоцкага і тут суняў кабылу, а сам пай-

шоў да воза Асіеўскага, які стаяў поруч. Але Ганны каля воза не было. Андрэю нельга было адыходзіць далёка, сабакі маглі пранюхаць і звалачы мяса, а ліхі чалавек — украсці аглоблі. Не толькі аглоблі. Адыдзі далей, дык і новыя сані адвяжуць... А дзе ж усё-такі Ганна? Напэўна, з бацькам па крамах ходзіць, а што яна тут, то бясспрэчна.

...Асіеўскі заўдавеў гадоў сем назад. Тады Ганна была яшчэ дзіцем. Бывала, стары шляхціц у нядзелю ці ў якое-небудзь свята запрагаў сваю кабылу, такую слаўную ў ваколіцах, у воз на жалезным хаду, садзіў сваю жонку, садзіўся поруч сам і ехаў на кірмаш у Старочын або ў Слуцак. Глядзіце, маўляў, які я гаспадар! Якая ў мяне кабыла! Які ў мяне воз! Якая ў мяне жонка! А жонка яго ладная была жанчына, і ўдалая, і прыгожая. Ганна кропля ў кроплю на яе падобна. Калі жонка памерла, то Асіеўскі пачаў вазіць дачку. Глядзіце, маўляў, якая дачка ў мяне расце. Ганна і недарсткам была красуня, а як падрасла! Асіеўскі, вядома, ездзіў не толькі для таго, каб пахваліцца сваёй кабылай і дачкой. У яго былі большыя меркаванні. Жаніхі! Хто не прыедзе ў сваты да такой прыгожай дзяўчыны! У якой багаты бацька! Які дасць за дачкой добры пасаг! Пасаг!.. І жаніхоў у Ганны хапала. Пачалі прыязджаць, калі Ганне не было і пятнаццаці гадоў. Старыя, гнілазубыя, але багатыя. Бедных Асіеўскі не пусціў бы ў двор. Ад думкі пра жаніхоў Андрэй папахмурнеў і хацеў ужо ехаць дамоў, але ў гэтае імгненне ўбачыў Ганну. Яна ішла адна, з нейкім скрутачкам пад рукой, лёгкая, імклівая, дарагая дзяўчына. Андрэй зірнуў на яе і адразу забыў пра яе жаніхоў. Яна сама была перад ім, прыгожая, мілая, такая, якой ён заўсёды ўяўляў яе, такая, якая яна была яму патрэбна.

— Дзень добры, Андрэй,— сказала яна і ўсміхнулася. Гэта ўразіла Андрэя, бо мінулы раз яна не смяялася.

— Дзень добры, Ганна,— ён узяў яе руку, і яна не адняла яе.— Пакажы, якую сукенку купіў табе бацька.

— Гэта не сукенка, Андрэй. Гэта Міхал сабе корту купіў кажушок пакрыць.

Міхал быў старэйшы Ганнін брат, але Андрэй з ім не сябраваў.

— А бацька хіба не прыехаў?

— Не. Мы з Міхалам прыехалі.

У Андрэя ўсярэдзіне ўсё заспявала. Таму сёння Ганна і ўсміхнулася яму. Значыць, яна баіцца бацькі.

— Скора дамоў паедзеце? — запытаў Андрэй.

— Як прыйдзе Міхал.

— А дзе ён?

— Да шаўца пайшоў, панёс боты шыць.

Андрэй сёння не знаходзіў, аб чым гаварыць з Ганнай. Радасць заліла яго ўсяго. Не было той звычайнай злосці, якая заўсёды апаноўвала яго, калі Ганна была ў мястэчку з бацькам.

— Ты цяпер, Андрэйка, нікуды не ходзіш?

— Нікуды...

— Усё дома і дома...

— Усё дома... Ах, Ганна, у мяне ўсё гарыць усярэдзіне. Гэта проста шчасце, што я сустракаюся з табой тут, у Старочыне... А то б наўрад ці калі ўбачыў бы я цябе. І нічога я пра цябе не ведаю. Можа ты замуж выходзіш...

Яна зірнула на яго з недаўменнем.

— А я пра цябе ўсё ведаю, Андрэй...

— Адкуль ты ведаеш?

— Тамаш расказвае.

— Ён табе нагаворыць, шэльма!

— А ён нічога дрэннага не гаворыць, Андрэй. І ён не мне гаворыць, а ўсім. Ах, як смяяліся ўсе, калі ён расказваў, як вы Халусту вязалі, а потым як ты Халусту пугай біў.

— От свіння.

— Ах, Андрэй... Гэтыя Халусты... Я проста баюся...

Андрэй не верыў сваім вушам.

— Ты баішся, Ганка? — запытаў ён, гатовы схапіць яе і задушыць у сваіх абдымках.

— Вядома, баюся... Яны ж маглі і цябе зарэзаць...

— Не нарадзіўся яшчэ такі чалавек!

Андрэй сказаў гэта і сапраўды адчуў у сабе неймаверную сілу і адвагу: такую сілу, што перавярнуў бы горы, такую адвагу, што адзін рынуўся б у бойку з цэлым войскам.

— Ганна... Ты не забыла таго, што я табе казаў мінулы раз тут, у Старочыне?

— Не, Андрэйка.

— Не забыла?

— Не, Андрэйка, не забыла...

— Будзеш чакаць мяне?

— Андрэйка...
— Будзеш чакаць?
— Ну, нашто ты пытаеш?..
— Не! Ты скажы мне, Ганна... Будзеш чакаць?
Яна апусціла вочы.
— Буду, Андрэйка.

Ён забыў пра ўсё на свеце, абняў яе, пацалаваў у губы і, нават не азірнуўшыся, каб паглядзець, бачыў хто гэта ці не, пайшоў да свайго воза.

Цяпер яму было ўсё ніпачым: і Халусты, і Шымкевічы, і розныя там ураднікі.

За мястэчкам ён заспяваў.

## РАЗДЗЕЛ ЧАЦВЁРТЫ

У Чыжэвічах, у Малінаўцы, ва ўсіх навакольных сёлах і засценках ужо ведалі, што Гендарсан ашуквае сялян на бульбе, якую яны прадаюць у бровар. Спачатку гэта былі толькі чуткі, якія выйшлі з Чыжэвіч, а потым знайшліся дасужыя людзі, што пабылі ў броварах ў маёнтку Астроўкі, за пятнаццаць вёрст ад Малінаўкі, аж пад Слуцкам. Чуткі сталі праўдай: у Астроўках куплялі бульбу ў бровар па адзінаццаць капеек за пуд, а не па восем, як у чыжэвіцкім маёнтку.

Селяніна лёгка ашукваць датуль, пакуль ён не ведае, што яго ашукваюць, але калі ён уведае пра гэта, то ў яго ніколі не будзе веры да таго, хто яго ашукаў раней. Ужо выпаў снег, лягла санная дарога, самая была пара вазіць бульбу ў бровар, але ніхто не пракладаў яшчэ следу ў чыжэвіцкі маёнтак. Гендарсан менш за ўсё думаў пра гэта. Ён ведаў адно: калі прывязе мужык воз бульбы па марозе, то нідзе не дзенецца, аддасць за тую цану, якую вызначыць аканом. Не павязе ж назад, калі яна падмерзла! Што з ёю рабіць дома, куды дзяваць! Хіба толькі пад плот высыпаць. Акрамя таго, аканом больш думаў пра млын, чым пра бровар. Бровар ішоў на поўны ход, а млын стаяў, і рыжскі механік недзе ўвяз у дарозе.

Пра ашуканства Гендарсана першы ў Малінаўцы ўведаў Нічыпар Мартыневіч. Ён, як дзесяцкі, часцей за іншых бываў у Чыжэвічах, там яму і ўвялі ў вушы пра цану на бульбу. А трэба сказаць, што Мартыневіч і Нарбутовіч прадавалі бульбы ў бровар больш за кож-

нага малінаўца. Мартыневіч ужо і збіраўся завезці пару вазкоў і напэўна завёз бы, каб не пабыў у Чыжэвічах. Пануры і злосны, ён прыйшоў да Лявона Нарбутовіча.

— Ці чуў ты, Лявон? Гэта ж немец на бульбе ашуквае. Па тры капейкі на пуд недадае!

— Ну ты, сугней, скажаш! — грэбліва прамовіў Лявон, які і ў грош не ставіў свайго стрыечнага брата.

— Хіба я сам выдумаў? — ускіпеў Нічыпар.— Вунь і стараста Вырвіч — кавалак хама — і той зубы выскаляе. «Добра,— кажа,— нагрэў вас Гендарсан за гэтыя гады». Падумай ты сам, Лявон, тры капейкі на пуд! А я ж да дзвюх соцень пудоў прадаю, лічы, што з усёй Гарасімаўшчыны...

Лявон спачатку фыркнуў, потым задумаўся. Ён прадаваў больш за Нічыпара. Было пра што падумаць.

— А адкуль гэта вядома, што ён ашуквае? — усё яшчэ не верыў ён.

— А людзі ў Астроўкі хадзілі. Там плацяць па адзінаццаць капеек за пуд, хоць сёння вязі.

— Гм,— буркнуў Лявон.— Сукін жа ён сын! Ну, дык і павязём у Астроўкі. Коні свае, а дзень усё роўна страціш, ці ў Чыжэвічах, ці ў Астроўках.

— І я гэтак думаю.

Міхаліна такую навіну вельмі скора разнесла па ўсёй Малінаўцы.

Гарбаты Ясь — пранырa і хцівец — ведаў, якую скулу рыхтуюць мужыкі Гендарсану, і надумаў папярэдзіць яго. Ён, вядома, больш баяўся за сябе, чым за Гендарсана, бо калі б Гендарсан страціў месца аканома, то і ён страціў бы месца аканомавага памочніка. Але калі ён сказаў Гендарсану, што цану на бульбу трэба павялічыць да адзінаццаці капеек, той ускіпеў і гатовы быў пляснуць свайму млынару па мордзе. Ён не мог яму дараваць, што млын стаіць дзесяты дзень.

— Як хочаце, пане аконам,— сказаў Ясь.— Бульба ў маёнтку канчаецца, а на колькі нам хопіць бярозаўскай? Кончым яе — і прыйдзецца зачыняць бровар.

— Як гэта зачыняйт бровар? — закрычаў Гендарсан.— А бульба з мужык! Самі яе не сажрайт!

— У Астроўкі павязуць, пане аконам. Там плацяць па адзінаццаць капеек за пуд. Вы, пане, не ведаеце, што робіцца ў сёлах. Памятаеце, летась у гэтую пару каля бровара стаяла па паўсотні і больш падвод, а ця-

пер ні адной. Калі мужыкі не прывязуць бульбы, бровар прыйдзецца спыніць да паўзімы. А што на гэта скажа пан Крупскі? Ён жа не атрымлівае гэтых трох капеек, якія вы недадаяце мужыкам на кожны пуд.

Гендарсан пабялеў. Ясь гаварыў праўду. Спыніць бровар! Мала таго, што стаіць млын. А што скажа пан Крупскі, які ў Варшаве спраўляе баль за балем і патрабуе грошай? А ўласны даход! Усё паляціць к чорту разам з пасадай аканома.

Гутарка гэтая вялася ў кухні аканомавага флігеля; мужчыны былі ўдвух, зрэдку заходзіла Інга, але яна ні слова не разумела па-беларуску.

— Я раю, пане, неадкладна аб'явіць новую цану на бульбу, пакуль яшчэ ніхто з мужыкоў не павёз яе ў Астроўкі,— гаварыў Ясь, не спускаючы звераватага позірку з аканома.— Вы, пане, не ведаеце мужыкоў. Варта толькі аднаму павезці бульбу ў Астроўкі, як за ім павязуць усе. Мужыкі, пане, як авечкі: куды адна, туды і ўсе. А тады хоць вы і па дванаццаць станеце плаціць, усё роўна павязуць не да вас, а ў Астроўкі. Пан Залеўскі забагацее, а мы згалеем.

— Да Астроўкі далёка, да нас блізка! — Гендарсан выставіў апошні свой доказ.

— У мужыкоў, пане, свае коні, за падводы яны не плацяць, за пошар таксама.

— Што ест такое пошар?

— Сена, пане, канюшына, мякіна і салома.

— Гэта ест корм для скаціна,— зразумеў нарэшце немец.

— Але, пане,— адказаў Ясь і падумаў, што гэты немец зусім дурны. «Што ест такое пошар?» Яму гаворыш пра справу, а ён цікавіцца глупствам.

Аднак Гендарсан збавіў тон і запрасіў Гарбатага сесці.

— Інга,— сказаў ён жонцы,— дай нам па чарцы старкі.

Калі Інга паставіла на стол пузатую бутэльку, Ясь скрывіўся, як серада на пятніцу.

— Не час цяпер, пане, займацца гэтым,— занудлівым голасам прамовіў ён.— Трэба рабіць справу, пакуль не позна.

— Мы яе будзем рабіць,— адказаў аканом.— Па дзесяць капеек за пуд.

— Не, пане, позна ўжо,— рашуча сказаў Ясь.—

Каб тыдзень назад аб'явілі па дзесяць капеек, быў бы інтэрас, а цяпер толькі па адзінаццаць. І то добра, калі выйдзе, бо мужыкі злуюцца за мінулыя гады.

Гендарсан памаўчаў.

— Што ест мінулыя гады, што ест тыдэн назад,— нездаволена, але не павышаючы голасу прамовіў ён.— Тыдэн назад, дэн назад, то есть адно.

Ён пачаў налівацъ кілішкі.

— Не, не адно, пане! — злосна адказаў Гарбаты і падумаў, што з гэтым дурным немцам, прагным і скупым, мабыць, нельга дамовіцца. Не чакаючы аканома, ён узяў кілішак і перакуліў яго ў рот.

— Не, не адно, пане! — паўтарыў ён.— Трэба напісаць аб'явы за вашым подпісам, што бровар купляе бульбу па адзінаццаць капеек за пуд. Аплата адразу пасля здачы. Аб'явы гэтыя трэба павесіць у кожным сяле і ў кожным засценку. За вашым подпісам, пане, бо мужыкі яшчэ не забылі, што было, як выбіралі бульбу, і на слова не паверацъ. Толькі так мы выратуемся з бяды, пане, інакш прапалі.

Гендарсан пачырванеў, залыпаў вачыма і пачаў наліваць па другім кілішку. Ён адчуваў сябе так дрэнна, што гатовы быў напіцца, як тады, калі ўцёк з канторы праз акно.

— Дык як, пане? — гудзеў Гарбаты Ясь, вочы якога не пацяплелі і пасля другога кілішка.— Аб'явы трэба павесіць у Чыжэвічах на браме старасты Вырвіча і на слупку каля варот Арлоўскага Казіміра, у яго заўсёды людзі бываюць. А ў іншых сёлах і засценках, дзе ёсць соцкі, то на варотах соцкага, а дзе дзесяцкі, то на яго варотах. Бо інакш нам канец.

Гендарсан разумеў, што Гарбаты Ясь кажа праўду, але зрабіць так у яго не хапала мужнасці. Колькі ён ужо страціў за гэты год і колькі давядзецца страціць! Маёнтак, які ён меркаваў купіць праз два-тры гады, знік, як у тумане.

— Інга, Інга! — сказаў ён жонцы.— Ты не ведаеш, як мне цяжка!..

— Бедны мой Пауль...— адказала верная жонка.

У гэты самы момант на ганку загрукала некалькі пар ног, і ў кухню ўваліліся тры мужыкі з Чыжэвіч. Сярод іх быў і Пракоп Крываблоцкі. Яны не абцерлі ботаў, на якія наліпла нямала снегу, затое спыніліся каля парога і ўсе тры знялі шапкі.

10 Зак. 2045

— Ну, што? — звярнуўся да іх Гарбаты Ясь.— Хоць бы ногі абмялі.

— А мы не да цябе,— адказаў Пракоп.— Мы да пана аконама. Каб ён быў у канторы, то мы не пайшлі б да яго ў хату.

Гендарсан ужо трохі ахмялеў, але зразумеў, што мужыкі гэтыя прыйшлі да яго па той самай справе, пра якую яму гаварыў Гарбаты Ясь. Трэба было прымаць нейкае рашэнне.

— Што ві мне можаце сказайт? — запытаў ён.

— Пан будзе купляць бульбу ў бровар? — у сваю чаргу запытаў Пракоп.

— Будзе, будзе...

— А па якой цане?

Гендарсан зірнуў на Яся і ў вачах яго прачытаў тое, што павінен быў сказаць гэтым хамам.

— Адзінаццаць капеек пуд! — выпаліў ён.

Пракоп пераглянуўся з таварышамі.

— А пан не ашукае, як увосень? — запытаў Пракоп.— Бо мы прыйшлі не ад сябе, а ад усяго сяла. Пан можа ашукаць нас траіх, то гэта невялікая бяда, але калі ашукае ўсё сяло, то будзе вялікая бяда і нам, і пану.

Гэтыя словы былі сказаны звычайным тонам, але Гендарсана ад іх скаланула.

— Гэта ест цвёрда! — паспешліва сказаў ён.— Сёння будзе аб'ява ў стараста і Арлоўскі на варота за мая подпіс.

— І разлічвацца адразу за кожны воз, без адкладаў на заўтра.

— Без адкладаў! Гэта ест цвёрда!

— Глядзі, пан аконам! Ты нас ашукаеш толькі адзін раз, і мы астатнюю бульбу павязём у Астроўкі, але ашуканства не даруем. Ты ўвосень мог ваяваць з бабамі, а з намі не паваюеш! Сёлета, пан аконам, не мінулыя гады.

Гендарсан зрабіў выгляд, нібы не звярнуў увагі на гэтыя словы, але за душу яго яны ўзялі.

— Пішы аб'ява! — загадаў ён Гарбатаму.— Пішы, як мы гаварыць, я даю подпіс.

— Які я пісар, пане! — адказаў Ясь.— Толькі для сябе што-кольвек запішу. І то яго ніхто не прачытае, акрамя мяне. Тут патрэбен пісьменны чалавек.

— Хто тут ест пісьменны па-руску? — запытаў Гендарсан.

— Трэба пазваць Стася Вярбіцкага, пане аконам,— прапанаваў Пракоп.

— Во, во, Вярбіцкага! — мужыкі заківалі галовамі.

Гарбаты Ясь устаў, уссунуў шапку і пайшоў у бровар па Станіслава.

У Гендарсана быў такі няўдалы настрой, што ён хадзіў па маёнтку як ашалелы. Нават першыя падводы з бульбай не вельмі ўзрадавалі яго. Ён ужо каяўся, што паабяцаў плаціць па адзінаццаць капеек за пуд; яму цяпер здавалася, што мужыкі вазілі б бульбу і па старой цане. Злаваўся на Гарбатага Яся, бо лічыў яго ва ўсім вінаватым, і даручыў прымаць бульбу. Аднак не мог, каб не праверыць, бо не давяраў нікому. Прыбег да вагаў і адразу астыў, калі ўбачыў чыжэвіцкіх мужыкоў. Злосна паглядалі яны на аканома і на Яся, прыдзірліва сачылі за вагамі, бралі ў рукі гіры, нібы і гіры былі фальшывыя. Толькі цяпер зразумеў пан аканом, што Ясь гаварыў праўду, і паціху пасунуўся далей ад бровара.

На другі дзень раніцай з'явіўся рыжскі механік. Гэта быў чалавек гадоў пад трыццаць, трохі вышэйшы за Гендарсана, але з такім непрыметным тварам, што ад яго аставаліся ў памяці толькі касаватыя вочкі ды рот, поўны залатых зубоў. Апрануты ён быў у чорны гарнітур і ў чорнае драпавае паліто, трохі ўжо выцертае, але зашпіленае на ўсе гузікі. Каракулевая шапка таксама была палінялая. У адной руцэ ён трымаў чамадан, а ў другой палку. Адным словам, гэты чалавек быў гарадскі ад галавы да пят.

Калі Гендарсан, прыбегшы на снеданне, убачыў яго ў сваім доме, то ледзь не самлеў ад радасці.

— Э-э, выбачайце, гер... забыў ваша прозвішча...

— Шварцкопф. Ганс Шварцкопф з Рыгі,— адказаў новы механік прастуджаным голасам і ўстаў з крэсла. У руках ён усё яшчэ трымаў палку, нібы з гэтай зброяй пільнаваў свой чамадан, які стаяў каля крэсла. Гэта Гендарсану не спадабалася: здавалася, што рыжскі механік зайшоў у хату толькі пагрэцца на нейкую гадзіну і зараз зноў рушыць у дарогу.

— Гер Шварцкопф, распранайцеся. Інга, чаму ж ты...

— Я запрашала гера Шварцкопфа распрануцца і памыцца з дарогі, але ён чакаў цябе.

Калі механік распрануў паліто і зняў шапку, то Гендарсан убачыў, што ў гэтага Шварцкопфа чорны толькі гарнітур, а сам ён увесь белабрысы і пачаў ужо лысець.

Шварцкопф рухаўся памалу, нібы абдумваў кожны свой крок, і гэта таксама не спадабалася быстраму Гендарсану.

За сталом Шварцкопф чаркі не ўзяў, але еў добра, як чалавек з дарогі. Гаварылі аб сім-тым. Гендарсану хацелася пачаць гаворку пра сваю сапсаваную машыну, а Шварцкопф усё расказваў пра рыжскія справы і пра брудных латышоў, праз якіх немцам у Рызе зараз зусім не будзе жыцця. Відаць было, што механіка глыбока і незаслужана пакрыўдзілі латышы.

Пасля снедання Гендарсан параіў Шварцкопфу адпачыць з вялікай дарогі, але той рашуча адмовіўся. Ён захацеў пазнаёміцца з гаспадаркай, каб ужо заўтра дамовіцца аб жалаванні. Напамінак аб жалаванні таксама не спадабаўся Гендарсану, але, будучы немцам, ён ведаў, што акуратнасць — якасць станоўчая.

Спачатку яны пайшлі ў млын, пры гэтым Ганс Шварцкопф не забыў узяць сваю палку. А на двары Гендарсан заўважыў, што яго новы механік накульгвае на правую нагу.

Станіслаў Вярбіцкі і Павел Квітун нават не падазравалі, што ў маёнтку ўжо ёсць новы механік, таму абодва крыху здзівіліся, калі Гендарсан прыйшоў у бровар з незнаёмым чалавекам. Аканом і новы механік не павіталіся з імі, але ўсцешаны і вясёлы аканом падбег да Станіслава і па-сяброўску ляпнуў яго па плячы.

— Пан Вярбіцкі, гэта ест механік у млын! Ён з Рыга!

Шварцкопф тым часам, прыгнуўшыся, стаяў ля лакамабіля і рабіў выгляд, што прыслухоўваецца, як ён працуе. Вярбіцкі з цікаўнасцю наглядаў за ім.

— Машына старая,— глыбакадумна прамовіў рыжскі механік,— а ў млыне яшчэ старэйшая,— не звяртаючыся ні да каго, дадаў ён.

— Там трэба замяніць некаторыя часткі. Вы не заўважылі, пан механік, якія? — запытаў Станіслаў.

Шварцкопф нават не зірнуў на яго.

— Яе трэба адрамантаваць. Яна патрабуе добрага рамонту.

Шварцкопф чыста гаварыў па-руску, але фразы будаваў своеасабліва.

— Мне патрэбен памочнік. І ты мне будзеш памочнік,— звярнуўся ён да Станіслава.

У Вярбіцкага ад гневу пацямнела ўваччу.

— Мяне сам пан аконам заве на «вы», і я не прывык, каб кожны смаркач на мяне тыкаў.

І тут адбылося такое, чаго не чакаў і сам Станіслаў: высакамерны выгляд новага механіка адразу знік, тупы тварык расплыўся ў вінаватай ухмылцы, ашчэрыліся залатыя зубкі.

«Ды ён ці баязлівец, ці вельмі напалоханая істота!» — падумаў Станіслаў.

Гендарсан тым часам пасяшаўся памірыць механікаў. Млын трэба было пускаць у ход, а новаму механіку ён яшчэ не вельмі верыў, таму крыўдзіць старога было зусім нявыгадна.

— Гер Шварцкопф,— прамовіў ён.— Гэта механік Вярбіцкі. Ён, як гэта? Спецыяліст! Ён ест добры спецыяліст! О-о-о! Вы два скора пускайт машына ў млын! Вам трэба, як гэта? Мір!

— Я, пан Вярбіцкі, прашу прабачэння,— прамовіў Шварцкопф, хаваючы вочкі.— У нас у Рызе ўсё было так проста. Я са сваімі рабочымі быў на «ты».

— То яны вас і выкацілі з завода на тачцы.

Шварцкопф пабялеў, і яго касаватыя вочы забегалі, як у злодзея.

— Пане Вярбіцкі,— звярнуўся Гендарсан да Станіслава.— Заўтра з новы механік вы ў млын.

— Гэта іншая рэч, пане аконам. Тады ў бровары на маім месцы астанецца Павел Квітун.

— Так-так! Квітунь. Эй, як гэта? Цёзка! — гукнуў аканом Паўла, які рагатаў, зайшоўшы за топку.— Кожны вечар тшарка спірытус за два работа: качагар і машыніст.

— Дзякую, пане аконам, я не п'ю.

Калі Гендарсан і Шварцкопф пайшлі, Станіслаў і Павел некаторы час маўчалі. Новы механік ім не спадабаўся.

— Асадзіў ты яго, Станіслаў. Я ледзь са смеху не

кончыўся. Нейкая слізкая пачвара,— прамовіў нарэшце Павел.— Як слімак, глядзець агідна.

— Вельмі небяспечная асоба. Ты не працаваў на заводах, таму табе гэта не кідаецца ў вочы. Закончаны тып гаспадарскага халуя. Ён не толькі таварыша, а і бацьку роднага прадасць.

— Падсунуў нам Гендарсан ліха...

— Я ўпэўнены, што з завода яго выгналі не гаспадары, [illegible] рабочыя. І па зубах папала некалі, бо ўсе пярэднія выбітыя. Таму ён і падаўся сюды, што ў Рызе месца не было.

— А машыну, мабыць, ведае: прыслухоўваўся ўважліва.

— І машыну ён ведае дрэнна. Ён ведае станкі, а не рухавікі.

— Хіба нам лягчэй ад гэтага, Стась! — горка ўсміхнуўся Павел.— Усё роўна Якава мы ўжо сюды не перацягнем.

— Хто ведае, чым усё кончыцца, Павел. Будзем спадзявацца на лепшае,— задумаўся Вярбіцкі.

## РАЗДЗЕЛ ПЯТЫ

Змяркалася. Хмурны зімовы вечар спускаўся на зямлю. Гарасім Жукоўскі ў кажуху і ў валёнках з галёшамі стаяў на ганачку свае хаціны і глядзеў, як засцянкоўцы рыхтуюцца да ночы. Вунь са Сташэвічавага гумна выйшаў парабак Іван з вязанкай канюшыны ў рэзгінах. У некаторых гумнах яшчэ стукаюць цапы. Рыпяць калодзежныя жураўлі, вароты хлявоў, дзверы хат. Чуваць галасы жанчын, смех дзяцей. І так кожны дзень. Усё гэта знаёма Гарасіму з маленства і здаецца цяпер такім мілым, дарагім і непаўторным. І яму самому дзіўна, чаму ён кінуў у свой час і гаспадарку, і родны засценак, чаму ён адрокся ад гэтага жыцця, чаго шукаў па свеце і што знайшоў... Усё жыццё правандраваў. Дзе не быў! Абышоў усе святыні ў Расіі, пачынаючы ад Салаўкоў і канчаючы далёкім Новым Афонам. У некаторых месцах затрымліваўся, жыў па году і больш, шукаў святога, бязгрэшнага жыцця, і не знайшоў яго. Усюды грэх. Ён прасачыўся за сцены манастыроў у келлі манахаў і манашак, у цэрквы і саборы, у пакоі архімандрытаў і архірэяў.

Тады Гарасім пайшоў аж у Ерусалім. Не такой ён убачыў Палесціну, якой хацеў бачыць, пра якую так многа думаў. Не такой рысавалася ў яго ўяўленні святая зямля. І чаму яна называецца святой? Вельмі ж яна непрыветная і дзікая: пяскі, пустэльні ды голыя скалы. Гарачыня неміласэрная; куды ні зірні — усё жоўтае, выпаленае сонцам. Пракляў бог святую зямлю. Насяліў яе людзьмі, якія не любяць ні Хрыста, ні старога яўрэйскага бога Ягве. У іх свой бог Алах і свой прарок Магамет. Яны не любяць ні хрысціян, ні яўрэяў і завуць іх няверным. Чаму дапусціў бог гэтых жорсткіх і злых людзей на святую зямлю? Яны ў сваe мячэці не пускаюць іншаверцаў, чаго не робіць ні адзін народ. Там не відаць божых храмаў з крыжамі, нават у самім Ерусаліме іх мала. Там, як слупы, уздымаюцца круглыя мінарэты і замест крыжа тырчыць на мячэці месяц-маладзік. Гарасім ішоў туды з вялікім хваляваннем душы, думаў астацца да канца сваіх дзён і не астаўся. Нават святыя мясціны, дзе нарадзіўся, прапаведаваў, пакутаваў і памёр Хрыстос, падзелены між каталікамі, праваслаўнымі, коптамі і іншымі хрысціянамі. Гэта вельмі не спадабалася Гарасіму. Хіба Хрыстос быў не адзін? Дык нашто ж яго дзяліць! І не тое, каб пахіснулася вера ў Гарасіма, але нешта абарвалася ў ёй. І са святой зямлі яго са страшэннай сілай пацягнула дамоў, у родную Малінаўку. Далей ад гэтай жоўтай, спаленай сонцам, гарачай і сумнай краіны. На памяць аб святой зямлі набраў вады з Іардана. Яна і цяпер стаіць у куфэрку, цэлая бутэлечка. Зірнуўшы на яе, Гарасім успамінаў свае вандраванні і думаў, што ад іх толькі і асталося, што гэтая бутэлечка з вадой. І вада гэтая нічым не лепшая, чым вада са Случы.

Гарасім і да Палесціны ўспамінаў радзіму, але тады яна не клікала яго так упарта. У Палесціне яна снілася яму кожную ноч, і, прачнуўшыся, ён плакаў. У вачах стаялі бацькоўская хата ў садзе, родны засценак і неагляная далеч прастораў. Яго пацягнула дадому, і ён паслухаўся гэтага ўладарнага голасу. Ён прыйшоў на родную Случчыну і гатовы быў цалаваць зямлю, якой так доўга цураўся.

Першы год ён шчасліва жыў у сваёй хаце. Арэнды, якую давала яму радня, хапала на жыццё. Ён быў не вельмі патрабавальны, хіба толькі любіў чай. Аб тым,

што жыццё пражыта бескарысна, абы-як, што ён хадзіў па зямлі, нікому не патрэбны і ўсім чужы, Гарасім не думаў. Думкі гэтыя прыйшлі пазней, але і яны спачатку не вельмі вярэдзілі яго душу. Ва ўсякім разе, ён спаў спакойна.

Слава святога прыйшла да Гарасіма вельмі скора. Да яго пачалі хадзіць жанчыны з навакольных вёсак, каб параіцца і палячыцца, і тады ён сам убачыў, што нечага варты. Гарасім нікому не адмаўляў. Даваў парады і лячыў. Жыццё ён ведаў, бо быў сведкам і ўдзельнікам розных выпадкаў, і парады яго былі неблагія. І лячыў лепш, чым вясковыя знахары і шаптухі. Ён ведаў травы, збіраў іх, рабіў настойкі. Акрамя таго, купляў сёе-тое ў Старочыне і ў Слуцку, а самае галоўнае — меў градуснік. Жанчыны не прыходзілі з пустымі рукамі, прыносілі сала, кілбасы, хто што меў. Гарасім спачатку нічога не браў, потым пачаў патрохі браць, каб акупіць расходы, нарэшце, як кажуць, увайшоў у смак і пачаў браць усё.

Так пакрысе Гарасім пачаў прывыкаць да аселага жыцця. Але іншы раз яго цягнула ў дарогу. Ён успамінаў тыя дні, калі з торбай за плячыма, з кіем у руцэ крочыў па неабсяжнай Расіі то адзін, то ўдвух з такім жа бадзягам, як сам, а то і ў гурце багамольцаў і багамолак. Сустракаліся ўдалыя багамолачкі. Гарасім спачатку цураўся іх, але час зрабіў сваю справу. Бунтавала маладая кроў, і нельга было яе ўтаймаваць. Гарасім саграшыў першы раз мімаволі. Спакусіла маладая ўдавіца. Потым ён доўга адмольваў свой грэх, але, не паспеўшы адмаліць, зноў саграшыў. Тады ўсё пайшло як па масле. Грэх ішоў за грахом. Тады ён быў малады і дужы, жыў без клопату і працы, а сілы было шмат.

Потым Гарасім адчуў набліжэнне старасці. А за ёй што? Смерць. Не хацелася Гарасіму паміраць дзе-небудзь у дарозе або пад плотам. І ён панёс сваё грэшнае цела ў святую зямлю. Але святая зямля сустрэла яго так непрыветна, што сум па радзіме ўспыхнуў у яго душы пякельным агнём. Думаў, што на радзіме не будзе адзінокі. А выйшла не так. Адзінокі ён і тут. Нідзе не прырос, бадзяючыся па чужых землях, а ад сваёй адарваўся і тут цяпер нікому не патрэбны і чужы... З суседзяў ніхто да яго не заходзіў, акрамя Нарбутовіча і Мартыневіча, але і тыя, як відаць, нецярпліва

чакалі яго смерці. І можа ён памрэ адзін у сваёй хаце і будзе ляжаць некалькі дзён, пакуль яго не знойдзе Мартыневіч, які прыйдзе не каб праведаць, а каб нешта ўкрасці...

Сям'я... Свая сям'я. Бачыць каля сябе блізкіх людзей, сваіх кроўных, вось чаго хацелася Гарасіму. Адчуваць, што ты некаму патрэбны, што цябе шкадуюць, што разам з табой не канчаецца жыццё, што пасля цябе астаецца тваё пакаленне... Хіба гэта не бяссмерце! Позна, позна... Вось цяпер зразумеў Гарасім, якую непапраўную памылку зрабіў у жыцці, і сон яго не браў. Да позняй ночы Гарасім сядзеў над кнігамі і не раз лавіў сябе на тым, што не разумее, аб чым чытае. А ноччу сніліся дзіўныя і страшныя сны. Ён прачынаўся, абліты халодным потам, і сэрца яго шалёна калацілася ў грудзях. Адзінота давіла яго без жалю.

...Вунь выйшаў з гумна Андрэй Сташэвіч, зачыніў вароты, павесіў і замкнуў замок і накіраваўся да хаты. Ён нават не зірнуў на Гарасімаву сядзібу. Што яму да Гарасіма, да яго жыцця, да таго, што яму цяжка і сумна, што ў яго баліць душа. У Сташэвіча свае клопаты, сваё гора і радасць. А Гарасіму было б лягчэй, каб сусед зірнуў у яго бок і сказаў «добры вечар». Ён правёў Андрэя доўгім позіркам аж да самай хаты і толькі цяпер заўважыў, што з коміна ідзе дым. Там паляць у печы, гатуюць гарачую вячэру. А ноччу будзе цёпла спаць, не так, як у Гарасімавай хаціне, якую ён паліць раз у суткі. «Хоць бы зайсці ды пасядзець у людзей,— падумаў Гарасім.— Дык прычыны ж ніякай няма...» Чацвёрты год жыў ён у Малінаўцы і не быў у хаце ні ў аднаго засцянкоўца, акрамя Нарбутовіча і Мартыневіча.

А хто гэта там туляецца каля Андрэевага гумна? Не стаіць, не ідзе, а, сагнуўшыся, нешта выцікоўвае. Гарасім добра прыгледзеўся і пазнаў Яўхіма Халусту. Сэрца яго здрыганулася. Ён не любіў Халусту і падумаў, што той хоча нешта благое зрабіць. «Што тут трэба гэтаму абармоту?» Гарасім пачаў прыглядацца лепш і зразумеў, што Халуста сочыць за Андрэевай хатай. Гэта яго зацікавіла. «Падпаліць гумно!» — падумаў Гарасім. Але Халуста, мабыць, прыйшоў сюды з іншай мэтай. Ён проста не хацеў сустракацца з Андрэем, таму і чакаў, пакуль той зойдзе ў хату. Тады выйшаў з-за вугла і пакрочыў проста да Гарасіма.

«Што яму ад мяне трэба?» — з трывогай падумаў Гарасім і, зайшоўшы ў сені, замкнуўся.

Аднак гэта яго не выратавала. Праз некалькі хвілін Халуста пачаў грукаць у дзверы так моцна і смела, нібы то была не Гарасімава хата, а яго ўласная.

— Хто там? — запытаў Гарасім.

— Адчыніце, пане Жукоўскі, адчыніце! Гэта я!

— Хто гэта «я»?

— Ды я, Яўхім Халуста, вы ж бачылі мяне, пане Жукоўскі, а я вас. Я каля гумна стаяў, а вы на ганку... Я таго злодзея Сташэвіча баюся, ліха яго матары!

Гарасім адсунуў засаўку. Халуста рынуўся ў дзверы так імкліва, што ледзь не збіў з ног гаспадара, і з сянец уляцеў у хату першы. Услед за ім увайшоў і Гарасім.

— Пане Жукоўскі! Ая-яй! Ая-яй! — закрычаў Халуста, хапаючыся за шчаку.— Ая-яй...

— Што з вамі? — запытаў Гарасім.

— Зуб!.. Ая-яй, ая-яй!.. Зуб, зуб, зуб... Ліха матары яго, зуб!..

— Пакажыце ваш зуб, пане Халуста,— прамовіў Гарасім, запаліўшы лямпу.

Ён падышоў да Яўхіма, каб зірнуць у яго рот, знайсці той зуб, упэўніцца, што з ім, але Халуста адляцеў ад яго, як апараны.

— Ай-яй! Баюся! Баюся, пане Жукоўскі!

— Я не буду рваць, пане Халуста. У мяне няма такіх інструментаў. Можа кроплі запусціць у той зуб?

— Кроплі? Ая-яй!.. Кажаце, кроплі. У вас ёсць такія кроплі?

— Ёсць.

— Ото добра, пане Жукоўскі, ото добра...

— Толькі дзе той ваш зуб? Уверсе ці ўнізе?

— Унізе, пане Жукоўскі... Мудры зуб... Ая-яй!

— То дайце я зірну. Разяўце рот, пане Халуста.

Халуста разявіў сваю вялізарную зяпу, у якой ужо не было ні аднаго здаровага зуба, усе яны выгнілі і выкрышыліся; тырчалі толькі пеньчукі. Зубоў мудрасці не было там і следу. Гарасім увапхнуў у рот Халусту чайную лыжачку. Кратаў Халуставы зубы і пытаў:

— Гэты?

Халуста адмоўна ківаў галавой.

— **Гэты?**

Нарэшце Халуста зароў, як дзікі звер, і стуліў рот з такой сілай, што каб у яго былі такія зубы, як у маладосці, то лыжачку ён перакусіў бы, як саломінку.

— Значыць, гэты, пане Халуста?

— Ён! — закрычаў Халуста.— Ай-яй! Ён, ліха матары яго, шэльма, гад, абармот, ґіцаль, злодзей, а не зуб!

Гарасім дастаў з куфэрка бутэлечку з кроплямі, выстругаў цурачку, абкруціў яе ватай, намачыў у кроплі, загадаў Халусту шырэй разявіць рот і сунуў цурачку ў дупло зуба.

Тут Халуста зароў, як раз'юшаны бык. Зароў так, што Гарасім ажно скалануўся ад страху.

— Нічога, пане Халуста,— спрабаваў ён супакоіць ашалелага Яўхіма.— Скора пройдзе ўвесь боль.

— Ідзі ты к ліхой матары! Ай-яй! — крычаў Халуста, носячыся па хаце.

Нарэшце такі боль пачаў праходзіць, хоць яшчэ і саднiла спаленая кіслатой дзясна.

— Ну от, ужо і лягчэй... Дзякуй жа вам, пане Жукоўскі, а то я каторую ноч вачэй не стульваў.

— Цяпер будзеце спаць,— заспакоіў яго Гарасім.— Цяпер вас і гарматамі не разбудзіш, пане Халуста.

Гарасім чакаў, калі ж пойдзе з хаты такі непажаданы пацыент, але Халуста, мабыць, не збіраўся так скора ісці. Ён сеў на лаву, зірнуў на кнігі, што ляжалі ў куце за сталом, і запытаў:

— Усё чытаеце, пане Жукоўскі?

— Калі ёсць час...

— Гм... І то праўда...— а сам падумаў: «Ліха матары тваёй! Гэта ў цябе часу няма! Каб ты так дыхаў!»

— Многа грошай аддаяце вы на кнігі, пане Жукоўскі,— сказаў ён.

— Раней купляў...

— А цяпер не? Вядома, пане Жукоўскі. На ўсё трэба грошы! Ая-яй! А я ж забыў вам заплаціць!

Ён палез у кішэнь, каб дастаць свой кашалёк, але Гарасім адмовіўся ад грошай.

— Не трэба, пане Халуста. За такія лекі я грошай не бяру, бо нічога яны мне не каштуюць.

— А кроплі!

— Глупства, пане Халуста. Не вазьму я з вас нічога.

«Ліха матары тваёй! — падумаў Халуста.— Увесь рот спёк ды яшчэ грошы табе плаціць!»

— Ну, дык дзякуй жа вам, пане Жукоўскі.

Ужо трэба было яму падавацца дадому, але тады ўсё пайшло б на вецер. Не таго ж ён сюды ішоў, каб усё ў роце спаліць.

— Але, але, пане Жукоўскі... Ну, як вы ў гэтым годзе, многа коп нажалі са свае паўвалокі?

Халуста зразумеў, што не так ён пачаў гаворку, як яму хацелася, але адступаць было позна.

Гарасім зморшчыўся.

— А я сам не сею, не жну...

— Але, але... У вас арандатары — Нарбутовіч і Мартыневіч. Ай і хітрыя ж, пане Жукоўскі, ай і хітрыя! Вы на мяне не крыўдуйце, а што яны хітрыя, то ліха матары іх.

Гарасім хацеў нешта сказаць. Халуста ведаў, што гэты святы дурань, безумоўна, будзе яму пярэчыць, таму ён не даў яму гаварыць.

— Маўчыце, пане Жукоўскі, маўчыце! Паслухайце мяне! Я нічога не маю да вашай паўвалокі і да вашых сваякоў-арандатараў. Што мне да ўсяго гэтага! Я тут, як той казаў, прышый кабыле хвост. Але ж, ліха матары іх, у мяне душа баліць... У мяне баліць душа, пане Жукоўскі...

«Наўрад ці ў цябе яна ёсць»,— падумаў Гарасім.

— Я не ведаю, колькі яны вам плацяць, але ж яны ашукваюць вас, злодзеі! Нарбутовіч ашуканец, каб яго зямля не насіла, а Мартыневіч злодзей, якіх свет не бачыў.

— Яны плацяць, як зрахаваліся... У нас дамоўленасць ёсць...

— Ай, маўчыце, пане Жукоўскі! Слухаць не хачу! Як зрахаваліся! Што яны зрабілі з вашай зямлёй! Спустошылі паўвалоку! На маргах лепш расце, чым на вашай паўвалоцы! Чалавек чвэрць мае і жыве, а каб яго цяпер пасадзіў на вашу паўвалоку, то ён бы воўкам завыў ад голаду! Ад голаду, пане Жукоўскі! Божа мой! Цяпер ваша паўвалока і чвэрці не варта, каб прыйшлося вам яе прадаваць. От чаго яны нарабілі, злодзеі!

— А я і не думаю яе прадаваць,— аскірзнуўся Гарасім, хоць і ведаў, што ў Халуставых словах ёсць доля праўды.

— Бо яе ніхто не купіць! Яны знарок так робяць! Яны яе звядуць да таго, што зарасце яна пустазеллем, тады кінуць! Тады яе, пане Жукоўскі, ніхто ў арэнду не возьме і ніхто не купіць! А ім лацвей! Тады вы папросіце іх, пане Жукоўскі, каб яны забралі вашу зямлю дарма, а вас хоць бы кармілі да смерці! Ха-ха-ха! А чужы хлеб! Вы ведаеце, які смачны чужы хлеб? Ха-ха-ха! Горкі ён, пане Жукоўскі!

Смех Халустаў быў жудасны. Ён аддаваўся ў Гарасімавай душы пякучым болем і рваў сэрца.

— Яны вас накормяць, пане Жукоўскі! Яны накормяць, ліха матары іх! У старцы вы пойдзеце на старасці гадоў, ха-ха-ха!

Тут Халуста ўстаў і кінуўся да дзвярэй.

— Аставайцеся здаровенькі, пане Жукоўскі, ха-ха-ха! Зуб вы мне палячылі добра!

Жукоўскі стаяў каля стала, як аглушаны абухам. Ён адчуў, што яму горача, хоць цела яго білі шалёныя дрыжыкі. «А гэта ж праўда,— думаў ён.— Горкая праўда...» І ён успомніў, што гэтую праўду чуе другі раз. Першы раз нешта падобнае сказаў Андрэй Сташэвіч. Не маглі ж яны згаварыцца, такія два ворагі — Халуста і Сташэвіч. Але дзеля чаго гэта было сказана? Андрэй, вядома, гаварыў адкрыта, а гэты злодзей! Аб чым думае гэты злодзей? Збіраецца купіць яго зямлю! Так, толькі так! Але Жукоўскі лепш пойдзе ў старцы, чым прадасць Халусту сваю зямлю...

Халуста тым часам ішоў дамоў і паціраў рукі. «Няхай падумае, ліха матары яго, няхай падумае! Нідзе ён ад мяне не дзенецца, не выслізнецца з маіх рук, трасцы!»

## РАЗДЗЕЛ ШОСТЫ

Ціхую плынь Случы спыніў мароз. Першы кволы лядок укрыў нешырокую раку. Парабкоўская дзятва даўно чакала гэтага дня. Гурт хлапчукоў у бацькоўскіх світках і шапках стаяў на заснежаным беразе. Ярка свяціла халоднае зімовае сонца; пад яго промнямі зіхацеў малады лёд; вачам было балюча глядзець на гэтую бліскучую чысціню і снежную бель.

Амаль каля самай ракі стаяла камяніца бровара, складзеная з чырвонай цэглы, крыху далей быў высокі трохпавярховы гмах паравога млына. Чорны гус-

ты дым вылятаў з высокіх жалезных каміноў, віўся клубамі ў празрыстым паветры і рассцілаўся над стрэхамі будынкаў і дрэвамі.

У гэты ясны зімовы дзень усё пахарашэла і выглядала па-святочнаму, нават дым. Толькі лес, што стаяў за лугам на другім беразе ракі, быў змрочны і пануры.

Хлапчукоў заманьваў лёд, але ніхто з іх не адважваўся першы ступіць на яго.

— А от я і не баюся! — сказаў камлюкаваты хлопчык, відаць, самы завадатар.

— А мама што казала, Міхась? Толькі паспрабуй! — папярэдзіў другі, відаць, меншы брат.

— Мама і ведаць не будзе.

— А як лёд праломіцца?

— Не праломіцца! Гэта калі ўзыдзеш на яго і будзеш стаяць, тады праломіцца, а калі прабяжыш, то нічога. Хіба я не прабаваў летась? Ён толькі ўгінаецца і трашчыць.

— Глядзі, Міхась!..

— А вунь зірніце! Паненка на раку ідзе! — крыкнуў самы меншы, паказваючы пад аканомаў дом, які віднеўся воддаль.

Эльза ішла ад свайго дома проста да ракі.

— Знайшоў паненку! — зняважліва прамовіў Міхась.— Сказаў бы, што нямецкая цытра.

— Цыбатая, як сталюга!

— Можа і яна хоча пакоўзацца на лёдзе?

— Яна адразу лёд праломіць!

— А тут неглыбока! Такая доўгая не патоне!

Эльза была ўжо недалёка. Яна не звяртала ўвагі на хлапчукоў. На самым беразе яна спынілася і зірнула ў далеч, туды, дзе за ракой чарнеў лес.

Хлапчукі на некаторы час забылі пра лёд. Яны з цікаўнасцю глядзелі на гэтую дзяўчыну, так не падобную на іх сясцёр: яна заўсёды чыста апранута, ніколі не працуе і нават улетку не ходзіць босая. А цяпер што на ёй было? Белыя зграбныя валёначкі з галёшамі на нагах, доўгае футра з белым каўнерыкам на плячах, а на галаве шапка. Дзяўчына была непатрэбная і ненавісная тут, у чужой для яе старане.

Вось гэтую цікаўнасць сваіх сяброў і выкарыстаў Міхась. Ён азірнуўся, момант стаяў у нерашучасці, раптам нібы нешта падхапіла яго і ўзнесла на лёд. Ён,

мабыць, сам не ведаў, як апынуўся тут. Лёд пагрозліва трэснуў і асеў. Міхась спачатку ўздрыгнуў, а потым пабег, лёгка, як малады звярок, без падскокаў. Пад кожным яго крокам лёд патрэскваў і ўгінаўся. Небяспеку Міхась адчуў тады, калі ўбачыў, што ўсюды, дзе ён ступаў, выступіла вада. Сэрца яго напоўнілася жахам, ён павярнуўся і рынуўся на бераг.

— Ма-а-ма-а-а-а! А-а-а!

З ракі ўжо тырчала толькі Міхасёва галава.

На беразе ўзняўся лямант. Хлапчукі таўкліся і галасілі. Не менш крычаў і бедны Міхась. Ён не мог узабрацца на лёд, які абломваўся, калі хлопчык спрабаваў легчы на яго грудзьмі.

Эльза скамянела ад жаху. У яе жыцці не было выпадкаў, каб трэба было так хутка прыняць нейкае рашэнне. Калі яна ачулася і рынулася да хлапчукоў, яшчэ не ведаючы, што будзе рабіць, да ракі ўжо імчаўся Павел Квітун. У руках ён нічога не меў, але раздумваць не было часу. Ён скочыў на лёд, які адразу ж абламаўся. Павел апынуўся амаль па пахі ў вадзе. Так ён дайшоў да Міхася, узяў яго на рукі і вынес на бераг. Бедны хлапчук скачанеў у сцюдзёнай вадзе. Павел, не выпускаючы яго з рук, бягом памчаўся ў бровар. Дзятва рассыпалася па хатах. На беразе ракі асталася адна Эльза.

Павел ляжаў, укрыўшыся і сваім і Платонавым кажухамі. У каморцы быў паўзмрок. Павел абсох і не думаў ісці дамоў і лажыцца, але не так думалі Станіслаў і Платон. І Павел пайшоў у барак. Не паспеў ён легчы, як з'явіўся Платон Шабуня.

— Так ляжаць то гэта глупства. Спярша трэба выпіць лякарства,— прамовіў ён і паставіў на стол бутэльку з нейкай вадкасцю.

— Такі ты доктар! — пасмяяўся Павел.

— Ад такой хваробы доктар. Толькі от шклянкі ў нас чорт мае. Жывём на свеце!..

Ён узяў той кубак, што заўсёды стаяў каля вядра з вадой. Кубак быў вялікі, паўквартовы. Платон наліў у яго з бутэлькі амаль да паловы і паднёс Паўлу.

— На, патрымай, а я табе часныку аблузаю, закусіш. У нашай хаце каб і вадзіліся мышы, то ўсе падохлі б. У рот няма чаго ўзяць.

— Нешта я ніколі не бачыў і не чуў, каб адразу па столькі лякарства пілі. Іх п'юць кроплямі.

— Гэта не такое, каб кроплі лічыць. Гэта спірытус, Павел. Выпі ды выграйся добра, каб і ад поту быў такі мокры, як з ракі вылезшы.

— Дзе ты ўзяў спірытусу?

— У Гарбатага Яся.

— Вось як! Пайшоў да Гарбатага... пакланіўся!

— Ды не! Ён сам мне даў! Пі, Павел, а пагаворым пасля, бо цяпер мне часу няма.

Пасля «лякарства» ў Паўла закружылася ў галаве. Прыемнае цяпло разлілося ўсярэдзіне, і ён задрамаў. Разбудзіў яго нясмелы стук у дзверы. «Хто там такі далікатны?» — падумаў ён і сказаў:

— Ды заходзьце, чаго там!

Ён не паверыў сваім вачам, калі ўбачыў у дзвярах Эльзу. Яна стаяла, трымаючы ў руках пакуначак.

— Вы не туды трапілі,— прамовіў Павел, падымаючы галаву.

— Вы тут жывяце!..— сказала яна не то са здзіўленнем, не то з расчараваннем ці жалем.

— Як бачыце. Вы не туды трапілі! — настойліва паўтарыў Павел.

— Не! Я трапіла туды, куды хацела,— адказала яна, і яе халодныя вочы пацяплелі.

Яна зрабіла некалькі крокаў уперад і палажыла на стол пакуначак.

Павел з нянавісцю глядзеў на гэтую загадкавую паненку, з якой некалькі разоў нечакана сустракаўся. Што ёй трэба? Ён ненавідзеў яе за тое, што яна лезе ў яго жыццё, што прыйшла да яго іменна цяпер, калі ён ляжыць у гэтай бруднай нары — раздзеты, накрыты рыззём. Ён упершыню з болем адчуў, што саромеецца сваёй беднасці, што яму брыдка глядзець у вочы гэтай дзяўчыне. Ён адчуваў сябе, як голы, калі яго выставілі напаказ. Каб прыйшла да яго Надзя, ці саромеўся б ён? Мабыць, саромеўся б... І тут ён зразумеў, што сорам яго — гэта сорам мужчыны перад жанчынай.

— Сядайце, паненка,— прамовіў ён.— Там ля стала стаіць зэдлік. І скажыце, што вам трэба?

— Я прынесла вам лякарства, Павел...— пачырванеўшы, адказала яна.

— Я не хворы, паненка...

— Ах, не завіце мяне паненкай! — перапыніла

яна.— Мне проста прыкра чуць ад вас гэтае слова... Завіце мяне проста Эльза...

У словах яе адчувалася сапраўдная шчырасць, і гэта кранула Паўла.

— Я не хворы,— паўтарыў ён.— А лякарства ад халоднага купання я ўжо прыняў.

— Якое лякарства? — здзівілася яна.— Які доктар вам яго даваў?

— Доктар? — Павел усміхнууся.— А вы хіба доктар?

— Я не доктар, але ў нас дома ёсць цэлая аптэчка і хатняя медыцынская кніга... Нямецкая кніга.

Павел засмяяўся, і ўвесь яго сорам знік. Божа мой! Хіба ён для яе чалавек! Ды яна проста чужаземка, а ён рускі дзікун, і яна цікавіцца ім гэтаксама, як цікавілася б самаедам ці неграм. Нямецкая кніга! Нават нямецкія кнігі лепшыя за рускія! І Паўла разабрала злосць.

— Нямецкія лякарствы не пойдуць на карысць рускаму мужыку.

— Я вас не разумею, Павел...— пакрыўджана адказала Эльза.— Вы не хочаце лічыць мяне за чалавека... А я ж не толькі чалавек, я дзяўчына, і вы са мной так груба гаворыце. Паверце, што я ад чыстай душы...

— Выбачайце, я дрэнна выхаваны. Хіба можна навучыцца ветлівасці, нарадзіўшыся і вырасшы ў такіх вось норах? Прайдзіце па бараках, паглядзіце, як жывуць сямейныя людзі.

— Ах, Павел, я ўсё гэта ведаю, я была... І я разумею, чаму вы так гаворыце. Вам цяжка жывецца, і вы злосны.

— Не тыя словы. Вы гэтага не зразумееце.

— Не, не! — горача прамовіла Эльза.— Я ўсё разумею і сёе-тое ведаю... Тут не толькі вам, тут усім жывецца дрэнна... Ва ўсёй Расіі дрэнна.

— Гэта падобна на праўду. Толькі не ўсім у Расіі дрэнна жывецца. Ваш бацька, напрыклад, гэтага не скажа. А вам хіба дрэнна жывецца ў Расіі?

Эльза паглядзела на Паўла доўгім позіркам.

— Не папракайце мяне бацькам, Павел. А я самастойным жыццём яшчэ не жыла і цяперашняе сваё жыццё не лічу. Я, Павел, скора, вельмі скора паеду ў Пецярбург...

— Вось як! А што вы там будзеце рабіць?

— Не думайце, што весяліцца за бацькавы грошы! Там ёсць жаночыя курсы, вучыцца буду. І на жыццё зарабляць урокамі. Я ведаю французскую і нямецкую мовы, акрамя рускай. Ведаю латынь. Работа знойдзецца, а мне многа не трэба.

Павел раптам адчуў незразумелую павагу да гэтай не вельмі прыгожай дзяўчыны з халоднымі вачыма.

— Рад за вас, Эльза! — нечакана для самога сябе прамовіў ён.

У яе заблішчалі вочы.

— Вы гэта кажаце шчыра, Павел?

— Вельмі шчыра, Эльза!

— Я рада... А цяпер я пайду. У гэтым пакуначку вы знойдзеце парашкі. Прыміце адзін на ноч, другі заўтра раніцай.

— Гэты пакунак залішне вялікі для парашкоў!

— Там ёсць крыху салодкага, Павел... Хворым трэба салодкае... А парашкі вельмі горкія...

— Эльза, занясіце гэты пакунак таму хлопчыку, што сёння выкупаўся,— рашуча і сурова прамовіў Павел.

— Я яму ўжо занесла, а гэта ваша. Нават не думайце пярэчыць, бо вы мяне пакрыўдзіце. Мужчына не мае права адмаўляцца ад маленькага падарунка жанчыны.

Яна ўсміхнулася, і ў бялесых яе вачах бліснула нешта прывабнае, чыста жаночае, хітраватае і прыязнае.

— У такім разе мушу прыняць. Дзякую вам, Эльза.

Яна ўстала.

— Вы, Павел, павінны прыйсці да мяне ў нядзелю падвечар, бо пасля нядзелі я паеду. У мяне ёсць некалькі рускіх кніг, вельмі добрых кніг, я іх вам аддам.

— Ну, ведаеце...

— Пачакайце. З сабою іх забраць я не змагу, а дома яны дарма будуць ляжаць. Мама мая па-руску не ведае ні слова, а тата і нямецкіх кніг не чытае. Дык от вы павінны іх забраць.

— Не ведаю, Эльза...

— А я ведаю! Павінны забраць! Абяцайце, што прыйдзеце. Вы павінны вярнуць мне візіт. Я ў вас была.

— Не разумею я гэтых тонкасцей, але... калі павінен вярнуць вам візіт, то вярну.

— Гут, Пауль! — усміхаючыся, сказала яна.— Бывайце здаровы!

Яна выйшла з пакоя.

«Чорт яе прынёс,— падумаў Павел.— Зразумець нельга, што гэта за дзяўчына і чаго яна шукае...» Ён успомніў той вечар, калі яна папярэдзіла яго пра новага механіка. Дзеля чаго? Цяпер запрашае да сябе, аддае кнігі... Тут ужо пра мэту і гаворкі не можа быць, бо яна ж едзе ў Пецярбург. Вучыцца і працаваць. Цікава і зусім незразумела... З такімі думкамі Павел заснуў моцным сном.

Яго разбудзіў Платон, які прыйшоў з работы і ўжо запаліў лямпу, што вісела над сталом. Платон памыўся і выцірайся зрэбным ручніком. Павел зірнуў на яго і адчуў, што і сам увесь мокры, толькі ад поту.

— Што, маё лякарства памагло? — запытаў Платон.

— Мокры, як пацук. І выспаўся на дзве ночы наперад. Падай штаны, буду ўставаць.

— Пакуль не абсохнеш, ляжы.

— Я вячэраць хачу.

— Сам прынясу з харчэўні. І скажы ты мне, што гэта такое ляжыць на стале?

— Гэта маленькі падарунак жанчыны, Платон...

— Што-што?

— Эльза прынесла...

Платон не паверыў сваім вушам.

— Павел, Павел! Нашто ты яго браў?

— Не мог не ўзяць. Не мог, разумееш?.. А тут яшчэ той выпадак у садзе... Не мог я абысціся з ёю па-хамску... Ну і от... Разгарні яго, Платон, там павінна быць нешта салодкае.

Платон нехаця пачаў разгортваць пакунак. Ён выклаў на стол круг кілбасы, кавалак паляндвіцы і бутэльку гарэлкі, загорнутую ў паперу.

— Горкае ёсць, а салодкага чорт мае,— прамовіў ён.— І нават кавалка хлеба не палажыла. Ага... А гэта што ж такое ў пакеціку?

— Гэта парашкі. Яна мне гаварыла, што ад прастуды...— адказаў Павел.

— Прымаць іх я табе не дам,— рашуча сказаў Платон і, скамячыўшы пакецік, усунуў яго ў кішэню.

— Навошта ты так, Платон?

— Не веру я ў панскія лекі. Можа гэта не лекі, а хвароба.

— Ну, гэта ты залішне...

— Няхай сабе. Пайду ў харчэўню і паклічу сюды Станіслава, бо бачу, што без яго нельга абысціся.

Калі Платон выйшаў, Павел устаў і памыўся. Тады падышоў да стала. Кольца кілбасы і кавалак паляндвіцы ляжалі на паперы незагорнутыя. Платон разгарнуў пакунак і так пакінуў. Не хацеў кранацца да панскага падарунка лішні раз. А ад гэтага падарунка ішоў такі прыемны і смачны пах... Пах часнаку, кмену і ядлоўцавага дыму. І Павел адчуў страшэнны голад. Ён каўтнуў сліну і пачаў закурваць. Можа тытунёвы дым пераб'е гэты спакуслівы пах. Але тут яму прыйшло ў галаву, што трэба ўсё загарнуць і палажыць у іншае месца, бо калі нарвецца нехта чужы... І калі ён нагнуўся над сталом і ўзяў у рукі белую паркалёвую анучку, у нос яму ўдарыла тонкім і кволым і такім трывалым водарам вясновых кветак. «Духі»,— зразумеў ён. І ўжо болей не чуў паху кмену, часнаку і ядлоўцавага дыму. У счарнелым змрочным пакоі пахла вясновымі кветкамі, пахла жанчынай з чужога, варожага свету. Гэта было і незразумела і дзіўна. «А мы? Мы не пахнем! Мы смярдзім гноем і потам, брудам і зямлёй...»

Платон вярнуўся са Станіславам і паставіў на стол пачарнелы кацялок.

— Вячэрай, Павел,— прамовіў ён.— Пакуль не астыла, еш.

— Не хачу.

— Нанюхаўся кілбасы?

Павел не чакаў такіх слоў і зірнуў на Платона са здзіўленнем.

— Думаеш, я не нанюхаўся, як разгортваў? Здорава пахне, каб яно згарэла.

Станіслаў сеў на зэдлік.

— Ну, дык расказвай свае прыгоды.

Павел падрабязна расказаў пра ўсё.

— Прыйдзецца табе схадзіць да яе ў нядзелю,— прамовіў Станіслаў.— Паглядзім, якія кнігі яна табе дасць і аб чым павядзе гаворку. Яе варта паважаць нават толькі за тое, што яна хоча жыць незалежна ад бацькі.

— Не веру я гэтаму! — рашуча прамовіў Пла-

тон.— Панскія дочкі ўсе аднолькавыя. Тут нейкая хітрасць. Заманіць хоча Паўла, от і ўсё.

— Дарэмна так кажаш, Платон. Яна ж папярэдзіла нас, што ў маёнтак прыедзе новы механік. Хоць мы і не мелі ад гэтага карысці, але з яе боку гэта ўсё-такі высакародны ўчынак. Заўваж, што мы змагаемся не з Эльзай і нават не з яе бацькам асабіста, а з тым несправядлівым ладам, які пануе ў нашай краіне. І калі хочаш ведаць, з багатых інтэлігентных сем'яў выйшлі такія выдатныя рэвалюцыянеркі, як Соф'я Пяроўская і Вера Засуліч. Так што не будзем крыўдзіць бедную Эльзу, якая закахалася ў нашага Паўла.

— Скажаш ты!..

— Не бойся, Павел! Надзі я гэтага не скажу. Разлівай гарэлку, Платон.

— У што я яе разалью, калі ў нас толькі адзін кубак? Піце вы з Паўлам па чарзе, а я вып'ю тую, што ад Паўла асталася.

— Дык як гэта Ясь табе спірытусу даў? — пацікавіўся Станіслаў.

— Ён пачаў паддобрывацца да мяне, як толькі прыехаў гэты немец з Рыгі. Сёння нават раіў перайсці ў млын на работу. «Не магу,— кажа,— глядзець на гэтага немца. А так мы двое рускіх будзем. Ты пісьменны, калі і перапісаць што ці напісаць, то зможам».— «А што я магу запісаць у млыне?» — пытаюся.— «Чаму,— кажа,— што! Колькі мяхоў і пудоў жыта або пшаніцы прывезена, колькі змолана. Колькі якой мукі выйшла, крупчаткі, першага ці другога гатунку або простага памолу. Работа лёгкая, спакойная і зарабляць будзеш больш. І каля мукі, вядома, запылішся». Бачыце, як лоўка намякае! Пераходзь, маўляў, у млын, будзем разам красці.

— А што ты яму адказаў? — запытаў Станіслаў.

— Я сказаў, што можа аконам не згадзіцца, то ён запэўніў мяне, што аконам будзе згодны. Я сказаў, што падумаю. Тады ён пытае: «А як там Квітун пасля купання?» Кажу: «Пайшоў у барак, напэўна, ляжыць».— «Добры,— кажа,— хлопец Квітун, але можа схапіць запаленне лёгкіх. Хадзем да мяне. У мяне спірытус астаўся яшчэ з таго часу, як падвальным быў. Няхай вып'е Квітун ды сагрэецца добра». А я падумаў, што ласкі ён мне не зробіць, калі спірытусу дасць, бо грошай за яго ён не плаціў.

— Спірытус — гэта глупства,— сказаў Станіслаў.— А што ты думаеш наконт млына?

— Тое, што вы мне параіце.

— Ну, дык пераходзь у млын. Немцы сапсавалі нам усю справу. Няскора ўдасца нам перацягнуць сюды Якава. І мне здаецца, што Гарбаты зацікавіўся табой не проста так. Не! Нам трэба быць пільнымі, хлопцы. Пераходзь, Платон, у млын, там павінен быць наш чалавек. Скажы Гарбатаму, што надумаўся. Бачыш ты, ён упэўнены, што аконам будзе згодны. А цяпер нясі той кубак...

## РАЗДЗЕЛ СЁМЫ

Ад самай раніцы каля Халуставага гумна стаялі гоман і тлум. Сам Яўхім бегаў каля вялізнага драўлянага прывада, прысядаў каля яго, заглядаў уніз, пад кола, мацаў дубовыя кулакі і цмокаў ад задавальнення. Тады імчаўся ў гумно, дзе стаяла аблезлая малатарня, афарбаваная калісьці ў сіні колер. Халуста круціўся каля яе сам, круціў барабан, хапаўся за масдрлёнку, за ключы і ніяк не мог утаймаваць сваю драпежную радасць. Малатарню трэба было злучыць прантамі з прывадам, каб пусціць яе ў ход. Пранты гэтыя, таўшчынёй у чалавечую руку, адзін доўгі, другі кароткі, ляжалі каля гумна, як дзве дохлыя змяі. Яўхім сагнуўся, схапіў доўгі прэнт, падняў да пупа і кінуў.

— А цяжкі! Ліха матары тваёй! Няма дурных цягаць цябе!

Мікалай і Якаў устанаўлівалі прывад. Трэба было паставіць яго так, каб не было перакосу. Яны падважвалі яго, падкладвалі падніз чурбакі і замацоўвалі іх.

— Ліха матары вашай! Партачы! — крычаў Халуста.— Не ўмееце! Вы да вечара яго на месца не паставіце!

— Не замінай, бацька! — спакойна адказваў Мікалай.— І не згінайся пад руку, а то знячэўку па пыцках дастанеш!

— Знячэўку! Ліха матары тваёй! Ты знарок мне зубы выб'еш!

— Пазаві лепш Юзіка, бацька. Гэты бок трэба падважыць, ён ніжэй стаіць,— загадаў Мікалай.

— Юзік каля коней! — закрычаў Халуста.— Яму няма часу, ён вупраж папраўляе.

— Па-панску. Тады сабак карміць, як на паляванне ісці. Дык сам бяры кол ды падважвай.

Лявон Нарбутовіч і Нічыпар Мартыневіч стаялі воддаль, баючыся падысці бліжэй да небывалай у Малінаўцы машыны, і глядзелі на яе, першы з захапленнем хітрага чалавека, другі з недаверам і страхам скнары.

Пачуўшы гаворку Халустаў, Лявон адышоў ад свайго няўдалага брата і сказаў Яўхіму:

— Можа б я, пане Халуста, падважыў?..

— О-то-то, братачка, о-то-то! Падваж! Ого! Ты малады і дужы! На карку, як той казаў, абады гнуць можна! Хі-хі-хі!

Лявон падняў кол і падышоў да Мікалая.

— То дзе тут, браце Мікалай, яго падважваць?

Мікалай зірнуў на Лявона з пагардай. Адказаў, памаўчаўшы:

— Пакладзі сюды вось гэтую калодачку... Так... Цяпер пхай пад станіну кол. Далей пхай, каб не сарвалася. Ну, так... Цяпер цісні ўніз кол! Няўжо ты, дурань, калод ніколі не варочаў? Добра націскай!

Нават у Мартыневічавых вачах бліснула цікаўнасць, і ён ступіў крок наперад. Лявон тым часам націснуў на вагу, і прывад падняўся.

— Лягчэй, дурань! — папярэдзіў Лявона Мікалай.— Не цісні так, а то стрэліць!

Хрроп!

Лявон выпусціў з рук кол, і прывад цяжка рухнуў на зямлю, а кол, як птушка, з гудзеннем узвіўся ўгару. Мартыневіч пабялеў, ступіў два крокі назад, зачапіўся нагой за нагу і грымнуўся вобземлю. Стары Халуста рагатаў, хапаючыся за бакі. Мікалай усміхаўся, а Лявон стаяў, вылупіўшы вочы, і дзіка аглядаўся.

— Пайшлі вы к чортавай мацеры з вашымі сабачымі жартамі,— вылаяўся Якаў.— Хіба ты не разумееш, што сам мог астацца без рукі, калі б на яе грымнуў прывад? — звярнуўся ён да Мікалая.— А кол жа мог галаву знесці табе або мне.

— Хіба я думаў, што гэты абух паверыць, што прывад можа стрэліць? — апраўдваўся Мікалай.— Дык от бачыш, паверыў!

— Ды не...— мармытаў Лявон.— Кол выслізнуў з рук...

— Бо ты спалохаўся.

Якаў зірнуў на Мікалая і зразумеў, што гэта быў зусім не бяскрыўдны жарт. Гэты гад не забыў, як калісьці Якаў са Сташэвічам хацелі яго звязаць. Гэта была помста, і толькі выпадкова ў Якава асталіся цэлыя рукі і галава.

— Устанаўлівай свой прывад з бацькам. Вы майстры абодва: жартуючы падушыце адзін аднаго, а я не наймаўся да вас, каб астацца калекам.

— Кінь ты, Якаў,— панура прамовіў Мікалай.— Хіба я знарок?

— Мабыць, знарок... Пускайце ў ход сваю малатарню, а я стану на любую работу, толькі не поруч з табой або з тваім бацькам. А вы акурат парка.

— Кінь ты, я табе кажу... Які з бацькі работнік!

— Дык вунь Мартыневіч з Нарбутовічам. Бяры любога.

— Хіба ты не бачыў, што Мартыневіч ледзь не забіўся? Я думаў, што не ўстане сам! Гы-гы-гы! А ў Лявона ледзь вочы наверх не павылазілі. Гэй, Лявон! Ну як, прывад страляе?

— Ты мяне сваімі жартачкамі не загаворыш,— сказаў Якаў.— Пакліч сюды Юзіка, каля яго я буду смялейшы, хоць ён і не такі разумны, як ты з таткам.

Мікалай плюнуў, потым высмаркаўся і пайшоў ад гумна. Неўзабаве ён вярнуўся з Юзікам. Цяпер ужо Юзік узяў кол і пачаў то падымаць, то апускаць прывад, так, як загадваў Мікалай. Якаў толькі памагаў, не папраўляў і не падказваў, хоць і бачыў, што нават у такой няхітрай механіцы, як гэтая, малодшы Халуста не вельмі моцны.

Нарэшце сяк-так устанавілі прывад. Юзіку ўжо не было чаго тут рабіць, і ён пайшоў да коней. Асталося толькі злучыць прантамі прывад з малатарняй. За гэта і ўзяліся Мікалай з Якавам.

Стары Халуста завёў Нарбутовіча з Мартыневічам у гумно і гаварыў ім:

— Вы дурні, ліха матары вашай! Ну, падумайце, як гэта цягаць малатарню з гумна ў гумно! Бачылі, колькі работы каля прывада? Цэлы дзень! А на колькі дзён у кожнага з вас малацьбы? Сама больш на тыдзень!

Мартыневіч паныла маўчаў. Ён быў не рад, што паслухаў Лявона і звязаўся з Халустам. Нашто яму тая малатарня! Змалоціцца хлеб, як і раней малаціўся. То сам, то сын трохі паможа, то нейкага хлопца найме на тыдзень. Да вялікадня доўгі час. Каб і ўдвая больш было таго хлеба ў гумне, то хіба ён астаўся б неабмалочаны без малатарні!

Халуста не ведаў яго думак.

— Каб гэты прывад быў на колах,— гаварыў ён,— то яго раз-два і перапхнуў на другое прыгуменне. Або каб нашы сядзібы былі поруч. А то ж блізкі свет да Мартыневіча, ліха матары яго! А да цябе, Лявон, аж на другі бок вуліцы трэба везці. Не-не-не!

Лявон круціўся і выгінаўся. Яму хацелася і калолася.

— Але ж, пане Халуста... Малатарню адзін раз перавезці, хоць і цэлы дзень на гэта страціш... Падумайце самі: вазіць да вас снапы — гэта ж на цэлы тыдзень работы. А потым ад вас трэба салому вазіць. Я ўжо не кажу пра пашню ды мякіну.

— Ая-яй! — крычаў Халуста.— А нашто вам перавозіць жытнюю салому? От каля гумна складзіце, а потым бярыце, колькі трэба. Ды яе ў рэзгінах перанасіць можна, тую вашу салому. А калі будзе час — каня запрог і вазі.

— Дзе вы бачылі, пане Халуста... На дварэ яе і снегам замяце, і дажджом абалье, а нам салома не толькі подсціл, але і пашар. На сечку яе парарэзаў ды з мякінай... А на дварэ яна згніе.

— Ніякі чорт не возьме яе! — запэўніваў Халуста.

Не, гэта было не ў нос Лявону. Кінуць сваю салому ля Хлуставага гумна, а потым хадзіць па яе, як па чужую, кожны раз папярэджваць Халусту, што ідзеш да яго гумна не красці, а сваю салому браць, ды слухаць яго лаянку. Не! Але не гэта было галоўнае. Пасля малацьбы кожны дзень прыйдзецца пакідаць у Халуставым гумне неарфаванае зерне, бо ніхто не вытрывае, памалаціўшы дзень, адразу яго арфаваць. Трэба ж адпачыць хоць пару гадзін, а за гэтыя дзве гадзіны да яго паспеюць прыкласці рукі не толькі сам Яўхім і яго сыны, але і крывая ведзьма Настуля.

— Ліха матары вашай! — крычаў Яўхім.— Хіба я вас прымушаю? Хіба я вас прасіў? Хочаце абмалаціцца скора, дык вязіце снапы, а не, дык...

— Пане Халуста...

— Ідзі ты ад мяне! Ты яшчэ не бачыў, як яна малоціць! Яна не малоціць, а іграе, як картап'ян у пана Крупскага ў пакоях. Ты як паглядзіш на гэтую музыку, то будзеш рукі ў мяне цалаваць ды прасіцца, каб я тваю збажыну абмалаціў. Але я тады фігу табе пакажу.

Мартыневічу было ўсё роўна. Ён амаль не слухаў Халусты. У яго на правай назе быў стаптаны лапаць; аціраючыся тут, ён прашмараваў і анучу і цяпер голай пятой стаяў на халодным таку. У пяту аж пякло. Мартыневіч рады быў ісці дамоў, але Лявону не хацелася ўступаць Халусту. Аднак і ад малатарні адмовіцца ў яго не хапала сілы. Не ў прыклад Мартыневічу, ён быў чалавек гультаяваты.

— То калі так, пане Халуста, то я...

— Што ты? Ліха матары тваёй, што ты? Што я плюнуў ды расцёр, от што ты! Але ты мне абяцаў памагчы малаціць. І з жонкай! І я на цябе спадзяваўся і не наймаў работнікаў.

Лявон скрывіўся.

— Чаго ты крывішся, як серада на пятніцу! Абяцаў ці не? Абяцаў!

— Я, пане Халуста, памагу, але жонка ў мяне...

— Ведаю, ведаю! Твая жонка з чэравам ходзіць, ведаю. То, думаеш, чорт яе возьме? Амецце будзе пераграбаць. Гультайская работа.

Лявон зразумеў, што папаўся. Заблытаўся, як муха ў павуціне.

Мартыневіч ужо меркаваў даць дралавіцы. Пята яго канчаткова змерзла, і ён паціху падыходзіў да варот, каб пры зручным выпадку вышмыгнуць праз іх на прыгуменне. Аднак нялёгка было ўцячы ад Халусты.

— А ты чаго туляешся? Ты хіба не абяцаў? Можа скажаш — не? Учора вы абодва, ліха матары вашай, прасіліся і маліліся, каб я ўзяў вас у хаўрус, а сёння хвасты падтулілі?

Ні сам Халуста, ні Нарбутовіч з Мартыневічам не бачылі, што амаль з самага пачатку іх гаворкі ў гумно ўвайшоў не хто іншы, як сам Хаім Ножык.

— Дзень добры, пане Халуста! — сказаў ён, як нічога і не было, і працягнуў руку Яўхіму. Той некаторы час стаяў разявіўшы рот.

— Якое ўтрапенне, ліха матары тваёй! Хіба ты з неба зваліўся?

— Не. Я прыйшоў і не хацеў вам замінаць. Уга! Цяпер у маім млыне будзе завоз! Уга! Такая малатарня! Яна ўсё перамалоціць і вымалаціць. А то мой млын стаіць, і я не маю работы.

— Як быццам з Чыжэвічаў табе не возяць, ды з Жывіцаў, ды з Півашоў, ды з Крывіч.

— Мала,— прамовіў Хаім.— Зусім мала. Больш возяць у маёнтак.

— Не хлусі, пане Хаім! — закрычаў Халуста.— Я калі ні зірну, то твой млын заўсёды круціцца.

— Толькі куццю таўку, пане Яўхім. Толькі куццю. Але цяпер у мяне будзе завоз, бо калі малінаўцы пачнуць малацьбу малатарняй, то яны скора абмалоцяцца і павязуць пашню ў мой млын. Чыжэвіцкія мужыкі больш возяць мліва ў маёнтак, а малінаўцам нашто ў маёнтак вазіць? Абы яны скарэй абмалацілі сваё збожжа.

— Чуеце, дурні! — ускінуўся Халуста на Лявона і Нічыпара.— Вы паслухайце, што кажа разумны чалавек! Пане Хаім! А яны не хочуць вазіць снапоў у маё гумно!

Халуста быў упэўнены, што Хаім яго падтрымае. Але Хаім зірнуў на яго, як на малое дзіця, і сказаў:

— Нашто вазіць снапы — гэта такая доўгая і смутная песня, якую тылімкаюць у панскіх пакоях на картап'яне, як вы кажаце, пане Яўхім. Ці не лепш перавезці самую малатарню?

— Ліха матары тваёй! — заенчыў Халуста.— Ты мяне рэжаш!

— Не, пане Яўхім, я цябе не рэжу. Але нашто табе рэзаць суседзяў? Вазіць снапы, вазіць збожжа, вазіць салому і мякіну! Вазіць і вазіць! Уга! А ім жа трэба вазіць з Волі сена. То калі гэта ўсё перавозіш? А хіба табе, пане Яўхім, не трэба вазіць сена? У цябе ж цэлы свет сена! То лепш няхай яны памогуць табе вазіць сена.

Гэта толькі трохі супакоіла Халусту, але яшчэ і цяпер ён быў гатовы разадраць Хаіма на кавалкі. Ён абвёў позіркам Нарбутовіча і Мартыневіча і загадаў:

— Ліха матары вашай! Ідзіце дамоў снедаць. Знайшоўся ў вас заступнік, каб яму язык адгніў... А як бу-

дзе ўсё гатова, то я вас знайду-у! Вы ад мяне нідзе не схаваецеся!

Лявон і Нічыпар нібы і чакалі гэтага. Яны пайшлі моўчкі адзін за адным і толькі на вуліцы пачалі гаворку.

— От дзякуй Хаіму,— сказаў Лявон.— А то б гэты гад... Бачыш, што надумаўся: вазі да яго снапы...

Мартыневіч ужо не чуў свае пяты, зусім акалела.

— А па мне дык задавіўся б ён са сваёй малатарняй...— буркнуў ён.

— Бо ты дурны абэлтух! У цябе кожны год палову пашні мышы зжыраюць! Ты і пасля вялікадня малоціш!

— А калі снапы ў Халустава гумно вазіць, то тую самую палову Халусты зжаруць. І работа лішняя.

— Не будзем вазіць! — упэўнена сказаў Лявон.— Гэты Хаім хоць і злодзей, але разу-умны чалавек!

— А пра сена з Волі не чуў?

— Гэта яшчэ бабка надвое варажыла! Калі я заплачу за малацьбу, то за што я буду вазіць яму сена?

Тым часам Халуста ўзваліўся на Хаіма Ножыка:

— Ліха матары тваёй, злодзей, гад, шэльма! Які чорт прыгнаў цябе сёння сюды! Хто цябе зваў, каму ты быў патрэбен! Ну, скажы, чаго ты прывалокся?

— Няма ветру, млын стаіць. То я прыйшоў паглядзець, як будзе малаціць твая новая малатарня.

— Не загаворвай мне зубы, бо яны ў мяне не баляць! Ты мне помсціш за тыя тры рублі, што я вінен табе за Якава. Ты мне за іх свінню падкладаеш! От чаго ты прыйшоў!

— Ша, Яўхім! Нашто ты крычыш? Тры рублі! Што тыя тры рублі? Твой Якаў каштуе не тры рублі, а тры тысячы. Я табе потым скажу, бо ты цяпер крычыш.

— Я табе аддам тыя тры рублі адразу, як прывязу ў млын. Пашнёю возьмеш. У мяне цяпер грошай няма, бо я патраціўся на гэтую малатарню.

— Ат! Не вельмі ты патраціўся.

— Ты ж не быў у маёй кішэні! Але нашто ты сказаў тым дурням, што не трэба вазіць да мяне снапоў, лепш перавезці да іх малатарню! Нашто ты сказаў?

— І ты мне скажы за гэта дзякуй, Яўхім. Скажы мне дзякуй, бо ты дурны, як бот. Ты сваёй малатарняй і сабе яшчэ ні аднаго снапа не абмалаціў, а ўжо хочаш з людзей шкуру здзіраць. Адразу шкуру здзіраць, хіба

так можна? Малінаўцы яшчэ баяцца твае малатарні. Дзіва што, такая навіна! Калі знайшліся два чалавекі, то ты беражы іх. А ты іх адразу палохаеш. Хіба я не бачыў, што Мартыневіч рады быў бы адкаснуцца ад цябе і ад твае малатарні? Уга! Ён ужо з твайго гумна хацеў уцякаць.

— А ты праўду кажаш, ён туляўся, як злодзей, па завуголлі.

— Ну, от бачыш! Табе трэба пачакаць, пакуль яны ўвойдуць усмак, а тады прыцісінуць.

— Ото-то, братка Хаім. Так яно і ёсць.

— Ды што Нарбутовіч ды Мартыневіч! Іх у засценку не паважаюць. Каб гэта былі Сташэвічы, Ян або Андрэй, то я сказаў бы, што ты галава. Тады ты ўсю Малінаўку абмалаціў бы.

— Ліха матары іх, Сташэвічы гэтыя! Каб яны агнём пайшлі! Я на іх сабак нацкаваў бы.

— От за гэта ты і дурны. Са Сташэвічам Андрэем табе трэба памірыцца, бо ён будзе твой найгоршы вораг.

— Ён і так мой вораг.

— Ну, не! Тое, што ён вязаў цябе, то гэта жонка твая вінавата. А тое, што ён цябе пугай біў, то гэта ты вінаваты. Усё гэта глупства. Але калі ты захочаш купіць зямлю ў Жукоўскага, то Андрэй Сташэвіч першы табе нагу падставіць.

— Ліха матары тваёй! — завішчаў Халуста.— Адкуль ты ведаеш, што я хачу купіць у Жукоўскага зямлю?

— Я ўсё ведаю. Я ведаю, што робіцца ў Слуцку, Бабруйску і Мінску. Я нават ведаю, што робіцца па ўсёй Расіі. Ай-ей! Што толькі не робіцца ў гэтай Расіі... А ўчора я ехаў са Старочына, нагнаў Гарасіма Жукоўскага і падвёз яго да самага засценка. І мы гаварылі. І ён мне гаварыў, і я яму гаварыў. І ён мне расказаў, што ты лячыў у яго зубы і што ты гаварыў. Тады я і дагадаўся, якія зубы лячыць ты да яго прыходзіў.

Халуста падумаў і пашкроб патыліцу.

— Гэтак ты ўсё ведаеш... Але, мабыць, ты не ведаеш, што ў Андрэя Сташэвіча няма грошай.

— І гэта я ведаю. Ён без грошай лягчэй купіць, чым ты з грашыма. У яго ёсць багатая сястра. Яна за яго паручыцца, і ён возьме грошы ў банку.

Халуста схіліў галаву.

— Адкуль ты ведаеш, што Сташэвіч таксама хоча купіць Гарасімаву зямлю? — нарэшце запытаў ён.

— Я гэтага не ведаю. Але яшчэ летам ён казаў Гарасіму тое самае, што ты казаў яму, калі лячыў зубы. Я памаленьку, памаленьку і выпытаў у Гарасіма ўсё, што трэба.

— Ты ніколі не прыносіш мне добрых вестак. Ты, як крумкач, толькі на бяду каркаеш. Груган ты! Д'ябал! Ты не можаш забыць тых трох рублёў за Якава!

— Ах, які ж ты дурны, Яўхім. Я табе казаў, што Якаў каштуе не тры рублі, а тры тысячы, а ты нават не запытаў у мяне чаму.

— Ну, дык скажы, чаму ён каштуе тры тысячы.

— О! От гэта разумнае пытанне. Ён таму каштуе тры тысячы, што ім цікавіцца сам Гендарсан. Ён хацеў яго ўзяць у млын да машыны.

— Ая-яй, ая-яй! — залямантаваў Халуста.— І ты яму параіў?

— Не. Я яму не раіў. Нашто мне раіць? Ты сам ведаеш, што было ў маёнтку, калі выбіралі бульбу. І я думаю, што без твайго Якава там не абышлося. То нашто мне раіць пану такога чалавека? От бачыш, я раблю табе дабро.

— Ты мне заўсёды робіш дабро, каб яно табе ў рэбры. От і сёння распудзіў маіх хаўруснікаў.

— Ат! Ты так нічога і не зразумеў. Табе трэба самому пільнавацца іх. Бо твае коні ў прывадзе не пойдуць. Твае коні — як звяры. Калі загудзе малатарня, то яны стануць на дыбкі і так будуць ірвацца, што растрыбушаць тваю малатарню. А Мартыневічавы коні пойдуць. Мо і Нарбутовічавы пойдуць. А сама лепш пайшла б Ашакевічава Пярэстая, але ты з Ашакевічам грызешся.

— Хіба я не прывучу сваіх коней да малатарні?..

— Наўрад. Можа і прывучыш, але яны табе спачатку малатарню паломяць. І раз паломяць, і два паломяць, а на трэці зусім даломяць.

Адзічэлымі вачыма глядзеў Халуста на Хаіма.

— Ты на мяне як халоднай вады ўзліў, ліха матары тваёй... Я, мабыць, зусім здурнеў... Дык, кажаш, Гендарсан хоча забраць Якава?

— Ты гэтага не бойся, Яўхім. Не паспее Гендарсан забраць Якава. Пакуль ён збярэцца, то Якава і след прастыне.

— Што? А дзе ён дзенецца? Куды ён пабяжыць? Ты мне скажы...— Халуста схапіў Хаіма за грудзі.

— Пусці, Яўхім. Нам з табой загрудкі брыдка хапацца. Мы старыя людзі. І Якаў нікуды не пабяжыць. Ён пойдзе з тваімі сынамі ў войска.

— Куды?

— У войска, Яўхім. Ты паслухай мяне... Толькі нікому не гавары пра тое, што я табе скажу. Скора будзе вайна. Маладых забяруць у войска... От бачыш, я табе ўсё сказаў. І ты кажаш, што я табе дабра не жадаю!

— Якое ж гэта дабро! Ты прыйшоў, нагаварыў мне асьміну бяды і сам радуешся, што мне цяжка.

— Ах, Яўхім... Які ты ні разумны, а розум твой мужыцкі. Што ўбіў, то ўехаў... Я цябе папярэдзіць прыйшоў! Пакуль не пачалася вайна ды сыны твае дома і парабак на месцы, малаці скарэй. Ды не разяўляйся шырока, бо хоць вачыма і з'еў бы ўвесь свет, і рот шырокі, але горла, Яўхім, вузкае. Падавіцца можна... І не ўсё тое маё, што я бачу. Адмалочвайся скарэй ды вазі сена.

— То можа мне адкаснуцца ад гэтых сабачых хаўруснікаў, Хаім? Ты мне скажы...

— Не! Ты іх не праганяй! Яны памогуць табе сена вазіць! Бо калі не будзе Якава і сыноў, то цяжка будзе табе, Яўхім. Ох цяжка.

Халуста задумаўся. Даўно ён не думаў так упарта і даўно так не хваляваўся. А можа гэты злодзей проста здзекуецца з яго? А Хаім стаяў, прыпёршыся да тарпы, і ў хітрых вачах яго не было ні каліва здзеклівасці.

— Братачка Хаім... Ну, братачка Хаім... Прызнайся, гэта ж ты ўсё сам выдумаў, каб я вар'яцеў...

— Не, Яўхім.

— Братачка Хаім... Ліха матары тваёй! Няўжо ж ты сказаў мне праўду?

— Каб я так жыў, Яўхім.

— Дык скажы ты мне, за што ты мне яе сказаў? Ох, хітруеш ты... Ты ж у мяне за Якава пяць рублёў прасіў... А тут ні з таго ні з сяго...

— Абух ты, Яўхім,— адказаў Хаім і пайшоў з гумна.

## РАЗДЗЕЛ ВОСЬМЫ

Калі Шварцкопф стаў у млыне механікам, становішча Гарбатага Яся трохі пахіснулася, і, пакуль рамантаваўся паравік, ён там быў зусім непатрэбны. Гендарсан паставіў беспрацоўнага млынара прымаць ад мужыкоў бульбу. Не падабалася такая работа Гарбатаму: не вельмі прыемна стаяць на марозе цэлы дзень, важыць мужыцкія вазы, поўныя і пустыя, запісваць, колькі хто прывёз. Ён счарнеў, як абгарэлы пень, не толькі ад холаду, але і ад нянавісці, бо думаў, што праклятыя іншаземцы зусім выжывуць яго з млына. Ці доўга! Навошта ён патрэбны, калі ёсць другі такі самы немец, як аканом? Хіба яны не падзеляць прыбыткі паміж сабой? Раззлаваны Гарбаты нават не ашукваў сялян на вазе. Наадварот, ён часта прыпісваў мужыкам лішнія пуды, і гэта ў некаторай ступені ўсцяшала яго, бо было своеасаблівай помстай, якую мог прыдумаць толькі Гарбаты Ясь. «А-а, халера,— думаў ён пра аканома і яго новага механіка.— Я вам пакажу лішні спірытус! Многа вы яго нагоніце! Няхай лепш астанецца вам лішнія пуды, тыя, якіх няма. Хапайце іх!..» — і ўсміхаўся зларадная усмешкай.

Зіма тым часам убіралася ў сілу. Кожны дзень быў халодны, марозны. Як пачалася зіма, не было ні адной адлігі. Калі мароз трохі адмякаў, то ўзнімалася завея або ішоў снег. Сяляне спяшаліся за добрай дарогай прадаць у бровар лішнюю бульбу, бо колькі яшчэ дарог чакала іх наперадзе. Зімой не было калі спаць: сена, дровы не прыходзілі самі, а хто не хацеў зарабіць капейку на кані! Летам гэтага не заробіш, бо свае работы хапала па вушы і сабе і каню. Таму кожны дзень ішлі ў маёнтак падводы з бульбай; каля бровара стаяў цэлы кірмаш, і беднаму Гарбатаму не было калі нават палуднаваць.

Платон Шабуня таксама працаваў на прыёмцы бульбы. Яе ссыпалі ў вялізнае сховішча каля бровара, і кіраваў гэтай работай Платон. Ён штодзень па некалькі разоў сустракаўся з Гарбатым і, узіраючыся ў яго счарнелы твар, думаў: «Нешта ж ты, пане Гарбаты, забыў пра сваю прапанову ды, мабыць, і сам, калі не зусім, то надоўга выскачыў з млына, і ніякі памочнік табе цяпер не патрэбны». Аднак уголас пра гэта не гаварыў. Нельга было самому набівацца на работу ў

млын, каб не думаў Гарбаты, што Шабуня хоча ўлезці туды з нейкай мэтай.

Тым часам машына ў млыне стаяла. Дарэмна новы механік стараўся скарэй яе паправіць. Гэты праклятый паравік быў для яго незразумелай загадкай, поўнай розных нечаканасцей: не паспееш паправіць адно, як ужо другое выйшла са строю.

Станіслаў Вярбіцкі поўнасцю падпарадкаваўся новаму механіку і без яго загаду сам ні за што не браўся. У першыя дні Шварцкопф пазіраў на яго як на ніжэйшае стварэнне. Толькі пазней ён зразумеў, што зрабіў памылку, так ставячыся да старога механіка. Ён меркаваў адным махам пачаць і скончыць рамонт, а калі гэта не выйшла, уся яго самаўпэўненасць і ганарлівасць зніклі. Ён зразумеў, што Станіслаў Вярбіцкі знарок ухіляецца ад работы, прыкідваецца няўмекам, і надумаў падысці да яго, як да сябра.

— Чаму вы, э-э, пане механік, самі не, э-э... Я ж бачу, што вы лепш за мяне ведаеце, э-э... гэту праклятую ламачыну...

Станіслаў усміхнуўся.

— Вы старшы механік, пане Шварцкопф. Я магу памыліцца, бо ведаю толькі сваю ламачыну, тую, што ў бровары.

— Яны ж адной маркі...

— Ды не аднолькава зношаны.

Шварцкопф мыляў тонкімі губамі і бездапаможна аглядаў мёртвую машыну яшчэ раз. Аднак быў ён чалавек цярплівы, стрыманы і не траціў надзеі.

Аканом увесь гэты час ледзь не вар'яцеў, хоць і не падаваў выгляду. Кожны дзень ён далікатна пытаў у гера Шварцкопфа, як ідуць справы з машынай. Той, перш чым адказаць, бадзёра ўсміхаўся і плёў такую бязглуздзіцу, што аканом нічога не мог зразумець, і ў яго ўсё гарэла пякельным агнём. Ён разумеў, што справа даходзіць да таго, будзе ён аканомам у гэтым маёнтку ці не. У млыне ляжала нямала завозу. Завознікі хваляваліся, пагражалі, што забяруць з млына сваё збожжа і павязуць у Слуцак. А колькі людзей ужо мінула млын пана Крупскага! Цяпер жа самая пара малоць ды малоць, бо і паны і сяляне канчаюць малацьбу. Жах ахопліваў Гендарсана. Калі пра гэта ўведае пан Крупскі, Гендарсанавага і следу не астанецца ў чыжэвіцкім маёнтку.

Нарэшце ў Шварцкопфа зусім апусціліся рукі. Ён вымушаны быў прызнацца Станіславу, што не можа глядзець на гэту праклятую машыну. Праз яе ён страціў спакой, яго адцураўся сон. Якую дэталь ні крані, кожную трэба выкідаць, замяняць новай. Станіслаў асцярожна намякнуў, што ў вёсцы Малінаўцы ёсць добры механік і што ён адзін мог бы даць рады і гэтай ламачыне. Шварцкопф адразу павесялеў і на хвіліну ажывіўся.

— Як яго прозвішча? — запытаў ён.

— Якаў Шэмет,— адказаў Станіслаў.

— А што ён за механік? — пацікавіўся Шварцкопф.

Станіслаў расказаў яму пра Якава Шэмета. Пачуўшы, што Якаў працаваў у горадзе, Шварцкопф насцярожыўся, але, падумаўшы, сказаў:

— Я пагавару пра гэта з панам Гендарсанам.

— Пан аконам нешта мае да Якава Шэмета,— адказаў яму Станіслаў.

— А што ён да яго мае?

— Пра гэта вам лепш раскажа сам пан аконам. Справа ў тым, што Якаў Шэмет раней працаваў у маёнтку.

— Угу,— буркнуў пад нос Шварцкопф.— Я пагавару з панам Гендарсанам.

І пагаварыў.

Гендарсан пазелянеў, выслухаўшы пана Шварцкопфа. Уся злосць, якая таілася дагэтуль, раптам ускіпела. Ён затупаў нагамі, сціснуў кулакі і гатовы быў накінуцца на свайго новага механіка, як раз'юшаны бык. Даволі яму дурыць галаву! Ён пачаў брудна лаяцца — крычаць, што не для таго выпісваў Шварцкопфа з Рыгі, усадзіў на яго гэтулькі грошай, каб цяпер збіраць у маёнтак розную свалату, усіх бунтаўшчыкоў з наваколля. Не для таго ён плаціць Шварцкопфу такое вялікае жалаванне, забяспечыў дарэмнай кватэрай, прыняў, як сына, каб цяпер ісці кланяцца Якаву Шэмету, бо пан Шварцкопф не механік, а... тут ён ужыў брыдкае слова. Ды ці адно такое слова ён ужыў! Ён крычаў, што яго ашукалі, абдурылі, як малога хлопчыка, наздзекаваліся з яго, бо і пан Пфэрдсан таксама добрая свіння, і г. д. «Хам,— падумаў пан Шварцкопф.— Самы сапраўдны хам... Саксонская свіння... О-о! Самая брудная свіння...»

Назаўтра ён з'явіўся ў млын, як пабіты сабака, падтуліўшы хвост. Станіслаў зірнуў на яго і зразумеў, што гутарка ў механіка з аканомам атрымалася бурная і кончылася для пана Шварцкопфа вельмі няўдала. Калі ён запытаў у пана механіка, што думае аканом пра Якава Шэмета, той скрывіўся, як ад зубнога болю, махнуў рукой і вылаяўся па-нямецку. Пасля гэтага ён яшчэ доўга нешта мармытаў сам сабе, потым плюнуў, аднак за работу ўзяўся з яшчэ большай упартасцю і цярплівасцю. Станіслаў зразумеў, што пан Шварцкопф баіцца страціць месца ў маёнтку, і яму стала крыху шкада гэтага непрыемнага чалавека.

Калі Станіслаў расказаў пра ўсё Паўлу Квітуну, той спахмурнеў і задумаўся.

— Чорт бы яго забраў, гэтага праклятага Шварцкопфа. Я быў бы рады, каб яго зусім выгнаў Гендарсан. Ён сапсаваў нам усю справу... Мабыць, толькі тады мы перацягнем сюды Якава, калі спыняцца абедзве машыны — і ў млыне, і ў бровары.

— Я ўжо думаў пра гэта,— усміхнуўся Станіслаў.— Але трэба пачакаць. Яшчэ не ўсю бульбу купіў у сялян пан Гендарсан. Трэба зрабіць гэта тады, калі аконаму будзе поўная нявыкрутка,— пад вясну. От тады, калі спыніцца бровар, прападзе ўся бульба, і сялянская і панская, і аконам вымушаны будзе папрасіць Якава, каб перайшоў у маёнтак.

— Твая справа,— адказаў Павел.

Станіслаў на хвіліну задумаўся.

— Бяда ў тым, Павел,— сказаў ён,— што машыну ў млыне прыйдзецца ўсё-такі пусціць у ход.

— Чаму?

— Ды таму, што Шварцкопф скора зразумее, чаму яна не працуе.

— Зразумее? — недаверліва запытаў Павел.

— У тым і справа. Каб ён меў трохі большы вопыт, то даўно зразумеў бы. Сам ведаеш, чым гэта кончыцца для мяне, калі да яго дойдзе, што гэта я ўсяму прычына. А мне не хочацца кідаць нашу справу і шукаць іншага месца. Усё-такі мы тут сёе-тое зрабілі, і робім, і будзем рабіць. У нас тут ужо цэлая група, а вясной можна будзе разгарнуць работу яшчэ шырэй. І наогул, падзеі насоўваюцца, як хмары.

— Якія падзеі, Стась?

— Страшныя падзеі, Павел. Насоўваецца вайна.

Павел чакаў гэтай нядзелі. Не то каб думаў, але напамінак пра яе трымаўся ў галаве неяк падсвядома. Запрашэнне Эльзы Гендарсан здавалася цяпер неверагодным сном. Павел не мог прызнацца сабе, што хоча гэтай недарэчнай сустрэчы. Недарэчнай? Чорт яго ведае... А кнігі?.. І тут ён зразумеў, што кнігі не галоўнае. Нават каб не было гаворкі пра іх, ён бы жадаў спаткання з Гендарсанавай дачкой... Жадаў бы. Чаму?

Млын учора малоў першы дзень. Малоў цэлую ноч. І доўга цяпер не будзе адпачынку парабкам у млыне ні ўдзень, ні ўночы. Гендарсан, ашалелы ад радасці, лётаў па маёнтку. Ён нават лаяўся менш. Работа цяпер кіпела: малоў млын, бровар гнаў спірытус, у гумнах ішла малацьба. Ад усяго гэтага працоўнага тлуму, які так саграваў аканомава сэрца, Паўлу рабілася сумна. Значыць, нічога яны не дабіліся. Дарэмная была барацьба за Якава. Гендарсан з Шварцкопфам перамаглі. Павел не ведаў, што такое ж адчуванне хвалюе Станіслава і Платона, але ў Станіслава яно не такое безнадзейнае, бо ён ведае, што гэта толькі часовае адступленне і барацьба за Якава зусім не галоўнае ў іх дзейнасці.

Нарэшце прыйшла нядзеля. Зімовая марозная раніца сінім святлом нясмела зірнула ў акно праз замёрзлыя шыбы. Платон яшчэ спаў. Яму цяпер даставалася больш, чым усім. Гарбаты перайшоў у млын, а Платон замест яго прымаў бульбу і ссыпаў яе. Праўда, завоз бульбы зменшыўся, але Платон рабіў дзве работы і позна ўвечары, прыйшоўшы дамоў, валіўся на нары і спаў як забіты. Павел даўно ляжаў з расплюшчанымі вачыма. Думаў. Думаў пра Эльзу Гендарсан і з нянавісцю да самога сябе адчуваў, што думкі яго нячыстыя. Асцярожна, каб не разбудзіць Платона, ён устаў і выйшаў на двор мыцца. У паветры стаяў сінякаваты марозны туман. Дымы з каміноў, не паспеўшы ўзняцца над стрэхамі, згіналіся і рассяваліся нізка над долам. Праз гэты дым і туман зырка палымнеў усход. Паўла ахапіла незвычайная бадзёрасць. Святочны дзень заўсёды здаецца працоўнаму чалавеку не такім, як усе, а нейкім своеасаблівым, урачыстым, не падобным на іншыя. Учора, напрыклад, быў такі ж самы ранак, але Павел не бачыў яго хараства.

Калі ён вярнуўся ў пакой, Платон сядзеў на нарах, абуваўся і курыў.

— Не спіцца табе, Павел,— сказаў ён сіплым прастуджаным голасам.

— Хораша на дварэ, Платон.

— Хораша, кажаш? Пастаяў бы ты на дварэ кожны дзень ад цямна да цямна...

— Ведаю тваю бяду, Платон.

— Хутка кончыцца гэта бяда. Учора Гарбатага бачыў. Пераходжу ў млын.

— А хто будзе бульбу важыць ды ссыпаць?

— Вы са Станіславам удвух каля машыны, а падвоз бульбы канчаецца. От ты і зоймеш маё месца.

— Халера! — вылаяўся Павел.

— Не бядуй, ненадоўга. Мне горэй, чым табе. Ісці ў падначаленыя да гэтай пачвары, думаеш, вельмі мне хочацца? Але ж трэба! Можа і табе не хочацца ісці сёння ў аканомавы пакоі, аднак пойдзеш.

Нібы нож уваткнуў Платон у Паўлавы грудзі, такім горкім папрокам прагучалі гэтыя словы. «Не хочацца!» У тым і бяда, што хочацца. А Платон нібы ведаў, што робіцца ў Паўлавай душы.

— Жаніся, Павел,— сказаў ён.— Спакайней табе будзе. Давай украдзем у Пракопа Надзю, тады і я быў бы пры вас за бацьку.

Не, не ведаў Платон, як усё перавярнулася ўсярэдзіне ў Паўла. Надзя!.. Ці ўспамінаў ён яе ў апошнія дні? Бывала, чакаў нядзелі, каб ісці ў сяло, пабачыць яе... А цяпер чакаў нядзелі, каб сустрэцца з Эльзай... Што ж гэта такое? Утрапенне нейкае... І раптам воблік Надзі паўстаў у яго вачах і засланіў усё. Мільганула Эльза, пакрыўджана ўсміхнулася і знікла. Калі Павел расплюшчыў вочы, яму здалося, што ён сасніў цудоўны сон, які разбудзіў яго душу.

— Вазьмі такога за бацьку — і да жонкі стаў вартаўніка,— пажартаваў ён.

— Не жартуй, Павел. Цяжка жыць адзінокаму...

Удзень прыйшоў Якаў. Амаль да вечара прасядзелі ў Станіслава, чыталі, абмяркоўвалі падзеі, якія нараталі ў краіне. Калі Станіслаў расказаў Якаву, чым кончылася справа ў млыне, Якава гэта ніяк не ўразіла.

— Іначай і быць не магло,— сказаў ён.— Халуста мяне аддаў бы, а Гендарсан узяў бы толькі па загаду Беразоўскага, а Беразоўскі такога загаду не аддасць.

Ён мяне хоча абясшкодзіць, а я ў Халусты пад наглядам. Можа ён і рызыкнуў бы ўпхнуць мяне ў маёнтак, каб тут за руку ўзяць, але ён заняты цяпер важнейшай справай. Ураднік жэніцца.

Усе засмяяліся.

— А тут за табой хто-небудзь не сочыць? — не то запытаў, не то так сказаў Станіслаў.

— Гэта вы павінны лепш ведаць. Ёсць у вас такі чалавек.

— Ёсць, вядома. Гарбаты Ясь. Толькі яму цяпер няма часу: млын працуе круглыя суткі.

— Час у яго ёсць. Ён мяне сёння бачыў, нават павітаўся.

— Дрэнна,— пашкадаваў Станіслаў.— Сёння цябе павінны бачыць у маёнтку п'яным. Ядвіга! — звярнуўся ён да жонкі.— Схадзі да Арлоўскага, вазьмі пару бутэлек.

Ядвіга пачала апранацца. Павел таксама падняўся.

— І мне пара, хлопцы,— сказаў ён.

— Ідзі, Павел,— прамовіў Станіслаў.— Умей сябе трымаць. Разумееш? І ў хаце, і з аканомавай дачкой.

— Больш слухай і наглядай, чым гавары,— дадаў Якаў.

На дварэ вечарэла, калі Павел выйшаў ад Станіслава. Чырвонае сонца вісела над самым захадам. Мароз мацнеў, і ў паветры лёталі ледзь прыкметныя пушынкі інею. У маёнтку стаяла цішыня.

У той самы час, калі Павел падыходзіў да аканомавага флігеля, Ядвіга праходзіла каля млына. Гарбаты Ясь нібы знарок чакаў яе каля дзвярэй, і Ядвіга таксама знарок пайшла цішэй, каб з ім сустрэцца, бо зімой млын абмінуць было нельга, хіба толькі па цаліку.

— Куды гэта ты, маладзіца? — адказаўшы на прывітанне, запытаў Ясь.

— Ай, дзядзька, не пытайцеся,— нездаволеным голасам раззлаванай жанчыны адказала Ядвіга.— Да Арлоўскага іду.

— Госці ёсць?

Ядвіга кіўнула.

— А-а! Якаў Шэмет. Бачыў я сёння яго.

— Свая бутэлька была, дык мала ж!.. Такія прорвы...

— Гарадскі басяк! — прамовіў Гарбаты.— Што, ён кожную нядзелю прыходзіць?

— А каму ж ён патрэбны ў Малінаўцы! Хіба шляхта яго прыме! Унадзіўся ў маёнтак, як кот у смятану. Мабыць, дзеўку шукае.

— Гарадскі басяк,— паўтарыў Гарбаты.— А ты, маладзіца, другі раз да мяне прыходзь. У мяне спірытус ёсць, збярог трохі.

— Ой, дзядзечка, дзякую! Прыйду, а як жа! Пабягу ж, а то чакаюць, халеры.

Прамінуўшы млын, Ядвіга аж уздыхнула. «Скарэжыў цябе чорт, як бог чарапаху,— падумала яна пра Гарбатага.— Ліхадзей ты. Таму і паеў бы ўсіх ад злосці. А тут жа, як на бяду, ад млына хата відна як на далоні. Усё можна высачыць...»

Эльза сустрэла Паўла амаль на парозе.

— Я даўно вас чакаю, Павел,— проста і радасна сказала яна.— Распранайцеся, і пойдзем у мой пакой.

— Я ненадоўга, паненка...

— Не паненка, а Эльза. Забылі, Павел? І няма вам на каго аглядацца. Дома я адна: тата і мама паехалі ў Слуцак, у госці да зубнога доктара. Узялі з сабой і пана Шварцкопфа.

Эльзін пакойчык быў невялікі, але ўтульны. Тут стаялі маленькі столік і два крэслы, ля сцяны — шафа, поўная кніг у дарагіх пераплётах. На сценах віселі мініятурныя партрэты нямецкіх пісьменнікаў Гётэ, Шылера і Гейнэ, рускіх — Пушкіна, Лермантава, Талстога і Някрасава.

— Садзіцеся, Павел,— запрасіла Эльза.— Можаце курыць.

Павел апынуўся нібы ў іншым свеце, і калі Эльза сказала пра курэнне, ён адразу адчуў той самы водар веснавых кветак, які застаўся ў барачным пакоі пасля таго, як прыходзіла Эльза. Толькі тут ён быў яшчэ трывалейшы і проста ап'яняў.

— Дзякую, Эльза. Курыць я не буду.

— А мне падабаецца, як пахне папяросаю. У нашым доме не бывае такога паху, а я так яго люблю!.. Курыце, Павел.

— Добра, Эльза, закуру.

— А вы што-небудзь прынеслі? — запытала яна, калі Павел закурыў.

— А што я павінен быў прынесці? — здзівіўся Павел.

— Мяшок! — зарагатала Эльза.— У што вы забераце кнігі?

— Я не ведаў... Хіба іх так многа?

— Убачыце.

Яна адчыніла шафу і пачала выкладваць кнігі, адну за адной. Павел спачатку лічыў, а пасля дзесяці ўзяў верхнюю і разгарнуў. «Салтыков-Щедрин. Губернские очерки».

— О, Павел! У мяне няма дрэнных кніг!

Яна стаяла на каленях, няскладная, даўганогая дзяўчына, і калі ўзняла на Паўла вочы, ён не пазнаў гэтых вачэй: яны былі не халодныя і не пагардлівыя: цеплыня і шчырасць, і нешта большае за простую прыязнасць свяцілася ў іх. Яна зразумела, што Павел чытае ў яе вачах, і сарамліва схіліла галаву. І гэты чыста жаночы рух так упрыгожыў яе постаць!

— Тут ёсць кнігі нямецкіх і французскіх пісьменнікаў у рускім перакладзе. От, напрыклад, Беранжэ. Гэта французскі паэт. А гэта Гейнэ, нямецкі...

— Тут жа цэлае багацце, Эльза!— усклікнуў Павел, зірнуўшы на горку кніжак.— Я не магу іх узяць, яны каштуюць грошы! Чым я вам адплачу?

Халодны бляск раптам успыхнуў у Эльзіных вачах.

— Тады я іх спалю! Кнігі не павінны ляжаць мёртвымі! Іх павінны чытаць людзі!

— Даруйце, Эльза... Я іх вазьму, і паверце, што мёртвымі яны ляжаць не будуць.

— А цяпер я прынясу мех. Мы іх складзём вельмі асцярожна. І... не нясіце іх у свой пакой... Я думаю, што ў Станіслава Вярбіцкага знойдзецца шафа.

Гэтыя словы непрыемна ўразілі Паўла. «Няўжо яна нешта ведае пра нас?..»

— Выбачайце, Павел. Мне не хочацца, каб яны валяліся па нарах...— нібы ўгадаўшы Паўлавы думкі, спахапілася яна.

Потым Эльза прынесла вялікі новы мех, і яны склалі кнігі. Мех быў поўны; калі яго завязалі, астаўся кароткі гузыр, за які можна было ўзяцца.

На дварэ даўно сцямнела, толькі месячнае святло лілося ў вокны.

— Можа запаліць лямпу, Павел?

— Не трэба, Эльза... Такое святло!

— Вам падабаецца? Мне таксама...— Голас яе быў падобны на гарачы шэпт, які ішоў аднекуль здалёк.— Месяц, месяц... А цяпер закурыце, Павел. Мне хочацца, каб пасля таго, як вы пойдзеце, у пакоі астаўся пах махорачнага дыму.

Паўла ахапіў незразумелы настрой. Ён сядзеў, як у нейкім салодкім сне, нібы нехта перанёс яго ў казачную краіну, дзе ўсё не так, як у жыцці, дзе лёгка дыхаецца і бесклапотна жывецца...

Позні вечар быў на дварэ, калі Павел сабраўся ісці.

— Эльза! Я не магу растлумачыць, як удзячны вам. Не толькі за кнігі, а нават за гэты харошы вечар.

— Праўда, Павел? — узрадавана запытала яна.

— Шчырая праўда. Вы цудоўны чалавек, Эльза, і даруйце мне, бо можа я калі-небудзь пра вас дрэнна падумаў.

— Вы дазволіце мне пісаць вам з Пецярбурга?

— Я буду вельмі рады.

— Я вам буду пісаць пра ўсё. Лісты мае будуць карысныя, Павел... Ваша Надзя не пакрыўдзіцца... А цяпер скажыце Станіславу Вярбіцкаму і ўсім вашым сябрам, каб асцерагаліся Шварцкопфа і Гарбатага. За вамі сочаць, асабліва цяпер. Калі пачаў працаваць млын, яны расхрабрыліся.

Яна глядзела на Паўла затуманенымі вачыма, кволая, нібы пакрыўджаная, і нешта большае, чым звычайная жаласць, кранула яго сэрца. Ён мімаволі абняў яе, прыціснуў да грудзей і пацалаваў у гарачыя сухія вусны. Яна ледзь не задыхнулася і, адхіснуўшыся ад яго, усхліпнула.

— Ах, Павел, Павел...— прашаптала яна, закрыўшы далонямі твар.

— Я вас пакрыўдзіў, Эльза?

— Не, Павел, не... Я вельмі рада, Павел...

Праз хвіліну Павел з мяшком за плячыма ішоў па зімовым садзе, абсыпаным залатым інеем, ад якога іскрыліся і зіхацелі кожнае дрэва, кожная галінка...

## РАЗДЗЕЛ ДЗЕВЯТЫ

Два тыдні дзень у дзень гула малатарня ў Халуставым гумне. Яна ўскалыхнула засцянковую цішыню, і малінаўцы з незразумелай трывогай прыслухоўваліся да яе голасу. Моташна было яго слухаць: гудзе, як невядомы звер, нібы кліча ў засценак нейкую бяду — пажар ці паморак...

Якаў адчуў, што дарэшты зацягаўся: не насілі ногі. Не было адпачынку, ні днём, ні ноччу: удзень малацьба, а пасля вячэры арфавалі збожжа амаль да раніцы. Цяжка было цягаць мяхі з гумна на вазы, а потым з вазоў у свіран, рукі балелі пасля такой работы. На сон аставалася не больш за дзве гадзіны, пакуль крывая Настуля з глухой служанкай згатуюць снеданне. Юзік Гром нашто быў дужы і цягучы, і то пачаў скардзіцца:

— Згарэла б яна, гэтая малатарня... Так і здохнуць нядоўга. Ці не праўда, Якаў?

Калі кончылі малацьбу, Яўхім Халуста загадаў перацягнуць прывад да Нарбутовіча Лявона, а сам хадзіў, заклаўшы рукі ў кішэні, і пасміхаўся:

— Ну што, га? Ліха матары вашай! От што значыць машына! Цяпер я сам сабе пан! Уга! Што мне Крупскі! Бачыш, дурны Лявон? Праз тыдзень і ты такі будзеш! Ні табе клопату, ні бяды.

— Ды яно ж так, пане Халуста...

— Толькі глядзі, каб ты мне не сапсаваў машыну! Каб ты мне яе не зламаў! Бо ў цябе і гаспадаркі не хопіць.

Вечарам Якаў пайшоў у свой халодны пакой, лёг і заснуў, як забіты. Раніцай прачнуўся, пачуўшы голас Халусты. Яўхім роў так, нібы яго рэзалі.

— Ю-зік! Уставай, злодзей, гультай, абібок, лайдак! Думаеш, што сёння будзеш спаць цэлы дзень!

— Чаго ты ўсхадзіўся, бацька? — сонным голасам пытаў Юзік.— Яшчэ ж рана, усе людзі спяць.

— Кабылу мне запражы, ліха матары тваёй!

— Куды цябе чорт панясе, бацька! Ляж ды паспі... Адпачыць людзям дай.

— Уставай, гад, бо лейцамі перацягну! Ды разбудзі таго пана, што ў каморы спіць. Упраўляцца трэба, раніца на двары! А сам запрагай мне кабылу!

— Нашто табе кабыла сёння?

— У Старочын паеду.

— Сабачая жытка...

— Сціхні, а то таўкачом спляжу!

Якаву не хацелася, каб па яго прыйшоў Юзік Гром. Хоць стома і скоўвала ўсё цела, але ўстаў з нагрэтай пасцелі, і яго агарнуў шалёны холад.

У кухні палілася ў печы. Крывая Настуля пякла бліны. Стары Халуста сядзеў за сталом, мазаў тыя бліны счарнелым ад даўнасці здорам і еў з такім смакам, што аж за вушамі трашчала. Юзік абуваўся.

— Во, бачыш! — закрычаў Халуста, убачыўшы Якава.— Бачыш, сукін сын! Ён лепшы гаспадар за цябе! Яго не трэба будзіць, а ён жа — парабак, ліха матары тваёй!

— Бо ты і яго разбудзіў. Ты такі лямант узняў, што і на могілках усе пакойнікі ўсталі б!

— Во які ты разумны, злодзей!

Калі Юзік абуўся, Якаў пайшоў з ім у гумно. Гром ішоў ззаду і лаяўся.

— Хіба гэта жытка, га? Мабыць, і на катарзе не горш... Чуеш, Якаў?

— Чую. А ты ў свайго бацькі запытай. Яму ж было недалёка да катаргі.

— Што ты мяне да бацькі адсылаеш! Трасцы я сёння рабіць што буду. Няхай едзе, а мы хоць адаспімся.

Калі развіднела, Яўхім Халуста выйшаў з хаты ў новых юхтовых ботах, у новым жоўтым кажусе, паверх якога была апранута суконная бурка. На галаве была каракулевая шапка-стаўбун, трохі аблезлая, таму не вельмі самавітая. Ён сеў у вазок, узяў у рукі лейцы і паехаў са двара.

— Надумаўся, стары чорт, у будні дзень у Старочын,— сказаў яму ўслед Юзік.

Ён не ведаў, куды і чаго паехаў бацька.

Халуста тым часам выехаў на шлях, махнуў пугай, і калі кабыла пайшла трухам, заныў тонкім нудным голасам, як галодны шчанюк:

— І-і-і-і... І-і-і-і...

Ён сёння быў у настроі, і такая была ў яго песня.

Юрка Хмялеўскі вяртаўся дадому з палявання. За плячыма яго віселі стрэльба і вялікі стары глушэц.

Няголены, у шапцы ■ казінай шкуры, у старой свіце і лыкавых лапцях, Юрка сам нагадваў звера ці дзікага ляснога чалавека.

Зіма стаяла над Палессем. На магутных дрэвах ляжаў снег і папрыгінаў іх галіны. Снег укрыў усё: і зямлю, абсыпаную старой ігліцай і счарнелым лісцем, пні, кусты ядлоўцу і маладыя дрэўцы; гэта былі ўжо не кусты і не дрэўцы, а загадкавыя белыя здані, ні на што не падобныя. Вецер не варушыўся, і лес стаяў моўчкі. Цішыня і спакой... Такі ж настрой быў і ў душы ў Юркі: ні радасці, ні весялосці, але і ні буры, ні трывогі... Цішыня і спакой... Даўно не было цішыні і спакою ў Юркавай душы. Турботы і трывогі не давалі яму жыцця, ірвалі на кавалкі сэрца. І хоць сёння нішто не сагрэла яго душы, але туды прыйшлі цішыня і спакой... А хіба гэтага мала? Чалавеку, які ніколі не ведаў шчасця ў жыцці.

Сёння Юрка не пайшоў бы на паляванне. Ён і так кожны дзень быў у лесе са стрэльбай і ні разу не прыходзіў дамоў ■ пустымі рукамі. Сёння ён хадзіў у лес па іншай справе, а стрэльбу ўзяў так сабе, на ўсякі выпадак. Ён выйшаў з дому цёмначы, яшчэ над лесам стаяла ноч. Пайшоў у гушчар маладога ельніку і знішчыў зямлянку, дзе хаваліся браты Шымкевічы. Хацеў знішчыць так, каб не асталося і слядоў ад яе, а выйшла наадварот: яшчэ і сваіх слядоў напакідаў. Цяпер патрэбен быў снег, які б засыпаў тыя сляды. Юрка ішоў дамоў, зрэдку паглядаючы ўгару на шэрае неба. Адчуваў: не сёння-заўтра павінен пайсці снег, узняцца завея.

Шымкевічы пайшлі больш за суткі назад, увечар, на ноч гледзячы. Дзе яны цяпер — бог ведае. Калі паспелі прабрацца ў бяспечнае месца, то дзякуй богу, а мо натрапілі ў дарозе на паліцыю, на благіх людзей. Хапіла хлопцам бяды, наеліся гора, такім усё даравань можна. Калі выпхнуў іх Халуста з Маліваўкі, доўга ні на адно месца не маглі ўзбіцца і разбрыліся па маёнтках і хутарах хто парабкам, хто пастухом. Потым паехалі ў Сібір, пад самую Кітайшчыну,— туды акурат чыгунку вялі, і многія рушылі са сваіх родных мясцін новую зямлю абжываць. Было яе там, казалі, багата без меры — абрабляй колькі хочаш, а ўраджайная і тлустая, нібы тварог з маслам. Прадаў стары Шымкевіч усе мэтлахі, сабраў сям'ю і рушыў на ўсход. Эх і

дарожка была!.. Расказваў Васіль у доўгія ночы, калі прыходзілі грэцца ў хату, як яшчэ ў дарозе матку пахавалі. Захварэла ад тугі і гора і сканала. Пахавалі на нейкай сібірскай станцыі, закінутай сярод панурых змрочных лясоў. Васіль і назву тае станцыі гаварыў, але Юрка забыў. Пасля матчынай смерці нібы нешта зламалася ўсярэдзіне ў старога Шымкевіча. Заныў чалавек. Калі жонка была жыва, то ўсё маладых падбадзёрваў: «Э, нічога, дзеткі! Спачатку цяжка будзе, а потым абжывёмся! Мы ж яшчэ ўсе, хваліць бога, дужыя!» А калі памерла жонка, дык хоць самога даглядай і ўгаворвай, як малое дзіця.

Нарэшце такі прыехалі. Высадзілі іх у тайзе на беразе ракі. Вакол некрануты лес, дзічына, чалавечага следу не відно, усё чужое, страшнае, а ў саміх за душой, акрамя рук, нічога няма. Куды прыкласці гэтыя рукі? Дзяржава трохі памагала, але якая гэта была помач! Тры гады біліся як рыба аб лёд. Лес палілі ды карчавалі, сеялі збожжа, лавілі рыбу, білі звера, калі маглі, і за тры гады траіх з сям'і страцілі. Малодшага брата дрэва забіла, сястра памерла ад нейкай невядомай страшнай хваробы, а бацька згарэў ад гора. З шасці чалавек двое асталося, нямілы ім стаў белы свет. І пацягнула іх на радзіму, у родную старану. І кінулі браты новыя землі, рушылі назад дадому, хоць не было ў іх роднага дома.

Усяго давялося зведаць у дарозе: і голаду, і холаду, і са смерцю нос у нос сутыкацца. Часам ішлі разам з беглымі катаржнікамі, варнакамі іх завуць у Сібіры, часам ехалі ў цягніку зайцамі. Нарэшце прыйшлі на родную зямлю і, здаецца, лягчэй стала на душы. Сунуліся туды-сюды, каб якую работу знайсці, дык дзе там! У горадзе сваіх беспрацоўных поўна. Паспрабавалі ткнуцца ў маёнткі, а там калі зірне які-небудзь пан аканом на такіх абадранцаў, дык і гаварыць не хоча. І тады зразумелі хлопцы, што яны адшчапенцы і не патрэбны нідзе і нікому, бо і родная зямля не сустрэла іх як маці, а як мачыха...

Адыходзячы, браты зноў давалі Юрку грошы.

— Бяры, чалавек ты! Заплаціш Халусту па вэксалю, бо ўсё роўна ён з цябе шкуру злупіць. Думаеш, што адбудзеш свой доўг дубамі ды футравінай? Не думай пра гэта, чалавек! Ён іх нават у працэнты не залічыць.

У Юркі сэрца зайшлося пасля гэтых слоў. Хіба не

прыходзіла ў яго галаву страшная думка аб тым, што доўг яго Халусту расце і расце з кожным годам... І Юрка ледзь не спакусіўся, але ўспомніў гаворку з Андрэем Сташэвічам.

— Не, хлопцы, не вазьму... Не магу ўзяць,— сказаў ён цвёрда.

— Глядзі, пакаешся! Хоць за харчы вазьмі, ты ж карміў нас.

Эх, спакуса, спакуса! Якую вялікую моц маюць грошы! «А сапраўды ж,— падумаў ён.— Хіба я не карміў іх! Хлеб я купляю...» І ледзь ужо не сказаў: «Ну што ж, за хлеб вазьму». Але нейкая невядомая сіла замкнула яго рот. Ён памаўчаў і сказаў не тое, пра што думаў:

— Не, хлопцы, не вазьму... Хлеб у мяне свой, мяса я ў лесе здабываю. Ды і вы мне ці мала памагалі. Ідзіце здаровенькі з богам. Абы вам удалося дабрацца туды, куды вы хочаце.

На тым і развіталіся. І калі пайшлі хлопцы, спакойна стала на душы ў Юркі Хмялеўскага. Не таму, што кончылася яго трывожнае жыццё, што пакіне ён баяцца кожнага чалавека, які праязджае каля хутара, не будзе глядзець на кожнага паляўнічага з думкай: а можа ён знайшоў у лесе прытулак Шымкевічавых хлопцаў, але і таму, што можа хлопцы гэтыя таксама знойдуць спакой, сустрэнуць сваю долю ў чужой далёкай старане, бо не знайшлі яе на роднай зямлі...

З такімі думкамі ішоў Юрка дадому і пазіраў на шэрае зімовае неба, якое нізка вісела над зямлёй і дыхала на яе холадам. «Добра было б, каб сняжок пайшоў, ды гусцейшы, і засыпаў тое месца, дзе была зямлянка,— думаў ён.— Дай, божа, снегу...»

На дарозе каля хаты дзеці яго каталіся на санках. Саней ім Юрка нарабіў — у кожнага свае. Што ж, лапцюжныя ў яго дзеці, але ж не голыя і не босыя. «Ох, Настася ты мая, Настася... Хапае табе і работы і клопату... Не адпачыла ты за мною, за маёй галавой... Але ж падумай: хіба лёгка мне! А жыць тут можна, ох можна б жыць... Каб не звязаны быў доўгам, як вяроўкай... Дзе там як вяроўкай! Як ланцугом... Таму і жывеш як закуты ў кайданы за кратамі...»

У хаце аддаў жонцы глушца, распрануўся і падсунуўся да стала. З дому выйшаў не снедаўшы і захацеў

есці. Настася ўжо адчыніла печ, але ў хату ўбег старэйшы сынок Васіль:

— Тата! Да нас нейкі пан прыехаў!

Юрку адразу расхацелася есці, усярэдзіне ўсё закалацілася.

— Пачакай, Настася... Пайду зірну, хто там...

— Можа ўраднік, Юрка?..— жонка трывожна зірнула на мужа, і ў вачах яе засвяціўся жах.

— Памаўчы...

Юрку заняло дыхаць: акурат сам падумаў пра гэта. Ён выйшаў на ганак і ўбачыў на сваім двары гладкую Халуставу кабылу, запрэжаную ў лёгкі вазок, і самога Халусту, які стаяў каля вазка і, крэкчучы, зашпільваў штаны.

— А-а! Ліха матары тваёй! Здароў, Юрка! — сказаў Халуста, паварочваючыся да Хмялеўскага.— Ну, ну, ну! У цябе, братка, цэлы маёнтак! Уга! Далібог, спраўней, як у Крупскага! Ая-яй! А ж у цябе не быў ад таго часу, як ты будавацца пачаў! А ты выбудаваўся! І дзецям і ўнукам хопіць!

— Якія там будынкі... Можа, пане Халуста, распражом кабылу?

— Распражы, браток! Ды падкінь ёй нечага пад нос, няхай жарэ, а то яшчэ стаяць не будзе.

«Чаго ён прыехаў? — думаў Юрка і не знаходзіў адказу.— Не па добрае ён прыехаў... Не, не па добрае... От табе і твой спакой, Юрка, от табе і спакой...»

У хаце Халусту распранулі, як сапраўднага пана. Спачатку сцягнулі бурку, тады кажух, ён астаўся ў суконнай бравэрцы і цяпер пакручваўся сярод хаты, хапаўся за вылінялыя вусы і здаволена хмыкаў. І Юрка Хмялеўскі глядзеў на яго і дзівіўся, што гэты звер і прайдзісвет можа прытварыцца сапраўдным панам. Толькі от далікацтва не хапала ды з языка што ні слова, то гразь і смурод.

Ён сеў на лаву, залажыў пальцы за пальцы, паклаў рукі на калені і пачаў круціць вялікімі пальцамі адзін вакол аднаго.

— Можа б, пане Халуста, папалуднавалі? Такі ж немалы кавалак сёння праехалі.

— Уга! А чаму і не? З твае печы, братка, я чую, бо нос у мяне такі, мясам пахне.

— То падсоўвайцеся да стала, пане Халуста.

Халуста не прымушаў сябе прасіць і залез за стол

на самы покуць. Настася заслала стол новым абрусам, выняла з печы гаршкі з капустай і дзічынай, а Юрка прынёс бохан хлеба і пачаў кроіць.

— От толькі хлеб у нас, пане Халуста, няўдалы...

Хлеб сапраўды быў чорны, з мякінай, цвёрды і цяжкі.

— А што ў цябе, братачка, хлеба не хапае?

— Які там хлеб... Жыта не хоча расці. Пясок, пане Халуста... Жоўты пясок, а не ралля...

— А гной! Ліха матары тваёй, зямлю трэба ўгнойваць! Ты ж летам на пашу бярэш у палевікоў худобу.

— То які, пане Халуста, гной улетку! У лесе ён увесь і астаецца. А свае ў мяне колькі тае худобы! Ці многа яна настоіць за зіму... На агарод выкінеш некалькі вазоў ды на бульбу некалькі, а астатні на восень беражом пад жыта. Пацярушым трохі, і ўсё, а на пясок не церушыць трэба, а валам валіць... Сена ж у нас — асака. Калі стануць каровы на стойла, дык адразу і малако зарвуць. Зімой ад іх ні малака, ні гною. А вясной — як тараны сухія, ледзь выпхнеш з хлява на траву.

— Але, але... Ты, пане Хмялеўскі, не ўмееш жыць. Ты яшчэ не налаўчыўся жыць на Палессі. Ты яшчэ — та-та-та...— Халуста прыклаў палец да лба і пакруціў яго.— У цябе яшчэ галава не варыць.

Ён падчапіў на відэлец кавалак дзічыны, але той адарваўся і шлёпнуўся на абрус. Тады Халуста кінуў відэлец і схапіў мяса рукамі.

— Ты, братка, гэтага... як яго... Тут, братка, на стале калі не вяселле, то не менш як хрэсьбіны ці памінкі... Да такой закускі і чарка не замінала б.

Юрка зірнуў на жонку і апусціў вочы.

— Ты, братка, паглядзеў на сваю кабету, не раўнуючы, як сляпы ў торбу,— усміхнуўся Халуста.

— Няма гарэлкі ў хаце, пане Халуста... Можа б я пад'ехаў у Мелкавічы, тут жа ўсяго пяць вёрст, не так далёка.

— Не-не-не! Няма мне часу чакаць. Ага! Блізкі свет Мелкавічы!

Ён угрызся гнілымі, але драпежнымі зубамі ў мяса, доўга жаваў яго без хлеба.

— Я да таго кажу, пане Хмялеўскі... Але ж і прозвішча ў цябе — далібог, панскае! Падумаць: Хмялеў-

скі! Ого-го! Ліха матары тваёй, а табе і можна тут панам быць. Гэта ж такая пушча! Тут табе можна, не горш як Рэмезу на Сухой Мілі, цэлы бровар у лесе схаваць! От чаму я пра гарэлку ўспомніў. Тут, братка, можна разбагацець. Гарэлку гнаць ды прадаваць, брагай валоў выкармліваць! Уга!

— Што вы, пане Халуста,— спалохаўся Хмялеўскі.

— Я ж тое і кажу, што нічога ты не варты. Чалавек як чалавек, а галавы на плячах чорт мае... Ты не толькі гаспадар, але і ляснік. І ты шкадуеш панскага лесу! А каб ты быў разумны, то ў цябе і грошы не пераводзіліся б і гарэлкі поўная шафа стаяла б.

Хмялеўскі слухаў і не разумеў, да чаго вядзе гаворку Халуста, чаго ён прыехаў. Хмялеўскі ведаў толькі тое, што ўся гэтая балбатня пра гарэлку і пра валоў пустое, што Халуста мае на ўвазе нешта іншае і што прыехаў ён сюды не толькі дзеля таго, каб пацікавіцца, як жыве Хмялеўскі.

— Ешце, пане Халуста.

— А я, братка, ем... У цябе тут не жыццё, а, далібог, рай! Табе ж і свіней трымаць не трэба. Стрэльбу ў рукі ўзяў і страляй, колькі ўлезе. Тут жа і вяпроў да халеры.

— Хапае, пане Халуста. Усю бульбу парылі. Каб не абгарадзіў, то і аднаго каша не выбраў бы.

— От як!

Халуста гаварыў, але не забываў і есці. Ён спачатку налёг на мяса, потым падсунуў да сябе міску з капустай і вычарпаў яе да дна. Вочы яго асалавелі і глядзелі на Хмялеўскага больш-менш прыхільна.

— А ты, мабыць, думаеш, братка: ліха матары яго, Халусту гэтага! Чаго ён да мяне прыехаў?

— А што мне думаць, пане Халуста...— Хмялеўскі зірнуў на Халусту, і ў сэрцы ўспыхнула злосць.— Я нічога не думаю, пане Халуста. Вы, мабыць, вэксаль прывезлі. Усё, аб чым мы дамаўляліся, зроблена, усё я вам аддаў. Разлічыліся мы, пане Халуста, пара ўжо і знішчыць гэты праклbriefly вэксаль.

Твар Халусты пазелянеў, вочы бліснулі шалёным агнём.

— Ай-яй, ая-яй! Братка ты мой! У мяне і ў галаве пра той вэксаль не было! Я, пане Хмялеўскі, зусім забыў пра яго. А от ты не забываеш.

— Як жа я магу забыць, пане Халуста.

— Бо ты злы чалавек. Я да цябе ўсім тварам, а ты да мяне ўсім задам. Я от да цябе ў госці прыехаў, а ты мне: вэ-эксаль!

— То прабачце, пане Халуста.

— Не слухайце вы яго, дурнога, пане Халуста,— умяшалася Настася.— Ён адзічэў у лесе, не ведае, як чалавека прыняць.

— Ото-то, праўда, галубка, ото-то, праўда! Чуеш, ліха матары тваёй! — звярнуўся ён да Хмялеўскага.— Ты тут сапраўды адзічэў, як вепр. А жонка ў цябе разумная!

— А я падумаў, пане Халуста...

— Бо ты дурны...— перабіў яго Яўхім.— Ты нават не ведаеш, пра што думаць. Я проста прыехаў зірнуць, як ты жывеш, бо хіба ж не я ўсватаў табе гэты хутар і памог яго купіць? Ну, скажы, хіба не я?

— Вядома, вы, пане Халуста...

— Ну от бачыш. Дык от я і падумаў: сёння я час маю, а мне і ў Старочын трэба, дык з'езджу, думаю, зірну, як жыве Юрка Хмялеўскі. Такі ж я даўно ў цябе не быў. А ты мне адразу: вэ-эксаль!.. Я каб ведаў гэта, то знарок прывёз бы яго ды от тут і парваў на кавалкі.

Хмялеўскі не верыў ні аднаму слову гэтага страшнага чалавека, але сказаць яму пра гэта не мог.

— Прабачце, пане Халуста...

— От прыедзеш да мяне, то мы дамо таму вэксалю рады... А цяпер паказаў бы ты мне сваю гаспадарку. Гляджу я: будыніны ў цябе! Сядзібу парканам абгарадзіў. Ні звер, ні злодзей не ўлезе. Аж зайздросна мне стала.

— То хадзем, пане Халуста. Зірнём на маю пустую сядзібу.

Халуста апрануў кажух, надзеў шапку і пайшоў з Хмялеўскім на двор. І калі яны выйшлі, нейкі нейвмаверны боль апёк Настасіна сэрца. Хоць і накінулася яна на Юрку, але адчувала, што не з дабром прыехаў да іх Халуста. І чаму яму захацелася гаспадарку аглядаць? Што ён у ёй выгледзіць...

Хмялеўскі спачатку завёў Халусту ў гумно. Яно было новае, на тры пары сох; шулы дубовыя, таўстыя, вечныя, сохі таксама з дубу, высокія, простыя; сцены з жоўтай смаловай сасны, пасярэдзіне гладкі ток, не

вельмі пабіты цапамі,— відаць, мала на ім малацілі. Гумно было вялікае, але ж амаль пустое. Са збажыны ўсё было абмалочана, акрамя бобу. Малаціць памог Васіль Шымкевіч, пакуль хаваўся з братам на хутары. Начамі цэпам грукаў. Увесь зад гумна быў закладзены сенам — балотнай асакой.

Затое начыння ў гумне хапала. У куце стаялі граблі, некалькі шуфляў і малых ручных веялак. Халуста аж рот разявіў, убачыўшы іх.

— А братка ты мой! Нашто табе столькі шуфляў?

— От зрабіў...

— А мне так патрэбны шуфлі. Я цяпер, братка, малатарню маю. Усё ўжо змалаціў... а от шуфляў ды грабель не хапае.

— То вазьміце.

— Ото добра! Ты іх мне ў воз пакладзеш.

З гумна пайшлі ў хлеў. Халуста мала глядзеў на худобу, што стаяла ў хлявах. Ён з аднаго позірку вызначыў ім цану: каровы былі няўдалыя, немалочныя, конь так сабе, толькі авечкі былі спраўныя. Затое ён агледзеў сцены, шулы, вароты, на двары зірнуў нават у калодзеж.

— Эге! Дык ён жа ў цябе дубовы!

— А як жа, пане Халуста. І пограб у мяне з дубу.

— От як! Ну, то пакажы мне і пограб.

Залезлі і ў пограб.

Халуста ўсё аглядаў гаспадарскім вокам, нібы прыцэньваўся, што чаго варта. Хмялеўскі глядзеў на яго, і сэрца яго ныла.

— А от свірна ў цябе няма, пане Хмялеўскі.

— Нашто мне свіран! Пашня мая ўся ў сенечках змясцілася ў скрынях ды кадаўбах...

— Угу... Але ў гаспадарцы і свіран патрэбен, пане Хмялеўскі.

Калі вярнуліся ў хату, Халуста сабраўся ехаць дамоў. Настася напакавала яму торбу сухіх грыбоў. Хмялеўскі прынёс дзежачку салёных рыжкоў, з пуд веправага мяса. Усё гэта разам з шуфлямі і іншым начыннем ледзь уклалі ў вазок. Халуста нават пашкадаваў, што прыехаў не ў развалках. Нарэшце ён крануўся з месца. Хмялеўскі з жонкай моўчкі стаялі і глядзелі яму ўслед. Гэтак жа моўчкі зайшлі яны і ў хату, не асмельваючыся ўзняць вочы адно на аднаго.

— Настася... Чаго ён да нас прыязджаў?..

— Юрка, Юрка... Сэрца маё крывёю абліваецца,— яна абхапіла рукамі яго плечы і залілася слязьмі.

— Сціхні, Настася,— супакойваў Хмялеўскі жонку.— Ты ж сама чула, што ён казаў пра вэксаль,— ён сваімі вялізнымі рукамі правёў па яе валасах.— Чула ж, Настася...

— Ох, чула... Але я бачыла, як ён зірнуў на цябе, калі ты ўспомніў пра вэксаль. Ён гатовы быў цябе жыўцом праглынуць.

— Здалося табе...

А сам-то ведаў, што не здалося.

— Па нашы душы ён прыязджаў, Юрка... Ах божа мой, божа... Бывае, калі чалавек зойдзе ў хату, дык нібы цяпло і святло ў яе прынясе... От як Андрэй Сташэвіч прыязджаў... А іншы заедзе, дык жыць пасля яго не хочацца...

Халуста тым часам мінуў паваротку і махнуў пугай. Кабыла пайшла трухам, а ён зноў заныў, як галодны шчанюк. Яму было весела, і ён спяваў.

## РАЗДЗЕЛ ДЗЕСЯТЫ

«Іван, мабыць, прыйдзе заўтра раніцай»,— падумаў Андрэй, кінуўшы позірк на акно. На дварэ ўжо даўно сцямнела, і праз замёрзлыя шыбы ў хату глядзеў зімовы вечар. Дома нікога не было: маці пайшла адведаць хворую Яніху, а Алена — да Талімонавай Лісаветы.

Андрэй разглядаў часопіс «Ніву» — цэлы камплект за мінулы год, пераплецены ў адну тоўстую кнігу. Марцін Крываблоцкі выпрасіў яе ў папа Сулкоўскага і прынёс Івану. Чытаць сёння не хацелася. Андрэй разглядаў малюнкі, чытаў подпісы да іх. Ён адчуваў, што не надоўга ў яго хопіць вытрымкі жыць так, як Гарасім Жукоўскі,— ціха, спакойна, пуста. Хіба яму не хацелася быць з Тамашом, з хлопцамі яго гадоў: хадзіць на вячоркі, смяяцца, жартаваць, абдымаць і цалаваць дзяўчат... А Тамаш! Раней часта заходзіў, расказваў засцянковыя навіны, успамінаў Ганну, а цяпер зрэдку толькі ў гумно зойдзе пакурыць. Перамяніўся Тамаш і аддаліўся ад яго... Андрэю самому хацелася распытаць у яго пра Ганну, бо яна цяпер не пакідала яго сэрца. І калі ён мог стрымліваць сябе, выносіць

адзіноту, то толькі таму, што Ганна была з ім. Заўсёды з ім: Ганна і яго думкі, Ганна і праца, Ганна і кнігі, работа і адпачынак — усё было звязана з Ганнай. А яна, ці думае яна пра яго?..

Чорт! Ці не залішне доўга цягнецца гэтая жалоба? Каму гэта трэба? Ва ўсякім разе, нябожчыку бацьку яна не патрэбна, і ён не пакрыўдзіцца, калі яго сын пачне жыць поўным жыццём. Ён і сам не вельмі прытрымліваўся некаторых звычаяў, калі лічыў, што яны шкодныя.

Іван увайшоў у хату ўвесь абсыпаны снегам. Спыніўся каля парога і пачаў атрасацца.

— На дварэ снег? — запытаў Андрэй.

— Па лапцю падае.

— Я цябе і не чакаў сёння. Думаў, заўтра ранкам прыбяжыш.

— Дзядзька Марцін прыехаў са Слуцка... Кніжак прывёз.

Іван выняў з-пад палы кнігі, паклаў на стол і распрануўся.

— Паглядзім, што за кнігі... Максім Горкі... не чуў такога...— Андрэй разгарнуў кнігу.— «Челкаш»... Незразумелае слова... «Старуха Изергиль»...

Ён перагартаў усю кнігу і ўзяў другую.

— Іван Бунін. І такога не чуў... «Деревня». Гм... «Деревню» пачытаем...

Іван, ружовашчокі, расчырванелы ад хады і холаду, сеў на лаве каля стала.

— Ты павячэраць хочаш, але жанок няма дома, пачакай.

— Пачакаю. Калі не чытаеш «Ніву», то дай мне.

— Не чытаю... Спрабаваў днём, але тут усё пра графаў ды іншых паноў напісана. Цацкі разглядаў... Пішуць, браце Іван, пісьменнікі пра паноў ды пра іх прыгожую любоў... Чаму яны не напішуць пра сялян, пра іх жыццё і працу, пра бяду і гора? А хіба той, хто робіць, не ўмее любіць? Хіба любоў толькі ў палацах бывае, у садах ды ў парках, калі салавей спявае і месяц свеціць? А я, возячы гной, не ўмею любіць? Мне жанчына толькі ў ложак патрэбна? Ах, сукіны сыны... Растрывожылі мяне кнігі гэтыя, лепей бы іх не ведаць... Цікава, вядома, чытаць пра прыгожае жыццё, нават зайздросна: каб гэта стаць на месца тых панкоў! Толькі не веру я ў прыгожае жыццё. У паноў

яно яшчэ бруднейшае, чым у нас. Жывуць людзі без работы, а гультайства ніколі не можа быць чыстае.

Іван з цікавасцю слухаў Андрэевы словы. Не таму, што яны былі яму новыя: новае было тое, што іх гаворыць Андрэй, што ў яго цяпер такія думкі, якіх раней не было.

— Чаго ты на мяне так глядзіш? Думаеш, што я дурны? Ну, не, брат! Ты, як відаць, і казкам верыш? Чытаеш і думаеш, што так яно і было? А мяне, брат, прыгожымі словамі не ашукаеш. «Ён яе абняў, прытуліў да сябе, і яны зліліся ў адну істоту». Вось у гэтай «Ніве» я такое вычытаў. У цябе, мабыць, слёзы паліліся б ад замілавання, а мне толькі смешна стала. А я ж, браце Іван, таксама люблю дзяўчыну... Моцна люблю, можа мацней, чым які-небудзь панок... Ды пра што мы гаворым! Малы ты яшчэ, Іван, такія размовы слухаць.

Іван пакрыўдзіўся і пачырванеў.

— Ты не думай, што я нічога не разумею...

Андрэй не звярнуў увагі на яго словы.

— От з работай управімся і пачнём мы з табою, Іван, патрохі ў людзі выходзіць, а то... Ну, расказвай пра свае Чыжэвічы, што там у вас новае?

— Новае? — Іван усміхнуўся.— Новага ў Чыжэвічах хапае. Вунь Кашч Бяссмертны дачку замуж аддае.

— Што ты кажаш? — Андрэй здзівіўся.— За каго ж ён яе аддае?

— За ўрадніка Беразоўскага.

— Ачмурэў ты!

— Праўда. За ўрадніка Беразоўскага.

— Не верыцца! А калі так, то чорт не адну пару лапцей стаптаў, пакуль іх разам сабраў. Калі ж яны паспелі знюхацца?

— Даўно! Яшчэ ўвосень, як бульбу выбіралі. Тады, як Гендарсан праз акно ўцякаў. Назаўтра Беразоўскі з Макарам прыязджалі. Тады і маму маю цягалі ды дапытвалі. Беразоўскі начаваў у Кашча, от тады яны і знюхаліся.

— Помню. Раніцай Беразоўскі да Халусты ехаў, я сустрэў яго на вуліцы. Значыць, ён ехаў тады ад Кашча. А калі ж вяселле?

— Пасля каляд. Цяпер жа пост, вяселле спраўляць няможна.

— Дзіўна... Значыць, Беразоўскі на пасаг паквапіўся.
— Ён у прымы да Кашча ідзе.
— Яшчэ большае дзіва.
Андрэй устаў і пачаў хадзіць па хаце.
— Значыць, Беразоўскі стане гаспадаром і кіне сваю пасаду. Будзе нашым суседам.
— Не ведаю. Але цяпер у Кашчавай хаце такая калатнеча кожны дзень, што аж вокны дрыжаць.
— Якая калатнеча?
— Адэля са служанкай Мар'янай за валасы адна адну цягаюць. Мар'яна кажа, што загрубела ад Кашча, хоча, каб ён з ёю павянчаўся. А Адэля кажа, што Мар'яна загрубела не ад Кашча, а ад стражніка Макара. Бо Макар такі і спаў з Мар'янай, як Беразоўскі да Адэлі сватаўся...
— Пацеха!
— Яшчэ якая! Мар'яна і Кашчу вусы павыдзірала. Ён кажа Мар'яне: «Я, гадаўка, з табою пяць гадоў спаў, і ўсё добра было, нічога з табою не зрабілася, а калі ты са стражнікам паспала, сука ты гэтакая, з хамам з тым, то ў цябе адразу чэрава пачало расці...»
Андрэй рагатаў ад усёй душы.
«Плодныя, кажа, вы, хамы, каб вас зямля не насіла. Абы адно з адным збегліся ды панюхаліся, то абавязкова і шчанё знойдзецца».
— От бачыш, Іван, якое паскудства! Кашч не пан, а толькі падпанак смаркаты, а колькі бруду ў яго доме. А ў сапраўдных паноў гразі яшчэ больш. Як яны ні хаваюць яе, яна ўсё роўна праз усе шчыліны лезе. Ды не вельмі яны яе і хаваюць... Беразоўскі жэніцца на Адэлі. Хіба на ёй ён жэніцца? Яму патрэбна Кашчава гаспадарка, грошы яго...
— Слухай, Андрэй... Ты ж таксама Адэлю ў воку меў. Ці мо пасаг яе...
— У воку меў! Дурань! Пляцеш ты ні зіму ні лета! Я любіў Адэлю! У мяне і думак не было пра пасаг ці пра гаспадарку. Які я тады быў! Хлапчук такі, як ты, трохі старэйшы. У такія гады ў старую жанчыну закахацца можна, абы яна прыгожая была ды зірнула на цябе ласкава ды заахвотліва.
— А хіба Адэля так на цябе пазірала?
— Вядома! Ёй цікава было, што за ёю хлопцы бегаюць, любяць яе. Усе яны, браце Іван, жанчыны, та-

кія. Яна пра цябе і не думае ніколі, а пры сустрэчы вочкі строіць, усміхаецца прыхільна, хоць ты ёй — пустое месца.

— Гэта толькі паненкі такія ды можа шляхцянкі...

Андрэй са здзіўленнем зірнуў на Івана.

— Я пра іх і гавару. А тады яшчэ Адэля з моды не выйшла. От я і папаўся быў, і нялёгка мне было забываць яе.

— А цяпер?

— У мяне, браце, дзяўчына ёсць не раўня гэтай Адэлі. Яна мне вочак не строіць, а то не была б яна мая. Я ўжо сёе-тое ведаю, апёкся раз на ўсё жыццё... Шкада, што не прыйдзецца пабыць мне на Адэліным вяселлі. Зірнуў бы я на яе і на будучага суседа гаспадзіна ўрадніка...

Дадому прыйшла старая Аксеня, дала Івану павячэраць, і ён палез на печ.

— Заўтра, Іван, да полудня без мяне будзеш малаціць,— сказаў яму Андрэй.— Хлеб з нашай хаты ўцёк, трэба ў млын ехаць. Пашні там не пакіну, бо гэты злодзей Хаім не муку, а крупы зробіць і ўкрадзе з паўпуда.

У тую ноч Івану не спалася. Ён не мог забыць гутарку з Андрэем. Здавалася, што Андрэй знарок хоча папярэдзіць яго: не вер ты, брат, ласкавым усмешкам і прыгожым вочкам... Іван сам падсвядома адчуваў гэта і не верыў... Ні ўсмешачкам, ні прыгожым вочкам... Але хіба гэта выратавала яго? Не! Ён ужо даўно зразумеў, што топіцца і нішто яго не выратуе... Ён любіў Алену — ганарлівую шляхцянку, сястру свайго простага і шчырага гаспадара. Ён любіў яе ўсёй сваёй чыстай, яшчэ не спакушанай душой, і цяжка яму было тут жыць, але ён ведаў, што не жыць тут яму было б яшчэ цяжэй. Ён чытаў, што першае каханне прыносіць радасць, дае шчасце, але яго каханне не давала яму ні радасці ні шчасця. Яно адабрала ад яго нават тое, што ён меў: спакой і чысціню думак. І ён доўга ляжаў на цёплым чаране, і сон яго не браў...

Алена вярнулася ад Лісаветы позна. Ні старая Аксеня, ні Андрэй не чулі, калі яна прыйшла і запаліла лямпу. Толькі Іван з-за коміна сачыў за ёю. Яна была нейкая ўзрушаная і нібы адчувала, што за ёю

сочаць. Не стала вячэраць, пастаяла каля стала, зірнула мімаходам у люстэрка, і ў люстэрку Іван убачыў яе вочы — гнеўныя, але прыгожыя. Потым яна патушыла лямпу і лягла. У хаце было цёмна, як у склепе, і ціха, як на могілках, а Івана ўсё не браў сон. Потым у засценку пачалі перагуквацца пеўні...

Раніцай Андрэй вынес са свірна мяхі, склаў іх у сані і выехаў са двара. Світала. Надвор'е стаяла цёплае, дзьмуў густы вільготны вецер, але за ноч навальіла столькі снегу, што нідзе не было ні сцежкі, ні дарогі, спрэс цалік.

Нічыпар Мартыневіч з рыдлёўкай у руках капаўся ў снезе. Двор яго быў крайні ў засценку, таму з якога боку ні дзьмуў бы вецер, заўсёды каля варот вырастала вялізная гурба снегу. Нічыпар і раскопваў гэтую гурбу, молячыся богу і праклінаючы чорта.

Каля млына стаяла некалькі падвод з Чыжэвіч. Андрэй кінуў кабыле жмак канюшыны і ўзышоў на першы паверх. На дварэ ўжо развіднелася, але раніца стаяла шэрая, падобная на позні досвітак. Хаім Ножык сустрэў Андрэя на ганку.

— А, гэта ты, пане Андрэй! А я думаю — хто гэта да мяне едзе з Малінаўкі! Ну, то добра. Злазь, а я спушчу вяроўку, ты прывязвай мяхі, я іх сам усцягну, і мы скора засыплем.

«Нешта ты добры сёння»,— падумаў Андрэй. Звычайна Хаім сам ніколі не ўсцягваў мяхоў, трэба было прасіць каго-небудзь з завознікаў, каб стаў на другім паверсе ля калаўротка.

Калі мяхі былі падняты на другі паверх, туды палез і Андрэй. На першым паверху было некалькі чалавек з Чыжэвіч. Андрэй заўважыў і Іванавага дзядзьку Пракопа Крываблоцкага. Спыняцца не было калі, на другім паверху яго чакаў Хаім.

— Ну, пане Андрэй, добра, што ты не аб'ехаў мой млын. Ты трохі пачакай, не больш за паўгадзіны. Я кончу малоць Крываблоцкаму Пракопу, тады засыплем тваё. Ты бачыш, пане Андрэй! Дурныя малінаўцы не вязуць да мяне малоць. Ну, ці не дурні! Млын пад бокам, а яны, падумай сам, гоняць коней то ў маёнтак, то ў Крывічы. Блізкі свет! Трацяць час.

Андрэй пацінуў плячыма.

— Не, ты толькі падумай, пане Андрэй, толькі ты падумай! Чыжэвіцкія мужыкі вязуць мліва да Хаіма,

хоць ім і бліжэй у панскі млын, што ў маёнтку. Жывічане таксама вязуць да Хаіма, а ім жа далей да Хаімавага млына, чым малінаўцам. Чаму яны да Хаіма вязуць? Таму, што Хаім мякка меле. У яго мука — як пух! I Хаім на паўфунта менш бярэ за мліва! I Хаім не ашуквае на вазе і не крадзе. А ў маёнтку ў млыне сядзіць Гарбаты Ясь. Яго паставіў Гендарсан. Гэты Ясь такі злодзей, якіх свет не бачыў. Ён цяпер і на вальцах пачаў крупы драць. А я табе змялю так, пане Андрэй, што твая маці з тае мукі будзе пірагі пячы! Уга! Хлеб будзе — як пірог.

— Добра, пане Хаім.

— Хлеб будзе — як пірог... Ты з Малінаўкі першы прывёз да мяне воз новага хлеба. Тут не грэх было б і па чарцы выпіць... Але скажы ты мне, пане Андрэй, чаму малінаўцы не вязуць мне малоць?

Андрэй не разумеў, чаго ад яго хоча Хаім Ножык.

— Не ведаю, пане Хаім. Яшчэ сама малацьба ідзе. I я сёння не прывёз бы, каб у скрыні мука была.

— Я табе скажу чаму! Дурны Яўхім Халуста не павёз да мяне, а павёз у маёнтак. Там жа млынаром яго сябра Гарбаты Ясь! Ліха матары яго!

Хаім так удала перадражніў Халусту, што Андрэй усміхнуўся.

— А чаму ён да мяне не вязе? Можа ў яго які гешэфт з Гарбатым Ясем?

— Не ведаю я яго гешэфтаў, пане Хаім,— не вельмі прыязна адказаў Андрэй, бо яму ўжо абрыдла Хаімава балбатня.

— Няма ў іх ніякіх гешэфтаў, пане Андрэй! Няма ніякіх гешэфтаў. Ён мне, гэты злодзей, вінаваты капейку, то ён не хоча яе аддаваць і вязе мліва ў маёнтак. Няхай вязе! Няхай сабе вязе!..

Хаім зазірнуў у кош.

— Развязвай мяхі, пане Андрэй. Пракопава пашня канчаецца, зараз будзем засыпаць тваю.

Андрэй пачаў развязваць мяхі, а Хаім стаяў над ім і цягнуў сваю песню.

— Я табе так змялю, што ты век будзеш мяне помніць і ніколі не павязеш сваё мліва ў другі млын! Уга! Ты і суседзям скажаш: «Вязіце, дурні, да Хаіма! Ён добра меле і менш бярэ за памол». Ты ім нават можаш паказаць сваю муку. «Гляньце, дурні, якая мука! Хто вам так змеле, як Хаім!»

Андрэю хацелася зарагатаць.

— Я, пане Хаім, да суседзяў не хаджу, толькі да свайго брата Сташэвіча Яна.

— То што больш трэба! Скажы Яну! Калі Ян павязе да мяне, то за ім павязуць усе малінаўцы! Што за чалавек Ян Сташэвіч! — замілаваўся Хаім.— Такіх людзей на тысячу адзін! Што я кажу на тысячу! На мільён! На цэлы мільён. А твой бацька? Няхай яму дасць бог царства нябеснае. Што быў за чалавек! Такіх і ў свеце няма! Бывала, ён заўсёды да мяне: «Ты,— кажа,— пане Хаім, змялі мне мякка». То я і мялю! Ага!..

Млын калаціўся, гатовы рассыпацца на кавалкі, лётаў пыл, стукаў кош, гуў камень, і Хаім з рыжай барадой, пабялелай ад пылу, быў падобны на нейкі прывід. Нарэшце ён сціх і ўвесь час глядзеў у кош. Калі там стала пуста, Андрэй высыпаў сваё жыта.

— Ну, то я на цябе спадзяюся, пане Андрэй. А Халуста! Чорт яго бяры, Халусту!

Андрэй не адказаў. Трэба было злазіць на ніжні паверх абіраць муку, але Хаім яго затрымаў, схапіўшы за рукаў:

— Чаго ты спяшаешся? Скрыня пpасторная, людзі адгорнуць, калі будзе вялікая куча. Давай лепш пасядзім, пане Андрэй.

— А ты Пракопаву муку не будзеш важыць?

— Нашто? Я за памол узяў ад яго зернем, а тваё мукі Пракоп не кране. Ён добры мужык.

— Я гэта і сам ведаю,— адказаў Андрэй і падумаў, што Хаім паспеў ужо ўкрасці ў Пракопа колькі яму было трэба.

— Ну, то сядзь. Вазьмі ды закуры. Ты ж курыш?

— Куру.

— То куры, чаго там! А я от не куру. Чарку п'ю, а курыць не навучыўся. Мой і бацька не курыў.

— Не курыў і мой.

— І от так чалавек жыве, жыве, нечага хоча, некуды бяжыць, думае, што яму ні зносу, ні канца не будзе, а смерць... Ага! Ты не чуў, Андрэй, што сыноў Шымкевіча Тодара пазабівалі?

Андрэй адчуў, як па спіне яго пабеглі мурашкі, холад скаваў цела і дакаціўся да сэрца. Ён заўважыў, што Хаім сочыць за ім, і ўзяў сябе ў рукі, хоць і ад-

чуваў, што прыкінуцца раўнадушным яму вельмі цяжка.

— Шымкевіча Тодара сыноў? Яны ж паехалі ў Сібір?

— Калі гэта было, Андрэй! Яны даўно вярнуліся з Сібіру. Толькі ўдвух вярнуліся. Сям'я асталася там. Навек... Памерлі. І сам Тодар памёр... Добры быў чалавек, нашто казаць. От так і сцерлася сям'я, як і на свеце не было. Хіба ты нічога не ведаеш, пане Андрэй?

— Нічога не ведаю.

— Калі не ведаеш, то не ведаеш, а я думаў, што ведаеш. Бо многія ведаюць — і пад Слуцкам, і пад Вызнай, і пад Любанню, і пад Старымі Дарогамі. Яны мяне абабралі, калі я ехаў са Слуцка яшчэ ўвосень. Сымон Ашакевіч ведае, ён у той дзень таксама са Слуцка ехаў. Хіба ён не казаў?

— Нічога ён мне не казаў.

— Яны не толькі мяне абабралі. Яны былі разбойнікі, пане Андрэй. Іх лавілі і аднаго паранілі ў руку. Юрку! Яны недзе хаваліся, пакуль у Юркі не зажыла рука, а потым пайшлі.

— Дзе ж іх пастралялі?

— Яны, мабыць, хацелі ўцячы ў Амерыку і пайшлі на нямецкую граніцу. Хацелі граніцу перайсці. От там іх і пастралялі. Юрку забілі на месцы, а Васіль трохі пажыў.

— Нашто ты мне пра гэта гаворыш, Хаім? — устаючы з месца, запытаў Андрэй. Яму хацелася схапіць гэтага гада за грудзі і выкінуць праз дзверы. Ён быў страшны, і Хаім закалаціўся.

— Ціха, пане Андрэй, ціха... Ты, як відаць, узлаваўся... Нашто злавацца... Хіба ты ім паможаш або я ім памагу!.. Я думаў, што табе цікава будзе пра гэта ўведаць... Ты ж такі сябраваў з Васілём, хоць ён за цябе і старэйшы быў... Таму ты і ўзлаваўся, дзіва што! Шкада такіх маладых хлопцаў... А хіба мне не шкада! Няхай бы жылі на свеце... Свет вялік...

Андрэй з нянавісцю глядзеў у д'ябальскія вочы млынара.

— Гэта праз вас яны загінулі, праз цябе і Халусту! Уся сям'я! Бо гэта ты памог Халусту прагнаць Шымкевіча з Малінаўкі.

— Ая-яй, пане Андрэй! Ну нашто так казаць!

Я памог Халусту!..— Хаім замаргаў вачыма.— Як я яму памог? Хто яму можа памагчы або не памагчы, пане Андрэй! Гэтаму злодзею, гэтаму разбойніку? Ён і мяне ашукаў! Ён усіх ашукае! Няхай яго халера возьме!.. Але, пане Андрэй...— Хаім суцішыў голас...— Васіль Шымкевіч памёр і нікому нічога не сказаў.

— Гэта мяне зусім не цікавіць. А што ён мог сказаць?

— Чаму? Ён мог сказаць, хто яго хаваў. Але ён гэтага не сказаў.

— Не шукай дурняў, Хаім.

— Я іх і не шукаю, пане Андрэй.

— Ты нечага ад мяне хочаш, але я не веру ні аднаму твайму слову. Ты ўсё налгаў, набрахаў, як сабака.

Хаім стукнуў сабе кулаком у грудзі:

— Каб я так жыў! Каб жылі мае дзеці!

— Адкуль ты пра гэта ведаеш?

— Мне сказаў адзін чалавек, пане Андрэй... Адзін чалавек... А нам няма за што сварыцца, пане Андрэй... Ну, хадзем уніз, паглядзі на сваю муку, памацай яе! Уга! Я ведаю, што яна не сыплецца, а плыве, як вада.

## РАЗДЗЕЛ АДЗІНАЦЦАТЫ

Усю дарогу ад млына да засценка Андрэй думаў аб тым, як сустрэцца з Сымонам Ашакевічам. Пабачыць яго трэба было цяпер, не чакаючы вечара. Схадзіць да Сымона Андрэй не мог, бо гэта было б вельмі прыкметна, асабліва Яўхіму Халусту, які са свайго двара мог бачыць усё, што робіцца на сядзібе ў Сымона.

Дома Андрэй распрог кабылу, завёў у хлеў і пачаў зносіць у свіран мяхі з мукой. Пасля гаворкі з Хаімам Ножыкам ён так быў узрушаны, што нічога не бачыў вакол сябе.

Калі ён высыпаў у скрыню апошні мех, позірк яго ўпаў на старую асьміну, што стаяла ў куце. І адразу знайшоў рашэнне: з усёй сілы стукнуў па асьміне нагой; струхлелыя абручы лопнулі, і клёпкі пасыпаліся на падлогу. Андрэй нават не зірнуў на іх; ён зачыніў свіран і пайшоў у гумно.

Іван малаціў, прычыніўшы дзверы, каб не падвяваў вецер.

— Ты палуднаваў? — запытаў яго Андрэй.

— Палуднаваў.

— То схадзі да Сымона Ашакевіча, скажы, каб прыйшоў да мяне. Старая асьміна рассыпалася, чорт яе збярэ без яго. Скажы, што ў мяне ёсць жалезныя абручы, хоць і ржавыя, але мо яшчэ патрымаюць. Няхай складзе, пакуль клёпкі не пагубляліся. Няхай возьме з сабой якую-небудзь бандарскую снасць.

— Цяпер ісці?

— Цяпер. Можа ён заняты, то няхай кідае ўсё. Тут работы нямнога, доўга я яго не затрымаю.

— Добра.

Калі Іван пайшоў, Андрэй дастаў з гарышча некалькі старых абручоў, абабіў з іх трохі ржу і панёс у свіран. Неўзабаве з'явіўся Сымон з гэблем і фуганкам.

— Кажаш, асьміна рассыпалася? — запытаў ён, павітаўшыся.

— Ад работы цябе адарваў. Сядзь. Не дзеля асьміны я цябе пазваў.

Сымон зірнуў на яго з недаўменнем:

— Я так і думаў, што тут нешта нейкае.

— Сёння быў я ў млыне. Хаім Ножык сказаў мне, што Васіль і Юрка Шымкевічы забітыя каля нямецкай граніцы.

У Сымона закалаціліся рукі.

— Адкуль ён ведае? — усклікнуў ён.

— Відаць, што ведае...

— Пабітыя... Такія хлопцы!..

— Юрка памёр адразу, а Васіль яшчэ трохі пажыў. Але ён перад смерцю нічога не сказаў... Не сказаў, у каго яны хаваліся, з кім сустракаліся. Пра гэта мне расказаў Хаім з такім выглядам, нібы хацеў супакоіць...

Толькі цяпер да Сымона дайшло, якая небяспека вісела над яго галавой. Ён сутаргава каўтануў паветра.

— Але ці можна верыць Хаіму? — гаварыў Андрэй.— Я не ведаю... Я разумею толькі тое, што ён хацеў мяне падлавіць, бо ён, мабыць, пра нешта здагадваецца ці нешта ведае... Гаварылі мы адзін на адзін, от як цяпер мы з табой. Ён мне проста сказаў, што

табе вядома, як яны яго абабралі, і нават запытаў, ці не гаварыў ты пра гэта мне.

— А ты?

— Я сказаў, што ведаць нічога не ведаю і ведаць не хачу.

— Значыць...— Сымон закалаціўся.

— А ты супакойся, Сымон. Яшчэ няма нічога страшнага. Я пазваў цябе сказаць, каб ты от так не пачаў калаціцца, калі з табою пачне гаварыць пра Шымкевічаў Хаім Ножык або нехта другі. Ты — нічога не ведаеш, і справа з канцом. Калі Васіль нешта сказаў, то яго ўжо няма жывога. Адзін на адзін цябе з ім не паставяць, з таго свету яго не ўздымуць.

— Я не таго калачуся, што спалохаўся... Дай мне прыкурыць, Андрэй...— ён зацягнуўся і крыху супакоіўся.— Я таго дрыжу, што няшчасны я чалавек дый годзе. Думаў, што ўжо ўсё сціхла, і ў галаву маю больш ніколі не прыходзілі Шымкевічы. Без іх бяды хапае... І от іх ужо на свеце няма, а яны мне ўсё адгукаюцца... аж з таго свету.

— Хіба толькі табе! У цябе глупства, Сымон. Сустрэлі яны цябе ў дарозе, гарэлкі выпілі і ўсё. Хіба ты ў гэтым вінаваты ці шукаў з імі сустрэчы? Так з кожным магло здарыцца. А ў мяне, Сымон... А ў мяне яны начавалі ў тую ноч, пасля таго, як ты быў у мяне, помніш?

Гэта зусім ашаламіла Сымона.

— Не мог я іх выгнаць... У гумне яны начавалі. Што я мог зрабіць?

— Дзіва што! Прыйдзіся на мяне, і я не прагнаў бы.

— Яны ў мяне прабылі толькі адну ноч. Ні хатнія, ні мой Іван пра гэта не ведаюць. У Юркі была паранена рука, а я адрэзаў яму кавалак палатна. Маці, вядома, агледзіць... Але ўсё гэта глупства, Сымон. Ёсць чалавек, у якога яны жылі доўгі час, аж датуль, пакуль у Юркі загаілася рука... І таго чалавека трэба папярэдзіць. Ён павінен ведаць усё.

Андрэй зірнуў на Сымона і змоўк. Сымон спакойна слухаў яго гаворку. Бывае так, што чалавек, на якога нечакана зваліцца няшчасце, на некаторы час страціць здольнасць валодаць сабой. Так спачатку было і з Сымонам. Калі ён упэўніўся, што няшчасце кранула не толькі яго, але і іншых, і прытым у большай

меры, чым яго, то ён ужо быў гатовы забыць сваё няшчасце і памагчы іншым.

— Кажы, Андрэй, да канца. Я калісьці табе таксама пра ўсё расказваў. Не баяўся ж я цябе.

— Я цябе не баюся, Сымон. Шымкевічы хаваліся ў Крушніках у Юркі Хмялеўскага.

— Адкуль ты ведаеш?

— Юрка Хмялеўскі вельмі даверлівы, ён мне сам прызнаўся, калі я да яго па сані ездзіў. І я за яго баюся... Яго трэба папярэдзіць, каб ён не толькі не прагаварыўся, але каб і выгляду не падаў, калі з ім нехта пачне гаварыць пра Шымкевічаў.

Сымон павалі падняўся з месца.

— Я да яго з'езджу, Андрэй.

— Сядзь, Сымон. Трэба спачатку падумаць. Хіба я не магу з'ездзіць? У мяне ж такі двое коней. Але ж трэба, каб прычына была. Што я скажу хатнім? Толькі з млына прыехаў — і раптам зноў у дарогу. Чаго? Як той казаў: ні села ні пала, прадай, баба, сала.

— А ў мяне ёсць прычына. Яшчэ ўвосень Хмялеўскі абяцаў мне дрэва на клёпкі. Я нядаўна і жонцы казаў, што мне трэба ў Крушнікі з'ездзіць. Дык от адвячоркам і паеду.

— Я вельмі рады, Сымон, што ты можаш паехаць... Ты яму ўсё скажы, добра скажы!

— Скажу, Андрэй... А клёпкі гэтыя і дно, за адным і абручы, забяру з сабой.

Хоць Хаім і казаў Андрэю, што яму ўсё роўна — прывязе да яго мліва Яўхім Халуста ці не прывязе, але са свайго млына ён часта паглядаў на Малінаўку. Страціць такога завозніка, як Халуста, Хаім не хацеў. Халуста малоў зерня больш за любога малінаўца. Некалькі кормных парсюкоў стаяла ў яго хляве; ім неабходна была вобмешка; сваім каровам Халуста таксама падмешваў муку; адным словам, завознік ён быў добры. Акрамя таго, Хаіму трэба было спагнаць з Халусты доўг. Але гэта былі не галоўныя прычыны. Яўхім Халуста быў стары Хаімаў сябра па цёмных справах. Калі недзе ў наваколлі каго-небудзь абкрадалі, то ўсе нітачкі цягнуліся ў Малінаўку да Халусты і ў сяло Чыжэвічы да Ножыка. Можна было без памылкі сказаць, што і Мікалай Халуста краў.

Накрадзенае дабро некаторы час ляжала ў Яўхіма, потым з'яўляліся Хаімавы агенты, і яно плыло ў Слуцак або ў Бабруйск і дасягала Мінска. Такім чынам, Хаім і Яўхім былі так звязаны, што адцурацца адзін аднаго не маглі. Дык чаму ж дурны Халуста пачаў цурацца Хаіма? Вось аб гэтым і думаў млынар Ножык. Няўжо праз тыя няшчасныя тры рублі Яўхім не хоча заязджаць у яго млын? Дурны Яўхім! У Хаіма ёсць да яго вялікая гаворка і яшчэ большая прапанова. Ён патрэбен Хаіму так, як Хаім патрэбен яму. Яны маглі б арганізаваць выгадную, хоць і небяспечную справу. Але Яўхім дрыжыць за свае тры рублі і не ведае, што праз іх страціць у многа разоў больш.

Аднак Хаім памыляўся. Халусту не было калі думаць пра тры рублі. Галава яго была занята большымі і важнейшымі справамі. Пасля агляду хутара Хмялеўскага ён некалькі разоў пабыў у Старочыне і ў Слуцку, наведаў валаснога старшыню, ураднiка Беразоўскага, доктара Пфэрдсана і адваката Рэпа, з якім меў доўгія нарады. Адвакат Рэп быў добра яму знаёмы. У свой час ён абараняў Халусту на судзе. Абараняў, праўда, не вельмі паспяхова, занадта многа было такіх доказаў, супроць якіх быў бяссільны і сам Рэп — слынны адвакат, і Халуста за схованъ крадзенага трапіў усё-такі ў турму. Затое потым гэты самы Рэп памог Халусту расправіцца з Шымкевічам. Цяпер ён таксама абнадзеіў Халусту.

Аб усіх гэтых справах Хаім Ножык толькі здагадваўся, бо Яўхім Халуста не вельмі верыў свайму сябру, таксама як і той не верыў яму.

Калі сцямнела, Хаім замкнуў млын і падаўся не ў Чыжэвічы, а ў Малінаўку. Халусту ён застаў дома.

— А-а! Пане Ножык! — закрычаў Халуста, як толькі Хаім пераступіў парог.— Ліха матары тваёй! Як даўно я цябе не бачыў! Садзіся, братка, садзіся! Як я рады!

Хаім паважна сеў на зэдлік.

— Не вельмі ты мне рады, Яўхім.

— Што ты мне кажаш! Я сам хацеў да цябе бегчы.

— Чаму ж ты не прыбег?

— Не было часу!.. Заняты!.. Ну, як ты, братачка,

жывеш? — запытаў ён, заглядаючы ў Хаімавы вочы.— Скажы мне, як ты маешся? Я цябе не бачыў... Мо ты захварэў, Хаім?

— Не. Я, дзякуй богу, здаровы. Але мне трэба пагаварыць з табой, Яўхім. Трэба пагаварыць.

Халуста, як злоўлены злодзей, залыпаў вачыма, зірнуў на «крывую кабылу», што поркалася каля печы, і ўскочыў з месца.

— То хадзем, пане Хаім... Пагаворым.

Праз некалькі хвілін яны сядзелі ў пакойчыку Якава.

— Тут жыве твой работнік? — абы-якім голасам запытаў Хаім.

— Тут ён толькі спіць, пане Хаім.

— А дзе ён цяпер?

— У гумне, пане Хаім, у гумне...

— Угу. Каб ён нас тут не застаў. Ты мне скажы, Яўхім, чаму ты павёз малоць не ў мой млын, а ў дворны? Хіба табе Гарбаты Ясь лепшы прыяцель за мяне?

— Гэта, братачка, не я... Гэта мой дурны Гром... Мяне і дома не было... Я акурат у Слуцак паехаў, а яму загадаў ехаць у млын. То ён, палена, паехаў не да цябе, а ў маёнтак да таго злодзея Гарбатага Яся... І дадому прыехаў п'яны.

Усё гэта была хлусня, акрамя таго, што Юзік Гром прыехаў з млына п'яны.

— Дзіва што. У Гарбатага Яся спірытусу хапае.

— Накраў! Ліха матары яго, накраў, калі быў падвальным.

— Угу.

— Але колькі там было таго мліва! Адзін вазок! Мне яго і на месяц не хопіць. Я цябе, пане Хаім, завалю млівам! У мяне ж свінні, у мяне ж каровы! Адной вобмешкі ліха ведае колькі трэба.

— Ты зноў мяне ашукаеш, Яўхім.

— Не! Далібог, не! Я сам буду вазіць у млын! Начорта мне ехаць да таго Яся, калі твой млын пад бокам.

— Я ў цябе не буду сыскваць, Яўхім, тыя тры рублі. Я табе іх падарую, дзе маё не прападала.

— А я іх табе аддам! Аддам! Нашто мне твае грошы? Як толькі прывязу ў млын, так адразу і адсыплю табе пашню.

— Ты так будзеш ехаць у мой млын, як пан Твардоўскі ехаў у Рым. Хіба я цябе на дарозе перайму ды зацягну ў свой млын. Ты лепш не думай пра тыя тры рублі, тады і сам прыедзеш. А то яны на тваёй дарозе стаяць і ў мой млын не пускаюць. Ты іх забудзь. Я іх у цябе не буду сысквадь. Ты, дурань, адбіваеш у мяне завознікаў. Нашто ты гэта робіш? Хіба мы з табой не сябры?

— Я... Я не адбіваю ў цябе завознікаў, пане Хаім.

— Гм... Не адбіваеш! Ён не адбівае ў мяне завознікаў! А Нарбутовіч Лявон і Мартыневіч Нічыпар мінулі мяне і паехалі па тваёй дарозе.

— Ліха матары іх!

— Нашто ты робіш мне зло? Якая табе ад гэтага карысць? Што ты за гэта маеш? Дурны ты, Яўхім, як халява, от што я табе скажу.

— Братачка Хаім...

— А цяпер скажы мне, дзе цябе чэрці носяць? Куды ты ездзіш і што ты робіш?

— Ай, братачка Хаім... Сколькі клопату...

Хаім міргнуў хітрымі вачамі і зірнуў на дзверы.

— Сказаць табе, які ў цябе клопат? То слухай...

Ён прыхінуўся да Халуставага вуха і пачаў шаптаць, не спускаючы позірку з дзвярэй, якія скарэй адчуваў, чым бачыў. Халуста слухаў спачатку спакойна, потым адхіснуўся ад яго, як апараны.

— Ліха матары тваёй! Адкуль ты ведаеш?!

— Я ўсё ведаю, бо ў мяне ёсць розум і ў мяне ўсюды свае людзі. Хіба я не ведаю адваката Рэпа ці каго яшчэ з тых, у каго ты быў!

— Маўчы, братачка Хаім, маўчы...

У голасе гэтага шэльмы ўжо не было прытворства.

— Я буду маўчаць, але помачы ад мяне не чакай. Мая хата будзе з краю, але цябе за гэта пакарае бог.

— Ая-яй, братачка! Каб не было большай бяды!

— Ух, які ты чалавек... А цяпер слухай яшчэ. Толькі я баюся, каб нас нехта не падслухаў.

— Не бойся, пане Хаім, не бойся.

Хаім зноў прыціснуўся да Яўхімавага вуха.

У баковачцы было цёмна і ціха, як ў бездані, і патаемны шэпт Хаіма Ножыка зачароўваў Яўхіма Халусту. Вочы яго заблішчалі, як у ваўка, калі Хаім кончыў.

— Добра, братачка, добра... Ая-яй, як добра! Мы з табой яшчэ пагаворым у млыне. Я заўтра да цябе прыеду. Мікалаю скажам тады, калі прыйдзе пара.

Хаім Ножык памаўчаў трохі.

— А цяпер, Яўхім, я табе скажу навіну.

— Якую, братачка?

— Шымкевічавых хлопцаў пастралялі на нямецкай граніцы.

Халуста ледзь не захліпнуўся ад радасці.

— Кхі-кхі... Ха-ха-ха! Што ты кажаш? Ая-яй! Нну! Ну-ну-ну! Кажаш, пастралялі? Абодвух? Ха-ха-ха! Не верыцца! На нямецкай граніцы? А чаго іх туды чорт панёс? Ая-яй! Значыць, ляснула ўся сям'я!

— Уся сям'я, Яўхім...

Хаім уздыхнуў і расказаў усё падрабязна.

— І гэта на тваім сумленні, Яўхім,— дадаў ён.— На тваім.

— Чаму на маім? — успыхнуў Халуста.— Ліха матары тваёй! Чаму на маім? Хіба я іх гнаў у Сібір або наслаў на іх паморак? Хіба я вучыў іх быць разбойнікамі? А можа гэта я хацеў адправіць іх у Амерыку? А ты кажаш — на маім сумленні!

— На тваім, Яўхім. Ты прагнаў іх ▪ Малінаўкі. Выбіў у іх з-пад ног зямлю. А Тодар Шымкевіч не такі быў чалавек. Ён не мог без зямлі.

— Хіба ім у Сібіры мала было зямлі? І хіба ты сам не параіў мне?

— Ша, Яўхім. Я не ведаў, што так будзе.

— А я хіба ведаў?

— Ну дык і маўчы. Няхай ім дасць бог царства нябеснае...

— Калом ім зямля! Я яшчэ не забыў, як яны мяне малацілі ланцугамі! Я помню...

— Але яны не кранулі тваіх грошай. А мяне яны абабралі... Бог з імі.

Памаўчалі.

— Я не хачу, Яўхім, каб нас застаў тут Якаў Шэмет. Хадзем.

— Пачакай, Хаім. Ён нас не застане. Ён сюды толькі спаць прыходзіць. Ды яго яшчэ і з гумна няма.

— Угу. Ну, добрага я табе работніка даў, Яўхім?

— Упарты, ліха матары яго!

— Але робіць.

— Ро-обіць! Дзе ён дзенецца!

— Шэметы хлопцы спраўныя. Яго брат Піліп таксама мужык спакойны і ціхі.

— Каб яны так дыхалі, якія яны спакойныя! Ціхі! На вячоркі цягаецца з маім Юзікам, дадому прыходзіць у поўнач.

— Яны маладыя, Яўхім. Маладым трэба пагуляць. Ты і сам такі быў.

— Я-а? Не-е! Я такі не быў! Не, не! Я такі не быў, Хаім! Я рос без бацькі, сам па сабе... Хто толькі на мне не ездзіў, пакуль я ўвабраўся ў сілу. Але потым я ім паказаў, ліха матары іх!

— Можа быць, можа быць,— задуменна прамовіў Хаім.

— Я быў як агонь! Аб мяне не адзін апёкся!

— Можа быць, можа быць... Я не ведаю, які ты быў малады. І я не ведаю, ці прывязеш ты да мяне заўтра малоць. Ты пякучы, Яўхім, я гэта добра ведаю. Але помні, што нам трэба заўтра пагаварыць, усё абмеркаваць.

— Заўтра я буду ў цябе, Хаім. Калі я сказаў, то сказаў, так яно і будзе. Я да цябе прыеду раніцай.

— Добра, Яўхім.

— Толькі слухай, пане Хаім... Чуеш? — голас Халусты перайшоў у злавесны шэпт.— Ты мне скажы... Скажы ты мне, як чалавека зрабіць злодзеем?

Не бачыў Яўхім, якімі вачамі зірнуў на яго Хаім.

— Я ведаю, пра каго ты гаворыш.

— Ты мне пра гэта не гавары... Ты мне адкажы!

— Не пытай у мяне, Яўхім. Ты сам ведаеш... Каб чалавека зрабіць злодзеем, то трэба навучыць яго красці.

— О-о-о! Я гэта ведаю і без цябе! Але той гад красці не пойдзе! Не, ён не пойдзе... Дык як жа зрабіць яго злодзеем?

— Дурны Яўхім. Трэба падлажыць яму крадзенае.

— Во-во-во! — Халуста падхапіўся з месца.— Во-во-во! Я і сам так думаў! І я зраблю яго злодзеем! Ліха матары яго! Не будзе ён мяне вечна злодзеем абзываць! Я зраблю злодзеем і яго!

— Ша, Яўхім. Але тут я табе нічым не памагу. І ты ні мяне, ні каго другога ў гэта не ўмешвай. Гэта справа толькі твая. І не забудзь, што Андрэй Сташэвіч разумны чалавек. Глядзі, каб ты сам аб яго не апёкся.

— Ён у мяне будзе вішчаць, як свіння ў плоце.

Я пасаджу яго ў турму-у, ліха матары яго! От тады ён будзе ведаць, хто злодзей, Яўхім Халуста ці Андрэй Сташэвіч.

— Ты здурнеў, Яўхім! А калі хто пачуе?

— Ніхто не пачуе.

— Ну, то хадзем, Яўхім... Я ў хату заходзіць не буду, можа там хто ёсць, нашто, каб нас з табой бачылі! Ну, то я цябе заўтра чакаю.

— Чакай, Хаім, я прыеду раніцай.

Халуста адчыніў дзверы, і яны выйшлі ў сені. Адтуль па-зладзейску ціха Хаім вышмыгнуў на двор.

## РАЗДЗЕЛ ДВАНАЦЦАТЫ

Пачаліся доўгія вечары, і Андрэй з Іванам па гадзіне-другой чыталі, седзячы за сталом адзін насупроць аднаго. Марцін Крываблоцкі прынёс аднекуль кнігу Салтыкова-Шчадрына «История города Глупова» і аддаў яе Івану. Была яна старая, страпаная, надрукаваная на шэрай паперы, зрудзелай ад часу. Андрэй спачатку не глядзеў на кнігу — вельмі ж несамавітая была яна. Іван таксама перакладаў яе з месца на месца, не адважваючыся адгарнуць першую старонку. Але неяк пасля вячэры яна трапілася пад рукі Андрэю. Ён прачытаў некалькі старонак, потым вочы яго загарэліся, і ён пачаў чытаць спачатку. Маці і Алена пралі моўчкі. Андрэй чытаў і то хмурыўся, то ўсміхаўся. Іван з цікавасцю глядзеў на яго: ён быў рады, што Андрэй — яго саюзнік.

— Мабыць, ніштаватая кніга? — запытаў ён.

— Ніштаватая! Залатая кніга! Дзе толькі яе адкапаў твой дзядзька!

— У папа Сулкоўскага, дзе ж больш.

— То, мабыць, і сам Сулкоўскі яе не чытаў.

— Чаму?

— Каб чытаў, то не аддаў бы Марціну.

— А ён і не аддаваў. Ён аддаў яе сваёй служанцы пліту распальваць, а дзядзька ўбачыў і забраў.

Аднак нялёгка было Андрэю чытаць гэтую кнігу. Ён не ўсё ў ёй разумеў, некаторыя мясціны перачытваў па некалькі разоў, затое, калі змест поўнасцю даходзіў да яго разумення, ён заліваўся рогатам. Алене гэта не падабалася, і яна раздражнёна гаварыла:

— Ну што ты такое смешнае вычытаў?
— Наўрад ці ты ўцяміш, хоць я табе і раскажу.
— Такая дурная, а ты такі разумны!
— Не, я так не казаў. Але бачыш... Ты лепш пачытай сама.
— Ёсць мне калі чытаць... Ні ў святы, ні ў будні хвіліначкі вольнай няма.
Гэта была праўда, і Андрэй змаўкаў, каб не дражніць сястру. Але не такая была Алена, каб, пачаўшы якую гаворку, не давесці яе да канца.
— Чытае моўчкі, потым ні з сяго ні з таго пачынае рагатаць. Гэта нават няхораша. Акурат як той, што сам сказаў і сам засмяяўся.
— Гэта, галубка, быў не той, а тая!
— Які ж ты разумны!
— Ды ўжо ж які ёсць. У суседа розуму не пазычаю.
— А я пазычаю? — ускіпела Алена.
— Сціхніце, дзеці,— супакойвала іх маці, як малых.
«Няма міру ў хаце,— думала яна.— Толькі тады і мір, калі маўчаць, а як пачнуць гаварыць, то адразу сварка». Сэрца балела ў старой, ведала яна, што гэта толькі пачатак, што ўсё благое яшчэ наперадзе, і чым усё кончыцца — толькі бог святы ведае... І калі Алена папрасіла ў яе дазволу хадзіць на вячоркі да Лісаветы Талімонавай, бо і тая таксама нікуды не ходзіць, то Аксеня адразу дазволіла. «Менш будуць глядзець адно на аднаго ды злавацца»,— падумала яна пра Андрэя і Алену.
Аднойчы вечарам пасля малацьбы Іван запытаў у Андрэя:
— Якаў Шэмет хоча прыйсці да цябе. Ці можна?
Андрэй зірнуў на хлопца са здзіўленнем.
— Цікава, а чаму гэта няможна? — ён раптам узлаваўся.— Чаго ты ўздумаў пытаць у мяне пра гэта?
— Якаў думае, што можа ты не захочаш, каб да цябе хадзіў парабак. А мы тут з ім удвух з аднаго сяла... У яго добрыя кнігі ёсць, Андрэй. Знарок для нас знайшоў.
— Дык ты ж сукін сын! І Якаў твой таксама. Няхай прыносіць тыя кнігі. Гэта ён мяне баіцца! Ён жа ходзіць на вячоркі разам з Юзікам Громам, і ніхто яго

адтуль не выганяе. Дык гэта можа таму, што ён туды ходзіць з Громам? Можа ён і да мяне хоча з Громам прыйсці?

— Ды не! Што ты, Андрэй! І на вячоркі ён рэдка ходзіць. Ён, калі няма завеі, ходзіць вечарамі ў Чыжэвічы. Прыдумаў ты: з Громам!..

Андрэй памаўчаў.

— І ўсё-такі я не чакаў гэтага ад цябе, Іван... Каго гэта я выганяў з хаты? А можа я над табой панам стаю, толькі рабіць загадваю, кармлю асобна ў мысцельніку, га?

— Я не так табе сказаў, Андрэй... Помніш, як каля сушні з табой Якаў гаварыць пачаў, а ты...

— Ага, значыць, ён не забыў той ночы. Я таму з ім гаварыць не захацеў, што ён прыйшоў тады з Халуставымі сынамі, а я іх ненавіджу, як шалёных сабак, усіх да аднаго... Забойцы праклятыя...

Андрэй успомніў Шымкевічаў і пачаў гаварыць іншым тонам.

— Ты, Іван, яшчэ малады хлопец, амаль што дзіця, і жыцця не ведаеш. Я больш за цябе пражыў, больш бачыў і лепш за цябе ведаю людзей. Я, калі вырас і трохі ўвабраўся ў розум, то ніколі не дзяліў людзей на шляхту і мужыкоў. Хіба малінаўцы ці жывічане шляхта? Гэта, браце, самыя сапраўдныя лапцюжныя хамы! Але хамы з гонарам, заўваж! А хам з гонарам — гэта ў тысячу разоў горш, чым звычайны хам... Адзін Крываблоцкі Марцін — твой дзядзька — вартнейшы за ўсю нашу малінаўскую шляхту. А Якава я дрэнна ведаю. Ды што мне з табой, малакасосам, гаварыць! Скажы Якаву, няхай прыходзіць.

— Я сёння да яго збегаю.

Андрэю так надакучыла адзінота, што ён радаваўся, калі хто заходзіў у хату. Але, акрамя Яна Сташэвіча, у яе мала хто завітваў. Пажылыя малінаўцы пільнаваліся сваіх хат, таму Андрэй быў нават рады, што да яго прыйдзе Якаў Шэмет.

Печ цяпер палілі ў хаце два разы: раніцай і ўвечар. Дроў хапала. Малінаўцы рэдка кралі панскі або казённы лес, хіба толькі едучы з Волі ці з Крушнікаў; у іх былі свае Маргі. Дрэннавата было з харчамі. Парсюка Андрэй меркаваў закалоць к калядам, другога трэба было прадаць.

Калі Іван вярнуўся ад Халусты, у хаце зырка палілася ў печы. Старая Аксеня паставіла на стол вялізны чыгун бульбы, місу агуркоў з расолам ды місу капусты. Усе падсунуліся да стала. Вячэралі моўчкі, толькі Алена з цікавасцю паглядала на Івана. Пасля вячэры яна запытала:

— Куды ты хадзіў, Іван, сёння?

Іван пачырванеў, и Андрэй насцярожана зірнуў на сястру.

— Я нікуды не хадзіў,— адказаў Іван.

— Нікуды? А перад вячэрай?

— А-а! Дык гэта я да Якава Шэмета збегаў.

— А чаго?

— Што ты маеш да Івана? — злосна запытаў Андрэй.

Алена нават вухам не павяла.

— А што, Іван да цябе прывязаны? — запытала яна злым голасам.— Чаму ты яго не пускаеш на вячоркі? У яго ж няма жалобы! Якаў Шэмет, я ведаю, ходзіць на вячоркі, а Івану нельга.

— Адкуль ты ведаеш, куды ходзіць Якаў Шэмет? — Андрэй ледзь стрымліваў сябе.— То бачу я, што цябе кожны вечар дома няма. Можа і ты ходзіш туды, куды ходзіць Якаў Шэмет і дурнаваты Юзік Гром...

Алена ўспыхнула, як прысак, калі на яго дзьмухне вецер.

— Ты не варты Юзікавай нагі! А я не папытаю ў цябе, куды мне ісці, куды не ісці! У мяне яшчэ мама ёсць, і ты мне не бацька!

Алена знарок пачала апранацца.

— Не думай, што я буду цябе трымаць. Табе хочацца ўзняць у хаце лямант, каб збегліся людзі і ты магла сказаць ім, які вар'ят твой брат, як ты пакутуеш у хаце без бацькі. Не ведаў я, што ты такая шэльма, цяпер ведаю... І сцеражыся, сястра. Я даведаюся, хто цябе вучыць, каго ты слухаеш.

— Дзеткі мае...— узмалілася старая Аксеня.

Алена схапіла прасніцу і знікла за дзвярыма, а Андрэй сеў на лаву і адчуў, што ў душы ў яго стала пуста і холадна.

— Гэта вы дазволілі ёй хадзіць на вячоркі? — запытаў ён у маці.

— Яна да Лісаветы Талімонавай ходзіць. Тая ж

таксама дома сядзіць... Удзвюх ім весялей... Хіба не нудна дзяўчыне сядзець вечарам дома? Са мной якая гаворка, а вы ж галоў не ўздымаеце ад кніг.

— Нашто ёй Іван? Што яна мае да Івана?

— Можа яна падумала, каб Іван хадзіў з ёю да Талімона. Такі ж Талімонаў Адам равеснік Івану, калі і малодшы, то мо толькі на год...

— Цікава.

Андрэй задумаўся. У матчыных словах была немалая доля праўды. Але хіба Алена не магла аб гэтым пагаварыць па-чалавечы? Магла. А можа Іван сказаў калі-небудзь, што яму сумна ў хаце? Андрэй зірнуў на свайго хлопца. Не! Не можа быць...

— Слухай, Іван... Можа ты хочаш хадзіць на вячоркі, то я цябе не трымаю.

— Што ты, Андрэй! Я без цябе нікуды не пайду! Я і не думаю пра вячоркі. Мне дык у многа разоў лепш чытаць.

— Ну дык і вымай свае кнігі.

Але ў той вечар чытаць ім не давялося, бо прыйшоў Якаў.

— У вас тут і цёпла і светла,— прамовіў ён.

— Няўжо ў Халусты горш?

— У Халуставым доме не па-людску неяк: і холадна, і няўтульна, і смуродна, як бы гэты дом не чалавечае жытло. Гаварыць у мяне з Халустам няма пра што, хіба толькі лаяцца. Дык от я вечарам і іду куды-небудзь: у свае Чыжэвічы, калі добрае надвор'е, або на вячоркі. Сплю я ў каморцы, а там холадна, як і ў свірне, дзе я спаў, пакуль снег выпаў, толькі што шчылін няма, вецер не дзьме. Закручуся ў клачаную коўдру, наверх кажухом накрыюся і сплю. А раніцай з ложка ўставаць страшна. Ты мо думаеш, што я да цябе са скаргай прыйшоў, то не думай так.

— Не! Я думаю, якая ж ён свалата, гэты твой Халуста,— прамовіў Андрэй.— Спаць цяпер у каморы тое самае, што і на дварэ. Хіба там печы няма?

— Печ ёсць, але ён дроў шкадуе.

— Сукін сын! — абурыўся Андрэй.

— Гаспадар.

— Дык, па-твойму, усе гаспадары такія, як твой Халуста?

— Усе, Андрэй.

— Пра мяне такога Іван не скажа.

— Ведаю, што не скажа. Бо які ж ты гаспадар!

— Дык што? Па-твойму, я старац!

Андрэю не спадабаліся словы Якава. Як жа гэта ён не гаспадар! Тады хто?

— Не, ты не старац, Андрэй. Але ты і не гаспадар. Ты са сваёй гаспадаркі толькі сам можаш сяк-так жыць, прытым прыклаўшы да яе свае ўласныя рукі. А Халуста на сваёй гаспадарцы можа жыць не працуючы, як невялікі панок. Прасцей кажучы, ён можа жыць чужой працай, а табе і аднаго Івана нялёгка трымаць.

Андрэй яму нічога не адказаў, але адчуў у словах яго праўду.

— Ты на цэлую зіму работай завалены: пакуль абмалоцішся, ды сена навозіш, ды дроў запасеш, дык і вясна прыйдзе. А Халуста малатарняй усё абмалаціў і цяпер толькі ў Слуцак ды ў Старочын гойсае.

— Добрая рэч малатарня! — з зайздрасцю прамовіў Андрэй.

— Але ты яе не купіш: у цябе няма грошай і малаціць ёю няма чаго. А ў прывад трэба запрагаць дзве паркі коней, у цябе ж толькі адна.

— Ты, як бачу, знарок гаворыш мне пра тое, што я сам ведаю.

— Знарок. Бо ты хоць і ведаеш гэта, але сам сабе не сказаў бы так проста, як кажу я табе. Ты яшчэ ў думках суцяшаў бы сябе: нічога, от неяк пераб'юся, потым і я куплю.

Андрэй усміхнуўся.

— Што праўда, то праўда. Кожны жыве надзеяй, што з цягам часу будзе лепш. Нават жабрак думае, што ў другой хаце яму дадуць больш, чым у той, дзе ён ужо быў... Але я табе таксама скажу: у Халусты не так многа малацьбы, каб малатарню купляць ды каб гніла яна без работы.

— І гэта праўда. Але ў Халусты шырэйшыя думкі. Ён спадзяецца, што ўся Малінаўка будзе ў яго руках. Нарбутовіч і Мартыневіч ужо сталі яго хаўруснікамі.

У душы Андрэя змагаліся два пачуцці: прыязнасці і непрыязнасці да Якава Шэмета. Яму падабаўся Якаў, прыемна было з ім гаварыць, спрачацца, Андрэй адчуваў, што той разумны, але не мог дара-

ваць, што той — Халустаў парабак. Андрэю здавалася, што кожны, хто мае нейкае дачыненне да Халусты, абавязкова і сам становіцца падобны на Халусту.

Якаў дастаў тытунь. Закурылі і некаторы час маўчалі. Іван сядзеў над разгорнутай кнігай, але чытаць яму сёння не хацелася. Не хацелася і спаць. Ён з цікавасцю слухаў гаворку старэйшых.

— Дык ты думаеш, што гады праз два ўся Малінаўка будзе малаціць Халуставай малатарняй? — запытаў Андрэй.

— Я думаю, Андрэй, што гады праз два-тры ў Халусты хопіць свае малацьбы і малінаўцы будуць перад ім шапкі здымаць.

— Ну, гэта ты сказаў! — Андрэй крыва ўсміхнуўся.— Цікава, дзе ж ён набярэ тае малацьбы?

— Не мой клопат табе гаварыць пра гэта, але калі пачаў, то кончу. Я ў Халусты жыву і сёе-тое бачу, шмат аб чым здагадваюся. Ён збіраецца купіць зямлю ў Герасіма Жукоўскага.

Андрэй адчуў, што гэта да болю ўразіла яго. Такая думка раней не прыходзіла ў яго галаву, хоць, вядома, магла прыйсці. Але чаму яму здалося, што нібыта Халуста хоча не Гарасімаву зямлю купіць, а адабраць яго, Андрэеву, зямлю! Якое глупства!

— Гарасім не прадасць Халусту зямлю,— сказаў ён.

— Адразу можа і не прадасць, але Халуста сумее абысці яго. Ты яшчэ не ведаеш Халусты, а я за гэты час добра яго ўведаў. Ён знойдзе чалавека, падашле яго да Гарасіма, і той памуляецца-памуляецца і здасца.

— Падстаўны купец...

— Падстаўны купец. Ад яго зямля пяройдзе да Халусты.

— Так можа быць...

— Так і будзе! А тады ён вас, малінаўцаў, возьме ў рукі. Будзе вам і паша і каша.

— Няма праўды на зямлі!

— Ты пра гэта толькі сёння даведаўся?

— Даўно ведаю... У каго грошы, у таго і сіла і права... Такая свалата ўбілася ў наш засценак.

— Такая свалата не толькі ў вашым засценку ёсць. У Чыжэвічах ёсць такі самы Арлоўскі Казімір

ды стараста Вырвіч, у Жывіцах падобны на іх Асіеўскі Лукаш.

— Асіеўскі Лукаш? Не-е! Ён не такі...

— Бо разгону не мае такога, як Халуста або Арлоўскі. У кожнай вёсцы, Андрэй, ёсць свае міраеды.

— Так, браце Якаў...

На дварэ даўно ўжо была ноч. Старая Аксеня прыкархнула каля печы, а Андрэй і Якаў усё сядзелі і разважалі. Не спаў і Іван. Ён сядзеў і слухаў, не прапускаючы ні аднаго слова.

— Лёг бы ты, Іван,— сказаў яму Андрэй.

— Не, я яшчэ пасяджу.

— Як хочаш, але я цябе заўтра рана ўзганю з ложка.

— Дык ты ўстанеш, а я хіба не змагу?

— От цяпер ты павінен зразумець, Андрэй, чаму ў краіне нарастае рэвалюцыя. Невыноснае жыццё! Сам ведаеш, як жывуць сяляне. А я пажыў тры гады ў горадзе і ведаю, як жывуць рабочыя. У нашай Маліваўцы яшчэ асвяціся, а зірні на Чыжэвічы: зямлі няма, хоць воўкам вый. Гэта я з дабра з маладых гадоў парабкую? Або Іван? А што ў маёнтку робіцца?

Андрэй не адказаў. У галаве ў яго было столькі думак, што ён не мог адразу ў іх разабрацца. Адчуваў толькі, што ў жыццё яго ўвайшло нешта новае і прынёс тое Якаў Шэмет.

— Я рады, што ты прыйшоў да мяне сёння, Якаў, і буду рады яшчэ больш, калі ты будзеш хадзіць да мяне часцей.

— І калі маеш кнігі, то прынось,— дадаў Іван.— Будзем разам чытаць.

Якаў усміхнуўся.

— Я ўжо бачу, што без кніг тут не абыдзецца. Добра. Прыходзіць да вас я буду. А цяпер скажы мне, Андрэй, як чалавека злодзеем зрабіць?

— Што? — здзівіўся Андрэй.

— Як зрабіць чалавека злодзеем?

— Не разумею. Чаму ты ў мяне пра гэта пытаеш?

— Значыць, ты не ведаеш. Ну дык я табе скажу: каб зрабіць чалавека злодзеем, трэба падлажыць яму нешта крадзенае.

— Не разумею, Якаў.

— Гаворка была пра цябе, Андрэй. Аднойчы я

прыйшоў з гумна і хацеў зайсці ў сваю каморку пакласці адну рэч. Чую, там нехта ёсць. Аказваецца, Хаім Ножык і сам Халуста. Тваё прозвішча памянулі. Халуста запытаў, як зрабіць чалавека злодзеем. Хаім яму адказаў. Адказ яго я і перадаў табе. Так што пільнуйся, сачы за хлявамі, за гумном, за ўсімі будынкамі. Яны могуць табе нешта падкінуць.

— І ўсё-такі, мабыць, я яго заб'ю,— ціха сказаў Андрэй.— Сустрэну дзе-небудзь і заб'ю...

— Не гавары глупства. Я знарок прыйшоў сказаць табе гэта, а мы вунь як добра пагаварылі. Праз такога мярзотніка на катаргу ісці! Ужо калі ісці, то не праз Халусту.

— Зноў твая праўда! — павесялеўшы, сказаў Андрэй.

— Ну, дык я пайду.

Андрэй апрануў кажух, надзеў шапку, і абодва выйшлі на вуліцу. У гэты момант з Талімонавага двара вышмыгнуў чалавек і, туляючыся каля платоў, пайшоў па вуліцы. Ноч была хоць і зорная, але цёмная, пазнаць гэтага чалавека Андрэй не мог.

— Хто гэта мог быць, Якаў? — запытаў ён.

— Халуста Мікалай.

— Не можа быць!

— Ён. Я ж ведаю ўсю яго выхадку.

— Што яму тут было трэба?

— Не ведаю, але ты на ўсякі выпадак агледзь свае будынкі.

— Добра ж ты кажаш...

Якаў развітаўся і пайшоў, а Андрэй накіраваўся да Талімона. Калі ён увайшоў у двор, з хаты выйшла Алена з прасніцай.

— Гэта ты, братка, так мяне шкадуеш? — яхідна запытала яна, убачыўшы Андрэя.— Баішся, каб нехта не пакрыўдзіў сястру, насустрач выйшаў.

— Кінь сваю дурную злосць. Я праводзіў Якава. Ты скажы: Мікалай Халуста быў у Талімона?

— Ды не! Чаму ты пытаеш?

Відаць было, што пытанне гэтае яе здзівіла.

— Бо ён толькі што выйшаў з Талімонавага двара.

— Хлусіш.

— Маўчы, дурная!.. Што ён рабіў тут, калі не быў у хаце?

— У хаце Тамаш. Ён і цяпер там астаўся.

— Тама-аш?!

Алена пайшла, а Андрэй усё стаяў на вуліцы, і ў вушах яго гучалі словы: «Як чалавека зрабіць злодзеем... Падлажыць крадзенае». Не! Не ўдасца ім гэта, забойцам! Не ўдасца!

## РАЗДЗЕЛ ТРЫНАЦЦАТЫ

Той вечар быў пачаткам сяброўства паміж Андрэем і Якавам, якое потым цягнулася многа гадоў.

Доўга трымаўся ў Андрэя яго шляхецкі гонар, хоць ён і не хацеў прызнацца ў гэтым нават сабе. Яму было дзіўна, што Якаў — чыжэвіцкі мужык, Халустаў парабак, ведае жыццё лепш за яго. Чым гэта растлумачыць? Што па свеце павалачыўся, у горадзе працаваў, людзей многа бачыў? Гэтага, мабыць, мала. Вунь Гарасім Жукоўскі паўсвета абхадзіў, дзе толькі не быў, ды і гады ў яго немаладыя, а пагутар з ім, што ён табе раскажа! Пра манахаў, пра паноў раскажа, а як людзі жывуць — не ведае, хоць, вядома, бачыў людзей. Або Нічыпар Мартыневіч: у войску служыў, аж у артылерыі. Як дваранін, нават чын меў — феерверкер, а сам — абух-абухом, двух слоў не зважа. Запытай, дзе служыў, дык горада не назаве, чына свайго правільна не вымавіць, і што ён азначае — не ведае. Цялё хоць праз дваццаць губерняў правязі, усё роўна цялём і астанецца.

Цяпер Якаў амаль кожны вечар прыходзіў да Андрэя. Пры Алене гаварылі аб сім-тым, а старой Аксені не баяліся. Яна не цікавілася іх гаворкай, не разумела яе і звычайна сядзела каля прыпечка за прасніцай або з той жа прасніцай ішла да Яніхі, якая ўвесь час прыхворвала. А Алена вечарамі ніколі не была дома. Хоць Андрэю і не падабалася, што яна кожны вечар ходзіць да Лісаветы (а можа і не да Лісаветы, пільнаваць не будзеш), аднак ён быў рад, што яна ім не замінае. Не верыў ён сястры. Вельмі цікаўна пaглядала яна на Якава, нібы вывучала, чаго ён варты. Затое калі жанок не было дома, хлопцы давалі сабе поўную волю. Абмяркоўвалі кнігі, спрачаліся. Іван спачатку толькі слухаў, потым у гаворку пачаў умешвацца і ён.

— Рабочыя! — пагардліва гаварыў Андрэй. — Што яны варты, тваё рабочыя? Колькі іх? Адна жменька. У нашай краіне ўся сіла ў сялянстве. Уся Расія — сялянства.

— Так і народнікі гавораць,— растлумачваў Якаў.— Яны, як і ты, лічылі сялянства адным класам, не бачылі ні такога, як Халуста, ні беднага, такога, як Сымон Ашакевіч, ні парабка, такога, як я...

— Ні такога, як я,— перабіў Андрэй.

— Правільна! Але чаго дабіліся народнікі, калі пайшлі ў народ? Тыя самыя сяляне, якіх яны ішлі вучыць і ратаваць, аддавалі іх у рукі паліцыі.

— Бо сялянства цёмнае, непісьменнае. Дай яму асвету, дай яму зямлю, і яно возьме ўладу ў свае рукі.

— Вядома, тады Халусты будуць не такія хамы, як цяпер, а пісьменныя, далікатныя і будуць здзіраць шкуру з Сымонаў Ашакевічаў, гаворачы з імі на «вы» і прыемна ўсміхаючыся.

Іван рагатаў.

— Тады Халустаў не будзе! — горача абараняўся Андрэй.

— Няўжо ты верыш, што калі раздзеліш зямлю, то ўсе сяляне будуць роўныя? Расслаенне пачнецца адразу ж, з'явяцца новыя Халусты і новыя Ашакевічы. Гэта ж закон пры капіталістычнай сістэме. Пакуль будзе існаваць прыватная ўласнасць на зямлю, на сродкі, на матэрыялы, так будзе абавязкова. Толькі пралетарыят, рабочыя людзі, якія не маюць ніякай уласнасці, здольны ліквідаваць уласнасць і сацыяльную няроўнасць, калі возьмуць уладу, стануць на чале дзяржавы. Ніякі іншы клас гэтага не зробіць.

— Ты сам казаў, што ў Францыі рэвалюцыі ўздымалі рабочыя, а ўладу захоплівала буржуазія. А каб сяляне ўзнялі рэвалюцыю...

— У Францыі і іншых заходніх дзяржавах рэвалюцыю ўздымалі не толькі рабочыя, але і дробная буржуазія, гарадская, вядома. Каб ты ведаў: сялянства таксама з'яўляецца буржуазіяй, і багацейшая яго частка была лютым ворагам рэвалюцыі. Ты чытаў «93 год» Гюго, павінен сам разабрацца і ўявіць Вандэю, дзе амаль усё сялянства было контррэвалюцыйнае.

— Па-твойму, і я буржуазія?

Якаў смяяўся.

— Зусім дробненькая.

Пасля гэтых гутарак у галаве ў Андрэя пакрысе пачало праясняцца. Нямала гэтаму спрыялі і кнігі, якія ён літаральна глытаў. Дзякуючы незвычайнай памяці, усё прачытанае аставалася ў яго галаве.

Іншы раз прыходзіў Сымон Ашакевіч. Ён заўсёды сядзеў моўчкі, схіліўшы галаву, курыў і слухаў. Толькі адзін раз на адыходзе сказаў:

— Добра вы гаворыце, мужчыны... Слухаць хораша, але...

Так і выйшаў, нічога не дадаўшы да свайго «але».

Якаў спачатку асцерагаўся яго, помніў сустрэчу на могілках, калі Сымон агароджваў доччыну магілу. Не спадабалася тады Якаву Сымонава набожнасць. Сказаў пра гэта Андрэю. Андрэй усміхнуўся.

— Гэты чалавек, Якаў, калі і ўчыніць якую крыўду, то толькі сам сабе. Набожнасць бывае розная, тут ужо я цябе павучу. Ёсць набожнасць Нічыпара Мартыневіча і ёсць набожнасць Сымона Ашакевіча. Нічыпар моліцца, каб бог яму памог гладзей нешта ўкрасці, ну, хоць, скажам, грыўню са скарбонкі ў той самай царкве, а Сымон просіць бога, каб кавалак хлеба на стале не звёўся. Ды не вельмі ён і набожны, от што я табе скажу. Калі ён у нядзелю агароджваў магілу дачкі, то якая ж тут набожнасць!

— Можа і так,— згадзіўся Якаў.— А калі я пачаў гаварыць яму пра бога і святых, то ён так спалохаўся, нібы чакаў, што на мяне, ды заадно і на яго, пасыплюцца з неба перуны.

— Спалохаўся... Такое яго жыццё, што кожнага баяцца трэба. От бачыш, ён да нас прыходзіць, цягне яго да нас, і ўсё роўна ён нас баіцца. Гаворкі нашай баіцца, а паслухаць яе хоча.

— Згодзен з табою. У засценку трохі інакш, чым у нашым сяле. Не ведаю, як засцянкоўцы да бога ставяцца. Бачу, што ў царкву ходзяць. Нашы чыжоўцы не такія багамольныя, хоць і царква пад бокам.

— А Селівей Печка?

Якаў зарагатаў.

Селівей Печка быў другі Гарасім Жукоўскі, мужыцкі яго вырыянт. Ён быў не так пісьменны, як Га-

расім, і не такі валачашчы, але ў Кіеўскую лаўру хадзіў і ён, хоць пасля гэтага і доўга пляваўся...

— Чаго ты смяешся?

— Выпадак адзін успомніў, што з Селівеем у царкве быў. Тады я яшчэ малы быў. Маліўся Селівей у царкве, стоячы на каленях, паклоны аж да падлогі адбіваў. А валасы ў яго даўжэзныя. Як паклоніцца, дык валасы і лягуць на падлогу. Наперадзе яго стаяў Марцін Крываблоцкі, тады яшчэ падлетак. Ведаеш жа ты, што за штучка гэты Іванаў дзядзька. Узяў ён ды знарок і наступіў абцасам на Селівеевы валасы. Паспрабаваў Селівей галаву падняць, дык дзе там, калі на валасах чалавек стаіць! Ён ціхенька кажа: «На валасы». А Марцін нібы і не чуе нічога. Тады Селівей ужо мацней: «На валасы!» Марцін і з месца не кратаецца. Бедны Селівей пачаў яго нагу рукамі пхаць, а Марцін толькі азірнуўся і не шманае. «На валасы, туды т-тваю маць!» — зароў тады Селівей на ўсю царкву. Што тут пачалося! Гармідар, рогат! Папом тады быў нейкі Дарашкевіч. Сабакаром яго звалі, бо вельмі сабак любіў. Бывала, перад калядамі збірае з парафіян трэбу, то абы сабаку ўбачыў на вуліцы — не вытрывае, каб не схапіць мёрзлы конскі камяк і не папусціць яго ў сабаку. Сабака брэша, а ён рагоча. Але сабакі яго не чапалі, таксама люлілі. Дык гэты Дарашкевіч пачаў выганяць Селівея з царквы, а Селівей да таго ўз'еўся, што абазваў яго сабакаром і паслаў да той мацеры. От які святы наш Селівей.

Андрэй смяяўся да слёз, а Іван пацвердзіў, што гэта сапраўды было, маці яго расказвала.

Звычайна пасля такіх вясёлых апавяданняў пачыналася сур'ёзная гаворка аб рэлігіі, і Якаў зразумеў, што тут Андрэя агітаваць не трэба.

Іншы раз Алена, прыйшоўшы з вячорак, заставала Якава. Гэтай дзяўчыне мала было Юзіка Грома і беднага Івана, які, яна ведала, закахаўся ў яе па вушы. Яна хацела, каб па ёй уздыхалі ўсе, нават Якаў. І асабліва Якаў.

— Ай-яй! — аднойчы, вярнуўшыся ад Лісаветы, здзівілася яна.— Няўжо вам траім так весела, што вы да поўначы нагаварыцца не можаце! Мабыць, і ў вас, Якаў, жалоба, што вы на вячоркі не ходзіце.

— А ў вас і жалоба, а вы ходзіце,— мякка папракнуў Якаў.

Алена пачырванела.

— Я на вячоркі не хаджу... Я да суседкі Лісаветы. І яна адна, і я, от нам удзвюх і весялей. А вы ж можаце хадзіць у гурт, на сапраўдныя вячоркі.

— Не, Алена, не магу.

— Чаму?

— Не вельмі я патрэбны на вячорках.

Алена зірнула на яго са здзіўленнем.

Недурная дзяўчына, яна падсвядома адчувала, што да гэтага Халуставага парабка — чыжэвіцкага мужыка — далёка не толькі Юзіку Грому, але і ўсім малінаўскім кавалерам, і яму сумна на малінаўскіх вячорках. Алене вельмі хацелася, каб Якаў зацікавіўся ёю. Першы зразумеў гэта Іван, і неспакушанае яго сэрца шчымела ад нязнанага болю. Паступова, калі яна знарок пачала прыходзіць ад Лісаветы раней, каб застаць Якава, зразумеў гэта і Андрэй. Ён абурыўся. «Павук,— думаў ён,— тчэ сваю павуціну, мяркуе, што кожны ў ёй заблытаецца. Глядзі, сястра! Многа на сябе бярэш, сама яшчэ заплачаш!»

Аднак нечакана Алена яго здзівіла. Аднойчы ў суботу вечарам, калі Іван пайшоў у Чыжэвічы, а Якаў у маёнтак, Андрэй быў дома адзін. Ён чытаў «Анну Карэніну». Калі прыйшла Алена, ён нават галавы не ўзняў ад кнігі, а Алену нешта зацікавіла. Яна падышла да стала і, нібы папраўляючы абрус, якім быў накрыты хлеб, нахілілася над кнігай.

— А-а! Анна Карэніна! — мімаволі вырвалася ў яе.

Андрэй імгненна ўзняў галаву.

— Ты што? Чытала?

— А хіба няможна? — з выклікам запытала яна, і чырвань заліла яе твар.

— Чаму няможна! Можна, але нашто чытаць хаваючыся! Калі ты чытала гэтую кнігу?

— Тады, калі ты ў гумне малаціў.

— Мо і да Талімонавай Лісаветы насіла?

Алена крутнулася і адышла ад стала.

— Не зліняла твая кніга. Ды і не твая яна, а Якава.

— Глядзі ты ў мяне,— без злосці, але з неймаверным здзіўленнем прамовіў Андрэй.

— Чаго там глядзець! Хіба мне нельга чытаць кнігі?

— Чаму гэта нельга! Але ж ты заўсёды смяялася з мяне і Івана, што кнігі чытаем. То я думаў...

— Не было чаго думаць.

— Дык ты... мо і іншыя кнігі чытала?

— А табе што? «Антона Гарамыкі» ды «Дзярэўні» не чытала, не бойся.

— І дарэмна. Варта было пачытаць.

— Што захачу, тое і пачытаю. Кнігі не твае, а Якававы і Іванавы.

Андрэй змоўчаў, бо сварка магла разгарэцца ўраз. Алена была гатова да яе. Варта было Андрэю сказаць адно грубае слова, і ён атрымаў бы назад па меншай меры сотню.

Пры першай сустрэчы з Якавам Андрэй расказаў яму пра сястру. Якаў спачатку ўсміхнуўся, потым задумаўся.

— Не ведаю, што прынясе Алене чытанне, дабро ці зло. Добра, каб дабро, і вельмі дрэнна, калі зло. Іншым людзям чытанне прыносіць не карысць, а шкоду... Вось я і думаю: пачне дзяўчына марыць пра тое, да чаго не зможа дапяць, пачне пра сябе многа думаць, вечна будзе жыць кніжным жыццём, жыццём раманаў, выдумкай. Каб яна чытала не толькі пра любоў, але і пра таго самага Антона Гарамыку, дык, бачыш, такія кнігі ёй не падабаюцца. Яна хоча салодзенькага... Аднак, Андрэй, мы з табой нічога ўжо не зробім. Чытаць яна пачала, няхай чытае. Толькі хавай ад яе тыя кнігі, якія я даю табе асабіста. Каб яна іх не знайшла.

— Не знойдзе. У хаце я іх не хаваю.

Потым Алена паказала Андрэю яшчэ большы фокус. Гэта было ў нядзелю. Андрэй накарміў у абед худобу і пайшоў у хату. Калі ён увайшоў у сені, то ўбачыў, што дзверы ў хату толькі прычыненыя, а ў хаце Алена з некім гаворыць. І гаворыць на чыстай рускай мове. І тое, што яна гаворыць, Андрэю было незразумела. Ад нечаканасці ён спыніўся і пачаў слухаць. Што гэта? З кім яна гаворыць? Хто такі з'явіўся сёння ў яго хаце? Ён паціху зірнуў у шчыліну між вушаком і дзвярыма і ўбачыў... што Алена ў хаце адна і што гаворыць яна... з люстэркам! Андрэй аслупянеў. Раптам яго разабраў смех: Алена любавалася ў люстэрку сама сабой. Яна сачыла, як выглядае яе твар, калі яна з кімнебудзь размаўляе. Яна дэкламавала цэлыя ўрыўкі

з «Дваранскага гнязда» Тургенева: на розныя лады паўтарала фразы, надаючы свайму прыгожаму тварыку розныя настроі, адлюстроўваючы розныя пачуцці. Яна была то злоснай, то сур'ёзнай, то пагардлівай, то ласкавай, то гнеўнай. І гэта ёй удавалася. Андрэй са здзіўленнем наглядаў за ёю. «Ты вялікая дурніца і вялікая прытворшчыца,— думаў ён пра сястру.— Колькі ў цябе самаўлюбёнасці...» Аднак ён не мог не захапляцца. Гэтакая памяць! Няўжо яна завучвала тыя ўрыўкі, якія цяпер дэкламавала?! Не, на гэта не было ёй часу, бо, каб яна не напрала столькі, колькі трэба напрасці за дзень, маці ёй не даравала б.

Некалькі разоў Андрэя памыкала ўварвацца ў хату нечакана для сястры, захапіць яе на месцы, але ён стрымліваў сябе. Гэта было б вельмі жорстка, і ведаў Андрэй, што яна гэтага яму ніколі не даруе. Не, не! Трэба неяк адступіць, каб яна не здагадалася нават, што ён бачыў, як яна выкручваецца каля люстэрка. Але нешта трымала яго каля дзвярэй. Вось яна гнеўная, и вось пакрыўджаная, потым вясёлая, пяшчотная... «І гэта ты любіш Юзіка Грома! Што ты ў ім убачыла, што цябе захапіла? Хіба гэты абух, паўдзікун варты цябе! Адумайся, сястра, прыгледзься да яго лепш, тады цяплей і ўтульней будзе ў нашай хаце...» Што за чорт! Шпарыць на памяць цэлыя старонкі.

Доўга наглядаў Андрэй за сястрой, тады пацiху адступіў да дзвярэй, што з сянец выводзілі ў двор, адчыніў іх, знарок моцна бразнуў і вылаяўся. Тады увайшоў у хату. Алена расчэсвала валасы і зірнула на Андрэя як нічога і не было. Такім жа позіркам адказаў і Андрэй. Ён сеў каля стала, дастаў з покуці кнігу, разгарнуў яе, але чытаць не мог. «Дык от, сястрыца, абодвух нас выхоўваюць мужыкі. Якаў Шэмет і Іван Аўсянік. Прывучылі чытаць кнігі і думаць. Што ты на гэта скажаш? Толькі не на дабро, не на карысць пайшло табе гэтае чытанне. Якаў што ў ваду глядзеў». Андрэй зірнуў на сястру. Яна сядзела непрыступная, калючая, як вожык з натапыранымі іголкамі, гатовая з першага слова рынуцца ў бойку. І Андрэй падумаў, што не ведае, што за чалавек яго сястра. Ці чакаў ён ад яе таго, што ўбачыў сёння? Ніколі. А цяпер зразумеў, што хаваецца ў ёй. Толькі нездаволенасць, злосць, можа нават нянавісць? А магчыма — ёсць у ёй і нешта

іншае, лепшае, добрае... Адно толькі ведаў Андрэй, што лепшага і добрага Алена ніколі не раскрые перад ім, пакуль жыве ў яго хаце.

## РАЗДЗЕЛ ЧАТЫРНАЦЦАТЫ

Тым часам жыццё ў маёнтку ішло поўным ходам: малоў млын, бровар гнаў спірытус, у гумне парабкі канчалі малацьбу, свінаркі адкормлівалі парсюкоў, даяркі даілі кароў, у сыраварні рабілі сыры. Зусім бы цяпер лёгка і весела жылося Гендарсану, каб не Эльза. Калі дачка паехала ў Пецярбург, аканом хадзіў як аглушаны. Ён нават трохі пацішэў, пачаў менш лаяцца. Позірк яго пасумнеў, і на сэрцы не было спакою. Яму было крыўдна, што дачка не захацела лічыцца з яго жаданнямі; акрамя таго, ён сумаваў без яе і баяўся, што яна загіне ў чужым, незнаёмым рускім горадзе. Інга таксама сумавала і баялася. Гендарсан не мог глядзець на яе вечна кіслы, заплаканы твар, так ён псаваў яму настрой. Дамоў не хацелася ісці. Дурная баба не думае, што дачка скасавала ўсе бацькавы планы, а Гендарсана гэта хвалявала больш за ўсё. Цяпер не магло быць і думкі пра слуцкага зубнога доктара, а яны ж амаль дамовіліся. Праўда, адзін на адзін і трохі п'яныя, але хіба гер Пфэрдсан забыў пра гэта! О не! Як жа цяпер глядзець яму ў вочы! Сорам, сорам!.. Калі гэта было, каб немцы не трымалі слова? А ён не стрымаў.

Гер Шварцкопф аказаўся добрым механікам. Машына ў млыне ідзе, як спраўны гадзіннік. Зусім бы добра было, каб Эльза стала жонкай гера Пфэрдсана. Тады і гер Шварцкопф даводзіўся б аканому нейкай раднёй. Хіба гэта дрэнна? І от усё пайшло прахам... Аднак Гендарсан быў не такі чалавек, каб розныя непрыемнасці доўга трымаць блізка ля сэрца. Ён ведаў, што жыццё ідзе наперад і спыніць яго нельга, таму трэба ісці за жыццём, а калі іншы раз і аглянуцца назад, то толькі для таго, каб не паўтараць памылак, якія зрабіў раней. Аканом не ўлічваў толькі аднаго: што старыя памылкі паўтараюцца вельмі рэдка. Звычайна чалавек, баючыся паўтарыць старую памылку, робіць новую, яшчэ глыбейшую.

Кожны вечар, абышоўшы ўсе службы ў маёнтку, Гендарсан ішоў дамоў у нейкай меры ўсцешаны, таму лагодны і спакойны. Тады ў яго з'яўлялася жаданне

развважаць, па-свойму філасофстваваць. «Заўсёды бывае так,— думаў ён,— чалавек сустракае ў жыцці і нягоды і радасці. Была паласа нягод: бульбяны бунт, прастой млына, але з намі бог! Усё гэта кончылася, прайшло і, калі дасць бог, ніколі больш не вернецца». Гендарсан лічыў, што яму шанцуе ў жыцці. Няшчасці яшчэ ніколі не збівалі яго з ног так, каб ён не мог падняцца зноў.

Заўсёды, падыходзячы да свайго флігеля, Гендарсан ведаў, што яго чакаюць цёплы, утульны пакой, смачная вячэра і мяккі ложак. Яго агортвала замілаванне. Ах, каб Інга была не такая дошка і трохі маладзейшая! Каб яна, нарэшце, менш плакала, бо яе слёзы атручвалі яму настрой. Аканом адчуваў, што яму патрэбна мякчэйшая і цяплейшая жанчына, чым гэтая плакса Інга. Ён ведаў, што яна сустрэне яго, як і іншыя разы, са скрыўленым мокрым тварам, чырвонымі мокрымі вочкамі. Няўжо яна не разумее, які непрыгожы становіцца яе твар пасля гэтых слёз!

У той вечар выйшла якраз наадварот. Як толькі Гендарсан увайшоў у кухню, жонка кінулася яму насустрач такая вясёлая і імклівая, якой не была ўжо не менш як дзесяць гадоў. Яна абхапіла мужа, абняла і пацалавала.

— Пауль! Мой дарагі Пауль! — задыхаючыся, лепятала яна.— Наша Эльза... Наша дарагая дачка... Яна, дарагі Пауль, прыслала нам пісьмо! Ах, Пауль... Яна, дарагі Пауль...

— Дзе яно? — коратка запытаў Гендарсан.

Інга кінулася да стала, потым да пісьмовага бюро, потым да шафы. А Гендарсан сядзеў, нецярпліва чакаў і думаў, што жонка яго і сапраўды крыху звар'яцела, калі не можа знайсці ліст, які нядаўна чытала.

Гендарсан надзеў акуляры, сеў каля стала і пачаў чытаць. І па меры таго, як ён чытаў, твар яго праясняўся, цяплеў і святлеў.

— Гут! — прамовіў ён нарэшце.— Гут, мая дарагая Інгеборг! Наша Эльза вучыцца ў Пецярбургу! Яна будзе выкладчыцай у гімназіі! І яна сабе знойдзе харошага мужа!

У гэтую хвіліну Гендарсан зразумеў, што нейкі там няшчасны зубны доктар са Слуцка, які наймае балагола, калі яму трэба некуды паехаць, не варты быць мужам яго дачкі.

— О, Пауль! — застагнала шчаслівая Інга.— Што гэта за школа, дзе вучыцца наша Эльза? Я не чула пра такія школы.

Гендарсан зноў разгарнуў ліст, знайшоў тое месца і задумаўся.

— Гэта называецца курсы, Інгеборг. Бястужаўскія курсы.

— Я не разумею, Пауль.

Гендарсан не мог прызнацца жонцы, што і ён не разумее. Трэба было трымаць сябе на вышыні, і ён сказаў:

— Гэта такая школа. Называецца курсы.

— Тут усё не так, як у нас дома, Пауль.

— Тут усё інакш,— пацвердзіў Гендарсан.

Так доўга размаўлялі яны і не маглі здаволіцца. На некаторы час Гендарсан забыў і пра вячэру. Але якая ні цікавая была гаворка, яна кончылася. Інга прынесла на стол вячэру і пузатую бутэльку са старкай. У апошні час Гендарсан не дазваляў сабе больш за кілішак, піў толькі дзеля апетыту і сну, але сёння ў яго быў не такі настрой, каб абмежавацца кілішкам. Аднак не паспеў ён сесці за стол, як загрукалі дзверы, і ў пакой, як і заўсёды без дазволу, ўваліўся Гарбаты Ясь. Гендарсана адразу скаланула, калі ён убачыў каля дзвярэй злавесную пачварную постаць Гарбатага. Гэты чалавек ніколі не прыходзіў да яго ■ добрымі весткамі, і аканом падумаў, што ў млыне зноў нейкае няшчасце.

— Э-э-э... Што там ест, э-э? — запытаў ён, ледзь не страціўшы мову.

— Нічога, пане,— панура адказаў Гарбаты.— Пагаварыць прыйшоў. Бо днём вас дома не застанеш і на вуліцы не зловіш, ды мне няма калі лавіць. Хіба на вуліцы ўсё скажаш!

— Ага! — узрадаваўся аканом, адчуўшы незвычайную лёгкасць. Ён выцер на лбе халодны пот і ад радасці запрасіў Гарбатага за стол. Той не прывык адмаўляцца. Інга хоць і не разумела мовы, але як убачыла Гарбатага за сталом, то прынесла другі кілішак і другі прыбор.

Выпілі і закусілі моўчкі. Тады Гарбаты пачаў гаворку.

— Я от чаго прыйшоў, пане. Я не прасіў, каб мяне паставілі ў млын. Мне і падвальным было няблага. А калі паставілі, то хіба я ад вас нешта хаваў ці ха-

ваю? Не даю вам даходу? Усё кладу ў сваю кішэню, а вас абыходжу?

— Я вас не разумейт,— прамовіў азадачаны аканом.

— Як гэта не разумееце? То нашто вы ставіце нада мной вашага механіка, каб ён цікаваў за мною, падглядаў, сачыў, не раўнуючы, як за злодзеем?

Гендарсан вылупіў вочы.

— Я яго не ставіль!

Гарбаты не паверыў.

— Калі ён пастаўлены глядзець за машынай, каб яна спраўна ішла, то няхай глядзіць. Я ж не лезу ў яго машыну, не папраўляю яму. То чаму ён увесь час тырчыць у млыне, а каля машыны нікога няма? Хіба яму там холадна? Нельга каля топкі пагрэцца? А ён увесь час не вылазіць з млына, сочыць, як я ва́жу, вучыць: «Тут не так, там не гэтак».

— Ён ест швіня! — закрычаў Гендарсан.— Я яму паказайт!

Твар аканома зрабіўся такі злосны, выгляд такі ваяўнічы, што Гарбаты паверыў: аканом не прыкідваецца.

— А я, пане, думаў, што вы знарок падаслалі яго, каб падпільноўваць мяне. То хіба гэта добра, пане? То я лепш з млына пайду, бо я вам не жадаю зла. Вунь цяпер Платон у мяне робіць тое, што я яму скажу: насыпае мяхі, носіць іх, на вагу кладзе...

— Я знайт Платон Шабунь.

— З такім і рабіць добра. Ён ведае сваё месца і не пхае носа куды не трэба. А гэты ваш механік з Рыгі, бо ён кожны дзень хваліцца, што ён з Рыгі, нібы тая Рыга недзе на небе, блізка каля бога, то з ім рады няма! Ён жа вечна ў млыне. Я не ведаю, хто там за яго пільнуе машыну? І як яна дагэтуль яшчэ не стала?

Аканом пабялеў.

— А мне што там тая Рыга! Ведаем мы не толькі Рыгу, а трохі больш.

— Я паб'ю яму ўвесь морда! — закрычаў Гендарсан.

— Морду можна і не біць! — прамовіў узрадаваны Гарбаты.— А ўшчунуць трэба.

— Што такое ест «ушчунуць»?

— Трохі палаяць, выгаварыць усё як след. І загадаць строга, каб пільнаваў не вальцаў, а машыну.

— Гэта ест добра.

«У, свіння гладкая! Морду ад'еў,— падумаў Гарбаты.— «Што такое есть «ушчунуць»?» Але пачакай трошкі, я табе зараз яшчэ не такое падсуну».

— Добра то добра, пане, але я вам яшчэ от што скажу,— гаварыў далей Гарбаты.— Скажыце, няхай гэты механік з Рыгі добра пільнуе машыну. Бо гэта не жарты, пане. Па-мойму, не сама яна псуецца, а яе нехта псуе.

— Як гэта ест псуе? — спалохаўся аканом.

— Нехта порціць знарок.

— Хто есть такі? Хто смейт такую штуку?

— Ціха, пане. Я вам не скажу пра гэта дакладна. Але, пане... Я, пане, не веру Станіславу Вярбіцкаму.

— Станіслаў Вярбіцкі ест лепш механік!

— То ж і бяда, што ён лепшы механік за гэтага механіка з Рыгі. Ён што захоча, тое і зробіць, а гэты дурань з Рыгі будзе глядзець на машыну, як авечка на гадзіннік, і нічога не разумець.

— Не можа так быць...

— Можа я і памыляюся, пане, але машыну пільнаваць трэба. І не верыць Станіславу Вярбіцкаму. І гэтаму Паўлу Квітуну нельга. І нікому, пане, нельга. Цяпер не такі час. Успомніце, пане, восень і цану на бульбу і як млын стаяў колькі часу. Таму скажыце партачу з Рыгі, каб пільнаваў машыну, каб не адыходзіў ад яе і не лез туды, дзе працуюць вальцы.

Гендарсан глыбока задумаўся.

— Гут,— прамовіў ён.— Добра. Я яму сказайт.

У тую ноч ён доўга не спаў, успамінаючы ўсе падрабязнасці таго часу, калі стаяў млын, як пагражаў яму Вярбіцкі, што пойдзе з маёнтка, як гаварыў пра Шэмета, аднак ні да чаго не дайшоў. Каб ён умеў думаць лагічна, то з усіх падзей зрабіў бы нейкі вывад. Але вывад не атрымаўся, толькі разабрала злосць на гера Шварцкопфа.

Вечарам Станіслаў Вярбіцкі чакаў Паўла Квітуна, Платона Шабуню і Міхаля Рожку. Павінен быў прыйсці і Якаў Шэмет. Яму паведамілі раней. Станіслаў быў у Слуцку, прывёз новыя матэрыялы; трэба было пагаварыць з таварышамі, сёе-тое абмеркаваць. Ядвігу ён цяпер не выпраўляў з хаты, яна была разам з імі, хоць голасу ніколі не падавала.

Здарылася так, што Якаў Шэмет прыйшоў першы.

— Рана табе ўдалося вырвацца сёння ад свайго жываглота,— прамовіў Станіслаў, вітаючыся.

— Папрасіў Юзіка, каб управіўся без мяне. «Да дзеўкі бяжыш у маёнтак?» — пытаецца.— «Да дзеўкі, Юзік».— «Ну, то ідзі». Стары д'ябал цяпер мала бывае дома. Усё ездзіць то ў Старочын, то ў Слуцак. Няма дома і сёння. Адчуваю, што Юрку Хмялеўскага чакае бяда.

— Захацеў гаспадаром быць, з маёнтка ўцёк,— задумліва прамовіў Станіслаў.— Гаспадаром! Якое страшнае слова!

Якаў маўчаў. Закурыў. Настрой яго быў вельмі дрэнны: не то што дрэнны — безнадзейны.

— Не ведаю, Стась, як даслужу свой тэрмін у гэтага гада... не толькі таму, што цяжка рабіць, але я зненавідзеў яго. Глядзець не магу.

— Патрымайся трохі, Якаў. Выцягнем мы цябе адтуль, калі не здарыцца горшае.

— Вайна?

— Вайна, Якаў.

— Яе не мінеш... А я, Стась, не ведаю, калі цяпер буду ў вас. Пачалі вазіць сена, а дарога такая, што дамоў прыязджаеш як нежывы.

— Ведаю, Якаў. Ты раскажы пра сваю Малінаўку. Ці ёсць там людзі, з якімі можна хоць пагаварыць?

Якаў ажывіўся.

Ядвіга сядзела каля печы, пляла Стасю цёплыя пальчаткі і раз-пораз пaглядала на Якава.

«Прыгажун, бяда жаночая, што з табой стала? Схуднеў, змізарнеў, толькі вочы блішчаць...» Успомніла, нашто грэх таіць, падабаўся і ёй Якаў... Тады яна малодшая была, а Якаў зусім маладзенькі. Калі ён запрашаў яе на танец, яна чырванела, як дзяўчынка... Не, яна любіла свайго Стася, заўсёды любіла, а от Якаў ёй падабаўся... Бывае так ці не? Ох, бывае, ды яшчэ як бывае... Яна цяпер глядзела ў яго глыбокія вочы, на яго шырокі лоб, перакрэслены маршчынамі, як у старога, і думала: «Ой, хлопчык... Сохнеш ты не толькі ад працы ў Халусты і ад яго благога харчу... Далібог, ты дзяўчыну маеш, і яна цябе сушыць».

— Ёсць, Стась, ёсць адзін цікавы шляхціц. Я ў яго іншы раз бываю, гаворым падоўгу. Каб у мяне было больш часу, то к вясне быў бы ён у нашай групе.

— Цікава. У яго ёсць нейкія погляды?

— Ніякіх. Ёсць нешта ад анархізму і ад эсэрства. З ім трэба многа працаваць. Ён шмат чытае цяпер. Але гэта не мая заслуга. Чытаць яго прывучыў парабак Іван Аўсянік з Чыжэвіч.

— Ты гаворыш пра Андрэя Сташэвіча?

— Пра яго.

— Ты часцей з ім сустракайся. Трэба, каб ён быў з намі.

— Я спачатку не разгледзеў яго як след. Здавалася, што ў яго вельмі многа шляхецкага гонару. Ён вельмі калючы, не ведаеш, як да яго падысці. Але я пачаў даваць яму забароненую літаратуру.

— Ці не паспяшыў ты, Якаў?

— Не, Стась, спазніўся. Трэба было раней звязацца з ім.

— Добра, Якаў. Перш за ўсё не пакідай яго без увагі. У нас мала людзей, і, хто ведае, калі пачнецца вайна, хто з нас астанецца на месцы?

Тым часам пачалі збірацца хлопцы. Гаварылі пра жыццё ў маёнтку. Якаў курыў цыгарку за цыгаркай і думаў. Думаў, што з таго часу, як наняўся парабкам да Халусты, то і не жыў. Работа бясконцая, жыццё тупое, толькі што іншы раз вечарам да шляхецкіх дзяўчат сходзіш. Успаміналіся тыя дні і вечары, калі тут у маёнтку быў, у сваіх хлопцаў. Ён мог прызнацца самому сабе, што зайздросціў ім. Яны жылі і змагаліся, як маглі і ўмелі, а ён тырчаў у Малінаўцы, забытай богам і людзьмі, як пахаваны жывым. І недагледзеў, не зразумеў, што і ў Малінаўцы ёсць людзі, якія маглі б стаць яго аднадумцамі. Дык што ж! Хіба цяпер пакаяцца перад таварышамі? Якая ад гэтага карысць! Цяпер трэба не спаць у шапку ды закасаўшы рукавы рабіць.

Ад Волькі з самай восені не атрымаў ніякай весткі. Чаму яна не адгукнецца? Страшная думка ўспыхнула ў галаве: мо арыштавалі? Не, ён бы пра гэта ведаў, паведамілі б таварышы... Зноў яго ўзяла зайздрасць. Не толькі ў горадзе — тут, у маёнтку, сябры змагаюцца, а ён, Халустаў парабак, толькі іншы раз лаецца са сваім страшным гаспадаром. «Дзе ты, Волька? Чаму не падасі голасу, мая настаўніца?»

«Што гэта са мной? — падумаў ён, калі безнадзейнасць і сум пачалі адступаць назад, даючы месца но-

вым думкам.— Не, так нічога не будзе, Якаў Шэмет! Страсяніся трохі!»

Нарэшце прыйшоў Павел Квітун, які па нейкай прычыне спазніўся. Якаў толькі тады падняў галаву, калі павітаўся з ім.

— Аб чым ты задумаўся, Якаў? — запытаў Станіслаў.— Я ўвесь час на цябе гляджу. Ці не захварэў?

— Не, Стась. Проста, як ты кажаш, задумаўся. Успомніў сёе-тое...

— Разумею. Не бядуй, таварыш! Не бядуй! Мы з табой яшчэ пагаворым. А ты, Павел, што сёння надта вясёлы? — звярнуўся ён да Квітуна.

— Усё ты прыкмячаеш.

Платон Шабуня прамовіў не вельмі ласкава:

— Яму ёсць чаго весяліцца.

— «Не искушай меня без нужды...»

— Ты ўжо і гаворыш так, як у Эльзіных кнігах напісана.

— Гэта кнігі ўжо не Эльзіны,— строга прамовіў Станіслаў.— Гэта кнігі нашы. Забудзь пра гэта і нідзе не кажы, што ты чытаеш Эльзіны кнігі.

Платон змоўк.

— Ну дык раскажы, Павел, што цябе развесяліла?

— Ды не развесяліла. Ліст атрымаў з Пецярбурга ад Эльзы.

— Малайчына Эльза! — задумліва прамовіў Станіслаў.— Што яна табе піша, калі не сакрэт?

— Які там сакрэт? — Павел выняў з кішэні ліст.— На, пачытай уголас.

Эльза пісала, што жыве ў Пецярбургу. Ёй удалося паступіць на Бястужаўскія вышэйшыя жаночыя курсы на славесна-гістарычнае аддзяленне. Што яна, калі кончыць курсы, то зможа быць выкладчыцай у жаночых гімназіях. Што жыве яна на Васільеўскім востраве, займае каморку з адной сяброўкай. Што яна ўжо знайшла некалькі прыватных урокаў у багатых сем'ях і цяпер жыве на сваім хлебе. Што сяброўка, акрамя прыватных урокаў, выкладае вечарамі ў адным рабочым гуртку і што Эльза па рэкамендацыі сяброўкі таксама стане такой выкладчыцай.

— Ну, хлопцы, малайчына, аднак, гэтая Эльза і сяброўка яе! — з захапленнем прамовіў Якаў і ўспомніў Вольку, такую ж самую выкладчыцу рабочай вячэрняй школы.

— Добры ліст, Платон! — звярнуўся Станіслаў да Шабуні.— А ты быў нездаволены.

— Чытай далей,— непрыветна адказаў Платон.

— А далей можна і не чытаць...— прамовіў Павел.

Платон зірнуў на яго з пагардай.

— Чаму ж не чытаць? — запытаў Станіслаў.— Ты ж сам загадаў чытаць уголас!

— Ды чытай! Толькі гэты!..— Павел кіўнуў на Платона.— Але што ён разумее.

Далей Эльза пісала, што ніколі не забудзе таго вечара ў асеннім садзе і таго вечара, калі яна аддавала Паўлу кнігі. У канцы яна пытала, ці чытаюць тыя кнігі, і перадавала прывітанне ўсім Паўлавым сябрам.

— Цудоўны ліст! — прамовіў Станіслаў.

— Вядома! Калі яна не забудзе тых вечароў...— пачаў Платон.

— Ну як забыць!— перабіў яго Станіслаў.— Яны ж цалаваліся ў тым асеннім садзе...

Усе зарагаталі.

— Ну, даволі, таварышы,— нарэшце прамовіў Станіслаў.— У нас яшчэ шмат гаворкі. А ты, Павел, адпішы Эльзе, перадай прывітанне ад усіх нас.

— І яе сяброўцы,— дадаў Якаў.

— Так, і яе сяброўцы,— пацвердзіў Станіслаў.— А цяпер бліжэй да справы. Я атрымаў дадатковыя матэрыялы другога з'езда РСДРП аб рабочым і сялянскім руху ў апошні час, аб задачах арганізацыі РСДРП. Я павінен звярнуць вашу ўвагу на тое, што цяпер ідзе вельмі сур'ёзная барацьба між бальшавікамі і меншавікамі за ўплыў на рабочых і сялян. Наша група адразу стала на шлях Леніна, а не на шлях Мартава, але мы вельмі мала чаго зрабілі. Трэба канкрэтна вырашыць, што мы павінны зрабіць, абмеркаваць нашы задачы на бліжэйшы час.

Абмеркаванне цягнулася доўга. Усім было зразумела, што іх маленькая група і не магла зрабіць многа, аднак сярод сялян можна было весці агітацыйную работу, а яна, па сутнасці, не вялася. Група не вырасла, і ў гэтым вінаваты ўсе. Асцярожнасць у падборы людзей мяжуецца са страхам. Асцярожнасць, вядома, добра, а страх вельмі дрэнна. Сярод жанчын ніхто не працуе, а іх у маёнтку многа.

Калі дайшло да работы сярод жанчын, слова ўзяў Якаў.

— А Ядвіга як? Яна не член нашай групы?

— Афіцыйна не член.

— Як гэта афіцыйна? Яна прысутнічае на нашых нарадах, то чаму яна не член нашай групы? Як ты сама думаеш, Ядзя?

— А я — куды вы... Хіба я астануся без Стася, без усіх вас. Вы мо думаеце, што я не гавару з жанчынамі? Я ж кожны дзень то ў свінушніку, то ў кароўніку, то ў сыраварні...— яна пачырванела.— А вечарамі ў бараках бываю...

— А мне нічога не кажаш...— збянтэжана прамовіў Стась, які гатовы быў абняць жонку.

— Бо ты не пытаеш. Калі ўвосень ты сказаў...

— Усё,— прамовіў Якаў, які зразумеў, што трэба ўмяшацца.— Ядвізе мы аддаём работу з жанчынамі.

Потым вырашана было прыцягваць у групу новых членаў, і кожны атрымаў асабістае заданне. Якаву даручылі работу ў Малінаўцы, Паўлу — у Чыжэвічах.

Потым Станіслаў і Якаў выбралі кнігі для Андрэя Сташэвіча.

На адыходзе Станіслаў аддаў Якаву невялікі пакет з сіняй паперы, і Якаў пазнаў почырк Волькі. Сэрца яго затрапяталася.

— Чаму ты не аддаў мне яго адразу?

— Каб ты ў час нашай гаворкі не думаў пра Вольгу.

Якаў забраў кнігі і пайшоў. Час быў далёка за поўнач. Чорнае зімовае неба зіхацела тысячамі зорак. Пад нагамі свістала і спявала ўбітая гладкая дарога. Убілі яе і згладзілі мужыкі, возячы ў маёнтак бульбу. Якава цяпер не палохала нішто, нават тое, што доўга прыйдзецца стаяць каля дзвярэй Халуставага дома і стукаць, пакуль адчыніць Юзік Гром, бо глухая служанка не пачуе, а крывая Настуля нават тады б не адчыніла, калі б ён паміраў каля яе парога. І ён падумаў, што кожнаму чалавеку трэба хоць кропелька асабістага шчасця.

## РАЗДЗЕЛ ПЯТНАЦЦАТЫ

Зіма была і сапраўды вузлаватая, з маразамі і страшэннымі завеямі. Завірухі бушавалі па некалькі дзён. Уся малінаўская вуліца была засыпана снегавымі гурбамі. Кожную раніцу расчышчалі двары, каб дабрацца

да хлявоў. Было, што малінавец, устаўшы рана, адчыняў дзверы, а на двор вылезці не мог, бо снег ляжаў вышэй страхі. Асабліва не шанцавала Мартыневічаваму двару. Да яго варот намятала столькі снегу, што ён нарэшце не здолеў ваяваць з ім і пачаў ездзіць у двор не праз вароты, а поверх. Гарасімаву хату ледзь не зусім засыпала, толькі тырчала страха з комінам.

Вазілі з Волі сена, і гэта было не так лёгка, як у мінулыя гады. Кожны дзень трэба было нанова праціраць дарогу. Па сена выязджалі задоўга да світання і вярталіся позна вечарам. У дарозе часта куляліся вазы, ламаліся аглоблі, трашчалі дугі, прыставалі коні. Ехаць з вазамі па адным ніхто не адважваўся, бо пры няшчасным выпадку можна было прабыць у дарозе цэлую ноч. Хіба адзін падымеш воз, калі ён перакуліўся? А калі, барані бог, ён яшчэ і раз'ехаўся і яго трэба перакладаць? Або калі зломіцца дуга ці аглобля? Акалееш за ноч разам з канём, а завіруха навее над табой курган. Андрэй ведаў такую бяду і заўсёды браў з сабой запасную дугу і аглоблю.

Завея пераняла вазакоў на паўдарозе. Дарога была цяжкая, снег пад палазамі рассыпаўся, як пясок. Пачало змяркацца, і ўзняўся вецер. Мужчыны падганялі знясіленых коней. «Ну, будзе бяды,— думаў Андрэй, ідучы за сваім возам.— Да дому яшчэ ехаць ды ехаць...» Вецер усё мацнеў, нарэшце расхадзілася шалёная завіруха. Стала не відно белага свету, выў і скавытаў вятрыска, імкліва кружыўся снег, які ўзрывала з зямлі нейкая шалёная сіла.

Завіруха застала ў дарозе адзінаццаць падвод. Сярод іх былі і Халуставы. На дзвюх ехалі Юзік з Якавам ды Нарбутовіч з Мартыневічам вязлі Халусту за малацьбу два вазы сена. Праклінаў Лявон Нарбутовіч і малацьбу, і малатарню, і сваю дурноту. Нічыпар Мартыневіч толькі маліўся і плакаў. Падумаць толькі: свайго сена на Волі многа, а ты вазі Халустава. Каб людская зіма была, то ліха яго бяры, хапіла б часу і сваё перавезці і гэтаму гаду памагчы, а тут такая бяда. Было, што за тыдзень і тры разы на Волю не з'ездзіш. Ускруціцца такая завея, што з хаты носа не выткнеш. А ў хаце якая работа! Хіба толькі што худобу дагледзець або лапці сплесці. Нават у лес, у свае Маргі не праб'ешся, каб лішнюю галіну з хвоі адсекчы ці якую крывуліну або сухастоіну зваліць...

Калі ўзнялася мяцеліца, Нічыпар усхліпнуў. «Божа мой, божа,— шантаў ён пасінелымі ад холаду губамі.— Што гэта будзе... Каб не Лявон, то я ніколі б не ўлез у такую бяду... Ратуй нас, святы божа, бо загінем мы тут...» Вецер круціў снег з такой сілай, што ўвесь свет быў белы, як малако, за тры крокі нічога не відно; вазы, якія былі поруч, віднеліся як праз туман.

Юзік Гром ехаў пярэдні. Ён пацягнуў пугай сваю гладкую кабылу, яна рванулася і пайшла поўнай хадой, за ёй пасунуўся Нарбутовічаў конь. Мартыневіч не хацеў адставаць. Ён падганяў сваю Чорную, дужую, але лянную кабылу, тузаў лейцамі, цмокаў, крычаў, але яна не слухалася.

Андрэй з Іванам ніколі не стараліся ехаць наперадзе. Не такія ў іх былі коні, каб церці дарогу заднім. Але і ззаду аставацца Андрэй не хацеў. Лепш за ўсё ехаць у гурце, бо калі здарыцца якое няшчасце, то хоць пярэднія і паедуць не агляну ўшыся, затое задиія памогуць. Так ехалі яны і той раз услед за Якавам Шэметам. Ззаду за падводамі Андрэя ехаў Сымон Ашакевіч на сваёй Пярэстай, потым Ян і Тамашом, а за імі Талімон з сынам Адамам. Коні ішлі паціху, і мужчыны ззаду пільнаваліся вазоў. У выпадку чаго можна ўтрымаць рубель, каб воз не перакуліўся, або падапхнуць ззаду, калі на гору прыстане конь.

Сымон Ашакевіч забег наперад свайго воза, каб ісці поруч з Андрэем. Пярэстая пачула наперадзе свайго гаспадара і пацягнулася да яго мызай.

— Нічога, мо неяк дацягнемся,— сказаў ён, як разумнай істоце.

— Дацягнемся, вядома,— адказаў Андрэй, падумаўшы, што Сымон гэта кажа яму.

— От бачыш,— сказаў Сымон,— што значыць, калі добрыя коні. Гром і Лявон ужо недзе каля засценка, а мы на сваіх бог ведае калі дапаўзём. Як жа гэта Нічыпар ды Якаў ззаду асталіся?

— Нічыпар не астаўся б, ды кабыла стамілася. А Якаў-то, мабыць, і сам не паехаў бы за імі. Я чуў, як ён на Мартыневіча крычаў.

— Ты думаеш, што яны не кінулі б цябе або мяне аднаго ў такую завіруху? — сказаў Сымон.

— Нават не азірнуліся б, зладзеі. Але я на іх плюнуць хачу. Вазы я кладу, мяркуючы па дарозе: добрая дарога — большы воз, а такая, як сёння,— меншы.

І мае коні цягнуць. Ды і твая Пярэстая не прыстане.

— Мая кабыла цягавітая... Але ж і завея, каб на яе халера... Толькі кабыла ў мяне аўса мала бачыць, ды і канюшыны я не так многа маю. А што ўжо цягне, то кожны дзень. Няма ёй адпачынку, як Халуставым коням... Жарабё трэба, Пярэстая ўжо немаладая. Дык дзве загваздкі замінаюць... Ну, заўтра нідзе ні следу не будзе...

— Заўтра, калі і завіруха сунімецца, то ўсё роўна трэба даць адпачыць коням. А якія ў цябе загваздкі?

— Чым я буду карміць парку коней? Пакуль жарабё канём стане, яго карміць трэба. Ну, нешта нейкае са светам зрабілася, такой мяцеліцы яшчэ не было...— ён зняў рукавіцу і абцёр снег, што набіўся ў бараду і вусы.— А перад жарабеннем кабыле трэба адпачыць даць, а хіба я магу даць ёй адпачываць, калі не я кармлю яе, а яна мяне...

Раптам вазы спыніліся. Мужчыны зайшлі наперад і ўбачылі, што дагналі пярэдніх. Громава кабыла стаяла распрэжаная, ён трымаў яе за повад і кляў на чым свет стаіць. Ён размахнуўся і выцяў кабылу па пысе. Яна рванулася, і, каб быў слабейшы, не ўтрымаў бы яе Юзік Гром...

— Што ты робіш, вар'ят! — крыкнуў на яго Якаў.— Кабылу знявечыш, абэлтух. Самога біць трэба, сукін ты сын!

— Што ў іх здарылася, Якаў? — запытаў Андрэй.

— Хіба ты не бачыш? Дуга паляцела к чорту.

— Зламалася?

— Папалам... Ты маеш, Андрэй, дугу?

— Маю, але не дам.

— Братачка Андрэй! — залямантаваў Лявон.— Выручы! Да засценка не так далёка...

— Не дам. Вы кінулі нас, шэльмы. Дык от цяпер бяжы ў засценак па дугу, ён жа, ты кажаш, блізка! Або сядзь верхам на кабылу.

— Братачка Андрэй! Што хочаш бяры, але дай дугу!

— І не падумаю. Глядзець на цябе моташна, гад.

Юзік Гром стаяў унурыўшыся і маўчаў. Які дурны ён ні быў, але разумеў, што яму лепш памаўчаць, бо

калі ён скажа хоць слова, нават самае найлепшае, то Андрэй будзе няўмольны.

— Андрэй!.. Братачка!.. Ды мы ж тут загінем па такой дарозе.

— Гіньце! Такім зладзеям туды і дарога.

— Андрэй,— сказаў Сымон.— Дык яны ж і нам дарогу загарадзілі.

— А што ў нас — сілы не хопіць? Перакулім іх вазы набок і праедзем!

Мужчыны маўчалі. Яны-то ведалі Андрэя Сташэвіча. Яго не ўпросіць ніхто... Калі ён вырашыў не даць Грому дугу, то не дасць. А навокал круцілася бурная завейная ноч, і здавалася, што гэтыя падводы зусім закінуты на край свету і няма дарогі ні наперад, ні назад.

— Слухай, Андрэй,— сказаў Якаў, крануўшы Андрэя за плячо.— Я таксама павінен астацца тут з гэтай svалатой. Як ні кажы, а мы з Громам з аднаго двара. Не магу ж я кінуць яго тут, а калі і кіну, то мне прыйдзецца несці сюды дугу.

Андрэй памаўчаў.

— Іван! Дастань з воза дугу і дай Якаву,— нарэшце загадаў ён.— Іван прынёс дугу.

— Бяры, Якаў,— сказаў Андрэй.— Я лічу, што гэта ў цябе зламалася дуга, а не ў Грома.

— Дзякуй, Андрэй. А ты і даеш яе мне, а не Грому. Заўтра прынясу.

Лісавета к вечару ўправілася з усёй работай. Падмяла хату, запаліла ў печы і паставіла варыцца на вячэру чыгун бульбы. Прыедуць з Волі мужчыны, то гарачай з'ядуць. Сама села проці чалеснікаў з праснiцай. Добра! І светла, і цёпла, лямпу паліць не трэба. Удзень мала выпадае прасці: няма часу — то латанне, то бялізна, то работа па гаспадарцы.

Алесь прыйшоў з гумна, каля парога атросся, абмёў з лапцей снег.

— Ну, я усё зрабіў. Даў каровам і авечкам, нават коням у жалабы палажыў. А на ноч няхай тата з Адамам даюць.

— Малайчына ты ў мяне, Алесік.

Алесь чмыхнуў. «Алесік»! Як на малога якога... Адам вунь ужо і косіць, і малоціць, і на Волю ездзіць,

і вазы ўмее класці, а на колькі ён старэйшы? На якія тры гады. Але спрачацца з сястрой не стаў. Зірнуў пад лаву на пустыя кашы.

— Малайчына! От ты малайчына! Чаму бульбы не прынесла?

— Заўтра раніцай, Алесік.

— Заўтра раніцай! Ты заўтра раніцай без рыдлёўкі ў пограб не ўлезеш.

Забраў кашы і пайшоў з хаты.

— Можа памагчы табе? — гукнула ўслед Лісавета.

— Без цябе абыдуся.

Алесь прывалок два вялізныя кашы бульбы, засопся, пачаў дзьмухаць на расчырванелыя рукі.

— Пагрэй над агнём, Алесік.

— Разумная! Яшчэ зойдуцца! Лепш так.

Ён памахаў рукамі, як дарослы мужчына.

— Давай яшчэ вады прынясу.

Схадзіў па ваду, тады распрануўся і сеў ля стала.

— Ці скора твая бульба зварыцца? Вымерхаўся, як сабака.

— Ужо кіпіць.

Алесь павячэраў, узабраўся на цёплую чарэнь і скора заснуў. Лісавета ўправілася каля печы, зачыніла засланку і села прасці. Сёння яна не чакала Алены, а так хацелася, каб яна прыйшла. На душы было неспакойна, трывожна калацілася сэрца. На дварэ шалёным голасам скавытаў вецер, шалясцеў саломай на страсе. Здавалася, нехта чужы ходзіць каля хаты, заглядае ў вокны, стукае ў сенцы і ў дзверы, нясе бяду... Нейкі жах апанаваў Лісавету, страшна было зірнуць у акно: так і здавалася, што адтуль выглядае рагаты і чорны, той, што не дае людзям спакою... Скарэй бы прыехалі мужчыны або хоць Алесь не спаў бы. Дык яму і гора мала на цёплай печы. Ні клопатаў, ні бяды. А Лісавеціны шчаслівыя дзянькі прайшлі. Пахавала іх Лісавета ў адной магіле з мамай.

Калі ў сенцах бразнулі дзверы, Лісавета здрыганулася, але зараз жа ўсе яе страхі паляцелі прэч. «Прыехалі мужчыны!» — падумала яна і, ускочыўшы з месца, ледзь не кінулася насустрач. Але гэта былі не хатнія мужчыны. Каля парога стаяў Мікалай Халуста і ўхмыляўся. Лісавета ледзь не самлела, убачыўшы яго.

— Я так і ведаў, што ты адна,— сказаў Мікалай, быстрым позіркам акінуўшы хату.

— Ціха ты...— пабялелымі вуснамі прашаптала Лісавета.— Алесь жа дома...

— А дзе ён, той падшывалец? Няўжо не спіць?

— На печы...

— То спіць. А калі не спіць, то я яму цукерак дам, каб маўчаў.

— Ох, Мікалай... мабыць, ён ужо спіць.

— То на табе.

— Не трэба мне, Мікалай... Чаго ты прыйшоў, скажы... Ты ж удзень быў. Што пра мяне людзі скажуць...

— Дурная ты. Я ўмею так хадзіць, што ніхто мяне не ўбачыць ні днём, ні ноччу.

— А калі тата прыедзе ды застане... Ой, божачка мой, што тады будзе.

— Мяне нехта застане! От дурная!

Ён абхапіў дзяўчыну, прыціснуў да сябе і пачаў цалаваць. Яна спачатку вырывалася, потым нібы абвяла і не супраціўлялася.

— Ну што, дурненькая, нічога з табой не зрабілася.

— Ой, Мікалай... Прапала мая бедная галоўка... Ідзі дадому, Мікалай. Богам цябе прашу...

— Чаму ты мяне гоніш? Я з табой першы раз адно на адно сустрэўся. Хіба днём магу я цябе пацалаваць, калі тут Алена тырчыць, як скула пад носам. Нашто ты яе завеш.

Лісавета схіліла галаву. Сэрца яе трапяталася так, што гатова было выскачыць з грудзей.

— А вечарам тут Тамаш Сташэвіч раскашуецца. Думаеш, я не ведаю. Паламлю я яму, чорту, ногі.

— Ох, Мікалай... Тамаш табе нічога не зрабіў...

— Няхай не стаіць на маёй дарозе.

Ён падкруціў рыжаватыя вусы, падняў Лісавету і пасадзіў на лаву.

— Я цябе замуж вазьму, дурная ты, а яму чаго трэба?

— І ён возьме...

— Ага! Дык мо ты і хочаш за яго пайсці, а не за мяне?

Мікалай надзьмуўся і зрабіў выгляд, што гневаецца.

— Ён мне нічога не гаварыў пра гэта...

— От бачыш... Бо ён і не думае цябе замуж браць. А я гавару! Бо я пра гэта думаю! А хто з нас лепшы,

ён ці я? Ці можна яму са мной раўнавацца? Я — каваль, у мяне, як ні круці, то паўвалока зямлі, а ў яго толькі чвэрць, бо іх на паўвалоку двое ў бацькі. Ды і так — і па сіле, і па ўсім...— Мікалай зноў падкруціў вусы.— Хіба ён спраўнейшы за мяне?

Лісавета ўздыхнула.

— Не ўздыхай. На лепш цукеркі еш.

— Не, Мікалай...

— Ну дык я іх на сметнік выкіну.

— Лепш я іх у куфар схаваю...

— І то праўда, таму падшывальцу, што на печы, калі-небудзь дасі, каб лепш слухаў і не замінаў.

Ён выняў з кішэні жменю цукерак у паперках. Лісавета занесла тую жменю ў куфар. Сама яшчэ дзіця, яна радавалася, як маці, што ў яе будзе чым парадаваць меншых.

А Мікалай расшпіліў світку, дастаў з верхняй кішэні камізэлькі гадзіннік, што быў прывязаны да жоўтага бліскучага ланцужка, адчыніў яго і доўга глядзеў на стрэлкі.

— Ого! Як яшчэ рана!

Ён прыклаў гадзіннік да Лісавецінага вуха і сказаў:

— Паслухай, які добры ход! Гэта Павел Бурэ. Такі гадзіннік дорага каштуе, затое прыслухайся, які звонкі ход!

Бедная Лісавета! Так ужо яна разумелася ў гэтых гадзінніках!

— Я, калі пажэнімся, і табе куплю дамскі гадзіннік. Маленькі такі. Добра, Лісавета?

— Нашто мне гадзіннік... Свінням даваць ды кароў даіць...

— Дурная ты. У нас служанка будзе.

— Ай, Мікалай... Маўчаў бы ты лепш...

— Значыць, ты мне не верыш?

— А ты мяне паняй зрабіць хочаш? — засмяялася Лісавета.

— І зраблю! Думаеш, не?

Гэты шэльма так загаварыў бедную дзяўчыну, што яна забыла ўсё на свеце: пра Алеся на печы, які мог прачнуцца, пра мужчын у дарозе, якія маглі нечакана прыехаць і застаць у хаце Мікалая, пра нядобрую славу, якая можа прайсці па засценку пра яе — маладую дзяўчыну. Але сам Мікалай нічога гэтага не забываў

і быў напагатове. І, мабыць, толькі яму аднаму ўласцівае зладзейскае пачуццё падказала, што вазакі з сенам ужо ўехалі ў засценак. Ён пацалаваў Лісавету на развітанне і выскачыў з хаты.

## РАЗДЗЕЛ ШАСНАЦЦАТЫ

Андрэя разбудзіў сонечны прамень. Скупы і халодны, ён прасачыўся ў хату праз замёрзлую шыбіну і невялічкай плямкай лёг на твар. Андрэй расплюшчыў вочы. «Завіруха такі ўтаймавалася»,— падумаў ён, і спакой агарнуў яго душу. Ён пацягнуўся, як у маленстве, і ледзь не войкнуў ад болю. Усё цела было як разламанае: нылі рукі, ногі, плечы, паясніца. «Хапіла нам учора па вушы...» Здавалася, што так і ляжаў бы да вечара, не кратаючыся з месца.

Печ ужо была выпалена; у хаце пахла смажаным салам і яшчэ нечым смачным. Маці стаяла ў мыцельніку, поркалася каля шафкі з посудам, а Алены не было.

Пара ўставаць! Трэба даць коням, навесці парадак у гумне. Добра, што ўчора скінулі з вазоў сена; цяжка было б сёння брацца за гэтую работу.

Іван спаў на печы расхлістаны: мабыць, дацяла гарачыня; голыя яго ногі з бруднымі пятамі тырчалі з чарэні; печ такому доўгаму хлопцу была караткаватая. «Няма дзе чалавеку спаць,— падумаў Андрэй.— Хоць бяры ды яшчэ адзін ложак стаў у хаце... А куды яго прыткнуць!..»

Ён пачаў адзявацца.

— Ляжаў бы яшчэ,— сказала маці.

— Коні стаяць галодныя.

— Ядзяць коні. Канюшыны я ім дала.

— Ну, мама!.. Хіба я не мог сам!

І, расчулены, ён успомніў, як у маленстве, калі быў яшчэ толькі пастушком, маці вось таксама берагла яго сон: сама да ўсходу сонца выганяла на поплаў скаціну. І, як у маленстве, яго агарнула цеплыня і сыноўняя любоў, і з'явілася жаданне прытуліцца да старэнькай мамы, адчуць пяшчоту яе сухіх натруджаных рук... Але ён толькі сказаў:

— Я і сам даў бы коням...

— А я ім патрошку ўкінула, каб не стаялі над пустым жолабам.

— Нечым смачным сёння пахне з печы, мама!

— Аладкі бульбяныя са скваркамі... А на дзень перапечкі з сушанымі яблыкамі, грушамі і з макам.

— Ого!

— Гэта Алена падахвоцілася.

«От і ўся наша ласкавасць,— падумаў Андрэй.— Перапечкамі кончылася... з макам...» Ён зірнуў на маці і раптам зразумеў, што яна ведае яго пачуцці, што ёй самой хочацца прыгарнуць да грудзей яго непаслухмяную галаву.

— Нічога, мама! Будзем неяк жыць!..

І не знайшлося ў яго іншых слоў... Цяплейшых, шчырэйшых, раднейшых, лепшых...

На двары свяціла халоднае зімовае сонца, якое толькі ўзнялося над далягляда́м. Мароз трымаўся моцны. Усё навокал, як скінуць вачыма, было ўкрыта некранутым снегам, па якім яшчэ не ступала нага чалавека і ні адзін звер не праклаў свой след. Снег зіхацеў пад апершымі праменнямі сонца; ад яго нельга было адарваць позірку. Засценак пасля ўчарашняга нагадваў забытае богам і людзьмі паселішча, закінутае ўбок ад вялікіх дарог і жыцця.

Андрэй прывёў да парадку гумно, падмёў ток і набраў рэзгіны канюшыны. Не заходзячы ў хату, накіраваўся ў свіран: трэба было даць коням па мерцы аўса. Усё, што адбылося ўчора ў дарозе, аддалілася і было падобна на цяжкі сон.

Калі Андрэй зайшоў у хату, ён убачыў гасця: на лаве сядзеў Марцін Крываблоцкі і курыў. Ён узняўся насустрач Андрэю, павітаўся і сказаў:

— Не чакаў, Андрэй, такога гасця, як я?

— Табе заўсёды рады, Марцін. Распранайся, калі прыйшоў у госці.

Марцін скінуў новы доўгі кажух і павесіў яго на крук. Іван ужо мыўся, праціраючы заспаныя вочы.

— А вы з Іванам усё сена цягаеце з Волі?

— Няхай бы яна там захлынулася, тая Воля. Учора ледзь дамоў прыпхаліся. Сёння рукі і ногі як адбітыя.

— Ведаю.

— Нічога ты гэтага не ведаеш, Марцін... Да службы ў войску ты парабіў, можа і ў войску цяжка было,

але як зволіўся са службы, то не наракай на жыццё. Гэта я кажу не са злосці ці крыўды, бо без такіх, як ты, зусім бы жыць нельга было, і я першы скажу табе сто разоў дзякуй. Але ці ведаеш ты, як чалавек можа замарыцца за дзень? І лягчэйшых вельмі мала; лічаныя яны — лягчэйшыя дні. От, скажам, Воля. Гніеш там паўлета ў багне, і бывае дарэмна, бо ўсё сена дажджы затопяць. А калі не затопяць, то паспрабуй перавязі яго па такой дарозе і ў такое надвор'е, як цяпер. Я не лічу дарогі ўлегцы... Пад'едзеш да стога, пакуль сапхнеш з яго мёрзлую шапку, накладзеш вазы ды дагледзіш іх, мёрзлага кавалка хлеба некалі ў рот узяць... Добра ехаць дамоў па роўнай дарозе і ў добрае надвор'е, тады і на возе пасядзіш, і за возам пройдзеш, каб сагрэцца. А вазьмі цяперашнюю дарогу ды яшчэ ў завею! Коні не цягнуць, вазы куляюцца, дугі ды аглоблі ломяцца...

Я цяпер з лёгкай Іванавай рукі чытаю трохі. Пішуць, што вельмі цяжка на фабрыках ды на шахтах. Не скажу, што лёгка, але ж там чалавек адбыў свае гадзіны, кінуў усё — і хоць трава не расці. А земляроб ніколі не можа кончыць свае работы. Адна адну даганяе, абганяе, пераганяе...

— Не тое кажаш, Андрэй,— прамовіў Марцін, кідаючы недакурак да печы.— Зусім не тое! На фабрыцы або на заводзе чалавек не разгінаецца амаль паўсутак. За кожным яго рухам сочыць наглядчык. А хто пры машыне робіць, той і без наглядчыка не разагнецца, бо за ім сочыць машына, паспрабуй не дагадзі ёй! А ты калі заморышся, то адпачыць можаш, ніхто цябе не аштрафуе і за карак не возьме.

— Эге, Марцін! У земляроба таксама наглядчык ёсць, ды яшчэ які! От паспрабуй спазніся з якой-небудзь работай, дык усё паляціць к чорту! Жыццю рады не будзеш, мудрэй усякага штрафу... Ды не пра тое мы гаворым! Як ні кажы, а ты ў мяне сёння госць.

— Не, Андрэй, не госць!

— То ты, мабыць, па справе?

— І не па справе. Развітацца прыйшоў.

— Што? А куды ж ты едзеш?

— Эх вы, малінаўцы! На свеце жывяце... Вайна пачалася, а вы як у бога за дзвярыма.

— Якая вайна? — запытаў Андрэй, адчуваючы, як сціснулася яго сэрца.

— Вайна з японцамі. Рускі цар надумаў пазабіваць японцаў, а японскі мікада рускіх.

— Ніхто ж не аб'яўляў, што будзе вайна! — недаўменна прамовіў Андрэй.

— У тым і справа! Японцы таксама не аб'яўлялі.

— От як... Значыць, такі вайна...

— А табе што! Ты льготнік, цябе не возьмуць.

Андрэй успомніў Тамаша.

— Схопяць маладых...— сказаў ён.— А ты ўжо і павестку атрымаў?

— Сёння досвіткам. Паслязаўтра ў далёкую дарогу... Быў ужо я ў тым баку... От і зайшоў з Іванам пабачыцца і развітацца. Я гэтага хлопца люблю, а з вайны не ўсе варочаюцца дамоў.

— Але, Марцін...

— Ты сёння пусці Івана дамоў. Я пакіну яму сёе-тое, дык перадаць трэба.

— Няхай ідзе.

— Газеты я выпісаў на ўвесь год, то перапішу на тваё імя ў Маліна ўку. Будзеце з Іванам чытаць. У газетах многа хлусні, а ў вайну яе будзе яшчэ больш, але ж усё роўна сёе-тое ўведаеце. А потым навучыцеся праўду ад маны адрозніваць, жыццё само падкажа.

— За газеты я табе заплачу.

— Не, не заплаціш. Газеты будуць Іванавы.

У галаве Андрэя з'явілася столькі думак, а ў душы столькі пачуццяў, што ён усё роўна як ап'янеў. Сеў ля стала і вылаяўся.

— А, чорт! Сабачае жыццё! Нібы ў склепе сядзіш і свету божага не бачыш...

Ён пачаў згортваць папяросу, але пальцы не слухаліся яго.

— Мама! — звярнуўся ён да старой Аксені.— Вымайце ўсё, што ёсць у печы! Не туляйся, Іван, у запечку, ідзі да стала! Даўно пара снедаць!

Марцін таксама закурыў.

— Табе вайна вялікаю навіною здалася?

— Не. Гаварылі пра яе з Якавам не адзін раз... Але ў мяне, Марцін, паўкварты ёсць. Маці прасіла, каб папу занёс, бацьку трэба ў царкве памянуць. Дык няхай потым... К ліхой матары такое жыццё... Ты быў для мяне добрым чалавекам, Марцін, і калі так, то вып'ем на развітанне. Дай божа, каб ты вярнуўся з вайны цэлы... Я цябе не забуду, Марцін.

Крываблоцкі натапырыў фельдфебельскія вусы.

— Добра, Андрэй, я рады. Не думаў, што ад цябе такое пачую. Цяпер я ўпэўнены, што Іван мой жыве ў разумнага чалавека, і спакойна будзе ў мяне на душы... А вайна пачалася не ўчора і не сёння. Шмат пойдзе хлопцаў шукаць свае смерці. У Вырвіча цэлая куча павестак, сёння раздае. Ваш дзесяцкі Мартыневіч павалокся ў Чыжэвічы да пана старасты. Не ведаю, каго бяруць з Малінаўкі, бачыў толькі павестку на імя Якава Шэмета.

— Значыць, і Якава бяруць?

— Мяркую, што не аднаго Якава.

— Эх, ліха... Чаму яны Халуставых сыноў не возьмуць. От каму трэба на вайну ісці, а не Якаву.

— Адзін пойдзе і з Халустаў,— адказаў Марцін. Андрэй нават выгляду не падаў, і ніхто не ведаў, як хацелася яму, каб тым адным быў не Мікалай, а Юзік.

— Дык вы, дзядзька, паслязаўтра? — ціхім голасам запытаў Іван.

— Паслязаўтра, Іван.

Марцін зірнуў на пляменніка і зразумеў, што робіцца на душы ў хлопца.

— Ты не бядуй! Вярнуся! Па-першае, я ўсё-такі фельчар, па-другое, не такі я дурны, каб падстаўляць галаву пад японскія кулі. На вайну іду не першы раз.

Маці разаслала на стале абрус, загадала Андрэю крояць хлеб, а сама пачала смажыць сала і кілбасу.

— Схадзі, Іванко, у пограб, прынясі гуркоў і капусты,— папрасіла яна.

Андрэй пайшоў у каморку і вярнуўся з бутэлькай гарэлкі. Паставіў на стол.

— Падсоўвайся, Марцін.

Тым часам Іван прынёс капусту і гуркі. Старая Аксеня паставіла на стол патэльню.

— Садзіся, Іван, каля дзядзькі,— загадаў Андрэй.— Прынясіце, мама, чаркі.

Калі старая Аксеня прынясла чаркі і Андрэй узяў бутэльку, Марцін сказаў:

— Пачакай трохі, Андрэй. Тваёю мы канчаць будзем, а пачнём з мае.

Ён дастаў з кішэні паўкварту.

— Нашто ты, Марцін, ідучы да мяне, гарэлку браў? — папракнуў Андрэй.

— А што ж там такое! Ішоў акурат каля Арлоўскага, зайшоў ды ўзяў.

Калі выпілі па першай чарцы, Марцін абцёр вусы, закусіў гурком і скваркай.

— Ліха з ёю, з вайной. Не хачу пра яе ні гаварыць, ні думаць, бо вайна — зніштажэнне жыцця, а я жыццё люблю. Дык от пра жыццё і гаварыць будзем. Калі будзеш жаніцца, Андрэй?

Андрэй з цікаўнасцю зірнуў на Марціна.

— Чаму ў тваю галаву прыйшла сёння такая думка? — запытаў ён.

— Баюся, што не прыйдзецца выпіць чарку на тваім вяселлі.

— Чаму?

— Вайна можа зацягнуцца.

— Ага! Значыць, як ні гавары пра жыццё, то вайны мінуць нельга, калі яна ёсць на свеце, і ты да яе нешта маеш.

Марцін засмяяўся.

— Твая праўда!

У гэты час у сенцах нешта стукнула, адчыніліся дзверы, і ў хату ўвайшоў Якаў Шэмет. Ён прынёс дугу.

— Падыходзь, Якаў,— прамовіў Марцін.— Я цябе даўно не бачыў. Мы тут бядуем, што гарэлкі да вечара не пап'ём, дык от садзіся ды памажы.

— Няўжо ты, Марцін, нічога не ведаеш?

— Усё ведаю, Якаў. Вайна ад нас нікуды не ўцячэ. Павестка ў кішэні ляжыць. А ты яшчэ не атрымаў?

— Толькі што Мартыневіч аддаў.

— Ну, а з Халустамі як? — мімаволі вырвалася ў Андрэя.

— Мікалаю таксама ёсць павестка.

— А Юзіку няма?

— Няма.

Андрэй вылаяўся.

— Стары Халуста шалее. Сына бяруць — гэта раз, і парабка таксама — гэта два. Двух работнікаў! Збіраецца да Хаіма Ножыка і лаецца так, што слухаць моташна... Мне да брата Піліпа трэба ісці, так што я, хлопцы, не магу з вамі доўга сядзець,— сказаў Якаў.

— Разам пойдзем,— адказаў Марцін.— Налі яму, Андрэй, штрафную, каб з намі зраўнаваўся.

Калі выпілі па другой, гаворка ажыла. Іван пачырванеў. У галаве яго рабілася немаведама што, настрой

стаў нейкі хваравіты, хацелася плакаць і смяяцца. Марцін заўважыў гэта.

— Больш не пі, нябож,— сказаў ён і звярнуўся да Якава: — Дык што ж, пойдзем для бацюшкі-цара Жаўтаросію здабываць!

— Вядома! Пашырым уладанні вялікай Расійскай імперыі! — у тон яму адказаў Якаў.

— Жарты жартамі, хлопцы, а колькі пральецца крыві!

— Нічога не зробіш, браце Андрэй; нашаму цару іншага выхаду няма: або рэвалюцыя, або вайна. Ён з міністрамі вырашыў, што лепш вайна.

— Ты думаеш, Марцін, што вайна спыніць рэвалюцыю? — запытаў Якаў.

— А чаму і не! Усіх лепшых людзей забяруць у войска, адправяць на пазіцыі. Не будзе каму рэвалюцыю ўздымаць. Хіба не так?

— Не так. Вайна наблізіць рэвалюцыю.

— Можа быць, можа быць...— задумаўся Марцін.— Японцы нашых ужо б'юць, як відно з газет... А ты разважаеш як сапраўдны сацыял-дэмакрат.

— Ну, Марцін! Мы залішне разбалбаталіся,— папярэдзіў Якаў.

— Нікога я не баюся. Я ўжо салдат. І ты салдат, Якаў. Вып'ем, хлопцы!

— Мы салдаты, а Андрэй не салдат, Марцін. Пра яго трэба думаць.

— Не бойцеся, хлопцы. У маёй хаце пра ўсё гаварыць можна,— сказаў Андрэй.

— Дык налівай, брат, ты гаспадар у хаце.

## РАЗДЗЕЛ СЕМНАЦЦАТЫ

Калі мужчыны пайшлі, Андрэй раптам адчуў страшэнную адзіноту і пустату. Такога з ім ніколі не было. Яму здалося, што ён астаўся адзін на ўсім свеце. Цяжка нават было ўявіць, што не будзе больш тых цікавых вечароў, калі да яго прыходзіў Якаў. Не будзе больш цікавых размоў, спрэчак, жартаў. Якаў сёння нібы адарваўся ад яго душы... Андрэй не разумеў, што з ім робіцца. Можа такому настрою паспрыяла чарка, а мо тое, што не было Івана. Андрэй так прывык

да гэтага хлопца, што не мог уявіць сабе, як бы ён жыў без яго. Яны цяпер мала размаўлялі, але разумелі адзін аднаго і без гаворкі. Іх зблізілі кнігі і агульныя думкі.

Андрэй прылёг на ложак, заплюшчыў вочы і ўспомніў, што на дзень не карміў і не паіў худобу. Устаў з ложка і выйшаў на двор. Каля парога сустрэў маці і Алену.

Алена прайшла каля Андрэя і нават не зірнула на яго! «Чаго яна злуецца? — падумаў ён.— Радавацца павінна: астаецца дома яе Гром». Пайшоў у гумно, натрос аўсяніцы з сенам каровам, каб хапіла і на заўтра, падрыхтаваў коням на вечар і на ноч, і калі выйшаў з гумна, то сонца стаяла над самым захадам. Андрэй узяў сякеру і высек з карыта лёд. Якія з жанок гаспадары! Напояць скаціну, а вады з карыта не выльюць, от яно і абрасло лёдам і стала як шкляное. Занёс сякеру ў дрывотнік пад павець, а ідучы ўбачыў Гарасіма Жукоўскага, які з рыдлёўкай у руках капаўся каля сцяны хаты. А хата яго і сапраўды ўрасла ў снег. Нельга было і падумаць, што гэта снег яе завеяў — здавалася, што, як грыб праз ігліцу і мох, яна прабралася з-пад снегу. І ўверсе тырчыць яе шчарбаты комін. Нават падысці да яе не было адкуль, толькі ад вуліцы цераз двор вялі сляды па снегавых гурбах. І Андрэй падумаў: «Як жыве гэты чалавек, адзін у хаце!» Сёння Андрэй адчуў быў адзіноту, але як выйшаў на двор, рассеялася яна, знікла, бо як ні глуха ў гэтым засценку, але ж чутно, як на свеце ідзе жыццё. Сёння да Андрэя прыходзілі людзі, пасядзелі, выпілі і закусілі, пагутарылі. А як жыве гэты чалавек, да якога амаль ніхто не хадзіў, хіба толькі арандатары ды мо якая жанчына наведае, шукаючы лекаў? І захацелася Андрэю перакінуцца словам з Гарасімам. Ён падышоў да плота і гукнуў:

— Добры вечар, пане Жукоўскі!

Як і заўсёды, калі Андрэй з ім вітаўся, Гарасім здрыгануўся. Потым ён разагнуўся і стаў, абапёршыся на рыдлёўку.

— Дзень добры, Андрэй... Яшчэ ж не вечар, сонейка не зайшло.

— Толькі што сонейка відаць. А каб яно было за хмарамі, то цяпер такія дні, што ад раніцы да ночы адвячорак.

— Але,— адказаў Гарасім.— У мяне ў хаце без лямпы цёмна, як уночы. Нічога не відно.

— Завеяла вашу хату, пане Жукоўскі.

— Проста бяда. Ужо трохі быў раскапаў, а сёння за ноч зноў усё зраўняла. А снег так злёгся, што рыдлёўка яго не бярэ, хоць сякерай сячы.

— Праклятая зіма. Я хоць і нямнога пражыў, але за маю памяць такіх зім не было. Кожны дзень трэба дарогу нанова церці. Цалік наўкола, следу няма.

— От як...

— А вы чулі, пане Жукоўскі, што вайна пачалася?

— Вайна? Якая вайна?

«Жывеш ты на свеце, чалавек, таксама, як і я. Ды, мабыць, ты яшчэ горш за мяне здзічэў».

— З японцамі вайна, пане Жукоўскі. Людзей у салдаты бяруць.

— Дык што?.. І вас таксама бяруць у салдаты?

— Мяне пакуль што не.

Гарасім стаяў моўчкі, абапёршыся на рыдлёўку, далёкі і ад вайны і ад усяго таго, чым жывуць людзі. Што для яго вайна? Яму трэба адкапаць са снегу сваю хату... Андрэй ужо хацеў канчаць з ім гаворку, але ён раптам сказаў:

— Нічога я не ведаю, нідзе не бываю. А да мяне хоць бы сабака забег.

У словах яго Андрэй пачуў горыч.

— Вам трэба да суседзяў хадзіць, пане Жукоўскі. Тады б і да вас людзі хадзілі.

Жукоўскі схіліў галаву.

— Прызнацца вам, баюся я... Не ведаю, як на мяне глядзяць суседзі, што яны пра мяне думаюць. Прыходзіў аднойчы Халуста зубы лячыць... Але я мяркую, што не праз зубы ён да мяне прыходзіў. Гаворка яго такая, не то каб злосная, але шкодная... Я ноч не спаў... Чужы я тут і адзін як палец... Адвыклі ад мяне людзі...

Вечарам адзінота зноў ахапіла Андрэя. Дома была адна маці, Алена пайшла да Талімонавай Лісаветы, і гэта вельмі не спадабалася Андрэю. Тая постаць Мікалая Халусты заўсёды паўставала ў яго вачах, калі ён успамінаў Лісавету. «Чаго ён туляўся каля платоў, і чаму Алена так панадзілася хадзіць да Лісаветы?» Ён ужо сабраўся сам схадзіць туды, але прыйшоў Ян Сташэвіч.

— Ну от і добра, што ты прыйшоў,— сустрэў яго Андрэй.

— Прыйшоў...— стомленым голасам прамовіў Ян.— Тамаш мой... Ды што там казаць. Нямала я палаяў яго, што валочыцца кожную ноч... Дамоў позна прыходзіць, раніцай не дабудзішся яго... Усё сам, ці скаціне даць, ці што якое. Па сена ездзілі, то я раніцай сам і коням закладу, і сані падрыхтую, і запрагу. Ён, як пан, з ложка за стол, а з-за стала ў гатовыя сані... Думаў я, што прыйдзецца мне лейцамі яго вучыць, бо развалачыўся, як Лейзерава карова, усё па чужых дварах... А ён такі, мабыць, адчуваў, што гуляе апошняе.

— А што такое, Ян? — устрывожана запытаў Андрэй.

— На вайну ідзе... Павестку атрымаў на аўторак.

— Значыць, і Тамаш...— Андрэй здзівіўся, як дагэтуль нават і не падумаў аб тым, што і Тамаша возьмуць у салдаты.

— Зладзеі... У іх, мабыць, дзяцей няма... Вайна... Я сына на вайну гадаваў?.. Ён у мяне адзін... Траіх падгадаваных пахаваў, ды трое малых... Двое асталося, то хіба меншы работнік? У дванаццаць гадоў ні араты, ні касец, гэта яшчэ дзіця. Зладзеі...

— Каго ты лаеш, Ян? — запытаў Андрэй.

— Тых... Зладзеяў... Што майго сына забіраюць...

— То гэта ж цар забірае твайго сына, Ян.

Ян здрыгануўся.

— Цар, кажаш? Не, гэта не цар... Гэта нейкі злодзей, што каля цара сядзіць. Хіба цар ведае, што робіцца на зямлі? Не, гэта не цар. Гэта нейкі царскі Халуста.

Ян сёння быў не такі, якім яго прывык бачыць Андрэй. Гэты суровы чалавек ніколі не згінаўся, ён быў нават залішне суровы і сур'ёзны, і вось прыйшла бяда, што сагнула яго.

— Сена праз гэтае надвор'е яшчэ не перавезлі. А цяпер я адзін калі яго перавязу.

— Глупства, Ян! — узлаваўся Андрэй.— Выходзіць — не Тамаша ты шкадуеш, а сена.

— Сціхні! — крыкнуў Ян, стаўшы раптам тым самым Янам, які хацеў вучыць яго вяроўкай на сяўбе.— У мяне ўсярэдзіне гарыць, а ён мне: се-ена!

— Ты сам пра сена пачаў.

— Маўчы! Гэта толькі да слова! Ты яшчэ не меў дзяцей і не ведаеш, як яны дарагі! У маткі свае запытай, шкадуе яна цябе ці не.

Пры іншых абставінах Андрэй бы сказаў Яну некалькі слоў па-свойму, а сёння трэба было памаўчаць. Ён успомніў Аўрама Выпустка і яго жонку пасля таго, як яны адправілі сваіх сыноў у Аргенціну. Стары Ян нечым нагадваў Аўрама. Розніца была толькі ў тым, што Аўрам шкадаваў сыноў не як работнікаў, а толькі як сыноў, з якімі наўрад ці давядзецца больш убачыцца, а Ян шкадаваў сына не толькі як роднага чалавека — сваю плоць і кроў,— але і як работніка, без якога занепадзе гаспадарка. «Гаспадарка, каб яна згарэла. Зямля і худоба, будынкі і бацькоўская сядзіба, роднае котлішча — усё яно адбірае ў чалавека душу».

— То хіба толькі твайго сына бяруць, Ян? Бяруць жа і другіх хлопцаў. Няўжо ж ніхто з іх дадому не вернецца...— пачаў Андрэй і зразумеў, што гаворыць не тое...

— Што мне да некага! — сказаў Ян.— Ты мне можа Халусту яшчэ ўспомніш. То Халуста не чалавек, а звер, і сыны яго такія. Халуставых сыноў абодвух трэба было забраць, бо ім ёсць за што біцца. А ў мяне толькі што канцы з канцамі... А цяпер, калі забяруць Тамаша і сена на Волі зазімуе, то скаціна ў хляве падохне.

— Глупства кажаш. Я ж яшчэ не памёр! Няўжо такое надвор'е будзе стаяць цэлую зіму? Суцішыцца, разатрэцца дарога. Утрох будзем ездзіць на чацвярых конях: двое тваіх, двое маіх. Раз табе прывязём, раз мне. Раней выедзем, пазней прыедзем. Я пра Тамаша думаю... Каб яго можна было не даць, адкупіцца, ці што...

— Думаў я пра гэта,— прамовіў Ян.— Але чым адкупіцца? З гаспадаркі нешта збыць, дык нічога ж лішняга няма. Ну, астануся я з адной каровай, з адным канём, дык скажы ж ты мне, каму тыя грошы даць і як іх даць? Можа аддасі не таму каму трэба, дык от і выйдзе: і без гаспадаркі астанешся, і сына забяруць.

— Твая праўда... Гэтая справа не для нас. Не можам мы так рызыкаваць... А дзе ж Тамаш? Няўжо ён часу не мае прыйсці да мяне?

— Ён звечара з хаты пайшоў. Я меркаваў, што да цябе. Маці плача, вядома, а яму слухаць не хочацца.

«Што вы,— кажа,— па мне, як па нябожчыку, плача-
це?» Хіба маладыя разумеюць бацькоў? Што ён ведае
пра матчына сэрца!

«А каня і карову прадаць шкадуеш»,— закруцілася
ў Андрэевай галаве, але ён прагнаў гэтую думку.

— Ты, Андрэй, нікуды не пойдзеш? — запытала
маці.

— Не, не пайду.

— Ну то я да Яніхі схаджу... Цяжка адной пры та-
кой бядзе.

— Схадзіце, дзядзіна! — Ян ажывіўся.— Я от так-
сама месца сабе не знаходжу, але хоць ёсць куды вый-
сці. А яна да каго пойдзе са сваім горам? Нарбутовічы
ды Мартыневічы зубы выскаляць. Так зляґліся з Ха-
лустам, што і вадой не разальеш.

Старая Аксеня апранулася і пайшла.

— Сабачы нейкі час настаў. Усё паскудства наверх
вылезла. Злодзей Халуста, якому я «дзень добры» не
даў бы, панам становіцца. Шымкевіча загубіў, разбой-
нік... Закону ніякага няма. Калі ў цябе грошы ёсць,
хоць ты іх і нарабаваў, то табе і павага. З табою чыны
за руку вітаюцца.

— Ты толькі сёння гэта ўведаў?

— Не сёння. Нашы бацькі жылі лягчэй. Можа ра-
білі больш, затое клопатаў менш мелі. І войнаў менш
было, і ў салдаты ўсіх не бралі. Бацька мой яшчэ пан-
шчыну помніў. Наш засценак паншчыны не рабіў,
шляхта ж нейкая ўсё-такі. Тады ў салдаты рэкрутаў
бралі, тых, каго пан назначыць. Тыя рэкруты хаваліся
ў нашым засценку ў знаёмых. У майго бацькі таксама
хаваліся хлопцы [redacted] Чыжэвіч. Зімой, было, на дварэ ма-
роз-траскун, а яны ў авечым хляве спалі. Ноччу ў хату
прыходзілі... Месяцы два хаваюцца, учарнеюць, вошай
на іх — як у мурашніку мурашак, а потым рэкрутчына
пройдзе, яны вылазяць на свет божы і жывуць, ніхто
іх не чапае.

— Не хвалі паншчыну, Ян. Не дай бог... Я цяпер
трохі чытаю... А ты не ўхмыляйся...

— Я не ўхмыляюся. Я чуў, як ты сёння [redacted] Гарасі-
мам гаварыў. Я табе не Гарасім.

Андрэю было дзіўна, што ён узлаваўся на Яна.

— Ну дык от, я трохі чытаю і трохі інакш, як ра-
ней, гляджу. І, мабыць, такі не дарма ў Расіі народ уз-
бунтаваўся. Надакучыла людзям жыць не па-людску.

Бунты, забастоўкі... Забастоўкі,— паўтарыў ён.— То от таму цар і вайну пачаў, каб гэта спыніць.

— Гэта цябе Марцін Крываблоцкі баламуціць,— сказаў Ян.— Чуў я, што ён на памінках гаварыў.

Доўга сядзелі і гутарылі ўдвух. Ян разгаварыўся, паспакайнеў, пачаў успамінаць даўніну і, здаецца, на гэты час забыў сваё гора.

Калі Андрэй правёў яго, было ўжо нярана. Ноч стаяла месячная, марозная і ціхая.

— Калі дома Тамаш, то скажы, каб прыйшоў да мяне.

— Добра,— адказаў Ян.— То я пайду.

Снег заскрыпеў і засвістаў пад яго вялізнымі цяжкімі ботамі. Андрэй яшчэ пастаяў, гледзячы, як іскрыцца іней пад месячным святлом, і пайшоў у хату тады, калі снег перастаў рыпець пад Янавымі нагамі.

Не паспеў у хаце закурыць, як нехта увайшоў у сенцы.

Думаў — маці, але ў хату ўваліўся Тамаш.

— Здароў, дзядзечка,— сказаў ён, скрывіўшыся, і Андрэй пазнаў, што Тамаш добра выпіў.

— Здароў, пляменнічак. Садзіся.

— Можа вы мяне будзеце біць, дзядзечка...

Андрэй зірнуў на Тамаша, і шалёны гнеў авалодаў ім.

— Буду біць! Кінь свае сабачыя жарты. Жартаўнік! Усё крывішся, сукін сын!

Ён схапіў Тамаша за грудзі, падцягнуў да сябе і штурхнуў на лаву. Той цяжка плюхнуўся на яе і выцяўся галавой аб сцяну.

— Звар'яцеў ты, Андрэй? — цвеёразеючы, запытаў ён.

— Гэта ты звар'яцеў! Дзе ты валочышся? З кім паспеў набрацца? Апошнія дні дома пабыць не хочаш, мярзотнік? Маці слёзы пралівае па такім нягодніку, бацька нядаўна ад мяне пайшоў. Чалавек сабе месца не знаходзіць, а сынок вочы заліў і жартачкі строіць.

— Слухай, Андрэй...

— Не хачу слухаць дурня. Калі ты за ўвесь дзень не знайшоў часу зайсці да мяне і прывалокся толькі ноччу п'яны, то пра што мы з табой можам гаварыць?

— Я ў Чыжэвічах з хлопцамі выпіў. З мужыкамі! Але што гэта за хлопцы! Гэта не нашы малінаўскія ды

жывіцкія абэлтухі! Але ў мяне душа баліць, Андрэй... У мяне ўсё гарыць усярэдзіне...

— Ты так спалохаўся вайны? Баязлівец! То ты не вернешся дадому, бо такіх, кажуць, першая куля не мінае.

— Ідзі к свінням! Я не баюся вайны. Ты не хочаш паслухаць, што я скажу... Вайна мне не страшная, і не возьме мяне ні першая, ні апошняя куля,— ён скрыгануў зубамі.— А от я шчасце сваё трачу, ты ведаеш гэта?

Андрэй глядзеў на яго і не разумеў, што сталася з чалавекам. Няўжо ён так многа выпіў?

— Якое ты шчасце траціш, дурань? Зусім звар'яцеў.

— Можаш лічыць мяне вар'ятам... Дай закурыць.

Андрэй падсунуў яму партабак. Ён пачаў скручваць цыгарку, а Андрэй уважліва разглядаў яго. Хлопец сапраўды змяніўся. У вачах гарэў шалёны бляск, было відно, што ён пакутуе, што ў душы яго нешта бурліць і віруе і не знаходзіць выхаду. Ён чыркнуў запалкай, прыкурыў і зацягнуўся ўзапар некалькі разоў.

— Ну, а цяпер гавары, што з табой,— сказаў яму Андрэй.

Тамаш падняў галаву.

— Беражы маю дзяўчыну, Андрэй.

— Тваю дзяўчыну? Хто яна, твая дзяўчына?

— Талімонава Лісавета.

— От як!

І Андрэй успомніў той вечар, калі ён праводзіў Якава: постаць Мікалая Халусты, які выскачыў з Талімонавага двара і, туляючыся каля платоў, пайшоў па вуліцы, сустрэчу з Аленай, якая сказала, што ў Талімонавай хаце астаўся Тамаш,— і яму сёе-тое стала зразумела.

— Ты мне раней нічога пра гэта не гаварыў.

— Бо ты быў недаступны, а берагчы яе я мог і сам.

— Ад каго яе берагчы? У яе бацька ёсць, дзяўчына яна маладая, сціплая, ды ніхто на яе і не заглядаецца. Маладое яшчэ дзеўчанё. Ад каго яе берагчы?

— Ад Халусты Мікалая.

Андрэй зірнуў на Тамаша з недаўменнем.

— Апомніся, Тамаш. Халуста Мікалай разам з табой пойдзе ў салдаты.

— Пойдзе! У тым і справа, што нікуды ён не пойдзе! Ён смяецца з гэтага прызыву. Стары Халуста да Хаіма Ножыка хадзіў, а той пасля полудня сёння паехаў у Слуцак.

— Дык што, калі паехаў?

— Эх ты! А яшчэ лічыш сябе разумным. Выкупяць яны гэтага злодзея. Хаім у Слуцку ўсё ведае. Не пойдзе Мікалай на вайну.

І на твары і на ўсёй постаці Тамаша ад п'янства не асталося і следу. Ён ператварыўся ў цвярозага і вельмі няшчаснага чалавека. І Андрэй не ведаў, як яго супакоіць.

— Люблю я Лісавету, Андрэй. Так люблю, што выказаць не магу. З восені гэта пачалося. Ты сам ведаеш, не вельмі я за дзяўчатамі ганяўся. Не падкі да іх быў... От так павыскаляцца, пажартаваць, гэта я мог. Я дзівіўся з цябе, калі ты да гэтай Арлоўшчанкі прыліп быў. Ты ж проста высах тады, а мне гэта было незразумела і смешна... З Ганнай у цябе ўжо іначай пайшло. Пасталеў ты, розуму набраўся. Я нават зайздросціў табе. Табе хацелася, каб Ганна па табе сохла, а не ты па ёй. Што ў вас з ёю цяпер, я не ведаю... А цяпер от сам я папаўся... Ну, скажы, што на гэтай Лісавеце ёсць? Яна яшчэ, калі па-сапраўднаму разабрацца, не дзяўчына, а падлетак, а яна ж мілей за ўвесь свет.

— Разумею, Тамаш.

— Я ж, братка, пацалаваў яе толькі раз, у сушні, помніш, як лён церлі! Ну от, я зноў пра тое самае пачаў, а справа зусім не ў тым... Я зачапіць яе не адважваўся, яна для мяне як святая была. А гэты гад прыпільнаваў, калі яна з вячорак ішла... Лішняга ён не дазваляў, я гэта ведаю, бо і я пільнаваў яго, гада.

Андрэй зноў успомніў постаць Халуставага Мікалая, які сапраўды, нібы гад, туляючыся каля сцен і платоў, вышмыгнуў з Талімонавага двара. «Можа і Лісавета выходзіла з хаты на спатканне з ім?» — падумаў ён.

— Чаму ты не сказаў мне гэтага раней? Ды ён навек забыў бы дарогу да Талімонавай хаты. Ён бы яе абыходзіў за вярсту.

— Ну дык што? Усё роўна яны б сустракаліся на вячорках, на вечарынках. Каб ён дазваляў што-небудзь непатрэбнае, то не ведаю, што было б... Аднаго з нас

панеслі б з вуліцы нежывога... Але ён не дазваляў сабе нічога такога, а што пацалаваў яе, то хіба мала я дзяўчат перацалаваў.

Андрэй хмыкнуў.

— Цікава. Ты хацеў падзяліць Лісавету з Халустам.

— Не разумееш ты мяне, Андрэй... А якое права я меў на Лісавету? Хіба яна мне слова давала? Але я люблю яе і павінен быў берагчы, хоць не сабе, але і не Халусту. А цяпер што ж!.. Калі ён астанецца дома, то яна прапала...

У Андрэя сціснуліся кулакі.

— Чаму ты не сказаў мне раней? Чаму ты не сказаў, дурань?

Тамаш яму не адказаў і пасля кароткага маўчання нечакана запытаў:

— Ты не заўважаеш, Андрэй, што Алена цяпер вечарамі не бывае дома?

— Кожны вечар яе дома няма! — насцярожыўшыся, адказаў Андрэй.— Яна ходзіць да Лісаветы...

— От гэта самая большая бяда.

— Чаму ты так кажаш, Тамаш?

— Таму, што Алена зводзіць Лісавету з Мікалаем. Сама з адным Халустам звязалася, а Лісавеце сватае другога.

— Заб'ю, гадаўку! — крыкнуў Андрэй.

— Я яшчэ не кончыў, Андрэй. Цяпер я ўжо ўсё ведаю. Ты сам разумееш, што Талімон не пусціў бы яго ў хату. Мікалай сам гэта ведае, таму вечарам, калі Талімон дома, ён туды не ходзіць. А ўдзень, калі Талімон з Адамам па сена паедуць, то Лісавета з Алесем астаюцца дома адны. Алесь хлапчук, яму абы на двор, на санкі па гурбах коўзацца. От тады да Лісаветы прыходзіць Алена, а ўслед за ёю і Мікалай. Ён замкне кузню, бо якая цяпер там работа, і пайшоў... Нядаўна я пра гэта ўведаў... Дык от Алена іх і зводзіць.

Андрэй ведаў, што, каб Алена раптам з'явілася ў хаце, ён не стрымаў бы сябе. Ад шаленства ў яго не было чым дыхаць, нібы нехта схапіў за горла і пачаў душыць.

— Сволач, сволач... Зво-одніца... Ды каб бацька быў жывы, ён бы адрокся ад яе, ён бы яе пракляў!.. Звяжу, гадаўку, і ўкіну ў камору на цэлую ноч.

— Дарэмна я табе расказаў пра ўсё, Андрэй. Ты

пачаў вар'яцець, а гэтага акурат і не трэба. Так ты сапсуеш усё.

— Дык можа мне яе па галаве пагладзіць, калі яна прыйдзе дадому?

— Ні так, ні гэтак. Сама лепш памаўчаць. Заўтра мы з табой усё абмяркуем. Чуеш, Андрэй?

— Чую, Тамаш... А цяжка мне будзе стрымацца, калі я ўбачу яе.

— А ты ўсё-такі стрымайся... Вунь нехта ідзе, можа якраз яна...

У хату ўвайшла старая Аксеня.

— Ты тут, Тамаш! — сказала яна.— Ішоў бы ты дадому, хлопчык. Маці чакае.

— Іду. Я даўно ўжо збіраюся.

## РАЗДЗЕЛ ВАСЕМНАЦЦАТЫ

— Дык, ліха матары тваёй, ты мо заўтра і рабіць нічога не будзеш, калі цябе на вайну бяруць? — спытаўся Халуста ў Якава, калі той вярнууся ад Андрэя Сташэвіча.

— Не, не буду. Пайду ў Чыжэвічы да брата.

— Дык табе ж не заўтра ў Слуцак, а паслязаўтра. Каб марна прапаў дзень! Аплату ж ты папросіш!

— Мне сабрацца трэба. З братам развітацца, з раднёю. А братава жонка бялізну памые. Ды ці мала што перад адыходам трэба, і нічога нельга забыць.

— Ліха матары тваёй!

— І плату падрыхтуй, пане Халуста. Заўтра вечарам я прыйду. У аўторак завязеш у Слуцак Мікалая і мяне.

— Бачыш ты яго! А ты мне заплаціш за фурманку? Дарма цябе вазіць! Пехатою дойдзеш.

— Не, пане Халуста. Пехатою я не пайду. За заўтрашні дзень можаш не плаціць, хоць на фурманку да Слуцка я ў цябе і зарабіў. Ды не па сваёй справе я туды еду! Служыць іду цару-бацюхну, японцаў біць, кроў сваю праліваць за веру, цара і ацечаства.

— Бач ты яго! Сацыяліст — як ён шкілюе! От гад! Каб нехта збоку пачуў, дык і сапраўды падумаў бы, што ён такі верны цару, веры і ацечаству. Каб я яго не ведаў! А ён жа, гад, накольнік, арыштант, крамольнік, здзекуецца!

— Даволі, пане Халуста. Мне часу няма. І дрэнна будзе, калі мы, разыходзячыся, пасварымся.

Ён забраў свой куфэрак і пайшоў да дзвярэй.

— Дык ты, гад, заўтра прыйдзеш? — гукнуў наўздагон Халуста.

Якаў не адказаў. Шалёная злосць апанавала яго. Хацелася вярнуцца і даць па зубах старой малпе. Юзік ішоў услед за ім. Калі выйшлі на вуліцу, Юзік спыніў Якава.

— Ты сапраўды прыйдзеш заўтра? — запытаў ён.

— Вядома, прыйду. Думаеш, я жартам казаў, што паеду разам з Мікалаем у Слуцак? А можа я свае грошы падарую твайму бацьку?

— Ты прыходзь, Якаў,— неяк па-свойму ўзрадаваўся Юзік.— Я чарку падрыхтую на развітанне.

— Можаш не рыхтаваць.

— Прывык я да цябе, Якаў, хоць і не падобны ты на іншых... А я цяпер зусім прапаў...

— Чаму прапаў?

— Заездзіць ён мяне...

— Знойдзе парабка.

— Не знойдзе. Нялёгка яму знайсці. Не ідуць да нас хлопцы... Дзіва што! Такая жытка! А цяпер, калі вайна пачалася, то дзе тыя хлопцы! Усе на вайну пойдуць. А ён з мае шыі не злезе...

— А ты не вельмі бядуй, Юзік. Неяк абыдзецца. А мне пара ісці.

— Ідзі, Якаў. Толькі заўтра ўвечар прыходзь. Прывык я з табой рабіць, ты мне за роднага лепшы.

— Прыйду, Юзік.

Апошнія Юзікавы словы трохі расчулілі Якава. «От і прызнаўся мне Юзік у сваім шчырым сяброўстве,— горка падумаў ён.— А што бачыў гэты хлопец у жыцці?»

Якаў ішоў у свае родныя Чыжэвічы, і яму не верылася, што лёс так крута павярнуў у другі бок, якраз у той, якога ён так не жадаў. Малінаўка асталася ззаду. Здавалася, што ён назаўсёды расстаецца з ёю. Але нават каб і не хацеў, то павінен быў заўтра вярнуцца. У Халуставым гумне асталося некалькі кніг і брашур, у тым ліку творы Леніна «Да вясковай беднаты» і «Што рабіць?», якія неабходна забраць. Пакінуць іх там проста было немагчыма. Не таму, што Халуста мог знайсці іх, гэтага Якаў не баяўся. Шкада было кі-

даць такое багацце. Не так танна каштавалі гэтыя кніжачкі, не так лёгка было іх надрукаваць і распаўсюдзіць, каб ляжалі яны без карысці, мёртвыя, як казала Эльза. Сёння ён не мог забраць тыя брашуры. Каб ён пайшоў у гумно без дай прычыны, адзін, то стары Халуста адразу пабег бы ўслед за ім. Чакаць таго часу, калі прыйдзе пара карміць на ноч худобу, ён таксама не мог. Занадта было б позна, а яму трэба наведаць брата, а галоўнае — сустрэцца ў маёнтку з таварышамі. Гэтулькі гаворкі! А колькі недаробак! Не паспеў. Сена не давала жыцця. Але Якаў ужо быў упэўнены, што і Андрэя Сташэвіча і Івана Аўсяніка можна было прыняць у сваю групу.

Праклятая вайна! Як многа шкоды яна прынесла! Ужо наладзілася работа арганізацыі РСДРП, вясной атрымаў бы пан Гендарсан добры гасцінец, і от на табе...

Якаў Шэмет быў не баязлівец, але ісці і падстаўляць галаву пад японскія кулі за сваіх лютых ворагаў не вельмі прыемна. А хто ведае, можа бяруць на вайну і Паўла Квітуна! Тады арганізацыя адразу страціць двух членаў. Шмат аб чым трэба пагаварыць з таварышамі, расказаць усе свае меркаванні...

Думкі Якава былі невясёлыя, цяжкія, як сённяшняя дарога, не працёртая пасля начной завеі. Толькі адна падвода праехала па ёй з Маліна́ўкі да Чыжэвіч. Трохі людзі пешшу хадзілі, размялі сыпучы марозны снег. Куфэрак быў няцяжкі, але пасля ўчарашняй страшнай ночы ды па такой дарозе несці яго было і цяжка і няёмка.

Піліп і Лукер'я былі дома, чакалі яго. Піліп падняўся яму насустрач.

— Ведаю я, што бяруць цябе, Якаў. Ад Вырвіча чуў. І от чакаем ад самай раніцы, седзімо тут з Лукер'яй. Хацеў сам да Халусты бегчы.

— А нашто бегчы, Піліп! Я і сам прыйшоў! — бадзёра прамовіў Якаў.

— Трэба сабраць нешта на дарогу, Якаў. Не ў госці завуць, зладзеі...

— Нічога не трэба збіраць. Няхай толькі Лукер'я бялізну памые.

— Давай, Якаў, родненькі! — адгукнулася Лукер'я.— Сёння памыю, на святы дзень не пагляджу. Заўтра ўсё сухое будзе.

— Вазьмі ў куфэрку, Лукер'я, там усё маё дабро.

— Харчоў накладзеш торбу,— клапаціўся Піліп.— Знойдзецца яшчэ нейкі драбок сала.

— Дзяцей кармі. У мяне яшчэ капейка асталася ад гарадскіх заработкаў ды ад Халусты сваё вазьму, куплю ў Слуцку харчоў.

— Не, Якаў,— настойваў Піліп.— Ты ідзеш не проста ў салдаты, а на вайну. Салдат і ў спакойны час не вельмі сыты, а на вайне не давядзі бог! Капейка табе згодзіцца! Толькі глядзі, каб цябе Халуста не абдурыў, гэтакі злодзей!

— Не на такога ён нарваўся, брат.

Піліп зірнуў на Якава, нешта падумаў.

— Чаму ты не распранаешся? Мабыць, у маёнтак пойдзеш?

— Пайду.

— Хоць бы ты адзін вечар дома, у бацькавай хаце, пасядзеў, Якаў. Божа мой, калі яшчэ прыйдзецца сустрэцца!..— сказаў Піліп.

Лукер'я ўсхліпнула.

— Ну чаго гэта вы! Начаваць дадому прыйду і заўтра да вечара дома буду. А сёння я мушу быць у маёнтку. Ты павінен зразумець мяне, Піліп.

— То ж і бяда, што разумею, а то не пусціў бы з хаты. Давай, Лукер'я, вячэраць.

Калі Якаў выбраўся ад Піліпа, ужо сцямнела. На ганку Піліп яшчэ раз сказаў Якаву, каб абавязкова прыходзіў начаваць, бо ён нават хату не замкне на ноч. Якаў абяцаў. Вечар быў вельмі прыгожы і вельмі марозны. Заснежаныя палі пад месячным святлом зіхацелі, як абсыпаныя зоркамі. Старыя бярозы, якія сямтам стаялі на дарозе, нагадвалі нешта казачнае.

Шмат думак роілася ў галаве ў Якава. Ці давядзецца яшчэ ўбачыць гэтыя родныя прасторы? Можа толькі цяпер ён па-сапраўднаму ўбачыў іх непаўторнае хараство? Раней не прымячаў. Чаму? Часу не было ці не цікавіўся родным краем? А можа проста вельмі шэрым і непрыкметным здаваўся ён. А цяпер, калі прыйшла пара разлучацца, якім жа мілым і прыгожым ён паказаўся. Разлучыцца... Можа назаўсёды... Вайна. А з вайны не ўсе прыходзяць дадому. А колькі бязрукіх, бязногіх, сляпых, знявечаных. Што ж, і такія жы-

вуць і змагаюцца. Заўтра трэба напісаць Вользе Іванаўне. Але што напісаць? Што яго бяруць на вайну? Дык яна і сама ўведае пра гэта...

Не, не ўдалося асабістае жыццё...

Чаму не ўдалося?

Думкі гэтыя так апанавалі Якава, што ён не заўважыў, як падышоў да маёнтка. «Не ўдалося? Не, якраз наадварот, удалося! Няма ўласнай сям'і? А Пілiп з жонкай і дзеткамі! А хлопцы ў маёнтку, а таварышы ў горадзе!» Арганізацыя РСДРП — хіба гэта не вялікая родная сям'я, якая думае пра яго, клапоціцца аб ім і ніколі не забудзе, нават тады, калі давядзецца пакласці галаву на маньчжурскіх сопках! Бо, нарэшце, у Малінаўцы хіба ён не пакінуў следу! Андрэй і Іван заўсёды ўспомняць яго. Хіба гэта не жыццё, не шчасце! Не, лепшага шчасця ён не хоча.

«Дык вышэй галаву, Якаў Шэмет! Вольга Іванаўна таксама ўспомніць цябе. І ты яшчэ не нябожчык! І не будзеш нябожчыкам! Спачатку трэба пахаваць ненавісных ворагаў, з якімі ты змагаешся ўсё сваё жыццё».

Маёнтак яшчэ не спаў, але не было ў ім таго руху, які звычайна бывае ўдзень і асабліва прыметны адвячоркам, калі на стайні, у кароўніку, у свінарніку кіпіць работа, калі парабкі і парабчанкі даглядаюць на ноч панскую худобу, а аканом носіцца ад адной будыніны да другой і лаецца, як ашалелы.

У вокнах парабкоўскіх баракаў блішчала скупое святло, але нікога не было на двары, хоць быў святочны вечар. Раней у такія вечары маладым не сядзелася ў цёмных і брудных камяніцах. Хлопцы і дзяўчаты выходзілі на свежае паветра, на раку Случ, каб пакоўзацца на лёдзе, укачаць адзін аднаго ў снег, пажартаваць. У такія вечары нават тут, на гэтай катарзе, можна было пачуць не толькі дзявочы смех, але і вясёлую песню і гукі гармоніка. А сёння цішыня. Значыць, вайна не абмінула і маёнтка. Мабыць, не адна маці плача, рыхтуючы сыну торбу, бо ў невясёлую дарогу збіраецца ён, і хто ведае, ці вернецца назад... І тут Якаў зноў успомніў Паўла. «Яго ж, напэўна, таксама бяруць!..— з жахам падумаў ён.— Хто ж тады астанецца ў групе?» І ўсе астатнія думкі вылецелі з яго галавы. Ён хутчэй пайшоў да Станіслава.

Калі адчыніў дзверы ў хату, то ўбачыў, што ўсе ў зборы і яго, напэўна, чакаюць.

— Я меркаваў, што ты прыйдзеш раней,— сказаў Станіслаў, вітаючыся.

— Не мог. Прыйшлося затрымацца спачатку ў Малінаўцы, потым у Чыжэвічах у брата.

— Не бяда. Распранайся ды садзіся. Ты ў нас ужо госць, Якаў.

Гэта і кранула Якава і ўзрадавала. Са Станіслававых слоў ён зразумеў, што толькі адзін ён госць. Значыць, акрамя яго нікога больш не бяруць.

Усе селі за стол, і пачалася гаворка.

— Даўно ты не быў у нас, Якаў,— задуменна прамовіў Станіслаў.

— Не мог. Ніяк не мог. Сена задушыла. Ведаеш, якая цяпер дарога... Ногі ўжо не носяць.

— Ведаем, Якаў, усё ведаем. Толькі не ведалі, што вайна так скора выбухне і цябе адразу мабілізуюць. Раней трэба было сустрэцца. Вельмі шкада, што цябе забіраюць... Я ў пятніцу ў Слуцку быў, навіну добрую прывёз. Думаў: ну, цяпер толькі не спі ў шапку!.. Узрадую хлопцаў, думаў. А цяпер гэтая навіна і ўзрадуе цябе і болю дадасць.

— Якая навіна, Станіслаў? — нецярпліва запытаў Якаў. Ён па ўсіх бачыў, што гэтая навіна ім вядома.

— У Гомелі арганізаваны Палескі камітэт РСДРП.

— От як!..

— От так, таварыш. Хоць мы і далёка ад Гомеля, але кіруючы цэнтр усё-такі ёсць. Можам мы з імі трымаць сувязь? Можам і павінны трымаць. Слуцкая група накіравала ў Гомель аднаго таварыша, каб наладзіць такую сувязь. Лічу, што мы зможам атрымліваць адтуль дырэктывы, пакуль Камітэт РСДРП не арганізуецца ў Мінску.

Якаў схіліў галаву. Ён да болю зайздросціў таварышам і адначасова быў рады за іх.

— У Гомелі ў мяне знаёмая ёсць,— прамовіў ён.— Можа яна і не ўваходзіць у Камітэт, але ўсё роўна праз яе можна было б наладзіць сувязь вельмі скора.

— Гэтая твая знаёмая і паведаміла слуцкім таварышам пра Палескі камітэт.

— Вольга Іванаўна?

— Лічы, што я не ведаю, як яе завуць. Ты таксама не ведаеш. У яе ёсць партыйная клічка.

— Узрадаваў ты мяне, Станіслаў... І ведаеш, як крыўдна мне, што я ўжо ў вас як адрэзаны кавалак.

— Усё ведаю, таварыш. Калі ты і адрэзаны кавалак, то кавалак добры. Такія хлопцы і ў войску патрэбны, а цяпер асабліва. Мы спадзяёмся, што і там ты будзеш весці работу сярод салдатаў. Павінен весці, такі наш наказ. Нам горш: наша невялічкая група траціць аднаго чалавека.

— Я на сваё месца пакідаю чалавека. Нават двух.

— Андрэй Сташэвіч і Іван Аўсянік нам цябе не заменяць. Пры табе і яны раслі і былі б карысныя. З імі яшчэ многа трэба працаваць, Якаў, а цяпер яшчэ і сувязь нейкую наладжваць.

— Наладзіце сувязь, гэта не Гомель. От тады і папрацуйце з імі.

— Не ведаю я, як можна апрацаваць шляхціца, калі ён, можна сказаць, нарадзіўся мужыцкім ворагам.

— Не, Платон, так няможна гаварыць,— папракнуў Станіслаў.— Ніхто не нараджаецца чыім-небудзь ворагам. Жыццё робіць людзей ці сябрамі, ці ворагамі. Я, напрыклад, калі не шляхціц, то нейкі падпанак. Ва ўсякім разе не парабак. Дык можа я твой вораг, Платон?

— Ты іншая справа.

Ядвіга сядзела каля печы і глядзела на Якава. «Як ён змізарнеў!» — думала яна, і ёй хацелася падысці да яго, пагладзіць, як маленькага, па галаве, пашкадаваць.

Якаў з папрокам зірнуў на Платона.

— Ты няправільна думаеш пра людзей,— сказаў ён.— Сташэвіч — наш чалавек, і работнік з яго выйдзе няблага.

Ён на хвіліну змоўк.

— От у чым справа, таварышы: у Халуставым гумне я пакінуў некалькі кніжак. Яны добра схаваныя, і забраць іх адтуль сёння я не мог. Сочыць ён за мной, стары злодзей. Заўтра я гэтыя кніжкі аддам Андрэю Сташэвічу. Некаторыя ён чытаў, некаторыя яшчэ не. Дык от няхай чытае з Іванам. Потым ён перадасць іх табе, Станіслаў.

— Які ты смелы! — зноў успыхнуў Платон.

— Супакойся,— нецярпліва сказаў Павел.— Ты некалі апёкся на шляхцянцы, дык думаеш, што ўся шляхта такая. Якаў зрабіў правільна. Наша група малая. У Чыжэвічах ёсць добрыя хлопцы, у нашым маёнтку таксама. Са многімі я гаварыў... Не палохайся,

Платон, я гаварыў мала, найбольш яны гаварылі. Я ўведаў, пра што думаюць людзі, мяркую, што і ўсім нам трэба больш гаварыць з людзьмі.

— Правільна, Павел, але гэта мы абмяркуем другім разам. Як Андрэй Сташэвіч перадасць мне тыя кніжкі, Якаў?

— Трэба, каб вы пазнаёміліся. Табе да яго ісці нязручна і нават небяспечна. Можна было б перадаць праз Івана Аўсяніка, але я лічу, што Андрэй сам павінен прыйсці да цябе. Гэта неабходна. Каб не гэтая чортавая вайна, то я прывёў бы яго сюды. Думаю, што вам трэба сустракацца ў цябе, пакуль зіма, а ўлетку знойдзеце месца.

Гаварылі доўга, здаецца, усё абмеркавалі, пара было разыходзіцца, калі раптам пачаў гаварыць Міхаль Рожка, які дагэтуль маўчаў.

— Не, браткі, не баіцца нас Гендарсан. Забыў ужо ён і пра бульбу і пра млын. Бачыць, што справы яго ідуць як па масле, усе маўчаць, дык ён, гад, і шалее...

— Ну, канчай, чаго ж ты спыніўся,— падахвочваў Станіслаў, зразумеўшы, што Міхаль нечага не дагаварыў.

— Што тут канчаць? Ён ужо жанок па плячы паляпвае і гатовы ніжэй паляпаць. Вочкі строіць... Да мае Любы чапляецца, сукін сын.

— Ах, вяпрук смярдзючы! — ускіпела Ядвіга.— Надакучыла, мабыць, свая худая жэрдка, а ён жа раз'еўся! Няхай толькі паспрабуе крануць каторую, вочы яму выдзерам!

Мужчыны зарагаталі. Навіна сапраўды была цікавая і нечаканая.

— Чаму ты мне не сказаў, Міхаль? — папракнуў Платон.— Паказаў бы я яму!

— Я, Платон, і сам з ім рады даў бы. З вамі хацеў пагаварыць, каб не напсаваць чаго. Ведаеш, як крыўдна! Мая Люба плача. Ёй жа раджаць скора.

— Добра, Міхаль, што сам ты нічога не натварыў,— прамовіў Станіслаў.— Значыць, ты чалавек вытрыманы, і я вельмі рады. Толькі мне не верыцца, што ён усур'ёз пра нешта думае. Проста падгульвае, як жарэбчык.

— Вер ты яму! — успыхнула Ядвіга.— Далібог жа, ён у апошні час на кожную маладую жанчыну паглядае так ласа, як кот на смятану.

— Добра, таварышы,— сказаў Станіслаў.— Гэтую справу мы разбяром потым, а цяпер трэба разыходзіцца. Здаецца, мы дамовіліся пра ўсё. А ты, Якаў, павінен нам пісаць. Пра ўсё. Мы зразумеем, як ты ні напішаш, бо пісьмы будзе правяраць вайсковая цэнзура. Пішы так, каб нічога не было выкасавана.

Далёка было за поўнач, калі Якаў сабраўся дадому. Павел, Платон і Міхаль развіталіся з ім і пайшлі першыя. Ядвіга выняла з шафы напакаваную торбу і падала Якаву.

— Што гэта?

— Табе на дарогу!

— Не вазьму! — узлаваўся Якаў.— Брат рыхтуе торбу, тут торба. Не вазьму.

— Возьмеш,— рашуча сказаў Станіслаў.— Брата не крыўдзі. Сам ён з дзецьмі на мякіне сядзіць, брат твой.

— Пакрыўдзіцца, калі не вазьму.

— Растлумач, каб не крыўдзіўся.

Пры развітанні Ядвіга заплакала:

— Прывыклі мы да цябе, Якаў...

Марозная ноч стаяла на двары, калі Якаў выйшаў ад Станіслава. Марозная і здаровая. І не было на душы той прыгнечанасці і безнадзейнасці, што апанавалі Якава, калі ён ішоў сюды.

## РАЗДЗЕЛ ДЗЕВЯТНАЦЦАТЫ

Удзень было сонечна, марозна і ціха, а перад захадам сонца неба пачало хмурыцца, адмяк мароз, і з усходу павеяў вецер. Быў ён спачатку ціхі, нават цеплаваты, але Андрэй ведаў яго: усходнія і паўночныя вятры заўсёды прыносілі завею або мароз, а заходнія і паўднёвыя — адлігу або галалёдзіцу. «Няўжо зноў пачнецца завея?» — трывожна думаў Андрэй. Ах, як непатрэбна яна была, асабліва цяпер. Колькі падвод з нававбранцамі пойдзе заўтра ў Слуцак! З кожнага сяла, з кожнага засценка. Да Слуцка — блізкі свет — больш за дваццаць вёрст, і ўсё па чыстым полі. Толькі сёлы на дарозе, а ў тых палявых сёлах гэтулькі гурбаў на вуліцах, хаты па самыя стрэхі ў снезе. Ехаць па такой вуліцы гора адно, і аб'ехаць нельга па цаліку. Хопіць бяды і людзям і коням, калі ўсходзіцца завея...

Андрэй упраўляўся па гаспадарцы адзін. Івана ўчора пусціў дадому, няхай правядзе дзядзьку на вайну. Пакуль усё зрабіў, звечарэла. Так скора змеркла, мабыць, таму, што неба зусім нахмурылася і, здаецца, стала ніжэйшае. Калі Андрэй прыйшоў у хату, там ужо гарэла лямпа. Алена, як і заўсёды ў святочныя вечары, круцілася каля люстэрка. Андрэй зірнуў на яе коса, са злосцю падумаў:

«Нішто яе не трывожыць. Што ёй людское гора! Тамаш на вайну ідзе, а яна ці падумала пра гэта. Абы Гром яе дома астаўся. Пабяжыць да Лісаветы».

— Можа павячэраеш, Андрэй? — запытала маці.

— Давайце.

Пакуль Андрэй вячэраў, Алена паспела сабрацца, і толькі бачылі яе ў хаце. Маці прыбрала са стала і сказала:

— Схаджу да Янавых, Андрэй.

— Ідзіце. Я заўтра раніцай схаджу.

«Тамаша ўсё роўна дома няма,— думаў Андрэй.— Гуляе апошні вечар». Аднак гэта яго не супакойвала. Сёння яму не сядзелася ў хаце. Не хацелася ні чытаць, ні думаць, ні спаць. Бывае такі няўдалы настрой, калі нішто не міла, хоць у поле бяжы як ашалелы... І тут успомніўся Якаў. Няўжо ўчора было з ім апошняе спатканне? Не хацелася верыць. Як многа трэба было сказаць Якаву перад расстаннем! Нямала добрых кніжак, тых, на якіх не напісана, што яны дазволены цэнзурай, прачытаў Андрэй з рук Якава. Нямала аб чым гаварылі, але не ўсё яшчэ было ясна і зразумела Андрэю. Не аб усім перагаворана. Якаў быў яму неабходны, бо, як пачалі вазіць сена, сустракацца даводзілася рэдка.

У пустой хаце Андрэй адчуваў сябе вельмі адзінока. Хоць бы Іван быў дома, хоць бы прыйшоў хто-небудзь! Але хто сёння мог прыйсці? Маладыя на вячорках, можа ў таго самага Талімона, куды пайшла і Алена.

Якава Андрэй не чакаў, ведаў, што сёння ён да яго не прыйдзе. Напэўна, у Чыжэвічах у радні ці ў маёнтку ў Станіслава Вярбіцкага. А заўтра ранкам паедзе ў Слуцак, і не прыйдзецца нават развітацца з ім па-чалавечы. І горка стала ў Андрэя на душы... Аднак нешта падказвала яму, што не можа яго сяброўства з Якавам кончыцца так недарэчна. Тады нашто Якаў расказаў яму пра бальшавікоў, пра Леніна і Пляханава? Ці на

такі пусты канец праседжвалі яны доўгія вечары, гутарылі і спрачаліся? Ведаў таксама Андрэй, што Якаў не адзін, што ў маёнтку ёсць у яго сябры-аднадумцы і першы з іх Станіслаў Вярбіцкі. Дык чаму ж Якаў не пазнаёміў яго з тымі сябрамі? Не верыў? Можа і цяпер не верыць! Ад гэтай думкі Андрэю стала горача. Усё пераблыталася ў яго галаве, толькі адно ён ведаў: Якава яму шкада больш, чым Тамаша...

Раптам (гэта было падобна на дзіва), калі ён падняў галаву, то ўбачыў Якава. Сагнуўшыся, ён стаяў каля парога і дзеркачом абмятаў з ботаў снег. Андрэй не чуў, калі ён увайшоў у хату.

— Ты мне нават на «добры вечар» не адказаў,— разагнуўся Якаў.

— Ну, брат... Я пра цябе думаў.

— Думаў, што Якаў і развітацца не прыйдзе.

— І пра гэта... Садзіся, Якаў.

Якаў сеў, уважліва агледзеў хату.

— Дома нікога няма?

— Адзін я.

— Значыць, нам шанцуе. І пакуль нікога няма...

Якаў засунуў руку за пазуху, выняў некалькі кніжак.

— Схавай гэта дзе-небудзь, Андрэй, у добрым месцы.

Андрэй узяў кніжкі абедзвюма рукамі, і вочы яго бліснулі радасцю. Ён з удзячнасцю зірнуў на Якава.

— Схаваю,— толькі і вымавіў ён.

— Чытай сам, Іван таксама няхай чытае. Тут дзве кніжкі Леніна: «Да вясковай беднаты» і «Што рабіць?».

— «Што рабіць?» — як у Чарнышэўскага?

— Але зусім не той змест. Гэтыя кніжкі прачытайце ў першую чаргу.

— Няўжо ж ты думаеш, што я іх запхну ў нейкую нару і...

— Толькі асцярожна, Андрэй. Сястра твая вельмі цікаўная.

— Вядома.

— Каб не трапіліся гэтыя кніжкі на яе вочы.

— Не трапяцца.

— Калі чаго не разумееш, звяртайся да Станіслава.

— Я з ім незнаёмы, Якаў. Ты ж...

— Не пазнаёміў вас? Не бойся, пазнаёміў. Даўно

ён пра цябе ведае. З ім пра ўсё дамоўлена. Ён табе падкажа, што трэба рабіць, можа даручыць якую работу. Усё, што будзе незразумела, растлумачыць.

— Добра, Якаў. Ты што жывой вады на мяне ўзліў.

— Калі прачытаеце кніжкі, то адразу перадай іх Станіславу. У сябе дома не хавай. Занадта многа ў цябе ворагаў у засценку. Ёсць такія, што на вешальніцы цябе бачыць гатовы. А як сустрэцца са Станіславам, прыдумай сам.

— Няма пра што доўга думаць. Першы раз завязу воз бульбы ў бровар і зайду да Вярбіцкага як да майстра. А потым занясу яму рондзель, каб дзірку ён залатаў.

— Што гэта за рондзель?

— Я і сам не ведаю, чаму ён завецца рондзель. Такі вялікі медны посуд. Маці ў ім варыць варэнне. А чаму ён рондзель, а не кацёл, чорт яго ведае.

Памаўчалі трохі і пачалі закурваць.

— От табе і рондзель,— прамовіў Якаў.

— А потым прыйду, забяру яго ад Станіслава з залатым дном. Магу нават грошы дома забыць, каб прыйсці яшчэ раз і разлічыцца з майстрам.

Якаў засмяяўся.

— Хопіць, Андрэй. Я ўжо бачу, што рондзель табе службу саслужыць.

— Знойдуцца і іншыя прычыны. Але чаму ты раней не пазнаёміў мяне са Станіславам? Чаму раней не даў гэтых кніжак? — У Андрэевым голасе былі папрок і крыўда.— Пакуль на вайну цябе не паклікалі...

— А калі б чытаў ты гэтыя кніжкі? Хіба я не думаў пра гэта? Калі пачалі сена вазіць, то я і сам не чытаў нічога і ў маёнтак не хадзіў. Хіба вольны час быў? А з восені, ды і да самай возкі сена, хіба я мог табе даверыцца, Андрэй? Ты ж такога шляхцюка з сябе корчыў, што не падступіся.

— Няпраўда! — горача прамовіў Андрэй.— Шляхцюка я не корчыў.

— Але даверыцца табе адразу я не мог.

— Не мог...— згадзіўся Андрэй.

Сябры зірнулі адзін на аднаго, і кожны глыбока адчуў узаемную цеплыню і шчырасць, якая так зблізіла іх.

— Ну, здаецца, я ўсё табе сказаў, Андрэй,— на-

рэшце ўстаў Якаў.— Даруй, таварыш мой дарагі, мне трэба ісці.

Сябры моцна абняліся і пацалаваліся.

У аўторак Андрэй устаў рана, яшчэ далёка было да світання. Нейкая трывога ўсю ноч адбірала ў яго сон. Не ведаў, спаў ці не. Проста забываўся на некалькі хвілін, бо гэтага нельга было назваць нават дрымотай, потым нешта нядобрае, незразумелае стукала ў галаву, і ён усхопліваўся, абліты халодным потам, і чуў, як трывожна б'ецца сэрца. Што гэта? Хвароба ці нейкая іншая немач?

У хаце было цёмна, ён ляжаў з расплюшчанымі вачыма і глядзеў у гэтую цемень. Нават думак сапраўдных не было. А на дварэ нешта шалясцела, шаптала, шоргала па вуглах хаты, нібы там нехта хадзіў, нешта рабіў патаемнае, шкоднае...

У хаце ўсе спалі без клопату і трывог. Не, не ўсе. Зашавялілася маці. Мабыць, села. Пазяхнула і, вядома, перахрысцілася, як і заўсёды.

— Чаму ж ты не спіш, Андрэй? — запытала паўшэптам.

— Сам не ведаю, мама. І сплю і не сплю.

— На дварэ завея. Чуеш, як сыпле ў шыбы снег?

— Завея... А як жа правязе Ян Тамаша ў Слуцак у такое надвор'е?

— З людзьмі ехаць трэба. З чыжоўцамі.

Андрэй устаў, не запальваючы лямпы адзеўся, уссунуў на ногі боты, зняў з крука кажух і шапку, апрануўся і пайшоў з хаты.

Шалёная завіруха кружылася над засценкам. Вецер узрываў снег з зямлі, круціў яго і кідаў пад платы і сцены, намятаючы каля іх высокія гурбы. Секанула ў твар халодным ветрам і калючым снегам. Андрэй аж скалануўся. Ён глыбей насунуў шапку, наставіў каўнер кажуха і павалі пайшоў на вуліцу. Вецер спачатку дзьмуў у плечы, а на вуліцы нібы акруціўся і шалёнымі парывамі біў у грудзі.

Засценак спаў, забыўшы ўсе клопаты, крыўды і радасці. Толькі ў Янавай хаце цьмяна свяціліся вокны. Значыць, там яшчэ не лажыліся спаць. І не лягуць у гэтую ноч.

На ганку Андрэй трохі абтросся і адчыніў дзверы.

«Нават хаты не замыкаюць»,— падумаў ён. У сенцах трохі абабіў снег з ботаў.

Каля стала сядзеў Ян, схіліўшы галаву, нібы драмаў. Але калі Андрэй ляпнуў дзвярыма, то ён адразу падхапіўся з месца.

— Я так і думаў, што ты прыйдзеш. Чакаў нават... На дварэ не давядзі бог... Як да гэтага Слуцка дабрацца...

— Мама кажа, што трэба гуртам ехаць, разам з чыжоўцамі.

— А добра яна кажа! Усё такі не адзін. У гурце не загінеш.

У вачах у Яна патух ліхаманкавы трывожны бляск. Ён зірнуў на Андрэя, падумаў: «От, брат Андрэй... Як прыйшоў ты — і спакайней мне стала... І нічога не страшна. А то от сяджу адзін, і месца мне няма... Бег бы, як шалёны, куды вочы глядзяць. Адзінота... Не, нельга аднаму...»

— Можа б я замест цябе паехаў, Ян?

— Не, Андрэй. Сам павязу. Ты тут майму меншаму паможаш. Вунь бачыш, абодва спяць, і Тамаш і Зміцер. Старэйшы і не шманае, што заўтра на вайну пойдзе, а меншы — дзіцё... А мая старая толькі што лягла. Ды я проста загадаў ёй легчы. Кажу: лажыся, а то заўтра ног не пацягнеш. Ужо плач ці скач — усё роўна. Ні тое, ні другое не паможа... Дык ты, брат, паможаш тут майму Змітру, бо сёння ж дамоў я не вярнуся. Хоць бы за дзень да Слуцка даехаць. А там у воінскага начальніка колькі часу пройдзе... Можа толькі паслязаўтра дадому прыеду. Ты тут...

— Памагу.

— Добра, што прыйшоў, Андрэй. Цяжка мне.

— Аднак жа ты ў дарогу збіраешся, ды ў такое надвор'е. Прыляж хоць на лаве, можа задрэмлеш.

Андрэй зняў з цвіка світку, падаў Яну.

— Пад галаву пакладзі.

Ян зірнуў на Андрэя, на світку, якую трымаў у руках, палажыў яе на лаву і прылёг.

— Мабыць, такі і загадаць іншы раз трэба,— ціха сказаў ён.

Пад раніцу завіруха трохі ўтаймавалася.

Андрэй выйшаў на двор. У засценку перагукваліся пеўні. Ён пастаяў на ганку, слухаючы іх бадзёрыя галасы, якія будзілі людзей, і не адчуў ні бадзёрасці, ні

радасці. А раней як ён любіў такі час, калі на дварэ яшчэ цемень, але ноч ужо адыходзіць і пеўні клічуць дзень...

Не хацелася будзіць Яна, які пасля ўсіх трывог і хваляванняў заснуў. Андрэй зайшоў у хату, знайшоў ліхтар, ключы і пайшоў у гумно. Як блізкі сваяк і сусед, ён ведаў усю Янаву гаспадарку. У гумне стаялі падрыхтаваныя развалкі. Андрэй натаптаў у іх пашару, каб хапіла не на адзін дзень, сабраў вупраж, наклаў у рэзгіны канюшыны і залажыў у жалабы. Сівая першая пачала хрумстаць, гультай Чорны не вельмі спяшаўся.

Калі Андрэй вярнуўся ў хату, Яніха падпальвала ў печы. Ян апранаўся.

— Я думаў, што ты дамоў пайшоў,— сказаў ён, убачыўшы Андрэя з ліхтаром і ключамі ў руках.

— На якім кані паедзеш?

— На Сівай.

— Я так і думаў. То ідзі ўсып ёй аўса і з сабой у дарогу вазьмі.

— Ведаю, брат,— адказаў Ян.— Пайду. А ты будзі Тамаша. Час збірацца.

Перад самым світаннем завіруха раптам сціхла, замёўшы ўсе дарогі і сцежкі. Куды ні зірні — белы цалік без канца і краю.

Праводзіць Тамаша прыйшлі старая Аксеня і Алена. Аднекуль з'явіўся Ладымер Баран-Заяц і пыхкаў люлькай. Світала. Усё навокал афарбавалася ў сіні колер. Ян з Тамашом выехалі са двара. Трэба было раней заехаць у Чыжэвічы, каб застаць падводы, якія пойдуць у Слуцак.

— Дык не забудзь жа, Андрэй! — гукнуў з вуліцы Тамаш.

У Андрэя нешта абарвалася ўсярэдзіне пасля яго слоў. Толькі цяпер ён па-сапраўднаму зразумеў усё, што адбылося сёння. Успомніў Якава. Моташна стала на душы. Але некалі было пра гэта думаць: Яніха павалілася на снег. Ён з Ладымерам падхапілі яе і панеслі ў хату.

— Сэрца слабое,— растлумачыў Ладымер.— Гады не тыя.

Андрэю хацелася даць яму па зубах. «Сэрца слабое! У цябе, вядома, конскае сэрца...»

— Вам прыйдзецца сёння пабыць тут, мама. Мне

таксама. Няхай Алена і Іван упраўляюцца дома. Раніцай худобу сам накармлю, а потым няхай Іван. Павінен прыйсці скора. А мы тут са Змітрам худобу пакормім. Кінь плакаць, Зміцер, не маленькі! Пане мой! Адзінаццаць гадоў, скора жаніхом будзеш.

— Вядома! — падтрымаў Ладымер.

— Тамаша шкада,— усхліпнуў Зміцер.

— Вернецца Тамаш. Хадзем у гумно.

— Вядома, вернецца! А дзе ён, скажам, дзенецца! — зноў падтрымаў Ладымер.

Калі Андрэй са Змітрам пайшлі ў гумно, Ладымер увязаўся за імі. «Няўжо ён дома паспеў управіцца? — са злосцю падумаў Андрэй.— Валачэцца ў чужое гумно, а ў сваім можа і не бывае. Жонка з дачкой гаспадарку вядуць, а ён то ў лес са стрэльбай, то па чужых хатах». Андрэю не хацелася сёння гаварыць з Ладымерам, а той не разумеў гэтага. Так і прасядзеў у гумне ўвесь час, аж пакуль Андрэй са Змітрам не ўправіліся і трэба было ісці ў хату.

Думаў Андрэй, што нарэшце адчэпіцца ад яго Ладымер, але той услед за Андрэем і Змітрам пайшоў у хату.

— Невядома, як там старая Яніха,— сказаў ён Андрэю ў сенцах такім тонам, нібы для яго гэта было важней за ўсё на свеце. Андрэй не адказаў.

Яніха ляжала ў ложку. Старая Аксеня ўпраўлялася каля печы. Андрэй сеў на лаву, не запрасіўшы Ладымера. Той, мабыць, і не чакаў гэтага, бо нават і вухам не павёў. Ён набіў тытунём сваю смярдзючую люльку, хацеў прыкурыць.

— Не куры, Ладымер,— сказаў яму Андрэй.— У хаце хворая жанчына.

— О-о! А я і не падумаў! — Ладымер схаваў сваю люльку.— А я, Андрэй, паўкварты прынёс Тамаша правесці, але спазніўся. То можа мы, скажам, цяпер яе вып'ем.

«Дык от чаго ты хадзіў за мной услед!» — падумаў Андрэй.

— Няма за што піць, Ладымер,— адказаў ён.— Няма ніякай прычыны.

— Як няма! — усклікнуў Ладымер.— Каб Тамаш вярнуўся цэлы і неўрадзімы, каб там яму пашанцавала.

Пасля паўкварты Ладымер стаў вельмі гаваркі, але Андрэю не хацелася яго слухаць. Ладымера гэта не

цікавіла, ён павінен быў выказаць усё тое, што было ў яго на душы.

— Ну, ці гэта праўда, Андрэй, скажы ты мне! Хаім Ножык учора са Слуцка вярнуўся і адразу прыбег да Халусты. На дварэ сустрэліся, адзін аднаму гаў-гаў, як сабакі, скажам... Так пагаўкалі трохі, тады Халуста пачаў рагатаць, аж з захлёбам, а Хаім яго па плячы паляпвае.

— Ну дык што?

— Ты не ведаеш што? — здзівіўся Ладымер.— А тое, што Хаім ужо выкупіў Мікалая Халусту — гэтага злодзея. Я ж, браце, па-суседску ўсё бачу і чую са свайго двара. У Слуцак сёння збіраюцца, як на кірмаш. Крывая Настуля не млела, як, скажам, цётка Яніха. Ды наўрад ці ўмее яна млець.

Андрэй зарагатаў.

— Ну чаго ты! Яна не з такіх людзей, каб млець. Я, браце, думаю, што яна і плакаць наўрад ці ўмее.

— Нагаворыш ты...

Аднак Андрэй адчуваў, што ў Ладымеравых словах ёсць праўда, бо помніў, як выглядала Настуля, калі прыбегла да яго і закрычала: «Нашы рэжуцца!»

— Я праўду гавару, Андрэй, я ж Халустаў сусед, то ўсяго нагледзеўся. Не дай бог нікому такога суседа. Каб капейка лішняя была, перасяліўся б я ў Маргі, абы мне яго не бачыць.

Так яны пагаварылі колькі часу, раптам Ладымер успомніў, што яму яшчэ ў Чыжэвічы трэба, і так заспяшаўся, што ледзь не забыў шапку. «Такі ж ты, брат Ладымер, добра ап'янеў. Мабыць, сёння яшчэ не снедаў,— падумаў Андрэй.— І чаго так зарупіла табе ў Чыжэвічы? Мабыць, пара хвоек пакацілася туды з Маргоў, а ты ўслед за імі яшчэ чарку выпіць. Пі, не шкадуй маргоўскіх хвоек...» Андрэй быў рады, што Ладымер нарэшце адкаснуўся ад яго.

## РАЗДЗЕЛ ДВАЦЦАТЫ

Яўхіму Халусту не спалася. Ён прачнуўся пасля другіх пеўняў, разбудзіў Настулю і, хутка апрануўшыся, памчаўся з хаты. Хто ведае, што можа здарыцца ў гаспадарцы за ноч! Абабраць могуць зладзеі, выцягнуць дабро са свірна. А ён жа, хіба гэта жарты, дзве

ночы дома не быў, учора прыехаў позна, нічога не дагледзеў. Хіба дурному Юзіку можна даверыць гаспадарку! Усё праспіць, прап'е, прагуляе.

Спала яшчэ Малінаўка. Ні ў адным акне не было святла. А на двары стаяў мароз-траскун. На небе паблісквалі зоркі.

Яўхім перш-наперш пабег да стайні, зірнуў на вялізны замок, што вісеў на дзвярах, і памацаў яго рукамі. Халоднае жалеза апякло голыя далоні. Халуста крэкнуў, але супакоіўся: замок быў цэлы. Тады ён падаўся да свірна, адтуль да гумна і, асклелы і заспакоены, пайшоў у хату.

Настрой у Халусты быў не то што добры, але нават выдатны. Выйшла так, як ніколі не чакаў: Мікалая выкупіў, каштавала трохі, але чорт яго бяры. Мікалай у кузні адробіць. А Якава збракавалі! От чаго не чакаў! «Хі-хі-хі! Ліха матары яго, збракавалі! Па вачах не падышоў і руку некалі зламаў. Хі-хі-хі! Мабыць, у машыну ўсунуўся, калі ў дэпо рабіў. Дзіва што! Панікмашыну ўсунуўся, калі ў дэпо рабіў. Дзіва што! Панікло! Сослепу ў машыну ўлез! Але, трасца яго бяры, робіць! Парабка шукаць не трэба. Дабудзе тэрмін, гад!»

Настуля яшчэ толькі паднялася з ложка, і Халуста рынуўся да яе з кулакамі.

— Кабыла крывая! Чаму Якава і Юзіка не будзіш? — і кінуўся да дзвярэй баковачкі, дзе спаў Якаў.

— Ліха матары тваёй! — ён загрукаў кулакамі ў дзверы.— Уставай!

— Дзверы выламіш, пан Халуста! — адказаў Якаў.— Ды цішэй трохі крычы.

— От як! Паніклы чорт! Думаеш, калі ў войска не ўзялі, то такі ты вялікі пан! Ты мне адробіш гэтыя дні, што ў Слуцку агінаўся. Адробіш! І за падводу туды і назад вылічу.

Калі ўсе ўсталі і ў печы пачалі трашчаць дровы, Халуста загадаў Юзіку і Якаву ісці ў гумно, а сам пайшоў да Гарасіма Жукоўскага, да якога меў пільны інтэрас. Вось цяпер прыйшла пара здзейсніць тое пачварнае, што было раней спланавана ў яго галаве. Дарэмна яго палохаў Хаім Ножык, хоць, няма чаго казаць, трэба падзякаваць гэтаму яўрэю: ён памог выкупіць Мікалая. Падсунуў хабар, ведаў каму. І ўсё зрабілася так добра, што лепш нельга прыдумаць. Каму вайна, а каму ніякай вайны няма. Яму — Халу-

сту — вайна не пашкодзіла. І сын дома, і парабак нідзе не дзеўся. «Хі-хі-хі! Сцеражыся цяпер, пане Хмялеўскі! Я табе пакажу Крушнікі! Выгарадзіўся, пане мой! Маё-оонтак!.. Два дні ў Слуцку праз цябе... Можа дарэмна я там агінаўся! І з вамі пагаворым, пане Жукоўскі, пане Жучок, пане Камарык, хі-хі-хі...»

Прачынаўся засценак. У вокнах блішчалі агні. Сямтам рыпалі дзверы, калодзежныя жураўлі. Халуста па звычцы трушком бег па вуліцы. Каля дома Андрэя Сташэвіча ён суцішыў хаду. «А, ліха матары тваёй, не спіш і ты! Я т-табе пакажу-у! От як стану тваім суседам, тады ты ў мяне заспяваеш! Не будзе табе ні сну, ні спакою!»

Гарасім прачнуўся рана. Першае, што ён пачуў, было тахканне гадзінніка і мурлыканне ката. Гадзіннік вісеў на сцяне, а кот ляжаў на падушцы, каля Гарасімавай галавы.

Гарасім пацягнуўся рукой да стала, абмацаў запалкі і запаліў лямпу. Тады злез з ложка, надзеўся, уссунуў на ногі валёнкі і, ускінуўшы на плечы кажух, выйшаў на двор.

Марозная зімовая ноч канчалася. Усё яшчэ спала навокал, толькі чуваць было, як па Старочынскім шляху праехала нейкая ранняя падвода.

Недалёка, у хаце Андрэя Сташэвіча, свяціліся вокны. Гарасім некалькі хвілін глядзеў на гэтыя вокны, і ў галаве яго мітусіліся розныя думкі. Яны былі блытаныя, супярэчлівыя і не вельмі зразумелыя, хоць і прыемныя. У вачах яго паўстала Андрэева хата, у якой ён ніколі не быў. Але ён мог уявіць яе. Усе засцянковыя хаты падобныя адна на адну. Толькі што ў адной чысцей, а ў другой брудней. У Андрэевай хаце павінна быць чыста. Над сталом вісіць лямпа, а на ўслоне сядзіць маладая дзяўчына і прадзе. Гэта Андрэева сястра Алена. У яе прыгожы твар і спрытныя поўныя рукі. Такую ён убачыў яе, калі аднойчы зайшоў да Талімона. Тады хварэў меншы Талімонаў сын, і Гарасім ставіў яму градуснік і даваў парашок аспірыну. Але гэта не асталося ў памяці. Толькі яна, дзяўчына гэтая, не выходзіць з галавы. Якія харошыя ў яе вочы! І яна так ласкава паглядзела на старога дурня... А верацяно круціцца на тонкай кужэльнай нітцы, і Гара-

сіму дзіўна, чаму яно не абарвецца. Яно такое тоўстае, пузатае, цяжкае, а нітка такая тоненькая...

Чаму так прыемна ўяўляць гэтую дзяўчыну? Што з ім зрабілася?

У хаце Гарасім пачаў ставіць самавар. Прыгнуўшыся, ён зняў яго з лавы, прымайстраваў каля печы на блясе, насыпаў вуголля і распаліў. Потым раздзьмухаў старым ботам і заспакоіўся толькі тады, калі пачуў вясёлае сіпенне. «Грэйся, грэйся!» — сказаў ён самавару і сеў пры стале. Пацягнуўся быў рукою па кнігу, але кот саскочыў з ложка, выгінаючыся прайшоў па хаце, цярнуўся аб гаспадарову нагу і ўзлез яму на калені. «Смятанкі хочаш, ласун? Няма смятанкі, цяпер зіма, каровы не даяцца».

Праз некаторы час самавар ужо сіпеў на стале. Гарасім прынёс шклянку, сподак і ўзяўся піць чай. Піў упрыкуску, дзьмухаючы ў сподак, і ад прыемнасці цмокаў языком.

Раптам адчыніліся дзверы, і ў хату ўсунуўся Халуста.

— Ай, дзень добры, пане Жукоўскі! Мароз, ліха ма-атары яго, мароз!

— Мабыць, пане Халуста, зноў прыйшлі зубы лячыць,— скрывіўшыся, запытаў Гарасім. Ён лепей бы на ражне бачыў гэтага Халусту, чым у сваёй хаце.

— Не, не, не, пане Жукоўскі! Вы таго гада, што не даваў мне спакою, як выпалілі нечым пякучым, цьфу... аж цяпер шчыміць... то ён больш і голасу не падае.

Калючымі драпежнымі вачыма ён зірнуў на Гарасіма і скрывіў на сваім д'ябальскім твары нешта падобнае на ўхмылку.

— Ай-яй, пане Жукоўскі! Якая вы ранняя птушка! У вас ужо чай!

Ён без запрашэння сеў на лаву і абвёў позіркам стол. Гэта для яго было зусім натуральна, бо, будучы некалі аканомам, прывык, каб яго ў кожнай хаце частавалі. А для Гарасіма гэта было зусім ненатуральна, бо пад старасць ён паскупеў. Аднак пачуццё гасціннасці перамагло. Гарасім прынёс кубак. Халуста заскарузлымі кароткімі пальцамі ўзяў яго, наліў кіпню з самавара, потым чаю з маленькага фарфуровага чайніка. Тады згроб тры драбкі цукру і ўкінуў іх у кубак. Гарасім ледзь трымаўся, гледзячы, як трацішча яго дабро. У ім усё пераварочвалася. Ён выпіў бы з гэтымі

драбкамі тры шклянкі. Халуста тым часам шнарыў вачыма па стале, шукаючы лыжачку ці што іншае, каб памяшаць, бо цукар раставаў вельмі паволі. Лыжачкі на стале не было. Гарасім нават не глядзеў на Халусту. «Ага! — думаў ён.— Памяшай сваім брудным пальцам, то можа трохі адмыецца».

— Ая-яй, пане Жукоўскі! — пачаў Халуста.— Як гэта добра пасля марозу выпіць кубачак гарачанькага чаю!

Ён паглядаў то на свой кубак, то на Гарасіма, каб даць таму зразумець, што без лыжачкі ніяк нельга абысціся, але Гарасім рабіў выгляд, што нічога не разумее.

— Ліха матары яго! — не выцерпеў нарэшце Халуста.— Не паварушу яго, дык ён будзе ляжаць як калода і не падумае раставаць. Можа ў вас, пане Жукоўскі, ёсць нешта такое, каб там яго трохі павярнуць.

Гарасім зморшчыўся, але вымушаны быў лыжачку прынесці. Халуста памяшаў чай, і не паспеў Гарасім агледзецца, як Халустаў кубак, пусты ўжо, зноў стаяў пад кранам самавара. Шкляная цукарніца апусцела, а Халуста наліваў трэці кубак... Прыйшлося Гарасіму адчыніць куфэрак і выняць яшчэ цукру. Сэрца яго шчымела. Як ні любіў ён чай, асабліва зранку, але знарок адставіў убок сваю шклянку, меркаваў, што гэты няпрошаны госць нарэшце пасаромеецца спустошваць яго запасы. Але ён не ведаў Халусты. Той нават не павёў вухам і скончыў чаяпіцце на шостым кубку, калі цукарніца зноў апусцела.

— Ну і дзякую, пане Жукоўскі, ну і дзякую! От што значыць далікатны чалавек, які пабачыў свет. Уга! У яго, пане мой, на стале чай! Самавар! Адным словам, па-панску. Як у Крупскага! І гэта ў будзённы дзень! А гэтая малінаўская шляхта, ліха ма-а-атары яе! Жывуць як свінні! Ты іх маслам маж, а яны дзёгцем смярдзяць!

Разагрэўшыся пасля чаю, Халуста расшпіліў свой кажух і абапёрся локцямі на стол. «Пусці свінню за стол, дык яна і ногі на стол»,— думаў у гэтую хвіліну Гарасім. Ён з нянавісцю глядзеў на расчырванелы Халустаў твар, на яго шырокі нос, на шчаціністыя рыжыя вусы і цяжкі раздвоены падбародак.

Халуста не здагадваўся, аб чым думае Жукоўскі, і нават не ўяўляў, як памыліўся, сеўшы піць чай. Не

ведаў ён, што цяпер не паможа яму ніякая ліслівасць. Каб пагаварыць з Гарасімам, трэба было іначай трымацца.

— Я, пане Жукоўскі, прыйшоў да вас з гаворкаю. І з немалою гаворкаю, пане Жукоўскі. З немало-ою!

— То гаварыце...

— Вашы арандатары ашукваюць вас, пане Жукоўскі.

— Вы мне гаварылі пра гэта.

— І сто разоў скажу, і тысячу разоў скажу, бо я ўжо ўсё падлічыў, колькі яны вам недадалі. Яны вас абабралі! Гэты занудлівы Лявон, то ён і бацьку роднага ашукаў бы, не толькі што нейкага там стрыечнага брата. А Нічыпар, то ліха матары яго! Ён калі ў кузню прыйдзе, то толькі тое і рабі, што глядзі, каб не набраў у кішэню вухналёў.

Гарасім быў гатовы ўцякаць са свае хаты, а гэты шыбенік сядзеў сабе, як дома, і гаварыў.

— Ліха матары іх! Яны вам кожны год недадаюць па сто пудоў. А бульбы колькі! Я не лічу канюшыны, сена, саломы, мякіны! А можа яны грошай не каштуюць, га?

Гарасім толькі моршчыўся, слухаючы Халуставу гаворку.

— Я на вашым месцы, пане Жукоўскі, паказаў бы дулю абодвум браткам, няхай бы яны ведалі, як ашукваць старога чалавека.

— Як гэта дулю? — не зразумеў Гарасім.

— А вось так! — Халуста склаў фігу і падсунуў яе амаль да самага Гарасімавага носа.— Вось так, пане Жукоўскі. Я паказаў бы ім дулю, а сваю паўвалоку аддаў бы ў арэнду другому чалавеку.

Гарасім маўчаў, і Халуста падумаў, што святы дурань прыслухоўваецца да яго слоў і можа нават згодны з ім.

— Я аддаў бы яе ў арэнду другому чалавеку, гаспадару, сумленнаму, не ашуканцу.

«Гэта ты сумленны! — падумаў Гарасім.— Гэтакі злодзей, рабаўнік, супастат...»

— Дык як вы думаеце, пане Жукоўскі? Хіба я не праўду гавару, хіба я выдумляю?

— Я нічога не думаю...

— Бо вы дурны, пане Жукоўскі! Вы, мабыць, думаеце, што на свеце няма людзей з грашыма? Уга!

Гэта ў малінаўцаў, ліха ма-а-тары іх, у кішэнях вецер гуляе. А знайшоўся б чалавек, які плаціў бы вам арэнду без ашуканства.

— Не ведаю я такога чалавека.

— Бо вы зусім дурны, пане Жукоўскі. Вы зусім як бот!

Халуста так усхадзіўся, што забыў усякую прыстойнасць. Ды наогул гэты чалавек мог трымацца ў рамках прыстойнасці толькі перад тым, ад каго залежаў, каго баяўся, а Гарасіму ён не пасаромеўся б і па мордзе пляснуць.

— Ая-яй, ая-яй! От вы ўжо стары чалавек, стары і не вельмі дужы. За вамі догляд патрэбны, вас ужо, як малога, трэба даглядаць, лепш карміць, смачнейшае нешта на стол ставіць. Ды хіба вы не бачылі, як жывуць людзі! Паўвалокі маеце на аднаго, чай п'яце, а ён у вас нішчымны! Гэта ж смех! А каб да гэтага чаю ды яшчэ кілбаска! Сухенькая такая, пахучанькая, хрусь, хрусь, а наверх гарачанькага чаю! Любата! Хіба вам нельга так жыць!

Гэты спакуснік ведаў, што гаворыць. Як ні ненавідзеў яго Гарасім, але адчуваў, што кажа ён праўду. Аднак быў упэўнены, што калі аддасць сваю паўвалоку ў арэнду Халусту, то не возьме і таго, што мае ад сваіх стрыечных братоў.

Тым часам Халуста гаварыў далей.

— Навошта вам гэтая зямля, пане Жукоўскі? Які вы гаспадар! Вы, пане Жукоўскі,— далікатны чалавек, вы свету пабачылі, ведаеце, як жывуць людзі. Вы — пан, пане Жукоўскі! Да вас і Крупскаму далёка! Уга! Ён вашай нагі не варты! Вам трэба прадаць сваю зямлю, палажыць грошы ў казначэйства і жыць на працэнты...

— Пад плотам, як сабака... бо тады і хаты свае не будзе.

— Не, не, не! Гэта трэба абгаварыць пры купчай. Пакінуць сабе хату і сядзібу да смерці. Свой садок, гародзік... Тады, вядома, за зямлю прыйдзецца менш узяць. Затое да смерці ў сваёй хаце, на сваёй сядзібе! Спакой, любата! Чаёк і кілбаска, калі-нікалі чарка... Па-ане Жукоўскі! Ліха матары... Вы яшчэ пакуль што трымаецеся, а пройдзе год-два, ну, пяць-дзесяць — і капыты ўгору!...

«Вельмі скора ты хочаш мяне пахаваць, гад,—

з нянавісцю падумаў Гарасім.— Можа ты скарэй за мяне капыты задзярэш, гнілазубы д'ябал...»

— От тады, пане Жукоўскі, і зямля ваша, і хата, і такі ўдалы садок астануцца Мартыневічу і Нарбутовічу дарам, без капейкі. Прападзе ваша зямелька ні за нюх табакі. А яны таго і чакаюць, ліха матары іх! Я сам чуў. Шэпчуцца, гады. Ды мне і намякаў Нарбутовіч!

Халустава «праўда» Гарасіму вельмі не спадабалася. Па-першае, ён не лічыў сябе настолькі старым, каб паміраць. Не пра смерць ён думаў, іншыя меркаванні прыходзілі ў яго галаву, праўда, не зусім акрэсленыя і яскравыя, але прыемныя да замілавання. Па-другое, яго ўзяла шалёная злосць на Мартыневіча і Нарбутовіча. Няўжо яны чакаюць яго смерці? Відома, чакаюць, пра гэта і думаць няма чаго... Зямля ж ім астанецца... Дармавая зямля! А за зямлю і забіваюць і атручваюць! Не давядзі бог!.. А хіба ў такога разбойніка, як Халуста, здрыганецца рука, калі яму будзе выгадна забіць чалавека? Не, яна і нож у грудзі ўваткне і атруту падасць... А Гарасім паміраць не хацеў. Прадай зямлю гэтаму вылюдку, то ён назаўтра ж адправіць цябе на той свет, каб сядзібу і хату прыбраць. І калі ў Гарасімавай галаве з'явілася думка прадаць зямлю, то толькі не Халусту. Хоць чорту лысаму, а не яму...

Халуста не ведаў, пра што думаў Гарасім, але ён заўважыў, што словы яго падаюць не на пустое месца.

— Дык от, пане Жукоўскі, падумайце.

— Падумаю...

— Так, так, пане Жукоўскі! Дождж за шыю не капае, часу хопіць. Трэба ўсё добра абдумаць, абмазгаваць, ліха матары яго! А такі чалавек, які можа ўзяць у арэнду вашу зямлю, ёсць! Ёсць, пане Жукоўскі! Ён нават можа яе купіць і грошы адразу заплаціць. Ага! Толькі не гаварыце вашым арандатарам, а то яны на дыбкі стануць.

Ох, як цяжка было Гарасіму! Ныла яго сэрца і балела душа. Гэты злодзей і прайдзісвет сваімі бруднымі лапамі схапіў яго за самае балючае месца. Скарэй бы ён ішоў з хаты, даў яму спакой. Ды і ў печы трэба было паліць, выстыла за ноч хата, на двары такі мароз, што дрэвы трашчаць.

— То я, пане Жукоўскі, яшчэ прыйду да вас. Уга! Мы яшчэ пагаворым, мы ўсё абмяркуем.

— Добра,— механічна адказаў Гарасім і, каб мог, схапіў бы гэтае слова і праглынуў яго.

У Халусты блiснулі вочы шалёным радасным бляскам. «Будзеш ты мой, пане Жучок! Божая кароўка! Пападзешся ты, пане Жучку, у маю ручку...»

— Ну, то бывайце здаровенькі, пане Жукоўскі! Мы яшчэ сустрэнемся і пагаворым! Уга!

Калі Халуста выйшаў з Гарасімавай хаты, то на ганку нос у нос сустрэўся з Нічыпарам Мартыневічам. Даўгалыгі, худы, сагнуўшыся ад холаду, ён спяшаўся скарэй у цяпло і на ганку ледзь не збіў Халусту з ног.

— Што ты, аслеп, ліха матары тваёй! Чалавека перад сабой не бачыш, што прэшся, як бык!

— Не заўважыў, пане Халуста!..

— Спіш на хаду, абэлтух.

Ужо на вуліцы Халуста думаў: «Носам чуе сваю бяду! Чуе носам!»

Нядоўга грэўся Нічыпар у Гарасімавай хаце. Тут ён пачуў такое, што ўсярэдзіне адразу стала горача. Гарасім проста ўзбунтаваўся, а Нічыпар быў не такі разумны, каб супакоіць яго. Акрамя таго, яму і ў галаву не прыходзіла, што Гарасім больш злуецца на Яўхіма Халусту, чым на яго і Лявона, і ўсю сваю злосць узлівае на яго аднаго.

Растрывожаны, збіты з панталыку, пасунуўся ён з Гарасімавай хаты і ішоў, не бачачы перад сабой сцежкі, не ведаючы, што і думаць пра гэтага святога вар'ята.

Гарасім тым часам запаліў у печы, сеў пры ёй і пачаў абіраць бульбу на снеданне. Процьма думак была ў яго галаве. Прадаць зямлю! Ды яшчэ Халусту! Не, няма дурных. Прадай сучку ды брашы сам! Перамяніць арандатараў? А хто будзе лепшы? Прамяняеш быка на індыка... Не, не тое! Усё гэта не тое... І ў вачах яго паўставала дзяўчына з поўнымі спрытнымі рукамі і ласкавымі вачыма, у якія паглядзеў стары дурань. І цяпер такія грэшныя думкі лезуць у галаву, што хоць сто разоў чытай малітву «на умерщвление плоти», няма ніякай рады. Не ўтаймоўваецца грэшная плоць. Божа мой, божа! Ды няхай бы гэтая дзяўчына толькі жыла ў яго хаце, абы ён мог глядзець на яе кожную хвіліну, любавацца ёю. Ды каб яна дала такую згоду,

ён бы адразу перапісаў на яе ўсю гаспадарку да апошняй трэскі на двары. І грошы на яе перапісаў бы, бо ёсць трохі і грошай у казначэйстве. Ды ён бы наняў парабка і служанку, каб яна нічога не рабіла, толькі загадвала. А ён бы людзей лячыў, грошы зарабляў. Людзі ходзяць, хваліць бога, і ніхто не ідзе з пустымі рукамі... А потым... а потым, калі ён памрэ, яна яшчэ будзе маладая, то няхай прымака бярэ... Бо ўся гаспадарка будзе яе... Знойдзецца чалавек...

І тут Гарасім успомніў Юзіка Грома! Ён гаспадарыць у яго хаце, у яго двары, на яго нівах, на яго сенажацях. Госпадзі божа мой, колькі пакуты ў душы... Каб не гэты Юзік, пракляты Гром! Хіба не можа так быць, што пры яго жыцці Юзік будзе сустракацца з Аленай! Так жа і бывае, калі стары мужчына ажэніцца з маладой дзяўчынай... Толькі не Юзік, толькі не Халустава адроддзе... «Святы божа, ратуй мяне...»

## РАЗДЗЕЛ ДВАЦЦАЦЬ ПЕРШЫ

Нічыпар Мартыневіч выйшаў ад Гарасіма, калі ўжо развіднелася. Сумныя яго цялячыя вочы сталі яшчэ сумнейшыя, і выглядаў ён так, нібы моцна пабіты. Дарэчы, на гэты раз і ў кішэнях яго было пуста. Аблюбаваў быў сподак з такімі прыгожымі сінімі беражкамі, і забраць яго было вельмі спраўна, але Гарасім так агарошыў Нічыпара, што ён адразу забыўся пра ўсё. «Няйначай, Халуста закруціў галаву гэтаму вар'яту,— думаў Нічыпар.— Няйначай, ён — арыштант, зладзюга гэтакі. Не дадумаўся б сам Гарасім да такога. «Я, кажа, магу, каму захачу, сваю паўвалоку ў арэнду аддаць. Знаходзяцца, кажа, людзі, што плаціць будуць сумленна, не так, як вы, жулікі, ашуканцы. А то прадам». Пра кілбасу надумаўся... Хм... Халустава гэта работа...»

Адным словам, Нічыпар думаў, што трэба нешта рабіць, але што — ён не ведаў. Яго ўзяла трывога. Усё было ціха і добра, пакуль не з'явіўся ў засценку гэты пракляты Халуста. А цяпер усё дагары нагамі стала. Ніколі, бывала, Гарасім не гаварыў пра арэнду, і Нічыпар прывык думаць аб той чвэрці, якую арандаваў, што яна ўжо яго ўласная. А цяпер абы толькі Халуста

пабудзе ў Гарасіма, дык той і шалее. Так было і ў пачатку зімы.

Нельга сказаць, што Нічыпар вельмі жадаў Гарасімавай смерці. Такая думка іншы раз і надакучала, але Нічыпар ведаў, што не вечна будзе жыць святы дурань, прыйдзе час, і выпрастае ён ногі.

Нават думалася, што гэта будзе скора. А от цяпер Нічыпар неймаверна зажадаў Гарасімавай смерці. Ён ужо прашаптаў «Багародзіцу», «Верую» і адначасова горка думаў: «Дзе ты бачыў, каб так скора здох! Чалавек усё жыццё згуляў. Хіба ў яго пуп трашчаў на рабоце ці ён напяўся калі!.. Бачыш, ручкі белыя, як у паненкі, а сам ходзіць проста, не сагнула яго ні бяда, ні работа. Ён яшчэ, калі хочаш, усіх нас пераджыве... Дзіва што! Ніякая халера яго не возьме...» Нічыпар уздыхнуў і пайшоў да Лявона, каб расказаць яму пра ўсё, што чуў сёння ў Гарасіма.

Хата ў Лявона была вялікая, з прасторнымі сенцамі, палавіна якіх была адбіта тоўстымі дошкамі пад камору. У сенцах быў земляны ток, а ў хаце падлога, а такіх хат нямнога было ў Малінаўцы.

Калі Нічыпар зайшоў да Лявона, той, перш чым адказаць на прывітанне, міргнуў сваёй Міхаліне, каб прыбрала ўсё далей ад Нічыпаравых вачэй. Ён жа добра ведаў прывычку свайго стрыечнага брата. Ведала і жонка, таму не вельмі трэба было і падміргваць. Аднак у Нічыпара на гэты раз не было благіх думак. Ён сеў пасярэдзіне лавы, бліжэй да мыцельніка, акурат каля недаплеценага лапця, у які была ўваткнута спіца з гусінай косткі.

Лявон зірнуў на брата хітрымі маленькімі вочкамі і, весела ўсміхнуўшыся, запытаў:

— Што ты сёння як недапечаны, Нічыпар?

— Ай, Лявон... От толькі што ў Гарасіма быў. Ішоў туды і на самым парозе Халусту сустрэў.

— Халусту? — зацікавіўся Лявон.— Нешта ён пачаў туды лазіць... А што табе сказаў Гарасім?

— Што ён казаў!.. Каб ён тое праглынуў. Ён мне столькі нагаварыў, што і дагэтуль вушы вянуць. Вы, кажа, ашукваеце мяне, арэнды не плаціце. Я сваю зямлю, кажа, магу любому ў арэнду аддаць. Ёсць, кажа, такі чалавек, што сумленна плаціць будзе. Вы, кажа, спусташылі зямлю, толькі пустазелле на ёй расце.

— От як! Халустава работа,— здагадаўся і Лявон.

— Я ж і кажу. Падгаворыць гэтага вар'ята. Ці доўга! Бачыш, як спрытна ён Шымкевіча з Малінаўкі выпхнуў. Той і агляну цца не паспеў.

Міхаліна таўкла ў карыце пара ную бульбу. Пара ад яе ўздымалася слупам і запоўніла ўсю хату так, што нічога не было відаць. І вось з гэтай пары пачуўся Міхалінін голас:

— Так табе і трэба! Даўно так трэба. Людзі не спяць у шапку так, як ты спіш. Толькі вочы прадраў, як кот. Халуста не спіць! От забярэ Гарасімаву паўвалоку, тады прачнешся, ды позна будзе.

— Памаўчы ты! — адказаў Лявон, калі ў хаце крыху праяснілася.— Забярэ, забярэ! Не так лёгка забраць, як думае твая дурная галава.

— Твая разумная.

— Сціхні!

— Я, кажа, прадам сваю зямлю, калі захачу,— расказваў далей Нічыпар.— Ёсць, кажа, людзі з грашыма.

— Прада-ам? — павесялелым голасам запытаў Лявон.— Ну, гэта, брат, дудкі! Не прадасць Гарасім свае зямлі.

— Чаму не прадасць? — безнадзейна прамовіў Нічыпар.— Калі пачаў мне пра кілбасу гаварыць, дык хоць вушы затыкай.

— Пра кілбасу? — зарагатаў Лявон.— Што ён пра кілбасу гаварыў?

— Я, кажа, на нішчымніцы сяджу, як старац. У мяне, кажа, кілбасы да чаю няма.

— Да чаю кілбасы? — заліваўся Лявон.— Бачыў ты яго, які панок!

— Смейся, смейся,— сказала Міхаліна.— Глядзі, каб потым не заплакаў.

— Плакаць то я не буду, бо зямлі Гарасім не прадасць. Не тое ў яго ў галаве, калі хочаш ведаць.

— Чаму не прадасць... Таму самаму Халусту...

— Абух ты! Не пра тое думае Гарасім. Ён сам жаніцца мяркуе.

— Жаніцца?! — у адзін голас вымавілі Нічыпар і Міхаліна. Пры гэтым Нічыпар падхапіўся з месца, а Міхаліна выпусціла ■ рук таўкач.

— А што ты думаеш,— ледзь не праз плач сказаў Нічыпар.— Возьме ды ажэніцца. Зямлю на жонку перапіша, знойдзецца на такую гаспадарку і маладая

жанчына. А як здохне Гарасім, то яна прымака возьме, і трапіць зямля да нейкага чужынца. А хіба ён сам перарабіўся! Яму і зносу не будзе, сто гадоў пражыве...

— Ну і дурны ж ты, Нічыпар. Галоўка як макаўка, а розуму... Я ж не кажу, што ён ажэніцца, ён толькі думае пра гэта. Хіба ты не заўважыў, як у яго пачынаюць блішчаць вочы, калі пачынае хто гаварыць пра жанчын? У маладосці святы дурніла не ведаў гэтага, а пад старасць пачала бунтаваць кроў. От ён і аблізваецца, нібы блудлівы кот, абы пачуў пра спадніцу.

— Ого! — азвалася Міхаліна.— Цікава, хто гэта яму пра спадніцы гаворыць! Ці не ты сам?

— Можа і сам. Бо так трэба. Я, калі хочаш ведаць, і ў сваты яго павязу. Вялікая бяда! Да такіх павязу, што за яго не пойдуць, а ён хоць і кот, ды пераборлівы. Хто за яго пойдзе, тую ён не возьме.

— А добра ты кажаш! — раптам ажывіўся Нічыпар.

— А добра ты кажаш! — перадражніў Лявон.— Я не такі дурань, як ты. А што ты кажаш, што ён доўга пражыве, то гэта глупства. Яго першая хвароба так прыцісне, што ён ужо не ўстане. Такія далікатныя — гэта не наш брат, што яго і даўбнёй не заб'еш.

Усхваляваны Нічыпар не ведаў, што сказаць. Сваім кароткім розумам ён адчуваў, што ў Лявонавых словах ёсць нешта хітрае, але спасцігнуць яго не мог.

— Каб ён Халусту зямлю не аддаў у арэнду,— нарэшце вымавіў ён.

— Гэта іншая рэч,— згадзіўся Лявон.— Тут трэба быць напагатове, бо Халуста ўсё можа. Гэты змей любога спакусіць, не толькі такога дурня, як Гарасім.

— То ж і я кажу...

— Ты кажаш! Ты нешта разумнае скажаш, гэтакі няўдалы... Ты гаварыў, што Гарасім пра кілбасу ўспамінаў. Трэба занесці яму кілбасы. Не проста занесці: на табе, Гарасім, кілбасу, але зрабіць гэта з розумам, з падходам. Узяць гарэлкі, кілбасы, сала, сяго-таго ды прыйсці да яго ў госці. Ён хоць і скупы, але гэта любіць, галоўнае — каб госці з усім сваім прыйшлі. Гладзіць яго трэба па поўсці, гаварыць пра тое, што ён любіць, ну, хоць сабе і пра жанок ды пра жаніцьбу. Я нават і ў сваты б яго звазіў, пакуль мясаед не кончыўся. А там пачнецца пост, то тады ўжо ніхто не жэніцца. Як думаеш, Нічыпар?

— Я ўсё пра Халусту думаю. Забярэ ён ад нас гэтую зямлю...

— Не забярэ. Халуста з большай ахвотай купіў бы яе, чым у арэнду ўзяў. Яму арэнда нявыгадна. Яму, калі хочаш ведаць, трэба Грома аддзяліць, от ён і хоча накласці сваю лапу на Гарасімаву паўвалоку. А Гарасім зямлі не прадасць. Толькі нам трэба горла яму заткнуць. Трэба заўтра патрохі пашні яму завезці: на, маўляў, тваю арэнду; грошай патрохі даць.

— Добра ты кажаш...

— А ты, Міхаліна, масла яму занясі, малака гладыш ды здымі з-пад страхі пару сыраў — хто іх у нас будзе есці, цвёрдыя, як камені, а Гарасім іх у чаі размочыць.— Лявон заліўся доўгім смехам.

Нічыпар тым часам сабраўся дахаты. Ён быў цяпер заспакоены і прыязна зірнуў на Лявона, якога не любіў. Ужо на двары ён абмацаў у кішэні спіцу з гусінай косткі і першы раз у жыцці здзівіўся: як яна туды трапіла!

Лявон тым часам высунуў з-пад лавы калодачку, сеў на яе і ўзяўся за лапаць, які меў падплесці. Спіцы не было. Ён сагнуўся, паглядзеў пад лавай, і там не было.

— Дзе ты яе дзявала? — звярнуўся ён да Міхаліны.

— Што?

— Спіцу, лапці падплятаць.

— Не бачыла я тваё спіцы. Тут жа Нічыпар сядзеў.

— От сугней пракляты! — вылаяўся Лявон і без шапкі рынуўся на двор.

Нічыпар у гэты час зачыняў ад вуліцы вароты.

— Нічыпар! Вярніся! — гукнуў яго Лявон.

Нічыпар пачуў Лявонаў вокліч і пайшоў да брата, угадваючы, што цяпер той яму скажа. Вылае, вядома, як сабаку... У Лявона мерзлі вушы, ён не мог чакаць, пакуль да яго прыйдзе Нічыпар, і сам кінуўся насустрач.

— Давай спіцу, паскуднік.

— Якую спіцу, Лявон?..

— Не ведаеш якую?

Лявон засунуў руку спачатку ў адну Нічыпараву кішэню, потым у другую і выняў спіцу.

— От гэтую самую, свінтух!

Тады размахнуўся, пляснуў Нічыпару спачатку ў адну шчаку, потым у другую.

— От якую спіцу, паскуднік!

Памкнуўся быў ісці ў хату, але рашуча павярнуўся да Нічыпара:

— Дурань! Абух! Красці не ўмееш. Нашто табе гэтае г...? Ты можа і ў Гарасіма, што трапіць пад руку, то ў кішэню пхаеш? Глядзі, дурніла, каб гэтага больш не было!

Хацеў яшчэ нешта сказаць, але хапіўся за вушы і, як малады жарэбчык, памчаўся ў хату.

Вечарам Якаву трэба было пабыць у двух месцах: сустрэцца з Андрэем і абавязкова схадзіць у маёнтак да Станіслава.

Старога Халусты не было дома, і Якаў думаў: якая нячыстая сіла ганяе гэтага д'ябла ў апошні час, чаго ён шукае, якую пастку некаму рыхтуе? Аднак сёння Якаву было на руку, што старога злодзея няма дома.

Калі прыйшла пара карміць на ноч худобу, Якаў сказаў Грому:

— Можа б ты, Юзік, управіўся сёння адзін? Сам ведаеш, мне трэба ў Чыжэвічы схадзіць да брата.

— Ідзі. Упраўляўся ж гэтыя дні без цябе...— ён трохі падумаў, скрывіўся.— Мікалай, вунь бачыш, сёння ўвесь дзень у Чыжэвічах гарэлку п'е, а Юзіку і дыхнуць некалі... От якая праўда.

— Я табе прынясу паўкварты, Юзік.

— То ўжо кварту нясі, чаго там! Я табе заплачу.

— Добра, прынясу кварту.

— То ідзі, пакуль старога няма... А я тут упраўлюся.

— Адчыніш мне ноччу, Юзік.

— Адчыню, не бойся. Толькі ты ў акно стукні.

Якаў першым чынам пайшоў да Андрэя. На двары яшчэ не змеркла, але вечар ужо набліжаўся.

Якаў цяпер іншымі вачыма глядзеў на засценак. Было ў ім ужо нешта сваё, прывычнае, такое, якога шкада пакінуць, хоць і жылося тут вельмі нялёгка. Да ўсяго можна прывыкнуць, і, мабыць, да дрэннага чалавек прывыкае гэтак жа скора, як і да добрага. І тут жа супрацьлеглая думка з'явілася ў галаве. Не! Каб не было тут Андрэя і Івана, нават няшчаснага Юзіка Гро-

ма, каб адчуваў сябе адзінокім і чужым для ўсіх, то хіба прывык бы!

З Андрэевага двара Якаў убачыў, што гумно адчынена, і накіраваўся туды. І не памыліўся: Андрэй і Іван былі ў гумне.

Павіталіся стрымана, але радасна.

— Значыць, адслужыў? — весела запытаў Андрэй, паціснуўшы Якаву руку.— Ты не ведаеш, як я рады!

— Я таксама рады, Андрэй. Сам не чакаў такога.

— А Халуста сюды рукі не прыклаў?

— Не, Андрэй. У Расіі яшчэ салдатаў хапае і не такіх, як я. От калі зацягнецца вайна, то не паглядзяць у зубы і мне, а можа і табе.

Якаў раптам перамяніў тон.

— Паклон вам абодвум, хлопцы, ад Марціна.

— Ну, як ён там, Якаў? — узгарэўся Іван.

— За яго баяцца нечага, воўк страляны, разумны і хітры. Толькі вусы падкручвае. Фельчар у войску, Іван, не апошняя спіца ў коле, асабліва такі, як твой дзядзька.

— Кніжак тваіх мы яшчэ не чыталі, Якаў.

— Дзе ты іх хаваеш?

— Запытай у Івана. У хаце мы іх не хаваем.

— Правільна. Я, Андрэй, іду ў маёнтак. Трэба выбраць час ды абодвум нам схадзіць туды.

— Сходзім. Я яшчэ сам сабе гаспадар, куды захачу, туды і іду. Але пакуль не кончым вазіць сена, нікуды мне няма дарогі.

У гэты момант ён успомніў Ганну, і туга запаланіла яго душу. Але цягнулася гэта нядоўга.

— Нікуды мне няма дарогі,— паўтарыў ён.— А цяпер трэба Яну памагчы сена вазіць. Чаго ён варты без Тамаша! Заўтра паедзем утрох на чатырох падводах. Ведаеш, як будзе лёгка на Волі ды з поўнымі вазамі ў дарозе... А ў гумнах скласці! На дзве гаспадаркі рабіць не лёгка. Хопіць і Івану, не толькі мне.

— Ведаю, Андрэй... Ну, пайду я, браткі.

— Ідзі, Якаў.

Калі Якаў пайшоў, туга зноў апанавала Андрэя. Колькі часу не бачыў Ганны. Як ад Хмялеўскага ехаў у пачатку зімы, то ў мястэчку сустрэўся. А хіба вельмі ўспамінаў, многа думаў? Ды ці было калі думаць! Абы зваліўся на ложак, дык адразу і заснуў... І можа

так усё жыццё... Жыць без мэты! Не! Вунь і Якаў робіць, ды на каго робіць! На праклятага Халусту. Але ці прыходзяць да яго такія думкі, ці лічыць ён сваё жыццё бязмэтным? Вядома ж, не! Вунь ён пайшоў у маёнтак, вернецца пасля поўначы, а заўтра ўвесь дзень на Волі, хіба яму лёгка? Затое ў яго маёнтку ёсць таварышы, што памагаюць яму жыць, змагацца! Вось іменна, змагацца! І, мабыць, у гэтым шчасце: у змаганні, у барацьбе...

— Іван,— сказаў ён.— Вазьмі тыя кніжкі. Сёння пасядзім, пачытаем.

Якаў і сапраўды ішоў дадому пасля поўначы. Быў упэўнены, што нямала прыйдзецца пагрукаць у дзверы, пакуль прачнецца Юзік, бо стукаць у акно не хацеў: стары злодзей усшалее, не любіць, каб у акно стукалі. Аднак, яшчэ не дайшоўшы да брамы, ён зразумеў, што ў Халуставым двары нешта робіцца. І сапраўды: Юзік, лаючыся, распрагаў кабылу, а стары Халуста, п'яны, качаўся па снезе і лаяўся яшчэ адмысловей, чым Юзік.

— Падымі! Ліха матары тваёй, злодзей, Гром, раскол, сабака, падымі!

— Паспееш, бацька!

— Па-падымі-і-і, сукін сын!

— От кабылу распрагу ды ў хлеў завяду. Не здохнеш!

— Каму ты гэта гаворыш! Арыштант, разбойнік, абэлтух...

Халуста спрабаваў падняцца; іншы раз яму ўдавалася стаць ракам, але ён зноў валіўся на зямлю.

— Па-па-падымі, гад, бо-бо за-заб'ю.

— Не заб'еш. Кабыла ў пене прыйшла, так гнаў.

— Яна сама-ма бе-бегла.

Стары шэльма змёрз, бо язык не слухаўся яго. Юзік не звяртаў на бацьку ўвагі. Выпраг кабылу і павёў яе ў хлеў. Якаў падышоў да Халусты і паставіў яго на ногі. Халуста быў цяжкі, як зямля. Сам ён стаяць не мог, таму аберуч абхапіў Якава.

— А гэта-та ты, гад, са-сацы... накольнік, басяк, за-ба-баба... сто...

— Не лайся, а то кіну ў снег.

— Я ва-вам па-пакажу-у! Ю-юрачкі Хмя...леўскія ды Га-гарасімы Жу-жучкі... Вы-вы ў ма-маім кулачку-у!

Тым часам падышоў Юзік, які, відаць, не вельмі спяшаўся.

— Нясіце мя-мяне! — крычаў Халуста, павісшы на руках у сына і парабка.— Нясіце, ліха матары вашай!

— Не крычы, бацька.

— Бу-буду крычаць! Ха-хачу крычаць! Я вам папакажу-у! Жу-жучкі ды Ю-юрачкі! На, цю, на! Хі-хі-хі!

— Зусім звар'яцеў,— прабурчаў Юзік.

— Не бойся, не звар'яцеў,— адказаў Якаў.

Ён зразумеў п'яныя Халуставы словы пра Жучкоў ды Юрачкаў.

## РАЗДЗЕЛ ДВАЦЦАЦЬ ДРУГІ

У суботу вечарам, калі трохі сцямнела, Якаў зайшоў па Андрэя і Івана. Хлопцы яго ўжо чакалі і адразу пачалі апранацца.

— Куды ты павядзеш іх, Якаў? — запытала Алена не то жартам, не то ўсур'ёз.

— Пазнаёмлю хлопцаў з чыжэвіцкімі дзяўчатамі. Можа Андрэй выбера якую мужычку ды замуж возьме.

Алена падазрона зірнула на Андрэя, потым на Івана і пагардліва хмыкнула.

— Хадзем, Якаў,— прамовіў Андрэй, каб кончыць гэтую недарэчную гаворку.

На двары пачало падмарожваць, і ісці было лёгка і весела, бо гэта ўжо быў не зімовы, а веснавы марозік, які толькі ноччу трохі і ўбіраўся ў сілу. Усё навокал было звонкае, бліскучае, як са шкла. Напалову вышчарблены месяц стаяў у небе, і ледзячкі пад стрэхамі былі жоўтыя, як адлітыя з золата. Снег трохі асеў у апошнія дні, і засцянковыя будынкі і платы ад гэтага нібы падраслі.

Дарога ніяк не сцягнулася. Здаецца, толькі што выйшлі з Малінаўкі, а вось ужо і Чыжэвічы, а ад іх да маёнтка менш за вярсту. Ён віднеўся як чорная пляма на беразе Случы.

Настрой у Андрэя быў узнёслы. Ні пра што не хацелася гаварыць і думаць; так ішоў бы і ішоў да нейкага лепшага берага, да яснай мэты, што так уладарна кліча наперад. Даўно не было ў Андрэя такога бадзёрага і шчаслівага пачуцця. Уся чарната і нэндза, клопат і трывога зніклі, нібы абтрасліся, калі яны выйшлі з засценка.

Маёнтак сустрэў хлопцаў незразумелай трывожнай цішынёй і затоеным сумам. Здавалася, што кожны будынак хавае ў сабе невыказнае гора, неймаверную тугу. Можа такое ўражанне стварыла ноч, цені ад камяніц, але ўзнёслы Андрэеў настрой адразу знік. «Я, мабыць, не выжыў бы тут...— падумаў ён.— Астрожнае паселішча...» Толькі прайшоўшы другі шырокі двор, утараваны скацінай, Андрэй адчуў сябе лепш. Хлопцы апынуліся каля самай Случы, і тут нібы пачынаўся іншы свет. Дом Станіслава стаяў убаку ад маёнтка ў невялікім садку і здаваўся вельмі ўтульным, цёплым і гасцінным, зусім не падобным да нізкіх панурых камяніц. За ракой ляжаў луг, укрыты снегам, за ім віднелася чорная палоса лесу ў начной смузе. Адчуванне прастору і свабоды раптам ахапіла Андрэя. «Што гэта са мной робіцца сёння?» — мімаволі падумаў ён. Тым часам Якаў неяк па-свойму пастукаў у дзверы, і іх скора адчыніла прыгожая маладая кабета.

У хаце Андрэй пазнаў усіх: і Паўла Квітуна, і Міхаля Рожку, і Платона Шабуню. Пазнаў са слоў Якава, які расказаў яму пра сваіх таварышаў. Ён іх і ўяўляў такімі. Павел глядзіць адкрыта, шчыра, радасна, з ледзь прыкметнай усмешкай; Міхаль са стрыманай цікаўнасцю, толькі позірк Платона быў цяжкі, не вельмі зычлівы. Гэты позірк не спадабаўся Андрэю, хоць ён і ведаў, што Платон інакш яго не сустрэне. Андрэй па звычцы нават насцярожыўся, не любіў недаверлівых людзей, але тут Станіслаў пачаў яго і Івана знаёміць з хлопцамі. Божа, як зачырванеўся сарамлівы Іванка! Ён гатовы быў успыхнуць і згарэць... Поціскі рук былі сяброўскія, моцныя — поціскі таварышаў, а не выпадковых знаёмых.

— Пазнаёмцеся, хлопцы, і з жонкай маёй,— звярнуўся да іх Станіслаў.— Ды скажы мне, таварыш,— звярнуўся ён да Андрэя,—дзе ж твой рондзель?

Усе зарагаталі. Нават Платон усміхнуўся. І гэты сяброўскі рогат, гэтая Платонава ўсмешка скасавалі ўсю Андрэеву насцярожанасць. Ён паціснуў Ядвізе руку і, павярнуўшыся да Станіслава, сказаў:

— А можа сёння як абыдземся без рондзеля?

— Сёння абыдземся, але ён нам яшчэ згодзіцца. Распранайцеся, хлопцы, і садзіцеся.

Гаворка пачалася адразу. Пытанні, якія Станіслаў задаваў Андрэю, датычыліся нібы толькі аднаго Ан-

дрэя, але калі той пачынаў адказваць, то мімаволі гаварыў пра ўсю Малінаўку. Пра зямлю, палова якой — маргоўскія пяскі, на якіх нішто не хоча расці; пра балота Волю, што захлынаецца ў вадзе, абы толькі прайшоў лішні дождж. Расказаў пра Яўхіма Халусту і Сымона Ашакевіча, пра засцянковую цемру і галечу. Ён адчуў такую прыязнасць да гэтых людзей, такі давер, што яму захацелася расказаць і пра сябе, пра свае клопаты і беды, што хоць ён і не апошні гаспадар у Малінаўцы, а ўсё роўна не можа цвёрда стаць на ногі, вылезці з нястач.

— Чуеш, Платон, як жыве шляхта? — запытаў Станіслаў.

— Чую... Але ўсё роўна гэта шляхта. З намі ёй не па дарозе...

І тут Андрэй успыхнуў.

— Не па дарозе, кажаш! Халусту не па дарозе! Нарбутовічу і Мартыневічу не па дарозе! А такім, як Сымон Ашакевіч і я, акурат па дарозе. І такіх у нас большасць! Чытаў Леніна «Да сялянскай бедната»? Ён там паказвае дарогу беднякам. А ты запытай у Якава, як жыве беднатa ў Чыжэвічах, хоць бы яго брат Піліп. А пра шляхту... То не яны вінаваты ў сваім лапцюжным шляхецтве. Цемра вінавата... ды можа гэтае самае шляхецтва і закрывае ад іх белы свет.

Станіслаў усміхнуўся і зірнуў на Якава, нібы хацеў сказаць: «Добрага хлапца выхаваў ты, таварыш». Толькі Платон не хацеў здавацца.

— Сам кажаш, што шляхецтва вам замінае...

— Дык ты большы шляхціц за мяне! — адрэзаў Андрэй.— Я абтрос сваё шляхецтва, а ты сваё хамства так узняў, што і носа фігай не дастанеш.

Усе зарагаталі, а Платон пачырванеў.

— Брава, Андрэй! — весела выгукнуў Станіслаў.— Што? Атрымаў, Платон?

Ядвіга з цікаўнасцю глядзела на Андрэя. «А, мабыць, такі і праўда, што з ім да трох не гавары,— думала яна.— Аднак які цікавы ў яго твар! Непрыгожы, нават грубаваты, але нейкі праўдзівы і шчыры. Такі твар запамінаецца назаўсёды, яго не забудзеш».

— Пра мяне і Якаў так думаў, як думаеш ты, Платон,— раздумліва і з гарчэчай сказаў Андрэй.— Такая мая натура, і некаму здаецца, што я ганарлівы шляхцюк...

— Хопіць, Андрэй,— прамовіў Якаў, крануўшы яго за плячо.— Платон бачыць цябе першы раз, і ў яго свае думкі пра шляхту. Але ён ужо цяпер думае пра цябе іначай, чым думаў спачатку. Так, Платон? Ну дык і кінем гэтую гаворку. Што ў вас у маёнтку робіцца, хлопцы?

— Шмат чаго робіцца, Якаў. І не толькі ў маёнтку. Сёе-тое робіцца і ў сяле. Група наша расце і будзе расці. Ёсць людзі і ў маёнтку і ў сяле, якія пойдуць за намі. Скора ў нас пачнецца навальніца, загрымяць перуны. Надышла пара, Якаў, спыняць і бровар і млын. Гендарсан забыў пра восень. Пакажам яму і вясну.

— Вы ўсё прадугледзелі?

— Усё, Якаў, усё, да драбніцы. Мы ведаем не толькі тое, што робіць Гендарсан, але і тое, што ён думае рабіць. У нас усюды свае вочы, Якаў. Гендарсан сам дасць нам у рукі павадок. Ну, а кіраваць будзем мы.

— А гер Шварцкопф не замінае вам?

— Я сказаў бы, што не. Ён не такі дурны, не дарэмна быў у Рызе шпікам. Без работы ў Рызе ён, мабыць, нагаладаўся. Ён баіцца Гендарсана, бо аконам са старшым механікам не ў вялікіх ладах. Рыжскі майстар не хоча страціць работу ў маёнтку, аконам яго можа прагнаць. Гарбаты Ясь вяжа ім хвасты, бо Шварцкопф замінае яму ў млыне. А нас ён баіцца больш, чым аконам. Ён адчувае, што ў маёнтку нешта робіцца, шпікоўская натура! А крануць нас не асмельваецца, разумее, што млын і бровар у нашых руках. Ён не прыжыўся тут, гэты Шварцкопф. І не прыжывецца.

— Ты кажаш, што сам аконам дасць вам у рукі павадок. Растлумач, што гэта за павадок і ці ўтрымаеце вы яго ў сваіх руках.

— Утрымаем, Якаў. З маёнтка пайшло на вайну дваццаць тры работнікі, прытым лепшыя работнікі, маладзейшыя. Нават калі яны былі, парабкаў не хапала, людзі не мелі адпачынку. Уяві, што робіцца цяпер! Людзі працуюць за дваіх, за траіх, але пакуль што церпяць, бо спадзяюцца, што аконам усё-такі найме людзей на месца тых, хто пайшоў на вайну. А аконам лічыць, што так і павінна быць, і зусім не думае некага наймаць. Людзі нашы цярплівыя, але кожнаму цярпенню прыходзіць канец. А мы ў шапку не спім, мы растлумачваем людзям, чаго хоча аконам, а веры яму

ўжо даўно няма. Людзі пойдуць за намі. Тады мы спынім бровар і млын. Маёнтак пачне канаць.

— О чорт! Зайздрошчу вам, таварышы...

— Калі пачнецца, мы адразу паведамім табе, Якаў. Вы там у Малінаўцы павінны быць у курсе ўсіх спраў. І можа табе прыйдзецца самому кінуць пана Халусту. Гендарсан памчыцца ў Чыжэвічы па работнікаў, каб замяніць парабкаў і парабчанак, то ты павінен быць у сяле, Якаў. Туды мы прымацавалі Паўла, але ж ён парабак, ведаеш, як на нас глядзяць сяляне, а ты сам сялянскі сын.

— Я буду ў сяле. Я нават заўтра там буду і, вядома ж, не буду сядзець склаўшы рукі. Мне ж там уся моладзь знаёма.

— Добра. А ў Малінаўку Гендарсан не паедзе.

— Каб ён і прыехаў, то з Малінаўкі ніхто ў маёнтак не пойдзе. Усё ж такі шляхта, самі сябе панкамі лічаць... Але крыўдна, што я астаюся збоку... Проста крыўдна...

— Няма ніякай крыўды. Рэвалюцыя толькі пачынаецца, Андрэй, ты нам яшчэ спатрэбішся. А пакуль што мы павінны берагчы цябе. Павінны берагчы для большага.

Іван дагэтуль маўчаў. Ён саромеўся гаварыць з дарослымі, бо лічыў, што ўсе глядзяць на яго як на малога. Калі ж пачалася гаворка пра Чыжэвічы, ён не стрымаўся:

— А мая мама заўсёды ў маёнтак на заработкі ходзіць, абы толькі работа была... То хіба я не магу ёй сказаць...

— Не толькі можаш, а павінен. Толькі гаварыць трэба разумна. Твая мама, Іван, увосень нам здорава памагла.

Іван заліўся чырванню.

— Я ведаю... І пагаварыць я сумею...

Ён агледзеў усіх прысутных.

— Здаецца, мы аб усім дамовіліся, таварышы.

— Аб усім. І пара ўжо разыходзіцца. Не за гарамі мы жывём. Калі што якое, можна сустрэцца зноў,— зазначыў Якаў.

Андрэй узняўся з месца. Усе пачалі развітвацца.

— Дык ты не раскайваешся, Андрэй, што звязаўся з намі? — на адыходзе запытаў Станіслаў.

— Я? Ды я гатовы ўзняцца і паляцець! За ўсю

восень і зіму першы раз адчуў, што на свеце жыву. Не гнію, а жыву.

Станіслаў здагадваўся, якія пачуцці перапаўняюць Андрэеву душу, якія думкі бушуюць у галаве. Успомніў, як сам першы раз быў на сходзе гуртка сацыялдэмакратаў у Пецярбургу. Выйшаў на двор, і от таксама, як сёння Андрэю, захацелася ўзняцца і палящець. Нібы крылы выраслі.

Ён развітаўся з Андрэем на ганку.

Хлопцы да самых Чыжэвіч ішлі моўчкі. Кожны думаў, і хоць думкі былі прыблізна аднолькавыя, але не хацелася іх нікому выказваць. Ды ці можна было выказаць такія думкі!

У сяле развіталіся. Якаў і Іван пайшлі да сваіх родных, а Андрэй пашыбаваў у Малінаўку. Ці першы раз быў ён ноччу ў дарозе! І на кані і пехатою!.. Але сёння было іншае падарожжа. І ноч іншая, не падобная на тыя. Тыя ночы былі шэрыя, сумныя, доўгія. Хацелася скарэй дадому, легчы ў ложак і забыць пра ўсё. А сённяшняя ноч была святочная! Такая, якой ніколі не забудзеш... Бо і снег, заліты месячным святлом, і неба, абсыпанае залатымі зоркамі, і марозная смуга, падобная на туман, што навісла над засценкам,— усё здавалася чыстым, светлым і ўрачыстым...

Ніколі не думаў Андрэй, што нехта абчэрніць, забрудзіць гэтую ціхую чыстую ноч, сапсуе яго шчаслівы дзівосны настрой.

Чалавечую постаць Андрэй убачыў нечакана. Хтосьці ішоў насустрач.

Пазбегнуць сустрэчы Андрэй не мог. «Хто гэта ў такі час?» — мільганула ў яго галаве. А чалавек тым часам набліжаўся, і нешта знаёмае было ў яго хадзе і постаці.

— Добрае здароўечка, пане Андрэй.

Хаім Ножык стаяў насупроць, і выгляд яго быў нейкі здзеклівы.

Андрэй не адказаў. «З Малінаўкі ідзеш, ад злодзея Халусты, гад ты печаны...»

— Адкуль так позна ідзяце, пане Андрэй?

У Андрэя ўсё закіпела ўсярэдзіне, але ён ведаў, што павінен стрымаць сябе.

— З сяла. Але што вам да таго, адкуль я іду? Я ж не пытаюся ў вас, адкуль ідзяце вы.

— Ну, але! — Хаім хіхікнуў, і ў яго прыглушаным

смеху адчувалася здзеклівасць.— Ну, але, пане Андрэй! Што мне да таго, адкуль ідзяце вы! Альбо што вам да таго, адкуль іду я! Мы адзін аднаго не бачылі, пане Андрэй... Мы не сустракаліся на дарозе між Чыжэвічамі і Малінаўкай.

— Я не са зладзейства іду. Не з крадзяжу.

— Ну, але! Хіба я што кажу! Я нічога не кажу, пане Андрэй! Я вас сёння не бачыў.

— А я вас бачыў, пане Ножык. Мне няма чаго баяцца. І вы мяне бачылі. Але можа вам трэба хавацца ад людзей?

— Нашто так гаварыць, пане Андрэй! Нашто так гаварыць! Я вам нічога не зрабіў, і вы мне нічога не зрабілі... То нашто нам блага думаць адзін пра аднаго! Людзі і сустракаюцца, і разыходзяцца, і жывуць сабе пацішу... Нібы нічога не было. Так бывае лепш, пане Андрэй. Так бывае намнога лепш...

Андрэя закалаціла пасля гэтых слоў. «Мярзотнік! Яшчэ запалохвае!..» Ён узяў Хаіма за грудзі і страсянуў яго.

— Дык от, Хаім Ножык, ідзі сваёй дарогай. Падзякуй свайму богу, што размінуўся са мной дабром. І помні: не сустракайся больш на маёй дарозе.

— Пане Андрэй... Вы з мяне вытраслі ўсе вантробы... Але я ўсё роўна нічога да вас не маю... Хіба я хацеў? Уй! Я гэтага не хацеў! Нашто мне было вас сустракаць!..

Андрэй не слухаў яго: ступіў убок і пайшоў да засценка, не азіраючыся.

«Прыгодлівы ты, мой брат»,— казаў яму калісьці Ян. «І сапраўды прыгодлівы,— думаў Андрэй.— Каб ішоў хто другі, то ніякага чорта не сустрэў бы, а тут на табе: нос у нос з Хаімам Ножыкам. Але ж гэты абармот нечага баіцца. Не хоча, каб нехта ведаў, што ён ноччу быў у Малінаўцы. У каго? Ды вядома ж, у Яўхіма Халусты. Справы ў іх цёмныя, зладзейскія».

З такімі думкамі непрыметна прыйшоў дадому. Маці, мабыць, здзівілася, так позна адчыняючы дзверы сыну, але нічога не сказала.

— Алена спіць? — шэптам запытаў Андрэй.

— Спіць, сынок.

— Не запальвайце агню. Вячэраць не буду.

«Дрэнна, калі ва ўласнай хаце трэба асцерагацца сваіх родных»,— падумаў Андрэй, кладучыся ў ложак.

У панядзелак раніцай расказаў пра сваю начную сустрэчу Івану, а вечарам загадаў яму пазваць Якава і чакаў яго нецярпліва. Якаў прыйшоў позна, затое Алены не было дома, а маці спала. Андрэй падрабязна расказаў яму пра гаворку з Хаімам, не мінуўшы і таго, што добра такі страсянуў праклятага злодзея.

— Не твая віна, што ты з ім сустрэўся,— сказаў Якаў.— Гэта выпадак. Няўдалы, вельмі няўдалы выпадак, але нічога не зробіш. Толькі дарэмна ты браў яго за грудзі.

— Не мог стрымацца.

— Дрэнна. Павінен стрымлівацца. Які ж рэвалюцыянер выйдзе з цябе, калі ты не можаш трымаць сябе ў руках. Станіслаў бы табе не тое яшчэ сказаў, а Платон — сам ведаеш.

— Ведаю, што я дурань...

— Позна раскайвацца. Улічы гэта наперад. А Хаім будзе маўчаць. Ён больш за цябе хоча, каб пра вашу сустрэчу ніхто не ведаў. Нам гэта на руку. Толькі помні, Андрэй: вытрымка — галоўная якасць рэвалюцыянера. Даволі адной памылкі, каб паставіць пад удар усю справу.

— Я і сам ведаю, Якаў... Каб ён не хіхікнуў, не пачаў запалохваць, то я стрымаўся б. Ён мяне паставіў нароўні з сабой, нібы і я, як ён, іду са зладзейскай работы. Яны ж з Халустам зноў нечую долю адабраць хочуць.

— А ты перашкодзіў ім, калі страсянуў Хаіма?

— Якаў! — раптам горача загаварыў Андрэй.— Ты ведаеш, які быў у мяне настрой, пакуль я не сустрэў Хаіма? Я гатовы быў спяваць, ляцець, у мяне ўсё свяцілася і ў самім сабе і навокал... А ён, гад...

— Ведаю, Андрэй. Ён апаганіў увесь твой настрой.

— Але, браце... Ён забрудзіў усё маё святое...

## РАЗДЗЕЛ ДВАЦЦАЦЬ ТРЭЦІ

Апошні паехаў судовы прыстаў. Двор Хмялеўскага і дарога каля хутара былі вытараваны конскімі капытамі і палазамі саней. Пад паветкай каля пограба стаяла толькі адна падвода; гэта Яўхім Халуста яшчэ раз аглядаў хутар, які з сённяшняга дня стаў яго ўласным. «Спáліць!..— думаў ён пра Хмялеўскага.— Ліха

матары яго, спаліць!.. Хіба доўга? Суне вугаль у салому, і ўсё паляціць дымам да аблокаў...» Каб Халуста быў на месцы Хмялеўскага, то так і было б. Замест хутара лягло б тут папялішча. Халуста нават і не думаў, што акрамя пажару тут і ім можа адбыцца нешта горшае. Ён адчуваў сябе смела, упэўнена і самастойна, як гаспадар.

Юрка Хмялеўскі, нібы аглушаны, стаяў сярод хаты, якая ўжо была не яго. Ён нічога не бачыў і не чуў; чалавек аслупянеў ад гора і адчаю, страціў здольнасць нешта разумець.

Настася, збялелая і састарэлая за гэты дзень, сядзела на ложку, апчапіўшы рукамі галаву. Слёз у яе не было; яна даўно выплакала іх, яшчэ да таго дня, калі Юрка прыехаў з суда са страшнай весткай аб тым, што Халуста адсудзіў у іх хутар. Але Юрка не разумеў усяе глыбіні таго, што адбылося, ён усё яшчэ на нешта спадзяваўся; чакаў, што ўмяшаецца нейкая сіла і выратуе яго. Настася ні на што не спадзявалася: яна помніла, як зірнуў стары Халуста на Юрку, калі той сказаў пра вэксаль: ён ужо тады гатовы быў праглынуць іх усіх.

Напалоханыя дзеці стаялі каля маткі, трымаючыся за яе. Яны не разумелі таго, што адбылося сёння ў іх хаце, але здагадваліся, што нешта нядобрае. Толькі старэйшы, Васілёк, ведаў: прадалі іх хутар. Хату, гумно, хлявы — усё...

— Мама! Яго трэба забіць! Гэтага злога Халусту...

— Сціхні, сынок...

— Яго забіць трэба, мама! — горача шаптаў ён.— Чаму наш тата яго не заб'е?

Гэтыя словы дзіцяці нібы абудзілі Хмялеўскага ад сну. Ён расплюшчыў вочы і зірнуў вакол сябе. У хаце ўсё было раскідана, рэчы валяліся на падлозе. Хату выстудзілі за дзень, бесперапынку адчыняючы дзверы. Людзей было нямнога, мала больш, чым начальства, і ніхто нічога не купіў. Усё купіў Халуста: зямлю, будынкі, нават паркан. Адным словам, за доўг Халусту была прададзена ўся гаспадарка таму ж самаму Халусту. Толькі худоба асталася Юрку. Каб аплаціць доўг, хапіла і без яе.

У гэты момант Халуста ўвайшоў у хату.

— А ты, братачка, жыві, жыві! — сказаў ён, падыходзячы да Хмялеўскага.— Жыві, братачка, арандуй

мой хутар! Я цябе не праганяю. Уга! А ты ж акрамя таго і ляснік! Жыць будзеш, ліха матары тваёй.

«Людажэр! «Мой хутар». Быў тут хутар! Лес ды балота. Юрка з жонкай з лесу зрабілі раллю, а з балота сенажаць».

Юрка не адказаў. Ён зноў стаяў, схіліўшы галаву. Страшэнная нянавісць загарэлася ў яго сэрцы і высушыла яго. Усярэдзіне ўсё так зачарсцвела, што ён не мог вымавіць слова.

— Толькі, братачка, пільнуй маіх будынкаў. Каб не згарэлі. Бо калі што якое, то, братачка, вінаваты будзеш ты. Бо, вядома ж, у цябе цяпер поўна злосці, а калі чалавек у злосці, то ён...

— Па сабе судзіш, гад! — вырвалася ў Хмялеўскага.— А я от заб'ю цябе. Не выпушчу з хаты жывога.

— Што?..

Халуста пабялеў, як снег.

— Заб'ю. Ускіну на сані, і няхай вязе кабыла дахаты дохлага.

Юрка не крычаў, не пагражаў, ён гаварыў спакойна і ўпэўнена, нібы даўно надумаў гэта, і Халусту было яшчэ больш страшна.

— Ш-што?.. Т-ты мне п-пагражаеш?.. Я... я... ліха м-матары...— Халуста заляскаў бы зубамі, каб яны былі здаровыя. Ён заслініўся, але рынуцца наўцёкі не мог: не неслі ногі. І ведаў, што калі Хмялеўскі надумаў яго забіць, то нікуды ён не ўцячэ. «Чорт пакінуў тут мяне аднаго...» — ліхаманкава круцілася ў галаве.

— Т-ты п-пагражаеш...— лепятаў ён не сваім языком.

— Не пагражаю, а заб'ю.

— Юрка, Юрачка! — Настася кінулася да мужа, які не быў падобны на сябе.— Хіба ты не думаеш пра нас!..

Хмялеўскі затуманеным позіркам акінуў жонку, дзяцей, і вочы яго пасвятлелі.

— Не бойся, Настася, я яго не крану. Я не душагуб.

Ён узяў Халусту за каўнер і страсянуў.

— Ты мяне загубіў, злодзей... Ведаеш ты гэта?

Халуста трохі пасмялеў, калі за яго заступілася Настася, але ніжняя сківаца яго дрыжала.

— А я, б-братачка, п-па з-закону...

— Па закону! — Хмялеўскі скрыгануў зубамі.

У гэты момант ён быў страшны.— Дык гэта ты пры-язджаў той раз на мой хутар паглядзець? Ацаніць, чаго ён варты? А я цябе як госця прыняў... Гад ты печаны!

— А я, я, я...

— Як жа ты скора мяне з'еў, Халуста!

— А я, братачка, і раней...

— Гад ты, гад! Ты ўжо і раней капаў мне яму, як я табе дубы з панскага лесу краў. От калі ты праўду сказаў.

— Я цябе, б-братачка, не ганю...

— І не прагоніш! Бо калі ты мяне з дзецьмі выпхнеш за парог, то мне і маёй сям'і ўсё роўна гінуць. Усё роўна, гад! Я тады спалю не толькі гэтыя Крушнікі. Я спалю цябе і ў Малінаўцы. Так спалю, што ты і сам згарыш разам са сваім дабром. А не згарыш, то заб'ю! А мне ці турма, ці смерць — без розніцы.

Халуста разумеў, што Хмялеўскі кажа праўду, і на душы ў яго стала моташна. Ён думаў, Юрка падзякуе, што не гоняць з хутара, а выйшла зусім інакш. Ён памкнуўся нешта сказаць, але Хмялеўскі схапіў яго за каўнер, вывалак на ганак і шпурнуў у снег, паддаўшы ззаду нагой. Халусту гэта было не ўпершыню: поўзаць ён умеў. Ён нават рады быў, што кончылася так, а не горш. Падхапіўшыся са снегу, кінуўся да саней, адвязаў кабылу і паласнуў яе пугай. Больш за гадзіну паганяў кабылу і ўсё аглядаўся назад, ці не гоніцца за ім Хмялеўскі. «Ліха матары яго,— думаў ён,— трэба было мне аднаму там аставацца! Ну, ці не дурань!.. А ён што? Прагані яго, дык возьме ды спаліць! А што ж! І ў Малінаўцы ўсё спаліць... І заб'е... Уга! А цяпер паспрабуй дакажы, што ён пагражаў забойствам! Сказана адзін на адзін... Паспрабуй дакажы...» Горка было думаць пра гэта Халусту. Такім дурнем ён астаўся...

Толькі каля Старочына Халуста трохі супакоіўся. «Няхай жыве, ліха матары яго! Няхай трохі пажыве, папільнуе хутар. Калі сам будзе жыць, то не спаліць. А потым я найду яму месца! Найду-у! Я яго ўбяру-у ў свае зубы...»

Калі Халуста выехаў з двара, Хмялеўскі сеў на лаву і схіліў галаву. Значыць, ён зноў жабрак. Быў гаспадар, стаў парабак. Ды ці парабак! Хіба даруе яму Халуста сённяшняе? Гэтакі звер! Не даруе... І Хмялеў-

скі раскаяўся, што пагражаў яму, што выкінуў з хаты, як шчанюка. «Нашто гэта было?.. Звар'яцеў... Каб па-добраму, то можа... можа і жыў бы на хутары...» Калі адолела злосць, усё было ніпачым, а як прайшла яна, то безнадзейнасць і бездапаможнасць схапілі чалавека за горла. Як жыць?..

Ён не адразу пачуў, што Настася задала яму такое ж самае пытанне.

Ён не адказаў.

— Няўжо зноў астанёмся тут? — з адчаем запытала жанчына.— Халуставымі парабкамі? У гэтым лесе, у гэтай цемры?..

— А дзе мы дзенемся, Настася?

— У маёнтак пойдзем! Да людзей!

— У маёнтак... Хто мяне цяпер возьме ў маёнтак! Якая там работа! Каб вясной, то ўсюды ўзялі б...

— А ты шукай месца да вясны.

— Буду шукаць,— пакорліва адказаў Хмялеўскі.— Але ён не даруе мне сённяшняга... Нагаворыць немцу і з леснікоўства прагоніць...

— Няхай праганяе. Многа ты меў з леснікоўства! Халуста меў, а не ты. А што не даруе, то няхай не даруе. Затое ты ўсім даруеш і Халусту гатовы дараваць...

Юрка, унурыўшыся, маўчаў.

— А што выкінуў яго, як сабаку, то і добра! Хоць адзін раз! Я толькі баялася, каб ты яго не забіў.

На дварэ даўно звечарэла. Андрэй сядзеў за сталом і чытаў. Ён чакаў Івана, які павінен быў прыйсці з Чыжэвіч. Нядзельныя вечары звычайна былі вельмі сумныя: не было чым іх запоўніць. З Іванам было б весялей. Удвух і чытаць прыемней.

Маткі дома не было. Цяпер яна кожны дзень хадзіла да Яніхі, бо тая хоць і пачала папраўляцца, але яшчэ нічога не магла рабіць. Алена прыбіралася каля люстэрка, але ў брата і сястры не знаходзілася гаворкі.

Яна Сташэвіча Андрэй не чакаў, і калі ў сенях нехта грукнуў дзвярыма, ён падумаў, што гэта Іван, але ў хату ўвайшоў Ян. Бяда не красіць чалавека: Ян прыгорбіўся за апошні час, цяжка сеў каля стала. Андрэй палажыў на покуць кнігу.

— Ну, як там у цябе? — запытаў у Яна.

— Хваліць бога. Патрохі ўстае, але наўрад ці стане цвёрда на ногі.

Андрэй пачаў закурваць.

— От думаю, што рабіць,— гаварыў Ян.— Вясна ідзе, што я адзін зраблю? Змітру дванаццаты год, які з яго работнік. Толькі па снезе лазіць. Хоць воўкам завый. Пааддаваў дачок замуж да чорта ў лазу — блізкі свет, усё праз Аляксандру... Ды яны свае сем'і маюць. Памаглі б яны мне так, як табе Аляксандра памагае. Ні на пахаванне, ні на памінкі бацькі не прыехала, халера... Каб Тамаш быў дома, то ажаніў бы. Так я і думаў.

Андрэй успомніў, як, адыходзячы на вайну, Тамаш гаварыў яму пра Лісавету. Нейкая трывога кранула сэрца. «Алена кожны вечар ходзіць да Лісаветы»,— немаведама чаму падумаў ён.

— Пра поле ты не бядуй,— сказаў Яну,— уробім поле і тваё і маё.

— Ведама ж, неяк уробім... Але ўсё роўна гэта не тое. Вайна... Каб першыя кулі не мінулі тых, хто яе пачаў! Ці вернецца яшчэ Тамаш... Маці і хварэе праз гэта. Каб Тамаш быў дома, то і яна жвавей бы хадзіла... Ты кажаш, поле ўробім, а агарод, а гаспадарка?

— Мае жанкі памогуць.

— Ведаю, што памогуць, але гэта не тое, я табе кажу... Трэба мне дзеўку нейкую наняць, пакуль Тамаш прыйдзе. У цябе ў Чыжэвічах знаёмства ёсць, паможы.

— Невялікае ў мяне знаёмства. Каб быў Марцін Крываблоцкі, той бы жыва найшоў. Запытаю ў Івана.

— Хлапчук яшчэ твой Іван, што ён ведае!

— Праз яго маці. Агапа жанчына хадавая, трэба ў яе запытаць.

— Хіба што так. То ты пагавары з Агапай.

— Чаму не. Каб ты раней сказаў, то я сёння схадзіў бы ў Чыжэвічы.

— Сходзіш у тую нядзелю... А ты скажы мне: Гарасім у цябе бывае?

— Ні разу не быў. Чаму ты пытаеш?

— Бо да мяне ён праз дзень, праз два і прыйдзе. Мая старая да яго прывыкла — абы горш ёй стане, дык просіць: пазаві Гарасіма. І заву...

— Дык што за бяда?

— Ніякая не бяда. Умее ён каля хворых... А, кажуць, дурны...

— Хто кажа? Арандатары яго кажуць, бо ў іх на гэта прычыны ёсць.

— Ведаю я тую ліхую прычыну. Ім патрэбна Гарасімава зямелька. Толькі сваю абэлтух Мартыневіч запусціў. А зямля ого!

— Добрая зямля,— сказаў Андрэй абыякава.

Тым часам з Чыжэвіч прыйшоў Іван.

— Ну і туман! — сказаў ён ад парога.— Проста ад снегу па́ра ідзе. Макрата ўсюды, і свету не відно. Каб хто насустрач ішоў, дык лоб у лоб стукнуліся б.

— Скора дарога зусім лясне, калі мароз не падхопіцца,— зазначыў Андрэй.

— Будзе яшчэ і мароз, і адліга,— разважаў Ян.— У Маргі трэба з'ездзіць, на лета галля прывезці.

— І я пра гэта думаю.

Іван распрануўся. Сеў на лаве, расчырванелы ад хады. Маладосць і бадзёрасць свяціліся на яго прыгожым твары. Алена крадком зірнула на яго. Запытала:

— Ты, мабыць, бег, Іванко?

— Чаму?

— Такі чырвоненькі.

Іван пачырванеў яшчэ больш і сарамліва апусціў вочы. Андрэю не падабаліся такія Аленіны заўвагі, бо Іван пасля іх быў як нямко, ад сораму не мог слова сказаць. Ён злосна зірнуў на сястру, а яна і не шманала.

— Дзіва што бег! Баяўся! На дварэ ж ноч, нічога не відаць.

Нават Ян зморшчыўся пасля гэтых слоў.

— Кінь свае жарты,— не змоўчаў сястры Андрэй.

— У нашай хаце і пажартаваць нельга. Можа табе, Іванко, павячэраць даць?

— Не хачу. Ты не чуў, Андрэй, што Халуста Хмялеўскага з хутара выгнаў?

— Што ты кажаш!

— У пятніцу. Адсудзіў за доўг у Хмялеўскага хутар і на таргах купіў зямлю і будынкі.

— За доўг! — крыкнуў Андрэй, збялелы, як палатно, і падхапіўся з месца.— Я ведаю, які гэта доўг! Юрка расказваў!

У гэты момант ён забыў пра Алену і не бачыў, як пакутлівая грымаса перакасіла яе прыгожы твар.

— За доўг!.. Спачатку садраў з чалавека шкуру, а потым папхнуў у вір... Дзе ж цяпер жыве Хмялеўскі?

— Там і жыве, у Крушніках. Халуста яго арандатарам хоча пакінуць там на некаторы час.

— Дык што, Хмялеўскі згадзіўся быць арандатарам?

— Не ведаю. А ў нас у сяле кажуць, што стары Халуста хутар Хмялеўскага аддае свайму Юзіку. Як толькі Гром ажэніцца, дык Халуста і аддзеліць яго туды, у Крушнікі.

Удар быў поўны. Каб і хацеў Іван лепш адпомсціць Алене, то не змог бы. Яна аж пазелянела. Андрэй зірнуў на яе з гневам, хацеў выказаць усё, але стрымаўся, шануючы яе дзявочы гонар. Каб адно на адно!

Ян устаў.

— От што робіцца на свеце. Дык дзе ж тая праўда? А мы, дурні, шукаем яе.

Ён павярнуўся да Алены:

— Дык запомні ж, сястра... бо ты мне хоць і не родная, але мы ў першым стрэчанні. Запомні гэты дзень назаўсёды.

І ён пайшоў да дзвярэй цяжкай хадой стомленага чалавека.

Андрэй хадзіў па хаце і думаў. Думаў, што зямля чалавеку вылазіць бокам.

Старога Халусту зусім не кратала, што на яго пасля справы з Хмялеўскім засцянкоўцы не толькі баяцца глядзець, але нават абыходзяць, не хочуць сустракацца. Гэта яму было глупства. Малінаўцаў ён не лічыў за людзей. «Пачакайце, ліха матары вашай! — думаў ён.— Вы яшчэ не тое з'ясце! Вы, задрыпаная шляхта, яшчэ такое пачуеце і ўбачыце, што вам млосна стане!»

Хаім Ножык і той сказаў Халусту, калі ён нарэшце пасля доўгіх збораў прывёз у вятрак два вазы мліва:

— Ну, Яўхім! Ты страшны чалавек. Уй! Я такога не бачыў.

— А ты? — пісклява выгукнуў Халуста.— Ты лепшы?

— Лепшы.

— А-ха-ха! — заліўся Халуста.— Ты лепшы? Гэта не ты параіў мне, як лепш падысці да Рэпа, такога

самага жыда, як ты? І гэта не ты ўсунуў яму ў руку ад мяне тое, што ён хацеў? Не ты?

— Я. Але я не думаў, што так будзе, што ты так абяздоліш чалавека. Я думаў, што ты вернеш ад яго доўг, а хутара адбіраць не будзеш.

— То бяры адваж пашні на тыя тры рублі за Якава.

— Не. Я не прадаваў яго. Я не прадаю людзей так танна.

— Я ведаю! Ты можаш шкуру садраць! Уга! То можа табе трыста рублёў даць?

— Не. Я нічога не хачу.

Аднак гэтая гаворка, падобная на сварку, ніяк не сапсавала прыяцельскіх адносін паміж двума зладзеямі. Наадварот, яна яшчэ лепш умацавала іх. Сябры бліжэй уведалі адзін аднаго.

Мікалай, як і бацька, не зважаў на людскую гаворку. Ён проста не цікавіўся ёю. Ён ведаў, што кузню яго ніхто не міне. Калі прыпрэ чалавека бяда, то нідзе не дзенецца, прывязе ў кузню сапсаваны плуг, паламанае кола або яшчэ нейкую халеру, якую трэба правіць.

З усёй Халуставай сям'і толькі Юзік па-сапраўднаму адчуў людскую нянавісць. Яму часцей, чым бацьку і Мікалаю, даводзілася сустракацца з людзьмі. Ён наогул быў на віду, хадзіў на вячоркі і адразу ж убачыў, як адчужана глядзіць на яго засцянковая моладзь. Яго пачалі баяцца, і ён, які тупы ні быў, спалохаўся гэтага. Спалохаўся так, што ўжо не мог асмеліцца падысці да Алены. Дзе там! Калі ён убачыў яе гнеўны твар, то не мог зірнуць ёй у вочы. Ён не быў вінаваты за бацьку і ведаў гэта, але пачуццё віны не пакідала яго. І ён пакутаваў страшна. Алена зусім не прымячала яго. Калі ён пачынаў гаворку з кім-небудзь з хлопцаў, ад яго адыходзілі, ад яго не бралі закурыць, нават папярос; з жартаў яго не смяяліся, як раней. Нават на новыя карты, якія ён прынёс на вячоркі, ніхто не глянуў; гулялі старымі, страпанымі, а да яго ніхто і не далучыўся, каб пагуляць у дурня ці воза новымі картамі.

І Юзік жахнуўся. Ён і дагэтуль ведаў, што ў засценку не любяць бацьку, Мікалая ды і ўсю яго сям'ю.

Толькі ён адзін стаяў неяк убаку. Пра яго сур'ёзна ніхто не думаў. Ат, Юзік Гром — прастата, недалёкі чалавек, парабак у вар'ята-бацькі, не хітрэц, не злодзей, нікому не зрабіў добрага, але нікога і не пакрыўдзіў, пакуль жыве ў засценку. Ён быў нібы не з Халуставай сям'і. Яго не цураліся дагэтуль, і от на табе! Страшным холадам павеяла на Юзіка ад людзей, і яго ахапіў страх. А можа ў засценку ведаюць, што бацька адабраў у Хмялеўскага хутар, каб аддаць яму? Можа пра гэта ведае і Алена?! Што ж тады яна думае пра яго!.. Ён стаў адшчапенцам у засценку... Праз каго? І нянавісць, страшная нянавісць на бацьку агарнула ўсю яго істоту. Ён зразумеў, што назаўсёды страціў Алену. Праз каго?.. Ён не мог асмеліцца сказаць ёй, што ні ў чым не вінаваты. Ды хіба яна паверыць? Яна думае, што і ён такі самы гад, як усе Халусты...

З усяго засценка толькі Лявон Нарбутовіч, як і раней, не цураўся старога Яўхіма. Ён яшчэ больш захапляўся ім, бо трохі зайздросціў.

— Во гэта чалавек! — казаў ён сваёй Міхаліне.— Ён нікога не баіцца! Ве-едае, што трэба рабіць! Калі маеш доўг, плаці, нечага круціць хвастом. А не плаціш, то пайшоў вон! А як жа!

— Памаўчы! Ведаеш ты, хто каму вінаваты!

Міхаліна перш за ўсё была жанчына, і жаласць была ўласціва яе душы. Акрамя таго, яна наслухалася гаворкі пра Халустаў і пра Хмялеўскага.

— Што памаўчы! — крычаў Лявон.— А, думаеш, я лепшы быў бы?

— Ты! — пагардліва гаварыла Міхаліна.— Ты! Якая ты мацыя! Цябе куры заграбуць!

— От гадаўка! Пачула, што лейцы слабыя.

А Нічыпар Мартыневіч маліўся. «Няхай яго людзі не ведаюць,— думаў ён пра Халусту.— Гэтакі ідал! Барані божа! Жыўцом праглыне і не аблізнецца». Сам злодзей, Мартыневіч мог украсці толькі нешта дробнае, але каб так абрабаваць чалавека, то не. Ён верыў у бога.

## РАЗДЗЕЛ ДВАЦЦАЦЬ ЧАЦВЁРТЫ

Калі па засценку пайшлі чуткі, што ў адну цёмную завейную ноч абакралі багатага хутаранца Зялёнку, Андрэю не было клопату ні да Зялёнкі, ні да тых зла-

дзеяў, што яго абакралі. Хапала ў Андрэя сваіх клопатаў. Зялёнкі ён не ведаў, чуў, што пад Слуцкам жыве багацей — скнара і жулік Зялёнка Адам; каля хутара яго аднойчы праязджаў з нябожчыкам бацькам. Даўно гэта было, але Андрэй помніў той хутар, падобны на фальварак. Аднаго саду каля сядзібы больш за дзесяціну, будынкаў — як у панскім двары, зямлі цэлы абшар, ну, а зямля пад Слуцкам, кожны ведаў,— на Міншчыне лепшай няма. І от зладзеі агалілі таго Зялёнку. Патруцілі сабак і ачысцілі камору і свіран. Грошай, дурань, у банк не клаў, дык забралі і грошы і лепшую вопратку.

Гаворкі пра гэта ў засценку хапала, але Андрэю не было часу яе слухаць, і ніколі не думаў ён, што будзе мець нейкае дачыненне да таго крадзяжу. На двары стаяў марац, запахла вясной, а ён усяго сена з Волі не перавёз. Калі пайшоў Тамаш на вайну, прыйшлося памагаць Яну, хапала бяды. Зіма была зусім бязладная, уся работа перамяшалася: і малацьба, і возка сена, і дровы. Маладому гаспадару нялёгка давалася жыццё. Але ж усё ўжо кончылася.

Цяпер на душы лягчэй стала, дні падаўжэлі, завеі сціхлі, адваліліся маразы. Удзень, калі прыпякала сонца, са стрэх ліўся капеж.

У панядзелак вечарам Алена з прасніцай пайшла на вячоркі, маці набрала маткоў пражы і выправілася да хворай Яніхі: жанкі кросны рыхтавалі. Андрэй з Іванам адны дома асталіся і хацелі раней легчы спаць, бо заўтра збіраліся на Волю па сена.

Цяпер Якаў быў часты госць у Андрэя. Чыталі свежыя газеты, якія траплялі ў Малінаўку раз на тыдзень. Андрэй пабыў у маёнтку, пазнаёміўся з Вярбіцкім, Квітуном, Шабунем. Цяпер яму прыходзілася хаваць у гумне нелегальную літаратуру, якую чытаў не толькі ён, але і Іван.

У той вечар Якава не чакалі. Ён прыйшоў пазнавата; прынёс ад Марціна ліст. Андрэй чытаў той ліст уголас і абураўся, што ён амаль напалову выкраслены.

— Правяраюць, сволачы,— зазначыў ён.

— Гэты ліст двойчы правераны,— сказаў яму Якаў.

— Чаму двойчы?

— Першы раз воінская цэнзура праверыла, а потым Яўхім Халуста з ураднікам Беразоўскім. Я па канверце пазнаў. Гэта ж Халуста і прывёз мне сёння яго са Старочына. Перш, вядома, да ўрадніка зайшоў. Я кажу яму: «Ты, пане Халуста, хоць і гаспадар, але маіх лістоў не чытай». То ён нават адгаворвацца не стаў. Выскаліўся, як шалёны сабака, і закрычаў: «Ліха матары тваёй! Праз мяне ты дома сядзіш, а то б недзе манжурскую зямлю парыў».

— От сукін сын! А можа ён і сапраўды адстаяў цябе ў воінскага начальніка? Дзе б ён цяпер знайшоў другога парабка!

— Ён мяне адстаяць не мог, мог толькі даць хабар, выкупіць. А хіба Халуста здольны на такое, калі ён свайго Мікалая поедам жарэ кожны дзень, што грошы за яго ўпёр. Але, браце, гэта яшчэ не канец. Я табе ўжо казаў: калі вайна зацягнецца, то не толькі мяне, але і цябе, ільготніка, забяруць, а цяпер, пакуль што, хапае ў нашага цара і здаровых салдатаў.

— Хапае,— задумліва сказаў Андрэй.— Але цікава, што яны павыкрэслівалі?

— Праўду аб вайне. Неасцярожны чалавек Марцін. Няўжо ён не разумее, што і за ім там будуць сачыць і тут за мной. Ды ўжо сочаць!

— А што яны высачаць? — запытаў Андрэй.

Якаў зірнуў на яго і адказаў не адразу.

— Ты да гэтай пары не разумееш самага простага. Няўжо ты думаеш, што Халуста не данёс бы Беразоўскаму і на мяне, і на цябе, каб ведаў, пра што мы тут гаворым, чытаючы газеты?

— Ну дык што?

— А тое, што ты быў бы «неблаганадзейны». Я дык ужо «неблаганадзейны».

— Пакуль што я яшчэ не баюся. іх.

Хлопцы пачалі закурваць.

— Я да цябе, Андрэй, з неадкладнай гаворкай прыйшоў, а мы дарэмна марнуем час.

— То гавары,— з цікаўнасцю зірнуўшы на Якава, сказаў Андрэй.— Дома толькі мы з Іванам.

— Ты чуў, што абакралі нейкага Зялёнку?

— Гавораць людзі.

— Абакралі гэтага Зялёнку Халуставы і Ножыкавы сябры. І Мікалай быў там.

— То што мне да таго! — успыхнуў Андрэй.— Няхай яны хоць падавяцца! Я гада Халусту толькі за Хмялеўскага павесіў бы на горкай асіне, і рукі мае не здрыгануліся б. А з Зялёнкам, як відаць, яны роўныя зладзеі.

Якаў нібы і не чуў яго слоў:

— Ці помніш ты — я ў цябе пытаў, як чалавека злодзеем зрабіць?

Андрэй адразу асеў і недаўменна зірнуў на Якава.

— Да чаго гэта ты?..

— Не пераглядаў ты сваіх будынкаў?

— Не... Я і не думаў пра гэта ніколі...

— Дык парагледзь, Андрэй, не адкладаючы. Я цябе папярэджваю вельмі сур'ёзна.

— У мяне ўсё пад замком.

— Ад Халусты і Ножыка замкоў няма. Хіба ў Зялёнкі не было замкоў? Ён сам — шэльма, хутаранец — жыў адзін сярод поля, ён жа так замыкаўся, што і шчыліны нідзе не было. Аднак жа Халуста з Ножыкам падабралі ключы да яго замкоў. Ды ён жа і сабак трымаў, і, трэба думаць, нядрэнных. Памагло яму гэта?

— Дык ты думаеш, што яны мне што падсунулі?

— Не толькі думаю, а ўпэўнены.

Андрэй раптам абвяў, увесь яго запал знік. Пачуццё бездапаможнасці і безнадзейнасці ахапіла яго душу.

— Калі Халуста падлажыў мне крадзенае, то як жа я яго знайду?.. У хлявах, у свірне ўсё можна парагледзець. А ў гумне? Перакласці ўсё, што ляжыць у гумне,— і сена, і канюшыну, і салому!.. Тады лепш самому падпаліць будынкі, няхай згарыць усё разам з тым крадзеным...

Ён схіліў галаву над сталом і ашчапіў яе рукамі.

— Халуста — гад, злодзей, можа зрабіць з табой што захоча... Дзе ж тая праўда, тое права чалавечае, калі гад можа жыццё тваё загубіць!

— Вазьмі сябе ў рукі, Андрэй. Трэба нешта рабіць, а не гаворку разводзіць.

Андрэй падняў галаву.

— Ты думаеш, я баюся, што мяне Халуста злодзеем зробіць? Хоць сабе ў мяне і крадзенае знойдуць, ніхто не дакажа, што я Зялёнку абакраў... Але ж пакуль будзе ісці гэтая калатнеча, усё роўна згалееш,

па судах нацягаешся, па допытах... Жыццё загубяць!.. Гаспадаркі не шкада, лепш запаліць усё — і справа з канцом...

— Давай падумаем, Андрэй. А ты ўжо гатовы паваліцца і лапы ўгору. Нельга так здавацца: «Будынкі спалю!» Я думаю, што далёка яны тых рэчаў не запхнулі, яны таксама спяшаліся, баяліся, каб хто не ўбачыў.

Іван увесь час уважліва слухаў, што гаварылі старэйшыя, і раптам вочы яго засвяціліся, ён увесь пацягнуўся да Андрэя:

— Андрэй! Далібог жа, наша новая тарпа пачэпана была, калі я сёння раніцай коням даваў. Праява дый годзе.

— Якая тарпа?

— Новая, што ўчора пачалі.

— Там толькі два вазы сена. Што ты мог пазнаць!

— Я ж таптаў яе! Вы з Янам скідалі, а я таптаў, то хіба не ведаю, як сена ўкладаў! Я да сцяны яго цягаў, а сёння гляджу: усюды роўна. Я тады падумаў, што злеглася, і табе нічога не сказаў. А цяпер паслухаў, што Якаў кажа, і падумаў, што не магло яно так роўна злегчыся. Каля сцяны павінна быць вышэй!

Андрэй падхапіўся з месца.

— Бяры ліхтар, Іван! Ты нам паможаш, Якаў?

— Гаворкі няма. Толькі ліхтар запалім у гумне, а не тут. І ў гумно разам не пойдзем.

— Я пайду першы,— сказаў Іван і, зняўшы з крука ліхтар, пайшоў з хаты.

На дварэ стаяла цёмная, як бездань, ноч. Неба вісела над зямлёй чорнае, як сажа. Мароз адлёг; з захаду падыхаў вільготны вецер. У засценку ўсхадзіліся пеўні, спявалі без пары,— напэўна, на перамену надвор'я.

Андрэй, ідучы ў гумно, зірнуў на хату Гарасіма Жукоўскага: святла ў вокнах не было, Гарасім спаў. Ды ўвесь засценак ужо спаў, толькі ў Яна Сташэвіча і ў Талімона Бялькевіча яшчэ не спалі: у Яна ў хаце хворая, а ў Талімона вячоркі.

Калі Андрэй прыйшоў у гумно, Іван ужо раскідваў новую тарпу. Сена выкладваў у пустую заперу. Ліхтар стаяў каля сцяны на таку, святла ад яго на двары не было відаць. Андрэй схапіў вілы і пачаў памагаць Івану. У галаве яго ўсё змяшалася, ён не мог ду-

мацъ, бо думкі блыталіся. Ён адчуваў, што ў галаве яго стаіць нейкі туман і замінае глядзець на белы свет. «От да чаго дажыў... Не ведаеш, што робіцца ў тваім гумне... А калі тое крадзенае не ў гэтай тарпе... Можа яно пад саломай, а саломы поўны зад гумна... Усё роўна Халусту трэба забіць... Не, не знойдзем таго крадзенага...» Тое крадзенае здавалася жывым, коўзкім і агідным. «Так можна звар'яцець,— адумаўся нарэшце Андрэй.— Трэба ўсё рабіць разважліва, параіцца з Якавам, паклікаць Яна Сташэвіча...»

— Ёсць, Андрэй,— пачуў ён ціхі Іванаў голас і спачатку не паверыў, што чуе яго. Бо што не здасца чалавеку, калі ён падобны на вар'ята! А Іван падчапіў мех, нечым напханы, і выцягнуў яго з-пад сена.

— Цяжкі, халера! Нешта мяккае ў ім.

Толькі пасля гэтых слоў Андрэй зразумеў, што адбылося. Ён рыпнуўся да мяха, падхапіў яго і выкінуў на ток. У гэты момант прыйшоў Якаў.

— Знайшлі,— увесь абліты халодным потам, вымавіў Андрэй.— Дзякуй табе, Якаў... Каб не ты...

— Даволі, Андрэй. Трэба падумаць, што рабіць з гэтым мяшком. Тут яго пакінуць нельга.

— Занясу ў хату, запалю ў печы і спалю...

— Уночы будзеш печ паліць? А ты ведаеш, што ў гэтым мяху? Можа ў ім воўна. Смуроду з коміна будзе на ўвесь засценак, бо сёння дым не падымецца ўгору. А пакуль у печы запаліш — раніца прыйдзе.

— У Маргі завязу, закапаю ў снезе...

— Гэта ўжо лепш, але таксама не выхад. Хадзем у хату, абмяркуем усё.

— Мех я ўсё-такі з гумна выкіну, няхай ляжыць на двары.

— Выкідай, ды далей ад будынка. Запхай у снег.

— Добра ты кажаш. Збегай, Іван, у хату, паглядзі, ці прыйшлі нашы жанчыны. Мы пойдзем услед.

Пакуль Андрэй заграбаў у снег Зялёнкавы транты, у галаве яго зусім праяснілася. Ці было чаго вар'яцець? Было! Праз гэты няшчасны мех ён мог страціць Ганну. Нават каб і апраўдаўся, Лукаш Асіеўскі не аддаў бы за яго дачкі. Усё роўна празвалі б злодзеем, і з гэтай мянушкай памёр бы...

Іван сустрэў іх на ганку. Дома яшчэ нікога не было.

— А мне здалося, што мы былі ў гумне цэлую ноч,— прызнаўся Андрэй.

— Цяпер ты зразумееў, як можа адпомсціць Халуста?

Андрэй са злосці сціснуў кулакі.

— Скажы мне, Якаў, дзе дзяваць гэтае дабро?

— Думай сам, Андрэй.

— Андрэй! — раптам загарэўся Іван.— А каб гэты мех ды яму назад, га?

— Халусту?

— А каму ж!

— У яго сабак поўны двор. Як узнімуць брэх, адразу пачуе...

— На Якава яны не брэшуць.

— Ты што гэта надумаў, хлопча? — здзіўлена запытаў Якаў.— Хочаш і мяне сюды ўмяшаць?

— А ты ўжо сам умяшаўся, Якаў, чаго там...

— Бачыш, які ты разумны!

— Каб даравацъ такому гаду! Я на тваім бы месцы...

Якаў засмяяўся, і гэта надало смеласці Андрэю, які дасюль маўчаў.

— А што ж, Якаў! Яго дабро ды яму ў рабро. І падказаць ураднiку, каб зрабіў вобыск у Халусты.

— У тваіх словах ёсць толк, толькі з ураднікам я звязвацца не буду.

— Гэта зраблю я, калі ты дасі згоду памагчы мне адкінуць гэты мех назад Халусту.

— Можа я такую згоду і дам, але і табе звязвацца з ураднікам таксама не варта. Ну хоць бы сабе... як шляхціцу. Ураднік, па сутнасці, мужыцкае начальства.

Гэтыя словы былі падобны на здзек, але Андрэя яны не кранулі.

— У тым жа і справа,— адказаў ён.— Халуста — бабруйскі мешчанін, а ў мяне ўраднік зробіць вобыск толькі з дазволу павятовага прадвадзіцеля дваранства!

— Не пацяшай сябе гэтым. Дазвол будзе. Гэтакія вы засцянковыя лапцюжныя дваране! Наўрад ці ведае вас ваш павятовы пастух. А калі Халуста за што бярэцца, то робіць яго моцна. Як з Юркам Хмялеўскім: расціснуў чалавека — і не лыс.

— То я перад ураднікам умову пастаўлю: рабі вобыск і ў мяне і ў Халусты.

— Гэта, брат, зусім не тое. Не паставіш ты ўмовы ўradніку, і нельга ставіць такой умовы.

— Як бы ні было, я даб'юся вобыску ў Халусты.

— Гэта другая гаворка. Тады я памагу табе ўперці мех у Халустаў дрывотнік.

— Чаму ў дрывотнік? Ён жа сам яго там знойдзе!

— Не знойдзе. Там столькі ламачча, што пяць мяхоў схаваеш. Старыя дзежкі, брычкі, калёсы, усякай халеры поўна. І дрывотнік не замыкаецца. І калі б удзень, то туды можна ўкінуць мех з сядзібы Барана-Зайца, пад страху. Я таксама не хачу, каб на мяне ўпала нейкае падазрэнне, а потым валачыцца па допытах. Я, брат, таксама, як і ты, не люблю ўраднікаў. Парабкам будучы, лепш іх не ведаць.

— Ну, Якаў... Век цябе не забуду... Ты мяне сёння выратаваў. А калі паможаш пакараць гэтага злодзея...

— Потым будзеш дзякаваць, мы яшчэ нічога не зрабілі. Спакусілі вы мяне, хлопцы...

— Калі табе, Якаў, нельга, то я да Барана-Зайца занясу і пад страху ўкіну. А не, дык на прыгуменне яму завалаку і ў снег закапаю.

— Слядоў напакідаеш. А на прыгуменне трэба ісці па цаліку ў пояс. Там жа гурбы снегу каля платоў. Не данясеш мяха. Аднак трэба кончыць гэтую справу з музыкай.

— Андрэй,— азваўся Іван.— А можа табе не варта ісці? Я сам занёс бы мех... Прыйдуць дамоў цётка і Алена, што яны падумаюць! А я пайшоў бы нібыта Якава правесці. Толькі сабакі Халуставы...

— Я зайду ў двор першы і сабак супакою... Годзе, хлопцы, ідуць вашы жанкі. Давайце сюды газеты.

Калі Алена ўвайшла ў хату, усе трое сядзелі, унурыўшыся хто ў кнігу, хто ў газету.

Алена павіталася і прыязна ўсміхнулася Якаву.

— От якія ў іх вячоркі. Хлопцы называюцца! Няхай ужо наш дома сядзіць, у кнігі ўлюбіўся, а табе, Якаў, брыдка.

— Чаго ж такога брыдкага я натварыў? — усміхнуўся Якаў.

— Сядзіш над кнігай, як Гарасім Жукоўскі, а цябе сёння ўспаміналі на вячорках.

— Цікава. Хто гэта мяне не забыў?

— Нашы дзяўчаты.

— Ганаруся і радуюся.

— А ты ўжо і гаворыш як у кнігах напісана... То ж і бяда, што ганарлівы ты вельмі.

«А яна не дурная шляхцянка,— падумаў Якаў.— Яна і Гром! Не разумею!»

— Я зусім не ганарлівы,— сказаў Якаў.— Чаму ты так сказала?

— На вячоркі да нас не ходзіш, на вечарынкі таксама. Мабыць, у маёнтку прыгажэйшыя дзяўчаты... І цябе, Іванко, дома трымаюць.

Іван пачырванеў.

— Я з Андрэем...

— Будзеш глядзець на Андрэя, дык і састарышся без пары. Высушаць цябе кнігі.

«Эх, трохі не ў пару прыйшла ты, дзяўчына,— думаў Якаў.— Няхай бы яшчэ на хвілін некалькі забавілася там, дзе была...»

У гэты час прыйшла старая Аксеня. Замест маткоў прынесла вялікі клубок.

— Добра, што не спіце,— сказала яна.— Яніха зусім слабая. Гарасім там сядзіць. Парашкі нейкія даў, то нядаўна заснула. Схадзі, Алена, пасядзі каля яе. Ян зусім знябыўся, ледзьве ходзіць. Ды і я самлела...

— От так заўсёды і ўспомніш Марціна, калі хвароба ў хату ўваліцца,— зазначыў Андрэй.— Заўтра не па сена трэба ехаць, а па доктара ў Старочын. Найшлі лекара — Гарасіма!.. Ідзі, Алена, а пазней я прыйду, падмяню цябе.

Алена адрэзала лусту хлеба і пайшла.

Хлопцы памаўчалі.

— Маці ўжо спіць,— нарэшце шапнуў Андрэй.

— Што ж, пара,— Якаў падняўся з месца.

— Дык можа я пайду? — запытаў Іван.

— Пойдзем усе ўтрох.

І не раз потым усе трое ўспаміналі гэтую ноч. Кожны па-свойму.

## РАЗДЗЕЛ ДВАЦЦАЦЬ ПЯТЫ

Хмурная раніца была на двары, калі Халуста разбудзіў Якава.

— А ліха матары тваёй, не вылежаўся? Спаткі хочацца? Валочышся, паніклы чорт, да раніцы, тады спіш на хаду! Уставай!

Пасля таго як Шэмета не ўзялі на вайну, Халуста інакш не зваў яго, як паніклы або сляпы чорт.

На двары ледзь шарэла. Над будынкамі і дрэвамі, амаль да самай зямлі, клубамі віўся густы туман. Не відаць было ні хлявоў, ні свірна, яны нібы раставалі ў вільготным паветры. Зрэдку капала са стрэх: мароз зусім адваліўся, і цяжка было дыхаць.

Якаў прайшоў да дрывотніка; успомнілася ўчарашняе: цёмная ноч над засценкам, цішыня, слізкая раскоўзаная вуліца, а яны ўтрох, як здані з таго свету, і гэты мех... Не верылася самому, што гэта робіцца наяве. Халуставы сабакі ляніва адгукнуліся на голас, пазналі і адразу супакоіліся. Андрэй з Іванам у двор не зайшлі. Якаў сам забраў мех, запхнуў яго ў сядзенне старой брычкі, закрыў і закідаў розным ламаччам. Ці пазнае стары Халуста? Не. Ён нават не думае, што такое можа здарыцца. «А ці варта было ўмешвацца ў гэтую нячыстую справу? — падумаў Якаў.— Не мог не ўмяшацца... Простае чалавечае сумленне не дазволіла б астацца збоку і наглядаць, як гінуць невінаватыя людзі...»

Юзік абуваўся і соп, як дыхавічны, на ўсе грудзі, з прысвістам. Палілася ў печы. На веку ад дзежачкі ляжала гара жытніх бліноў. Настуля смажыла сала; нямая служанка секла ў карыце-вараную бульбу свінням; з карыта аж да столі ўздымалася пара, пахла нечым кіслым, цвілым... Была раніца, як і ў кожнай хаце, але неставала тут тае цеплыні, якая яднае сем'і. Тут быў кожны сам па сабе, адзін аднаму калі не вораг, то і не прыяцель.

Халуста хадзіў ад сцяны да сцяны, залажыўшы рукі назад, і ныў пад нос: «І-і-і». Стары злодзей быў нечага рады.

— Скажы ты мне, паніклы чорт,— звярнуўся ён да Якава,— дзе ты ўчора валачыўся?

— Я табе не паніклы чорт, пане Халуста. У мяне ёсць чалавечае імя. І што табе да таго, дзе я ўчора валачыўся. Я ж не адсыпаюся сёння ўдзень за ўчарашнюю ноч.

— Ого! Які далікатны! А можа ты красці хадзіў? Я ж твой гаспадар! Я ж за цябе адказваю, ліха матары тваёй!

— Пільнуй сваіх сыноў і адказвай за іх. Я за сябе сам адкажу.

— Які ганарлівы! З табой і пагаварыць нельга. От выадукавалі гада! Ну? Нельга ў яго запытаць, дзе ён валачыўся!

Халуста быў не ў такім настроі, каб сварыцца, гэта адчувалася па тону, якім ён вёў гаворку; тон быў дабрадушны, падобны на сяброўскі: так Халуста жартаваў. Якаву таксама не хацелася ў гэты дзень вельмі аскірзацца.

— Я ў Сташэвіча быў, пане Халуста,— сказаў ён.

— Як? — стары Халуста аслупянеў, нібы ўпершыню даведаўся, што яго парабак ходзіць да Андрэя.— Ты быў у таго злодзея? У майго лютага ворага?

— Мне Сташэвіч не вораг.

— Ах, ліха матары тваёй! Паніклы ты чорт! Ён табе не вораг! Дык можа ён табе прыяцель? Можа ты яму на свайго гаспадара скардзіўся? Уга, чаму не! Халуста сякі ды такі! Выспацца не дае! Работай задушыў! Корміць абы-як! Га?

Якаў засмяяўся.

— Добра, пане Халуста, што ты хоць сам гэта ведаеш, а людзям гаварыць не трэба: усім вядомы твае пірагі. Я Івану ліст занёс ад Марціна Крываблоцкага, той, што ты са Старочына прывёз. Марцін жа Іванаў родны дзядзька. Ты ж чытаў! Марцін паклон Івану перадаў.

— Дык ты гэты паклон і занёс яму ў кішэньцы. Ха-ха-ха! І вы гэты паклон чыталі пад самую раніцу. Ха-ха-ха!

— Адпісалі Марціну ліст.

— Ая-яй! А гарэлкі не пілі?

— Не.

— Ліха матары яго! Каб прывучыць яго да гарэлкі, то я табе дзесяць рублёў не пашкадаваў бы!

— Каго прывучыць, Івана?

— Нашто мне Іван! Сташэвіча, разбойніка таго.

— Дзесяць мала. Каб прывучыць такога чалавека, як Сташэвіч, да гарэлкі, то з ім сама менш трэба тысячу прапіць.

— Ну, але! Цвёрды, гад! Цвёрды, злодзей, шыбенік! Але ўсё роўна згалее! Галечы ён не міне! Не, не, не! Ідзе на яго чорны дзень! Ідзе, ідзе! Ліха матары яго, ідзе!

Халуста пачаў рагатаць. Слухаючы гэты дзікі, зларадны рогат, Якаў думаў, што ўчора ён зрабіў правіль-

на. Столькі жывёльнай радасці і здзеклівасці было ў гэтым рогаце, што па скуры як мурашкі бегалі. Якаў разумеў, на які чорны дзень намякае Халуста; ведаў ён і тое, што ў бруднай душы гэтага страшнага чалавека пануе трывога, точыць, як шашаль дрэва, і не дае спакою. І ніколі ў ёй не будзе спакою...

Нарэшце Халуста вырагатаўся. Зірнуў выцвілымі, але драпежнымі вачыма на Юзіка і сказаў:

— Ну, снедайце, гулякі, лайдакі, п'яніцы, абармоты! Снедайце і ў Крушнікі, на мой хутар.

«На мой хутар»! У Якава сэрца закалацілася, і злосць, як чорная хмара, запаланіла душу. «Мой хутар»! Так цяпер Халуста называў хутар Хмялеўскага. Цяпер Юрка сядзеў на сваім хутары як арандатар Халустаў. І яшчэ раз падумаў Якаў, што мінулай ноччу зрабіў правільна.

— Пабойся ты бога, бацька,— прамовіў Юзік голасам пакутніка.— Людзі, хто перавёз сена, ужо адпачываюць. Коням перадышку далі... Вясна ж прыйдзе, зноў запражэш і коней і нас... І цяпер ты з мяне ды з Якава не злазіш... Мікалай сабе як пан, а я...

— Сціхні, гад! — закрычаў Халуста.— Мікалай — каваль! Майстар! А ты — абух! Мікалай на Урэчча паехаў. Кузня без жалеза!..

«Зноў некага абкрадваюць»,— падумаў Якаў.

— Кузня без жалеза! — лямантаваў Халуста.— Вясна ідзе, сашнікі трэба, паліцы! Ты пра гэта не думаеш, бот!.. А пакуль санная дарога не развалілася, лес трэба вазіць! Хлявоў не хапае! Дошкі трэба, насцялю ва ўсіх хлявах столь, каб было як у маёнтку, каб худоба не калела зімой.

— Пра худобу думаеш... Мне ў Крушнікі ехаць як на той свет... Сам бы ты паехаў... Як я Юрку ў вочы гляну? Чалавека загубіў, а худобе каб цяплей...

Халуста наляцеў на сына як звер, замахнуўся, але Юзік падняўся і зірнуў на яго зверху ўніз такімі вачыма, што той адразу апусціў руку.

— Паспрабуй толькі, бацька, вытні.

— З бацькам біцца будзеш? — заенчыў Халуста.— З бацькам?

— Лепш не чапай мяне, бацька, то і я не крану. А кранеш!..

— Сукін сын! Гэта ж табе я адсудзіў хутар у Хмя-

леўскага! Табе, злодзей! Ажэнішся і выберашся ў Крушнікі! Няма тут месца табе!

— Не, бацька, гэтага не будзе. Ты з Мікалаем пойдзеш у Крушнікі, а не я.

— Я адракуся ад цябе! Ад-ра-ку-ся! Усё Мікалаю перапішу. А табе нічога! Ні шэлега, ні пядзі зямлі...

— Перапісвай! Пайду ў двор. Парабкам буду, але з людзьмі. У вочы людзям смела пагляджу. Ніхто не будзе ад мяне адварочвацца.

— А-а! Дык гэта Сташэвічава патаскушка ад цябе адварочваецца!

— Сціхні, бацька! — страшным голасам зароў Юзік.— Сціхні, а то я ўсю хату растрасу!

Халуста зразумеў, што тут непярэліўкі, і адступіў. Мабыць, першы раз у жыцці спалохаўся ён старэйшага сына.

— От я-ак! — злым шэптам, здзіўлена лыпаючы вачыма, прамовіў ён.— Бачыла, крывая кабыла, каго нарадзіла? Бачыла? Гэта ж тваё адроддзе, ліха матары тваёй! Твой вырадак, байструк, злодзей, катаржнік! Твой, твой, твой!

— Жарэце лепш, каб вас зямля не насіла, а то зноў за нажы схопіцеся. Вунь бліноў цэлая века,— замагільным голасам адказала Настуля.

«Прыпякло беднаму Грому»,— падумаў Якаў.

Выехалі з дому, калі зусім развіднела. Юзікава кабыла роўным трухам ішла па слізкай раз'езджанай дарозе. Сам ён сядзеў, схаваўшы нос у каўнер кажуха, і, мабыць, нешта зацята думаў, бо ніколі такім панурым Якаў яго не бачыў. На шляху гулі слупы нудным і надаедным гулам. Навокал бель; праз туман не відаць было нічога, і недзе было спыніцца вачам. На сэрцы ў Якава таксама было цяжка. Жыць у гэтай праклятай хаце так абрыдла, што гатовы быў ісці хоць куды. Хата без радасці, без цеплыні. Калі і засмяецца хто, то толькі страшным д'ябальскім смехам, нібы адпраўляючы некага на той свет. Усе ў палоне чужога дабра. Стары Халуста хавае сабе, Мікалай сабе, Настуля крадзе ў абодвух і таксама недзе хавае. Каб страсянуў гэтую хату, колькі вытрас бы з яе людскога гора, слёз і крыві!.. Толькі Юзік Гром — сапраўды вырадак, не хавае нічога. Украдзе са свірна пуд пашні, прап'е і спявае «Каробачку». Горкая твая доля, Юзік...

Каля Старочына сустрэлі Андрэя. Ён вёз доктара

да хворай Яніхі, і Якаў падумаў, што Андрэй гэтую ноч нават вачэй не заплюшчыў.

Час у дарозе прайшоў скора і непрыкметна. Хутар Хмялеўскага, цяпер ужо Халустаў, нечакана з'явіўся з-за павароткі. Юзік спыніў кабылу.

— Зайдзі, Якаў... Скажы, што прыехалі. Можа хоць мяжу пакажа.

— Зайдзі сам, Юзік. Гэта ж твой хутар.

— Не магу... Хіба вочы затуліўшы... Дзетак там як дажджу...

— А мне нашто заходзіць? Я ж парабак.

— Якаў...— панура прамовіў Юзік.

З нялёгкім сэрцам зайшоў Якаў у хату. Юрка быў дома, майстраваў спіцы на колы. Такі ж абраслы, як і раней, толькі вочы паглыбелі, і ўжо свяцілася ў іх не толькі вечная жальба і затоены сум, але нянавісць, крыўда і незразумелая трывога.

— Прыехалі,— сказаў ён, як і раней.

— Прыехалі, Юрка.

Дзеці ціснуліся каля маткі, якая сядзела за прасніцай. Запалоханымі вочкамі глядзелі яны на Якава. Не было ў іх дзіцячай шчырасці і радасці, з якімі яны раней сустракалі чужога чалавека на хутары. Мабыць, даліся ім у знакі чужыя людзі, што хадзілі па хутары, ацэньвалі кожную будыніну. Гэта праз іх плакала маці, а бацька быў як непрытомны.

— То што да мяне мае Халуста? — запытаў Юрка.— Хутар жа яго. Няхай хоць увесь свой надзел ссячэ і ў Маліназуку завязе... Можа пасядзіш, Якаў?

— Юзік мяне чакае.

— Юзік? Я да яго нічога не маю.

— А што ты да каго маеш? — азвалася Настася, і гэта ўжо не быў голас памяркоўнай, спакойнай жанчыны.— Што ты да каго маеш, такі чалавек!.. Але з хаты не пойдзеш. Халусты — гаспадары, які ты ім праважаты!

— Але... Халусты — гаспадары. Не пайду,— пакорліва прамовіў Юрка.

— Значыць, сядзіш ты на сваім хутары арандатарам.

— А што мне было рабіць? Дзе было дзявацца з сям'ёй сярод зімы! Праглынуў ён мяне, як бусел жабу. Добра, што з леснікоўства немец не прагнаў. Лесніком я астаўся.

— Гэту ласку табе Халуста зрабіў. Не падказаў немцу, каб з леснікоўства прагнаў,— горка папракнула Настася.— Бо патрэбен ты яму: паможаш красці панскі лес... Ідзі, Якаў, бо Юрка нікуды не пойдзе.

— Не пайду,— згадзіўся Юрка.— Няхай сам Юзік выбера хвоі, якія яму трэба... Ты кажаш: арандатарам... Сам не ведаю кім...

Юзік, мабыць, і не чакаў Юркі. Ведаў, што не пойдзе ён цяпер хвоі яму паказваць, як калісьці паказваў дубы, бо, калі Якаў выйшаў з хаты, цмокнуў на кабылу і паехалі далей. Калі хутар схаваўся за дрэвамі, Юзік спыніў кабылу, злез з саней і падышоў да Якава.

— Каб я ведаў, дзе тут мяжа, дзе хутарское, а дзе панскае... Чорт яго разбярэ... Слупкі павінны быць, але ж усе яны пад снегам.— Юзік вылаяўся.— К чортавай мацеры! Ссячом лепшыя хвоі, і няхай бацька з немцам разбіраецца.

— Ідзі выбірай хвоі ды не марудзь.

Пакуль Юзік лазіў па снезе, Якаў паспеў закурыць. Прыйшоў і Хмялеўскі са стрэльбай.

— Настася выправіла,— сказаў ён.— Панскага секчы не дам. Няхай сячэ ў сваім надзеле. Бо Халусты панскага насякуць і на мяне зваляць. Скажуць, што некаму прадаў. Тады немец з леснікоўства прагоніць... Ды, божа мой, божа, чаго тут шукаць! Любое дрэва сячы і ў сцяну кладзі. А на бэлькі таўсцейшых хапае. Настася кажа: «Ідзі, а то яны табе зноў наробяць...» Ты, Якаў, тут ні пры чым.

«Няшчасны ты чалавек,— горка падумаў Якаў.— Раней табе Настася не падказвала, сам гаспадаром быў...»

— Такі лес, такі лес... Глядзіш — і плакаць хочацца... Гэта ж мой лес, Якаў!.. Гэтакія хвоі каля самай дарогі, а ён пайшоў яшчэ лепшыя шукаць. Нашто?

Гэта была праўда. Выносістыя хвоі, адна ў адну, стаялі абапал дарогі. Гладкія ствалы, жоўтыя, як свечкі, цягнуліся ўгору, ледзь шавелячы верхавінамі.

Выпаўз на дарогу Юзік, увесь у снезе, вылаяўся і пачаў атрасацца. Падышоў да мужчын.

— Ты, Юрка... Я тут ні пры чым, запытай у Якава... А што бацька, то сам ведаеш... Я тут што?.. Я толькі раблю... Пакажы, дзе мяжа, толькі я не ведаю, як мы з коньмі ўваб'ёмся ў гэты снег. Тут і з пустымі саньмі не вылезеш...

— Снегу многа,— сказаў Хмялеўскі.— А мяжы вы яшчэ не пераехалі, далей яна. Нашто лезці ў снег! Заварочвайце коней ды валіце каля дарогі. Такі лес, такі лес...

— А добра ты кажаш, чаго тут шукаць! Няхай бацька сам прыедзе і пашукае.

Хмялеўскі нібы не чуў яго слоў.

— Такі лес! — гаварыў ён.— Думаў, прадам улетку трохі палевікам. Людзі будуюцца. Пажары ў палявых сёлах часта бываюць, густа людзі жывуць... Ды ўжо не адзін пытаўся. Прадаў бы лесу, грошай натаргаваў і аплаціў той вэксаль. Дык не... І разагнуцца ён мне не даў. Так і выпхнуў сагнутага... А колькі я пнёў выдраў, колькі лаўжоў спаліў! Не адно ляда вычысціў, раллю зрабіў. Крывавы пот з мяне цёк. А жонка! Божа мой, божа, ці жаночая гэта работа ў лесе. А нам ні дня, ні ночы не было. Жыта пасеяў — як рунела добра! Думаў, праз год свайго хлеба наемся. Усё пайшло к чорту ў зубы...

— Ты мяне, Юрка... Я тут што!..

— Я ведаю, Юзік. Я цябе і не кляну. Бацька твой — крывасмок. А ты што! Гарэтны ты чалавек. Пайду я, хлопцы, не магу глядзець.

З хвоямі ўправіліся скора: звалілі з пнёў, распілавалі і паклалі на вазы. Коні ішлі лёгка. Усю дарогу Якава не пакідалі думкі пра Юрку Хмялеўскага і пра Халусту. Перамяніўся Юрка. Выбілі з-пад ног зямлю, страціў чалавек надзею і ходзіць як ачмурэлы. Няма самастойнасці, упэўненасці. «Настася сказала...» Няма на што абаперціся чалавеку, апіраецца на жонку. Гэта ўжо другая Халустава ахвяра. Першыя былі Шымкевічы. Хто ж трэці? Андрэй Сташэвіч? Не, гэтага не так лёгка ўвабраць. Спачатку прыбярэ Гарасіма Жукоўскага, тады Сымона Ашакевіча...

У Старочын прыехалі рана. Якаў забег на пошту, купіў канвертаў, марак, паперы. Юзік чакаў каля Бэркавай манапонькі. Калі прыйшоў Якаў, Юзік, не падымаючы вачэй, сказаў яму:

— Пазыч саракоўку, Якаў...

— Выпіць хочаш?

— Вып'ю... Моташна ў грудзях...

Якаў даў яму грошы.

— Толькі не сядзі там.

— А я на хаду.

Юзік сапраўды скора выйшаў з карчмы, сеў на воз і пагнаў пугай кабылу. «Заспявае «Каробачку»,— падумаў Якаў і памыліўся. Да самай Маліваўкі Юзік маўчаў.

## РАЗДЗЕЛ ДВАЦЦАЦЬ ШОСТЫ

Раніцай Сымон пайшоў у адрыну даць сена сваёй Пярэстай. На дварэ шарэла. Паветра было чыстае і трохі вільготнае. Неба стала глыбейшае. Весялей стаялі дрэвы ў засцянковых садах. Бадзёра пырхалі вераб'і, шукаючы пажывы на сметніках. Ва ўсім адчувалася набліжэнне вясны. Сымону захацелася нават пастаяць крыху, падумаць, гледзячы на белы свет, бо хоць ён амаль кожны дзень быў у дарозе, але свету не бачыў. Не прымячаў харАства, якое акружала яго. Прымільгаліся палі, лясы, лугавіны і здаваліся шэрымі, аднолькавымі. Ды ці думалася пра нейкае там хараство, калі жытка была чорная. Толькі вёрсты лічыў, колькі яшчэ да Слуцка або да Урэчча і колькі да дому.

У гэтым годзе неяк лягчэй жылося. Акрамя заробкаў у Арлоўскага памагаў людзям сена вазіць, хлеба зарабіў. Можа і да новага хопіць. Паўлік трохі акрыяў; не толькі па хаце хадзіў, але пачаў і на вуліцу выходзіць. Жонка павесялела. Хіба гэта не радасць, не жыццё, калі ў хаце здароўе, а на стале хлеба ўдастатку! Ды наогул, хоць і вайна пачалася і многа маладых у войска ўзялі, а людзі адчуваюць сябе вальней, смялей. Быў Сымон і ў Слуцку і на Урэччы, сустракаўся з людзьмі. Ніхто не глядзіць у зямлю, як раней. Ці ты скажаш «дзень добры» чалавеку, ці табе нехта скажа, то з нейкай прыязнасцю; пагаварыць хочацца, спыніць кабылу ды закурыць разам, словам перакінуцца. Толькі ў Маліваўцы нічога не прыметна. Жывуць людзі ціха, памалу. Далей сваіх ваколіц не бачаць нічога і бачыць не хочуць. Скажы ім якую навіну, дык хлусам зробяць ды яшчэ пасмяюцца. Дзіва што! Цемра гэтакая. Калі пабыў чалавек у кузні ці ў млыне ды калі яшчэ ў Слуцак раз за жыццё з'ездзіў, то ого! Ён ужо бывалы чалавек. От якая Маліваўка.

«Як падаўжэлі дні! — думаў Сымон.— Месяц назад да світання ўжо ўсе печы ў хатах былі выпалены, а сёння вунь з кожнага коміна дым валіць. Сама ра-

бота гаспадыням. А гаспадары толькі ўстаюць, пазяхаюць, чухаюцца, у гумны ідуць скаціну карміць. Нарэшце адпачынак і коням і людзям пасля такой цяжкай зімы. Мабыць, і Пярэстай трэба даць перадышку...»

Тым часам на дварэ зусім развіднела. Сымон не спяшаючыся пайшоў у адрыну. Сёння ён не збіраўся ў дарогу, можна было трохі і памарудзіць каля свае гаспадаркі. Але калі ён адчыніў адрыну, то яго адразу нешта насцярожыла. Ён і сам не разумеў, што гэта такое. У адрыне было нешта не тое, што ён прывык бачыць кожны дзень не адзін раз. У яго яшчэ не было такіх памочнікаў, якія маглі б нешта пераставіць або перакласці ў будынку, перайначыць той парадак, які ён вёў ужо не адзін год. І ўсё ж такі ў адрыне было нешта не тое, нібы тут пахадзіў чужы чалавек. На таку нацярушана сена! Сымон ніколі не дазваляў сабе гэтага. Не так многа ён меў пошару, каб абы-як абыходзіцца з ім. Ён учора вечарам падмёў ток, вілы, якімі ператрасаў канюшыну з сенам, паставіў у кут, а сёння тыя самыя вілы валяюцца на таку. Усё гэта было незразумела і загадкава. І ўвесь Сымонаў спакой адразу прапаў, у душу закралася трывога. Аднак ён, як і кожны раз, натрос сена з канюшынай і панёс Пярэстай у хлеў. Тады вярнуўся, натрос аўсяніцы з сенам і даў карове. Усё гэта рабілася механічна, бо галаву свідравалі іншыя думкі. З гэтымі думкамі ён і прыйшоў у хату.

— Аўдоля,— запытаў ён у жонкі,— ты ўчора вечарам пасля мяне не была ў адрыне?

Аўдоля зірнула на яго са здзіўленнем.

— Не, Сымон, не была. А што?

— Я і сам не ведаю... На таку нацярушана сена, валяюцца вілы. А я ўчора падмёў ток і вілы паставіў у кут...

Ён задумаўся.

— А можа я толькі падумаў так зрабіць і не зрабіў...

— Падумай добра, Сымон.

— От я і думаю.

— А нічога не ўкрадзена?

— Што ёсць красці ў нашай адрыне? Сена ды салома... Кожны засцянковы мае больш за мяне гэтага дабра.

Ён згарнуў папяросу, выграб вугаль з пячуркі і прыкурыў. Сеў каля стала і зацягнуўся некалькі разоў.

Не, сядзець ён не мог. Нешта гнала яго з месца, штурхала ў карак.

— Пайду.

— Куды ты, Сымон, пойдзеш?

— У адрыну. Пагляджу яшчэ раз... Нешта мне карціць, за душу бярэ... Не магу ўседзець.

Сымон устаў і цяжкай хадой пайшоў да дзвярэй.

У адрыне ўсё было так, як і першы раз. На таку нацярушана, але гэта ўжо ён сам нацерушыў, калі трос пошар кабыле і карове. Не падмёў, бо ведаў, што яшчэ вернецца сюды. І от вярнуўся і не ведае, што рабіць... Узяў граблі, згроб усю пацяруху і кінуў на тарпу. Дробнае смецце і пыл змёў у кут і стаяў, не разумеючы, што яго так трывожыць, адкуль чакаць бяды, бо падсвядома адчуваў, што бяда прыйшла ў яго двор... І тут яго позірк упаў на жытнюю салому, якая ляжала асобна каля самых дзвярэй. Раз у тыдзень, а можа і радзей, браў ён жытнюю салому, каб падаслаць у хлявах. Ва ўсякім разе, ён даўно яе не чапаў. Дык чаму ж яна ўскудлачана, нібы падвеяна ветрам! І ён рынуўся да тарпы з саломай.

Абліты халодным потам выйшаў Сымон з адрыны. Каб нехта ўбачыў яго ў тую хвіліну, то падумаў бы, што чалавек звар'яцеў. А Сымон і блізкі быў да вар'яцтва. Ён не разумеў, што падказала яму рыцца ў саломе, якую сам складаў, але ён перавярнуў яе амаль усю. Перавярнуў і знайшоў цяжкі клунак. У нейкай стракатай паношанай посцілцы былі ўвязаны палотны і нейкія лахманы... Хто яму падсунуў гэты скарб і навошта? І што цяпер рабіць з гэтым дабром?

На двары ён трохі ахаладаў, выцер з ілба пот і замкнуў адрыну. Можа трэба ісці па дзесяцкага Мартыневіча, пазваць старасту, ураднiка, расказаць ім пра ўсё, аддаць гэтую посцілку з чужым дабром, няхай знаходзяць гаспадара, каму яно належыць, або робяць што хочуць... Але ад гэтай думкі цёмна і холадна стала на душы. Уранік!.. А Шымкевічавы хлопцы!.. Тут жа ўсё звяжацца ў адзін вузел. Ураднік падумае, што гэта Шымкевічы далі яму плату за гарэлку пры той сустрэчы. Усім жа вядома, што яны рабавалі людзей. Цяпер ужо не адгаворышся, што не сустракаўся з імі, хоць іх ужо няма жывых. Чорт ведае што... У Сымона закруцілася ў галаве і пацямнела ў вачах. Ён прыхінуўся да дзвярэй і пастаяў некалькі хвілін, нібы права-

ліўшыся ў бездань. «Ці сказаць пра гэта Аўдолі? — была першая думка.— Не... Растрывожыць жанчыну, адабраць спакой, калі ёй і без гэтага хапае... Божа мой, божа!..» Ён зайшоў у свіронак, забраў Андрэеву асьміну, якую перад гэтым склаў і ўставіў новае дно, і панёс яе да Андрэя.

Андрэй з Іванам былі ў дрывотніку, пілавалі дровы, якія ўчора прывезлі з Маргоў. Сымон павітаўся, паставіў асьміну ўгару дном і прысеў на яе.

— А я, прызнацца табе, і думаць пра яе забыў,— сказаў Андрэй.

— Яшчэ паслужыць... Адвячоркамі ды досвіткамі зрабіў.

Андрэй зірнуў на Сымона і зразумеў, што не асьміна прывяла яго сюды, а нешта больш важнае.

— Закурым, Сымон... А ты, Іван, схадзі ў хату, прынясі мой кашалёк.

— А дзе ён ляжыць?

— Пашукай.

Іван недаўменна зірнуў на Андрэя і зразумеў, што той адсылае яго ў хату знарок, мабыць, на гэта ёсць прычына. Ён паставіў ля козлаў пілу і пайшоў.

— Бяда прыйшла ў мой двор, Андрэй...— прамовіў Сымон, згортваючы папяросу.— І я не ведаю, адкуль яна прыйшла...

— Што ў цябе за бяда, Сымон?

— Скарб знайшоў у адрыне.

— Які скарб?

Андрэй без тлумачэння зразумеў, што Сымон знайшоў у сваёй адрыне такі самы скарб, які і ён знайшоў у сваім гумне. У галаве яго круцілася толькі адна думка: «Сказаць пра гэта Сымону ці не? Не. Не сказаць». Каб Сымон быў не так усхваляваны і растрывожаны, то па Андрэевым твары пазнаў бы, што нешта падобнае адбылося і ў яго. Але, сам непрытомны, ён нічога гэтага не бачыў. Ён пачаў расказваць, як заўважыў непарадак у адрыне і як знайшоў чужыя рэчы.

— Што гэта такое, Андрэй, і скажы, што мне цяпер рабіць? — закончыў ён свой расказ.

— Хіба ты не ведаеш, што Зялёнку абакралі? — запытаў Андрэй.

— Чаму ж не ведаю! Але ж пры чым тут Зялёнка?

— Табе падкінулі Зялёнкавы рэчы.

Сымон пабялеў.

— Зялёнкавы рэчы... Навошта? Хто мог мне іх падкінуць? — як не сваім голасам запытаў ён.

— Той, хто абакраў Зялёнку або прыняў ад зладзеяў крадзенае.

— Халуста...— ледзь чутна вымавіў Сымон.

— А хто ж больш! Хоча зрабіць цябе злодзеем.

Сымон сашчапіў рукі, і вочы яго заплюшчыліся.

— Божа мой, божа...

З-пад заплюшчаных яго павек пакаціліся слёзы.

— Не час цяпер плакаць, Сымон. Трэба нешта рабіць,— сказаў Андрэй і ўспомніў, што сам гатовы быў ад роспачы крычаць і біцца галавой аб сцяну, калі яму пра такую ж навіну сказаў Якаў.

— А што мне рабіць, Андрэй?

— Цяпер паўбяды ўжо. Дзякуй богу, што знайшоў. Прыбраць трэба. Звезці куды-небудзь, бо назад Халусту ты яго не адкінеш.

— Дзе ты бачыў!.. Як я адкіну?

— Ну дык завязі куды-небудзь у лес, у балота, к чорту ў лазу ды не трäць дарма часу, а то яшчэ з вобыскам наляцяць. Пакуль што якое, у турме насядзішся, сям'я лясне...

— Як жа сярод белага дня?..

— Запражы кабылу ў развалкі, сенам закладзі той звязак і едзь, нібы ў Старочын. Заедзеш у Маргі, звярні ў роў ды там у рове і закапай у снег.

— А калі нарвецца хто?

— Пільнуйся. Ды хто там нарвецца! Нашы маліпаўцы цяпер з засценка і носа не высоўваюць.

«Як добра і лёгка даваць парады,— думаў Андрэй.— А як прыйшлося на самога, дык ледзь розуму не страціў».

— А каб пачакаць вечара?

— Хіба ты ведаеш, што можа зрабіцца за дзень? Увечар, калі выедзеш з двара, то кожны, хто ўбачыць, падумае: «А куды гэта ён выбраўся на ноч гледзячы?»

— Твая праўда, Андрэй... От якая навала звалілася на мяне... Толькі ж ты, Андрэй... Я, мабыць, і роднаму брату так не паверыў бы, як табе...

Сымон доўга не марудзіў дома. Сказаў Аўдолі, што паедзе ў Старочын, і пачаў збірацца. Жанчына хвалявалася, адчувала, што нешта адбылося, і звязана гэта

з адрынай, але колькі ні дапытвалася, ён ёй нічога не сказаў. Праз паўгадзіны Сымон выехаў са двара.

Не паспеў ён заехаць у Маргі, як каля Халуставага двара спыніўся вазок урадніка Беразоўскага. Дома ў Халусты, акрамя самога Яўхіма, нікога не было, бо Мікалай яшчэ не вярнуўся з Урэчча, а Юзік з Якавам кожны дзень ездзілі ў Крушнікі, і ніхто не прыйшоў адчыніць ураднiку браму. Ён злез з вазка і пачаў стукаць у браму пугаўём. На ўраднікаў стук адказалі спачатку сабакі, потым пачуўся голас і самога Халусты:

— Каго там трасца нясе? Ліха ма-атары!..

— Гэта я, пане Халуста, Беразоўскі! — адразу азваўся ўраднік.

— А-а! Гэта вы, гаспадзін ураднік! Я зараз!

Ён нейкім сабачым голасам гыркнуў на сабак, і тыя мігам супакоіліся і зніклі, падтуліўшы хвасты, нібы іх і не было на двары. Абедзве палавіны брамы адчыніліся. Халуста ўзяў каня за аброць і далікатна павёў у двор.

— Ая-яй, які добры конік! Можа распрэгчы?

— Не, пане Халуста, я ненадоўга.

— То мо аўса?

— Не пашкодзіць.

Халуста праворна заскочыў у свіран, даў каню аўса.

— Зладзеі, ліха матары іх! Таго і замыкаюся і сабак трымаю,— апраўдваўся ён перад ураднікам.

Потым яны сядзелі за сталом адзін перад адным і гутарылі. Дома была толькі нямая служанка.

— Дык вы сцвярджаеце, пане Халуста, што Андрэй Сташэвіч мае нейкае дачыненне да крадзяжу ў Зялёнкі?

— Якое там дачыненне, гаспадзін ураднік! Гэта ж ён і абакраў!

— Ну, ведаеце... Па-мойму, Сташэвіч не злодзей. Зялёнку абакраў не адзін чалавек. Там была цэлая хэўра.

— То вы думаеце, што ў Сташэвіча хэўры няма? Уга! А парабак яго, тае Агапкі сын, Марціна Крываблоцкага пляменнік! А Сымон Ашакевіч, той самы злодзей, што з Шымкевічамі сустракаўся! Вы кажаце, не злодзей...

— Гэта не даказана, пане Халуста.

— Не даказана, але было! А чыжэвіцкія мужыкі!

Гэта ж усё Сташэвічава хэўра! Шэметы розныя ды Крываблоцкія!..

— Усё гэта, пане Халуста, не тое. Чым вы дакажаце, што Андрэй Сташэвіч з парабкам і Сымонам Ашакевічам абакралі Зялёнку?

— А вы пашукайце ў іх, гаспадзін ураднік! Пашукайце! Зрабіце ў іх вобыск!

— Зрабіць вобыск — гэта адна справа... Для гэтага патрэбны доказы. Андрэй Сташэвіч і Сымон Ашакевіч — дваране. Рабіць вобыск без доказаў — гэта аскарбленне дваранскага дастоінства, пане Халуста. І наогул...

— Дваране! Эх, гаспадзін ураднік! Усе яны, гэтыя засцянковыя дваране, зладзеі, жулікі і абармоты! Хіба я не ведаю! Адзін у аднаго крадуць. Вунь дзесяцкі наш Нічыпар Мартыневіч. Той нават у царкве крадзе.

— Зноў жа не тое, пане Халуста. За руку ніхто яго не ўзяў. А што адзін у аднаго крадуць, то ў кожнай вёсцы ёсць дробныя зладзеі. Украдзе на ніве сноп, пярэбірак канюшыны.

— Каб жа дробныя! Сташэвіч ды Ашакевіч не дробныя! Гэтыя снапоў красці не будуць, ліха матары іх!

Беразоўскі задумаўся. Ён быў упэўнены, што ні Андрэй Сташэвіч, ні Сымон Ашакевіч Зялёнку не абкрадвалі, але чаму Халуста так настойліва патрабуе ў іх вобыску? У чым тут прычына? Адкуль у Халусты такая ўпэўненасць? З'явіцца да Сташэвіча з вобыскам, абвінаваціць яго ў зладзействе! Гэта здавалася Беразоўскаму зусім неверагодным. Ён ведаў Андрэевага бацьку, ведаў трохі Андрэя, ва ўсякім разе чуў пра яго многа, але што ён крадзе — не чуў. Ведаў таксама, што калісьці Андрэй заляцаўся да яго жонкі, калі яна была дзяўчынай. Прыйсці да яго цяпер з вобыскам, абвінаваціць у зладзействе — ці не падобна гэта будзе на запозненую помсту! Ды наогул ён не верыў, што Сташэвіч і Ашакевіч зладзеі. Сам Халуста быў здольны на такія справы, ураднік гэта ведаў, і каб ён меў хоць маленькае паведамленне, то не міргнуўшы вокам зрабіў бы ў яго вобыск. Страшная асоба. Пачвара... Сёння ён не прытвараўся. Недайграў ці перайграў. Не зразумееш такога тыпуса.

А Халуста зразумеў, што думкі ўрадніка хіляцца не ў яго бок.

— Гаспадзінураднік,— пачаў ён зноў.— Вы, як відаць, мне не верыце. Але ж цяпер вы самі гаспадар. От як пажывяце ў сяле, тады ўсіх сельскіх зладзеяў будзеце ведаць, як я ведаю засцянковых. Бо пажыў з імі. Ліха матары іх, усіх ведаю! От запытайцеся ў свайго цесця пана Арлоўскага! Ён вам скажа.

Беразоўскі маўчаў, схіліўшы галаву. Халуставы словы яго не краталі. «Мой цесць ды ты! — думаў ён.— Падобныя вы...» Думаў ён і пра вобыск у Сташэвіча і Ашакевіча. На гэта трэба было браць дазвол у Слуцку. Складаная справа...

— Цяпер, гаспадзін ураднік, газеты. Гэты ж Сташэвіч газеты атрымоўвае.

— Нікому не забаронена атрымоўваць і чытаць газеты, пане Халуста.

— Гледзячы як чытаць! Ён жа не адзін чытае! Збірае сяброў!

— Каго? — ажывіўся ўраднік.

— Дык от мой парабак Якаў Шэмет да яго ходзіць.

— Яшчэ хто?

— Яго парабак Іван Аўсянік.

— Яны жывуць у адной хаце.

— Сымон Ашакевіч.

— І Сымон Ашакевіч ходзіць да Андрэя Сташэвіча чытаць газеты?

— Ходзіць! Цэлыя ночы там праседжваюць! — не міргнуўшы вокам, салгаў Халуста.

І тут з усёй яскравасцю паўстала ў памяці Беразоўскага сустрэча з Ашакевічам у двары Арлоўскага, калі ён туды заехаў з маёнтка і першы раз пасватаўся да Адэлі. «Гэты шэльма — ураднік...» Чырвань заліла твар Беразоўскаму, загарэліся вочы. Ці не прыйшла пара адпомсціць! А можа ў іх знойдзецца забароненая літаратура!

— Значыць, ходзіць да Сташэвіча?

— А як жа! Іх, гаспадзін ураднік, вадой не разальеш!

— Аб гэтым вы павінны былі паведаміць мне раней! — Беразоўскі падняў палец і паківаў ім каля носа ў Халусты.— Вы далі падпіску. Не забывайце гэтага!

— А я, гаспадзін ураднік, сам толькі нядаўна пра гэта ўведаў, ліха матары іх!

«Эх, і прахвост жа ты, сукін сын, прахвост!» — падумаў Беразоўскі пра свайго агента.

— Добра, пане Халуста. З вашым папярэднім данясеннем пра Сташэвіча і Ашакевіча я з'езджу ў Слуцак, і тады мы ў іх зробім вобыск. Вось так...

— А ці скора гэта будзе, гаспадзін ураднік?

— Што?

— Вобыск. Бо яны, калі што маюць, то могуць збыць!

— Гэта будзе не раней як у панядзелак. Не раней.

— Яно каб раней, то лепш было б...

— Раней я не спраўлюся. А вы, пане Халуста, сачыце за падазронымі людзьмі і паведамляйце мне неадкладна. Можа з'явіцца які-небудзь чужы чалавек, сачыце, у каго ён будзе. І паведамляйце. Крамольнікі не спяць!

— Хі-хі-хі! Я не прапушчу, гаспадзін ураднік! Ліха матары іх!

Правёўшы ўрадніка, Халуста гатовы быў заліцца смехам ад радасці. «А-а! Ліха матары вашай! Я вам пакажу-у! Я вас навучу-у!»

## РАЗДЗЕЛ ДВАЦЦАЦЬ СЁМЫ

Гарбаты Ясь прыйшоў у млын задоўга да світання. Ён быў нечым узрушаны і вельмі нездаволены. Гэта адразу пазнаў Платон, якому ў тую ноч не давялося і вачэй звесці. Яшчэ звечара аканом паклікаў Гарбатага да сябе, і Платону прыйшлося астацца ў млыне за галоўнага. Думаў, што Гарбаты нядоўга затрымаецца, а ён прабыў там цэлую ноч. А можа і не там, можа спаў дома, аднак ад гэтага Платону не было лягчэй: ён страшна змарыўся, рукі не хацелі служыць пасля шасціпудовых мяхоў, зліпаліся павекі.

Гарбаты моўчкі сеў на запыленую лаўку і пачаў закурваць. Тады зацягнуўся, плюнуў і сказаў скрыпучым злым голасам:

— Бачыш, што ён надумаў, халера гэткая! Гэтакі ён разумны. У млыне дык работы няма, усё само робіцца... І мяхі самі высыпаюцца і насыпаюцца, і за вальцамі глядзець не трэба, і нехта за нас важыць і піша, а мы тут пануем.

— Пра каго гэта вы, дзядзька? — запытаў Платон.

— Пра аканома. Цябе на стайню забраць хоча, от што.

— А мне ўсё роўна.

— Дык ты яму так і скажы! — вызверыўся Ясь.— Бяжы ды прасіся: на стайню хачу! Там табе лёгка будзе! Вылежышся на саломцы!

— Няма ў маёнтку такой работы, каб ляжаць.

— То ж бо то! Асабліва цяпер. Дваццаць тры чалавекі, пане мой, на вайну пайшлі. На стайні палавіна работнікаў асталося, а коней хіба паменшала? А хто жарабца даглядаць будзе? Андрэя ж здалі ў салдаты. То табе гэтую халеру ён і хоча ўвапхнуць. «Платон Шабунь ест дужы»,— перадражніў Гарбаты аканома.— А хіба ў млыне можа ўправіцца слабы чалавек? З такімі мяхамі цэлы дзень... Я кажу: «Як хочаш, пане, а Платона я табе не аддам».

Гарбаты зірнуў на свайго памочніка так, нібы хацеў упэўніцца, што той яму вельмі ўдзячны, але ніякай удзячнасці не ўбачыў у Платонавых вачах. Ад гэтага ён ускіпеў.

— Ты думаеш, што на стайні будзе лягчэй! Не, пане мой, не лягчэй. Катарга там цяпер пачнецца, бо канюхі будуць і кароў даглядаць. Ну што, як цяпер, смачна?

— А чаму і кароў? — нібы нічога не ведаючы, запытаў Платон.

— Я ж табе кажу: парабкоў не хапае. Дваццаць трох чалавек у салдаты здалі, ды самую сілу, маладых, спраўных, а хто астаўся? З малодшых ты ды Павел Квітун. То за цябе я заступіўся.— Гарбаты зноў зірнуў на Платона, чакаючы ўдзячнасці.— Пайшоў бы і ты!.. А Павел, то ён жа нейкі памочнік Вярбіцкага.

Гарбаты хлусіў: не заступаўся ён за Платона, ды і не мог заступіцца. Не такая прыкметная асоба быў Гарбаты, каб нехта прыслухоўваўся да яго слоў ці шукаў яго парады. І Платон ведаў гэта.

— І дзякуй нават не скажаш,— папракнуў Ясь.

— А мне ўсё роўна, дзядзька.

— Цьфу! От дурань дык дурань! Яму ўсё роўна — ці млын, ці стайня, маёнтак ці вайна! Тут хоць галава на плячах цэлая будзе, а там! Кажуць, што японцы здорава нашых б'юць,— дадаў ён паўшэптам.

— Не ведаю я пра гэта, дзядзька.

Гарбаты шматзначна ўсміхнуўся.

— Ён не ведае!.. Лепш за мяне ты ўсё ведаеш, хлопча... Дык от як лёгка будзе на стайні. А жарабец табе

рукі абарве горш, чым мяхі. Звер! Хіба не бачыў, як Андрэй з ім валаводзіўся?

— То няхай пан аконам нойме парабкоў замест тых, што ў салдаты здалі.

— Нойме! А дзе ён іх схопіць? З сёл хіба не пабралі хлопцаў? Ды не вельмі ён хоча наймаць, мяркуе гэтымі абысціся.

— Не абыдзецца. Каго ён вясною на сяўбу адправіць?

— Знойдзе каго! Да таго часу бровар стане, дык ён усіх з бровара і дашле на поле. Ці мала іх там! Давядзецца і самому пану Вярбіцкаму за плугам пахадзіць.

«От якія ў вас планы»,— падумаў Платон і сказаў:

— Разумны пан аконам...

— Не дурны!

Тут д'ябальская ўсмешка скрывіла Ясеў твар.

— А ты шапні пра гэта Вярбіцкаму і Квітуну. Няхай ведаюць ды, як тады на бульбе... бунт узнімуць...

Вочы ў Платона бліснулі гневам. «Ах ты, малпа гарбатая! Вось з якога боку ты да мяне хочаш пад'ехаць!»

— Вы, дзядзька, не рабіце мяне дурнем. Можа б вы самі шапнулі пра гэта Вярбіцкаму, каб я паглядзеў, як ён вам у горб накладзе.

— От які ты мацыя! — са злосцю вымавіў Ясь.— У горб! Не кожны смаркач кранецца майго гарба!

Гэтая гаворка кончылася б сваркай, калі б у млын не заявіўся новы чалавек. У шапцы з казінай шкуры, у старым кажусе і новых лазовых лапцях каля дзвярэй стаяў Юрка Хмялеўскі. І Гарбаты і Платон зірнулі на яго са здзіўленнем, бо ніхто ў такую раннюю пару не чакаў у млыне чужога чалавека, тым болей Юркі Хмялеўскага.

— Ты што ж,— мабыць, прывёз сваю пашню малоць у наш млын? То табе ж у Старочын бліжэй! — бліснуўшы вачыма, з насмешкай запытаў Гарбаты.

— Не здзекуйцеся, дзядзька... Дзе вы бачылі! Якая ў мяне пашня... Яе ўсю ў жорнах рукамі перакруціш...

— Я не здзекуюся... Але нешта ты вельмі ранні.

— А ў мяне цяпер усё роўна, што дзень, што ноч...: Чарната адна наўкола, цемра ды бяда!..

— Ведаю, чуў... Уходаў-такі цябе Халуста з Ножыкам ды...

— Ды ўжо дагаворвайце, бо я і сам ведаю, што

без пана аконама тут не абышлося... Што я зраблю!..

— То куды ты едзеш так рана?

— От сюды прыехаў, у маёнтак... Да пана аконама... Спіць ён яшчэ, то я ў млын зайшоў...

— То сядзь пасядзі. Раскажы, як вы цяпер там, на хутары.

— Жыву пакуль што, бо няма дзе дзявацца... Пільную Халуставы будынкі. Кажа: «Арандуй мой хутар...» Начорта мне! Глядзець ні на што не магу, усё так збрыдзела... Хачу ў маёнтак наняцца, можа пан аконам возьме.

— А, мабыць, такі і возьме! — падхапіўся Ясь.— Чаму не возьме! Парабкоў не хапае, а цябе ён ведае. От і ў млын чалавек трэба. Ды і жонка твая работніца: ці каля свіней, ці каля кароў.

Гарбаты сказаў гэта больш для Платона, чым для Юркі, бо ў яго ўжо з'явілася думка адправіць свайго памочніка на стайню, а на яго месца ўзяць Хмялеўскага, як толькі той уладкуецца ў маёнтку. Платон гэта зразумеў.

— Каб даў мне бог скарэй выбрацца адтуль, бо не вытрываю я... Калі падумаю, што ўсё было маё, а цяпер нічога майго няма, то валасы на сабе рваў бы. Можа б вы, дзядзька, закінулі за мяне слова аконаму?

— Чаму я не закіну, каб ён мяне паслухаў. Пасядзі, пакуль ён устане.

Платон глядзеў на гэтага вялікага, дужага чалавека, які выглядаў так бездапаможна і няўпэўнена, нібы дзіця, якое толькі пачало хадзіць, і гнеў на Гарбатага запаланіў яго душу. Даўно ён ведаў Юрку Хмялеўскага — працаўніка і гаротніка, якога і тут, у маёнтку, папіхалі хто куды хацеў. Што ж за дзіва, што там, на хутары, астаўшыся адзін, ён не змог абараніцца ад такіх ваўкоў, як Халуста, Ножык і Гендарсан! Вось і цяпер ён ужо шукае дапамогі, нейкай апоры, і ў каго? У такога самага ваўка — Гарбатага. І крыўдна яму стала за гэтага няшчаснага. Хацелася сказаць яму: «Дурань! Ідзі да аконама, ён цябе і без Гарбатага прыме!» Але ці паможаш яму гэтым? Можа толькі напсуеш.

— Я, дзядзька, пайду трохі пасплю,— сказаў Платон Гарбатаму.

— Ідзі. Толькі не вельмі там вылежвайся. Не такі цяпер час, каб падоўгу спаць.

Шэры і вельмі непрыветны здаваўся маёнтак перад раніцай. Маўклівыя панурыя камяніцы з маленькімі вокнамі, у якіх блішчала жоўтае сумнае святло ад газовак, стаялі як злавесныя здані. У доўгіх нізкіх аборах для кароў і свіней у адчыненых дзвярах таксама мітусілася жоўтае скупое святло ад ліхтароў. Парабкі і парабчанкі пачалі карміць панскую худобу. Але не чуваць было ні аднаго жывога гуку, бадзёрага голасу, вясёлага смеху. Катарга... Самая сапраўдная катарга. І гэта стала прыметна асабліва цяпер, калі амаль уся моладзь пайшла на вайну. Маёнтак апусцеў.

Толькі каля стайні пачуў Платон моцную гаворку, якая нагадвала сварку. Платон спыніўся.

— Не, пане аконам, так не будзе. Я ўжо сваё адрабіў. Не ў мае гады з коньмі важдацца, няхай яны падохнуць.

— Як гэта ест: няхай падохнуць? Панскія коні, іх трэба даглядайт!

— Ну, дык і даглядай іх сам, пане аконам.

«Ага! — зразумеў Платон.— Кірыла Верабей сварыцца з Гендарсанам. Значыць, прыперла аконаму, калі старога вартаўніка прымушае працаваць на стайні».

— Як гэта сам! — крычаў Гендарсан.— А ты — як гэта? — дармаед! Ты ест дармаед!

— Не, пане аконам. Гэта ты дармаед, а не я. Я больш за паўсотню гадоў рабіў у маёнтку. І жыццё і здароўе палажыў тут. А ты, пане аконам, у маёнтку сённяшні. А заўтрашні можа і не будзеш.

— Ты мне пагражайт! Гэта ест бунт!

— Не палохай мяне бунтам, пане аконам. Я не баюся ніякіх бунтаў. Праз акно ад баб уцякаць не буду.

Платон засмяяўся. «Смелы ж ты, дзядзька Кірыла!» — падумаў ён.

Аканом пачаў лаяцца па-беларуску і па-нямецку, і хоць крычаў ён моцна, але ў голасе яго не было тае ўпэўненасці, якая гучала ў пачатку гаворкі.

— От на тым і кончым, пане аконам,— сказаў Кірыла.

Гендарсан плюнуў і пабег у кароўнік. Тады Платон падышоў да старога вартаўніка.

— Чаго гэта вы не падзялілі з панам аканомам? — запытаў ён.

— Не падзялілі!.. А што мне з ім дзяліць! Прыбег, як шалёны, і на стайню мяне гоніць, жарабца дагля-

дець. Гэта ў мае гады! Ну, я і адправіў яго к чорту. То ён сказаў, што паставіць мяне канюхом, каб я нараўне з маладымі на стайні рабіў. Ёсць на свеце праўда? Каб па-людску жылося, то мне ўжо на печы трэба ляжаць, косці выграваць, а то ж няма за кім... Адзін на свеце... Так і здохнеш тут, як сабака, у гэтай будцы. Выцягнуць за ногі, як падлу, закапаюць, і як на свеце не жыў.

Стары плюнуў.

— Дажыўся... Хоць у пятлю лезь.

— Ну, не, дзядзька! Калі каго і трэба ў пятлю, то не нашага брата. Нам і на гэтым свеце пятля.

— Ага!

Стары падышоў да Платона, схіліўся над яго вухам і злосна зашаптаў сіплым старэчым голасам:

— То чаму вы маўчыце, чаго чакаеце? На вас спадзяёмся, на маладзейшых, а вы...

— Хто гэта спадзяецца, дзядзька? — адхіснуўшыся ад нечаканасці, запытаў Платон.

— Я... Увосень жа маглі!

— То тады ж бабы...

— Эх ты! Бабы!.. Бабы і ёсць...

Кірыла Верабей адвярнуўся і, сагнуўшыся, па-старэчы, пайшоў у старажоўку.

Платон адчуў, што стома яго знікла і санлівасць прайшла. Значыць, людзі ведаюць, што ў маёнтку ёсць сіла, якая можа стаць у іх абарону. Можа не ведаюць, а толькі здагадваюцца. Чаму яны не маглі здагадацца! Хіба не дапытваў ураднік Станіслава і Паўла, не рабіў у іх вобыску, не ператрос заадно і яго, Платонаў, куфэрак? Хіба Станіслаў і Павел не былі ў канторы тады, як аканом уцёк праз акно! Людзей нельга ашукаць, яны з драбніц складаюць цэлае, хоць і не зусім такое, якое было ў сапраўднасці, але вельмі падобнае. А цяпер, калі прыйшоў цяжкі час, людзі спадзяюцца на іх, чакаюць іх дапамогі. Дык пара ж нешта рабіць! Ці недарэмна марудзіць Станіслаў?! Чаго ён чакае? І Якава Шэмета даўно не было ў маёнтку. І тут Платон успомніў д'ябальскую ўсмешку Гарбатага і яго словы: «А ты шапні Вярбіцкаму і Квітуну... Ды як тады на бульбе... Бунт узнімуць». Гэты вораг страшнейшы за Гендарсана і хітрэйшы. Гендарсан наўрад ці пра нешта здагадваецца, а гэты злодзей ведае, адкуль дзьме вецер. А хіба Гарбаты не мог сказаць Гендарсану? Ад

гэтай думкі Платону стала горача. Не, адпачываць цяпер нельга. Трэба ісці ў бровар да хлопцаў. Платон ведаў, што яны ўжо там.

Гендарсан думаў. І думаць было пра што. Дагэтуль работа ў маёнтку ішла зладжана, без перабояў: так ідзе добры гадзіннік, які толькі трэба завесці ў свой час. А цяпер усё зблыталася, зламалася. Гадзіннік, здаецца, і цікае, але час паказвае няправільна. У бровары і ў млыне ўсё яшчэ ў парадку, а на стайні, у кароўніку і ў свінарніку не хапае работнікаў. Тых самых частак, якія сапсавалі ход гадзінніка. Моцна ўдарыла вайна па ўсіх планах аканома. А што будзе вясной, якая ўжо не за гарамі? На вайну пайшлі аратыя, сяўцы, касцы, малацьбіты — галоўныя рабочыя, без якіх вясной не абыдзешся. У аканома быў свой план, пра які ён расказаў Гарбатаму, а той Платону, але плана гэтага Гарбаты не ўхваліў, ды і сам аканом не быў упэўнены, што яму ўдасца яго здзейсніць. Ён помніў восень і баяўся, што нешта падобнае можа адбыцца і вясной. Але паспрабаваць трэба...

Калі ён ускочыў у парылку, свінаркі пачалі ўжо карміць свіней. Першую ён убачыў Любу, якая стаяла пры вялізных катлах. Люба павінна была неўзабаве раджаць. Сяброўкі бачылі гэта і бераглі яе. Яны не дазвалялі ёй насіць у запарнікі бульбу, ваду, цяжкія вёдры з паранкай. Яна павінна была пільнаваць катлоў, падкладваць пад іх дровы, каб не звёўся агонь, мяшаць паранку, каб не прыгарала знізу. Гендарсан і застаў яе пры катлах адну.

— Што гэта ест? — закрычаў ён.— А дзе астатнія сукіны доч?

Люба наогул была ціхая і баязлівая, а цяпер, сустрэўшыся з аканомам адно на адно, яна зусім разгубілася і нічога не адказала. Аканом, мабыць, і не чакаў адказу. Ён прабег па парылцы, спыніўся ля аднаго катла, падняў бляшанае века і, сагнуўшыся, панюхаў смярдзючую пару. Твар яго зморшчыўся.

— Што тут ест? Што вы парыль? Гэта ест атрута для швіня!

— Тут, пане, бульба, мякіна ды вобмешка,— нясмела адказала Люба.— І брага з бровара...

— Брага? А чаму ваняйт?

— Таму і ваняе, што брага... Ды бульба трохі падмерзла...

Аканом доўгім цікаўным позіркам акінуў маладую жанчыну. Яна даўно яму падабалася. Каб ён быў больш уважлівы, то ўбачыў бы, што яна цяжарная, хоць шырокая даўгаватая світка і хавала яе постаць.

— Хм,— хмыкнуў аканом і задумаўся. Не, не такі быў час, каб займацца непатрэбнымі штукамі. Аднак ён зрабіў крок да Любы і пагладзіў яе па плячы. Бедная жанчына гатова была заплакаць.

— Гут,— прамовіў аканом.— А дзе ест астатні?

— Свіней кормяць.

У гэты час з пустымі вёдрамі ўвайшлі ў парылку свінаркі. Яны ўжо трохі чулі пра аканомавы планы і зразумелі, што прыйшоў ён сёння да іх не з дабром.

Калі аканом зірнуў на іх суровыя твары, то адразу ўспомніў восень, і запал яго знік.

— Жанчын! — сказаў ён.— Канчайт карміт швіня. Пара... Вы позна спіт... Трэба карміт карова!

Парабчанкі добра разумелі яго гаворку, якая недарэчная яна ні была.

— Дакуль гэта будзе, пане аканом? — абурана загаварыла прыгожая жанчына, апранутая лепш за астатніх.— Як гэта карміць кароў? Дзве работы рабіць? Спачатку накарміць свіней, тады ісці карміць кароў? Ад поўначы да поўначы ў панскіх аборах? А калі спаць, даглядаць дзяцей? А адпачыць хіба не трэба?

Гендарсан не верыў сваім вачам. Жонка Станіслава Вярбіцкага ў свінарніку?! Хіба яна свінарка?

— Э-э, пані Вярбіцкі... Чаму ві тут? Ві ест жонка механіка.

— Дык што? Памагаю жанчынам. І ніякая я не пані, гэта ваша жонка пані. А тут столькі работы, што дыхнуць людзям некалі. А вы іх яшчэ ў кароўнік гоніце.

І тут нібы маланка асвяціла аканомаў розум. Ён раптам успомніў, што ўвосень, калі ўзбунтаваліся бабы, жонка Вярбіцкага выбірала бульбу, а сам Вярбіцкі прыходзіў атрымліваць за яе грошы. Яму здалося, што ён усё зразумеў.

— Вон, доннэрветтэр! — закрычаў ён і затупаў нагамі.— Вон! Ты не ест работніца! Ты ест бунтавец!

Ён крычаў, але разумеў, што справа яго не выгарала, што не прымусіць ён ні парабчанак, ні парабкоў

рабіць за дваіх. І ніхто яму не паможа зрабіць гэта, бо нават Гарбаты адмовіўся. Але ён крычаў і лаяўся, тупаў нагамі і махаў кулакамі.

— Жанкі, выкінем яго на двор! — прамовіла свінарка Акуліна, жонка канюха Андрэя, які даглядаў жарабца. Канюх таксама пайшоў на вайну, пакінуўшы жонку з трыма малымі дзецьмі.

Гендарсан не стаў чакаць, пакуль яго выкінуць. Ён як куля вылецеў з парылкі, калі ўбачыў, што жанчыны пачалі на яго наступаць, і ледзь не збіў з ног Кірылу Вераб'я, які ішоў у бровар, каб параіцца з Вярбіцкім.

У бровары тым часам ішла кароткая нарада.

— Што будзем рабіць, хлопцы? — запытаў Платон.

— А як думаеш ты? — пацікавіўся Станіслаў.

— Што я думаю? Тушыць у маёнтку ўсе агні.

Станіслаў паківаў галавой.

— Рана, Платон.

— А калі Гендарсан прымусіць жанок са свінарніка рабіць і ў кароўніку? Хіба гэта можна дазволіць?

— Нельга. І ён не прымусіць. З канюхамі гаварыў Павел, а ў свінарніку мая Ядвіга. Гендарсан будзе шукаць работнікаў. Ты казаў, што ў маёнтак прыехаў Юрка Хмялеўскі. Гендарсан яго возьме з радасцю. Рана яшчэ тушыць усе агні ў маёнтку, Платон. І калі табе намякнуў Гарбаты, што гатовы ад цябе збавіцца, кідай млын. Ты нам будзеш больш патрэбны сярод простых парабкаў.

У гэты час адчыніліся дзверы, і ў памяшканне зайшоў Кірыла Верабей, ледзь трымаючыся, каб не зарагатаць.

— Ну і ляцеў аконам з парылкі, ха-ха-ха! — рагатаў ён.— Я думаў, што ім адтуль стрэлілі!

— Так і з конскай аборы паляціць,— сказаў Павел.

## РАЗДЗЕЛ ДВАЦЦАЦЬ ВОСЬМЫ

Лісавета не разумела, што з ёю робіцца ў апошні час. Што з ёю робіцца?..

Яна ўжо не адчувала сябе дзяўчынкай, як раней. Цяжка жылося, але яна радавалася жыццю, якое яно ні было. Ні работа, ні клопаты — нішто не замінала.

Ва ўсім знаходзілася нешта добрае, лёгкае, кавалачак шчасця, дробнай, але непаўторнай радасці.

Не хацелася раніцай уставаць, але ўяўляўся будучы дзень з усімі яго трывогамі, такі самы дзень, як і ўсе, але ўсё ж такі трохі іншы, і сон знікаў, яна бадзёра ўскоквала з ложка, запальвала газоўку і бралася за звычайную ранішнюю работу.

А цяпер?..

А цяпер ёй хацелася ніколі не прачынацца...

Бывала, калі надыходзіла вясна, нешта новае, незразумелае, але да болю салодкае і радаснае нараджалася ў грудзях. Радасна было, што даўжэюць дні, што са стрэх льецца капеж; што вечарамі пад тымі ж самымі стрэхамі растуць доўгія ледзячкі, а раніцамі, калі ўгрэе сонца і адваліцца мароз, яны пачынаюць плакаць і са звонам ляцяць на дол... Усё было радаснае ў тыя дні...

А цяпер?..

Зноў надыходзіла вясна, веялі вільготныя вятры, няслі цяпло. А Лісавеце здавалася, што ўсё гэта не для яе...

Дзятвы нельга было дазвацца ў хату; забывалі пра яду, пра хатнюю работу; да позняй ночы не браў іх сон. Наставілі снежных баб цэлую вуліцу, каля кожнага двара. У праезджых пужаліся коні. Дзіва што! Гэтулькі ідалаў у засценку. Не толькі Алеся, нават Адама як хто падмяніў. Прыходзілі дамоў мокрыя, асклелыя, а ў вачах столькі бадзёрасці і весялосці! У мінулыя гады ў такую самую пару і Лісавета забывала, што яна гаспадыня ў хаце. Хоць на некалькі хвілін выскоквала на вуліцу, качала снежныя камы, гуляла ў снежкі. Было, што і пападала ад вулічных падшывальцаў, хавалася ў хату, каб вытрасці з-за шыі снег. Бацька жартаваў:

— Ну што? Занялася з малымі? Сама як маленькая.

Смешны тата! Ён лічыў яе дарослай... Балюча было ўспамінаць пра гэта цяпер, калі Лісавета адчула сябе і сапраўды дарослай... Божа мой! Хіба толькі дарослай!.. Сэрца сціскалася ад болю і жалю. Не!.. Сапраўднай вясны яна ўжо не прычакае і ніколі не ўбачыць...

Позна ўвечары, калі мужчыны спалі, а на двары стаяла цемра і скавытаў вецер, Лісавета пакідала працы, праходзіла каля ложкаў, углядалася ў твары сон-

ных хлопцаў, якім яна замяняла маці, спынялася каля таты, старога, змарнелага, якога і ў сне не пакідалі клопаты, і жаль гарачай хваляй уздымаўся ў яе грудзях. Нешта падсвядомае падказвала ёй, што скора яна навек разлучыцца з імі; што надыходзіць страшны час, які нясе яе сям'і нясцерпнае, несуцешнае гора; што гэты час надыходзіць праз яе, праз яе дурнату, праз яе беклапотнасць...

Ой, ці бесклапотнасць!

Што яна магла зрабіць сама з сабою — маленькая дзяўчынка са сваім вялікім каханнем? Яна не магла супрацівіцца яму, не магла сябе абараніць.

І ніхто не мог суцешыць яе, сказаць ласкавае слова... Ды каму яна прызналася б у тым, што з ёю зрабілася?

Каму?

Можа толькі яму... Мікалаю...

Не, і яму не прызналася б...

Ніколі...

Але пабачыць яго хацелася. Зірнуць на яго. Сказаць яму...

Што сказаць?!

Што любіць яго, нягледзячы ні на што?..

Як даўно яна не бачыла яго! Калі кончылі вазіць сена з Волі, кончыліся і іх сустрэчы. Бацька і Адам кожны дзень цяпер былі дома. Мікалай не мог прыйсці ўпотай, як прыходзіў раней. Хіба пусціў бы яго бацька ў хату? Асабліва цяпер, калі стары Халуста абраваў Хмялеўскага. А цяпер вялікі пост, кончыліся вячоркі. Дзяўчаты сядзелі дома, рыхтавалі кросны. Рыхтавала і Лісавета. Трэба было да вясны саткаць усё тое, што было спрадзена за зіму, каб не стаялі ў хаце кросны, каб не заміналі, калі растане снег і вясна паклiча ўсіх на поле і ў агароды. Бо які гэта сорам жанкам, калі кросны занялі хату ў той час, як трэба не ткаць, а бяліць палотны.

Ох, жыццё, жыццё... Горкае, сірочае...

А яшчэ ж людзі не ведаюць. Але ці доўга так будзе! Хіба можна схаваць тое, што само сябе пакажа?

Хоць бы ўгледзець Мікалая... Лісавета верыла, што калі хто і паможа ёй, то толькі ён. Абы ён захацеў...

Мікалай цяпер кожны дзень у кузні. Сяляне рыхталіся да вясны: ладзілі калёсы, плугі, бароны. У кузні было завозна, ад раніцы да вечара каля яе стаялі

фурманкі. Лісавета іншы раз выходзіла на двор і слухала, як з кузні разносіцца па ўсім засценку звон малатоў. Уяўляла Мікалая, такога дужага і мужнага з молатам у руцэ. Ён, крыху сагнуўшыся, стаяў пры кавадле і каваў. Ад жалеза ляцелі гарачыя пыркі. Як гэта прыгожа і страшна!..

І ўспомніла Лісавета, як яшчэ дзяўчынкай, гадоў пяць ці шэсць назад, яна разам з аднагодкамі зазірнула ў кузню. Тады кузня была навіной, як цяпер малатарня. Халусты нядаўна прыехалі ў засценак і першнаперш пабудавалі кузню. Некаторыя радаваліся: «Свая кузня ў засценку! Не трэба ехаць у Чыжэвічы з кожнай драбязой». А ўся дзятва хадзіла тады глядзець на гэтае дзіва. Лісавета не магла астацца збоку. Маці была жыва, і часу дзяўчынцы хапала. І тады каваў Мікалай, але які страшны ён паказаўся ёй! Вусаты, як і цяпер, чорны ад сажы, толькі вочы блішчаць, у скураным фартуху, ён быў падобны на д'ябла. Ніхто з малых не асмельваўся зайсці ў кузню, усіх апаноўваў нейкі страх. Тапталіся каля парога, цераз галовы адзін аднаго глядзелі ў гэтае вогненнае пекла. Такое ўражанне ад кузні было не ў адной Лісаветы.

— Гэй! Бізуняты! Пайшлі вон! — крычаў Мікалай.

Усе кідаліся ад кузні ўроссып, але скора зноў вярталіся назад: цікаўнасць брала верх над страхам.

— Я вам дам, шмаравозы!

Мікалай выхопліваў з горна распаленае жалеза і кідаўся да дзвярэй. Тут, вядома, былі не жарты, трэба было ратавацца. Адбегшыся далей, хлапчукі крычалі:

— Халуста-капуста, Шымкевіча з'еў і не патаўсцеў!

Прыгаворка складвалася экспромтам, таму была не вельмі складная, але Мікалая яна даводзіла ледзь не да шаленства. Ён вылятаў з кузні раз'юшаны, але не мог злавіць каго-небудзь. Малыя разбягаліся.

Лісавета ўсміхнулася, успомніўшы гэта. Ці магла яна думаць тады, што гэты самы Мікалай, які быў падобны на д'ябла ў пекле, стане ёй такі дарагі, такі патрэбны і неабходны? Але чаму ён не знойдзе выпадку пабачыцца з ёю?! Мог бы, каб хацеў... Яшчэ як мог...

Санная дарога пачала раскідацца. Стары Талімон надумаў з'ездзіць у Маргі. Трэба было сабраць галля

ды ламачча, прывезці дамоў пару вазкоў, каб улетку не паліць добрых дроў. Улетку не патрэбен добры апал, абы зварыць якую страву. Меркаваў узяць з сабой толькі Адама, дык прывязаўся і Алесь.

— Та-а-та! Вазьміце і мяне-е... І я нейкую ламачыну прынясу-у. Адам і на Волю ездзіў, і ўсюды...

Пасля смерці жонкі Талімон адчуў нейкую хваравітую жаласць да дзяцей. «Сіраты... Усё роўна ж сіраты, без маткі»,— думаў ён.

— Збірайся.

Алесь аж падскочыў ад радасці.

Выехалі рана, да ўсходу сонца.

Лісавета кончыла паліць у печы, прыбрала ў хаце і села пры акне. Пуста і цёмна было ў яе душы. Рабіць нічога не хацелася. Не так, як у мінулыя разы, калі ўсякая работа гарэла ў руках. Адзінота... Такая страшная адзінота, што хоць бяжы ў белы свет. Няхай бы Алесь быў дома, можа не такая чарната запаланяла б душу. Нікога з чужых не хацелася бачыць. Лісавета баялася, што да яе прыйдзе Сташэвічава Алена. Сёння яна не магла б гаварыць з Аленай так, як заўсёды. Яна баялася б зірнуць ёй у вочы. А тая пачала б распытваць: а што з табою, а чаму ты такая? Добра гэтай Алене... Юзік баіцца яе, дагаджае... Яна з гэтага Юзіка ледзь вяровак не ўе.

Калі каго і хацела пабачыць Лісавета, то толькі Мікалая. Расказала б яму, якая бяда напаткала яе. Ох, божа мой, божа!.. І куды ўцячы ад гэтай бяды, дзе падзець сваё гора?

Раптам у сенцах стукнулі дзверы. Сэрца ў Лісаветы пасціснулася, і млявасць пацякла ад грудзей да ног. Пацямнела ў вачах, і яна заплюшчыла іх. Здаецца, на нейкае імгненне праваліліся ў бездань.

Калі расплюшчыла вочы, то ўбачыла, што каля парога стаіць Мікалай і ўсміхаецца.

— Што, заснула? Мабыць, рана ўстаеш, сну не хапае? — запытаў ён, падыходзячы да яе.

— Ах, Мікалай... Гэта ты...

— Я! Хіба са сну не бачыш? Ах ты, дурненькая! — ён сеў поруч і абняў яе за плечы.

— Не чапай ты мяне, Мікалай! — ледзь не крыкнула яна спалоханым голасам.

— Чаму? — засмяяўся ён.— Зліняеш?

Яшчэ нядаўна ёй хацелася сустрэцца з Мікалаем,

а цяпер яна спалохалася, калі ўбачыла яго. Ён цяпер паказаўся ёй не такі, які быў раней. Тады ён адразу не ўзяў бы яе за плечы, не засмяяўся б так нахабна. Ён тады шанаваў і шкадаваў яе. А цяпер!.. Цяпер ён адчуваў сябе так, нібы яна ўжо належыць яму. І гэта было так прыметна і па яго твары, і па постаці, і па ўсіх яго рухах. Лісавеце стала страшна. Ён цяпер нагадваў драпежніка — лютага, няўмольнага, які нікога і нічога не баіцца.

— Пусці, Мікалай...

— Ну... Што гэта з табой стала?

— Нічога не стала, але пусці... Людзі прыйдуць...

— Хто прыйдзе? — запытаў Мікалай і прыбраў рукі.— Чакаеш некага? Можа тую пранцаватую Аленку?

Некалькі хвілін назад так хацелася Лісавеце расказаць Мікалаю пра ўсё, пачуць ад яго словы суцяшэння, а цяпер усё знікла. І яна адчула, што гіне, што яна пад яго ўладай і што прыйшоў ён не суцяшаць яе. Не, не суцяшаць...

Толькі рукі на сябе налажыць, от што асталося.

Яна ўстала, падышла да печы, адкрыла яе і пачала пераастаўляць гаршкі.

— От якая ты,— дакараў Мікалай.— Столькі часу не бачыліся, а ты і гаварыць са мной не хочаш. А я гэтулькі чакаў, калі ты астанешся адна дома. Ледзь дачакаўся. Лёгка мне было?

Лісавета ведала, што ўсё гэта мана, што ён прытвараецца, але чуць гэтыя словы было прыемна.

— А сёння бачу: паехаў Талімон у Маргі разам са сваімі падшывальцамі,— гаворыць далей Мікалай.— Ну, думаю, прыйшла мая пара — і адразу сюды.

Лісавета не адказала.

— Ну, чаму ты маўчыш? Ідзі, цукерак дам.

— Не трэба мне твае цукеркі...

— От дурная! А што табе трэба?

— Нічога ўжо не трэба, Мікалай...

— Ага-а! Значыць, у цябе ўжо другі знайшоўся!

Словы гэтыя апалілі Лісавету як агнём. Як ён смее так думаць! Але хіба ён пра гэта думае! Ён проста гаворыць, каб падражніць яе. І сэрца яе заныла. Ёй хацелася крыкнуць, што ў яе і сапраўды ёсць другі, што ён расце ў ёй самой, што жыццё яе загублена. Але яна толькі ціха вымавіла:

— Ёсць, Мікалай... Ёсць ужо другі...

— Што ты сказала?

Мікалай не зразумеў яе намёку, але адчуў, што тут нешта не так проста, што з дзяўчынай нешта творыцца.

— Дык хто ж у цябе ёсць? — запытаў ён з абыякавым выглядам.— Тамаш на вайне, хто ж другі знайшоўся?

— О, каб Тамаш!

Гэты напамінак пра Тамаша канчаткова змяніў Лісавеціну душу. Хіба так было б, каб на месцы Мікалая быў Тамаш! І Лісавета выпусціла з рук засланку, якой хацела зачыніць печ, і зарыдала. Засланка са звонам гракнулася аб падлогу. Лісавета і сама асунулася б на дол, каб Мікалай не падхапіў яе. Ён ураз апынуўся каля печы, узяў Лісавету на рукі, занёс на ложак і пачаў песціць.

— Ну, дурненькая, ну што з табой? Хіба я цябе пакрыўдзіў? Я ж цябе люблю.

Ён цалаваў яе мокры ад слёз твар, які яна закрывала рукамі, цалаваў рукі і горача шаптаў:

— Харошанькая мая дзяўчынка, я ж цябе люблю, хіба ты не бачыш! А што доўга не быў, то хіба я вінаваты? Не любіць мяне твой бацька, а справы, каб зайсці да яго, няма. А сёння бачу: паехалі. Я нават кузню замкнуў, а ў мяне завозу поўна. Загрызе бацька! Я цябе ніколі не кіну, Лісаветка.

Ад яго слоў цяплела Лісавеціна сэрца. Раней ён так ніколі не гаварыў і не цалаваў так горача. Вусы яго калоліся, з рота смярдзела тытунём і гарэлкай, але Лісавета не прымячала гэтага: яна прывыкла да Мікалая, ад яго заўсёды так пахла. Яна думала, што ўсе мужчыны такія.

— Ну от бачыш, дурненькая! А ты надумала плакаць і млець. Нашто гэта, га?

— Хіба я надумала, Мікалай?..

— Ну дык чаго ж ты?

— Каб ты ведаў, як мне цяжка...

— Чаму ж я не ведаю. Ты падумала, што я цябе кінуў. Вядома, гэтулькі часу не бачыліся. Але ж хіба гэта мая віна? Я ж табе казаў, чаму не быў.

Ён высыпаў на падушку жменю цукерак, а сам пачаў закурваць.

— Еш, дурненькая, ды не думай ні пра што благое. Я цябе ніколі не кіну. От кончыцца пост, і пасля вя-

лікадня пажэнімся. Забяру ў бацькі паўвалокі, аддзелімся. Грошы я маю і без бацькавых. Раз-два — і гатова, будынкі адразу пастаўлю.

Ён хваліўся, і Лісавецін твар святлеў пасля кожнага яго слова. Яна верыла яму і не верыла...

І ўсё роўна ён быў ёй любы...

Праз гадзіну Мікалай пачаў збірацца дамоў.

— А цяпер я пайду, Лісаветка. Трэба кузню адчыняць, а то бацька там звар'яцее. Ды і твае павінны скора прыехаць з Маргоў. А ты вечарам, як добра сцямнее, падыдзі да гумна. Як добра сцямнее, чуеш? Я цябе буду чакаць.

Лісавета ляжала як аплёваная. Стамленне ахапіла ўсё цела; думаць яна не магла, толькі адчувала, што цяпер ужо канчаткова загінула і выратаваць яе няма каму.

— Паперкі ад цукерак спалі, а то яшчэ бацька запытае, адкуль яны. Спалі, Лісаветка.

Ён надзеў шапку і, нават не зірнуўшы на Лісавету, павольна выйшаў з хаты.

Толькі цяпер Лісавета зразумела ўсё. Дык вось чаго ён прыходзіў. Ён не шкадуе яе сіроцтва, яе горкай маладосці, не думае пра яе бяду. Ён бярэ, што яму трэба, і ўцякае, як злодзей, нават не азірнуўшыся. Плакаць яна ўжо не магла. Усярэдзіне ўсё ссохла. Яна стала ненавісная сама сабе. Села на ложак, апусцелымі вачыма агледзела хату, але нічога не ўбачыла. Нібы аслепла... «Мама, мама! От што зрабілася з тваёй дачкой... А перад смерцю ты казала ей, каб даглядала брацікаў і татку. От як яна дагледзела іх... Яна сама сябе не магла дагледзець... Што ж мне цяпер рабіць, мамка, што рабіць? Навучы дурную дачку... Навучы, бо яна ўжо не ведае, як далей жыць, што рабіць... Гіне твая дачка, мамка, і няма ёй ратунку...»

Лісавета ўстала з ложка, падышла да кута, дзе віселі іконы, стала на калені і пачала маліцца. Малілася горача і доўга, не чула, што адранцвелі калені, але малітвы не прыносілі супакаення.

На дварэ тым часам неба ачысцілася ад хмар і зіхацела сонца. Яно праз вокны шырокімі палосамі цякло ў хату, і ў праменнях яго плаваў пыл. Са стрэх лілося цурком; такога капяжу не было яшчэ ў гэтым годзе. А на шыбе поўзаў матыль з цёмна-жоўтымі крыламі, аздобленымі буйнымі чорнымі кропачкамі. Адкуль

узяўся гэты матыль, якому хацелася на волю, на сонца, каб распрастаць крылы і паляцець? Ён думаў, што на двары ўжо сапраўдная вясна, цёплае паветра, кветкі і зелень. Ён злаваўся на празрыстую цвердзь, праз якую ўсё відно, але ў белы свет яна не пускае.

Адкуль узяўся гэты матыль?..

## РАЗДЗЕЛ ДВАЦЦАЦЬ ДЗЕВЯТЫ

Талімон з сынамі вёз з Маргоў дровы. Удзень стала яшчэ цяплей. Дарога была мяккая, каня не падгоніш. Няхай паўзе памалу, спяшацца няма куды. Сам бацька з Адамам ішлі ззаду, а Алесь важна сядзеў на возе, трымаў у руках лейцы. Што, хіба ён не ўмее кіраваць канём? Калі на тое пайшло, то ён і адзін бы прыехаў з такім возам дадому. Яму хацелася скарэй з'явіцца ў засценку, няхай паглядзяць хлопцы, як ён сам дровы вязе. Не кожнаму гэта ўдаецца — у Маргі па дровы з'ездзіць, ды яшчэ зімой! А хіба ў лесе ён нічога не рабіў? Усе дровы да воза перацягаў. Бацька з Адамам толькі збіралі і секлі галлё ды валежнік, а ён насіў да воза.

Як усё-такі добра ў лесе, нават зімой! Цішыня, хоць бы якая птушачка чырыкнула. Дрэвы стаяць нерухома, маўкліва, нібы аб нечым думаюць. А дыхаць так здорава і лёгка! Дамоў бы да вечара не паехаў, а то і пераначаваў бы. Толькі, вядома, не адзін. І каб есці было што, бо есці здорава захацелася.

У засценку Алесю не пашанцавала: ні аднаго хлопца на вуліцы. Дакажы ім цяпер, што ад Маргоў да самага дому канём кіраваў, ды не ззаду ў некага ехаў, а адзін усю дарогу! Не павераць...

На Сташэвічавым двары стаяў Андрэй. Бацька павітаўся з ім. Андрэй адказаў, але на Алеся не зірнуў. Іван, дык той бы хоць усміхнуўся. А каб усміхнуўся Андрэй, то Алесь аж падрос бы! Бо толькі на Андрэя хацеў быць падобны Алесь, як вырасце. Нікога не баяцца, быць самастойным, дужым, мужным. Бачыў Алесь з таварышамі, як Андрэй ля капліцы лупцаваў старога Халусту пугай. Варта яго!

Няхай бы Лісавета на двор выйшла, паглядзела, як Алесь на возе сядзіць, з лейцамі ў руках! Не проста трымаецца ён за іх, а канём кіруе! Любіў ён Лісавету

моцна. Патурала яна трохі яму. Асабліва ў апошні час: і падкорміць нечым смачнейшым, і пагуляць пусціць не ў пору, і цукерак дасць. Гэта зусім было дзіўна. Цукеркі! Рэдка іх бачыў Алесь. Калі бацька ў месяц раз у Старочын паедзе ды цукерак ці абаранкаў прывязе, то якая гэта была радасць! Ого!

— Дзе ты, Лісаветка, цукерак узяла? — аднойчы запытаў Алесь.

— Маўчы, дурненькі...— Лісавета нібы спалохалася, пачырванела.— Шмойла ў засценку быў, анучы збіраў... То я за анучы табе купіла...

— Угу,— адказаў Алесь.

— Бо ты мяне слухаеш, брацік, і я цябе люблю. Толькі нікому не кажы... Ні тату, ні Адаму... Нашто, каб яны ведалі. Тата яшчэ сварыцца будзе...

— Не скажу нікому. А многа ў цябе цукерак?

Лісавета горка і нейк хваравіта ўсміхнулася.

— Адкуль жа многа, Алесік!

— Ты і сама пакаштуй іх! Смачныя!

Лісавета адвярнулася і нічога не адказала.

«І калі гэты Шмойла ў вёсцы быў? — думаў Алесь.— Чаму я не бачыў яго? Мажа ён тады праязджаў праз засценак, як мы з хлопцамі на Клінавым лужку коўзаліся?»

І от бацька адчыніў вароты ў свой двор, а Алесь завярнуў каня і ўехаў. Так і чакаў, што Лісавета адчыніць дзверы з хаты і зірне на яго.

Не, не адчыніла. «Нешта робіць у хаце, не чуе»,— падумаў Алесь. Каля дрывотніка ён спыніўся. Адам хацеў выпрагаць каня.

— Братачка Адам! — залямантаваў Алесь.— Я сам выпрагу.

— Чакай, пакуль ты выпражаш не ўмеючы.

— Я ўмею, Адам! Тата, скажыце яму! Няхай я сам выпрагу!

Талімону не цярпелася. Нейкая трывога цягнула яго з лесу, а цяпер тая ж самая трывога цягнула ў хату... «Што гэта за насланне...» Але ён сказаў:

— Ну няхай сам Алесь выпража.

Пакуль Алесь распрагаў каня, Адам з бацькам скідалі з воза дровы і складвалі іх у дрывотніку. Якія там былі дровы! Галлё, ламачча рознае, крывое, няўдалае. Потым бацька павёў каня ў хлеў, а хлопцы кончылі апаражняць воз самі.

— Да вечара мы іх і пасячом,— сказаў Адам.

— Дзіва што!

— А тады складзём, няхай сохнуць летам пад паветкай.

Адам адчуваў сябе гаспадаром, і думкі яго былі гаспадарскія.

— Лісавета будзе рада,— дадаў Алесь.

Хлопцы склалі дровы, зацягнулі пад паветку сані і не заўважылі, як да іх падышоў бацька і загаварыў:

— Лісаветы няма дома. І хата не замкнута.

У голасе яго адчуваўся непакой.

— Яна можа на хвіліну да Алены выйшла,— сказаў Алесь.— Я пайду паклічу.

— Схадзі, сынок.

Алесь пабег да Сташэвічаў, а Талімон са старэйшым сынам пайшлі ў хату.

У хаце было як заўсёды: дол падмецены, усё прыбрана, але Талімон аглядаў яе так, нібы ні разу тут не быў. Нешта не тое было ў хаце, нешта не тое, але што, ён спачатку не мог зразумець.

— Дзе яна?.. Чаму яна не замкнула хаты?..

— Прыйдзе, тата! У Алены яна,— супакоіў бацьку Адам.

І тут вочы ў Талімона зрабіліся круглыя. Ён убачыў тое, чаго адразу не мог прымеціць: Лісавецін ложак быў зматы, і на ім ляжалі рознакаляровыя паперкі. Не верачы сваім вачам, ён падышоў да ложка і ўзяў у рукі адну паперку.

— Адкуль яны?! Хто тут еў цукеркі?..

Адам здзівіўся не менш за бацьку. І тут у памяці яго паўстаў той дзень, калі ён пасварыўся з Мікалаем Халустам. Тады Мікалай гаварыў з Лісаветай, нешта ёй абяцаў.

— Гэта можа Мікалай Халуста...— мімаволі вырвалася ў яго.

— Што?! — як звар'яцелы, крыкнуў Талімон.— Мікалай Халуста! Бяда, сын!.. Бяда прыйшла ў нашу хату!..

У гэты момант ад Сташэвічаў вярнуўся Алесь.

— Няма там Лісаветы. І не прыходзіла сёння.

Талімон і Адам стаялі як аглушаныя.

Алесь убачыў паперкі ад цукерак, памкнуўся нешта сказаць, але, зірнуўшы бацьку ў твар, асекся. Па-

перкі былі акурат такія ж, як і тыя, што давала яму Лісавета. Цукеркі ад Шмойлы, купленыя за анучы...

Праз паўгадзіны на Талімонавым двары сабраўся амаль увесь засценак. Людзі не месціліся ў хаце. Неживая Лісавета ляжала на лаве, накрытая белай посцілкай. Яе вынялі з пятлі ўжо адубелую. Яна павесілася на гарышчы, на той самай вяроўцы, на якую вешала сушыць бялізну, калі на дварэ ішоў снег або выла завея.

Счарнелы ад гора Талімон стаяў ля дачкі як непрытомны і шаптаў пасінелымі вуснамі:

— Дачка мая... дачка мая.., От да чаго ён цябе давёў... Забойца! Чаму ты не сказала мне? Хіба я дапусціў бы да такой бяды!.. А цяпер... Загінула наша хата...

Раптам ён пахіснуўся і абсунуўся на дол. Жанчыны кінуліся да яго.

У сенцах заходзіўся ад крыку Алесь. Ён хацеў некуды бегчы, але жанчыны яго перахапілі.

— Лісаветка!.. Лісаветка!..— у роспачы галасіў ён.— Лісаветка!..— Сухія яго вочы здзічэлі, ён ірваўся з рук старой Аксені і Яніхі.— Заб'ю!.. Заб'ю!.. Я заб'ю яго!

— Супакойся, дзіцятка... Бацьку свайго пашкадуй,— угаворвала яго Яніха і не магла даць ніякай рады.

— Звар'яцее хлопец, дзядзіна,— сказала яна старой Аксені.— Трэба мужчын пазваць, бо мы нічога не зробім.

— Каб ён паплакаў,— гаварыла Аксеня,— лягчэй бы яму было. А то ж слёз няма... Згарыць хлопец...

Да іх праціснуліся Сымон Ашакевіч і Ладымер Баран-Заяц.

Ля печы, уткнуўшыся галавой у кут, стаяў Адам. Вострыя, яшчэ дзіцячыя яго плечы ўздрыгвалі. Рыданні рваліся з грудзей.

Плакалі жанчыны. Мужчыны глядзелі панура і злавесна. Усе ведалі вінаватага, хоць ніхто не назваў яго імя.

Алена, з сіняком пад левым вокам, увайшла ў хату як п'яная. Спынілася каля лавы, на якой ляжала Лі-

савета, падняла посцілку, зірнула на мёртвы пакалечаны твар дзяўчыны і самлела.

— Каб я ведаў... Каб я ведаў...— шаптаў Талімон, ледзь стоячы на нагах, сам мала падобны на жывога чалавека.

— Каб мы ведалі, што нас чакае! — прамовіў Сымон Ашакевіч.

Андрэй бачыў, што Талімон павёз дровы з Маргоў, і падумаў, што заўтра і сам паедзе з Іванам на дзвюх фурманках ды прывязе на лета ламачча. На двары было так хораша, што не хацелася ісці ў хату. Цеплыня. Са стрэх лілося цурком. Нават птушкі адчувалі надыход вясны. На таполях, што раслі на завулічных агародах, ад самай раніцы не змаўкалі вароны. Колькі іх расплодзілася ў засценку! На кожнай таполі па дзесятку гнёздаў. Б'юцца між сабой, а ўлетку будуць куранят красці. Глупства рознае лезла ў галаву, хоць бы пра гэтыя вароны. Думаў не як дарослы чалавек, а як падлетак ці зусім хлопчык. Хадзіў па двары, зграбаў гной, сена, што нацерушылася з вазоў, падбіраў паляняkі дроў. Снег асядаў і раставаў, і ўвесь бруд, прысыпаны ім з пачатку зімы, цяпер агаляўся.

Нечакана з'явілася думка пра Тамаша. Ліст ад яго нядаўна атрымаў. Пісаў Тамаш, што вязуць іх к чорту ў лазу, аж у самы Кітай, у нейкую Маньчжурыю. На вайну. Японцаў шапкамі закідваць. Тамаш вельмі рады, што разам з ім і Марцін Крываблоцкі. Ён — ротны фельчар. Марцін паклон Андрэю перадаў. «Не забудзь пра нашу гаворку, Андрэй»,— напомніў у канцы ліста Тамаш. Добра яму пісаць: «Не забудзь»... А тут галава трашчыць ад сваіх клопатаў... Ды каб Тамаш тады п'яны не быў... А то ж прывалокся з Чыжэвіч як бот.

— Андрэй...— пачуў ён прыглушаны голас.

Талімон стаяў насупраць. Андрэй не пазнаў суседа. Што з ім зрабілася? Толькі што дровы вёз па вуліцы і от стаіць састарэлы, згорблены. З вачэй цякуць слёзы, а сам не можа вымавіць слова.

— Бяда ў мяне... Гора, гора... Прыйдзі, Андрэй... Не магу адзін. Маме скажы...

І пайшоў, хістаючыся, як п'яны, не бачачы сцежкі, як сляпы.

«Якая бяда? Чаго ён не можа адзін?» — ліхаманкава думаў Андрэй, ідучы ў хату.

— Мама! Ідзіце да Талімона. Там нейкае няшчасце.

— Якое няшчасце?

— Не ведаю. Хадзем скарэй. Ён прасіў...

Андрэй не бачыў, як пасля яго слоў здрыганулася і пабялела Алена, бо адразу выйшаў з хаты.

Ён памог Талімону зняць Лісавету з пятлі, знёс яе з гары, а сам пашыбаваў дадому. Усярэдзіне ўсё ў ім кіпела.

Калі ён адчыніў дзверы ў хату, Алена нібы чакала яго. Яна стаяла гатовая да ўсяго, нават самага горшага, і гэта крыху астудзіла Андрэя. Ён спыніўся каля парога і зірнуў на сястру так, што яна закалацілася.

— Ссука!

— Андрэй!..

Ён наступаў на яе як навальніца.

— Андрэй!..— дзікім голасам закрычала Алена.— Што ты хочаш са мной зрабіць?

Яна пасінела ад жаху.

Ён размахнуўся, і дзяўчына адляцела ад ложка, як сноп, павалілася на дол. Андрэй не зірнуў на яе.

Праз хвіліну ён крочыў па засцянковай вуліцы.

«Забіць, гада... Толькі забіць... Смерць за смерць! А Тамаш? Што яму напісаць? Што недагледзеў, часу не было?.. А хіба можна было дагледзіць? Хіба пільнаваць дзень і ноч... Такога злодзея ўпільнуеш!..» І нянавісць, страшэнная нянавісць запаланіла яго ўсяго.

Да Талімона беглі людзі — жанкі, мужчыны, і Андрэй нават не здзівіўся, што ў засценку так скора ўведалі пра Лісавеціну смерць. Можа таму, што ва ўсіх была на ўме Лісавета, ніхто і ўвагі не звярнуў на Андрэя, які быў падобны на вар'ята.

Сымонава Аўдоля і Нарбутовічава Міхаліна ішлі дамоў. У Сымоніхі дома асталіся дзеці, а Міхаліне не цярпелася расказаць каму-небудзь пра ўсё, што яна бачыла і чула ў Талімонавай хаце.

— От да чаго даводзіць распуста! — гаварыла яна Аўдолі.— Падумаў бы нехта, што такое смаркатае хлопцаў прымае і паспела ўжо чэрава нагуляць!

— Пабойся ты бога, Міхаліна! — адказала Аўдоля.— Хто гэта распуста? Лісавета? Ды яна яшчэ дзіця была!

— Во, дзіця! А з хлопцамі ж спала! Добрае дзіця, калі мужчыну ў ложак прымае! Свет настаў!

— Халуста Мікалай згубіў яе. Ашукаў дзіцянё, злодзей.

— Халуста? А хіба Янаў Тамаш не хадзіў да яе? То і прыйшлі да Талімона ўсёй сям'ёй. На Мікалая Халусту віну зваліць. Як толькі што якое, то адразу Халуста. А мо і не Халуста!

— Нешта ты абараняеш яго.

— А мне ўсё роўна, ці Мікалай Халуста ці Тамаш Сташэвіч. Я не сварылася з Халустамі, нічога з імі не дзяліла, то нашто мне на іх брахаць, як іншыя са злосці брэшуць.

Аўдоля зразумела намёк.

— І я з імі нічога не дзяліла, а што яны зладзеі і душагубы, то ўсе ведаюць. І Шымковічаў згубілі і Хмялеўскага...

— Ай госпадзі божа мой! Тое адно, а гэта другое... Калі дзеўка не захоча, то хлопец не возьме. Гэта я добра ведаю!

— Мабыць, па сабе, суседка, ведаеш...

Міхаліна гатова была рынуцца на Аўдолю з кіпцюрамі, бо тая вельмі трапна пацэліла ў слабое Міхалініна месца. Саграшыла некалі Міхаліна дзеўкай будучы, і не мог Лявон адразу забыць гэта. У першы год пасля вяселля нямала паспытала яна Лявонавых кулакоў. Яшчэ і цяпер, калі пачнецца сварка, то Лявон іншы раз і выкіне жонцы ў вочы мінулае.

— Гэта можа ты такая! — закрычала яна, пасінеўшы ад злосці.— Бо ўсе вы, галата, такія, як сабачая гайня.

— Колькі я з Сымонам жыву, то ён мяне ніколі пальцам не крануў. А як ты на прыгрэбіцы галасіла, то людзі чулі не адзін раз.

— І ты чула?

— Чула.

— Цьфу, цьфу, цьфу! От дзе праўда, людзі добрыя! Паскудніца ты! Гадаўка!.. Падла здохлая!

Яна склала дулю, паказала яе Аўдолі.

— На табе, на табе, на табе! — і пабегла ў свой двор.

Мікалай Халуста збіраўся зачыняць кузню. Пакуль быў у Лісаветы, завознікі раз'ехаліся, мабыць, думалі,

што яго няма дома. Доўга чакаў, можа хто прыедзе. Горан распаліў, пакаваў крыху, але ніхто не з'явіўся. Мікалай папырскаў вадою на вуголле ў горне, паклаў на паліцу сваё кавальскае начынне. Настрой у яго быў добры, ён пачаў насвістваць кракавяк, а сам думаў, ці прыйдзе сёння Лісавета да гумна. Вядома, прыйдзе, нідзе не дзенецца. Там, у Талімонавых кулях, што стаяць пад страхой, будзе цёпла. Нічога, скора вясна, тады будзе прасцей...

Раптам Мікалая нешта кальнула ў сэрца. Чаму яна сёння была не такая, як мінулыя разы? Чаго яна плакала? Гэта, вядома, глупства. Ці доўга дзяўчыне заплакаць, ды яшчэ такой маладзенькай і дурненькай... А чаго яна пачала млець каля печы, калі засланку з рук выпусціла? Гэта горш... А што яна гаварыла? Што мае другога? Ну, гэта зусім глупства! Каго — другога? Хто ў яе знайшоўся другі? Не, тут нешта не тое... Не тое... Настрой у Мікалая пачаў спадаць. Яна сказаць нешта хацела.

Мікалай узяў мятлу і пачаў месці кузню. У гэты самы момант і з'явіўся Андрэй. У Мікалая выпала з рук мятла, калі ён убачыў каля парога Андрэеву постаць. Не ад страху, ад нечаканасці. Сташэвіч ніколі не быў у Халуставай кузні. З кожнай патрэбай ездзіў у Чыжэвічы.

Мікалай не помніў, стаяў Андрэй каля парога ці адразу ўварваўся ў кузню, бо адчуў страшны ўдар у грудзі і імгнення апынуўся пад мехам на кучы жалезнага лому. Ён выскачыў адтуль ашалелы ад злосці і схапіў молат, але ўдар пад вуха зваліў яго з ног. Ён узняўся са страшэнным болем у галаве, амаль глухі, і рынуўся на Андрэя па-бычынаму — галавой наперад. Андрэй сунуў яму кулаком у ніжнюю сківіцу, і ён абсунуўся на калені.

— Т-ты... забіць мяне прыйшоў? — хрыплым голасам запытаў ён, выплёўваючы з рота кроў.

— Забіць.

— За што?

Андрэй зірнуў на акрываўлены Мікалаеў твар, падбітыя губы, і нешта падобнае на жаласць шавяльнулася ў яго душы. Але ён адразу прагнаў гэтае прыкрае адчуванне. Перад ім стаяў акрываўлены забойца і душагуб.

— За Лісавету!

— За Лісавету? Яна не твая...

— І не твая! Яна ўжо нічыя! Нічыя, чуеш, сукін сын! Яе вынялі з пятлі мёртвую! Гэта ты ўвагнаў яе ў пятлю!

Андрэй размахнуўся, але калі зірнуў на бездапаможны і разгублены твар Мікалая, рука яго апусцілася.

— Бі! — крыкнуў Мікалай.— Забівай!

Андрэю хацелася плюнуць яму ў твар.

— Не выкрыўлівайся, сволач! Можа яшчэ заплачаш?

— Бі! — крычаў Мікалай, пырскаючы крывавай слінаю.— Бі! Але я не хацеў гэтага!

— Не хацеў! Яна грубая была! Дзве душы загубіў, забойца!

— Грубая...— Мікалай абапёрся на кавадла.— Дык от хто ў яе другі! — прашаптаў ён.— От хто другі... Чаму яна не сказала мне... не прызналася?

Андрэю было дзіўна, што гэты, па сутнасці не чалавек, а звер, раптам абвяў і стаў такі бездапаможны, што адмовіўся ад бойкі. Ды і ў самога Андрэя раптам знік запал, не мог ён біць чалавека, які не супраціўляецца.

— Не прызналася? Табе? Ты плюнуў бы на яе, як пляваў ужо не раз на многіх такіх.

— Не плюнуў бы. Ажаніўся б... Яна не такая, як тыя.

— Сволач! Можа заплачаш?

— Сціхні, бізун! — раптам зароў Мікалай, ашчэрыўшы драпежны рот.— Я яе любіў!

— Як воўк аўцу.

— Ты напаў на мяне знянацку, з-за вугла,— не зважаючы на Андрэевы словы, крычаў Мікалай.—А то не выйшаў бы з кузні! Пластом бы лёг тут ля парога!

— Ведаў ты, што я не з дабром да цябе іду. І не знянацку напаў. Гнілы ты яшчэ Халуста, каб забіць мяне. Гнілы! І аб такога паскудніка рукі свае апаганіў!..

Андрэй павярнуўся і, не аглядаючыся, пайшоў з кузні. Ён не бачыў, што Мікалай ускочыў з месца, зірнуў яму ўслед, схапіў молат і рынуўся да дзвярэй. Але невядомая сіла прыкавала яго да парога. У вачах стала зелена. Ён шпурхнуў молат вобземлю, замкнуў кузню і, не заходзячы дамоў, павалокся ў Чыжэвічы.

Андрэй ішоў і думаў. Нашто гэта было і каму гэта трэба?! Што ён даказаў Мікалаю? Што дужэйшы за яго? Якое глупства! Хіба кулакамі трэба ваяваць з Халустамі? Дурань тысячу разоў. А што скажа Якаў? Папракне і пасмяецца. Нічому ты не навучыўся, Андрэй Сташэвіч, хоць чытаеш кнігі і газеты, размаўляеш з разумнымі людзьмі. Кулакамі змагаешся. Чорт ведае чаго нарабіў...

На двары проста парыла. Снег увачавідкі асядаў. Пад ім ужо была вада. Неба, укрытае хмарамі, было нейкае злавеснае, як алавянае. Што за дзень! Да паўдня радасці не было канца, а цяпер змрок, безнадзейнасць, не глядзеў бы вакол сябе.

«Алену ўдарыў,— думаў Андрэй.— Зарабіла, вядома...»

## РАЗДЗЕЛ ТРЫЦЦАТЫ

У хаце нікога не было, акрамя Івана, які нядаўна прыйшоў з Чыжэвіч. У Андрэя быў такі цяжкі настрой, што не хацелася нічога ні гаварыць, ні думаць. Усярэдзіне ўсё калацілася. Ён сеў каля стала і пачаў закурваць. Пальцы дрыжалі, як у хворага, цыгарка не хацела згортвацца. Моўчкі сядзеў і Іван, пагдядаючы на Андрэя.

На двары пачало вечарэць. І без таго хаўтурны дзень зусім пахмурнеў. Пара было дагледзець на ноч скаціну. Андрэй ужо хацеў сказаць пра гэта Івану, калі раптам у сенцах бразнулі дзверы.

Не чакаў Андрэй Ладымера Барана-Зайца, але ў хату ўвайшоў ён. Андрэй нават здзівіўся трохі, бо з таго часу, як адпраўлялі Тамаша ў войска, ён не бачыў Ладымера. У зубах Ладымер трымаў сваю нязменную люльку, якая даўно патухла, і дарэмна ён ёю пыхкаў.

— Ці добры дзень, ці добры вечар,— не выпускаючы з рота люлькі, павітаўся Ладымер.— Такое надвор'е, што не разбярэшся.

Не чакаючы адказу, ён, як дома, падышоў да печы і пачаў у пячурцы варушыць попел.

— Э-э, такі ж няма жару. Патухлі ўсе вугалі, сатлелі. Значыць, такі вечар.

— Вазьмі запалкі,— сказаў яму Андрэй.

— А добра ты кажаш.

Ладымер сеў, прыкурыў сваю люльку і смачна за-

цягнуўся. У люльцы нешта сіпела, пішчала, хлюпала, дым з яе валіў, як з кастра, смярдзючы, цяжкі. Бедны Іван спачатку закашляўся, потым пачаў чхаць.

— Моцны тытунь,— сказаў Ладымер і запытаў у Андрэя:

— То скажы ты мне, што гэта будзе? Што гэта пачало рабіцца ў нашым засценку? Гэта ж не тое, што ты, скажам, зайца ў Маргах застрэліў ці, скажам, казу... Гэта ж ты дзяўчыну ў пятлю ўвапхнуў, і табе за гэта нічога-нічагусенькі?

— Пра каго ты, Ладымер?

— Хіба ты не ведаеш? Пра таго злодзея, каб ён сабе вочы ў кузні выпаліў ці, скажам, рукі і ногі паадбіваў... Пакуль іх у засценку не было, то і бяды не было. І я думаю: ці гэта канец! І ў мяне, скажам, дачка расце, і ў цябе сястра, ці мала дзевак у засценку! То хіба ў Халустаў сумленне ёсць, ці яны людзі? Ён, скажам, гад, па-добраму не возьме, то возьме сілай, нажам, гад, па-добраму не возьме, то возьме сілай, напралом... Уга, такі гад! Каб дзе стрэў яго на вузкай сцежцы, скажам, у Маргах, ды зарад у чэрава — і справа з канцом.

— Эх, Ладымер! Халуста табе не заяц. А за забойства катарга ці вісельня.

— То чаму яму ні катаргі, ні вісельні? Для яго закон другі?

— Другі, Ладымер. Ды па цяперашніх законах такая справа і суду не падлягае.

— Не падлягае, кажаш?

— А хто дакажа, што праз яго Лісавета павесілася?

— Усе ведаюць!

— А хто бачыў? Ты бачыў?

— Не...

— От табе і ўвесь закон.

Ладымер зноў прыпаліў люльку, бо яна вельмі часта патухала, і трохі памаўчаў.

— А каб мы ўсім засценкам сабраліся і прыгаварылі: выселіць яго, скажам, з [illegible]обчаства. Хіба ты з Тарашом не вязаў яго! Яны не толькі паміж сабой рэжуцца. Ды ліха іх бяры, няхай, скажам, рэжуцца. Дык яны ж засценак усмаляць, людзей пакалечаць. Яны, скажам, вылюдкі... Вунь мая дачка, як рака разліваецца, галосіць. Гэта ж яна кажа, што Лісавета і Тамашу ў вока кінулася. А гэты воўк бачыш чаго нарабіў.

Напамінак пра Тамаша рэзнуў Андрэя па сэрцы. Ён не думаў, што пра Тамаша і Лісавету ведае яшчэ нехта акрамя яго. Аказваецца, усе маладыя ведаюць, а ён нават не думаў пра гэта, пакуль не прызнаўся сам Тамаш. Сядзеў увесь час дома, як барсук у нары, а жыццё сабе ішло і ішло...

— Мы ж такі шляхта, дваранства, скажам,— гаварыў далей Ладымер, пыхкаючы сваёй люлькай, ад якой ішоў страшэнны смурод, і Андрэй з горкай усмешкай думаў: «Эх, дваранін, дваранін... Не па-дваранску ты пахнеш...»

— Дык от... паехалі б у Слуцак да прадвадзіцеля. Расказалі б яму пра ўсё... Толькі, скажам, людзей трэба выбраць хадавых, разумных. От, скажам, хоць бы і цябе, Андрэй.

— Не гавары глупства, Ладымер. З такімі дваранамі, як мы з табой, прадвадзіцель гаварыць не захоча. Той цяпер дваранін, хто багацце мае.

— Скажам, Халуста?

— Ён большы дваранін, чым мы з табой.

У хаце пачало цямнець.

— Іван,— сказаў Андрэй,— ідзі ўпраўляйся па гаспадарцы. Мабыць, сёння нам прыйдзецца і свіней карміць.

Іван пачаў апранацца. У гэты час ад Талімона прыйшла маці. Яна павіталася з Ладымерам і сказала:

— Талімон да бацюшкі пайшоў. Трэба заўтра пахаваць Лісавету, але... бог яго ведае...

— Не захоча поп яе адпяваць,— пыхнуўшы люлькай, сказаў Ладымер.— І на могілках хаваць забароніць.

Гэта ведалі ўсе. Пра гэта і хацела сказаць Андрэю маці. Ведаў і сам Андрэй такую бяду, але па-сапраўднаму зразумеў яе толькі цяпер. Жыла дзяўчына, нікому нічога не вінаватая, з яе наздзекаваліся, давялі да смерці, а пахаваць як чалавека не даюць. Яе можна закапаць у зямлю як скаціну. Андрэй разумеў, што Талімону перажыць такое не лягчэй, чым смерць дачкі. І ён жахнуўся. Не, большага гора нельга і прыдумаць для чалавека, чым тое, што напаткала Талімона. Нават не памянеш дачкі па-людску, на магілу яе не сходзіш, бо пахаваюць яе не на могілках, а недзе збоку, за могілкамі. А хіба яна зрабіла нешта такое, што не варта чалавечага пахавання? Гэтыя думкі ўскалых-

нулі Андрэя, ён падняўся з лавы і пачаў хадзіць па хаце.

— Я, Андрэй, бачу, што і ты ўвесь загарэўся,— гаварыў Ладымер.— А я адразу падумаў, што смерць дачкі — не апошняе Талімонава гора. Будзе яшчэ і клопату і турботаў, пакуль пахавае яе. Трэба нешта рабіць, Андрэй.

— Што рабіць? Што я або ты можам зрабіць? І чаму ты да мяне прыйшоў? Хто я такі? Мяне і гаспадаром у Малінаўцы не лічаць. Можа Нарбутовіч ці Мартыневіч нешта зрабілі б. Такі ж Мартыневіч член царкоўнага савета.

Ладымер выпусціў цэлую хмару дыму і плюнуў.

— Не! Тады няма людзей у нашым засценку. Стары Юстынь, скажам, так не гаварыў бы. Ён бы і не ўспомніў Нарбутовіча і Мартыневіча.

— Тут і мой бацька не зрабіў бы нічога.

— Ён бы да папа схадзіў. І поп яго паслухаў бы. Бо, скажам, усяму засценку будзе сорам, калі мы гэтую няшчасную дзяўчыну, як сабаку ў зямлю закапаем.

— А мяне поп не паслухае.

— Паслухае, бо баіцца.

Першы раз за адвячорак Андрэй зірнуў на Ладымера іншымі вачыма, бо спачатку не верыў, што той гаворыць ад шчырага сэрца. «Ды ён жа добры чалавек»,— падумаў Андрэй. Не, ён не чакаў такога ад Ладымера Барана-Зайца — хлуса, выдумшчыка, крыху легкадумнага, не вельмі разумнага і не вельмі сумленнага.

— Пабачым, што скажа Талімону поп.

— От гэта ўжо іншая гаворка! — узрадаваўся Ладымер.

Маці тым часам пачала рыхтаваць свінням і ўвесь час прыслухоўвалася да мужчынскай размовы.

— А як жа ноч, мужчыны? — запытала яна.— Трэба ж, каб нехта пастаяў каля нябожчыцы, псалтыр пачытаў. Гэта ж было б усё роўна як і адпяванне, калі поп не захоча хаваць.

Мужчыны маўчалі, не ведаючы, што адказаць.

— Можа Гарасіма папрасіць? — нясмела запытала маці.

— Калі ён згодзіцца,— не пярэчыў Ладымер.

— Згодзіцца,— упэўнена сказаў Андрэй.

— То я занясу свінням і схаджу да яго.

Старая падхапіла вёдры і пайшла з хаты.

На дварэ тым часам змерклася, а ў хаце зусім сцямнела. Андрэй зняў з цвіка лямпу, што вісела пад бэлькай, павесіў яе над сталом і запаліў. Ладымер усё пыхкаў люлькай, зрэдку падсыпаючы ў яе тытунь і прыпальваючы. У хату прыйшоў Іван.

Андрэй думаў, што ў мінулыя дні шарай гадзінай прыемна было от так пасядзець у хаце, не запальваючы лямпы, падумаць або пагаварыць, успомніць мінуўшчыну, паслухаць пра чые-небудзь смешныя прыгоды або цікавую бывальшчыну. А сёння быў іншы настрой. І ён загаварыў:

— Некалі Тамаш казаў мне, што маці яго гаварыла, нібы ў Жывіцах спрадвеку не было пажараў, а ў Маліна́ўцы байструкоў. Байструка такі не будзе ў Малінаўцы, затое адбылося самагубства, і надоўга яно астанецца ў памяці. А па-мойму — лепш жывы байструк, чым самагубства... Я, Ладымер, чалавек не баязлівы, і нялёгка мяне чым-небудзь расчуліць, але калі я вымаў Лісавету з пятлі, то, павер, гатовы быў бразнуцца там на гары, як жанчына, страціўшы прытомнасць. А потым мяне ўзяла злосць.

— Дзіва што! Калі, скажам, чалавек памёр сваёй смерцю, то хоць і шкада яго, але ведаеш, што гэта законная смерць. Яна нікога не міне. Але калі чалавек жывасілам загубіў сябе, то гэта смерць не законная. Ёсць вінаваты.

Андрэй ледзь не ўсміхнуўся, пачуўшы пра законную і незаконную смерць, аднак яго здзівіў і ўразіў своеасаблівы погляд Ладымера на самагубства, у асноўным усё-такі правільны. «Глядзі ты на гэтага дзівака, хто ад яго чакаў такога! Як пачне расказваць пра зайцоў, як бараноў, дык за бакі можна хапацца ад смеху...» — думаў Андрэй.

У гэтую хвіліну ў хату ўвайшлі маці і Гарасім Жукоўскі з кнігай пад пахай.

— Добры вечар! — павітаўся ён і падаў руку Андрэю і Ладымеру.

— Сядайце, пане Жукоўскі,— запрасіў Андрэй.

— Не, дзякуй. Садзіцца я не буду... Я вам от што скажу, пане Сташэвіч. Я вельмі не люблю гэтага папа... Я вам і раней казаў... П'яніца, бабнік, карцёжнік. Які ён свяшчэннік! І я рады ўсю ноч чытаць псал-

тыр над гэтай няшчаснай. Я нават магу адпець яе на могілках, бо ўсю царкоўную службу ведаю лепш за гэтага папа. Але я не маю права. От гэта галоўнае... І калі ён пачне да мяне чапіцца за сённяшнюю ноч, то вы мяне, ну... вы за мяне слова закіньце.

— Ды не бойся ты, святы ду...— сказаў Ладымер, не падумаўшы, і трохі сумеўся. Зразумеў, што не варта было так няўдала ўтыкацца ў гаворку.— Не бойся, пане Жукоўскі,— ён пыхнуў люлькай.— Не бойся! Мы за цябе ўсім засценкам станем. У мяне, калі на тое пайшло, стрэльба ёсць. Зайцоў я без промаху б'ю...

Ладымер зразумеў, што зноў загаварыўся, і змоўк. Гарасім зірнуў на яго без злосці, але і без прыязні.

— Што мне ваша стрэльба, пане Некрашэвіч! Зайцоў яна б'е без промаху, ну і няхай б'е, а нам яна без карысці. То я пайду да Талімона, пара ўжо, скора змеркне.

— Пачакайце, Гарасім, і я з вамі пайду, там жа дзеці адны,— пайшла за ім старая Аксеня.

Калі яны выйшлі, Ладымер па-змоўніцку зірнуў на Андрэя і ўхмыльнуўся.

— А я траха дурнем не абазваў яго.

— Ды яшчэ святым. Але ж ён на цябе не пакрыўдзіўся.

— Бо яго так увесь засценак заве. Але, мабыць, не такі ўжо ён і дурань, бо каб я так абазваў Лявона Нарбутовіча, то ён на мяне з кулакамі кінуўся б.

Потым прыйшла Алена. Твар яе быў захутаны так, што відненіся толькі вочы і нос. Яна моўчкі распранулася і, не зняўшы хусткі, адразу палезла на печ.

Андрэй думаў, што можа ён і няправільна зрабіў, вытнуўшы сястру, але не раскайваўся, хоць і ведаў, што сённяшні дзень надоўга сапсаваў іх адносіны. А можа і назаўсёды.

Ладымер тым часам не пакідаў курыць, і добра было, што люлька яго часта патухала, а то ў хаце нікому не было б месца.

Андрэю хацелася, каб Ладымер ішоў дамоў, але гэты чалавек упарта не хацеў ісці, нібы ў яго свае хаты няма і няма дзе пераначаваць.

— Можа хочаш есці, Іван? — знарок запытаў Андрэй, каб Ладымер зразумеў, што і яму пара ўжо ісці вячэраць. Але Ладымер нічога не зразумеў, а Іван адказаў:

— Потым.

Андрэю здавалася, што сённяшні дзень доўгі і цяжкі, як галодны год. Гэтулькі ўсяго адбылося за такі кароткі час. Не за дзень, а толькі за паўдня. І ўсё прайшло, як у цяжкім сне ці ў трызненні, калі ляжыш хворы, спалены гарачкай, і на цябе накачваецца нешта незразумелае, нейкая жудасная навала, і ад яе ніяк нельга выратавацца. Ды ён і адчуваў сябе хворым, балела ўсё цела, нылі косці, а ў галаве стаяў туман. Яму здавалася, што на дварэ не менш як поўнач, а можа і пазней, і здзівіўся, калі ў хату ўвайшоў Талімон. Толькі глянуўшы на гэтага чалавека, Андрэй зразумеў, што на дварэ нядаўна сцямнела, і адчуў сябе лягчэй. Аднак стамленне не пакідала, нібы цэлыя суткі варочаў калоды. Ніколі ў жыцці так не стамляўся, не адчуваў сябе дрэнна, хіба толькі як памёр бацька.

Талімона нельга было пазнаць: вочы запалі, і ў іх свяціўся не толькі страшэнны жаль, але і неймаверная безнадзейнасць. Чалавек зусім счарнеў, сагнуўся. Ён цяжка сеў на лаву і схіліў галаву.

— Ну то што вы выхадзілі, дзядзька? — запытаў Ладымер.

Талімон махнуў рукой.

— А што ён кажа?

— Ён і гаварыць не хоча...

— Як гэта не хоча? — здзівіўся Ладымер.

— Не магу, кажа, от і ўсё...

— Ну і гад! Гэта ўжо гад дык гад!..

Ладымер, мабыць, вельмі расхваляваўся, бо пайшоў да печы, выбіў аб прыпечак усё, што было ў яго люльцы, усунуў яе ў кішэню, плюнуў у кут, дзе сталі ажагі, і рашуча падышоў да Андрэя.

— То што будзем рабіць?

Андрэй ведаў, што зробіць усё, што можа, усё, што ў яго сіле.

— Пайду да Сулкоўскага сам,— прамовіў ён.— Пагавару. За горла яго не возьмеш... Таварыша ў мяне няма. Каб быў Марцін Крываблоцкі, той бы знайшоў рады папу. Не ведаю, што я даў бы, каб Марцін быў дома.

У Талімона на нейкі момант у вачах успыхнула надзея. Ладымер зноў палез у кішэню і дастаў люльку.

— Слухай, Андрэй,— прамовіў ён.— Яму трэба добрую чарку паставіць. Ён, скажам, так... у карты прагульваецца, а выпіць няма за што. Гарэлку ж ён любіць больш, чым кот смятану.

— Не тое ты гаворыш, Ладымер. Выпіць з ім, вядома, трэба, ды яшчэ на заўтра пакінуць, але гэта тады, калі будзе зроблена справа. А адразу ў хату з гарэлкай не пойдзеш.

— Маўчы ты! Ён, калі знюхае, што ў цябе ў кішэні гарэлка, то сам за табою пабяжыць, як сабака за косткай.

Тут Ладымер запусціў руку ў кішэню, выцягнуў адтуль самаробны кашалёк, такі стары і выцерты, што невядома, з чаго ён зроблены, са скуры ці з анучы, развязаў яго і выняў спачатку адзін рубель, потым другі, потым трэці. Рублі былі такія ж старыя, як і кашалёк. Ладымер пакруціў іх каля носа, каб лепш разгледзець, і працягнуў Андрэю.

— Бяры, Андрэй. Трэба, каб у кішэні грошы былі. Ісці без грошай да гэтага чортавага папа нельга.

Андрэй бачыў, як нялёгка Ладымеру расстацца з гэтымі пакамечанымі рублямі, якія немаведама колькі ляжалі ў кашальку. Аднак жа ён перамог сябе, аддае свой небагаты леснікоўскі набытак, які, напэўна, хаваў і ад жонкі, каб у Старочыне ці ў Слуцку, калі занясе яго туды бог, смела выпіць чарку з сябрамі. У горле ў Андрэя нешта заказытала. Ён адвёў Ладымераву руку і сказаў:

— Хопіць у мяне грошай, каб напаіць папа. Не грошы мне трэба, Ладымер, а таварыш. Марцін Крываблоцкі мне цяпер... Або хоць другі хто...

— То можа Ян пайшоў бы?

— Нельга нам, абодвум Сташэвічам, ды яшчэ братам, ісці.

— Ну то я пайду! — раптам узгарэўся Ладымер.— Не вялікі я гаварун, але калі, скажам, што якое, то па слова ў кішэню не палезу. Як ты думаеш?

— Ну, вядома...

Ладымер паспешліва закруціў свой кашалёк, запхнуў туды, дзе ён быў дагэтуль, і схапіўся за шапку.

Не вельмі быў рады Андрэй такому таварышу, але калі не было лепшага, то добра быў і гэты. Ён пачаў апранацца.

— Пачакайце, суседзі... Я па грошы дадому сха-

джу,— прамовіў Талімон такім голасам, нібы толькі прачнуўся пасля цяжкага сну.

— Потым, дзядзька,— адказаў Андрэй.— Нам некалі чакаць.

## РАЗДЗЕЛ ТРЫЦЦАЦЬ ПЕРШЫ

Тая ноч надоўга асталася ў Андрэевай памяці. Часта ўспамінаў яе і Ладымер. Усю дарогу ад Малінаўкі да Чыжэвіч іх мачыў дождж. Быў ён дробны, але густы і спорны. Пад нагамі таксама хлюпала. Невясёлая была дарога, бо Андрэй не меў надзеі, што з іх хадзьбы нешта выйдзе.

Папа Сулкоўскага яны засталі дома. Ён прыняў іх вельмі непрыветна, на Ладымера нават не зірнуў, нібы той не чалавек, а пустое месца. Ладымеру гэта вельмі не спадабалася: мог поп быць са шляхціцам трохі ветлівейшы; ён ужо выцягнуў з кішэні сваю люльку і тытунь, але Андрэй таўхануў яго локцем, і ён хоць і нехаця, але схаваў свае курцоўскія прылады.

Гаворка вялася ў кухні, бо поп не запрасіў сваіх парафіян у пакоі; можа таму, што абодва былі мокрыя, а з ботаў нацяклі на падлогу цэлыя лужыны бруднай вады.

— Скажыце, Сташэвіч, а вы што маеце да гэтай дзяўчыны? Ці можа ваш таварыш мае? — з'едліва запытаў поп.

Ладымер фыркнуў і надзьмуўся, а Андрэй трымаў сябе ў руках.

— Я, айцец Сцяпан, самы блізкі сусед Талімона Бялькевіча. Ведаю гэтую сям'ю з малых год. Гарэтная сям'я, і мне шкада яе. Калі пахаваць дзяўчыну без адпявання і не на могілках, то бацька не перажыве такога гора. Астануцца сіраты. Вы свяшчэннік, пачуццё жаласці ў вас павінна быць.

— Пачуццё жаласці! Дорага б яно мне каштавала гэты раз! Беззаконіе! А Талімон Бялькевіч сам быў у мяне, і я яму растлумачыў, што беззаконія рабіць не магу.

Тут не стрымаўся Ладымер:

— Беззаконіе! Ды вы, бацюшка, гаварыць з ім не захацелі. От гэта ўжо беззаконіе.

Поп не мог пакінуць гэтых слоў без увагі.

— Вы мяне абражаеце, Некрашэвіч, і я мог бы паказаць вам на дзверы, але я гэтага не зраблю... Я гаварыў з Бялькевічам, колькі было трэба. А вам зусім няма чаго мяшацца ў гэтую справу.

«Не мог памаўчаць і ўсё сапсаваў»,— падумаў Андрэй пра Ладымера.

— Не, айцец Сцяпан, не тое кажаце,— загаварыў ён.— Вы нас адразу абразілі, мы змоўчалі... А ў справу гэтую мы павінны былі ўмяшацца, бо такое пахаванне будзе ганьбай для ўсяго засценка. І каб мы маглі, то знайшлі б таго, хто вінаваты ў смерці гэтай дзяўчыны. Дзіцяці, можна сказаць... Бо мы ведаем гэтага злачынцу. Вельмі шкада, што людзі адукаваныя, тыя, хто абавязаны стаяць на варце чалавечых законаў, разважаюць не так, як трэба.

— Вы гаворыце пра мяне, Сташэвіч?

— Пра вас.

Поп усміхнуўся.

— Што вы за чалавек, Сташэвіч? — прамовіў ён.— Не разумею. Гаворыце вы разумна, я нават здзіўлены, а дзейнічаеце неразумна. Хто такі я? Маленькі чалавек — сельскі святар. Што я магу зрабіць? Нічога! Я павінен выконваць свае абавязкі і падпарадкавацца законам. А вы што мне прапануеце? Беззаконне!.. А пільнаваць законы пастаўлены іншыя людзі. Ну от хоць сабе ўраднік Беразоўскі. Ды ён якраз і дома сёння, у свайго разбойніка-цесця.

Апошнія словы былі сказаны такім тонам, што Андрэй зразумеў: не любіць поп і Арлоўскага і яго зяця. Ці даўно гэта стала? Зразумеў Андрэй і тое, што поп хоць і можа што зрабіць, то ўсё роўна не зробіць, і можа толькі таму, што да яго прыйшоў Андрэй Сташэвіч. Сулкоўскі яшчэ не забыў споведзі і будзе за яе помсціць. Таму лепш канчаць гаворку.

— Скажыце, айцец Сцяпан, што трэба, каб вы адпелі і пахавалі Лісавету Бялькевіч, як усіх людзей?

— Настырны вы чалавек, Сташэвіч, але я скажу вам проста: трэба не вельмі многа, але вы гэтага не зробіце. Нават вы не зробіце,— з прыціскам сказаў поп.

У Андрэя пачало цямнець у вачах ад злосці, і ён, напэўна, абразіў бы папа, але тут азваўся Ладымер.

— Адзін не зробіць, то можа мы, скажам, удвух

зробім,— ён засунуў руку ў кішэню, мабыць, хацеў дастаць свой кашалёк.— А то трэцяга і чацвёртага пашукаем.

Сулкоўскі зразумеў яго рух і скрывіўся.

— Не зразумелі вы мяне, Некрашэвіч. Не пра грошы я намякнуў. Мне трэба дакумент ад доктара аб тым, што гэтая дзяўчына не самагубца, а памерла сваёй смерцю. Вось тады я яе адпяю, як адпяваю ўсіх. Калі вам удасца купіць у доктара такі дакумент, купляйце яго хоць усім засценкам, калі зможаце. Калі зможаце! — паўтарыў ён і з'едліва ўсміхнуўся. Поп, вядома, быў упэўнены, што такія дзеячы, як малінаўцы, не змогуць зрабіць гэтага, ды і грошай пашкадуюць.

— Добра, айцец Сцяпан,— задыхаючыся ад гневу сказаў Андрэй.— І калі дакумент будзе, вы даяце слова, што не адмовіцеся пахаваць Лісавету Бялькевіч?

— Даю такое слова.

— І не будзеце пісаць даносаў на доктара, які прадасць такі дакумент, і на тых шляхцюкоў, што яго купілі?

Поп пабялеў.

— Як вы смееце так гаварыць са мною!

— Айцец Сцяпан, вы даяце такое слова?

— Я не ўраднік, да вашага ведама... Вы, Сташэвіч, залішне смелы, от што я вам скажу.

— Так, айцец Сцяпан, я не баязлівец, вы гэта даўно ведаеце. Хадзем, Ладымер. Ты чуў, што сказаў айцец Сцяпан?

— Чуў, не глухі яшчэ. Бацюшка абяцаў. Два разы абяцаў, я гэта чуў.

Калі яны выйшлі ад папа, на дварэ пасвяжэла. Вецер павярнуўся з паўночнага боку. На небе рассейваліся хмары. Абрыўкі іх яшчэ плавалі ў вышыні, але адтуль пазіралі на зямлю халодныя зоркі. Капеж са стрэх кончыўся, зрэдку толькі падалі з ледзячкоў апошнія кроплі і замярзалі на зямлі. Пад нагамі скрыпела.

Андрэй думаў пра папа. Сукін сын, адабраў у іх усю надзею. Куды цяпер пойдзеш! Сапраўды, хіба яны дастануць у доктара такі дакумент? Ці можна без знаёмства наогул дастаць яго? Эх, няма Марціна Крываблоцкага. Той бы нешта зрабіў... Доктарам у

Старочыне быў нейкі Кнопф, не то паляк, не то немец. Гэта быў суровы чалавек, які вельмі мала гаварыў, але вельмі добра лячыў. Ён быў хірург, і не раз яго выклікалі ў Слуцак, калі там трэба было зрабіць сур'ёзную аперацыю. Акрамя таго, пра яго гаварылі, што ён не робіць розніцы між багатымі хворымі і беднымі. Для яго ўсе хворыя аднолькавыя. Андрэй ведаў гэтага доктара, як ведала яго не адна Старочынская воласць, але знаёмства з ім не меў ніякага. А што, каб звярнуцца да яго?! Можа што і выйшла б.

Раптам у Андрэеву галаву прыйшла думка: чаму гэта Сулкоўскі некалькі разоў памянуў ураднiка? І памянуў не толькі без прыязні, але нават з нянавісцю. Што ж гэта такое? Проста не мірацца або ёсць нешта большае, глыбейшае?

— Ведаеш што, Ладымер,— сказаў ён.— Хадзем да Беразоўскага.

— Да ўрадніка?

— Але.

— Ачмурэў ты, Андрэй!

— Не... Ёсць у мяне думка, адна. І калі мы пачалі ўжо, то не будзем спыняцца на паўдарозе. Удасца ці не ўдасца, а паспрабаваць трэба. На папу свет клінам не сышоўся.

— А добра ты кажаш! — ажывіўся Ладымер.— Калі пойдзеш ты, то і я з табою. Можа, скажам, і ўраднік тое самае скажа, што і поп... А ў халернага папа і закурыць не прыйшлося...

Час быў не ранні. Андрэй не вельмі спадзяваўся, што ўраднік не спіць. Напэўна, ужо ў ложку з маладой жонкай.

На кухні іх сустрэў Арлоўскі і ўзрадаваўся. Адразу два чалавекі. Чаго яны прыйшлі так позна? Вядома, купіць гарэлкі. Менш за дзве бутэлькі не купяць. Справа ў тым, што як толькі Арлоўскі прыняў ўрадніка ў прымы, чыжэвіцкія мужыкі, ды і наогул усе, пачалі радзей заходзіць да сядзельца і купляць гарэлку. Гэта вельмі не падабалася Арлоўскаму. А тут прыйшлі два.

Андрэй адразу заўважыў, што рыжай Мар'яны ўжо няма. Замест яе ў мыцельніку кешкалася пажылая жанчына. Мабыць, у хаце нядаўна павячэралі, і яна мыла посуд.

— Чаму ж так позна, панове? — запытаў Арлоўскі.— Але вы не часта да мяне заходзіце.

— Мы па справе, пане Арлоўскі,— прамовіў Андрэй.— Нам трэба пабачыць пана ўрадніка.

У сядзельца выцягнуўся твар.

— Пана ўрадніка? — запытаў ён і памыляў тонкімі губамі.— Не ведаю, панове, ці прыме вас пан ураднік. Ён жа не на службе, а дома.

— А мы не па службовай справе, пане Арлоўскі,— растлумачыў Андрэй.— У нас прыватная справа.

— Але, пане сядзелец,— падтрымаў Ладымер.— У нас не зладзейства і, скажам, не рабаўніцтва.

— Вы яму скажыце, пане Арлоўскі.

Сядзелец нехаця выйшаў.

Ладымер нарэшце выняў тытунь і люльку.

— А я ўсё роўна закуру,— сказаў ён.— Горш не будзе... Бо калі мы ў папа нічога не выхадзілі...

Тым часам Арлоўскі сказаў свайму зяцю, які сядзеў за сталом з маладой жонкай і гуляў з ёю ў карты, што да яго прыйшлі з Малінаўкі Андрэй Сташэвіч і Ладымер Некрашэвіч. Гэта трохі здзівіла ўрадніка і вельмі зацікавіла. Ён павярнуўся да жонкі і, лагодна ўсміхаючыся, сказаў:

— Андрэй Сташэвіч — гэта твой былы кавалер, Адэля? Прыняць яго ці не прыняць?

Адэля састроіла нездаволеную грымасу, каб паказаць, што ёй не падабаецца гэты напамінак.

— Ён жа не да мяне прыйшоў, гэты мой былы кавалер.

— Не сярдуй, дарагая, я пажартаваў. Я прыму іх абодвух. Скажыце, хай зойдуць. А ты, дарагая...

Адэля нездаволена зірнула на мужа, устала з-за стала, крутнулася і выйшла ў суседні пакой.

— Вельмі ж у іх ногі брудныя,— буркнуў Арлоўскі.— Можа б у кухні прыняць...

— Яны шляхта. У кухні іх прымаць нельга.

Беразоўскі, не ў прыклад папу, прыняў малінаўцаў ветліва, ледзь не па-сяброўску, адразу запрасіў сесці. Ён уважліва слухаў, што расказваў Андрэй, і не менш уважліва вывучаў яго твар. «Не, ён не злодзей,— думаў ён, успамінаючы Халустаў данос.— А дазвол на вобыск у яго і ў Ашакевіча ўжо атрыманы... Складаная справа, чорт вазьмі».

Калі Андрэй кончыў расказваць, ураднік сказаў:

— Я ведаю, што адбылося ў Малінаўцы. Прыскорбны факт. А цяпер скажыце, чаму вы прыйшлі іменна да мяне? Што магу зрабіць я? Я толькі ўраднік, хіба я магу загадаць Сулкоўскаму? Яму можа загадаць архірэй. А ён жа проста адмахнуўся ад вас. Шэльма! Хто яго правяраў бы, калі б ён пахаваў палюдску гэтую няшчасную? Ніхто! Я са свайго боку пакрыў бы гэтую справу. Ён можа яе пахаваць, але не хоча. На злосць вам, пане Сташэвіч!.. А я разумею і вас і падтрымаў бы, але, паверце, я бяссільны.

— Тое самае сказаў нам і Сулкоўскі.

— І зманіў. Ён не бяссільны. А я што? Не магу ж я загадаць доктару Кнопфу, каб ён выдаў дакумент аб смерці Лісаветы Бялькевіч ад хваробы. А мне хацца ад усёй душы памагчы вам.

Ён на нейкую хвіліну задумаўся, потым засмяяўся.

— Дык ён, шальмец гэты, наш поп, паслаў вас да мяне?

— Не, але ён некалькі разоў казаў, што ён не ўраднік, і мы падумалі, што вы, як ураднік, можаце нам памагчы.

— Ах поп, поп! Што ён меў на ўвазе, успамінаючы ўрадніка? Не разумею. Ад усёй душы хацеў бы памагчы вам, хоць бы на злосць духоўнаму пастыру, такому абыякаваму да сваё паствы...

— Ты можаш, Антось! Ты можаш! — раптам пачуўся жаночы голас. Быў ён такі нечаканы, што Андрэй і Ладымер аж здрыгануліся. Каля іх стаяла Адэля, якая ўвесь гэты час стаяла каля дзвярэй у суседнім пакоі і падслухоўвала. Нарэшце не вытрывала і ўмяшалася.

Андрэй здзівіўся, што мова яе з птушынай ператварылася ў чалавечую. Дзе і падзелася яе тая дзявочая картавасць!

— Як я змагу памагчы ім, Адэля? — збянтэжана запытаў Беразоўскі.

— Зможаш, Антось,— стаяла на сваім Адэля.— Ты павінен узяць у доктара Кнопфа такі дакумент, які патрэбен.

— Яна звар'яцела, панове,— звярнуўся Беразоўскі да Андрэя і Ладымера.— Я сам шляхціц і заўсёды спачуваю шляхце. Але ў дадзеным выпадку я бяссільны.

— Я не звар'яцела, Антось. Ты возьмеш такі дакумент.

— Як я яго вазьму, неразумная жанчына?

— Паедзеш у Старочын і возьмеш. Ты ж заўтра едзеш. Кнопф табе дасць усё, што ты папросіш.

Андрэй з удзячнасцю зірнуў на Адэлю. Ніколі ён не чакаў, што яна падтрымае яго.

— Як гэта ён дасць! — запярэчыў жонцы Беразоўскі.— Неразумнае разважанне, чыста жаночае.

— Чыста жаночае разважанне? От як! Тады ты не мужчына. Сапраўдны мужчына не дазволіць здзекавацца з цела жанчыны, якая так трагічна загінула.

«Малайчына ж ты, Адэля», — з захапленнем думаў Андрэй.

— Яна — дзіця, а не грэшніца,— гаварыла Адэля.— Я яе бачыла на каляды, калі яна ішла ў царкву. Вунь бачыш, людзі прыйшлі ў такое надвор'е шукаць тваё дапамогі, а ты... Ты павінен зрабіць гэта, Антось!

Беразоўскі слухаў, слухаў, нарэшце засмяяўся.

— Бачыце, панове! Хто тут ураднік, я ці яна? Ну, што мне цяпер рабіць? — жартам запытаў ён.

— Раніцай ехаць да Кнопфа,— адказала Адэля.— І ты гэта зробіш, Антось. Абяцай мне!

— Ну, як я магу абяцаць! А калі Кнопф адмовіцца? Чаму ты так упэўнена, што Кнопф гэта зробіць?

— І я з табой паеду! — рашуча заявіла Адэля.— Ён мне не адмовіць. Паеду!

— Тады я здаюся. Толькі я нічога не абяцаю. Не магу абяцаць, бо не веру, што нешта выйдзе. Не веру. А ты, калі верыш, то абяцай.

— Я абяцаю! Пане Сташэвіч! Заўтра я прывязу дакумент ад доктара. Гэта будзе падвечар. Мы заткнём рот гэтаму папу. Толькі Лісавету прыйдзецца хаваць паслязаўтра. А заўтра вечарам няхай стары Бялькевіч прыйдзе да мяне.

— Ну от, панове,— яўна прыкідваючыся нездаволеным, сказаў Беразоўскі.— Вам трэба было адразу звяртацца не да мяне, а да мае супругі. Яна дала вам слова, няхай стрымае.

Калі, падзякаваўшы і развітаўшыся, Ладымер і Андрэй выйшлі ў кухню, Ладымер зноў палез ў кішэню і выняў не люльку з тытунём, а свой стары кашалёк.

— Чорт яго бяры, Андрэй, але нам хапіла сён-

ня,— сказаў ён.— Возьмем бутэльку, а то пасля такой работы і захварэць нядоўга.

— Бяры,— абыякава адказаў Андрэй.

Дома ўжо, лёгшы спаць, ён думаў і думаў і ніяк не мог заснуць. Усё, што адбылося сёння, здавалася яму неверагодным. Ён думаў пра папа і ўрадніка, пра ўраднікаву жонку і не мог зразумець, чаму поп так рашуча адмовіў у іх просьбе, чаму нарэшце даў згоду Беразоўскі. Што, нарэшце, прымусіла Адэлю — гэтую ганарлівую палячку — так рашуча прыйсці ім на дапамогу. А ўсё тлумачылася вельмі проста. Калі Беразоўскі стаў зяцем Арлоўскага і пачаў праз дзень, а то і кожны дзень прыязджаць да жонкі, Сулкоўскі вырашыў, што знайшоў яшчэ адзін аб'ект, дзе можна пажывіцца, і загарэўся жаданнем пасябраваць з ураднікам. Гэта яму вельмі лёгка ўдалося. Поп, вядома, адразу прапанаваў пагуляць у карты. Беразоўскі быў рады: трэба ж неяк бавіць час, а якая інтэлігенцыя ў Чыжэвічах? Але не ведаў поп, з кім садзіцца гуляць. Ён лічыў гэтага ўрадніка праставатым. Аднак у першы ж вечар гэты праставаты ўраднік злавіў папа, як кажуць, за руку. Не такі быў Беразоўскі, каб ні за што ні пра што аддаваць свае грошы папу-шулеру.

— Як гэта вы называеце? — запытаў ён.

— Я вас не разумею, Антон Іванавіч...

— Не разумееце? Ды вы махлюеце, айцец Сцяпан!

— Што? Вы мяне абражаеце! — закрычаў поп.

— Не махлюйце!

— Што вы сказалі?! — абурыўся поп.

— Не махлюйце! От што я вам сказаў! — узлаваўся ўраднік.

— Я вас за аскарбленіе...

Беразоўскі не даў яму кончыць.

— А я вас за шулерства. Гэта ўгалоўнае прэступленіе, калі хочаце ведаць. У карты гуляць дазволена, гэта забава, а займацца шулерствам — не. Бо гэта ваўраўство. От у чым справа, айцец Сцяпан. Я, між іншым, і раней чуў пра такія вашы прадзелкі, а цяпер сам бачу.

— Вы не смееце! — закрычаў поп.

— Смею,— спакойна адказаў ураднік.

Разгарэлася гарачая сварка, і прыяцелі разышліся смяротэльнымі ворагамі. От гэта і паслужыла прычынай таго, што Беразоўскі на злосць папу згадзіўся

памагчы малінаўцам. Тым болей, што, ажаніўшыся, ён вырашыў кінуць службу, стаць гаспадаром, а з будучымі суседзямі трэба жыць у згодзе. Акрамя таго, яму хацелася сёння дагадзіць Андрэю, бо рыхтаваў яму вялікую непрыемнасць у самы блізкі час. Як тады зірне на яго Андрэй, калі ён не будзе ўраднікам? Беразоўскі ведаў, што гэты чалавек смелы і помслівы. Адэля ж хацела паказаць Андрэю, як яе шануе і паважае муж, як ён яе слухае. Ды і сэрца ў гэтай жанчыны не зусім зачарсцвела ў хаце скупога сядзельца: яна шчыра шкадавала Лісавету, такую маладзенькую і такую няшчасную.

Поп Сулкоўскі, вядома, адразу даў бы згоду, каб яму паказалі сотню рублёў, але ніяк не менш. Поп са сваёй матушкай натрапіў у Слуцку на «добрую кампанію» і прагуляўся, не было за што выпіць, а цяпер, пасля сваркі з Беразоўскім, ён не мог узяць у сядзельца ў доўг. Ён быў упэўнены, што заўтра яму прынясуць грошы. Не дазволіць шляхта, каб пахавалі дзяўчыну без адпявання.

## РАЗДЗЕЛ ТРЫЦЦАЦЬ ДРУГІ

Лісавету пахавалі на трэці дзень пасля яе смерці. Адэля Беразоўская стрымала слова: прывезла ад доктара Кнопфа даведку, якая так была патрэбна.

Сулкоўскі здзівіўся, калі Талімон прыйшоў да яго з гэтай даведкай. Ён не ведаў, як Талімон дастаў яе. Ён ніколі не думаў, што да гэтага прыклаў руку яго вораг урадпік і яго жонка. Ён меркаваў, што гэта работа Андрэя Сташэвіча і яго сяброў і сваякоў: сабралі грошай і купілі, а можа яшчэ і настрашылі доктара Кнопфа. Сулкоўскі нават раскаяўся, што не намякнуў тады Ладымеру і Андрэю пра грошы. Не далі б сотню, хапіла б паўсотні, і то грошы. А цяпер трапілі гэтыя грошы чорту ў зубы — каталіку Кнопфу. Што яму да таго, як паміраюць праваслаўныя і як іх хаваюць! Сулкоўскі ледзь зубамі не скрыгаў са злосці і на самога сябе, і на Сташэвіча, і на Кнопфа. Ён, праўда, мог бы адмовіцца ад пахавання, падняць скандал, даказаць, што даведка фіктыўная, што тут цэлы падлог, калі не горш, але паспрабуй крані гэтых людзей, то

выкрыюцца ўсе паповы грахі. І ён, сціснуўшы зубы, паехаў у Малінаўку хаваць Лісавету.

Хавалі яе ў другой палавіне дня. Дзень стаяў ясны, цёплы; раніцай трымаўся марозік, а ўдзень пачало раставаць. Маладзейшыя па чарзе неслі труну. За труной ішла ўся Малінаўка, за выключэннем Халустаў і тых, хто не мог выйсці з хаты. Каля могілак чакаў натоўп жывічан, таксама ўвесь засценак. І цяпер канчаткова ўпэўніўся Сулкоўскі, якую вялікую памылку ён зрабіў бы, калі б адмовіўся ад пахавання.

Калі насыпалі магілу і паставілі на ёй невялікі крыж, людзі пачалі разыходзіцца. Сулкоўскаму карцела сустрэцца з Андрэем адзін на адзін і давесці яму, што каб ён, Сулкоўскі, захацеў, то паставіў бы на сваім, і калі гэта не адбылося, то толькі па яго добрай волі. Нібы зразумеўшы яго жаданне, Андрэй адстаў ад гурту і пачаў закурваць. Сулкоўскі далучыўся да яго, і яны пайшлі ўдвух, ззаду ўсіх.

— І ўсё-такі, Сташэвіч, справа гэтая незаконная,— пачаў ён.

Андрэй зрабіў выгляд, што не разумее, аб чым гаворыць поп.

— Што незаконнае, айцец Сцяпан?

— Незаконнае вось гэтае пахаванне. Я ведаю, што вам удалося купіць дакумант у доктара, але ж гэта незаконнае дзеянне.

«Вось калі ты папаўся ў мае рукі!» — падумаў Андрэй і засмяяўся папу ў твар.

— Айцец Сцяпан! Дык гэта ж вы ўтварылі незаконнае дзеянне! Як вы смелі, свяшчэннік, адпяваць яе, гэтую грэшніцу, калі ведалі, што гэта незаконнае дзеянне?

Поп збянтэжыўся.

— Ну, ведаеце... гэта нахабства...

— Якое нахабства, айцец Сцяпан? Калі сёння ўтварылася нешта незаконнае, то вы галоўны вінаваты.

— Дзяўчына кончыла жыццё самагубствам...

— Вы бачылі? Былі пры гэтым? Не, не бачылі, айцец Сцяпан! А от вы запытайце любога чалавека з тых, што ідуць наперадзе, і ніхто вам не скажа, што яна кончыла жыццё самагубствам!

— Ну, ведаеце...

— Запытайце, айцец Сцяпан. Знарок.

У словах Андрэя было столькі ўпэўненасці, што Сулкоўскі не быў перакананы, што можа быць інакш, чым кажа гэты пракляты шляхціц.

— А я вам скажу сакрэт, айцец Сцяпан. Яе забілі.

— Каго?

— Лісавету Бялькевіч. І не адну яе, а і дзіцё, якое яна насіла.

— Я ведаю, што яна была цяжарная.

— Ведаеце? Дык у вас няма не толькі чалавекалюбства, а простай чалавечай жаласці, якая ўласціва тым людзям, якія ідуць наперадзе. Вы старэйшы за мяне і прытым свяшчэннік, але мне сорамна гаварыць з вамі, айцец Сцяпан. І не толькі сорамна, а гадка.

І ён шпаркімі крокамі пайшоў наперад, кінуўшы папа аднаго, і далучыўся да гурту, які падыходзіў ужо да засценка.

Андрэй так сапсаваў папу настрой, што той адмовіўся зайсці да Талімона ў хату выпіць чарку на памінках, не хацеў браць грошай, але ўспомніў, што ў кішэнях пуста, і ўзяў. Тады адразу бухнуўся ў сані, якія ўжо былі падрыхтаваны, і адправіўся да свае матушкі.

Дома Андрэй застаў адну Алену. Яна ляжала на ложку і горка плакала. Пад вокам яе было чорна. Андрэй зірнуў на сястру, успомніў дзень смерці Лісаветы, і злосць зашавялілася ў яго душы. Але калі ён падумаў пра ўсё, што адбылося за апошнія дні, пра сваю перамогу над папом, сэрца яго змякчылася. «Мабыць, і ты перажыла, сястра, і не вельмі лёгка табе». Ён не сказаў Алене ні слова, але аставацца з ёю ў хаце адно на адно не мог. Ён выйшаў. Гумно было адчынена, і ён накіраваўся туды. Іван з рыдлёўкай у руках адкідаў ад гумна снег.

— Ранавата ты за гэта ўзяўся,— сказаў яму Андрэй.

— А можа і заўтра пачне раставаць ці ўночы. Гэтулькі снегу, яшчэ нацячэ ў гумно вады.

— Лепш паспаў бы.

— У хаце Алена...

— Дык што?

— Плача...

— А табе якая бяда?

— Не магу я...

— От як...

Андрэй акінуў Івана доўгім позіркам. І падумаў: «Дык от які ты, Іванко... Не можаш, калі нехта плача. Значыць, і зла ты нікому не зробіш. А я магу! Няхай плача! Няхай!»

— Бяры рыдлёўку ды пойдзем.

Іван нехаця кінуў работу. Андрэй зачыніў і замкнуў гумно. Ён цяпер не пакідаў яго без замка на дзвярах нават днём.

У тую ноч Андрэй спаў як забіты і нічога не сніў. Дзве ночы перад гэтым прайшлі амаль без сну, але тады, здаецца, і спаць не хацелася, а цяпер, калі ўсё кончылася, стома канчаткова зваліла з ног.

Разбудзіў яго Ян. У хаце быў дзень, калі Андрэй расплюшчыў вочы. Маці ўжо выпаліла ў печы, Алена прала. Ян сядзеў каля стала.

— Нейкая напасць на наш засценак навалілася ў гэтым годзе. Кара божая.

— Пра што ты гаворыш, Ян?

— Сымона Ашакевіча трасуць, от пра што.

На душы ў Андрэя стала холадна і цёмна. Ён адразу зразумеў, у чым справа. Калі робяць вобыск у Ашакевіча, то скора прыйдуць і да яго. Упэўнены быў, што нічога не знойдуць, але адно тое, што яго будуць трэсці, як злодзея, было страшна. Андрэя Сташэвіча трасуць, як злодзея! Ён чакаў гэтага, ведаў, што не міне навалы, але не думаў, што на яго так падзейнічае гэтая навала. Ён не гаварыў Яну пра сваю знаходку ў гумне і глыбока раскаяўся. А цяпер не скажаш, позна. А як было б добра пагаварыць з Янам, параіцца. Цяжка, каб ты згарэла... Але ён зрабіў выгляд, што ўсё гэта яго мала цікавіць.

— Хто ж яго там трасе?

— Урадшк, хто ж болей. І стражнік тут. Панятых пабралі.

— А хто панятыя?

— Мартыневіч як дзесяцкі ды Баран-Заяц на вуліцы падвярнуўся. Некуды раніцай ішоў, каб пабалбатаць. Не ведаеш Барана-Зайца. Ён толькі начуе дома. От яго на дарозе і захапілі.

У Андрэя лягчэй стала на душы. Хоць адзін паняты ды чалавек, ну а Мартыневіч, то ён і сам свіння, і пасада яго свінская.

— Рана ўраднік пачаў сваю работу.

— Не вельмі рана. Сымона ж трэба было застаць

дома, а то некуды з'ехаў бы. Хіба ўраднік гэтага не ведае. А Нарбутовічава сучка пра ўсё па засценку разбрахала...

Не цікавіла Андрэя цяпер ніякая дробязь. Яго мучыла тое, што падумае Ян, калі да яго брата прыйдуць з вобыскам.

— Няўжо Сымон нешта ўкраў, возячы тавар? Веры не дам!

— Сымон украў? Не пра тое гаворыш, Ян.

Андрэю хацелася пабыць аднаму, пакуль да яго прыйдуць з вобыскам, і ён рады быў бы, каб Ян пайшоў, але той нібы знарок сядзеў і развражаў. Тым часам у хату ўвайшоў Іван, нечым усхваляваны. Ён паспеў ужо накарміць скаціну, і Андрэй зразумеў, што спаў-такі пазнавата.

Іван пакруціўся ў хаце, пайшоў у сені і адтуль гукнуў Андрэя. Андрэй адразу выйшаў.

— Да нас у гумно прыходзіў Якаў. Ён сказаў, што трасуць Ашакевіча і каб ты гэта ведаў і быў гатовы.

— Добра, Іванко, я ўжо ведаю.

— А я, Андрэй, зноў у гумне сям-там палазіў, агледзеў усё, дзе што можна ўсунуць. Нічога няма. Няхай трасуць!

— Малайчына, Іванко.

Андрэй гатовы быў пацалаваць гэтага шчырага хлопца.

— Якія там у вас сакрэты? — запытаў Ян, калі яны зайшлі ў хату.

— Ніякіх сакрэтаў. Іван пытаў, па колькі сыпаць вобмешкі коням. Я ім цяпер патрохі бульбы даю з сечкай. Не набярэшся аўса.

— Беражы авёс на насенне.

Пара было снедаць, і Ян сабраўся дамоў, але, мабыць, не паспеў ён саступіць з ганка, як павярнуў назад і ўляцеў у хату.

— Андрэй! Ідуць сюды. Калі мінуць твой двор, то да мяне.

На ганку тым часам затупала некалькі пар ног.

— Такі ж да цябе... Чаго ты нарабіў, Андрэй?

— Не бойся, Ян. Нічога я не нарабіў. Ідзе Халустава помста.

Цяпер, калі крокі чужых людзей пачуліся ў сенцах, Андрэй адчуў надзвычайны спакой і смеласць.

— Здрастуйце! — з націскам на апошнім складзе сказаў Беразоўскі, увайшоўшы ў хату.— Вымушаны, пане Сташэвіч, наведаць вас. Быў бы рады наведаць пры іншых абстаяцельствах.— Ён падаў Андрэю руку.— А гэта ваша мама? — ён схіліўся.— А гэта сястра! — зноў схіліўся.— А-а! Пане Сташэвіч! — ён пацісную Яну руку. На Івана не звярнуў увагі.

Стражнік Макар, Ладымер і Мартыневіч стаялі каля дзвярэй. Ладымер вінавата пыхкаў люлькай.

— Чаго там туляешся, Ладымер? — сказаў яму Андрэй.— Ідзі сюды.

Ладымер павесялеў.

— Завалалі мяне, Андрэй, на вуліцы. Я да цябе ішоў...

Беразоўскі тым часам гаварыў Яну:

— Я, пане Сташэвіч, павінен выконваць свае вельмі непрыемныя абязаннасці. Вельмі непрыемныя. Але гэта не мая віна. Не мая! У Андрэя Сташэвіча ёсць недабражалацелі.

— Ведаем мы іх, пане ўраднік.

— Тым лучшэ... І паколькі вы аказаліся тут, пане Сташэвіч, то і павінны тут аставацца, пакуль мы не кончым аперацыю.

— Я, пане Беразоўскі, брат Андрэю. У першым стрэчанні.

— Гэта не мае значэння. Пасядзіце, пане Сташэвіч. Тым лучшэ, што вы тут. Вы ўвідзіце, што я не прыстрасна аднясуся да гэтага дзела.

— Пасяджу, калі на тое пайшло.

— Между прочым, у Андрэя Сташэвіча красівая сястра. Яна некуды сабіраецца ісці. Скажыце ёй, пане Сташэвіч, што ў такіх случаях з хаты выходзіць нельзя. Мне самому неудобно.

«Сукін ты сын,— падумаў Ян.— Табе неудобно...»

Беразоўскі павярнуўся да Андрэя, і позіркі іх сустрэліся. Андрэй глядзеў на ўрадніка з ледзь прыкметнай пагардлівай усмешкай, ураднік з пачуццём уласнай годнасці, нібы хацеў сказаць: «Я зрабіў для цябе ўсё, што было трэба, а цяпер сцеражыся! Калі ты вінаваты, то наракай на сябе».

— Я, пане Сташэвіч, па доўгу свае службы павінен зрабіць у вас вобыск,— ён выняў з сумкі, што вісела ў яго на плячы, паперы і падаў іх Андрэю.— От прадпісаніе і разрашэніе.

Андрэй нават не зірнуў на яго паперы, бо ведаў, што без дазволу ўраднік ні за якія грошы не зробіць вобыск у дваранiна.

— Гаспадзін ураднік! Я ведаю, па чыйму даносу вы зробіце ў мяне вобыск. Па даносу майго ворага, лютага ворага Яўхіма Халусты. Я не ведаю, чаго вы ў мяне будзеце шукаць. Можа забароненай літаратуры...

— Не, пане Сташэвіч. Справа не палітычная. Але калі знойдзем такую літаратуру...

— Ведаю: то ў зубы мне не паглядзіце. Вунь мая літаратура! Бачыце, поўны покуць кніг.

Беразоўскі з цікаўнасцю зірнуў на кнігі, якіх раней не заўважаў, і гатовы быў рынуцца да іх.

— Чытаеце? — запытаў ён.

— Чытаю... Я, гаспадзін ураднік, не магу забараніць вам зрабіць вобыск, хоць гэта і найвялікшая абраза дваранiну, калі падазраюць у забойстве ці крадзяжы. Аднак, як дваранін, я вам афіцыяльна заяўляю перад гэтымі добрымі людзьмі, з якіх трое таксама дваране: Яўхім Халуста і яго сын Мікалай зладзеі, зрабіце вобыск і ў іх.

— Гэта падобна на тое, што вы мне ставіце ўмоўе, пане Сташэвіч.

— Ні ў якім разе, гаспадзін ураднік! Я хачу абараніць сваю дваранскую годнасць.

— О, каб Халусту страсянуў! — азваўся Ладымер.— З яго б нямала вытрас.

Ураднік імгненна павярнуўся да яго:

— Вы падтрымліваеце Сташэвіча?

— Падтрымліваю.

— Калі на тое пайшло, пане ўраднік, то і я скажу,— дадаў Ян.— Калі трасяце дваран, то трасяніце і гэтага злодзея, сцягача з усяго свету. Вам на гэта ніякі дазвол не патрэбны. Ды вы самі павінны ведаць, што Халуста ўжо сядзеў у турме за крадзеж, і не адзін раз.

Беразоўскі сеў ля стала, бліжэй да кніг, і задумаўся. Потым пачаў перабіраць кнігі адну за адной, нібы рабіў гэта механічна, але перабраў усе. Нарэшце ён устаў.

— Добра, панове,— рашуча прамовіў ён.— Я яго абышчу... Толькі вам прыйдзецца напісаць пісьмовае прашэнне. Мы гэта зробім пасля таго, як абышчам

вас, пане Сташэвіч. Мне патрэбен дакумент. А цяпер, пане Сташэвіч, мы прыступім да справы. Павінен паведаміць, што я ўжо зрабіў вобыск таксама ў дваранiна Сымона Ашакевіча, і, к майму вялікаму здавальненню, ён не даў ніякіх рэзультатаў. Надзеюсь, пане Сташэвіч, што такія самыя рэзультаты будуць і ў вас. Я сам дваранін, панове, і ў такіх пячальных случаях чувствую так, будта сам нанашу сабе аскарбленіе. З вашага разрашэнія, пане Сташэвіч?

Андрэй не адказаў.

— Макар! — паклікаўураднік.

Трэба сказаць, што ўраднік і сапраўды «не прыстраснааднёсся да гэтага дзела». Напрыклад, скрыню старое Аксені і Аленін куфар толькі адчынілі, рыцца ў іх ураднік не дазволіў. І так было відно, што там, акрамя палацён, саматканых абрусаў, ручнікоў і кап, нічога не ляжала. Усё гэта было новенькае, непачэпанае, чужыя рукі не краналіся яго.

Макар з Мартыневічам злазілі на гару, але і там нічога не знайшлі. Аднак ураднік агледзеў усе будынкі: хлявы, свіран, паветку, тады ўсім гуртам пайшлі ў гумно. Сцежка праходзіла поблізу Гарасімавай хаты. Сам гаспадар стаяў у гэты час на ганку.

— Не там шукаеце, гаспадзін ураднік! — сказаў ён, калі з ім параўнаваўся прадстаўнік улады, і, мабыць, сам спалохаўся таго, што сказаў, бо адразу шмыгануў у сенцы.

— Хто гэта такі? — звярнуўся ўраднік да Яна Сташэвіча.

— Гарасім Жукоўскі.

— А-а! Чуў пра яго! Малінаўскі святы.

— Наш святы дурань,— пацвердзіў Ладымер.— Але добры чалавек. Ён дзве ночы над пакойніцай псалтыр чытаў. Лепш за папа. Вельмі граматны.

— Відаць, што граматны,— глыбакадумна зазначыў ураднік.

У гумне ў Андрэя, акрамя сена, канюшыны і саломы, нічога больш не было. Ні аднаго снапа ў тарпах, усё абмалацілі з Іванам. Салома ляжала ўзадзе, і было яе многа; канюшыны асталося толькі што на сяўбу вясной, ды і сена не такі вялікі завал, бо, возячы яго з Волі, карміла худобу.

— Не вельмі багат і ты,— сказаў Ладымер Андрэю.

— Пароўну ў нас зямлі.

— Мае бабы канюшыну за зіму стравілі, зусім мала асталося,— паведаміў Ладымер.

— Пане ўраднік! — прамовіў Андрэй.— Вы, вядома, будзеце разварочваць салому, сена і канюшыну, то тут я пастаўлю ўмову: усё, што будзе развернута, павінна быць складзена на сваё месца. У мяне няма лішніх грошай, каб наймаць работнікаў, а сваіх рук я да гэтай работы не прыкладу. Не магу.

— А калі мы тут нешта знойдзем?

— Тады складу я сам.

Беразоўскі засмяяўся.

— Не будзем мы нічога разварочваць, пане Сташэвіч. Тое, што мы шукаем, ляжыць недзе неглыбока. Макар!

Стражнік, Мартыневіч і Ладымер з сахарамі пачалі рыцца ў тарпах. Хоць гэта і не быў абавязак панятых, але што ведала пра свае абавязкі цёмная засцянковая шляхта. Мартыневіч вельмі стараўся і аж потам абліўся, а Ладымер агінаўся сабе, прыпёршыся да сцяны.

Нарэшце Макар злез з тарпы.

— Так што нічога не абнаружана, гаспадзін ураднік! — далажыў ён.

— Добра, Макар! Я вельмі рад, пане Сташэвіч,— звярнуўся ён да Андрэя,— што так усё абышлося. Я сам дваранін, і мне было б прыскорбна... Ну, а цяпер я афармлю пратакол, а вы напішыце прашэнне, аб чым гаварылі. Панове, усе ў хату.

Калі нарэшце ўсе пайшлі з хаты, Андрэй адчуў такую млосць, нібы яму наплявалі ў душу. А маці, прыгорбленая, стаяла каля печы і маўчала. Маўчаў і Ян. Цяжка было ўсім.

Першая падала голас Алена:

— Навёў на Халустаў! От малайчына!..— з'едліва прамовіла яна.

Ян падняў галаву. Андрэй цяжкім позіркам акінуў сястру. На гэты раз яму было ўсё роўна.

— Навёў? — раптам закрычаў Іван, і чырвань заліла яго твар.— А ён не навёў? Злодзей гэты! Ён, калі хочаш ведаць...

— Сціхні, Іван,— загадаў Андрэй.

— Андрэй... сынок... Чаго яны ў нас шукалі? — запытала маці.

— Тых трантаў, што Халуста з сынам украў у Зялёнкі. Але яны іх знойдуць у самога Халусты.

— Ага! — сказаў Ян.— Цяпер мне ўсё зразумела. І калі яны знойдуць тыя транты ў Халусты, то наш род астанецца без плямы...

## РАЗДЗЕЛ ТРЫЦЦАЦЬ ТРЭЦІ

Андрэй адчуваў, што сёння ён не зможа проста і смела глядзець людзям у вочы, хоць пры вобыску ў яго і нічога не знайшлі.

Страшная Халустава помста! Але яна магла быць яшчэ страшнейшая, каб не Якаў. Колькі дабра зрабіў яму гэты чалавек! І ніколі ён яму не аддзякуе, бо няма меры гэтай удзячнасці. Хто ён, па сутнасці, быў да знаёмства з Якавам? Ганарлівы засцянковы шляхціц, цёмны, як бот. Якаў адкрыў яму вочы, навучыў разбірацца ў жыцці, і, мабыць, не толькі праз Івана ён пачаў чытаць, але і праз Якава: цягнуўся за ім, не хацеў быць ззаду, ды і цяпер цягнецца, хоць адчувае, што доўга трэба яго даганяць...

Пакуль управіліся з Іванам па гаспадарцы, пачало цямнець. Іван быў узрушаны, вясёлы, усё аж кіпела ў ім, а Андрэй не глядзеў бы на белы свет.

Маці запаліла ў печы, паставіла варыцца бульбу на вячэру; аб'явіла ў хаце пост. Вялікдзень скора, у другую палавіну вялікага посту ніхто не есць скаромнага. Андрэй ведаў прычыну гэтага посту: сала з кубла ўцякло, а каровы, як на ліха, яшчэ не ацяліліся. Але адна ўжо на цяленні. Пачалося жыццё на бульбе, гурках і капусце. Іншы раз варэнікі з макам ды сушанай садавінай — гэта ўжо ласунак. Трэба завезці ў Крывічы льнянога семя ды алею збіць. Семя ў гэтым годзе дай божа! І прадаць можна будзе нейкі пуд. Тараноў ды селядцоў купіць трэба, а то галаднавата. Пакуль сена вазілі, маці скварку на стол падавала, а цяпер ешце, хлопчыкі, тое, што на стале стаіць.

Як толькі Якаў пераступіў парог, Андрэй адразу пазнаў, што з'явіўся ён з добрымі весткамі. Якаў павітаўся з Андрэем, кіўнуў Івану, як свайму, і сеў на лаве. Андрэй глядзеў на яго з нецярплівым чаканнем.

— Каб ты бачыў, Андрэй, што зрабілася з Халус-

там, калі Макар са старой брычкі ў дрывотніку выцягнуў клунак з Зялёнкавай вопраткай! — пачаў Якаў.

— Значыць, знайшлі! — не вытрымаў Іван.

— Можа б яны і мінулі гэты дрывотнік, каб не Ладымер. «Трэба паглядзець і тут, пане ўраднік». Халуста склаў на жываце рукі, паглядае на мяне, як на звера. Я потым зразумеў, чаму ён так на мяне глядзіць. Макар адразу палез у брычку і пачаў адтуль выкідаць рознае ламачча, потым выцягнуў з сядзення здаравенны клунак у нейкай посцілцы. Халуста вылупіў вочы, пабялеў. «Гаспадзін урааднік, гэта не маё... не, не, не...» Язык адабрала ў гада. Як мярцвяк зрабіўся, паваліцца гатовы. «Ведаю, што не ваша,— кажа ўраднік.— Гэта Зялёнкава».— «Мне яго падлажылі, гаспадзін ураднік!..» — завішчаў Халуста, як парсюк у плоце.— «Хто падлажыў?» — «Сташэвіч і Ашакевіч, пане ўраднік».— «Ну, ведаеце,— кажа ўраднік,— не ўзводзьце паклёп на чэсных людзей. У іх мы нічога не абнаружылі, а гэта знайшлі ў вас, і хто яго сюды паклаў, вам лепш вядома».— «Гэта яны, ліха матары іх, яны...» А сам калоціцца, як асіна. Соплі з носа пацяклі. А ўраднік паківаў пальцам каля яго саплівага носа і кажа: «Я вас арыштую, Яўхім Халуста». От тут і пачалося. Халуста пачаў плакаць...

— Ну, Якаў!..

— Не верыш? Пачаў плакаць горкімі слязьмі і выць, як якая-небудзь няўдалая баба. Гідка было на гэта глядзець і слухаць. Ладымер пачаў пляваціца, а Макар пакаціўся з рогату. Тады Халуста рынуўся на мяне, як шалёны сабака. «Гэта ён — гад, злодзей, шэльма, нягоднік, сацыяліст, арыштант, крамольнік... Гаспадзін ураднік, гэта ён!.. Ён валочыцца кожную ноч, ён абакраў Зялёнку, не паспеў сплавіць крадзенае і падсунуў мне...» І схапіў мяне за грудзі. Я яго лёгенька адпіхнуў, а ён, гад, знарок паваліўся і пачаў лямантаваць, што я яго забіваю... Ну, брат, і чалавек! Ураднік кажа: «Устаньце, Халуста, ніхто вас не забівае». А ён, гад, усё роўна ляжыць. «Макар! — гукнуў ураднік.— Падымі Яўхіма Халусту». От тады ён ускочыў. «Гаспадзін ураднік... усё роўна гэта ён, гарадскі басяк, забастоўшчык...» — «Вы нядаўна сцвярджалі, што Зялёнку абрабавалі Сташэвіч і Ашакевіч, а цяпер кажаце, што ваш парабак Якаў Шэмет. Як тады вас зразумець?» — «А яны ўсе разам, гаспадзін ураднік,

усе разам, ліха матары іх... Бо гэты Шэмет валочыцца кожную ноч».— «Не валіце з хворай галавы на здаровую, Яўхім Халуста,— кажа ўраднік.— Мы ведаем, куды ходзіць ваш парабак».

Андрэй усміхаўся, слухаючы Якава, а Іван качаўся са смеху. Старая Аксеня ўзняла галаву і павесялела, толькі Алена рабіла выгляд, што гэта яе не цікавіць, аднак лавіла кожнае слова Якава.

— Ну, а далей? — запытаў Іван.

— На тым і кончылася. Забраў ураднік той Зялёнкаў клунак, забраў Халусту і паехаў у Старочын.

— Значыць, такі арыштаваў,— прамовіў Андрэй.

— Арыштаваў. Але Халуста доўга сядзець не будзе. Мікалай адразу пашыбаваў да Хаіма Ножыка.

— Ну дык што? — не зразумеў Іван.

— Хаім на парукі Халусту возьме,— растлумачыў Андрэй.

— А як жа,— пацвердзіў Якаў.— Разам кралі, хіба Хаіму захочацца сесці разам з Халустам! Халуста ж такі, што калі прыпрэ, то і сына роднага прадасць, хіба ён Хаіма Ножыка пашкадуе!

— Але хоць трохі ды пасядзіць! — прамовіў Іван.

— Гэтага мала, што пасядзіць,— сказаў Якаў.— Каб выйсці чыстым з такога бруду, нямала будзе каштаваць. Хутара Хмялеўскага не хопіць, бо трэба будзе купіць не толькі паліцыю, але і Зялёнку рот заткнуць.

— Яны ж удвух з Хаімам,— зазначыў Андрэй.

— Ведаю. Адным словам, папаўся Халуста. Туды яму і дарога.

— Ты яшчэ не ведаеш, у чым тут справа, Андрэй,— сказаў Якаў, згортваючы папяросу.— Ураднік рабіў вобыск не ў Халусты, а ў мяне. Ён быў упэўнены, што ў мяне ёсць забароненая літаратура і ён яе знойдзе. А знайшоў ён тое, чаго не чакаў.

— А чаму ты думаеш, што ён іменна шукаў літаратуру, а не Зялёнкавы транты?

— Таму што, перш чым пачаць вобыск, ураднік гаварыў з Халустам адзін на адзін, і пасля тае гаворкі Халуста зрабіўся такі вясёлы, нібы гэты вобыск для яго — найвялікшая прыемнасць. Ён нават паглядзеў на мяне, як гадзюка на жабу, а ў гумне падганяў панятых: «Лепш шукайце, лепш, ліха матары вашай! От у гэтай шчыліне паглядзіце!»

Андрэй і Іван не маглі ўтрымацца ад рогату.

— Ён думаў, гад, што я такі дурань, кніжкі абы-дзе пакладу. Ды ён скарэй іголку ў стозе сена знойдзе, чым мае кнігі.

— Ён і нашы ўсе кнігі на покуце перагледзеў,— сказаў Андрэй.

— Да такіх кніг, як у вас, ён справы не мае. Не такіх кніг ён шукае.

— А сам, мабыць, ніякіх кніг не чытае,— зазначыў Іван.

— Яму часу няма,— адказаў Якаў.— Ён заўсёды «пры іспалненіі служэбных абязаннасцей».

— Як жа ты цяпер будзеш жыць у Халусты? — запытаў Андрэй.

— Служба мая ў яго канчаецца,— адказаў Якаў.— Як толькі Хаім возьме яго на парукі, ён мяне прагоніць. Я гэтага вельмі хачу і чакаю. Але сам не пайду, бо гэты злодзей не заплаціць за работу. А пакідаць яму свой заработак я не думаю. Я ў яго з горла вырву...

— А потым куды, Якаў? — запытаў Іван.

— Свет клінам не сышоўся. У мяне цяпер як у таго зайца: дзе ламок, там і дамок,— адказаў Якаў.

Пакуль яны так гаварылі, прыйшоў Гарасім. Быў ён у гэтай хаце другі раз і адчуваў сябе вельмі няёмка. Яго запрасілі сесці, і ён сеў каля самага мыцельніка. Якаў з цікаўнасцю агледзеў гэтага чалавека, якога дасюль амаль не бачыў.

— Я, ведаеце, вельмі рады, што бог пакараў таго нягодніка. Ён і да мяне прыбягаў зубы лячыць, то акінуў вачыма хату як самы спраўны злодзей, і цяпер ён лепш за мяне ведае, што ёсць у маёй хаце і дзе яно ляжыць.

Так сказаў Гарасім Жукоўскі, аднак з яго прыходам гаворка абвяла. Але адразу пасля Гарасіма прыйшоў Ян, за ім Ладымер са сваёй люлькай, нарэшце Сымон Ашакевіч. Прыходзілі яны ўслед адзін за адным, так, як людзі ідуць на сход. Кожны разлічваў пагаварыць з Андрэем адзін на адзін, асабліва хацелася гэтага Сымону. У іх бы знайшлося пра што пагаварыць. Абодва сёння пасля такой бяды ды трывогі нібы нанова на свет з'явіліся.

Усе слухалі Ладымера, ад яго хацелі пачуць нешта новае пра вобыск у Халусты. Аднак сам Ладымер не

думаў пра сябе вельмі многа. Ён прыйшоў толькі для таго, каб парадавацца разам з Андрэем сваёй перамозе над Халустамі. Таму перш за ўсё ён выбіў са свае люлькі смярдзючы попел, напхаў яе новай порцыяй тытуню і прыпаліў.

— Ну, браткі, і Халуста! — сказаў ён, выпусціўшы першы дым.— Каб вы паглядзелі! Не то што плача, але проста лямантуе, скажам, як кот, калі яму на хвост наступілі. От тут і падумай: зірнеш на яго морду — звер зверам, нават глядзіць не па-чалавечы, а, не раўнуючы, як шалёны бык. Ці падумаў бы хто, што з яго слязу выціснуць!

— А як гэта табе ў галаву прыйшло, Ладымер, урадніка ў дрывотнік завесці? — запытаў Андрэй.

— А чорт яго ведае! Неяк прыйшло. Злосна мне стала, што не знайшлі нічога. Каб у Халусты не было крадзенага! А я ж, братка, рыўся ў гумне да поту ва ўсіх тарпах, скажам, як наняты. І каб нічога не было! Ды быць не можа! Няхай скажа Сымон: мы з ім Халуставы суседзі, ён з аднаго боку, а я з другога. Ці было калі, каб у Халусты ноччу не было чужых людзей?

— Я гэтага не бачыў, Ладымер,— сказаў Сымон.

— Я ведаю, ты не бачыў і Якаў не бачыў. Ты таму, што вечна ў дарозе, а пасля дарогі ад работы свету не бачыш. А Якаў малады, спіць моцна. А от я дык вечна на хаду. Бывала, у поўнач, а то і пазней дамоў ідзеш, дык і прыкмеціш, як з яго хаты людзі выходзяць. Але на вуліцу не ідуць, а ўсё каля гумён. Сам стары злодзей наперадзе, скажам, як гусак, а яны за ім. І сабакі прывучаныя, каб яны падохлі, хоць бы гаўкнуў каторы. Перад тым як Зялёнку абакралі, то ў Халусты ночы тры ўзапар збор быў, раіліся аб нечым. Зялёнка і сам не горшы злодзей за Халусту... Але калі да таго дайшло, што праз іх людзі гібеюць, як Хмялеўскі, ды паміраюць, як гэтая дзяўчына, то тут, браткі, цярпець ужо нельга.

Ладымер зацягнуўся, выпусціў дым, плюнуў пад самы парог і падумаў, што сказаў разумныя і добрыя словы. Але тут яго трохі ахаладзіў Сымон:

— Падзякаваць табе трэба, Ладымер, што навёў ты ўрадніка на Халустаў дрывотнік. А што цярпеў ты дагэтуль, Ладымер, як і ўсе мы цярпелі, то, мабыць, цярпеў бы і надалей, каб цябе панятым не ўзялі. А тут

так выйшла: ты ўзлаваўся і па-гаспадарску завёў ўрадніка ў Халустаў дрывотнік.

— Што праўда, то праўда. Але калі ўжо я пачаў, то дрывотніка не мінуў!

Якаў непрыметна ўсміхнуўся. Гарасім яшчэ бліжэй падсунуўся да мужчын.

— Дык, кажаце, пане Некрашэвіч, ён плакаў. Значыць, у яго душа яшчэ ёсць...

— Дурны ты, Гарасім,— рашуча сказаў Ладымер.— У яго такая душа, як дым з мае люлькі. Толькі смярдзіць.

Усе засмяяліся.

— Халуста, пане Жукоўскі, праліваў кракадзілавыя слёзы, калі вы гэта разумееце,— сказаў Якаў.

— Разумею! Я чуў такую пагаворку. Жарэ сваю ахвяру, а сам плача... Добра вы кажаце...

— Цяпер Нарбутовічыха... У вочы кажа маёй жонцы: «Падсунулі Халусту Зялёнкаву вопратку. Падсунулі».— «Хто гэта падсунуў?» — пытае мая жонка.— «Вядома, хто. Ўга! Усе людзі ведаюць! У каго ж першага вобыск рабілі? Не ў Халусты ж!»

У Андрэя са злосці перасмыкнуўся твар. «Ну, разлічуся я калі-небудзь з табою, Лявон...»

— Каго ты слухаеш? — закрычаў Ладымер.— Паталашку гэтую! Ты паслухай, што людзі гавораць, а не тое, што Паталашка брэша! Засцянкоўцы рады, што злодзея гэтага за шкірку ўзялі. Вунь Мартыневіч — пабух абухом, і той казаў мне, як ішлі мы дадому: «Папаўся гад Халуста. Бог яго пакараў, шэльму. Ён жа з мяне за малатарню столькі пацягнуў!.. Каб ён задушыўся маёй пашнёй. Да гэтай пары я і сам бы абмалаціўся». І пачаў маліцца богу.

Мужчыны засмяяліся, акрамя Гарасіма.

Раптам адчыніліся дзверы, і на парозе з'явілася высокая постаць. Гаворачы, ніхто не чуў, як чалавек увайшоў у сенцы.

— Добры вечар, людзі! — сказаў ён.— Гэта я! Аўрам Выпустак!

— Хіба мы вас не пазналі, Аўрам? — прамовіў Андрэй.— Чаго вы там стаіце?

— Я доўга стаяць не буду. Як жыве старая Юстыніха?

— Дзякуй богу, Аўрам. Яшчэ трохі кратаюся,— азвалася з запечка старая Аксеня.

— Дзякуй богу, дзякуй богу!.. Я сёння позна, Андрэй. Дарога псуецца, дарогі няма. Пакуль прыпхаўся...

— Іван, запалі ліхтар. Воз у гумно, а каня пад паветку. Сена вазьмі каню.

— О! У мяне свой пошар ёсць.

Мужчыны падумвалі ўжо разыходзіцца, але калі прыехаў Аўрам, то, значыць, яшчэ не позна. Чаму не пачакаць, калі ён прыйдзе з гумна, можа нешта новае раскажа.

Скора прыйшлі з гумна Іван і Аўрам. Аўрам прынёс дзве ладныя торбы, паклаў іх на шафку ў мыцельніку і зняў свой шырокі і доўгі балахон. Высокі, чорнабароды, шыракаплечы, з вялізнымі шурпатымі рукамі, Аўрам быў больш падобны на старажытнага каваля, чым на гандляра цялятамі і авечкамі, скурамі і аўчынамі.

— У цябе сёння, Андрэй, поўная хата людзей,— вітаўся ён з кожным за руку.

— Сабраліся суседзі на вячоркі,— адказаў Андрэй.

— А чаму і не, чаму і не сабрацца! Вечары яшчэ доўгія.

— У нас тут такога нарабілася, Аўрам! — сказаў Ян.

— Хіба я не ведаю, пане Сташэвіч, чаго ў вас нарабілася! Пра гэта ведае ўвесь свет. Я быў у Чыжэвічах, у маёнтку і ў сяле, то там ужо кожны сабака ведае, чаго нарабілася ў Малінаўцы.

— Як скора! — здзівіўся Андрэй.

— Сарока калу, а кол усяму сялу,— зазначыў Ян.

— А што там пра Малінаўку ведаюць? — запытаў Сымон.— Бо знаю я такія навіны, асабліва калі іх перадаюць бабы. А тут, мабыць, без Нарбутовічыхі не абышлося.

— У Чыжэвічах ведаюць, што Яўхіма Халусту арыштаваў ураднік. Як злодзея! І людзі рады.

— А што вобыск у мяне ды Андрэя рабілі, пра гэта ў Чыжэвічах ведаюць? — зноў запытаў Сымон.

Аўрам зірнуў на Андрэя, потым на Сымона і доўга не мог вымавіць слова.

— У вас рабілі вобыск? — нарэшце запытаў ён.

— Рабілі.

— І ў цябе, Андрэй?

— І ў мяне, Аўрам.

— Не, я пра гэта не чуў. Пра гэта людзі не гавораць. Маўчаць. А калі людзі маўчаць, то трэба лічыць, што гэтага не было.

І Аўрам засмяяўся.

— Ратуйце мяне, добрыя людзі! Вобыск у Сташэвіча і Ашакевіча! Яны зладзеі! Чулі вы гэта? Не, я не чуў! Яны зрабілі вобыск у Сташэвіча і Ашакевіча. А чаму яны не зрабілі вобыск у Хаіма Ножыка? Чаму яны не зрабілі? І чаму яны не забралі Хаіма Ножыка разам з Яўхімам Халустам? Бо хіба яны не ў парцы ходзяць — Ножык і Халуста,— як коні ў плузе, хоць адзін чорны, а другі гняды? Бо хоць чорны, хоць гняды, але абодва кані, і хоць Яўхім, хоць Хаім, але абодва зладзеі. Ці не праўду я кажу?

Мужчыны кіўнулі, а Ладымер сказаў:

— Што праўда, то праўда, Аўрам, ты разумны чалавек.

— Чаму я не начую ў Хаіма Ножыка, калі мяне вечар застане ў дарозе? Такі ж мы з ім адной веры. Чаму я ў яго не начую? Чаму я мінуў яго двор у Чыжэвічах і паехаў да Андрэя Сташэвіча па такой няўдалай дарозе? Можа таму, што Хаім мацае, што ляжыць у маім возе? Не, не таму, хоць я ведаю, што ён памацаў бы. Я да яго таму не заязджаю, што ён злодзей. Ён жыдоўскі хам! І калі я да яго заеду, то людзі будуць глядзець на мяне коса. Яны падумаюць, што і я злодзей, калі ў злодзея начую. А хіба не так? Хіба сумленны чалавек да злодзея заедзе, будзе з ім сябраваць?

Тут Аўрам падхапіўся з месца і пабег да сваіх торбаў.

— Юстыніха! Я загаварыўся і забыў. Галава на плячах! Ідзіце сюды, Юстыніха. Я прывёз вам селядцоў і тараноў. У вас жа цяпер пост, хіба я не ведаю! От у гэтай торбе селядцы, а ў гэтай тараны.

Старая Аксеня ўзрадавалася, падышла да Аўрама, каб забраць і апаражніць яго торбы.

— Дзякуй жа вам, Аўрам. А я ўжо хацела Андрэя ў Старочын дасылаць, ды ўсё от так часу няма. А сёння такая бяда ўвалілася ў хату...

— Увалілася і вывалілася, няма чаго бедаваць.

— А грошы няхай Андрэй плаціць.

— Якія грошы, які Андрэй! — закрычаў Аўрам.— А я ў вас не начую, не вячэраю і не снедаю? І мой конь стаіць галодны? Не, Юстыніха, мы са старым Юсты-

нем, няхай яму дасць бог царства нябеснае, так не гаварылі.

— Я дурная старая баба, Аўрам, нічога не ведаю.

— Што старая, то гэта так, а што дурная, то гэта не...

Ладымер намацаў у кішэні свой стары кашалёк і сказаў Аўраму:

— Можа ты, пане Аўрам, маеш на продаж тараны і селядцы?

— Не, пане Некрашэвіч, не маю. Я гэтым не таргую. Гэта не мой гандаль. Мой гандаль цяляты-выпусткі, авечкі, аўчыны, скуры, рознае паскудства. А тараны і селядцы прадае Мармур Бэня.

Якаў з цікаўнасцю глядзеў на гэтага волата, шчырага і простага, па-свойму разумнага, і думаў, што каб жыццё было не такое, якое яно ёсць, ці купляў бы ён цялят-выпусткаў?

Аўрам тым часам паклаў адну торбачку ў другую, павесіў яе на цвік і сказаў:

— Я зусім дурны, мужчыны. Я пра ўсё забыў. Вы мне расказалі пра Малінаўку, а я вам не расказаў пра маёнтак.

Якаў адразу насцярожыўся.

— А што такое ў маёнтку? — запытаў ён.

— У маёнтку? У маёнтку бяда. Стаў бровар і стаў млын. Аконам крануў нейкую маладую жанчыну, і яна радзіла без пары.

Якаў устаў.

— Я пайду, Андрэй,— сказаў ён.

Андрэй правёў яго да брамы.

— У маёнтак?

— У маёнтак, Андрэй.

## У ГУШЧЫНІ НАРОДНАГА ЖЫЦЦЯ

Аркадзь Чарнышэвіч — мастак непаўторнага бачання свету. Яркая прыкмета яго творчага аблічча — аналітызм, рэалістычнае светаадчуванне. У даследаванні чалавечых характараў пісьменнік заўсёды ішоў ад канкрэтнага факта да шырокіх абагульненняў, што патрабавала ўвагі да кожнай драбніцы чалавечага жыцця. Праз малюнкі побыту, характары дзеючых асоб, вострыя сацыяльныя канфлікты ён імкнуўся выявіць грамадскія тэндэнцыі часу, адлюстраваць гістарычна важныя зрухі ў жыцці свайго народа. Гэта асабліва адчуваецца ў лепшым творы Аркадзя Чарнышэвіча — рамане-хроніцы «Засценак Малінаўка», да якога празаік ішоў доўгай і складанай дарогай пошукаў.

Жыццё не шкадавала Аркадзя Чарнышэвіча: багата выпала на яго долю цяжкіх выпрабаванняў. Яшчэ ў юнацкія гады — хвароба на сухоты, пазней — адарванасць аж на дваццаць гадоў ад роднай Беларусі, ад блізкага творчага асяроддзя. Але ўсё гэта не зламала жыццястойкі характар, не заглушыла жаданне пісаць.

У 1940 годзе ў часопісе «Полымя рэвалюцыі» Аркадзь Чарнышэвіч надрукаваў цыкл дзіцячых апавяданняў «Лета». З гэтай публікацыі па сутнасці пачынаецца літаратурная біяграфія пісьменніка.

Аднак самабытны талент яго як аўтара эпічных твораў на поўную сілу раскрыўся толькі ў пасляваенныя гады. Шмат увагі ў гэты час аддаваў празаік жанру апавядання. У сваіх апавяданнях ён востра ставіць надзённыя маральна-этычныя пытанні, псіхалагічна тонка даследуе жыццё чалавека, раскрывае багацце і разнастайнасць яго эмацыянальнага свету.

Аркадзь Чарнышэвіч — пісьменнік канкрэтнага мыслення, які

вельмі ўпэўнена адчувае сябе ў сферы побыту чалавека. Праз бытавыя апісанні ён паглыбляецца ў свет маральна-этычных, сацыяльна-палітычных і філасофскіх праблем. Лепшыя апавяданні са зборніка Аркадзя Чарнышэвіча «Праз зімы і вёсны» (1960) сведчылі аб паглыбленні яго таленту і аб агульных дасягненнях беларускай прозы таго часу.

Разам з тым пісьменнік працаваў у жанры рамана. Свой першы раман «Світанне» ён пісаў амаль чатырнаццаць гадоў (1943—1957). У гэтым творы празаік звяртаецца да складанага перыяду ў гісторыі нашай Радзімы — пачатку 20-х гадоў, паказвае вострую класавую барацьбу на Палессі.

У рамане праўдзіва перададзены гістарычны каларыт эпохі, побыт і псіхалогія палескага бедняка (тут вельмі спатрэбіліся пісьменніку асабістыя ўражанні, убачанае і перажытае ім у дзіцячыя і юнацкія гады). Выявіўся ў творы і ўласцівы Аркадзю Чарнышэвічу гумар (дарэчы, заўважаны яшчэ ў першых апавяданнях з цыкла «Лета»).

Гісторыка-рэвалюцыйнай тэме прысвечаны і галоўны твор Аркадзя Чарнышэвіча — раман «Засценак Малінаўка», у якім адлюстраваны падзеі больш далёкага мінулага — 1903—1904 гадоў, пярэдадня першай рускай рэвалюцыі.

Здавалася б, што можна сказаць новага пра даўно адкрытую беларускімі пісьменнікамі тэму, пра час, паказаны ў рамане «Сокі цаліны» Цішкі Гартнага, у трылогіі «На ростанях» Якуба Коласа, у іншых творах.

А між тым раман Чарнышэвіча атрымаўся цікавы і змястоўны. Напісаны рукой таленавітага майстра, ён знаёміць нас з тым важным перыядам у жыцці беларускага сялянства, калі ў свядомасці яго пачынала ўмацоўвацца ўпэўненасць у неабходнасці актыўнай барацьбы за сваю долю, за рэвалюцыйнае пераўтварэнне свету.

У гэтым творы, як і ў рамане «Світанне», аўтар паказваў сябе добрым знаўцам вясковага побыту, сялянскай псіхалогіі, жывой беларускай мовы. Больш таго, у ім ён паўстае глыбокім даследчыкам жыцця, мастаком-грамадзянінам, філосафам. Раман «Засценак Малінаўка» з поўным правам можна аднесці да лепшых твораў сучаснай беларускай аналітычнай эпічнай прозы. І хоць аўтар не імкнуўся да шырокага ахопу падзей, да маштабнасці, але лёс невялікага засценка Малінаўка і маёнтка Чыжэвічы, што знаходзіліся на граніцы Случчыны з Палессем, успрымаецца як тыповы для ўсёй тагачаснай Беларусі.

Пісьменнік паказвае, у якой беднасці і забітасці жылі людзі ў гэтым даволі глухім кутку: «Падзеі, якія адбываліся ў краіне, абыходзілі Малінаўку бокам. У тое лета 1903 года малінаўцы

не ведалі ні пра рэвалюцыю, якая нарастала ў краіне, ні пра вайну, якую рыхтаваў царскі ўрад на Далёкім Усходзе. Інтарэсы малінаўцаў не выходзілі за межы засценка. Хапала ім і сваіх дробных клопатаў, свае асабістае бяды. Кожная вестка з вялікага свету, якая нейкім чынам трапляла ў вушы малінаўскай шляхце, успрымалася ёю як хлусня. Яны нават не ўяўлялі, што недзе ёсць іншае жыццё».

Аўтар усім зместам свайго твора сцвярджае, што так не магло працягвацца бясконца, што вялікія грамадскія зрухі павінны былі дайсці і да такіх глухіх куткоў, як беларуская вёска Малінаўка, павінны былі прымусіць селяніна задумацца над сваім лёсам. У спакойнай і простай манеры апавядання, у якой расказваецца аб штодзённым жыцці людзей, адчуваецца ўсхваляваны пісьменніцкі клопат пра чалавека, імкненне зрабіць яго лепшым, душэўна больш шчодрым і чулым да чужой радасці і чужога гора. За ўсхваляванай аўтарскай думкай пра людзей бачацца ўнаследаваныя празаікам традыцыі класікаў беларускай літаратуры Якуба Коласа і Кузьмы Чорнага.

У рамане ярка паказана, як героі пачынаюць пазбаўляцца патрыярхальнай пасіўнасці, пачынаюць цікавіцца палітычнымі падзеямі, паступова становяцца на шлях змагання за сваю будучыню. Пісьменніку нідзе не здраджвае пачуццё меры, ён не перабольшвае ні станоўчых якасцей герояў, ні іх чалавечых слабасцей. Кожнаму персанажу аўтар імкнецца знайсці дакладную псіхалагічную характарыстыку.

Асабліва ўважліва прасочваецца рост рэвалюцыйнай свядомасці на вобразе Андрэя Сташэвіча, характар якога найбольш складаны, супярэчлівы. Герой паўстае перад намі ў няспынным духоўным, ідэйным росце, у самаразвіцці. Пісьменнік па-майстэрску даследуе характар Андрэя, паказвае, як гэты смелы і настойлівы чалавек пераадольвае жыццёвыя перашкоды, якія стаялі на яго шляху ў рэвалюцыю, пераадольвае ўласную шляхецкую ганарлівасць, што перадалася ў спадчыну ад бацькоў. З вобразам шляхціца, які ўключаецца ў рэвалюцыйную барацьбу, мы ўпершыню сустракаемся ў беларускай літаратуры. Шкада толькі, што вобраз гэты да канца не разгорнуты, бо раман сам застаўся незавершаны з прычыны заўчаснай смерці аўтара, які, як вядома, меркаваў напісаць трэцюю частку хронікі.

Рост рэвалюцыйнай свядомасці народа прасочваецца і на вобразах Сымона Ашакевіча, Піліпа Шэмета, Івана Аўсяніка, Станіслава Вярбіцкага, Марціна Крываблоцкага, Платона Шабуні, Міхаля Рожкі, Паўла Квітуна. Гэтыя героі паступова пачынаюць усведамляць, што тагачасны грамадскі лад не дае магчымасці простаму чалавеку жыць па-людску, што ён падтрымлівае толькі

эксплуататараў, такіх крывасмокаў, як маліпаўскі кулак Яўхім Халуста, млынар Хаім Ножык, гандляр гарэлкай Казімір Арлоўскі, упраўляючы панскім маёнткам немец Гендарсан.

Пісьменнік дае магчымасць чытачу ўбачыць, як беларускі селянін пад уплывам рэвалюцыйнага руху, пад уздзеяннем прапаганды бальшавікоў пачынаў усведамляць, якімі шляхамі патрэбна змагацца за лепшае жыццё.

Носьбітамі перадавых рэвалюцыйных ідэй у рамане з'яўляюцца Якаў Шэмет і Станіслаў Вярбіцкі. Цесна звязаныя з сацыял-дэмакратычным падполлем, яны вялі прапагандысцкую работу, распаўсюджвалі забароненую літаратуру, арганізавалі першую ў вёсцы забастоўку парабкаў і сялян. Якаў Шэмет па даручэнню партыі вядзе рэвалюцыйную агітацыю сярод сялян і парабкаў. Гэты вобраз, дарэчы, атрымаўся найбольш жыццёва перакананаўчы, сапраўды паўнакроўны.

Пра мінулае героя мы даведваемся ад яго самога. Працуючы ў горадзе ў дэпо, ён удзельнічаў у рабочых забастоўках, бачыў, якая вялікая сіла — пралетарская салідарнасць. Якаў Шэмет першы прыносіць у Малінаўку новыя ідэі і настроі. Спачатку яму здавалася, што немагчыма сярод малінаўцаў знайсці сяброў, такімі яны выглядалі пасіўнымі і абыякавымі. Але паступова погляды Якава змяняюцца. Яму ўдаецца ўцягнуць у кола сваёй дзейнасці Андрэя Сташэвіча, далёка не беднага гаспадара, чалавека з шляхецкім гонарам, няўрымслівым характарам. І ў хуткім часе ў яго рэвалюцыйнай рабоце ўжо дапамагаў не толькі Станіслаў Вярбіцкі, а і Павел Квітун, Платон Шабуня, Іван Аўсянік — удзельнікі сацыял-дэмакратычнага гуртка ў маёнтку Чыжэвічы.

Увогуле вобраз Якава Шэмета арыгінальны, шмат у чым новы для беларускай літаратуры.

Раман-хроніка «Засценак Малінаўка» Аркадзя Чарнышэвіча заняў пачэснае месца сярод лепшых твораў беларускай прозы. Яму, як і кожнаму значнаму твору, наканавана доўгае літаратурнае жыццё.

*Аліса Шыловіч*

## ЗМЕСТ

**Чарнышэвіч А.**

Ч-21 Засценак Малінаўка: Раман-хроніка. У 2-х ч./[Аўт. пасляcл. А. Шыловіч].— Мн.: Маст. літ., 1982.— 543 с., 4 л. іл.— (Беларус. раман).

У пер.: 2 р. 10 к.

Падзеі, якія разгортваюцца ў першай кнізе рамана, пачынаюцца ў 1903 годзе, перад руска-японскай вайной. Аўтар малюе жыццё беларускага сялянства, панскіх парабкаў і такіх міраедаў і хціўцаў, як Яўхім Халуста, Хаім Ножык, чужаземец-рабаўнік Гендарсан. Падзеі адбываюцца то ў засценку Малінаўка, то ў маёнтку Чыжэвічы, дзе арганізуецца група сацыял-дэмакратаў, у склад якой уваходзяць Якаў Шэмет, Станіслаў Вярбіцкі, Павел Квітун. Пад іх кіраўніцтвам парабкі і падзёншчыкі праводзяць у маёнтку забастоўку.

У другой кнізе рамана расказваецца пра далейшы лёс герояў, пра абвастрэнне класавай барацьбы ў беларускай вёсцы ў 1903—1904 гадах.

Ч $\frac{4702120200—104}{М\ 302(05)—82}$ 139—82

ББК 84 Бел7
Бел2

*Белорусский роман*

Аркадий Дмитриевич Чернышевич

ЗАСТЕНОК МАЛИНОВКА

Роман-хроника
в двух частях

Минск, издательство «Мастацкая літаратура»
На белорусском языке

Рэдактар А. А. Сляпцова. Мастацкі рэдактар Л. Я. Прагін. Тэхнічны рэдактар Г. П. Тарасевіч. Карэктар Т. М. Собалева.

ІБ № 1399

Здадзена ў набор 11.10.81. Падп. да друку 16.06.82. АТ 05143. Фармат 84×108¹/₃₂. Папера друк. № 2. Гарнітура школьная. Высокі друк. Ум. друк. арк. 28,56+0,42 укл. Ум. фарб.-адб. 28,98. Ул.-выд. арк. 30,05. Тыраж 30 000 экз. Зак. 2045. Цана 2 р. 10 к.

Выдавецтва «Мастацкая літаратура» Дзяржаўнага камітэта БССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю. 220600, Мінск, праспект Машэрава, 11.

Мінскае вытворчае паліграфічнае аб'яднанне імя Я. Коласа. 220005, Мінск, Чырвоная, 23.

